Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
Установа адукацыі “Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя П.М. Машэрава”
Кафедра беларускага мовазнаўства

# РЭГІЯНАЛЬНЫ СЛОЎНІК ВІЦЕБШЧЫНЫ

У 2 частках

## ЧАСТКА 2

Пад рэдакцыяй *А.С. Дзядовай*

*Віцебск*
*ВДУ імя П.М. Машэрава*
*2014*

УДК 811.161.3'374
ББК 81.411.3-4+81.411.3-5я2
Р96

Друкуецца па рашэнні навукова-метадычнага савета ўстановы адукацыі "Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава". Пратакол № 5 ад 21.04.2014 г.

Складальнікі: дац. Г.К. Семянькова (М); дац. Т.А. Грачыха (Н, О); дац. А.С. Дзядова, ст. выкл. Н.П. Даўбешка, выкл. А.А. Калеснікава (П); дац. В.Э. Зіманскі (Р); дац. Я.Н. Марозава, дац. А.С. Дзядова (С); дац. Г.А. Арцямёнак (Т, У, Ф); ст. выкл. С.В. Мартынкевіч (Х, Ц, Ч); дац. Ю.М. Бабіч (Ш, Ю, Я)

Рэцэнзент:
дацэнт кафедры рускай мовы як замежнай ВДУ імя П.М. Машэрава, кандыдат філалагічных навук *Н.Я. Мініна*

Пад рэдакцыяй *А.С. Дзядовай*

**Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны** : у 2 ч. / склад. :
**Р96** Г.К. Семянькова, Т.А. Грачыха, А.С. Дзядова [і інш.] ; пад рэд. А.С. Дзядовай. – Віцебск : ВДУ імя П.М. Машэрава, 2014. – Ч. 2. – 358 с.

У "Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны" ўвайшла дыялектная лексіка з жывых народных гаворак Падзвіння, якія адносяцца да паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы. Слоўнік будзе садзейнічаць далейшаму асвятленню праблем беларускай дыялекталогіі і можа быць скарыстаны лінгвістамі, студэнтамі, настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ў навукова-даследчай працы.

**УДК 811.161.3'374**
**ББК 81.411.3-4+81.411.3-5я2**

## АД РЭДАКТАРА

Ва ўмовах білінгвізму, які характарызуе сучасную моўную сітуацыю ў Беларусі, асабліва важнае значэнне набывае збор і даследаванне народна-дыялектнай лексікі як аднаго з феноменаў нацыянальнай беларускай мовы. У айчынным мовазнаўстве да апошняга часу недастаткова вывучанымі з'яўляліся гаворкі Віцебшчыны. Нягледзячы на тое, што лексіка паўночна-ўсходняга тэрытарыяльнага дыялекту Беларусі знайшла частковае адлюстраванне ў шэрагу лексікаграфічных прац XX – пачатку XXI ст., праблема стварэння дыялектнага слоўніка Віцебшчыны заставалася па-ранейшаму актуальнай.

Кафедра беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава прыклала значныя намаганні для стварэння такога выдання ў дзвюх частках. Першая частка "Рэгіянальнага слоўніка Віцебшчыны" была выдадзена ў 2012 г. Другая частка слоўніка з'яўляецца працягам першай і ўключае лексічны матэрыял на літары М – Я.

Матэрыялы 2-й часткі слоўніка апрацаваны і падрыхтаваны да друку выкладчыкамі кафедры: **М** – дац. Г.К. Семянькова; **Н, О** – дац. Т.А. Грачыха; **П** – дац. А.С. Дзядова, ст. выкл. Н.П. Даўбешка, выкл. А.А. Калеснікава; **Р** – дац. В.Э. Зіманскі; **С** – дац. Я.Н. Марозава, дац. А.С. Дзядова; **Т, У, Ф** – дац. Г.А. Арцямёнак; **Х, Ц, Ч** – ст. выкл. С.В. Мартынкевіч; **Ш, Ю, Я** – дац. Ю.М. Бабіч. Рэдактар другой часткі слоўніка – дац. А.С. Дзядова.

Пры ўкладанні другой часткі "Рэгіянальнага слоўніка Віцебшчыны" быў пашыраны склад абследаваных населеных пунктаў. Складальнікі кіраваліся тымі ж самымі прынцыпамі адбору слоў і іх лексікаграфічнага апісання, што і ў першай частцы. Асаблівасці структуры слоўніка і размяшчэння ў ім лексічнага матэрыялу, прынятыя скарачэнні назваў раёнаў Віцебскай вобласці пададзены ў прадмове да слоўніка, змешчанай у першай частцы.

Многія словы і ўстойлівыя выразы, якія ўключаны ў рэестр слоўніка, уяўляюць сабой цікавы і арыгінальны моўны матэрыял, што сведчыць пра самабытнасць жывой народнай мовы Віцебшчыны і характарызуе яе як спецыфічную этнакультурную з'яву.

"Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны" падрыхтаваны ў рэчышчы навукова-даследчай тэмы кафедры беларускага мовазнаўства ВДУ імя П.М. Машэрава "Агульнанацыянальныя і рэгіянальныя моўныя працэсы ў камунікатыўнай прасторы Рэспублікі Беларусь: гісторыя і сучаснасць", уключанай у Дзяржаўную праграму навуковых даследаванняў на 2011–2015 гг.

***А.С. Дзядова***

# СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

***Аршанскі раён***
Абухава, Азярок, Андрэеўшчына, Антонаўка, Анціпенкі, Арэхаўка, Арэхаўск
Бабінічы, Балотавічы, Барадуліна, Барздоўка, Барсукі, Будзішча
Верацея, Вусце, Вязьмічы
Гарбацэвічы, Гацькаўшчына, Глінішча, Гразіна
Дубніцы
Забалацце, Задроўе, Зайцава, Заполле, Зарэчча, Заслонаўка, Звёздная, Зоськава, Зубава
Казловічы, Казечкі, Кашына
Лагі, Ларынаўка, Лісуны
Малотынь, Межава, Міцькаўшчына
Пагост, Панізоўе, Пашына, Пішчалава
Рагозіна, Рэпухава
Светачоўка, Свісцёлкі, Селішча, Сідараўка, Смаляны, Стайкі, Стар, Суднікі
Тумінічы, Турлаі
Халмы, Харкаўка, Хлусава
Чурылава
Шыбекі
Якаўлевічы

***Бешанковіцкі раён***
Абухава, Астроўна
Бачэйкава, Буднікі, Быцава
Вула, Вядзерава, Вярхоўе
Галі, Ганкавічы, Гарбачы
Драбушова, Дразды, Дубішча, Дуброва
Жалезкі, Жаркі, Жаўры, Жданова, Жыгалы
Забаре, Замашэнне, Заполле, Застарынне, Зорнікі
Камоскі, Кошчава, Курылаўшчына, Крывое Сяло
Лабачова, Латыгава, Луг
Макаравічы, Малыя Галыні, Малы Двор
Навумаўка, Новае Сяло
Паліцы, Паўазер'е, Плісы, Промыслы, Пяцігорск
Ржаўка, Рубеж, Руда
Свяча, Сініцы, Сокарава, Стрыжава
Ула, Ульянаўка
Фролкавічы
Хоціна
Целяпні
Чаўнышкі, Чырвоныя Буднікі
Яцукі

***Браслаўскі раён***
Абаляны, Азяраўцы, Аколіца Рудава, Антонаўцы, Ахрэмаўцы
Бабышкі, Багданова, Барсукі, Баруны, Белабокі, Богіна
Варнелі, Вяжы
Гірэйшы, Глыбоўшчына, Голубаўшчына

Далёкія, Дамашы, Дзегцяры, Дукелі, Дрысвяты, Друйск, Друя, Дуброўка
Едлавічы
Завер'е, Замошша, Злота
Іказнь
Казяны, Каленкішкі, Карасіна, Карпішкі, Купчэлі
Лапяны, Ляды
Малькі, Марцінаўцы, Мар'янполле, Мілашкі, Мілашы, Мількі, Мурмішкі
Опліса, Опса
Пагошча, Падрукша, Панцялейкі, Плюсы
Рудабісць, Рубеж
Самуйлы, Слабодка, Спрынды, Струста
Турчылава
Укля, Урбаны, Усяны
Цяцеркі
Чэрнева

### *Верхнядзвінскі раён*
Абрамава, Абухава, Азернікі, Антонава, Асвея
Бароўка, Барсукі, Боркавічы, Бігосава, Бялькоўшчына
Валынцы, Весніно, Вялікае Сяло
Галубава
Дзёрнавічы, Дубровы, Дубы
Жоўніна
Задзежжа, Залучча, Заточча
Іскра
Каханавічы, Клімаўшчына, Крывасельцы
Лісна, Луначарскае
Марцінава, Моханава, Мыкава, Мядзведзева
Новы Двор, Нурава
Поціна
Сардыкі, Сар'я, Свольна, Сенькава, Стралкі
Цясты
Чурылава, Чыстаполле
Яніна

### *Віцебскі раён*
Андронавічы, Астрэйкава
Баршчоўка, Бялынавічы
Валькі, Ваяводкі, Вымна, Вялікія Лётцы
Глазамічы, Грабяніца, Грышаны, Гунчанкі
Дзяйкі, Доўжа, Дразды, Дыманова
Жыгалава
Задзетуні, Задроўе, Задуброўе, Зазыбы, Замасточча, Заполле, Заронава, Зубакі
Калінава, Камары, Каменка, Касачы, Кашалёва, Княжыцы, Князі, Котава, Кузняцова, Кузьмянцы, Кулакова, Курына
Лугавыя, Лужасна, Лужкі, Лямніца
Мазалава, Малыя Лётцы, Міхалкова, Мішуткі
Навасёлкі, Навікі, Нізкабор'е, Ноўка
Партызанаўка, Паўдзеткі, Пестуніца, Прысушына, Пудаць, Пунішча
Руба

Сакольнікі, Салавічы, Сапраны, Свярдлова, Слабада, Скрыдлева, Стайкі, Старое Сяло, Сураж, Сушчова
Трыгубцы, Трушчы
Хайсы, Храпакі
Цяцеркі
Шалыгі, Шчучына, Шчыпечы
Янавічы

### *Гарадоцкі раён*
Азёркі, Альгова, Андрэева
Баравыя, Бычыха
Вадзянікі, Вархі, Верамееўка, Віраўля, Вярэчча
Гарані
Даўгаполле, Двухполле, Дражакі, Дубрава
Евіна, Езярышча
Жукава
Загуззе, Зазер'е, Зайкава, Залучча, Заходы
Іванаўка
Каверзы, Казінова, Казловічы, Канашы, Кудзіны
Леднікі, Ліцвінава, Лялеўшчына, Ляхаўка
Марозава, Марчанкі, Маскаляняты, Махалава, Мехавое, Мікалаенкі, Мяжа
Новыя Вайханы, Ноўка
Обаль
Палова, Пальмінка, Пралетарск, Прудок, Пурышкі, Пшанічана
Радчонкі, Ракава, Раманава, Рамні, Рудня
Селішча, Скрыпкі, Сяло, Слабодка, Смалоўка, Стадолішча, Старыя Вайханы, Сцяпанавічы
Ткачы
Філімонава
Халамер'е, Хацейка, Хвошна
Целяшова
Яроненкі

### *Глыбоцкі раён*
Абруб, Абруб Беразвецкі, Агурні, Азярцы
Бабічы, Бараны, Барсукі, Бервякі, Бортнікі, Булахі, Бушыкі
Вераб'і, Верхняе, Воўкаўшчына, Вусава
Галубічы, Галубчыкі, Гатаўшчына, Гваздова, Грыцы
Дзеркаўшчына, Доўгае, Дылевічы, Драбаўшчына, Дубаўшчына
Заазер'е, Забор'е, Заваратьі, Загор'е, Залессе, Залеські, Замхава, Запруддзе, Зябкі
Іванаўшчына, Івесь
Кавалі, Камінігчына, Карабы, Квачы, Капыльшчына, Каралевічы, Кашталянаўшчына, Кішы, Косарава, Кульгаі
Лазічы, Ласі, Ластавічы, Ласкаўшчына, Латышы, Леснікі, Ломашы, Лужкі, Лучайка
Мацюкова, Мікуліна, Мнюта, Мосар, Мярэцкія
Надазер'е
Падсвілле, Папшычы, Петрунова, Пліса, Псуя, Празарокі, Прошкава, Прыпернае, Пшанічына
Рудніца

Сазонаўшчына, Сарокі, Сасноўка, Сахнавічы, Свіла, Скражына, Сноркі, Слабада, Соева, Старнікі, Стрынадкі, Стуканы
Удзела, Ураджайная
Філіпава
Хралы
Чарневічы, Чашкі
Шыпы, Шэпелева
Юркава
Ясевічы

***Докшыцкі раён***
Барсукі, Беразіно, Бірулі, Бягомль, Бярозаўка, Бярозкі
Вал(ў)калата, Вараны, Ветахмо, Вітунічы, Вяцера
Глінішча, Грынеўшчына
Доўгае
Заборцы, Зарачыцак
Камайск, Крыпулі, Крулеўшчына, Куты
Ліпаўкі
Макаравічы, Маргавіца
Несцераўшчына, Новае Запонне, Новая Вёска
Пасекі, Параф'янава, Порплішча, Пугачова, Пустаселле
Рашкаўка
Сасновая, Свіркі, Селішча, Сітцы, Слабада, Сценка
Тумілавічы
Хілаўшчына
Чарневічы
Шантары, Швэплі, Шклянцы
Янкі, Янушова

***Дубровенскі раён***
Азёры, Анціпенкі, Асінторф
Баброва, Баева, Барадзіно, Барсукі, Буда
Верамееўшчына, Волева
Гарэлькі, Гудава Зямянскае
Дабрынь, Дварэц
Жабыкі
Зарубы
Іскозы
Карабанавічы, Кляны, Каўровая, Косціна
Ланенка, Ляды, Ляхаўка
Мардахі
Парфенаўка, Пецькі, Пірагі
Рэдзькі
Слабада, Сваташыцы, Сіпішчава, Ступакі, Станіслававова
Чырына
Шухаўцы

***Лепельскі раён***
Баброва, Бабча, Белаазёрны, Бор, Бораўна, Бяседы
Велеўшчына, Вялікі Поўсвіж

Гарадзец, Глінніца, Горкі, Грыгаравічы, Губіна
Дворышча, Домжарыцы
Жарцы
Забаенне, Забалацце, Задоры, Залучына, Замошша, Занькі, Зароўе, Звязда, Зорніца
Камень, Кветча, Крайцы, Куляшы, Курмялёўка
Ляхавічы
Малы Поўсвіж, Малыя Пышнагоры, Матырына
Новыя Валосавічы
Паддуб'е, Пераходцы, Пышна
Слабада, Слабодка, Стаі, Стараселле, Старое Лядна, Стары Лепель, Суша
Чэрцы
Шаркоўка

## *Лёзненскі раён*

Адаменкі, Арцёмава, Асташэва
Бабінавічы
Веляшковічы, Выдрэя, Высачаны, Выхадцы, Вялікае Сяло
Гарэлікі, Глоданкі, Горбава, Гушчына
Дабрамыслі
Завольша, Загарадна, Замшына, Зуі
Кавалі, Калышкі, Кляўцы, Крынкі
Малькава, Макаранкі, Матушова, Мерзлякова, Міхалінава
Нізы
Ордзеж
Палёнаўка, Паловікі, Пагосцішча, Парыхі, Перамонт, Пушкі
Салаўёва, Слабадзішча, Смародзіна, Станіслававова, Стар, Стасева, Сяло
Уна
Чарнаруччa
Якубаўшчына

## *Міёрскі раён*

Авечкі, Акунёва, Арханава, Аўсянка
Балаі, Брыжынкі, Бычыншчына
Вісяты, Воўкаўшчына, Вянужа
Гараўцы, Грэцкія
Даўгінава, Дзянісава, Драгуны, Дрыгучы, Дэмскія
Забор'е, Завуцце, Зачарэўе
Іванькі, Ідоўта
Кавалькі, Казлы, Калінавая, Камянполле, Капыльшчына, Кацілава, Клетаў Двор, Крычава
Ласкаўшчына
Маляўкі, Манякова, Марозы, Марынкі, Мікалаёва, Мілашова, Мнюхі, Мурашкі
Ніўнікі, Новы Пагост, Новыя Крукі
Павяцце, Папкі, Папшулі, Парадні, Паташня, Пацеенкі, Пераброддзе
Рандары, Рунды
Сачыўкі, Сіцькава, Слабада, Снегі, Спігальшчына, Старыя Крукі, Сухавержжа
Туркова, Турчына
Узмёны
Цілеўцы, Цімошкава
Чапукі

Шарагі
Язна, Ясева, Яўцерашкі

### *Пастаўскі раён*
Алашкаўшчына, Аліхверы, Ажуройсці, Андроны, Анкуды
Балаі, Белькі, Белішкі, Буцавічы
Варапаева, Васілеўшчына, Васіліны, Ваўкі, Вялічкі, Вярэнькі, Вярцінскія
Галбея, Гаўрылавічы, Груздава, Грэйцева, Гута
Дамуці, Дварчаны, Дунілавічы
Жакі
Ігнацішкі
Кавалі, Камаі, Казлоўшчына, Казнадзеюшкі, Касцяні, Койры, Коўзаны, Круткі, Куніцкія, Кураполле, Курды
Ласіца, Лашукі, Лукашова, Лучай, Лынтупы, Ляхаўшчына
Магуны, Масленікі, Муляры
Навасёлкі, Нарыца
Палессе, Перавознікі, Прамышляды
Русіны
Савічы, Свілэлі, Свірдуны, Сіўцы, Скрунды, Слабада, Сліжова, Стары Двор
Трашчанішкі, Труханкі, Турлы
Фалевічы
Хацілы
Целякі, Цешылава
Чарты, Чорнае
Шабаны, Шурпікі
Юнькі
Янкішкі, Ясева, Ясюкі

### *Полацкі раён*
Арлея, Астроўшчына
Багатырская, Бадзінава, Базылёўка, Балдышы, Баравуха, Баяноўшчына, Белае, Бікульнічы, Булаўкі
Вераб'і, Ветрына
Гаравыя, Гараны, Гарнаполле, Гваздова, Глінішча, Гомель (і Гомля), Грамошча
Домнікі, Дубоўка, Дубраўкі
Жарцы
Заазер'е, Заенкі, Залессе, Захарнічы, Зюзіна, Зялёнка
Казімірова, Ксты, Кутняны, Кушлікі
Лукаўцы, Лучна
Палата, Пазнякова, Пашкі, Пусташы
Рудня
Свяціца, Слабада, Струнне, Сувалкава, Сухі Бор, Сушына, Сякераўшчына
Труды
Фарынава
Чарнія
Шпакоўшчына

### *Расонскі раён*
Антонава
Верамеева, Верацёнкі, Вялікае Балота

Гарбачэва, Горы, Грышына
Даўгабор'е, Дворышча, Доўгі Бор
Жары
Забор'е
Кавалі, Канашонкі, Клясціцы, Краснаполле
Латышы
Марачкова, Мурагі
Паўлава
Слабада, Сяляўшчына, Сяргеева
Харытонава
Шалашнікі
Юхавічы
Якубова, Янкавічы

### *Сенненскі раён*

Аляксандрава, Алексінічы, Андрэйчыкі, Апечкі, Асінаўка, Арляны, Аўсеева
Багданава, Багушэўск, Баравікі, Белая Ліпа, Беліца, Бугаі, Будзішча
Варашылы, Выгада, Вялікае Сяло, Вялікая Пярэспа, Вялікі Азярэцк
Града, Гуліна
Дольдзева, Дубнякі
Заазер'е, Забор'е, Замошша, Заполле, Запруддзе, Засценак
Івоні
Кажамякі, Какоўчына, Канева, Капланы, Каралі, Колпіна, Кругляны, Крупяжына
Лазоўка, Латыгаль, Ледневічы, Літусава
Малішы, Манголія, Маргойцы, Марозаўка, Масоры, Машканы, Машчоны
Навязкі, Новае Сяло, Нямойта, Нярэйша
Обаль
Падворыца, Папіна, Папоўка, Пасад, Пастушкі, Перакопава, Песачанка, Полымя, Пожанькі, Прыветак, Пустынкі
Рабцы, Рай, Ракаў Засценак, Расходна, Рошчына, Рудніца, Рулёўшчына, Рыбнае
Савенічы, Сапегі, Свабодная, Скоґ, Смалоўка, Станюкі, Студзёнка
Тур'ева
Уздорнікі, Ульянавічы
Ходараўка, Ходцы
Шацяні, Шылы, Шыркі

### *Талачынскі раён*

Абольцы, Алёнавічы, Анэліна
Будаўка
Валосава, Варанцэвічы, Воўкавічы, Вялікае Гальцава
Галынка, Гаршчэўшчына, Гастынічы, Грачыхі
Дабравольск, Данілкава, Дроздава, Друцк
Еўлахі
Жакі
Заазер'е, Замошша, Заполле, Зарэчча
Каменка, Кісялева, Крывое, Крывыя
Лазы, Ламіншчына, Лаўрэнавічы, Лаўрэнаўка
Мурагова, Мяшкова
Нізкі Гарадзец, Новае Саколіна, Новае Сяло, Новая Яблынька
Падбярэззе, Пятрашы, Прусінічы
Равяцічы, Рамашкава, Рыдамля

Сакалянка, Серкавіцы, Славені, Старая Будаўка
Чачанева
Шупені
Яблынка, Янава

### *Ушацкі раён*

Альшаны, Антунова, Апанаскавічы, Арэхаўна
Баяршчына, Бугаі
Ваўчо, Воцькавічы, Вялікія Дольцы
Гута
Двор-Пліна
Жакі, Жаўніна, Жывалака
Заазер'е, Забалоцце, Завыдрына, Завячэлле, Замошша, Зерчаніцы
Карачына, Касары, Кублічы, Кугоні, Кулінава
Ляснеўшчына, Лутава Сяльцо
Матырына
Наваселле
Павулле, Пралетарыя, Пранікі
Рацькава, Рог, Рыбакі
Сарочына, Селішча, Слабада, Старое Сяло, Старынка, Судзілавічы
Угрынкі
Царкавішча
Шасцярні

### *Чашніцкі раён*

Акцябрскі, Антаполле, Асташова
Бараўцы, Баяры, Бельнякі, Бор, Будзілава
Вал, Віркі, Вішанькі, Вішкавічы, Вяжоўка, Вялікая Альшанка, Вялікая Вядрэнь, Вялікія Смалянцы, Вяцера
Гілі, Горы, Грушава, Грынькі
Данілаўка, Дварэц, Дзярэўня, Дубінцы, Дуброўкі
Жукі
Загацце, Заессе, Зазерыца, Закур'е, Замачак, Запружаны
Іванск
Кажары, Кашчына, Коравічы, Красніца, Крыўкі, Кушняроўка
Лазукі, Латыголічы, Лукомль, Луцік, Лыскі
Малая Вядрэнь, Малыя Смалянцы, Марынцы, Міхалова, Мокавічы
Неўгадава, Новая Зара
Падрэзы, Пачаевічы, Першае Мая, Плаўнік, Проземля, Прыдвор'е
Руць
Сабалі, Сарочына, Слабодка, Старыя Лаўкі, Стаўбцы, Сялец
Тараскі, Трылесіна
Ухлё
Цяпіна
Чарэя, Чорная Лаза
Шаўкоўшчына

### *Шаркаўшчынскі раён*

Альхоўцы, Амбросенкі
Бараноўскія, Баяршчына, Більдзюгі, Боўкалы, Буеўшчына, Буды, Буйкі
Валожанкі, Варонка, Васюкі, Ваўкоўшчына, Верацеі

Гарадзец, Германавічы, Грыбоўшчына
Дварышча, Дворнава
Ёды
Жданы, Жукоўшчына
Залясінкі, Запруддзе, Зачысцікі, Зорка, Зябліны
Каралёва, Каршункі, Каты, Каўшэлева, Клінавое, Корніца, Кубелеўшчына, Куштали
Лонск, Лужкі, Лучайка
Мельніца, Мішуты
Навасельцы
Палялейкі, Папкі, Пашкі, Пялікі, Пятровічы
Радзюкі
Савіцкія, Савуткі, Сасноўцы, Свілы
Таўкіні, Трабаўшчына, Тупічына
Чаромушкі
Шпунты, Шыці
Юзафова

### *Шумілінскі раён*
Амбросавічы, Андрэеўка
Баёўка, Бандуры, Барсучына, Башні, Бокішава, Бондарава, Бубалі, Будзішча, Бунцікі, Бярэзніца
Вішня, Войлавічы, Вялікія Ляжні
Галі, Горкі, Губіца
Дабея, Далуева, Дуброва
Жданоўка
Забор'е, Завяззе, Задоры, Залессе, Заобаль, Зямцы
Івоніна, Ілава
Кардон, Кралькі, Крывіцкі, Крывое Сяло, Крылаўшчына, Куціна
Латкова, Лескавічы, Лоўжа, Лужкі
Мазурына, Мікалаева, Мікіціха, Мішкавічы, Мішневічы, Мясаедава
Навікі, Непароты
Обаль
Пялікі
Расалай, Роўнае, Рускі, Рыпіншчына
Сахоненкі, Сіроціна, Слабада, Сураўні, Сутокі, Сянькова
Тупічына
Ферма
Цаўі
Шодзікі, Шчарбакі, Шыліна
Язвіна, Яцукі

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абрад.* – абрадавае
*абразл.* – абразлівае
*аг.* – агульны род
*адз.* – адзіночны лік
*адзінк.* – адзінкавае
*асудж.* – асуджальнае
*бат.* – батанічнае
*безас.* – безасабовы дзеяслоў
*безас.-прэдык.* – безасабова-прэдыкатыўнае слова
*вык.* – выказнік
*выкл.* – выклічнік
*выш.* – вышэйшая ступень параўнання
*гл.* – глядзі
*груб.* – грубае
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе
*дзе-н.* – дзе-небудзь
*дзіцяч.* – дзіцячае
*ж.* – жаночы род
*заал.* – заалагічнае
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зб.* – зборны назоўнік, лічэбнік
*знач.* – значэнне
*злуч.* – злучнік
*знач.* – значэнне
*іран.* – іранічнае
*каго-н.* – каго-небудзь
*каму-н.* – каму-небудзь
*кім-н.* – кім-небудзь
*кулін.* – кулінарнае
*ласк.* – ласкальнае
*лаянк.* – лаянкавае
*ліч.* – лічэбнік
*мад. сл.* – мадальнае слова
*м.* – мужчынскі род
*мед.* – медыцынскае
*міф.* – міфалагічнае
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*наз.* – назоўнік
*найвыш.* – найвышэйшая ступень параўнання
*неадабр.* – неадабральнае
*незак.* – незакончанае трыванне
*павел.* – павелічальнае
*пагард.* – пагардлівае
*памянш.* – памяншальная форма
*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма
*параўн.* – параўнайце
*перан.* – пераноснае значэнне
*прым.* – прыметнік
*прысл.* – прыслоўе
*пчал.* – пчалярскае
*пыт.* – пытальны
*рыб.* – рыбалоўнае
*рэліг.* – рэлігійнае
*с.-г.* – сельскагаспадарчае
*уст.* – устарэлае
*ткац.* – ткацкае
*тэхн.* – тэхнічнае
*хто-н.*– хто-небудзь
*чаго-н.* – чаго-небудзь
*чаму-н.* – чаму-небудзь
*часц.* – часціца
*чым-н.* – чым-небудзь
*што-н.* – што-небудзь
*экспр.* – экспрэсіўнае

# М

МАГІ́ЛЬНІК *м.*, МАГІ́ЛКІ *мн.* Могілкі, месца, дзе хаваюць памерлых. *Памалу ўжо з магі́льніку людзі сталі разыходзіцца.* Бяседы Леп. *На магі́льніку, што ля нашай вёскі, многа людзей ляжыць.* Угрынкі Уш. *На магі́лкі на Тройцу пойдзем.* Барсукі В.-Дзв., Канашы Гар.

МАГРЭ́ТА *ж.* Ганарлівая дзяўчына ці жанчына. *Выступае, бы магрэ́та, нос задраўшы.* Смаляны Арш. *Як прыехала з гораду, ходзіць па вёсцы, як тая магрэ́та.* Стаўбцы Чаш.

МАДНЕ́Й *прысл.* Не так, як ва ўсіх, па-іншаму. *У яе не так, як у людзей, а ўсё мадней.* Пугачова Докш.

МАДНЕ́ЙШЫ *займ.* Іншы. *Нічога маднéйшага я табе падсказаць не магу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАЁЎКА *ж.* Кірмаш, які ладзіўся ў вёсках з прычыны святкавання Першага мая. *Ці пойдзем заўтра на маёўку?* Князі Віц. *Раньшы маёўкі ў нас усігда былі.* Канашы Гар.

МА́ЖЫ *толькі мн.* Вялікія калёсы для гаспадарчых патрэб (перавозкі сена, дроў і інш.). *Калі трэба, дык бяры мае ма́жы, яны за хатай стаяць.* Новае Сяло Сен. *Пайду ма́жы падрамантую, а то заўтра сена вазіць.* Коравічы Чаш.

МАЗГАВА́ТЫЙ *прым.* Кемлівы, разумны. *Унук у міне маладзец: мазгава́тый расцець.* Лужасна Віц.

МАЗГАВА́ЦЬ *незак.* Думаць над чым-н., узважваць, меркаваць, абмяркоўваць што-н. *Будзім яшчэ з сынам мазгава́ць, ці нада нам туды паехаць.* Лужасна Віц., Іванск Чаш.

МАЗГАЎНЯ́ *ж., груб.* Галава. *Ці думае чым твая мазгаўня́?* Мазалава Віц., Новае Сяло Сен.

МА́ЗІВА *ж.* Мазь. *Вазьмі вон тую ма́зіву.* Селішча Уш.

МАЗНІ́ЦА *ж., абрад.* Слуп, змазаны мазутам, які палілі падчас святкавання Купалля. *Мальцы пайшлі паліць мазні́цу.* Ула Беш.

МАЗО́ЛІСТЫ *прым.* Надакучлівы чалавек (звычайна пра дзіця). *Ну, мазо́лісты малы, мельцяшыць і мельцяшыць перад носам.* Мазурына Шум.

МАЗЭ́ЛЬНІК *м.* Маляр. *Прыйшлося мазэ́льнікаў браць, каб хату памазэлілі.* Язна Міёр.

МАЙ *м.* Першая зелень лісцевых дрэў, якой па традыцыі ў вёсках упрыгожвалі жыллё. *Прывязі ма́ю: трэба прыбраць хату.* Пугачова Докш. *Нада прыбраць хату ма́ем – будзе пахнуць свежым лісцем.* Воўкаўшчына Міёр.

МАЙДУ́К *м., груб.* Маўклівы, негаваркі чалавек. *Майду́к – той, што ўсё маўчыць.* Барсукі В.-Дзв. *Майду́к гэты ўсё маўчыць і маўчыць.* Кураполле Паст. Параўн. *мумка*[2], *марму́ль, мармы́ль, мэ́ма* ў 1 знач.

МА́ЙСТРА *м.* Майстар. *Мой бацька ма́йстра рамантаваць радыё.* Барздоўка Арш.

МАЙСТРА́ЧЫЦЬ *незак.* Майстраваць. *Мой мужык зноў нешта майстра́чыць на двары.* Воўкаўшчына Міёр.

МАКА́НКА *ж.*, МАКА́ННЕ *н.* Мачанка. *Прынясі тварог, мака́нкі зраблю, бліны памакаеш.* Самуйлы Брасл., Надазер'е Глыб., Вялікі Поўсвіж Леп. *Мака́нне з блінамі сёння будзе.* Надазер'е Глыб.

МАКА́ТКА *ж.* Невялікі саматканы дыван. *Гэтыя мака́ткі вышывала яшчэ мая бабуля.* Каханавічы В.-Дзв., Воўкаўшчына Глыб.

МАКА́ЧКА *ж.* Ежа, прыгатаваная з тварагу са смятанай. *У міску налівалі смітану і церушылі туды тварог, а тады бралі бліны ці хлеб ды макалі ў мака́чку.* Гарбачэва Рас.

МАКВА́, МАКРАТА́ *ж.* Мокрае, дажджлівае надвор'е. *Усю нядзелю на вуліцы маква́ стаіць.* Старое Сяло Уш. *А на дварэ трэці дзень макрата́, таму ні ягад абабраць, ні агуркі выпалаць не магу.* Старое Лядна Леп., Угрынкі Уш.

МАКО́ЎНІК *м.* Пірог з макам. *На Каляды бабуля заўсёды пякла мако́ўнік.* Абухава Беш.

МАКРАТА́ гл. МАКВА́

МАКРАЦЦЁ, МАКРЫЦЦЁ *н., толькі адз.* Намоклае адзенне. *Макраццё свай пакідаў, не развешаў.* Лужасна Віц. *Здымай сваё макрыццё ды развесь каля печы, каб высахла.* Жыгалы Беш.

МАКРАЯ́ЦЬ, МАКРО́ЦЬ, МАКРЫЯ́ЦЬ, МАКРЭ́ЦЬ, МО́КРАЦЬ *ж.* Макрата, вада, вільгаць, якія пакрываюць, пранізваюць што-н.; слата. *У цялушкі макрая́ць ужо трэці дзень стаіць, трэба чысціць.* Белькі Паст. *Стаіць макро́ць, не знаю, як бульбачку ўбраць.* Крупяжына Сен. *На дварэ макрыя́ць: усю ноч ішоў дождж. Абувай боты!* Гута Уш. *Я не хачу вылазіць на макрэ́ць з караваці.* Бяседы Леп. *Як толькі мо́крaць на вуліцы, так і настрою няма.* Барадуліна Арш. *Ай, якая мо́крaць, не выйсці з хаты!* Магуны Паст.

МАКРУ́ША *ж., заал.* Макрыца, невялікая ракападобная жывёліна, якая жыве ў вільготных месцах. *У яме было столькі макру́ш, што мы іх нагамі таптали.* Барсукі В.-Дзв., Гута, Кураполле, Чорнае Паст.

МАКРЫ́ВЫ *прым.* Дажджлівы. *Калі макры́вае лета, то дрэнны ўраджай.* Галубава В.-Дзв.

МАКРЫЦЦЁ гл. МАКРАЦЦЁ

МАКРЫЯ́ЦЬ, МАКРЭ́ЦЬ гл. МАКРАЯ́ЦЬ

МАЛАВУ́МСТВЕННА *прысл.* Безразважна, неабдумана. *Каб падумаў, дык так бы малаву́мственна не здзелаў, не смяшыў бы людзей.* Ляхаўка Дубр.

МАЛАДЗЕ́НЕЦ, МАЛАДЗЁН, МАЛАДЗЁНАК, МАЛАДЗІ́К, МАЛАДЗЯ́Н *м.* 1. Жаніх. *Гляньце, бабы, маладзе́нец едзе да нашай Ганулькі.* Моханава В.-Дзв. *Маладуха красівая, а маладзе́нец дрэнь.* Пугачова Докш. *А той маладзён прапівае цешчы грошы.* Кветча Леп. *Любы маладзёнак хвалюецца перад вяселлем.* Косарава Глыб. *Маладзі́к з маладухай ужо прыехалі.* Мілашкі Брасл., Станіславова Дубр. *Маладзя́н не стаў са мной вітацца нешта пасля вяселля.* Янава Тал. 2. МАЛАДЗЕ́НЕЦ Малады мужчына. *Як Мікіта быў маладзе́нцам, дык спраўны быў мужчына, відны.* Угрынкі Уш., Замачак Чаш.

МАЛАДЗЁЖ *м., зб.* Моладзь. *Мала засталося на сяле маладзёжу.* Узмёны Міёр.

МАЛАДЗЁН, МАЛАДЗЁНАК, МАЛАДЗІ́К, МАЛАДЗЯ́Н гл. МАЛАДЗЕ́НЕЦ

МАЛАДО́ВАЧКА *ж.* Нявеста, маладая, дзяўчына падчас вяселля. *А дзеўкі ўсе й гаворуць: "А сабірайся, маладо́вачка, у дарогу".* Кветча Леп.

МАЛАДЭ́ЛЯ *ж.* Маладая незамужняя дзяўчына. *А маладэ́ля гэная нічога сама рабіць не ўмее.* Іванск Чаш.

МАЛАННЯ́, МАЛАНЯ́ *ж.* Маланка. *Малання́ як дала ў дрэва!* Заточча В.-Дзв., Канашы Гар. *Маланя́ сёння была яшчэ большая, чым учора.* Старыя Крукі Міёр., Угрынкі Уш. *Маланя́ страшна сячэць.* Ідоўта Міёр.

МАЛАСО́ЛКІ *мн.*, МАЛАСО́ЛЬНІК *м.* Мала, злёгку прасоленыя агуркі. *Якія ж у вас смашныя маласо́лкі!* Дзяйкі, Лужасна Віц. *Зараз маласо́льнік к бульбе дастану.* Ваўкалата Докш.

МАЛЕ́ЗНЫ *прым.* Вельмі малы. *Траўка на гародзе яшчэ мале́зная – не вырвеш.* Абухава Беш.

МА́ЛЕЦ, МА́ЛІЦ *м.* 1. Хлопчык. *Ма́лец у іх нарадзіўся.* Барсукі В.-Дзв. 2. Хлопец, юнак. *Прывозіў ма́лец нейкі муку, дык усе куплялі.* Задроўе Арш. *Нічога, ма́льцы маладыя – усё асіляць.* Галубава, Лісна В.-Дзв., Вусава Глыб., Стары Лепель Леп., Гута Паст., Рудня Пол., Гаршчэўшчына Тал., Шыці Шарк. *Глянь во, якей ма́ліц вымахаў!* Ноўка Гар., Янкі Докш. *Усе ма́льцы ў горад выехалі, адны бабы ў вёсцы асталіся.* Угрынкі Уш. *Ма́ліц у Любы дужа прыгожы.* Іванск Чаш.

МАЛІ́ЗА *ж.* Меліса, травяністая меданосная расліна сямейства губакветных з жоўтымі кветкамі і лімонным пахам. *Спрытна малі́за ў гародчыку ўзялася.* Павулле Уш.

МАЛІЗЫ́НКА *аг.* Пераборлівы ў ежы чалавек. *Вось унучка мая малізы́нка: нічога есці не хоча.* Чарневічы Глыб. Параўн. *малімо́ннік.*

МАЛІДЫ́НКА *ж.* Пераборлівая, капрызная жанчына. *Глядзі, малідынка, адна не застанься.* Замхава Глыб.

МАЛІМО́НКА *ж.* Фарсістая дзяўчына ці жанчына, модніца. *Дачка ейная такая малімо́нка, адзіваіцца, як папугай.* Дзёрнавічы, Мыкава В.-Дзв.

МАЛІМО́ННЕ *н.* Прысмакі. *Усё! Малімо́нне кончылася. Цяпер не скора будзець.* Белая Ліпа Сен.

МАЛІМО́ННІК *м.* Пераборлівы ў ежы чалавек. *Малец твой малімо́ннік, да сала не прывыкшы.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *малізы́нка.*

МА́ЛІЦ гл. МА́ЛЕЦ

МАЛО́ЖЫ *прым., выш.* Малодшы. *Мало́жы брат ягоны шчэ ў школу ходзіць.* Макаранкі Лёзн.

МАЛО́ЧНІК[1] *м.* Рыбіны малокі. *Такій мало́чнік у сялёдке харошый, укусный.* Залессе В.-Дзв.

МАЛО́ЧНІК[2] *м., бат.* Дзьмухавец. *Пайду мало́чніку нарву карове.* Промыслы Беш.

МАЛЬХА́Ч *м.* Ляўша. *Гэтый хлопец мальха́ч: усё робіць левай рукой, ды й так спрытна!* Жаўры Беш.

МАЛЬЦАВА́ЦЬ *незак.* Бавіць, праводзіць час разам (пра хлопцаў у маладым узросце). *Мальцава́лі мы з ім разам.* Канашы Гар.

МАЛЬЧО́НАК *м., памянш.-ласк.* Хлапчук. *Мальчо́нак вельмі спрытны быў.* Абухава Беш., Андронавічы, Лужасна Віц., Канашы Гар. *У яе адзін мальчо́нак ад першага мужыка.* Ляхаўка Дубр. *Які ён ваяка ў пятнаццаць гадоў? Мальчо́нак яшчэ!* Угрынкі Уш.

МАЛЮ́ТАЧКА *аг.* Дарослы чалавек, які паводзіць сябе падзіцячы. *Скора ў сваты павядуць, а ён усё малю́тачка.* Ляхаўка Дубр.

МАМУ́СЯ, МАТУ́ЛЬКА, МАТУ́СЯ *ж.* Хросная маці. *Хрысціць дзіцяці павінна маму́ся і татусь.* Велеўшчына Леп. *На вяселлі мату́лька займае пачэснае месца.* Верамееўшчына Дубр. *У мяне мату́ся добрая: часта прыходзіць, ды яшчэ й з падарункамі.* Навумаўка Беш., Замачак Чаш.

МАНДЗЯРУ́ШКІ, МУНДЗЯРЫ́ *мн.*, МУНДЗЕ́РКА, МУНДЗІРО́ЎКА *ж.* Бульба, звараная “ў мундзірах”, з лупінамі. *У вайну наварым мандзяру́шак ды ядзім.* Ахрэмаўцы Брасл. *У нас і дзеці любяць мундзяры́ з посным маслам ды з цыбулькай.* Угрынкі Уш., Рускі Шум. *Мундзе́ркі парасятам наварыла – хай ядуць.* Курына Віц. *Нада да мундзіро́ўкі гуркоў дастаць.* Канашы Гар., Цілеўцы Міёр.

МАНЕЖАВА́ЦЬ *незак.* Даваць павучанні, настаўляць. *Хваціць табе ўжо міне манежава́ць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАНІ́ЦЦА *незак.* Мець намер, збірацца зрабіць што-н. *Не мані́ся, што скора замуж выйдзеш – гэта як возьмуць.* Угрынкі Уш.

*Я ўсё манюся з'ездзіць да сястры ў горад, а ніяк не выходзіць: хазяйства няма каму аставіць.* Кураполле, Ясюкі Паст.

МА́НЦЕЛЬ *м.* Падманшчык. *Я ма́нцеля адразу пазнаю, як бы ён ні лгаў.* Ходцы Сен. Параўн. *махлю́й.*

МАРАЗГУ́ША, МАРО́ШКА, МЖА, МЖА́КА, МЖА́ЧКА, МЫГЛА́ *ж.*, МАРО́СІВА *н.* Імгла, дробны дождж. *На вуліцы маразгу́ша, таму доўга на вуліцы не пабудзеш – змокнеш увесь.* Ходцы Сен. *Капа́ць будзем заўтра: сёння маро́шка йдзець.* Язна Міёр. *Сёння мжа з самай раніцы, аж надаела.* Лукашова Паст. *Не падабаецца мне мжа́ка, бо можаць увесь дзені ісці.* Стараселле Леп. *А на дварэ мжа́чка, але пачало цяплець.* Славені Тал. *Не паспела выйсці на вуліцу, як пачалася мыгла́.* Мілашы Брасл. *На двары пагана – маро́сіва.* Дзегцяры Брасл. Параўн. *мі́льгаць.*

МАРА́НЫ *прым.* Брудны, нячысты (пра бялізну, адзенне). *Мара́нае бяллё разам з чыстым не кладзі ў адну кучу.* Канашы Гар.

МАРМУ́ЛЬ, МАРМЫ́ЛЬ *м., неадабр.* Маўклівы чалавек. *Што маўчыш, як марму́ль?* Лісна В.-Дзв. *Вось ужо марму́ль гэты: ні пагаварыць з ім, не спытаць нічога.* Савенічы Сен. *Мармы́ль гэты ўсё маўчыць.* Станіслававова Дубр. Параўн. *майду́к, мумка*[2], *мэ́ма* ў 1 знач.

МАРО́СІВА, МАРО́ШКА гл. МАРАЗГУ́ША

МАРТВЕ́ЦЬ *незак.* Мярцвець. *Калі доўга пасяджу, то нага адразу мартве́іць.* Абухава Беш.

МАРХА́ТКІ *толькі мн.* Завязь. *Марха́ткі ўжо на гурках – скора будзім есці.* Груздава Паст.

МАРХО́ЎНІК *м.* Суп з морквы. *Ці хочаце вы мархо́ўніку? Толькі зварыла.* Баравуха Пол.

МАРША́ЛАК *м., абрад.* Сват. *Марша́лку на вяселлі давалі падарак.* Вялічкі Паст. *Мой мужык на гэтым вяселлі за марша́лка.* Груздава Паст.

МАРШЧА́ВЫ, МАРШЧА́ТЫ *прым.* Маршчыністы. *Увесь маршча́вы, хоць і не стары.* Барсукі, Лісна В.-Дзв. *Як вярнуўся з арміі, дык нейкі маршча́ты стаў.* Латкова Шум.

МАРЫ́ЦЦА *незак.* Стамляцца. *Мару́ся вельмі скора, нічога ні магу доўга рабіць.* Біцялёва Віц., Угрынкі Уш.

МАСІЯ́ЖКА *ж.* 1. Пра збрадлівую жывёлу. *Не карова, а масія́жка нейкая, вечна залезіць куды не нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. *аг.* Пра рассеянага, няўважлівага чалавека. *Гэта ж нада быць такой масія́жкай, каб грошы згубіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МАСКАТАВА́ЦЬ *незак.* Грукатаць, шумець. *Каты сёння ўсю ноч маскатава́лі ў калідоры.* Ваўкалата Докш.

МА́СЛІЦЦА *незак.* Падлізвацца, ільсціць. *Такей падліза, хто яму нада, ля таго будзе ма́сліцца, на задніх лапках хадзіць.* Ляхаўка Дубр.

МАСЛЮ́К[1] *м.* 1. Страва, прыгатаваная з тоўчанага маку і цукру. *Маслю́к гатавалі так: таўклі мак і сахару туды сыпалі. А тады елі з хлебам.* Груздава, Казлоўшчына Паст. 2. Страва, прыгатаваная з канопляў і цыбулі. *Каноплі таўклі ў ступе, дабаўлялі цыбулі, солі і гэтак елі. А страву такую называюць маслю́к.* Грэйцева Паст.

МАСЛЮ́К[2] *м.* Масляк, казляк, грыб з жоўта-карычневай ліпкай шапкай. *І маслюкі́ бяры: іх тожа ядуць.* Стары Лепель Леп.

МАСЛЯ́НКА *ж.* Маслёнка, вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла. *Масля́нка – гэта тое, што застаецца пасля збівання масла.* Чурылава В.-Дзв. *Нешта гэты раз масля́нкі мала засталося.* Тумілавічы, Шантары Докш. *Масля́нку не вылівай: яна мне нада.* Лужкі Шарк.

МАСНІ́ЧЫНА *ж.* Дошка ў падлозе. *Масні́чына на кухні праламалася.* Лужасна Віц., Канашы Гар.

МАСТА́ЧАННЕ, МЫСТА́ЧАННЕ *н.* Майстраванне. *Што выйдзіць з твайгоମаста́чання – лодка ці верацяно?* Барсукі Дубр. *Мыста́чанне тваё ўвесь вольны час займае.* Парфенаўка Дубр.

МАСО́ЛІЦЬ *незак.* Забруджваць. *Вось так ваду ў калодзежах чаруны масо́ліць могуць.* Ноўка Віц.

МАТАРО́К *м.* 1. Завязка, вяровачка. *Дай ты мне які матаро́к, каб сумкі звязаць.* Угрынкі Уш. Параўн. *мату́з* у 3 знач., *мату́зіна, матузі́ніна.* 2. Повад. *Матаро́к вазьму і іду за каровай.* КалінаваяМіёр. Параўн. *мату́з* у 4 знач.

МА́ТКА, МАЦЁРА *ж.* Пасаджаная ўвесну, старая бульба, якая не паспела за лета згніць у зямлі. *Сёлета цяжка атлічыць ма́тку ад маладой бульбы, бо яна добра сахранілася.* Чэрнева Брасл., Угрынкі Уш. *Бульба, з якой вырасла новая, у нас называюць мацёра.* Масленікі Паст.

МАТЛЯ́ЦЬ *незак.* Накручваць. *Трэба матля́ць клубок нітак.* Галбея Паст.

МАТО́К *м.* Нізка, нанізаныя на нітку, дрот і інш. якія-н. аднародныя прадметы (грыбы, рыба, цыбуля і інш.). *Сын прадаў на базары ўчора тры маткі́ грыбоў.* Угрынкі Уш. *Залетась навязала сем матко́ў цыбулі, а сёлета толькі тры.* Барсукі В.-Дзв. *Мато́к цыбулі дачцэ аддала.* Ідоўта Міёр.

МАТРАХЛЯ́ССЕ *н., толькі адз.* Старыя непатрэбныя рэчы. *Трэба павыкідваць тое матрахля́ссе, што ў нас у сенцах ляжыць з таго году ляжыць.* Селішча Арш.

МАТУ́З *м.* 1. Завязка ў фартуху. *Унучачка, прышый ты мне матузы́ к фартуху.* Баравуха Пол. *Бабка, у цябе мату́з развязаўся.* Вялікае Сяло Сен. *Учора зачапілася за гвозд ў хлеве і адарвала мату́з на хвартуху.* Слабада Шум. 2. Шнурок. *Малыя дзеці доўга не ўмеюць завязваць матузы́ на абутку.* Гута Паст., Угрынкі Уш. 3. Завязка,

вяровачка. *Сена можна перавязаць і матузо́м.* Ваўкалата Докш., Гілі Чаш. *Маліны я бяру абедзвюма рукамі, бо вядро падвязваю на мату́з.* Гута Паст., Угрынкі Уш. Параўн. *матаро́к* у 1 знач., *мату́зіна, матузі́ніна.* 4. Повад. *Бяры мату́з і ідзі за каровай.* Глыбоўшчына Брасл. Параўн. *матаро́к* у 2 знач.

МАТУ́ЗІНА, МАТУ́ЗІНІНА *ж.* Завязка. *Найдзі ты мне якую мату́зіну завязаць мяшок.* Барсукі В.-Дзв. *Матузі́ніну якую-нібудзь найдзі мне мяшок завізаць.* Лужасна Віц. Параўн. *мату́з* у 3 знач., *матаро́к* у 1 знач.

МАТУ́ЛЬКА, МАТУ́СЯ гл. МАМУ́СЯ

МАТУ́ГА, МАТЫ́ЧКА *ж.* Матыка, ручная земляробчая прылада для рыхлення глебы, акучвання бульбы, буракоў і інш. *У гародзе яна ўсігда працавала мату́гай.* Велеўшчына Леп. *Маты́чка затупілася, а палоць яшчэ многа.* Ураджайная Глыб., Куніцкія Паст., Лужкі Шарк. *Бяры маты́чку і ідзі ў агарод.* Урбаны Брасл., Пераброддзе Міёр., Матырына Уш.

МАЎЧА́НАЧКА *ж.* Маўчанне. *Ты мне гэту маўча́начку кінь – расказвай, дзе хадзіла!* Варапаева, Груздава Паст.

МАХЛА́К *м., груб.* Ветраны, несур'ёзны чалавек. *Махла́к ён: што хочаш ляпніць не падумаўшы.* Ляхаўка Дубр.

МАХЛЮВА́ЦЬ, МАХЛЯВА́ЦЬ, МУХЛЯВА́ЦЬ *незак.* Займацца махлярствам, жульнічаць, ашукваць. *Я люблю ў карты гуляць, але не махлю́ю.* Таўкіні Шарк. *Бабка, ты, відаць, махлю́еш: не можа столькі стоіць вядро грыбоў.* Ноўка Віц. *З ім не буду ў карты гуляць: ён пастаянна мухлю́е.* Камаі Паст., Угрынкі Уш.

МАХЛЮ́Й *м.* Махляр, жулік, ашуканец. *Ён такі махлю́й, што яму нільзя верыць ні на мінуту.* Ідоўта Міёр. Параўн. *ма́нцель.*

МАХЛЯВА́ЦЬ гл. МАХЛЮВА́ЦЬ

МАХЛЯ́ЎКА *ж.* Махлярка. *Думаіш, махля́вак менш стала? Іх яшчэ больш развялося.* Ляхаўка Дубр.

МАХРА́Ч *м.* Ручнік з доўгімі махрамі. *Усе ў хаце карысталіся махрачо́м.* Дварышча Шарк.

МАЦАВА́ЦЦА *незак., абрад.* Біцца яйкамі на Вялікдзень (пра гульню з велікоднымі яйкамі, калі адно з іх б'юць аб другое). *А патом сабіраліся біцца яйкамі – мацава́ліся.* Заазер'е Пол.

МАЦЕ́РА *ж.* Самка дзіка. *Маце́ра парыла ўвесь агарод ноччу.* Кругляны Сен.

МАЦЁРА гл. МА́ТКА

МА́ЦІЦА *ж.* Матрац. *Сядзь во сюды. Новую ма́ціцу дзеці прывезлі. Мякка?* Ноўка Віц.

МАЧО́НІКІ *мн.* 1. Ядомыя грыбы, якія спажываюць у замочаным выглядзе. *Унукам спадабаліся мае мачо́нікі.* Угрынкі Уш. *Мачо́нікамі ў нас называюць белыя і чорныя грузды.* Зябліны,

Палялейкі Шарк. 2. Квашаныя яблыкі. *Усе яблыкі пайшлі на мачóнікі, бо ў мяне няма ўжо зубоў іх свежымі есці.* Ваўкалата Докш., Лукаўцы Пол., Янкавічы Рас. 3. Засоленыя агуркі. *Шчас я, дзеткі, мачóнікаў вам сваіх дастану. У мяне яны смачныя, хрусткія.* Бачэйкава Беш., Кузьмянцы Віц., Сахнавічы Глыб. *Перасаліла ты вадзіцу. Глядзі, мачóнікі твае ніхто не будзе есці.* Папшычы Глыб. 4. Мучныя бліны, якія макаюць у мачанку. *Я лепей зраніцы мачóнікі спяку.* Галбея Паст.

МАША́РНІК, МЫША́РНІК *м.* Махавік, ядомы грыб. *Машáрнікі растуць на моху, у балотах.* Лісна В.-Дзв. *У балоце не толькі ягады, але і мышáрнікі сустракаюцца.* Уздорнікі Сен.

МЕДАВІ́ЦА, МЕДУНІ́ЦА *ж.* Пчала, якая збірае мёд. *Пчала-медаві́ца многа мёду носіць.* Сахоненкі Шум. *Вот уж медаві́цам ёсць што сабраць гэтым летам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Суседка мая рабацяшчая, як медуні́ца.* Язна Міёр.

МЕДЗВЯДЗІ́ *толькі мн., кулін.* Бліны з дранай бульбы, начыненыя мясам. *Сёння будзем на абед медзвядзі́ рабіць.* Воўкаўшчына Міёр.

МЕДУНІ́ЦА гл. МЕДАВІ́ЦА

МЕ́ЛІН, МЯЛЁН *м.* Млён; дзяржанне, палка, якой круцяць ручныя жорны. *Мéлін – каб круціць жорны.* Каралёва Шарк. *Калі цэлы дзянёчак мялён у руках падзержыш, то і балавацца не захочаш.* Пліса Глыб.

МЕЛЯЯ́ *аг.* Празмерна гаваркі, балбатлівы чалавек. *Прыйшла гэтая меляя́, Барысіха, як стала гаварыць пра сыноў ды ўнукаў, дык дзве гадзіны з ёй і адседзела на лаўцы. А работа стаіць.* Замачак Чаш.

МЕ́НІ, МЕ́НШАКА *прысл., выш.* Менш. *Сёння я дала яму мéні грошай.* Мілашова Міёр. *Старому мéні ўбораў трэба, чым маладым.* Груздава Паст., Угрынкі Уш. *А сёння ты мéншака рыбы налавіў.* Новы Двор В.-Дзв.

МЕ́НТА *ж.* Маслабойка. *Мéнтай збіваюць масла, калі робяць яго ўручную самі.* Дварышча Шарк.

МЕ́НШАКА гл. МЕ́НІ

МЕ́СІК *м.* Месяц, планета, самая блізкая да Зямлі. *Вунь і мéсік узышоў.* Ноўка Віц.

МЕ́СТА, МЕ́СЦА *н.* Плацэнта. *Карова ацялілася, але мéста яшчэ не адышло.* Зямцы Шум. *Ці выйшла мéсца ў каровы?* Крыпулі Докш.

МЕСЬ *незак.* Падмятаць. *Немец застаўляў дзяцей і месь, і палоць.* Замасточча Віц. *Хату месь не ўмееш.* Канашы Гар.

МЕ́ТНЫ *прым.* Адметны, з нейкай адзнакай, прыкметай. *Мой конь быў самы мéтны ў вёсцы, бо меў белую грыву, хоць сам быў гняды.* Валынцы В.-Дзв., Селішча Гар.

МЕ́ША *ж., міф.* Міфічная істота, пачвара, якая ўначы кідаецца на людзей. *На вуліцу ўночы лепш не ходзь: там ме́ша ходзіць.* Ноўка Віц.

МЕ́ЧЫКІ *мн.* Цюльпаны. *Ме́чыкамі ў нас завуць цюльпаны.* Макаранкі Лёзн.

МЕ́ШАНКА, МЕ́ШАНЬ, МЯША́НКА, МЯШО́НКА *ж.* 1. Ежа для свойскай жывёлы, прыгатаваная са зваранай тоўчанай бульбы з дабаўленнем пасечанай травы, запраўленая мукой. *Ме́шанка стаіць у калідоры, вазьмі ды аднясі свінні.* Сокарава, Чаўнышкі Беш. *Зрабі курам ме́шанкі і пакармі іх.* Надазер'е Глыб. *Пайду свінням ме́шанкі якой ды травы дам.* Дзяйкі Віц., Крыпулі Докш., Новае Сяло Сен. *Не сып курам крупы – схадзі нарві травы ды пакормім іх сёння ме́шанкай.* Угрынкі Уш. *Нешта куры ме́шанку есці не хочуць.* Мікіціха Шум. *Пайду ме́шані свінням дам.* Кажамякі Сен. *Свінням намяшаю ме́шані.* Станіслававова Дубр. *Баба, ідзі рабі мяша́нку парсючку.* Дзеркаўшчына Глыб. *Схадзі ў мяша́нку нарві гароху.* Надазер'е Глыб. *Мяша́нка яшчэ гарачая – свінням не ўліеш.* Сакалянка Тал., Шасцярні Уш. *Нада ў мяшо́нку травы сечанай дабавіць.* Якубаўшчына Лёзн. 2. МЯША́НКА Корм для свойскай жывёлы, прыгатаваны з запаранага сена ці саломы. *Калі сена не хапала, жывёлу кармілі мяша́нкай.* Шарагі Міёр., Кубелеўшчына Шарк. 3. МЕ́ШАНКА Змешаны пасеў кармавых раслін. *Ме́шанка – гэта віка і авёс ці ячмень, гарох і авёс, якія сеяць, каб карміць імі кароў, свіней і другі скот.* Камаі Паст.

МЁНТКА, МЯШУ́ЛКА *ж.* Мяшалка. *Мёнткай размешваюць, узбіваюць, каб была пена.* Анкуды, Груздава Паст. *Вазьмі мяшу́лку ды памішай варэнне.* Звязда Леп.

МЖА гл. МАРАЗГУ́ША

МЖАВО́ЛІЦЬ *незак.* Імжэць. *Мжаво́ліць усю раніцу халодны дождж з ветрам.* Савіцкія Шарк.

МЖА́КА, МЖА́ЧКА гл. МАРАЗГУ́ША

МІЛА́ХА *ж., экспр.* Прыгожая, прывабная жанчына. *Колькі гадоў пражыў, а ў памяці стаяць вясковыя міла́хі.* Дыманова Віц.

МІ́ЛЬГАЦЬ *ж.* Імжа. *Будзе дождж – мі́льгаць пачалася!* Дзегцяры Брасл. Параўн. *маразгу́ша, маро́сіва, маро́шка, мжа, мжа́ка, мжа́чка, мыгла́.*

МІЛЮ́ТА *аг.* Мілы, дарагі чалавек. *Сядзь бліжэй, мілю́та мая.* Белая Ліпа Сен.

МІТУСНЯ́ *ж.* Сварка, звада. *У маіх суседзяў мітусня́ кожны вечар.* Слабада Паст. *Вечна мітусня́ ў іх, німа толку.* Варапаева Паст.

МІТЭ́РКА *ж., ткац.* Маленькае драўлянае колца калаўрота, якое знаходзіцца побач са шпулькай і перадае ёй рух вялікага кола. *На мітэ́рку і на шпульку надзяём шнур у калаўроце.* Казлы Міёр.

МІЦЕ́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Моцна сварыцца, прабіраць каго-н. *Як ускочыла ў хату, давай рібят міцэ́ліць сразу.* Ноўка Гар.

МЛАДКІ́ *толькі мн.* Ігральныя карты 6,7. *Мая бабуля адкідае ўсе младкі́, калі гадае на даму.* Селішча Арш.

МЛА́СЬ *ж.* Млосць. *Нейкая мла́сь на мяне напала – пайду паляжу.* Кураполле Паст.

МЛЕ́КА *н.* Малако. *На, папі мле́ка.* Абухава Беш.

МО́ГІЛЬНІК *м.* Помнік на магіле. *Мо́гільнік у прошлым годзе ставілі.* Лялеўшчына Гар.

МО́ДЗІЦЦА *незак.* Моднічаць, прытрымлівацца моды. *А яна ўсё мо́дзіцца, хоць і немаладая даўно.* Селішча Уш.

МО́ДЗІЦЬ *незак.* Хітрыць. *Дык ён жа на кожным кроку нешта мо́дзіць.* Пашкі Шарк.

МО́ДНЫ *прым.* 1. Незвычайны, не падобны да іншых. *Мо́днае вядро для ягад у цібе нейкае.* Кулакова Віц. *Кветка нейкая мо́дная зацвіла ля хаты, ніколі такую не бачыла.* Угрынкі Уш., Пашкі Шарк. 2. Цікавы, дзіўны (пра чалавека). *Ну ты і мо́дны чалавек: я табе і тое, і гэта, а табе ўсё не нравіцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

МО́КРАЦЬ гл. МАКРА́ЯЦЬ

МО́ЛАДДЗЮ *прысл.* У маладыя гады. *Я мо́ладдзю была прыгожай дзеўкай, не тое, што зараз.* Жаўры Беш.

МО́МНІЦЬ *незак., экспр.* 1. Прагна есці; жаваць. *А яна так мо́мніць, што сябе ні помніць.* Жары Рас. 2. Мармытаць, невыразна і ціха гаварыць. *Цэлы дзень мо́мніць нешта, можа, захварэў?* Старое Сяло Уш.

МО́РГАВА, МО́РГВА, МО́РКАЎКА, МО́РХАЎКА *ж.* Морква. *Мо́ргава ўся пагніла за зіму.* Палессе Паст. *У гэтым годзе мо́ргвы мала пасадзіла.* Празарокі Глыб. *А мо́ргва ў гэтым годзе вялікая вырасла.* Прыпернае Глыб. *Сначала нада мо́ргву прапалоць, а потым цыбулю.* Мельніца Шарк. *Мо́ркаўка сёлета дужа ўдалася.* Ваўкалата, Вітунічы Докш. *Мо́рхаўка ў гэтым годзе добра ўрадзіла.* Дрысвяты, Укля Брасл.

МО́РЖАНЫ *прым.* Марозны. *Вецер сёння нейкі мо́ржаны – відаць, ноччу будзіць мароз.* Дзегцяры Брасл.

МО́РКАЎКА, МО́РХАЎКА гл. МО́РГАВА

МО́РШЧКІ *мн.* Маршчыны. *У старых дык і ліцо, і ўсе рукі ў мо́ршчках.* Жаўры Беш., Баравуха Пол., Угрынкі Уш.

МОСТ *м.* Падлога. *Хаця б мост памыла: ад людзей ужэ стыдна.* Княжыцы Віц., Канашы, Пальмінка Гар. *Трэба мост мыць кожную сераду і суботу.* Зябкі Глыб. *Памыла мост ды й палавікі заслала.* Якубаўшчына Лёзн. *У цёткі ў новай хаці засталося толькі мост пакласці.* Краснаполле Рас. *Ні хадзі босы па масту – надзявай тапкі!* Мяшкова Тал., Замошша Уш.

◊ МО́СТ МО́СТАМ Вельмі многа. *Вішань у гэтым годзе – мо́ст мо́стам!* Ахрэмаўцы Брасл.

МО́ЎЧАНЬКА *прысл.* Моўчкі. *Сядзім мо́ўчанька, як чужыя.* Селішча Уш.

МРЭ́ЦЬ *незак.* Знемагаць ад гарачыні. *Ай жа пякота, ажно сабакі мрэ́юць.* Стары Лепель Леп.

МУ́ДРЫКІ *толькі мн.* Хітрыкі. *Ты не можаш без му́дрыкаў абысціся!* Селішча Уш.

МУ́ЛІЦЬ *незак.* Націраць, прычыняць боль трэннем. *Бацінак новый нешта нагу му́ліць.* Канашы Гар. *Левы бот му́ліць нагу.* Ваўкалата Докш.

МУЛКІ́ *мн.* Мазалі. *Так працавала, што аж мулкі́ на руках зарабіла.* Андронавічы Віц.

МУ́МКА[1] *ж.* Блыха, вош. *Не можа на месцы сядзець наш мурлыка: зусім яго му́мкі закусалі.* Бачэйкава Беш. *Падчапіла недзе му́мак, не ведаю нават дзе.* Выдрэя Лёзн. *Учора сабаку памылі, а зноў нейкія му́мкі поўзаюць.* Прамышляды Паст.

МУ́МКА[2] *ж., груб.* Маўклівая, незадаволеная нечым дзяўчына ці жанчына. *Му́мку нейкую сабе ў жонкі ўзяў, слова не выцігніш.* Лужасна Віц. Параўн. *майду́к, марму́ль, мармы́ль, мэ́ма* ў 1 знач.

МУНДЗЕ́РКА, МУНДЗІРО́ЎКА, МУНДЗЯРЫ́ гл. МАНДЗЯРУ́ШКІ

МУРЗЕ́ЛЯ *аг., неадабр.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Паскідываіць і чыстае, і мара́нае ў адну кучу, мурзе́ля гэтая.* Замачак Чаш.

МУРЗА́ТЫ *прым.* Брудны (пра чалавека). *Што ты ходзіш цэлы дзень мурза́ты? Ідзі памыйся.* Кузняцова Віц., Звязда Леп.

МУРЛА́ТЫ *прым., груб.* З тоўстым, шырокім тварам, мардаты. *Мужыка сабе нейкага мурла́тага ўзіла́.* Канашы Гар. *Ванька з арміі мурла́ты прыйшоў – відаць, добра яму там служылася.* Звязда Леп.

МУРО́ЎКА *ж.* Божая кароўка. *Глянь, колькі на зямлі муро́вак.* Моханава В.-Дзв. *Муро́ўка, ляці на неба!* Манякова Міёр.

МУРЫНЦО́ЎКА *ж.* Квяцістая хустка. *Учора дачка з гораду прыехала, мне прывезла мурынцо́ўку, а бацьку рубаху цёплую.* Сасновая Докш.

МУ́СІ, МУ́СЯ *мад. сл.* Мабыць, напэўна, відаць, магчыма. *Му́сі, у гародзе яны.* Друя Брасл., Целякі Паст. *Вунь як дзерава ў Стасі засохла. Му́ся, вадой гарачай паліваіць.* Дэмскія Міёр. *Я, му́ся, прыеду праз нядзелю.* Новая Зара Чаш.

МУСО́ЛІЦЦА *незак.* Забруджвацца ад неахайнага карыстання, зашмальцоўвацца. *На агародзе адзенне быстра мусо́ліцца, таму адзявай што горшае.* Кузняцова Віц.

МУСО́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Рабіць справу марудна, адцягваць яе завяршэнне. *Трэба не мусо́ліць, а сесці і зрабіць.* Кушняроўка Чаш.

МУ́СЯ гл. МУ́СІ

МУТ *м.* Памутненне ў вачах. *Нейкі ў мяне мут у вачах увесь дзень – можа, на змену надвор'я.* Вярцінскія Паст.

МУХАБО́ЙКА *ж.* Самаробная прылада для знішчэння мух. *Дзе ж наша мухабо́йка?* Абухава Беш.

МУХЛЯВА́ЦЬ гл. МАХЛЮВА́ЦЬ

МУЧАНЫ́ *прым.* Мучны, з мукі. *Спяку сёння мучаны́ пірог.* Абухава Беш. *З жытняй мукі вараць кашу мучану́ю.* Ляхаўшчына Паст.

МУЧНІ́К *м.* Вялікі круглы пірог. *Трэба мучні́к у нядзелю спячы: дзеці з горада прыедуць.* Шыці Шарк.

МУ́ША *ж.* Карова. *У гаспадарцы муш дзве-тры штукі трымалі.* Ступакі Дубр.

МУШКА́Т *м., бат.* Герань. *Дужа люблю мушка́т, на вокнах у мяне яго многа.* Угрынкі Уш., Пашкі Шарк.

МУШ'Я́К *м.* Неядомы грыб. *Муш'які́ – ета ўсе неядомыя грыбы.* Гарэлькі Дубр.

МЫГЛА́ гл. МАРАЗГУ́ША

МЫ́КАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы. *Мы́каешся па чужых дварах. Дома рабіць няма чаго?* Слабодка Леп.

МЫРЧЭ́ННЕ *н.* Мурлыканне. *Мырчэ́нне нашага ката чуваць на ўсю хату.* Ваўкалата Докш.

МЫРЧЭ́ЦЬ *незак.* Мурлыкаць. *Наш кот пачынае громка мырчэ́ць, калі яго гладзяць.* Ваўкалата Докш.

МЫСТА́ЧАННЕ гл. МАСТА́ЧАННЕ

МЫ́ША, МЫША́, МЫ́ШЫНА *ж.* Мыш. *Сёння мы́ша скраблася ўсю ноч.* Мыкава В.-Дзв. *Мышу́ кот злавіў сёння.* Навасёлкі Паст. *Учора наш каток злавіў мы́шыну.* Лужасна Віц., Канашы Гар., Высачаны Лёзн. *Недзе мы́шына за шпалерамі шкрабецца.* Угрынкі Уш.

МЫША́РНІК гл. МАША́РНІК

МЫШ'Я́К *м., бат.* Мышыны гарошак (расліна). *Мыш'я́к – гэта гарошак, што расце ў жыце.* Камоскі Беш.

МЭ́МА *аг., груб.* 1. Негаваркі, незадаволены нечым чалавек. *Настаўніца Антона называе мэ́май: слова з яго не выцягнуць.* Каралёва Шарк. Параўн. *майду́к, мумка*[2], *марму́ль, мармы́ль.* 2. Гультай. *Ідзі папрацуй, нельга быць такой мэ́май.* Баравуха Пол. Параўн. *мя́мля* ў 2 знач.

МЭ́НТАМ *прысл.* Хутка. *Як пачуў, што бацька ідзе – мэ́нтам выскачыў у вакно.* Угрынкі Уш.

МЭ́РЛЯ *ж.* Марля. *Тварог з сырнікаў у мэ́рлю пераліваю, тады ён вісіць над печчу.* Вялічкі, Лынтупы Паст.

МЮ́ЛТА *ж.* Жур, страва з аўсянай мукі. *У маёй жонкі такая мю́лта атрымліваецца!* Ступакі Дубр.

МЯДВІ́ЛЬ *м.* Мядзведзь. *Помню, пашлі мы раз з мужыкамі мядві́ля валіць.* Язна Міёр.

МЯДНІ́ЦА *ж.* Таз. *Я ў баню хажу са сваёй мядні́цай.* Гута Паст. *На вуліцы стаяла поўная мядні́ца грыбоў.* Казлоўшчына Паст.

МЯДО́ЎКА *ж., бат.* Мар'яннік. *Мядо́ўка расце каля хаты.* Латыгаль Сен.

МЯЖО́ЎКА *ж., бат.* Цімафееўка, кармавая расліна сямейства злакавых. *Учора траву на сена касілі, дык там адна мяжо́ўка.* Мурагі Рас., Дуброва Шум.

МЯЗГА́ *ж.* Мякаць, мяккая частка гарбуза. *Вылушчы семечкі з мязгі́.* Ветахмо Докш., Стары Лепель Леп. Параўн. *мяздра́* ў 1 знач.

МЯЗДРА́ *ж.* 1. Мякаць, мяккая частка гарбуза. *У гарбуза мяздры́ многа, але яе не ядуць.* Моханава В.-Дзв., Скражына Глыб., Сарочына Уш. *Семечкі з гарбуза выберы, а мяздру́ свінні з'ядуць.* Пралетарыя Уш. *Мяздры́ было мала, а семя было крупнае.* Гілі Чаш. Параўн. *мязга́.* 2. Мязга, бульбяная маса – бульба, нацёртая на дробную тарку. *Мяздра́ як пастаіць доўга, дык чарнее.* Новы Пагост Міёр., Угрынкі Уш. 3. Мязга, мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай. *Мяздра́ ідзець за карой.* Пралетарыя Уш.

МЯ́ЗІНЫ *прым.* Мезены. *Адзела кальцо на мя́зіны палец.* Ноўка Віц.

МЯ́КЛЯ *ж.* Мякіш, мяккая частка печанага хлеба. *Паеш мя́клі з малаком.* Стары Лепель Леп.

МЯ́КНУЦЦА *зак.* Зваліцца. *Кацяня маленькае было, ды мя́кнулася з печы.* Звязда Леп.

МЯ́ЛІЦА[1], МЯ́ЛЬНІЦА *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе драўлянай скрыні, у якой мялі лён. *Даўней дзеўкі ў мя́ліцах лён мялі – толькі тэтар ідзець.* Надазер'е Глыб. *Мы збіраліся мяць лён, і мя́льніца была ўжо падрыхтавана.* Валкалата Докш.

МЯ́ЛІЦА[2] *ж., груб.* 1. Рот. *Усё ў сваю мя́ліцу прэць.* Канашы Гар. 2. Твар з шырокім ротам. *Што глядзіш, выставіўшы сваю мя́ліцу? Нічога я табе не дам!* Зялёнка Пол.

МЯ́ЛІЦА[3] *аг., асудж.* Няздатны да працы, безгаспадарлівы чалавек. *Гэтая ж мя́ліца не ўгледзіць хазяйства – пабягу дамоў.* Сабалі Чаш.

МЯЛЁН гл. МЕ́ЛІН

МЯ́ЛЬНІЦА гл. МЯ́ЛІЦА[1]

МЯ́МЛЯ *аг., неадабр.* 1. Той, хто мямліць; вялы, нерашучы чалавек. *Што ты стаіш і маўчыш, як мя́мля? Гавары, дзе была ўвесь дзянёк!* Угрынкі Уш. 2. Гультаяваты, непаваротлівы чалавек. *Мя́мля*

*гэтая пахадзіла туды-сюды па гародзе – і ўсё. Хоць бы цыбулю прапалола!* Макаравічы Беш., Сабалі Чаш. Параўн. *мэ́ма* ў 2 знач.

МЯНТУ́ШКА *ж.* Невялікая рыдлёўка (драўляная або металічная) для капання бульбы. *Мама заўсёды мянту́шкай капае бульбу.* Каралёва Шарк.

МЯРЛІ́Н *м.* Марудлівы чалавек. *Які ж ты мярлі́н! Нічога з табой не паспееш!* Ноўка Віц.

МЯРЛО́Г *м.*, МЯРЛО́ГА *ж.* 1. Бярлог. *Як зіма прыходзіць, мядзведзь у сваім мярло́гу спіць.* Кубелеўшчына Шарк. 2. *неадабр.* Беспарадак у хаце ці ў гаспадарцы. *Такей мярло́г развіла во і не прібіраіць у хаці.* Мазалава Віц. *У яго на дваре мярло́г цэлый.* Ноўка Гар. 3. *неадабр.* Непрыбраная пасцель. *Хаця б свой мярло́г заправіла.* Канашы Гар. *Як усталі, так мярло́гу і аставілі да вечара.* Гваздова Глыб., Слабада Дубр.

МЯРЛО́ЖНІК *м., неадабр.* Чалавек, які не падтрымлівае парадак у хаце ці ў гаспадарцы. *Спіць мой мярло́жнік да абеда, а ў хаці і на дваре бардак кругом.* Канашы Гар.

МЯРЦІ́ *незак.* Мерці, паміраць. *Не хочацца яшчэ мярці́ – хочацца троху пажыць на свеце.* Абруб Глыб.

МЯ́САВІЦ *м., абрад.* Час пасля посту, калі, згодна з царкоўнымі патрабаваннямі, пасля ўстрымання ад скаромнай ежы дазваляецца есці мяса. *Па́ра павінчаецца зімой, у мя́савіц.* Узмёны Міёр.

МЯ́ТЛІК *м.*, МЯ́ТЛУШКА, МЯ́ТЛЮШКА *ж.* Матылёк. *Калі малая была, дык любіла за мя́тлушкамі ганяць, а потым разглядаць іх.* Багушэўск, Пастушкі Сен. *Мя́тлік у хату заліцеў.* Канашы Гар., Мілашова Міёр. *Паглядзі, які красівы мя́тлік!* Пугачова Докш., Угрынкі Уш. *Вакол кветак кружаць мя́тлюшкі.* Тумінічы Арш., Падрукша Брасл., Мяшкова Тал.

◊ МЯТЛО́Й ПАДПЁРТЫ Пра чалавека, паводзіны якога не адпавядаюць агульнапрынятым маральным нормам. *Нейкі ў яе ўнук мятло́й падпёрты: з дарослымі не вітаецца, ходзіць па вуліцы адзін, як ненармальны.* Кушлікі Пол.

МЯТНУ́ЦЦА *зак.* Кінуцца куды-н., у нейкім напрамку. *После таго, як увідзіў цябе, сразу некуды мятну́ўся.* Воўкаўшчына Міёр.

МЯ́ЦЬВА *ж.* Пасечаная трава, якая выкарыстоўваецца на корм свойскай жывёле. *Вазьмі сякач і зрабі мя́цьву.* Горы Чаш.

МЯША́НКА, МЯШО́НКА гл. МЕ́ШАНКА

МЯШУ́ЛКА гл. МЁНТКА

# Н

НА *прыназ.* 1. У (пры абазначэнні мэты дзеяння). *Нада да цябе на госці прыйсці, а то сядзіш адна, ваўком выеш.* Папшычы Глыб. *Дзеці прыехалі на госці.* Муляры Паст. 2. За (пры абазначэнні накіраванасці дзеяння на аб'ект). *На свіней я не ўглядзела.* Грынеўшчына Докш.

◊ НА СЯЛО́ ПАЙСЦІ́ Пайсці ў госці да аднавяскоўцаў. *На сяло́ пайду́ вечарам.* Ахрэмаўцы, Опса Брасл., Вярэчча Гар., Лазічы, Надазер'е Глыб., Прамышляды Паст., Ветрына Пол., Красніца Чаш., Валожанкі Шарк.

◊ НА ПА́СТУ ХАДЗІ́ЦЬ Пасвіць кароў. *Нашы дзеці любілі хадзі́ць з бацькай на па́сту.* Ула Беш.

◊ НА ХВАСТА́ Бясплатна. *Я ў рэстаран хадзіла на хваста́.* Суша Леп.

НААБГО́М, НАБГО́М *прысл.* Нагбом. *Ні пей наабго́м, кружка ж ёсць.* Палова Гар. *Сядзі і пі набго́м.* Арэхаўск Арш. *Дзеці набго́м любяць піць.* Булахі Глыб. *Піць набго́м смачней.* Пірагі Дубр.

НААБГО́Н, НААБГО́НКІ *прысл.* Навыперадкі, наперагонкі. *Дзеці за каровамі наабго́н беглі.* Цімошкава Міёр. *Як пацяплее, пабягуць ручайкі наабго́н.* Падсвілле Глыб. *Да лесу дзеці беглі наабго́нкі.* Стрыгі Сен. Параўн. *наўско́чкі.*

НАБАБА́ХАЦЬ, НАБА́ХАЦЬ *зак., экспр.* Наліць звыш меры. *Цэлую міску крупені набаба́хала!* Новыя Валосавічы Леп. *Нашто ты мне цэлую міску супу наба́хала?* Іказнь Брасл. Параўн. *набухто́рыць, нацурбэ́ніць, нацубэ́сіць, нашабулдэ́хыць.*

НАБА́ВІЦЬ, НАБА́ІЦЬ *зак.* Набаяць; нагаварыць шмат чаго-н. *Тая баба наба́віць вам казак поўны мех.* Замачак Чаш. *Гэта ж трэба такога наба́іць!* Каўровая Дубр. Параўн. *набалмата́ць, набала́каць, набялё́ндзіць, нагалдзі́ць, накрíндзядзю́ліць, накулдуя́чыць, накулды́чыць, наталдо́ніць.*

НАБАЛА́КАЦЬ *зак.* Нагаварыць шмат чаго-н. *Старыя людзі мо болей чаго набала́каюць вам.* Мікіціха Шум. Параўн. *наба́віць, наба́іць, набалмата́ць, набялё́ндзіць, нагалдзі́ць, накрíндзядзю́ліць, накулдуя́чыць, накулды́чыць, наталдо́ніць.*

НАБАЛМАТА́ЦЬ *зак., экспр.* Нагаварыць шмат лішняга, непатрэбнага; набалбатаць. *Ты дужа многа набалмата́ла – слухаць нечыва.* Бігосава В.-Дзв. Параўн. *наба́віць, наба́іць, набала́каць, набялё́ндзіць, нагалдзі́ць, накрíндзядзю́ліць, накулдуя́чыць, накулды́чыць, наталдо́ніць.*

НАБАЛЯ́ *прысл., найвыш.* Найбольш. *Набаля́ мне спыдыбаўся той маліц, вышэйшы.* Мішкавічы Шум.

НАБАСЫ́НАЧ *прысл.* Набасанож. *Каб мадней было, так мы тухлі адзівалі не набасы́нач, а з насочкамі.* Слабада Дубр.

НАБАТУ́РЫЦЦА *зак., экспр.* Пакрыўдзіцца, нахмурыцца, надзьмуцца. *Чаго ўжо набату́рыўся, што не так?* Круткі Паст. Параўн. *набу́чыцца, нахмы́ліцца, накандубáсіцца.*

НАБА́ХАЦЬ гл. НАБАБА́ХАЦЬ

НАБГО́М гл. НААБГО́М

НАБГО́МКА *ж.* Невялікая пасудзіна для піцця; конаўка. *У набго́мцы прынясу папіць вады.* Белабокі Брасл.

НА́БЕЛЬНІЦА, НАБЕ́ЛЬНІЦА ж., НА́БІЛЬНІЦЫ, НАБІ́ЛЬНІЦЫ *мн., ткац.* Набіліцы. *У на́бельніцу ўстаўлялі бёрды.* Пятровічы Шарк. *У кроснах зламалася набе́льніца, трэба было б наладзіць.* Галбея Паст. *Мой дзед зрабіў мне на́більніцы.* Луначарскае В.-Дзв. *Трэба мяняць набі́льніцы ў нашых кроснах.* Дразды Беш., Гаравыя Пол.

НАБІВА́НКА *ж.* Падушка, набітая сенам. *Лепей спаць на набіва́нцы, сон тады добры, здаровы.* Пушкі Лёзн.

НАБІВА́ННЕ *н.* Прапанова. *У мяне ёсць к табе набіва́нне.* Селішча Уш.

НА́БІЛЬНІЦЫ, НАБІ́ЛЬНІЦЫ гл. НА́БЕЛЬНІЦА

НАБІ́РАК *м.*, НА́БІРКА, НАБІ́РКА, НАБІРА́ШКА, *памянш.* НАБІРУ́ЛЬКА *ж.* Невялікая кашолка, пасудзіна для збору ягад. *Набі́рак малін назбіраў у гэтым лесе.* Камень Леп. *Не адзін на́бірак малін сама набіраю.* Баброва Леп. *На́бірку рабілі з ліпавай кары.* Пугачова Докш. *А набі́рку ў лес браць?* Грышына Рас. *Вось палядзі, малінькая набіра́шка ў ягады хадзіць табе.* Горкі Леп. *Унучка мая з рання набіра́шку ў руку і бяжыць у лес.* Дворышча Леп., Сураж Віц. *На дварэ шмат набіру́лек ёсь.* Ступакі Дубр.

НАБІРА́ШКА гл. НАБІ́РАК

НА́БІРКА, НАБІ́РКА, НАБІРУ́ЛЬКА гл. НАБІ́РАК

НА́БІС *м., с.-г.* Вітамінная падкормка для коней. *Пасып отрубі, а зверху на́бісу і сена каню пакладзі.* Пушкі Лёзн.

НАБІ́ЦЬ *зак.* Навастрыць. *Раней усё жалі рукамі, таму нада было шмат сярпоў набі́ць.* Тумінічы Арш. Параўн. *наве́сці*[3].

◊ НАБІ́ЦЬ ЛАНЦУ́Г, НАБІ́ЦЬ ТРЫБУ́Х Добра, моцна пад'есці; з'есці шмат чаго-н. *Няхай хоць камні з неба сыпяцца, ён свой ланцу́г заўсёды наб'е́ць.* Замасточча Віц. *Бацька ўсегда наб'е́ць трыбу́х, патом гаворыць: "Хай жырок завяжыцца".* Сарочына Уш.

НАБО́ГА *прысл.* Нашто, навошта. *Можа, яны і харошые, набо́га яны нам?* Мікіціха Шум.

НАБО́ЖНІК, *памянш.* НАБО́ЖНІЧАК *м.* Ручнік, які вешаюць на абразы. *Новы набо́жнік павесюць, а старый да долу палоэкуць, а не выкідываюць.* Слабада, Сваташыцы Дубр. *На іконы ўсягды, бывала, набо́жнік чаплялі.* Белая Ліпа Сен. *Рушнікі-набо́жнікі прыгожа ткалі.* Слабада, Сслішча Уш., Асташэва Лёзн., Карабанавічы Дубр. *А ў мене многа красівых набо́жнічкаў.* Езярышча Гар. Параўн. *набра́знік, набра́жнік, наку́тнік, намётка* ў 3 знач.

НАБО́Й[1] *м.* Наезджаная зімовая дарога. *Па дароге нeяк ехаць, бо німа набо́ю.* Баршчоўка Віц.

НАБО́Й[2] *м., ткац.* Прасніца; прыстасаванне для прадзення. *А набо́й стаіць мой у гумне.* Галбея Паст.

НАБО́РКА *ж., часцей* НАБО́РКІ *мн.* Посцілка з узорамі, пакрывала. *Мая бабуля – масцярыца па набо́рках.* Рудабісць Брасл. *Раней набо́ркі ў прыданае робілі.* Папкі Міёр. Параўн. *накідзе́нь.*

НА́БРАДЗЬ, НА́БРЫДЗЬ *ж., зб., абразл.* 1. Зброд, дрэнныя людзі. *Ходзіць па вуліцах нейкая на́брадзь.* Езярышча Гар. *У нас на́брадзі многа.* Бычыха Гар. *Была мая суседка такая на́брадзь, якую свет не бачыў.* Сокарава Беш. *На свята ўся на́брыдзь пасабіралася.* Савенічы Сен. *Пасля палучкі ўсякая на́брыдзь тады паўзець да магазіна.* Туркова, Воўкаўшчына Міёр. *На́брыдзі наехала ў дзярэўню, кроме п'янкі нічога не знаюць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Панайшло ў клуб на́брыдзі ўсялякай, яшчэ нашых б'юць.* Пусташы Пол., Празарокі Глыб. Параўн. *нелюбя́ціна, несувіру́тнік, нагля́нец, няго́ддзе.* 2. Чужыя людзі, якія прыйшлі без запрашэння. *Помню, як вяселле маё гулялі, столька на́брыдзі найшло, болі як гасцей.* Сахнавічы Глыб. *На двары на́брадзь сабралася.* Чарневічы Глыб.

НАБРА́ЖНІК, НАБРА́ЗНІК *м., абрад.* Ручнік, які вешаюць на абразы. *Набра́жнік гэты сістра мая вышывала.* Бокішава Шум. *Мая мама сама вышывала набра́знікі.* Сініцы Беш. *У нас набра́знік у куце вісёў.* Алексінічы Сен. Параўн. *набо́жнік, набо́жнічак, наку́тнік, намётка* ў 3 знач.

◊ НАБРА́ЦЬ З КО́ПТУРАМ Набраць з верхам. *Набярыце кошык яблык з ко́птурам.* Альхоўцы Шарк.

НАБУБНІ́ЦЬ *зак.* Набухнуць, набракнуць. *Скарынка хлеба ад вады набубні́ла.* Барздоўка Арш.

НАБУДУВА́ЦЬ *зак.* 1. Нарыхтаваць, сабраць што-н. з пэўнай мэтай. *Во я набудува́ла сабе гуркоў на закаткі.* Ноўка Гар. 2. Накласці, запоўніць ёмістасць да самага верху. *Ізноў мне мама поўную сумку набудува́ла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Два вядры бульбы набудува́лі сабе – у горад павязуць.* Лужасна Віц. *Партызаны набудува́лі сумку і паехалі.* Арэхаўна Уш.

НАБУДЗІ́ЦЬ *зак.* Разбудзіць. *Маці рана набудзі́ла, што ледзь устала.* Ахрэмаўцы Брасл.

НÁБУДЗЬ *мад. сл.* Мабыць, відаць. *У адным хляве конь, у другім карова, у трэцім, нáбудзь, свінчо будзець, як купім.* Янава Тал. Параўн. *наўрóдзі* ў 1 знач.

НАБУЗАЦЁРЫЦЬ *зак., экспр.* Натварыць, учыніць што-н. *Нашы хлопцы пашлі ў клуб і нешта набузацёрылі там.* Баева Дубр.

НАБУ́ХАЦЦА, НАВУ́ХАЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Набýхаўся ўсяго, што жывот забалеў.* Мядзведзева В.-Дзв. *Я так навýхалася ўтрам, што на цэлы дзень хваціць.* Туркова Міёр. *Цяжка хадзіць – навýхаліся бліноў са шкваркамі.* Воўкаўшчына Міёр. Параўн. *набэ́мбніцца, навýрзацца, навýрзгацца, навýрыцца, навярнýць, наёдываць, накріпáцца, напарóцца, напіцавáцца, напрáтацца*[1], *напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубíцца.*

НАБУХТÓРЫЦЬ *зак., экспр.* Наліць звыш меры. *Зноў ты набухтóрыла мне супу.* Смаляны Арш. Параўн. *набабáхаць, набáхаць, нацурбэ́ніць, нацубэ́сіць, нашабулдэ́хыць.*

НАБУ́ЧЫЦЦА *зак., экспр.* Нахмурыцца, надзьмуцца. *Чаму ты так набýчыўся?* Селішча Уш. Параўн. *набатýрыцца, нахмы́ліцца, накандубáсіцца.*

НАБЭ́МБНІЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Я сёння набэ́мбніўся, аж дыхаць цяжка.* Папшычы Глыб. Параўн. *набýхацца, навýхацца, навýрзацца, навýрзгацца, навýрыцца, навярнýць, наёдываць, накрiпáцца, напарóцца, напіцавáцца, напрáтацца*[1], *напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубíцца.*

НАБЯЛЕ́НДЗІЦЬ *зак., экспр.* Нагаварыць многа лішняга, набалбатаць. *Ён чаго хочаш набялéндзіць, ты больш слухай рот разінуўшы.* Латышы Глыб. Параўн. *набáвіць, набáіць, набалáкаць, набалматáць, накріндзядзю́ліць, наталдóніць, нагалдзíць, накулдуя́чыць, накулды́чыць.*

НАБЯРЭ́ДЗІЦЬ *зак.* Надакучыць. *Бываець, так набярэ́дзіць усё, што толькі і думаеш, каб ужо на той свет.* Гацькаўшчына Арш. Параўн. *налязáць, насты́беніць.*

НАВАДЗІ́ЦЦА *зак.* Напрацавацца, стаміцца. *Навадзíлася за дзень – рукі і ногі баляць.* Забелле Беш. Параўн. *намóгціся, надушы́цца.*

НАВАДЗІ́ЦЬ *незак.* Рамантаваць. *Сусед учора навадзíў лісапету, дык сёння ўжо паехаў на базар у горад.* Сваташыцы Дубр.

НÁВАДЗЬ *ж.* Паводка. *Сёліта была вялікая нáвадзь.* Заронава Віц.

НАВАДÓЙКА *ж.* Маладая карова пасля першага ацёлу. *Купіла навадóйку, дык у яе столька многа малака.* Замошша Брасл.

НАВАЖÁЦЬ *зак.* Прывязаць, узяць на прывязь. *Наважáў авечак – і кладзіся спаць.* Кавалі, Ласкаўшчына, Філіпава Глыб. *Навáжуць*

*бабы нашы коней, а потым кароў даіць ідуць.* Савуткі Шарк. *Я коз наважáла.* Зарачыцак Докш. Параўн. *навáжваць, навáжываць.*

НАВÁЖВАЦЬ, НАВÁЖЫВАЦЬ *незак.* Прывязваць. *Я навáжвала карову каля дома заўсёды ў раніцы.* Замхава, Чарневічы Глыб. *Пайду кароўку навáжываць.* Ясевічы Глыб. Параўн. *наважáць.*

НÁВАЛКА, НÁВАЛУШКА, НАВЭ́ЛКА *ж.* Навалачка. *Трэба пасля бані пададзіяльнік і нáвалку чыстыя надзець, каб у гразным ні спаць.* Іванск Чаш. *Чыстыя нáвалкі адзіваюць пасля бані.* Ветрына Пол. *Замяні нáвалушку.* Звязда Леп. *Зараз навэ́лкі ўбяру, чыстыя дам.* Чарневічы Глыб. Параўн. *нападýшнік, нáўлечка, наўлéчка, нáўлічка.*

НАВАЛÓМ *прысл.* Многа, навалам. *У прошлым годзе груш у нашым садзе было навалóм.* Дрыгучы Міёр. Параўн. *настаяшча, непаказáна.*

НАВАЛÓХАЦЬ *зак., экспр.* Набраць, сабраць шмат чаго-н. *І старых, і чарвівых, і добрых грыбоў навалóхаў кош.* Пліса Глыб. *Навалóхаў цэлае вядро яблыкаў.* Празарокі, Лужкі, Латышы Глыб. Параўн. *нацýдзіць.*

НÁВАЛУШКА гл. НÁВАЛКА

НАВÁЛЬНЫ *прым.* Праліўны (пра дождж). *Аднаго дня ішоў навáльны дождж.* Мілашы Брасл.

НАВÁРНІЦА *ж.* Кубел для захоўвання сала. *З голаду не памром: у мяне яшчэ цэлая навáрніца сала.* Казловічы Арш. *Навáрніцу бацька рабіў з дубу, каб больш праслужыла.* Дуброўна.

НАВÉДНІК *м.* Наведвальнік. *Да бабулі прыехаў навéднік – хлопец такі прыгожы.* Бельнякі Чаш.

НАВÉДНІЦА *ж.* Наведвальніца. *Будзеце, даражэнькая, нашай навéдніцай.* Бельнякі Чаш.

НАВÉДЫ *толькі мн.* Адведкі. *Пойдзем заўтра ў навéды, пагуляем разам.* Радчонкі Гар.

НАВÉСНУ *прысл.* Вясною будучага года. *Навéсну мы больш пасеем бульбы.* Антаполле Чаш.

НАВÉСЦІ[1] *зак.* Прасачыць. *Трэба навéсці, дзе курыца нясецца.* Баруны Брасл.

НАВÉСЦІ[2] *зак.* Прычасаць валасы. *Бывала, волосы навядý, а яны ў мяне доўгія былі, па пояс.* Машканы Сен.

НАВÉСЦІ[3] *зак.* Навастрыць. *Давай навядý вам нажы.* Каты Шарк. Параўн. *набíць.*

НАВÉСЦІ[4] *зак.* Прыгатаваць ежу. *Трэба навéсці чаго-небудзь – госці прыйшлі.* Арэхаўна Уш. Параўн. *накрапáць*[2] у 1 знач., *настрóіць.*

НАВÉТ *м.* Павець, навес. *Пад навéтам ураджай сохнець.* Промыслы Беш.

НАВÉШКІ *толькі мн.* Веснічкі, варотцы. *Адламаліся навéшкі, так і будуць ляжаць.* Мілейкі Міёр.

НАВЁРСТКА *ж.* Вярста. *Да суседняй вёскі навёрсткі дзве будзе.* Чарневічы Глыб.

НАВІДАКУ́, НАВІДО́КУ, НАНО́ВІДКУ *прысл.* Навідавоку. *Яны жывуць навідаку́.* Ласкаўшчына Глыб. *Я бачыла мех раней, ён ляжаў навідо́ку.* Косарава Глыб. *Увесь панадворак быў нано́відку.* Грыцы Глыб.

НАВІ́ЛЬНІК *м.* Пук сена (саломы, травы), падчэплены віламі. *А вечарам кінеш пару наві́льнікаў сена кароўке і ўсё, хваціць.* Стасева Лёзн.

НАВІНА́[1] *ж.* Новы ўраджай (пра бульбу, збожжа). *Старую бульбу нада ўжэ даідаць: навіна́ скора.* Лужасна Віц. *Добрая навіна́ бульбы ў нас.* Марачкова Рас.

НАВІНА́[2] *ж.* Папар. *Налета бульбу па навіне́ пасадзім.* Лужасна Віц. *На навіне́ бульба добрая сёліта.* Канашы Гар.

НА́ВІСЬ *ж.* Туман. *Раніцай была такая на́вісь, што нічога не відна.* Юрава Шум. *Заўчора на́вісь страшэнная была.* Дыбалі Беш.

НАВО́ДЗІЦЦА *незак.* Прыбірацца, убірацца. *Ты ўжо навяла́ся як я віжу.* Дворышча Рас.

НА́ВУЗА *ж.* Вашчына, неачышчаны воск. *На́вузу ператаплялі і рабілі свечкі.* Кушняроўка Чаш. *З на́вузы свечкі рабілі.* Ласіца Паст.

НАВУ́РЗАЦЦА, НАВУ́РЗГАЦЦА, НАВУ́РЫЦЦА *зак., экспр.* Наесціся, нахлябтацца. *Абедам быстранька наву́рзаўся супу і пашоў гуляць.* Пліса, Лужкі Глыб. *Крупніку наву́рзаўся і бягом на працу.* Астроўшчына Пол. *Дзеці наву́рзгаліся і пабеглі на вуліцу.* Гаршчэўшчына Тал. *Дужа я сёння наву́рылася.* Ланенка Дубр. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, навярну́ць, наёдываць, накріпа́цца, напаро́цца, напіцава́цца, напра́тацца[1], напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубі́цца.*

НАВУ́ХАЦЦА гл. НАБУ́ХАЦЦА

НАВУХРІ́ЦЬ *зак., экспр.* Навучыць; падгаварыць зрабіць што-н.; настроіць супраць каго-н. *Іна навухрі́ла сваю дачку, каб тая са мной ні здаровалася.* Зубава Арш. Параўн. *нагаржамы́здзіць, настрапалі́ць.*

НАВУЧЫ́ЦЕЛЬ *м.* Настаўнік. *Да нас у школу новы навучы́цель прышоў, мову выкладаць будзіць.* Дрыгучы, Воўкаўшчына Міёр.

НАВУЧЫЦЕ́ЛЬКА, НАЎЧЫЦЕ́ЛЬКА *ж.* Настаўніца. *Навучыце́лька прыехала ў школу, калі ў нас адкрылі калгас.* Савуткі Шарк. *Яна станець навучыце́лькай.* Гіруці Паст. *Да нас у школу прыехала маладая наўчыце́лька.* Мар'янполле Брасл.

◊ НАВЫ́РАСТКІ ЎПАСЦЬ Распластацца пры падзенні. *Так бег, так бег, ажно ўпаў навы́рασткі.* Пушкі Лёзн.

НАВЭ́ДЗГАЦЬ *зак., экспр.* Размазаць; расцерці па паверхні, мажучы, пэцкаючы яе. *Калі дзеці навэ́дзгаюць на стале, хай самі*

*чысцяць. Я ўжо ні магу прыбірацца.* Янкі Докш. Параўн. *накéшкаць* у 2 знач.

НАВЭ́ЛКА гл. НА́ВАЛКА

НАВЭ́СТКА, НЯВЕ́СТУХНА, НЯВЕ́ХНА *ж.* Нявестка. *У мяне вельмі добрая навэ́стка.* Лужкі Шарк. *Нявéстухна ў мяне, што дайжа і гаварыць ні хачу.* Карабанавічы Дубр. *Гэта нявéхна лепшая са ўсіх маіх.* Іванск Чаш. *Мая нявéхна добрая, нічога ні скажу.* Малая Вядрэнь Чаш.

НАВЯРНУ́ЦЬ *зак., перан., экспр.* Наесціся, з'есці што-н. з ахвотай. *Наварыла бульбы цугунок – і ў абед навярнýлі.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *набýхацца, набэ́мбніцца, навýхацца, навýрзацца, навýрзгацца, навýрыцца, наёдываць, накрíпáцца, напарóцца, напіцавáцца, напрáтацца*[1]*, напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубíцца.*

НАВЯСЦЕ́ЦЬ *зак.* Наведаць. *Дзеці ўчора прыехалі навясцéць.* Машчоны Сен.

НАГАДЗІ́ЦЬ *зак.* Наклікаць, напрарочыць. *Каб твой сябра бяды не нагадзíў.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *надавáць.*

НАГАЛДЗІ́ЦЬ *зак., экспр.* Нагаварыць многа чаго-н. і без разбору. *Ну і нагалдзíў жа ён, ажно галава баліць.* Грышаны Віц. Параўн. *набáвіць, набáіць, набалáкаць, набалматáць, набялéндзіць, накрíндзядзю́ліць, накулдуя́чыць, накулды́чыць, наталдóніць.*

НАГА́ЛЬНЫ *прым.* Нахабны. *Во нагáльны, ніяк ні атагнаць.* Сушчова Віц.

НАГАНЯ́ЦЬ *зак.* Разараць. *Мужык столькі наганяў барознаў, што ўсё і не выкапаем.* Пальмінка Гар.

НАГАРАВА́ЦЬ *зак.* Вырасціць у складаных умовах, з вялікай затратай сіл (пра ўраджай). *За лета нагаравáлі хлеба.* Халамер'е Гар.

НАГАРЖАМЫ́ЗДЗІЦЬ *зак., экспр.* Навучыць; падгаварыць зрабіць што-н.; настроіць супраць каго-н. *Етыя бабы ўзяліся, січас нагаржамы́здзюць унука.* Дварэц Чаш. Параўн. *навухрíць, настрапалíць.*

НАГАРЦАВА́ЦЦА *зак., экспр.* Нагуляцца, набегацца. *За дзень дзеці так нагарцýюцца, што к вечару сон зморыць.* Карабанавічы Дубр.

НАГА́ЎКАЦЬ *зак., перан., экспр.* Налгаць, напляткарыць. *Нагáўкала на яе суседка дужа.* Буеўшчына Шарк. Параўн. *налéйбіць.*

НА́ГВАЛТ *прысл., экспр.* Вельмі гучна, моцна, з крыкамі і лямантам (крычаць). *Дзеці нáгвалт крічаць.* Ляды Дубр. Параўн. ◊ *нéмачкі крычáць.*

НА́ГІНКАМ *прысл.* Сагнуўшыся. *Я нáгінкам палю агарод.* Загацце Чаш. *Дзед наш нáгінкам ходзіць.* Фарынава Пол.

НАГЛА́ДКА *прысл.* Зусім. *Рабіць яна наглáдка нічога не хочыць.* Пашкі Шарк.

НАГЛІНЕЦ *м., абразл.* Нахабнік. *Наглінец ён бессаромны, не чакай ад яго спагады.* Чарневічы Глыб. Параўн. *нáбрадзь, нáбрыдзь, нелюбяціна, несувірýтнік, нягóддзе.*

НÁГЛЫ[1] *прым.* Раптоўны. *Не стала яе ад нáглай смерці.* Баравуха Пол.

НÁГЛЫ[2] *прым.* Вельмі высокі. *Мой малец ростам нáглы.* Несцераўшчына Докш.

НАГЛЫ́КАЦЦА *зак.* Наглытацца. *Не наеўся, а наглы́каўся.* Ляхаўшчына Паст.

НАГЛЫТÁЦЦА *зак., перан., экспр.* Напіцца, быць моцна п’яным. *А мой дык ужо наглытáўся, дык дамой ні ідзець.* Гілі Чаш. Параўн. *наглю́кацца, надрáцца, наёкацца, нажлактáцца* ў 2 знач., *назю́зькацца,назюзю́кацца, наклю́кацца, налактáцца, налізáцца, налізгáцца, налупíцца[2], намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАГЛЮ́КАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п’яным. *Мой наглю́каўся ўчора як свіння.* Свіла Глыб., Замачак Чаш. Параўн. *наглытáцца, надрáцца, наёкацца, нажлактáцца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налактáцца, налізáцца, налізгáцца, налупíцца[2], намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

◊ НАГНÁЦЬ ПÉНЫ Пра загнанага, замучанага хуткай яздой каня. *Твой конь ужо нагнáў пéны.* Вялікае Сяло Сен.

НАГÓДКА *ж., бат.* Незабудка. *Прыгожа, як распускаюцца блакітныя нагóдкі. Калышкі* Лёзн.

НАГРÁНАЦЬ *незак., экспр.* Накідвацца на каго-н. з лаянкай, патрабаваннямі; крычаць. *Не люблю, як нявестка на сына нагрáнаець.* Пліса Глыб. Параўн. *назявáць.*

НАГРЭ́МЗАЦЬ *зак., экспр.* Пісаць неахайна, крэсліць. *Нагрэ́мзаў нешта там сабе і сядзіць рады.* Урбаны Брасл.

НАГÝЛА *аг., асудж.* Упарты чалавек. *Нагýла! Яму кажы адно, а ён – другоя!* Шклянцы Докш.

НÁДАБЕ, НÁДАБІ, НÁДЫ *безас.-прэдык.* Трэба. *Нáдабе за сахарам схадзіць у магазін.* Глазамічы Віц. *Нáдабе прынесці зерне.* Мікалаёва Міёр., Германавічы Шарк. *А мне не нáдабі такая работа.* Ноўка Віц. *Нáдабі дроў у печку прынесь.* Бокішава Шум. *Мне нáдабі існі ў хлеў.* Езярышча Гар. *А мне нáдабі схадзіць да цёткі.* Барздоўка Арш., Крывасельцы, Стралкі В.-Дзв., Грынеўшчына Докш., Ляды Дубр., Пераходцы Леп., Вялікае Балота Рас. *Пшаніца ўжо саспела, нáдабі малаціць.* Пашкі Шарк. *Ці нáды табе атава?* Забор’е Рас. Параўн. *наўдá[2], наць.*

НАДАВÁЦЬ *незак.* Прагназаваць, прадказваць. *Надавáлі, што сёння дажджу не будзіць.* Папшычы Глыб. Параўн. *нагадзíць.*

НАДАЕ́ДНІК *м., экспр.* Надакучлівы чалавек, назола. *Ты надаёднік, як маленькае дзіця.* Смаляны Арш., Ноўка Гар. Параўн. *на́йда* ў 2 знач.

НАДАЕ́ДНЫ, НАДАЯ́ДЛІВЫ *прым.* Надакучлівы, назойлівы. *Такі ўжо надаёдны чалавек!* Мікіціха Шум. *Надая́длівая ў вас работа і цяжкая.* Грышаны Віц. Параўн. *назо́лісты.*

НА́ДАЛБЕНЬ *м., абразл.* Дурань. *Вунь гэты на́далбень пайшоў.* Белабокі Брасл. Параўн. *недабі́цька.*

НАДАРА́ЖЫВАЦЦА, НАДРАЖА́ЦЦА *незак.* Здзекавацца, зневажаць, насміхацца з каго-н. *Прасіла мужыка, каб ні надара́жываўся з міне.* Мішуткі Віц. *Ідзі, ні надара́жывайся з міне.* Канашы Гар. *Дык яны нада мной надража́ліся, гэтыя паны.* Слабодка Брасл. Параўн. *наруга́цца.*

НАДАЯ́ДЛА *прысл.* Надакучліва. *Яна мне так надая́дла расказвала пра сватоў.* Звязда Леп.

НАДАЯ́ДЛІВЫ гл. НАДАЕ́ДНЫ

НАДВО́Р'Е *н.* Надворак. *Па надво́р'ю гуляюць мае цыпляняткі.* Лялеўшчына Гар.

НАДЖГА́ЦЦА *зак., экспр.* Напарыцца, уволю папарыцца. *Ну і наджга́ліся ў суботу ў бані!* Крыпулі Докш.

НАДЗЕ́ЖНІК *м.* Апошні вытканы кавалак тканіны. *Раньшэ пасledні кусок тканіны звалі надзе́жнік.* Велеўшчына Леп.

НАДЗЕ́І *мн.* Дажджавыя чэрві. *Ужо надзе́й у банку накапаў, на рыбу пойдзеш?* Папкі Міёр.

НАДЗЕ́ТКА *ж.* Адзенне. *Дай чыстую надзе́тку мальцу.* Маргойцы Сен., Селішча Уш. Параўн. *нажу́тка, нале́пка, насо́ў, напо́ціна, напра́тка, наўе́чка.*

НАДЗЁЎВАЦЬ *незак.* Надзяваць, апранаць. *Надзёўвай куртку – пахаладала!* Слабада Шум. Параўн. *накажу́ріцца, налажы́ць, напрану́ць, напрата́цца*[2]*, напяндэ́ліць.*

НАДЗІВА́НЫ *дзеепрым.* Начынены; нафаршыраваны. *Я вельмі люблю надзіва́ных курэй.* Белаазёрны Леп.

НАДЗЮ́ГАЦЬ *зак., экспр.* Набіць, пабіць каго-н.; нанесці пабоі. *Надзюгаю табе! Нашто мітрэ́нгу чыніш?* Бялькоўшчына В.-Дзв. Параўн. *накла́сці, напухалява́ць.*

НАДЗЯЖНЕ́Й *прысл., выш.* Больш надзейна. *Тут за ўсё надзяжне́й.* Ганкавічы Беш.

НАДО́БІЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Узяла два боханы чэрствага хлеба – надо́бяцца ў гаспадарцы.* Латышы Глыб.

НАДО́ВІЧЫ, НАДО́ЙЧЫ, НАДО́ІЧ, НАДО́ВЕНЬ, НАДО́ІНЬ, НАДО́НЬ *прысл.* Надоечы, напярэдадні. *Надо́вічы мы былі з ім у Глыбокім.* Касцяні Паст. *А я надо́йчы пашла, а ён ужо ўсё сена згроб без мяне.* Зарачыцак Докш. *Надо́іч нічога такога і не робіла.* Папкі

Міёр., Казлоўшчына Паст. *Надо́вень у лес хадзілі, ягад ужо многа-многа.* Каханавічы В.-Дзв. *Надо́вень скончыла бульбу капаць.* Лучайка, Сарокі Глыб. *Надо́інь ліў такі ўжо дождж.* Папшулі Міёр. *Надо́нь хацела зайсціся да вас, ды з буракамі занялася.* Новы Двор В.-Дзв. *Надо́нь учыцельніца прыхадзіла, пыталася, чаму сын не ходзіць у школу.* Пліса, Латышы, Лужкі Глыб.

НАДО́ЗАРКУ, НАДО́ЗІРКАМ *прысл.* Назіркам. *А міне надо́зарку за ім паставіў.* Ноўка Гар. *Ішоў услед за ім надо́зарку і згубіў.* Даўгабор'е Рас. *Ішоў за ім надо́зіркам і папаў у грыбное места.* Пусташы Пол.

НАДО́ІНЬ, НАДО́ІЧ гл. НАДО́ВІЧЫ

НАДО́ЙДЗІЦЬ *незак., безас.* Хапаць; быць дастатковым. *Можа, надо́йдзіць нам сена да вясны.* Старое Сяло Уш.

НАДО́ЙЧЫ гл. НАДО́ВІЧЫ

НАДО́МНІК *м.* Прымак. *І што гэта за мужык? Надо́мнік!* Казловічы Арш.

НАДО́НЕ *прысл.* Учора. *Надо́не ў лесе я грыбоў набрала.* Опліса Брасл. Параўн. *надысь.*

НАДО́НЬ гл. НАДО́ВІЧЫ

НАДРАЖА́ЦЦА гл. НАДАРА́ЖЫВАЦЦА

НАДРА́ЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Дзе ж ты сёння так надра́ўся?* Дольдзева Сен. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налакта́цца, наліза́цца, налізга́цца, налупі́цца*[2], *намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАДТАЧЫ́ЦЬ *зак.* Прыбавіць; павялічыць. *Ганны падскочылі, дня надтачылі.* Гаўрылавічы Паст.

НАДУБЕ́ЦЦА *зак., экспр.* Намерзнуцца. *Так надубе́ліся, едучы на голых санях!* Пугачова Докш. *На вуліцы холадна – паспелі надубе́цца.* Несцераўшчына Докш.

НАДУДО́ЛІЦЦА *зак., экспр.* Насмактацца, нассацца. *А еты дзіцёнак нейкі спакойны – надудо́ліцца і спіць.* Карабанавічы Дубр.

НАДУ́М *м.* Задума, намер. *Нядобрыя ў цябе наду́мы.* Гарадок. *У яго быў свой наду́м.* Цяпіна Чаш.

НАДУ́МАННІК *м.* Падманшчык. *Якей з яго наду́маннік: так ізыком, ні падумаўшы, тріпануць можыць.* Баева Дубр.

НАДУ́ЦЬКА *аг., асудж.* Надзьмуты, злы чалавек. *Такі ўжо наду́цька гэты дзед!* Новае Жыццё Уш. *Гэты наду́цька не размаўляець.* Мілашова Міёр.

НАДУШЫ́ЦЦА *зак., экспр.* Моцна замарыцца, стаміцца. *Як жа я надушы́ўся з гэтым сенам!* Казлоўшчына Паст. Параўн. *навадзі́цца, намо́гціся.*

НАДХА́ТАК *м.* Гара, гарышча. *Хаваліся мы на надха́тку.* Плісы Беш.

НА́ДЫ гл. НА́ДАБЕ

НАДЫ́БАЦЬ *зак., экспр.* 1. Знайсці, натрапіць. *Надыбала бабі малако.* Сокарава Беш. *Дзе ты гэта грыбоў надыбаў?* Задзетуні Віц. *Тутака я такі грыб надыбала вялікі.* Слабодка Брасл., Нурава В.-Дзв., Станіслававва, Баева Дубр., Ропна Пол., Ілава Шум. 2. Набыць, прыдбаць. *І дзе ўжо ты надыбала такія модныя штаны?* Глазамічы Віц., Воўкаўшчына Міёр., Таўкіні Шарк.

НАДЫ́СЬ *прысл.* Учора. *Надысь быў моцны вецер.* Верацея Арш. *Надысь мы хадзілі ў госці да кума.* Стаўбцы Чаш. Параўн. *надо́не.*

НАДЭ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Угаварыць, пераканаць. *Усё ж надэ́чыў ён сына пераехаць адгэтуль.* Пашкі Шарк.

НАЕ́ТЫ *дзеепрым.* Сыты. *Цяперака лягчэй, чым у вайну: усе нае́тыя.* Ясевічы Глыб. *Мне больш не трэ́ба, я і так нае́тая.* Баршчоўка Віц. Параўн. *напундыраны, на́сты.*

НАЁДЫВАЦЬ *незак.* Есці. *Давай ужо наёдываць макароны.* Гараўцы Міёр. *Ну, давай наёдывай хутчэй, шчас пайдзём сена варочыць.* Воўкаўшчына Міёр. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, навярну́ць, накрі́пацца напаро́цца, напіцава́цца, напра́тацца[1], напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубі́цца.*

НАЁКАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *А ты ўжо дзе так наёкаўся?* Лонскія Шарк. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налакта́цца, наліза́цца, налізга́цца, налупі́цца[2], намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАЖЛАКТА́ЦЦА гл. НАЛАКТА́ЦЦА

НАЖНІ́ЦА *ж.* Кароткая спадніца. *Сёння купіла сабе нажні́цу.* Шарагі Міёр.

НАЖО́НКІ, НАЖЭ́НЬКІ, НАЖЭ́НЦЫ *толькі мн.* Нажніцы. *Падай мне нажо́нкі.* Гілі Чаш. *Ніяк не магу знайсці нажэ́нькі.* Балбасава, Пагост Арш. *Ні знаю, куды засунула нажэ́нцы.* Карабанавічы Дубр.

НАЖУ́ТКА *ж.* 1. Кароткае верхняе жаночае адзенне, жакет. *Вазьмі з сабою нажу́тку, бо халодна.* Пашкі Шарк. *Якая ў цібе нажу́тка інцірэсная. Сама пашыла?* Папкі Міёр. Параўн. *напо́ціна, насо́ў.* 2. Кофта, блузка. *Нажу́тка ў бабулі ўжо зусім знасілася.* Тумілавічы Докш. *Па святах бабуля апранаець прыгожую нажу́тку.* Дворнава, Запруддзе, Лучайка Шарк. *Якую ты пекную нажу́тку прыдбала!* Ігнацішкі Паст. *Нажу́тку новую пашыла з штапеля.* Укля Брасл., Ветахмо Докш. 3. Сарочка, кашуля. *Нажу́тку сінюю на ноч*

*мне падарыла яшчэ баба мая.* Навасельцы Шарк. Параўн. *нацéльнік.* 4. Безрукаўка. *Нажýтку без рукавоў на сцяну вешалі.* Жакі Паст.

НАЖЫМÁЦЦА *незак.* Высільвацца. *Ты што тут адзін нажымáішся? Так жа і надарвацца можаш.* Забор'е Рас.

НАЗÁЎТРАГА, НАЗÁЎТРАЕ, НАЗÁЎТРАКА, НАЗÁЎТРАЯ, НАЗÁЎТРЕГА, НАЗÁЎТРЭЙ *прысл.* Заўтра, назаўтра. *Божа мой, божа, назáўтрага, як устала, усюдых гэтыя немцы.* Еўлахі Тал., Грынеўшчына Докш., Сокарава Беш. *Назáўтрега паедуць, ехаць далёка нада – у Якуцію.* Лялеўшчына Гар. *Сустрэцца мы з табой зможам назáўтрака.* Велеўшчына Леп. *Назáўтрая ты пойдзеш пасціць кароў.* Рубеж Брасл. *Назáўтрэй мо бліны спэкце?* Равяцічы Тал.

НАЗÁЎШЭ *прысл.* Назаўсёды. *Назáўшэ яна табе талеркі гэтыя аддала?* Папкі Міёр. Параўн. *наўсягды́.*

НАЗВІ́СКА *н.* Імя. *Эдзіта – ну і моднае назві́ска.* Галбея Паст. Параўн. *нáймя.*

НАЗДРÁЧКА *ж.* Тарка. *Буракі нада на наздрáчку пацерці.* Забор'е Рас.

НАЗЕ́МКІ *толькі мн.* Суніцы. *Назéмак сабрала літраў пяць.* Чарневічы Глыб.

НАЗМЫ́СНЕ *прысл.* Наўмысна, знарок. *Ён заўсёды ўсё рабіў назмы́сне.* Стаі Леп. Параўн. *нарачы́, нарóшне, нарóшні.*

НАЗНÁЙНІЦУ, НАЗНÁЛІЦУ, НАНÁЙНІЦУ, НАІЗНÁНЕЦ *прысл.* Навыварат. *Надзела сарочку назнáйніцу.* Пугачова Докш., Алексінічы Сен. *Ты ж спадніцу назнáліцу надзела.* Рускі Шум. *Ты ж глядзі, як адзяеш: сукенку нанáйніцу адзела.* Прамышляды Паст. *Уцюж штаны нанáйніцу.* Зарачыцак Докш., Слабада Глыб., Казлоўшчына Паст., Мельніца Шарк. *Во надзела кохту наізнáнец.* Прудок Гар. Параўн. *нáніц, нані́ц, нані́тча.*

НАЗÓЛІСТЫ *прым.* Надакучлівы. *Надаеў мне гэты назóлісты маліц.* Мікіціха Шум. Параўн. *надаéдны, надая́длівы.*

НАЗÓЎ *м.* Назва. *Суседняя вёска маець назóў Забеліна.* Свярдлова Віц.

НАЗЫ́СКІ *мн.* Мокрыя дровы. *Адны назы́скі ляжаць.* Звязда Леп.

НАЗЮ́ЗЬКАЦЦА, НАЗЮЗЮ́КАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Назю́зькаўся мой стары ў гасцях.* Краснаполле Рас. *Аж страшна, як мужык мой назюзю́каўся.* Бабічы Глыб. Параўн. *наглытáцца, наглю́кацца, надрáцца, нажлактáцца* ў 2 знач., *наёкацца, наклю́кацца, налактáцца, налізáцца, налізгáцца, налупі́цца²,* *намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАЗЯВА́ЦЬ *зак., экспр.* Накрычаць. *Трэба разабрацца, а назява́ць паспееш.* Вярцінскія Паст. *Дзед назява́ў на малога.* Кураполле Паст. Параўн. *награ́наць.*

НАЙГО́РЫ *прысл., найвыш.* Найгорш. *Найго́ры галава баліць.* Ласіца Паст.

НА́ЙДА *аг., экспр.* 1. Той, хто ўмее хутка знайсці, адшукаць што-н. *Гэтая на́йда ўсё знойдзіць.* Чарневічы Глыб. 2. *асудж.* Надакучлівы чалавек, назола. *Ходзіць на́йда віздзе, лезіць ні ў сваё дзела.* Вядзерава Беш. Параўн. *надае́днік.*

НАЙДЗЁНЫШ *м.* Падкідыш. *Ён найдзёнышам быў у іх сям'і.* Завяззе Шум.

НА́ЙМІТКА, НАЙМІ́ЦА *ж.* Наймічка. *На́ймітак сёння не знайсці.* Жоўніна В.-Дзв., Коравічы Чаш. *Тое лета наша наймі́ца добра працавала.* Ветрына Пол.

НА́ЙМЯ *н.* Імя. *Якое на́ймя маеш?* Язна Міёр. Параўн. *назві́ска.*

НАКАЖУ́РІЦЦА *зак., экспр.* Цёпла апрануцца, надзець некалькі відаў вопраткі. *Во накажу́рілася сёння, дык ні павярнуцца!* Ноўка Гар. Параўн. *надзёўваць, налажы́ць, напрану́ць, напрата́цца*[2]*, напяндэ́ліць.*

НАКАЛТА́ЦЬ *зак.* Намяшаць, накалаціць (пра страву). *Унучка просіць накалта́ць ёй бліноў.* Галбея Паст. Параўн. *наке́шкаць* у 1 знач.

НА́КАЛЬНІЦА *ж., экспр.* Гарэза, непаседа. *Суседская дзяўчынка – на́кальніца такая.* Тумінічы Арш. Параўн. *непаслу́шнік, неслуха́нец, няўсе́да, няўстру́й.*

НАКАЛЮ́ЧКА *ж.* Шыла. *Вазьмі накалю́чку ды не калі так рукі.* Клясціцы Рас.

НАКАНДУБА́СІЦЦА *зак., экспр.* Нахмурыцца (пра неба). *Неба накандуба́сілася – хутка будзіць дождж.* Старое Сяло Віц. Параўн. *набату́рыцца, набу́чыцца, нахмы́ліцца.*

НАКАСТРЫ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Правініцца. *Ну і накастры́чыў ты! Сам цяпер і выпутвайся!* Пачаевічы Чаш.

НАКА́ТКА *ж.* Выраб ручной работы, упрыгожаны вышыўкай. *Мне спадабалася твая нака́тка.* Буеўшчына Шарк.

НА́КАШ *часц.* На. *На́каш табе торбачку, аднясі яе дзеду.* Завольша Лёзн.

НА́КВЕЦЬ *ж.* Кветкі, якія пачынаюць распускацца; цвіценне раслін. *На вярбе касматая на́кведь.* Каралёва Шарк.

НАКВЭ́НЗАЦЬ *зак., экспр.* Намазаць, пакрыць слоем што-н. *Наквэ́нзай масла на хлеб болей.* Мікіціха Шум. Параўн. *намузо́ліць, намусо́ліць.*

НАКЕ́ШКАЦЬ *зак., экспр.* 1. Намяшаць (пра корм жывёле). *Наке́шкаеш, наке́шкаеш усяго ў вядро і занясеш свінням.* Слабада Докш. Параўн. *накалта́ць.* 2. Набрудзіць, напэцкаць. *Дзеці не паелі, а толькі наке́шкалі на стале.* Лужасна Віц. Параўн. *наўэ́дзгаць.*

НАКІ́Д *м.* Напуск (у адзенні). *Калі будзіш кроіць штаны, не забудзь пра накі́д, а то сапсуеш.* Папкі Міёр.

НАКІДА́ШКА, НАКІ́ДВА гл. НАКІДУ́ШКА

НАКІДЗЕ́НЬ *м.* Пакрывала на пасцель. *Лепш, каб накідзе́нь быў цёмнага колеру: ці ўдзень прылегчы, ці прысесці не шкода было.* Германавічы Шарк. Параўн. *набо́рка.*

НАКІДУ́ХА *ж., рыб.* Рыбалоўная сетка. *Накіду́ха мая ўжо ўся падраная.* Дразды Беш.

НАКІДУ́ШКА, НАКІДА́ШКА, НАКІ́ДВА, НАКІ́НКА *ж.* Накідка; пакрывала на падушку. *Перш было дзеўкі падушак горы наложаць, накіду́шкамі пазакрываюць – пекна.* Гута, Лукашова Паст. *Раней мы накіду́шкі самі вышывалі.* Шыці Шарк. *Мне тая накіду́шка яшчэ ад бабкі асталась.* Віркі, Смаляны Арш., Заполле Віц. *А я накіда́шкі сама раблю.* Ёды Шарк. *Як замуж ішла, дык сама накі́двы вышыла.* Слабада Дубр. *Прыгожанькая ў вас накі́нка на падушку.* Бачэйкава Беш. Параўн. *насці́лка.*

НАКІ́НКА гл. НАКІДУ́ШКА

НАКЛАДНІ́ *толькі мн.* Прыстасаванне ў выглядзе чатырох перакрыжаваных жэрдак, якое кладзецца паверх драбін. *Накладні́ наклалі на калёсы, трэба было везці сена.* Пралетарск Гар.

НАКЛА́ДЗІ *толькі мн.* Палаці. *Зімою ўся сям'я спала на накла́дзях.* Дубішча Беш.

НАКЛА́ДЗЬ *ж.* Працэнты; даход ад укладзеных у банк грошай. *У яго грошы ляжаць у банку. Ён ездзіць і толька накла́дзь бярэць.* Язна Міёр.

◊ НАКЛА́СЦІ Ў КАРШЭ́НЬ Пабіць каго-н. *Сіллю возьмем мальцаў і накладзём у каршэ́нь.* Ноўка Віц. Параўн. *надзю́гаць, напухалява́ць.*

НАКЛЕ́НЧЫК *м.* Маленькі дыванок, на які становяцца на калені ў час богаслужэння. *У касцёле кожны павінен мець свой накле́нчык.* Папшычы Глыб.

НАКЛЮ́КАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Стары так наклю́каўся, што ажно дадому чуць поўз.* Мікіціха Шум. *Наклю́каўся ўчора як мая быць: як да сваёй хаты давалокся, не помню.* Якаўлевічы Арш., Макаравічы Беш., Ульянавічы Сен., Новая Зара Чаш. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назюзю́кацца, назю́зькацца, наёкацца, налакта́цца, налiза́цца, налізга́цца, налупі́цца*[2], *намы́згацца, наю́ськацца, насёрбацца, нацялёскацца.*

НАКЛЯ́ПАЦЬ *зак., экспр.* Зрабіць хутка, абы-як; сапсаваць. *Мальцы накля́палі, што нада перарабляць.* Прудок Гар. Параўн. *накурады́міць, напарта́чыць, нацёпаць.*

НАКРАПА́ЦЬ[1] *зак.* Наблытаць. *Што ты тут апяць накрапа́ла?* Залучына Леп. Параўн. *наплюта́ць, нахамута́ць.*

НАКРАПА́ЦЬ[2] *зак.* 1. Прыгатаваць (пра ежу). *Накрапа́ла я вам, дзеткі, какорак.* Казяны Брасл. *Накрапа́ем, што ў каго ёсць: ці бульбы, ці морквы тушанай, ці дранікаў.* Германавічы Шарк. Параўн. *наве́сці[4], настро́іць.* 2. Начыніць. *А я клёцкі грыбамі накрапа́ла.* Булахі Глыб. *Сёлета накрапа́лі каўбас, хоць вароты завязывай.* Езярышча Гар., Дрыгучы Міёр.

НАКРІНДЗЯДЗЮ́ЛІЦЬ *зак., экспр.* Нагаварыць многа чаго-н., набалбатаць. *Што вам тута кума накріндзядзю́ліла? Іна ж была на свадзьбі, многа чаго чула.* Баева Дубр. Параўн. *наба́віць, наба́іць, набала́каць, набалмата́ць, набяле́ндзіць, нагалдзі́ць, накулдуя́чыць, накулды́чыць, наталдо́ніць.*

НАКРІПА́ЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Накріпа́ўся харашо з самай раніцы.* Лужасна Віц. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, наву́хацца, навярну́ць, наёдываць, напаро́цца, напіцава́цца, напра́тацца[1], напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубі́цца.*

НАКРЫВА́ЛКА *ж.* Абрус, настольнік. *Красівую накрыва́лку вышыла, мы засцілаем яе на стол толькі на празнікі.* Мікіціха Шум. Параўн. *насто́льніца, насто́лька.*

НАКРЫПА́ЦЬ *зак.* Напхаць. *Пайду вытрасаць крыпаніцу ды накрыпа́ю саломай.* Сяляўшчына Рас. *Сянніцу можна сенам накрыпа́ць.* Кураполле Паст.

НАКРЫ́ШКА *ж.* Накрыўка, века. *Накры́шку на вядро паламалі.* Бокішава Шум. *Накры́шка ад дзяжы ляжыць на печы.* Матырына Леп.

НАКУЛДУЯ́ЧЫЦЬ, НАКУЛДЫ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Набалбатаць, нагаварыць бязглуздзіцы. *Во накулдуя́чыў, во нагаварыў без разбору.* Лужасна Віц. *Во колькі накулды́чыла ты, а я ж нічога не зразумела.* Ветрына Пол. Параўн. *наба́віць, наба́іць, набала́каць, набалмата́ць, набяле́ндзіць, нагалдзі́ць, накріндзядзю́ліць, наталдо́ніць.*

НАКУРАДЫ́МІЦЬ *зак., экспр.* Зрабіць абы-як, сапсаваць. *Малому хочацца ўзяцца за работу, а як возьмецца, накурады́міць – накурады́міць і хутчэй ходу.* Клясціцы Рас. Параўн. *накля́паць, напарта́чыць, нацёпаць.*

НА́КУТ *м.*, НА́КУЦЬ *ж.* Покуць. *Памёршага чалавека ў нас кладуць у на́кут.* Асташова Чаш. *У бабінай хаце, у на́куце, на іконе вісяць вышываныя ручнікі.* Сіўцы Паст. *У новай хаце загадала сваім, каб у на́куць абраз павесілі.* Лукашова Паст.

НАКУ́ТНІК *м.* Ручнік, які вешаюць на абразы. *У мяне наку́тнікі ёсць з вышыўкай.* Слабада Дубр. Параўн. *набо́жнік, набо́жнічак, набра́жнік, набра́знік, намётка* ў 3 знач.

НА́КУЦЬ гл. НА́КУТ

НА́КШЫ *прым.* Іншы. Мая *бульба на́кшая: разварыстая, жоўценькая.* Мосар Глыб. *Гэта спадніца ўжо на́кшая.* Буцавічы Паст. *У магазін прывезлі на́кшы хлеб – бялейшы.* Свірдуны Паст.

НАЛАЖЫ́ЦЬ *зак.* Надзець, апрануць. *Налажы́ла сукенку і пабегла.* Латышы Рас. Параўн. *надзёўваць, накажу́рыцца, напрану́ць, напрата́цца*[2], *напяндэ́ліць.*

НАЛАКТА́ЦЦА, НАЛЫКТА́ЦЦА, НАЖЛАКТА́ЦЦА *зак., экспр.* 1. Нахлябтацца, уволю напіцца. *Цаціняты налакта́ліся малака і заснулі.* Лісуны Арш. *Я дома налыкта́ўся вады.* Воўкаўшчына Глыб. *Узіла стаўбун мылака і так налыкта́лася, што чуць здышаласі.* Моханава В.-Дзв. 2. Напіцца, быць моцна п'яным. *Мужык так налакта́ўся, што сам дахаты не дайшоў.* Мікалаёва Міёр. *Ён ужо нажлакта́ўся сёння.* Угрынкі Уш. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, наёкацца, назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налізա́цца, налізга́цца, налупі́цца*[2], *намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАЛЁЙБІЦЬ *зак.* Нахлусіць. *Ён табе налёйбіць такога, што хоць падай.* Каўровая Дубр. Параўн. *нага́ўкаць.*

НАЛЁПКА *ж.* Старое паношанае адзенне. *Зноў ты надзеў нейкую налёпку, у ёй толькі ў хлеў хадзіць!* Сукліна Глыб. Параўн. *надзётка, напра́тка, нажу́тка, напо́ціна.*

НАЛЁСНІК, НАЛІ́ЧНІК *м.* 1. Наліснік, тонкі мучны блін. *Мама любіла налёснікі пячы.* Новае Запонне Докш. *Такіх смачных налёснікаў з дваццаць можна з'есці.* Булахі Глыб., Пераходцы Леп. 2. Мучны блін, начынены тварагом. *Сядайце есць налёснікі.* Цясты В.-Дзв. *У нашай бапці сёння фірмовыя налёснікі.* Савуткі Шарк. *Я сёння налі́чнікі рабіла.* Малы Поўсвіж Леп.

НАЛЁЦЦЕ, НАЛЁЦЦЯ *н.* Наступны год. *Дай Бог налёцце ўбачыць, а там яшчэ пажыву.* Папоўка Сен. *Ну, сёлета яшчэ буду авечак гадаваць, а к налёццю, можа, і не.* Запруддзе Глыб. *Налёцця ўнук ужо ў школу пойдзіць.* Жарцы Леп., Цвеціна Міёр. *Сена ў мяне столькі, што і на налёцце будзе.* Грыгаравічы Леп. *У гэтага гаспадара сена і на налёцце хопіць.* Зубава Арш., Ноўка Гар., Новыя Валосавічы Леп., Рускі Шум.

НАЛЁТЫ *мн., перан.* Непрыемнасці, нягоды. *Сколька яна нацярпелася, а гэтыя налёты ўсё ад яе ні адстануць.* Мішкавічы Шум. Параўн. *недабро́цце, ніпуцёвіца, непералі́ўкі, непярэ́ліўкі.*

НАЛІВА́ШКА[1] *ж.* Чарпак. *Наліва́шку вазьмі, што ты ложкай чэрпаеш?* Мурагі Рас.

НАЛІВА́ШКА[2] *ж.* Крывяная каўбаса. *Учора парасёнка зарэзалі, будзець халадзец і наліва́шка.* Мурагі Рас. *Добрая наліва́шка палучылася, смашная.* Старое Сяло Уш.

НАЛІЗА́ЦЦА, НАЛІЗГА́ЦЦА *зак., перан., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Зноў налізаўся бацька як свіння!* Нізкі Гарадзец Тал. *Налізгаўся як свіння, а на размовы цягнець.* Германавічы Шарк. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налакта́цца, налупі́цца*[2], *намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НА́ЛІССЯ *прысл.* Далёка. *Пайшлі куды на́лісся ягады браць, а там балота, цьма непралазная.* Труды Пол.

НА́ЛІСЬ *прысл.* Кудысьці, некуды. *Сыйшла на́лісь курыца.* Кублічы Уш.

НАЛІ́ЎКА[1] *ж.* Белы наліў (гатунак яблыкаў). *У гэтым гаду налівак саўсім не было.* Задзежжа В.-Дзв. *Налі́ўкі сёлета вялікія і ўкусныя.* Крывасельцы В.-Дзв., Чарневічы Глыб.

НАЛІ́ЎКА[2] *ж.* Кубак для піцця. *Ваду з вядра налі́ўкай бяры, не бойся, яна мытая.* Язна Міёр. Параўн. *налі́шка* ў 2 знач.

НАЛІЎНЫ́ *прым., перан.* Поўны, тоўсты. *Наліўны́ маліц у яе нарадзіўся.* Мазурына Шум.

НАЛІ́ЧНІК гл. НАЛЁСНІК

НАЛІ́ШКА *ж.* 1. Коўшык для чэрпання вады ў лазні. *Налі́шкай паддаюць пару.* Даўгаполле Гар. *Налі́шку ў баню бацька зрабіў.* Залучча, Марчанкі Гар. *Дадай у таз налі́шку вады.* Кузьмянцы Віц. 2. Кубак для піцця. *Зачарпні мне налі́шку вады.* Верамееўка, Езярышча Гар. *Налі́шку бяры і пій малако.* Грышына Рас. Параўн. *налі́ўка*[2]. 3. Лейка, палівачка. *Раней я гарод палівала з налі́шкі, а цяпер са шлангу.* Калінава Віц.

НА́ЛЛЕ *н., зб.* Свойскія птушкі. *Не ўспела выйсці з хаты, як усё на́лле акружыла яе.* Старое Лядна Леп.

НАЛО́Й *м.* Пара ў лазні. *Нада паддаць у бане нало́ю.* Астроўна Беш.

НАЛУ́ДЗІЦЦА *зак., экспр.* Сабрацца пайсці куды-н. *Ну, куды ўжо налу́дзілась?* Кублічы Уш. Параўн. *настро́іцца.*

НАЛУПІ́ЦЦА[1] *зак., экспр.* Натанцавацца. *Унучка ў клубе налу́піцца, натанцуецца – і дамой!* Абольцы Тал.

НАЛУПІ́ЦЦА[2] *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *А ён налу́піцца і спаць кладзецца.* Янава Тал. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *наклю́кацца, налізу́цца, налізга́цца, налакта́цца, намы́згацца, назю́зькацца, назюзю́кацца, насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАЛЫКТА́ЦЦА гл. НАЛАКТА́ЦЦА

НАЛЯЗА́ЦЬ *незак.* Назаляць, прыставаць, дакучаць. *Чаго табе налязаць к чалавеку з разгаворамі, можа, яму ні да цябе.* Пышна Леп. Параўн. *набярэ́дзіць, насты́беніць.*

НАМАГА́ЦЬ *незак., экспр.* Націскаць; аддаваць перавагу чаму-н. (пра ежу). *У нас усі намага́юць на бульбу і гуркі.* Бокішава Шум.

НАМЕ́ТКА *ж.* Марля. *Падай наме́тку, каб змагла малако працэдзіць.* Грышаны Віц.

НАМЁТ *м.* Намець, гурба снегу. *Усю ноч віхурыла – доўга ісці будзіш па гэтых намётах.* Забалацце Арш. *Зімой намётаў столька – не прайці.* Загор'е Глыб.

НАМЁТКА *ж., абрад.* 1. Вясельны падарунак нявесты родным жаніха. *Нявеста рыхтавала намёткі ўсім родным жаніха.* Лазы Тал. 2. Хустка, касынка. *Намётку не забудзь, як да кароў пойдзеш.* Дуброўна. 3. Вышыты ручнік. *Мая свікроўка мне намётку падарыла.* Бароўка В.-Дзв. Параўн. *набо́жнік, набо́жнічак, набра́жнік, набра́знік, наку́тнік.*

НА́МЖА *ж.* Празмерна вільготны ўчастак глебы пасля дажджу. *Пасля гэтых дажджоў на гародзе амаль усюль на́мжа.* Машканы Сен.

НАМІ́ТУСЕНЬ, НАМІ́ТУСІ *прысл.* Пра таго, хто лёг адзін каля аднаго галовамі ў супрацьлеглыя бакі, "валетам". *Свінні ў хляве ляжалі намі́тусень.* Казаноўка Чаш. *Ложак цесны – намі́тусі кладзіцеся.* Слабада Докш.

НАМО́ГЦІСЯ *зак.* Стаміцца, напрацавацца. *Намо́глася сёння да паўсмерці.* Выдрэя Лёзн. Параўн. *навадзіцца, надушы́цца.*

НАМУЗО́ЛІЦЬ, НАМУСО́ЛІЦЬ *зак., экспр.* Намазаць сябе чым-н. *Навошта ты рукі намузо́ліла краскай?* Рубеж Брасл. *Намусо́ліла ўвесь твар пу́драй.* Ганкавічы Беш. Параўн. *наквэ́нзаць.*

НАМЫ́ЗГАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Намы́згаўся так мужык, што ногі не мог перастаўляць.* Гарадок. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, наліза́цца, налізга́цца, налакта́цца, налупі́цца*[2], *насёрбацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАМЯ́КНУЦЬ *зак.* Намокнуць. *Хавайся хутчэй, а то намя́кнеш.* Расоны.

НАНА́ЙНІЦУ гл. НАЗНА́ЙНІЦУ

НАНІ́ЗУ *прысл.* Унізе. *Нані́зу стаяць каробкі.* Старое Сяло Віц.

НА́НІЦ, НАНІ́Ц, НАНІ́ТЧА *прысл.* Навыварат. *Я нашу майку на́ніц, каб не зглазілі міне.* Грыгаравічы Леп. *На́ніц сукенку надзела і пахажываіць.* Гілі Чаш. *Ты ж на́ніц світар адзела.* Вадзянікі Гар., Гарбачэва Рас., Сарочына Уш., Дубнікі Шарк. *Калі сукенку нані́ц надзенеш, значыць, з мальцам пазнаёмішся.* Баруны Брасл. *Ты нані́ц рубашку надзеў.* Урбаны Брасл. *Нані́тча кофту надзела.* Старое Сяло Уш. *Не, ты глянь на яго! Так ужо бег, што рубаху на́ніц надзеў.* Даўгабор'е Рас. Параўн. *назна́йніцу, назна́ліцу, наізна́нец, нана́йніцу.*

НАПАБЭ́ШТАЦЬ *зак., экспр.* Папасці, трапіць; апынуцца ў неспрыяльных абставінах. *Калі з гэтым чалавекам павядзешся, напабэ́штаеш у дрэнную гісторыю.* Галубава В.-Дзв.

НАПА́ДАК *м.* Прыступ; вострае праяўленне адзнак хваробы. *Напа́дак як узяў, думала ўжо памру, а потым адыйшло.* Папкі Міёр.

НАПАДО́ЙМІШЧА *прысл.* Так цяжка, што не падняць. *Не беражэць мужыка: мяхі насыпала поўныя, нападо́ймішча будуць.* Пусташы Пол.

НАПАДУ́ШНІК *м.* Навалачка. *Нападу́шнікі самі вышывалі: і мама, і я.* Іванск Чаш. Параўн. *на́валка, на́валушка, навэ́лка, на́ўлечка, наўле́чка, на́ўлічка.*

НА́ПАЛ, НАПА́Л, НАПА́Я *прысл.* Напалову. *Разрэж хлеб на́пал.* Камары Віц. *Новая кватэра напа́л меншая за старую.* Обаль Шум. *Падзялі напа́я цукеркі.* Каўровая Дубр.

НАПА́ЛЬЧНІК *м.* Напарстак. *Бабуля шыць садзіцца з напа́льчнікам.* Бірулі Докш. Параўн. *напёрснік.*

НАПА́РА *ж.* Булка дамашняй выпечкі. *У аўторак баба пякла напа́ры.* Чарневічы Глыб.

НАПАРА́ДЗІЦЬ *зак.* Параіць. *Яна мне напара́дзіла сайсціся з ім.* Іванск Чаш.

НАПАРО́ЗІЦА *ж., экспр.* Жанчына, якая размаўляе з гаспадарамі, не заходзячы ў хату, стоячы на парозе. *Вельмі ж не люблю напаро́зіц.* Свярдлова Віц.

НАПАРО́ЦЦА *зак., перан., экспр.* Многа з’есці, наесціся ўволю. *Сянні зрання ладнага напаро́лася: бульбы, сала, гуркоў, саракваны.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, навярну́ць, наёдываць накріпа́цца, напі́цавацца, напра́тацца*[1]*, напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубіцца.*

НАПАРТА́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Зрабіць абы-як, сапсаваць, памыліцца. *А малец напарта́чыў ды ўцякаць.* Звязда Леп. *Напарта́чыць можна ў любым дзеле.* Марачкова Рас. *Рамонт робілі – напарта́чылі.* Гарадок. Параўн. *накурады́міць, нацёпаць, накля́паць.*

НАПАЎРА́НКІ *прысл.* На досвітку, досвета. *Напаўра́нкі выганялі кароў, да ўзыходу сонца.* Анэліна Тал. Параўн. *наясну.*

НАПАХВА́ЦЕ гл. НАПО́ХВАЦЕ

НАПА́Я гл. НАПА́Л

НАПЕРАСЦІ́ГІ, НАПЯРЭ́СЦІГІ *прысл.* Наперарэз, напярэймы. *Дзеці пабеглі наперасці́гі, каб дагнаць карову.* Слабада Уш. *Пайду яму напярэ́сцігі, можа, сустрэну.* Дубінцы Чаш.

НАПЕ́РНІК *м.* Насыпка. *Напе́рнікі летам змяню ва ўсіх падушках.* Абухава В.-Дзв. *Для ўнучак дзяржу пяць напе́рнікаў.* Барсукі, Луначарскае, Цясты В.-Дзв. *У Глыбокім накупляла тканіны*

*на напéрнікі.* Латышы, Празарокі, Чарневічы Глыб. *Маладым на вяселле напéрнікі дарылі.* Пушкі Лёзн., Янкавічы Рас.

НАПЕХАТЎ, НАПЕШАКÁ *прысл.* Пехатой. *Напехатў многа хадзілі.* Хацейка Гар. *Дамоў напехатў прыйшлося ісці.* Пашкі Шарк. *А дамой тожа напешакá пойдзіце?* Папкі Міёр. *Кожнае лета мы хадзілі напехатў ў Буслаў.* Вярэнькі, Казлоўшчына, Ляхаўшчына Паст.

НАПЁРСНІК *м.* Напарстак. *Я і з напёрснікам пальцы пакалю.* Жданова Беш. Параўн. *напáльчнік.*

НАПІКЦІ́ *зак.* Напячы. *Мама хлеба напікéць, і я нясу парцізанам.* Гомель Пол.

НАПІ́ЛЬНІК *м., перан.* Шчупак. *Бог яго ведаець, чаму шчупака ў нас напíльнікам завуць.* Заазер'е Тал.

НАПІ́РЫЦЦА *зак.* Уперціся; упарта не згаджацца з чым-н. *Напíрыцца і нічога не робіць.* Іванаўка Гар. *Напíрыцца малец, хоць ты плач.* Папкі Міёр.

НÁПІТА, НÁПЯТА, НАПЯ́ТА *прысл.* Насцеж. *Дзверы ў хаце былі ўсе нáпіта.* Ларынаўка Арш. *Парасчынілі ўсе дзверы нáпіта – і наляцела мух у хату.* Сваташыцы Дубр. *Бывалі дні, што стаялі нáпята дзверы дзень і ноч.* Арэхаўск Арш. *Дзверы чаго нáпята стаяць? Не май на дварэ!* Папоўка Сен. *Дзверы расчыняюць летам напя́та.* Фарынава Пол. Параўн. *нары́схраст.*

НАПІЦАВÁЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Я так напіцавáлася, што не магу дыхаць.* Кушлікі Пол. Параўн. *набўхацца, набэ́мбніцца, навўхацца, навўрзацца, навўрзгацца, навўрыцца, навярнўць, наёдываць, накріпáцца, напарóцца, напрáтацца*[1]*, напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубíцца.*

НАПЛЮТÁЦЬ *зак.* Зблытаць. *Кот малы цэлы клубок нітак наплютáў.* Пашкі Шарк. Параўн. *накрапáць*[1]*, нахамутáць.*

НАПÓРКАЦЬ *зак.* Напáдаць, зваліцца. *Паглядзі, колькі яблак напóркала.* Савенічы Сен.

НАПÓСНА *прысл.* Без тлушчу, нішчымна. *Напóсна будзеш картоплю сёння есці.* Выдрэя Лёзн.

НАПÓЎНІЦУ *прысл.* На поўны рот. *Ешце, дзеткі, напóўніцу, ежы досыць.* Серкавіцы Тал. *Мой гаспадар смачна, напóўніцу есь сала.* Андрэева Гар.

НАПÓХВАЦЕ, НАПАХВÁЦЕ *прысл.* Пад рукамі, нападхват. *Яе тая хусцінка напóхваце ўсягда.* Малы Поўсвіж Леп. *Сёння цэлы дзень малы напóхваце.* Маляўкі, Старыя Крукі Міёр. *Ключы ляжаць напахвáце.* Сіпішчава Дубр.

НАПÓХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Пакапала бульбу, аж на руках пальцы напóхлі.* Косарава Глыб.

НАПÓЦІНА *ж.* Кароткі жаночы жакет. *Якая напóціна прыгожая!* Цяцеркі Брасл. Параўн. *нажўтка* ў 1 знач.

НАПО́ШТАВАЦЬ *зак.* Пачаставаць, смачна накарміць. *Баба так ката напо́штавала: яна яму і каўбасы, і блін, і тварагу.* Пралетарыя Уш.

НАПРА́ВА *ж.* Рамонт. *Жупанок увесь дыравы – добрая напра́ва не пашкодзіць.* Гразіна Арш.

НАПРАМЕ́ЦЬ *прысл.* Наўгад. *Я праз лес ішоў напраме́ць.* Красніца Чаш.

НАПРАНУ́ЦЬ зак. Апрануць; надзець на сябе што-н. *Напрані́ світку, не лета ж ужэ.* Мікіціха Шум. *Нада будзіць вечарам напрану́ць мне кофту.* Абухава В.-Дзв. Параўн. *надзёўваць, накажу́рыцца, налажы́ць, напрата́цца[2], напяндэ́ліць.*

НАПРАСТЫ́ гл. НАПРО́СТ

НАПРА́ТАЦЦА[1] *зак.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Во напра́таліся дранікамі, аж уставаць з-за стала цяжка.* Абрамава В.-Дзв. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, навярну́ць, наёдываць, накріпа́цца, напаро́цца, напіцавацца, напузы́рыцца, напунды́рыцца, натрубі́цца.*

НАПРАТА́ЦЦА[2] *зак.* Апранацца. *Ты ўжо напрата́ўся, каб цёпла было?* Селішча Уш. Параўн. *надзёўваць, накажу́рыцца, налажы́ць, напрану́ць, напяндэ́ліць.*

НАПРА́ТКА *ж.* Цёплая вопратка (ватоўка, паліто). *Не магу адшукаць напра́ткі.* Гарадок. Параўн. *надзе́тка, нажу́тка, нале́пка, насо́ў.*

НАПРА́ЦЦЯ гл. НАЎПРО́ЦІ

НАПРО́СТ, НАПРО́СТА, НАПРАСТЫ́ *прысл.* Напрасткі. *Ідзіце во тут напро́ст, а там дужа далёка будзець.* Камары Віц. *Тут во напро́ста можна ісці, скарэй будзець.* Варнелі Брасл. *Пойдзем напрасты́ – усё ж бліжэй.* Межава Арш. Параўн. *напярэ́сцікі, начэ́раз.*

НАПРЫЦЁГАЦЬ *зак.* Напрыцягваць. *Шчанюк напрыцёгаў чужых калёш.* Зябліны Шарк.

НАПРЭ́НДЗІЦЦА *зак.* Напружыцца, натужыцца. *Сёння каровы пад'елі, малака многа дадуць, вун як вымі напрэ́ндзіліся.* Забалацце Уш.

НАПУ́ДЗІЦЬ *зак.* Натрэсці, абтрэсці. *Я б напу́дзіла яблык, каб яны былі.* Арэхаўск Арш.

НАПУЗЫ́РЫЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Ну, напузы́рылась? А то аладушкі яшчэ ёсць.* Ракава Гар. *Ну і напузы́рылася я, аж жывот трашчыць.* Макаравічы Докш., Канашонкі Рас. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, наву́рыцца, наву́рзацца, наву́рзгацца, навярну́ць, наёдываць, накріпа́цца, напаро́цца, напіцава́цца, напра́тацца[1], натрубі́цца.*

НАПУНДЫ́РАНЫ *дзеепрым., экспр.* Які многа з'еў, сыты. *Пайшоў з-за стала напундыраны.* Мікіціха Шум. Параўн. *наéты, нáсты.*

НАПУНДЫ́РЫЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Я так за сталом напундырыўся!* Камаі Паст. Параўн. *набэ́мбніцца, набу́хацца, наву́хацца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, навярну́ць, наёдываць, накрíпáцца, напарóцца, напіцавáцца, напрáтацца*[1]*, напузы́рыцца, натрубíцца.*

НАПУ́СТАЛЬ *прысл.* На будучае. *Напу́сталь яна табе благое жадаець.* Клінавое Шарк.

НАПУХАЛЯВА́ЦЬ *зак.* Набіць, стукнуць. *Я магу і напухалявáць, калі не будзіш слухацца.* Ваўкалата Докш. Параўн. *надзю́гаць, наклáсці.*

НАПУ́ХШЫ *дзеепрым., перан.* Набрынялы (пра насенне). *Напу́хшае насенне мне падай.* Шарагі Міёр.

НАПЯНДЭ́ЛІЦЬ *зак., экспр.* Надзець; нацягнуць на сябе што-н. *Напяндэ́ліла на сябе гэтую рубаху, а зараз зняць не магу.* Галбея Паст. *Дзед напяндэ́ліць восем кофт і ходзіць.* Гута Паст. Параўн. *надзёўваць, накажу́рicца, налажы́ць, напрану́ць, напратáцца*[2].

НАПЯРЭ́СЦІГІ гл. НАПЕРАСЦÍГІ

НАПЯРЭ́СЦІКІ *прысл.* Напрасткі. *А я напярэ́сцікі прыбегла.* Гарадзец Шарк. Параўн. *напрасты́, напрóста, напрóст, начэ́раз.*

НА́ПЯТА, НАПЯ́ТА гл. НА́ПІТА

НАРАБІ́ЦЬ *зак., перан.* Насмеціць. *Я вам нараблю́ гэтым кмінам.* Зачысцікі Шарк.

◊ НАРАБІ́ЦЬ ПУ́СТАК Учыніць зло, подласць у адносінах да каго-н. *Ты нарабíў пу́стак мне!* Круткі Паст.

НАРА́ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Калі ён табе нарáвіцца, то можна яго вубіраць.* Раманаўка Тал. *Мне гэта зусім не нарáвіцца.* Вярэнькі Паст. *Як табе гэта нарáвіцца?* Язвіна Шум.

НАРА́ЗЕ *прысл.* Пакуль што. *Ну, нарáзе дзякуй і за гэта.* Турлы Паст.

НАРА́ЗНА *прысл.* Паасобку. *Будзім дзелаць разам, нарáзна ніякага толку.* Мішкавічы Шум.

НА́РАСТ, НО́РАСТ *м.* Нераст. *Вясною нáраст. Рыба такім урэмем мечыць, такім кучом ходзіць.* Поціна В.-Дзв. *У нáраст рыбу не ловюць.* Цясты В.-Дзв. *Рыба вясной у нóраст ідзець.* Бігосава В.-Дзв. *Хутка на возеры нóраст будзець.* Мілашова Міёр. *Як пойдзець укляя ў нóраст, дык цэлыя мяхі дамоў нясём.* Матырына Уш.

НАРАСТАВА́ЦЬ *незак.* Нераставаць. *Нельга лавіць рыбу, калі яна нарасту́ець.* Боркавічы, Цясты В.-Дзв.

НАРАСХЛЯ́СТ *прысл.* Наросхрыст. *Вун малец нарасхля́ст у холад ідзець.* Старое Лядна Леп. Параўн. *нáхрыст.*

НАРАСЦЕ́НЬ, НА́РАСЦЕНЬ гл. НАРО́СТ

НАРАТО́К *м.* Мяшок з грубай тканіны, які выкарыстоўвалі для кармлення каня. *Калі едзеш надоўга, дык бяры каню нарато́к.* Луначарскае В.-Дзв.

НАРА́ЦАЦЬ *зак.* Надумаць. *Ну, ці нара́цалі вы што?* Бігосава В.-Дзв.

НАРАЧЫ́, НАРО́ШНЕ, НАРО́ШНІ *прысл.* Знарок, наўмысна. *Мы нарачы́ пасмяяліся з яго.* Ваўчо Уш. *Ён можыць і наро́шне сказаць, а ты тады думай, чаго хочаш.* Задроўе Арш., Далёкія Брасл. *Зрабіла ж наро́шні так.* Празарокі Глыб. *Наро́шні не прыдумаеш.* Новыя Валосавічы Леп. Параўн. *назмы́сне.*

НАРО́ГІ *толькі мн.* Лейцы. *За наро́гі цягну, а конь стаіць.* Нурава В.-Дзв.

НАРО́ЖНІК *м.* Яслі, спецыяльная кармушка для жывёлы. *У наро́жнік да каровы аднясі сена.* Пірагі Дубр.

НАРО́СТ, НАРО́СТАК, НАРАСЦЕ́НЬ *м.*, НА́РАСЦЕНЬ *ж.* Нараст. *Усё дрэва ў наро́стах.* Макаравічы Докш. *На дубку вырас наро́ст.* Асташэва Лёзн. *Наро́сты на ствалах дрэў растуць.* Малыя Пышнагоры Леп., Васюкі Шарк. *Наро́стак больш часць расцець на бярозах.* Дразды Беш. *Нарасце́нь на дрэве хутка вырас.* Уна Лёзн. *Учора прынеслі такі нарасце́нь, што можна з яго паліцу зрабіць.* Павулле Уш. *На́расцень спорціла яблыню.* Хілаўшчына Докш. *У лясу ж на́расцень усе дрэвы пакрыла.* Барадуліна Арш.

НАРО́Т *м.* Нерат. *Да наро́та крылья насаджваюць, за тычку прывязаваюць.* Вялікае Сяло, Поціна В.-Дзв. *Усякая рыба ў наро́ты залазіла: рак, курмялькі, ясь, украсліца, клейка.* Петрунова Глыб.

НАРО́Ў *м.* Нораў; характар. *Не трэба табе тут наро́ў свой паказваць.* Звязда Леп.

НАРО́ШНЕ, НАРО́ШНІ гл. НАРАЧЫ́

НА́РПА *ж.* Прылада для ачысткі зерня ручным спосабам. *Бацька зрабіў добрую на́рпу, цяпер праблем з зернем не будзець.* Дразды Беш.

НАРУБА́ЦЬ *зак.* Насячы (дроў). *Вось прышлось прасіць саседа, каб нарuба́ў троху дроў.* Сваташыцы Дубр.

НАРУ́ГА *ж.* Здзек, насмешка. *У тую сям'ю на нару́гу пойдзеш, жыцця не будзець.* Антонаўцы Брасл. *Як ты церпіш такую нару́гу?* Ляды Дубр.

НАРУГА́ЦЦА *зак.* Здзекавацца; насміхацца, дражніцца. *Як наруга́ецца ўсё роўна нада мной.* Ноўка Гар. *Мама, накрычы на яго! Чаго ён мне наруга́ецца?* Слабада Докш. *Хлопец дзеўкам наруга́ецца.* Стаі Леп. *Брацік наруга́ецца малой сястрычцы.* Матырына Леп. *Не наруга́йся, унучак, дзеду, а то ровар больш ніколі не направіць.*

Запруддзе Глыб. *А яна мне ўсягды наругáецца.* Нарыца Паст., Пашкі Шарк. Параўн. *надарáжываццa, надражáцца.*

НАРЫ́ГАЦЦА *зак., экспр.* Моцна наплакацца. *Чаго ж тут галава балець не будзець, нада ж так нары́гацца.* Заслонаўка Арш.

НАРЫ́СХРАСТ *прысл.* Насцеж. *Нары́схраст хата была ўвесь дзень.* Шыці Шарк. Параўн. *нáпіта, нáпята, напя́та.*

НАРЭ́ДЧАС *прысл.* Неяк, калі-нікалі, зрэдку. *Нарэ́дчас прайшоў дзень.* Сталіца Шарк. *Нарэ́дчас мы хадзілі праведаць цётку.* Казлоўшчына Паст.

НАСАВІ́К гл. НАСÁТКА

НАСАКÁ *м.* Штурхаль, удар нагою. *Атрымаў малец насакá.* Скачыхі Уш.

НАСÁТКА *ж.*, НАСÁТАК, НАСАВІ́К *м.* Насавая хустачка, насоўка. *Малая зноў пацірала насáтку.* Галі Беш. *Нада насіць у касцюме насáтку.* Янушова Докш. *Дзе ты што робіў? Уся насáтка гразная.* Стралкі, Чыстаполле В.-Дзв. *У карман іщчэ і насáтку лажу.* Воўкаўшчына, Драгуны, Мілашова, Мікалаёва, Спігальшчына, Язна Міёр. *Насáтка ўжо парвалася, нада будзіць зацыраваць.* Папшычы, Забор'е, Лазічы, Псуя, Сасноўка, Глыб. *А якія насáткі былі красівыя: і ажурныя, і вышываныя – усякія.* Белішкі, Варапаева, Груздава, Казлоўшчына, Лынтупы Паст. *Пайду вазьму свой насáтак.* Германавічы Шарк. *Няго ж не ўзіла насаві́к?* Надазер'е Глыб. *Дзе мой насаві́к ляжыць?* Кугоні Уш.

НÁСАКАМ, НАСÁКАМ *прысл.* Услед, следам. *Сабака бег нáсакам.* Мікалаёва Міёр. *Ён насáкам ходзіць за мной цэлы дзень.* Германавічы Шарк.

НАСАМПЕ́РШ, НАСАПЕ́РШ *прысл.* Перш за ўсё. *Гэта трэба выканаць насампе́рш.* Гілі Чаш. *Насапе́рш трэба бульбу выкапаць, а тады гуляць.* Дубінцы Чаш.

НАСАПЫ́РКА *ж., экспр.* Нос. *На лёдзе малая насапы́рку разбіла.* Галубова В.-Дзв. *Надула ўжэ сваю насапы́рку.* Лужасна Віц. Параўн. *нюхаўка.*

НАСÁЧЫЦЬ *зак.* Атрымаць у спадчыну. *Я хату насáчыў ад бацькоў.* Баршчоўка Віц.

НАСЕ́ЛІШЧА *н.* Зжатае поле. *Гані кароў на насе́лішча, лён ужо паднялі.* Сяляўшчына Рас.

НАСЁННІЦА *ж.* Старая бульбіна, якая перазімавала ў зямлі. *Глядзіце, насённіцу з поля не бярыце!* Цяцеркі Віц.

НАСЁНА, НАСЁНКА *ж., зб.*, НАСЁНЫ *мн.* 1. Насенне. *Скажы матцы, каб прывезла цыбулі на насёну.* Спігальшчына Міёр. *Сёлета, на дзіва, насёна ўсяго дробная і гнілая.* Германавічы Шарк. *Прапаў саўсім сёліта ячмень. Добра, каб насёна ўзяць.* Слабодка Брасл. *Насёна ў гэтым годзе – дрэнь.* Барсукі, Шэпелева Глыб. *Насёны былі*

*добрымі, вось і ячмень вырас на славу.* Чарневічы Глыб. *Трэба ўжо насёны купляць.* Турчылава Брасл., Мікалаёва Міёр. 2. Насенная бульба. *Сёлета бульбы насёна нада большы кінуць.* Дрысвяты, Укля Брасл. *Нада не запамятаваць аставіць бульбы на насёна.* Прыпернае Глыб. *Насёнкі ў гэтым годзе мала – бульба вельмі вялікая ўрадзіла.* Дрыгучы Міёр. *Не скажу, што многа ў гэтым годзе насёнкі бульбы, але хопіць таго, што ёсць.* Капыльшчына Глыб.

НАСЁРБАЦЦА *зак., перан., экспр.* Напіцца, быць моцна п'яным. *Сёння зноў мой насёрбаўся. Ну што з ім рабіць?* Ляды Дубр. Параўн. *наглю́кацца, наглыта́цца, надра́цца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налакта́цца, налíза́цца, налізга́цца, налупíцца*[2], *намы́згацца, нацялёскацца, наю́ськацца.*

НАСІ́ЛЫ, НАСІ́ЛКІ *толькі мн.* Каромысел. *Насілі на насі́лах па два вядры вады.* Балаі Паст. *Каб лягчэй было насіць ваду, бралі насі́лы.* Шантары Докш. *Куды гэта нашыя насі́лкі дзеліся? Вады ж нада нанасіць.* Усяны Брасл. Параўн. *ня́шы.*

◊ НАСІ́ЦЬ НА ПАГА́РШКАХ Насіць на плячах (пра дзіця). *Дзед узяў малога і но́сіць на пага́ршках па двару.* Пірагі Дубр.

НАСКІПА́ЦЬ *зак.* Нашчапаць (трэсак). *У печы паліць будзем, наскіпа́йце трэсак.* Застарынне Беш. *Наскіпа́й трэсак і палачак на паджогу.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Баева Дубр.

НАСМІ́ШКА *ж.* Насмешка. *Так абы-як узараў, як насмі́шку здзела́ў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАСО́Ў *м.* 1. Верхняе адзенне з палатна без падкладкі. *Насо́ў насілі амаль ва ўсе поры года.* Серкавіцы Тал. 2. Свабоднае, шырокае адзенне. *Насуніць сто насаво́ў, і ўсё ёй халодна.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Што ета ты за насо́ў надзела? Знімі, а то людзі засмяюць.* Лужасна Віц. *Мой мужык апрануў сем насо́ваў – не змерзнець.* Лялеўшчына Гар. Параўн. *надзе́тка, нажу́тка* ў 1 знач., *нале́пка, напо́ціна, напра́тка.*

НАСТА́ЎКА *ж., пчал.* Вулей для прываблівання пчалінага рою. *Наста́ўку на дрэва вешалі для пчол.* Кушняроўка Чаш.

НАСТАЮ́ШЧЫ гл. НАСТАЯ́ШЧЫ

НАСТАЯ́ШЧА *прысл.* Шмат, даволі многа. *У гэтым годзе бульбы накапалі настая́шча – поўны бурт.* Ропна Пол. *Мы назбіралі настая́шча ягад.* Паліцы Беш. *Грыбоў настая́шча прынёс.* Вялікае Сяло Шарк. *Настая́шча гадоў яна ўжо ні жыве ў нашай вёсцы.* Турлы Паст. *Настая́шча бульбы вырасла.* Кавалі Паст. *Тут ужо настая́шча сліў, можна варыць варэнне.* Прамышляды Паст. *Агуркоў настая́шча панаставіла на зіму.* Варапаева, Вярэнькі, Гута, Лынтупы, Казлоўшчына Паст., Губіна Леп., Бельнякі Чаш., Калінавая Міёр. Параўн. *навало́м, непаказа́на.*

НАСТАЯ́ШЧЫ, НАСТАЮ́ШЧЫ *прым.* Даволі вялікі, падрослы. *У яе хлопец настая́шчы, скора ў школу пойдзець.* Драбаўшчына Глыб. *У вайну я настая́шчай ужо была.* Галбея Паст. *Дачка была ўжо настаю́шчая, калі я апяць жаніўся.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НАСТО́ЕНКА *ж.* Настойка на ягадах. *Для насто́енкі ягады засыпаю сахарам.* Мікіціха Шум.

НАСТО́ЛЬНІЦА, НАСТО́ЛЬКА *ж.* Настольнік, абрус. *Гэту насто́льніцу яшчэ мая мама вышывала.* Каханавічы В.-Дзв. *Насто́льніцу новую зрабіла, на свята сцяліць будзім.* Каменка Тал. *Стол накрываюць насто́льніцай.* Кузьмянцы Віц., Забор'е Рас. *Трэба пасціраць насто́льку.* Старыя Крукі Міёр. Параўн. *накрыва́лка.*

НАСТРАПАЛІ́ЦЬ *зак., экспр.* Настроіць супраць каго-н.; падгаварыць зрабіць што-н. *Настрапалі́ла нівестка ўжэ майго сына проціў міне.* Кулакова Віц. Параўн. *нагаржамы́здзіць, навухрі́ць.*

НАСТРІМА́ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Нада ж дачку настріма́ць.* Абольцы Тал.

НАСТРО́ІЦЦА *зак., перан., экспр.* Сабрацца пайсці куды-н. *Ну, куды ўжо настро́ілася?* Дварчаны Паст. Параўн. *налу́дзіцца.*

НАСТРО́ІЦЬ *зак.* Прыгатаваць (пра ежу). *Я за дзень настро́іла на стол усяго поўна.* Целякі Паст. Параўн. *наве́сці*[4], *накрапа́ць*[2] у 1 знач.

НАСТРО́МАК *м.* Невялікі воз чаго-н. *Мне аднаго настро́мка саломы хваціць.* Слабада Дубр.

НАСТРЫ́КАЦЬ *зак., экспр.* Нахвастаць, насцябаць. *А ён крапіваю мяне настры́каў.* Пераброддзе Міёр.

НАСТРЭ́ЧУ *прысл.* Насустрач. *Я пайду адтуль сена заграбаць, а ты тады мне настрэ́чу ідзі.* Гараўцы Міёр.

НА́СТЫ *прым.* Сыты. *Цяпер чалавек на́сты, скаціна на́стая.* Мярэцкія Глыб. Параўн. *наёты, напунды́раны.*

НАСТЫ́БЕНІЦЬ *зак., экспр.* Надакучыць. *Кот насты́беніў: лезець і лезець на стол.* Празарокі Глыб. Параўн. *набярэ́дзіць, налязáць.*

НАСУ́ЛЬ *м.*, НАСУ́ЛЯ *ж., абразл.* Чалавек з вялікім носам. *Такі насу́ль!* Мілашова Міёр. *Насу́лю такую ў жонкі ўзяў.* Уна Лёзн.

НАСЦІ́ЛКА *ж.* Накідка; пакрывала на падушку. *У нас на падушках самавышываныя насці́лкі.* Красніца Чаш. Параўн. *накіда́шка, накі́два, накіду́шка, накі́нка.*

НАСЦЯГНУ́ЦЬ *зак.* Надысці, настаць. *Вось і ноч неяк адразу насцягну́ла.* Савенічы Сен.

НАСЫПА́НЕЦ *м.* Гародніна, складзеная ў кучу. *Насыпа́нец трэба знесці ў кладоўку.* Шарагі Міёр.

НАТАЛДО́НІЦЬ *зак., экспр.* Нагаварыць многа лішняга, набалбатаць. *Не вер яму: ён наталдо́ніць тое, чаго і на свеце няма.*

Баршчоўка Віц. Параўн. *набáвіць, набáіць, набалáкаць, набалматáць, набялéндзіць, нагалдзíць, накріндзядзю́ліць, накулдуя́чыць, накулды́чыць.*

НАТÓП *м.* Калатуша; гразь. *Што ў цябе на дварэ за натóп? Прывёз бы пяску.* Крыпулі Докш.

НАТРУБÍЦЦА *зак., экспр.* Многа з'есці, наесціся ўволю. *Такая трава бальшая, а каровы яшчэ не натрубíліся.* Баршчоўка Віц. Параўн. *набу́хацца, набэ́мбніцца, наву́хацца, наву́рзацца, наву́рзгацца, наву́рыцца, навярну́ць, наёдываць, накріпáцца, напарóцца, напіцавáцца, напрáтацца[1], напузы́рыцца, напунды́рыцца.*

НАТУ́ЖНА *прысл.* Дорага, накладна. *Ім будзець нату́жна гэта купіць – сім'я вялікая.* Ноўка Віц.

◊ НАЎБÍТКІ ГУЛЯ́ЦЬ *абрад.* Пра гульню з велікоднымі яйкамі, калі адно яйка б'юць аб другое. *На Пасху, бывала, набяром красных яек і наўбíткі гуля́ем.* Халмы Арш.

НАЎДÁ[1], НÁЎДА *ж., толькі адз.* Выгада, карысць. *А ніхто не ўчуў наўду́ маю.* Сталіца Шарк. *Зараз глядзяць, каб нáўду толькі палучыць.* Выдрэя Лёзн.

НАЎДÁ[2] *прысл.* Варта, трэба. *Наўдá будзіць заўтра ў лес ісці, ягады збіраць.* Каралёва Шарк. Параўн. *нáдабе, нáдабі, нáды, наць.*

НАЎЁЧКА *ж.* Святочнае адзенне. *Усе ў наўе́чках прыйшлі на вяселле.* Белабокі Брасл. Параўн. *надзéтка.*

НАЎЛÉЧКА, НÁЎЛЕЧКА, НÁЎЛІЧКА *ж.* Навалачка. *Мама любіла вышывáць наўлéчкі.* Гута, Муляры, Прамышляды Паст. *У пасаг збіралі падушкі, наўлéчкі.* Дрыгучы Міёр. *Нада наўлéчку паміняць.* Воўкаўшчына, Драгуны, Калінавая, Спігальшчына Міёр. *Наўлéчкі тады самі шылі.* Германавічы, Мельніца Шарк. *На наўлéчкі цімнаватага палатна набрала.* Бярозаўка Докш. *Я наўлéчкі люблю цвітастыя.* Езярышча Гар., Раманчукі Глыб., Гаршчэўшчына Тал. *Нáўлечкі вышывалі краснымі ніткамі.* Тупічына Шарк. *Я сама нáўлічкі шыла, палавікі ткала.* Таўкіні Шарк. Параўн. *нáвалка, нáвалушка, навэ́лка, нападу́шнік.*

НÁЎПЕРАД *прысл.* Спачатку, спярша. *Нáўперад купім хлеба, а тады ўжо канфет.* Цімошкава Міёр. *Я пайду нáўперад, а ты ідзі паціху.* Астроўна Беш., Новы Двор В.-Дзв.

НАЎПРÓЦІ, НАЎПРÓЦЬ, НАПРÁЦЦЯ *прыназ.* Насупраць. *Пожню мне далі наўпрóці агарода, блізка.* Папкі Міёр. *У хаце наўпрóць нас мая сястра жыла.* Друя, Слабодка Брасл. *Ты ж наўпрóць яго сядзела, не помніш?* Язна Міёр. *Кабылу наўпрóць кузні паставіўшы.* Целякі Паст. *Напрáцця цябе жывець мая сяброўка.* Селішча Уш.

НАЎРÁДЦА *прысл.* Наўрад ці. *Наўрáдца ён сёння прыдзець.* Рубеж Брасл.

НАЎРО́ДЗІ, НАЎРО́ДЗЕ *прысл.* 1. Напэўна, мабыць. *Наўро́дзі, так усё і застанецца.* Баяры Чаш. Параўн. *на́будзь.* 2. *часц.* Як быццам. *Наўро́дзі распагодзілася.* Арэхаўск Арш. *Наўро́дзе пачтальёнка ездзіць здаляка.* Снегі Міёр. 3. *прыназ.* Накшталт. *Купіла хустку наўро́дзе тваёй.* Бігосава В.-Дзв.

НА́ЎРЫШЧА *н.* Дзіва, загадка, незразумелая з'ява. *Во на́ўрышча нейкае – яйца ўсе пабітыя.* Зямянскае Гудава Дубр.

НАЎСКАПЫ́ТА, НАЎСКАПЫТА́ *прысл.* Наўскач, галопам. *Наўскапы́та конь па полю памчаўся.* Астроўна Беш. *Наўскапыта́ праскакаў конь па вуліцы.* Арэхаўск Арш., Язвіна Шум.

НАЎСКАСІ́К, НАЎСКАСЫ́ *прысл.* Наўскасяк. *Платок зложыць наўскасі́к, рог еты з цвятом ідаць.* Азёркі Гар. *Дарога дальнія ў дзярэўню, дык мы ідзём наўскасы́ праз лес.* Горкі Леп.

НАЎСКО́ЧКІ *прысл.* Навыперадкі, наперагонкі. *Дзеці наўско́чкі за грыбам пабеглі.* Луцік Чаш. Параўн. *наабго́н, наабго́нкі.*

НАЎСЯГДЫ́ *прысл.* Назаўсёды. *Хто б мог падумаць, што мы сюды наўсягды́ перабяромся?* Новы Двор В.-Дзв., Нямойта Сен. Параўн. *наза́ўшэ.*

НАЎЧЫЦЕ́ЛЬКА гл. НАВУЧЫЦЕ́ЛЬКА

НАХАМУТА́ЦЬ *зак.* Наблытаць, зблытаць. *Нахамута́ла ты мне тут ніткі – ніяк ні разабраць ціперь.* Канашы Гар. Параўн. *наплюта́ць, накрапа́ць[1].*

НАХМЫ́ЛІЦЦА *зак.* Нахмурыцца, стаць хмурным, панурым. *Дык ён ужо і нахмы́ліўся.* Занькі Леп. Параўн. *набату́рыцца, набу́чыцца, накандуба́сіцца.*

НА́ХРЫСТ *прысл.* Наросхрыст. *Каўняры на́хрыст, курткі на́хрыст – яўляюцца кавалеры!* Багданава Сен. Параўн. *нарасхля́ст.*

НАЦЕ́ЛЬНІК *м.* Споднея бялізна. *Дай мне наце́льнік: у баню пайду.* Грыгаравічы Леп. Параўн. *нажу́тка* ў 3 знач.

НАЦЕ́ПЛІЦЬ *зак.* Напаліць, нагрэць. *Мама ў хаці наце́пліць – любата з холаду вайсці.* Зароўе Леп. *Я ўжо наце́пліла хату.* Гута Паст. *Тады наце́плім баню і сушым лён.* Кашталянаўшчына Глыб., Гаравыя Пол., Слабада Уш.

НАЦЁПАЦЬ *зак., экспр.* Зрабіць абы-як. *Што ж ты тут нацёпала?* Альхоўцы Шарк. Параўн. *напарта́чыць, накурадзы́міць, накля́паць.*

НА́ЦІВА, НАЦІ́ВА *ж., зб.* Сцёблы агародных раслін, націнне. *Каровам давалі ў корм на́ціву буракоў.* Каралёва Шарк. *Наці́ва агурэчніка распаўзлася.* Станіслававова Дубр.

НАЦІ́ННЕ *н., зб.* 1. Пустазелле. *Заўтра пойдзем на агарод, будзем ірваць наці́нне.* Белаазёрны Леп. Параўн. *ню́нька* ў 2 знач. 2. *бат.* Раска. *У етай сажалцы на лодцы не пакатаешся – уся наці́ннем пакрылася.* Белая Ліпа Сен.

НАЦІ́ХНУЦЬ *зак.* Сціхнуць, спыніцца на некаторы час (пра дождж). *Дождж націх.* Канашы Гар. *Дождж націх, але пасля зноў забарабаніў.* Сураўні Шум.

НАЦІ́ЦЦА гл. НІ́ЦІЦЦА

НАЦУБЭ́СІЦЬ, НАЦУРБЭ́НІЦЬ *зак., экспр.* Наліць звыш меры. *Нацубэсіла вады ў ванну.* Кублічы Уш. *Нацурбэніў вады ў вядро.* Папоўка Сен. Параўн. *набабáхаць, набáхаць, набухтóрыць, нашабулдэ́хыць.*

НАЦУ́ДЗІЦЬ *зак.* Назбіраць. *Во вядро ягад памалу і нацýдзіла.* Макаравічы Докш. Параўн. *навалóхаць.*

НАЦУКРАВА́ЦЦА *зак.* Уволю паласавацца. *Ну, мы сёння і нацукравáліся смачным усім у саседзій.* Вітунічы Докш.

НАЦУРБЭ́НІЦЬ гл. НАЦУБЭ́СІЦЬ

НАЦЬ *прысл.* Трэба. *Нацьбохан хлеба купіць.* Бігосава В.-Дзв. Параўн. *нáдабе, нáдабі, нáды, наўдá*[2].

НАЦЮПІ́ЦЬ *зак.* Накрышыць, раскрышыць (пра хлеб). *Нацюпіць хлеба, а есці ні будзець і пайдзець.* Яроменкі Гар. *Нацюпілі хлеба на стол і не прібралі за сабой.* Лужасна Віц. *Нацюпі хлеба ў міску сабакі.* Ноўка Гар.

НАЦЯГА́НКА *ж.* Паляндвіца. *Пакаштуйце нашай нацягáнкі.* Машчоны Сен.

НАЦЯ́ГІЧ *м.* Прылада для нацягвання абручоў на бочку. *Нацягіч трэба ў кагось узяць.* Камень Леп.

НАЦЯЛЁСКАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць п'яным. *Ізноў нацялёскаўся? Колькі ж можна?* Гаршчэўшчына Тал. Параўн. *наглытáцца, наглю́кацца, надрáцца, наёкацца, нажлактáцца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налактáцца, налізáцца, налізгáцца, налупíцца*[2], *намы́згацца, насёрбацца, наю́ськацца.*

НАЦЯ́ТЫ *дзеепрым.* Нацягнуты. *Бялізну павешаю на нацятую вяроўку – і добра высыхаець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мокрую адзежу я вешаю на нацятую вяроўку ў двары.* Мількі Брасл.

НА́ЧАЙ *прысл.* Іначай, інакш. *Па-вашаму гэта нáчай завецца.* Галбея Паст. *Нáчай магу я вам сказаць.* Баравуха Пол.

НАЧНІ́К *м.*, НАЧНІ́ЦА[1] *ж.* Начны матылёк. *На агонь у хаце ляцяць начніцы.* Новае Саколіна Тал. *Зноў начнікі ў вокны ляпаюць.* Ракава Гар.

НАЧНІ́ЦА[2] *ж.* Сава. *Я ніколі ні філіна, ні начніцу не відзела – жывуць у лясах.* Варанцэвічы Тал.

НАЧО́ЎКІ[1] *мн.* Цэбар. *Начóўкі рабілі з дзерава, затым свінням туды мяшалі.* Дуброўна.

НАЧО́ЎКІ[2] *толькі мн.* Вячоркі. *Начóўкі ўсе любяць, бо радасці многа яны даюць.* Выдрэя Лёзн.

НАЧО́ЎКІ[3] *мн.* Начныя шторы. *Усе начо́ўкі трэба будзіць перамыць к святу.* Стайкі Віц.

НАЧО́ЎНІЦА *ж., заал.* Начніца; лятучая мыш, кажан. *У склепе раз бачыла начо́ўніцу.* Косціна Дубр.

НАЧУ́ЦЬ *зак.* Падслухаць. *Любіць мой унук начу́ць чаго, а тады мне расказываіць.* Язна Міёр.

НАЧЫ́ННІК *м.* Пірог, начынены чым-н. *Мая матка смачныя начы́ннікі пякла.* Крыпулі Докш.

НАЧЭ́РАЗ *прысл.* Напрасткі. *Пайшлі начэ́раз да вёскі.* Гацькаўшчына Арш. Параўн. *напрасты́, напро́ста, напро́ст, напярэ́сцікі.*

НАШ *займ., перан.* Ядомы (грыб). *Глядзі, гэта грыб наш ці не наш?* Чашнікі.

НАШАБУЛДЭ́ХЫЦЬ *зак., экспр.* Наліць звыш меры. *Сяння хлопцы рызахоціліся: нашабулдэ́хылі вады, што дзецца некуды.* Баева Дубр. Параўн. *наба́хаць, набаба́хаць, набухто́рыць, нацурбэ́ніць, нацубэ́сіць.*

НАШКУ́РЫЦЬ *зак., экспр.* Нашкодзіць. *Ну, нашто ты, сынок, нашку́рыў людзям на Купала?* Данілкава Тал. Параўн. *накурады́міць, напарта́чыць.*

НАШМІ́НІЦЦА *зак.* Нафарбавацца, падмаляваць губы, твар і інш. *Сама ідзі нашмі́нься, а да мяне не лезь, не нравіцца мне твая шмінка, адчапіся.* Папшычы Глыб. *Ну, нашмі́нілася? А то не дажджэшся цябе.* Лазічы Глыб. Параўн. *наштукату́ріцца.*

НАШТУКАТУ́РІЦЦА *зак., перан.* Нафарбавацца, падмаляваць губы, твар і інш. *Во наштукату́рыліся!* Лужасна Віц. Параўн. *нашмі́ніцца.*

НАШЫ́ВАРАТ *прысл.* Навыварат, з адваротнага боку. *Узяў і гузікі нашы́варат прышыў.* Смаляны Арш. *Толька агледзіла, што майку надзела нашы́варат.* Замошша Брасл.

НА́ШЫНА *ж., зб.* Асабістая ўласнасць, маёмасць (пра дом і сям'ю). *Кожны сваю на́шыну пільнуець.* Каралёва Шарк.

НАШЫ́НА гл. НАШЫ́НЕЦ[2]

НА́ШЫНЕЦ[1] *м.* Свой чалавек, зямляк. *Адразу бачна, што ты на́шынец.* Мікалаёва Міёр.

НАШЫ́НЕЦ[2] *м.*, НАШЫ́НА *ж.* Шкарпэтка. *Нашы́нец свой не знайду.* Станіслававова Дубр. *Не раскідывай па хаце нашы́ны.* Германавічы Шарк.

НАЮ́СЬКАЦЦА *зак., экспр.* Напіцца, быць п'яным. *Лёгка наю́ськацца можна, калі п'еш без меры.* Серкавіцы Тал. Параўн. *наглыта́цца, наглю́кацца, надра́цца, наёкацца, нажлакта́цца* ў 2 знач., *назю́зькацца, назюзю́кацца, наклю́кацца, налакта́цца, налiза́цца, налізга́цца, налупі́цца[2], намы́згацца, насёрбацца, нацялёскацца.*

НАЯ́СНУ *прысл.* На світанні. *Наясну выгналі нас немцы ў поле працаваць.* Гута Паст. Параўн. *напаўра́нкі.*

НЕ́БАЛАДЗЯ, НЕБАЛА́ЗЯ *прысл.* Нядобра, дрэнна. *Не́баладзя браць без спросу.* Хацейка Гар. *Небала́зя старых не слухацца, бо мондрэй яны маладых.* Выдрэя Лёзн.

НЕБАСЯ́Г *м.* Далягляд. *З таго ўзгорка ў нас такі небася́г!* Дзегцяры Брасл.

НЕ́БЕЦ *м.* Месяц. *На неба не́бец узыйшоў.* Вярэнькі Паст. *Як на небе не́бец, так мая ўнучка праз ноч лунаціць.* Турлы Паст.

НЕ́БЫТ[1] *м.* Гаспадарка. *Іна пасварылася з ім, кінула ўвесь гэты хатні не́быт, а сама з дому пашла.* Лужкі Шарк.

НЕ́БЫТ[2] *м.* Галеча, беднасць, нішчымніца. *Раньшы не́быт быў, есці нечага была.* Вядзерава Беш. Параўн. *нуда́, няста́так.*

НЕВАРО́ЎНЫ *прым.* Неасцярожны. *Ці можна ж быць такім неваро́ўным?* Іванаўка Гар.

НЕВЫВО́ДНА *прысл.* 1. Бясконца, доўга. *Сасед як прыдзіць, дык і сядзіць у хаце невыво́дна.* Паліцы Беш. 2. Заўсёды, пастаянна. *Канфеты ў рібят ціперь невыво́дна бываюць.* Лужасна Віц. *Прысмакі ў дзяцей ляжаць невыво́дна – кожны дзень нясу з магазіна сма́шнае.* Іванск Чаш.

НЕ́ГАДЗЬ гл. НЕПАГО́ДЗІЦА

НЕ́ГАЛДА *аг., абразл.* Няўдалы, няспрытны, някемлівы чалавек; недалуга, недарэка. *А чаму ты такі не́галда? Бацькі ж нармальныя.* Макаравічы Докш. Параўн. *недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *незграбэ́йла, нягёглік, нягёгліца, нязгра́ба, нязгра́бнік, нявы́валака* ў 2 і 3 знач., *няздэ́ба, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да.*

НЕДАБА́Й *м., абразл.* Неахайны чалавек; мурза. *Мужык гэтат – нейкі недаба́й.* Савуткі Шарк. Параўн. *няхлю́й.*

НЕДАБІ́РКІ *толькі мн.* Астаткі, рэшткі ўраджаю (звычайна пра зерне). *Усе недабі́ркі ў нас з'ядала скаціна.* Воўкаўшчына Міёр. *Асталося недабі́ркаў мяшкі са два.* Шыці Шарк. *Тры капы недабі́ркаў засталося.* Абруб Глыб.

НЕДАБІ́ЦЬКА *аг., абразл.* Дурань; разумова абмежаваны чалавек. *Бабу тую дужа жалка: селі на шыі гэтыя недабі́цькі.* Каменец Чаш. Параўн. *на́далбень.*

НЕДАБРО́ЦЦЕ *н.* Непрыемнасці, нягоды. *Адно недабро́цце: то варона кураня ўхопіць, то ліса курыцу ўнясець.* Мядзведзева В.-Дзв. Параўн. *налёты, ніпуцёвіца, непералі́ўкі, непярэ́лі́ўкі.*

НЕДАВЫЛЁНЫ *дзеепрым.* Незадаволены. *Заўсёды ён у нас недавылёны.* Чарневічы Глыб.

НЕДАЁДКІ *мн., перан., экспр.* Дзеці, якія нарадзіліся ў ваенныя і пасляваенныя гады. *Называлі нас тады недаёдкамі. Не было чаго есці тады пасля вайны.* Янава Тал.

НЕДАЛО́МАК *м.* Частка зламанага прадмета, рэчы. *З падворка трэба ўбраць той недало́мак.* Мількі Брасл.

НЕДАЛУ́ГІ, НІДАЛУ́ГІЙ *прым.* 1. Недалужны; недалёкі, разумова абмежаваны. *Такі ўжо недалу́гі гэты малец.* Пераброддзе Міёр. *Гэты троху недалу́гі, лепш яго не чапаць.* Сваташыцы Дубр. Параўн. *недапахо́лы.* 2. Марудлівы, непаваротлівы. *Нейкій ты нідалу́гій – паўгадзіны апранаешся!* Мурагі Рас. Параўн. *нейкаве́рны, непаваро́тны, непаваро́ткі, нясклёпісты.*

НЕДАЛЭ́НГА, НЕДАЛЭ́ГА, НІДАЛЭ́НГА *аг., абразл.* 1. Слабы, хваравіты чалавек; недалуга. *Недалэ́нга гэты хварэе часта, на вуліцы яго крыўдзяць усе.* Лужкі Глыб. *Ай, бедны хлопец – зусім недалэ́нга нейкі.* Гарадзец Шарк. *Ніхай гэты недалэ́га дома сядзіць.* Чарнаручча Леп. Параўн. *нездаля́ка.* 2. Няспрытны, няўмелы чалавек; няўмека, недалуга. *Трэба ж быць такім недалэ́нгам!* Пашкі Шарк. *Во, якім я ўжо стаў недалэ́нгай, ай-яй-яй!* Верхняе, Папшычы, Празарокі Глыб. *Такі нідалэ́нга зяць: ні за плугам хадзіць, ні касіць.* Ігнацішкі Паст. Параўн. *не́галда, няге́глік, няге́гліца, нязгра́бнік, нязгра́ба, незграбэ́йла, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да, нявы́валака* ў 2 і 3 знач., *няздэ́ба.*

НЕДАЛЮ́ДАК гл. НЕПРЫЛЮ́ДАК

НЕДАЛЯГА́ЦЬ *незак.* Недамагаць, хварэць. *Нешта мне сёння недаляга́ець.* Чарнаручча Леп.

НЕДАМО́ГА *ж.* Хвароба, недамаганне. *На Купалаўку ў ноч купацца нада, бо вадзіца лячэбная – ад усіх недамо́г лечыць.* Мікіціха Шум. Параўн. *няс́но́цце.*

НЕДАПАХО́ЛЫ *прым.* Той, які мае фізічны або разумовы недахоп. *Той малец пасля арміі нейкі недапахо́лы стаў.* Апанаскавічы Уш. *І гэтыт недапахо́лы прышоў сюды!* Кублічы Уш. Параўн. *недалу́гі, нідалу́гій* у 1 знач.

НЕДАПО́ШЛІВЫ, НЕДАПО́ШНЫ, НІДАПО́ШЛЫЙ *прым.* Недалужны; слабы, хваравіты. *Ён хоць недапо́шлівы, а ўсё ідзець на працу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Адразу бачна, што ён нейкі недапо́шны.* Пашкі Шарк. *Нейчы пятух нідапо́шлый ходзіць.* Слабодка Леп. Параўн. *нездаля́шчы, нездаравя́чы, нездараўча́ны, немагу́шчы, ніякій у* 3 знач., *нэ́нзны.*

НЕ́ДАСАЛЬ *ж.* Недасол. *Не́дасаль на стале можна пасаліць.* Раманава Гар.

НЕДАУ́ЗДАК *м.* Аброць. *Недау́здак забыўся, а як каня весці?* Юркава Глыб.

НЕ́ДЗЕЙКА, НЕ́ДЗЕКА, НЕ́ДЗІКА *прысл.* Недзе; дзесьці. *Не́дзейка там у лесе ёсць ягады.* Узмёны Міёр. *Там не́дзека за лесам возера.* Кублічы Уш. *Не́дзека ўжо дождж ідзець.* Новы Пагост Міёр. *Не́дзіка пад Полацкам жывець ягонава дачка.* Дрыгучы Міёр.

НЕЗАБО́ТНЫ *прым.* Бесклапотны. *Незабо́тны жывець, нічога яму не нада.* Мазурына Шум.

НЕЗАХО́ДЛЫ *дзеепрым.* Незарослы (пра ўчастак зямлі, на якім нічога не ўзышло). *Незахо́длае месца на агародзе – не ўзышлі буракі.* Янкішкі Паст.

НЕЗВАРУ́ШНА *прысл.* Нерухома. *Як стаў, так і стаіць незвару́шна.* Бяседы Леп.

НЕЗГРАБЭ́ЙЛА гл. НЯЗГРА́БНІК

НЕЗДАЛЯ́КА *аг., экспр.* Хворы чалавек, недалуга. *Вунь нездаля́ка пайшоў – стары ўжо.* Раманава Гар. Параўн. *недалэ́нга, недалэ́га.*

НЕЗДАЛЯ́ШЧЫ *прым.* Слабы, худы, нядошлы. *Вельмі нездаля́шчы скот у калгасе.* Загацце Чаш. *Ён у нас такі нездаля́шчы.* Закур'е Чаш. Параўн. *недапо́шлівы, недапо́шны, нідапо́шлый, нездаравя́чы, нездараўча́ны, немагу́шчы, ніякій* у 3 знач., *нэ́нзны.*

НЕЗДАРАВЯ́ЧЫ, НЕЗДАРАЎЧА́НЫ *прым.* Нездаровы, хворы. *Мой мужык ужо зусім нездаравя́чы.* Мікіціха Шум. *Вось ужо з тыдзень я нездараўча́ны.* Нурава В.-Дзв. Параўн. *нездаля́шчы, недапо́шлівы, нідапо́шлый, недапо́шны, немагу́шчы, ніякій* у 3 знач., *нэ́нзны.*

НЕЙКАВЕ́РНЫ *прым.* Непаваротлівы. *Во ўжо нейкаве́рны які!* Каўровая Дубр. Параўн. *непаваро́ткі, непаваро́тны, нідалу́гій* у 2 знач., *ніпаваро́тны, нясклёпісты.*

НЕ́ЙКАМ *займ.* Не́йкі. *К маці прыходзіў сёння не́йкам дзядзька.* Барздоўка Арш. *Гэты дзядок не́йкам дурань.* Грынеўшчына Докш. Параўн. *ніяке́й* у 1 знач.

НЕКАРЫ́СНЫ *прым.* Непрыгожы. *Некары́сны гэты хлопец.* Клясціцы Рас. Параўн. *ніла́дны, нялю́бы, няпе́кны,*

НЕ́КАСЬ *м.* Леташняя няскошаная трава. *У балоце не́кась астаўся.* Кураполле Паст.

НЕЛАДЗЯ́ *прысл.* Неахвотна, нехаця. *Неладзя́ сын у школу хадзіў.* Перавознікі Паст. Параўн. *нyaхо́та.*

НЕЛАПЫ́[1] *прым.* Немалы, вялікі па памерах. *Я нелапы́ пакуначак зро́біла.* Чашнікі. *Я яму нелапу́ю торбачку перад ад'ездам сабрала.* Дубы Чаш.

НЕЛА́ПЫ[2] *прым.* Нядрэнны, добры (пра чалавека). *А хлопец ён нела́пы быў.* Лутава Сяльцо Уш. Параўн. *нічо́гі, ніштава́ты.*

НЕЛЮБЯ́ЦІНА *аг., лаянк.* Агідны чалавек, нягоднік. *Паліц аб паліц не ўдарыў, нелюбя́ціна гэты!* Сабалі Чаш. Параўн. *на́брадзь, на́брыдзь, наглі́нец, несувіру́тнік, нягоддзе.*

НЕМАГУ́ШЧЫ *прым.* Слабы; нездаровы, хваравіты. *Мой саўсім немагу́шчы стаў: мяшок бульбы ні падыміць.* Марчанкі Гар. Параўн.

*недапóшлівы, недапóшны, нездаля́шчы, нездаравя́чы, нездараўча́ны, нідапóшлый, ніякій* у 3 знач., *нэ́нзны.*

НЕМА́К *м.* Нямы чалавек. *У суседзяў дзіця-немáк нарадзілася.* Пушкі Лёзн. Параўн. *нямтýр, нямчýр, нямтýрнік.*

НЕМАРА́СЦЬ *ж.* Трывога, неспакой. *Туды-сюды ходзіш, калі біваіш у немарáсці.* Пурышкі Гар.

НЕ́МАРАЧ *ж.* Глухое, цёмнае месца; цемра. *Пражыла ў нéмарачы ўсё жыццё.* Ваўчо Уш. *У нéмарач не хадзі – не выйдзеш і ніхто цябе не знойдзець.* Савенічы Сен. *Пробкі выбіла – сядзі без святла ў нéмарачы.* Камары Віц.

◊ КАБ НА ЦЯБЕ́ НЕ́МАЧ Зламыснае пажаданне, праклён. *Каб цябе нéмач за гэткую работу!* Пашкі Шарк. Параўн. *нечысцё.*

НЕ́МАЧКІ *прысл.* Моўчкі. *Неяк напужалі нас, дык увесь вечар нéмачкі сядзелі.* Ліпаўкі Докш.

◊ НЕ́МАЧКІ КРЫЧА́ЦЬ *прысл.* Моцна, роспачна крычаць. *Малы нéмачкі крычáў – баяўся чужога сабакі.* Мацюкова, Бортнікі Глыб., Белая Ліпа Сен. *Чаго ты нéмачкі крычы́ш? Аглохнуць можна.* Кажары Чаш. Параўн. *нáгвалт.*

НЕНАВІ́ДНЫ *прым.* Ненавісны. *Гэты чалавек мне ненаві́дны.* Фарынава Пол.

НЕНАТЛА́НЫ *прым.* Ненасытны, пражэрлівы. *Во сабака ў міне ненатлáны, не пракарміць!* Трыгубцы Віц.

НЕПАВАРО́ТНЫ, НЕПАВАРО́ТКІ *прым.* Непаваротлівы; няспрытны. *Наеўся ад душы, стаў, як кабан, непаварóтны.* Марчанкі Гар. *Які непаварóтны ты, дзед, стаў!* Загацце Чаш. *Яна такая непаварóткая стала.* Мікіціха Шум. Параўн. *нейкавéрны, неўсюлю́кі, нідалýгій* у 2 знач., *нясклёпісты.*

НЕПАГО́ДЗІЦА, НЕ́ГАДЗЬ *ж.* Непагода, непагадзь. *Сёння на дварэ непагóдзіца.* Серкавіцы Тал. *О, якая нéгадзь – ідзець дождж.* Астроўна Беш. *У нéгадзь воўк смялей цягаецца.* Мілашы Брасл.

НЕПАКАЗА́НА *прысл.* Вельмі многа. *А жукоў на бульбе – непаказáна!* Камаі Паст. Параўн. *навалóм, настая́шча.*

НЕПАСЛУ́ШНІК, НЕСЛУХА́НЕЦ *м., экспр.* Неслух, свавольнік. *Растуць непаслýшнікі-мальцы, нікога ў рязон браць не хочуць.* Ляхаўка Дубр. *Сто разоў гаварыла ўжо гэтаму неслухáнцу, а ён усё міма вушэй прапускаіць.* Іванск Чаш. Параўн. *нáкальніца, няўсéда, няўстрýй.*

НЕПАТРЭ́Б'Е *н., зб.* Тое, у чым няма патрэбы (рэчы, прадметы); непатрэбшчына. *Трэба выкінуць гэтае непатрэ́б'е.* Мядзведзева В.-Дзв. *Як тут, дык і непатрэ́б'е нада, а перавозіць яго ў горад к сыну ні буду.* Халамер'е Гар.

НЕПАХАРО́НЕТЫ *прым.* Непахаваны. *Брат з вайны не вярнуўся, можа, непахарóнеты дзе.* Перамонт Лёзн.

НЕПЕРАЛІЎКІ, НЕПЯРЭЛІЎКІ *мн.* Непрыемнасці, нягоды. *У мяне ў гэтым месяцы ўсё нейкія непераліўкі.* Камаі Паст. *Такія непераліўкі, не знаю, што і дзелаць.* Старое Сяло Уш. *Развяла тут непярэліўкі, не плач.* Забалацце Леп. Параўн. *налёты, недабрóцце, ніпуцёвіца.*

НЕПРЫЛЮ́ДАК, НЕДАЛЮ́ДАК *аг., экспр.* Нелюдзімы чалавек, нелюдзь. *У тэй хаце непрылю́дак жывець – адзін усю жызню.* Нарыца Паст. *А ён усё адзін і адзін, ніхто яму і ні нада, непрылю́дак нейкі.* Балаі, Перавознікі Паст. *Дачка троху недалю́дак была: мы ўсе, бываець, сядзім тут, а іна ў тую хату пойдзіць.* Грэцкія Міёр.

НЕПЯРЭ́ЛІЎКІ гл. НЕПЕРАЛІ́ЎКІ

НЕ́РАДЗЬ[1] *ж., зб.* Дробныя ягады. *На кусту асталася толькі нéрадзь.* Пірагі Дубр. *У сухое лета ў лесе з ягад толькі нéрадзь бываець.* Жыгалы Беш. *І нéрадзь сабіралі, а што рабіць?* Ула Беш., Горы Чаш. Параўн. *нéрасль, неўмалóт.*

НЕ́РАДЗЬ[2] *ж., зб.* Машкара. *Нерáдзь уся гэта спакою не даець.* Баравуха Пол.

НЕ́РАДЗЬ[3] *ж.* Неўраджай, недарод. *Нéрадзь – вялікая бяда для людзей.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *няўрóда.*

НЕ́РАСЛЬ *ж.* Дробныя ягады. *На адным лапіку ўрадзілі клубніцы, а на другім – адна нéрасль.* Нямойта Сен. Параўн. *нéрадзь[1], неўмалóт.*

НЕ́СКУКА *займ.* Некалькі. *Дай ты мне, баба, нéскука цыгарэт з паліцы, а то рукі мокрыя.* Папшычы Глыб.

НЕСЛУХА́НЕЦ гл. НЕПАСЛУ́ШНІК

НЕСПАДРУ́ЧНА *прысл.* Не з рукі, нялоўка. *Неспадру́чна мне адсюль бульбу браць.* Лужасна Віц.

НЕСУВІРУ́ТНІК *м., абразл.* Нягоднік. *Сорамна было за яго, такі ўжо несувіру́тнік быў.* Звязда Леп. Параўн. *нáбрадзь, нáбрыдзь, наглінец, нелюбя́ціна, нягóддзе.*

НЕ́ТКА *аг.* Бядняк. *Той мужык у нашым сяле такі нéтка!* Астроўна Беш.

НЕ́ТУЦІ *безас.-прэдык.* Няма. *Гаспадара дома нéтуці. Нéтуці ў яго кароў.* Асвея В.-Дзв. Лугавыя, Ноўка Віц. *Бульбы ў гэтым годзі нéтуці. Што есці будзім?* Іванск Чаш. *Чарніц сёлета нéтуці – пагарэлі.* Радчонкі Гар., Ніўнікі Міёр., Арлея Пол., Слабада Шум.

НЕЎМАЛО́Т *м., зб.* Дробныя ягады. *Як нада, дык і неўмалóт пойдзець для кампоту ці варэння.* Дразды Беш. Параўн. *нéрадзь[1], нéрасль.*

НЕЎПРЫЦЯ́МКУ *прысл.* Няўцям, незразумела. *Неўпрыця́мку гэта мне.* Урбаны Брасл.

НЕЎСТАВА́КА *аг., экспр.* Гультай. *Хіба з такім неўстава́кай кашу зварыш?* Халамер'е Гар. *Мой сын – такі ўжо неўстава́ка, любіць доўга спаць.* Ляды Дубр. Параўн. *нява́ла, нявы́валака* ў 1 знач.

НЕЎСЮЛЮ́КІ *прым.* Няўмелы. *Неўсюлю́кі гэты малец – нічога не ўмеіць.* Чарневічы Глыб. Параўн. *нясклёпісты.*

НЕ́ЦЕЛЬ, НЕ́ЦІЛЬ, НЕ́ЦЕЛКА *ж.* 1. Карова, якая не будзе цяліцца на працягу года. *Не́цель – ета карова, каторая асталася няцельнай.* Мазалава Віц. *У мяне тры було каровы: адна не́цель, а дзве цяліліся.* Азяркі, Езярышча Гар. *Як я жыву? Кароўка наша ўжо старая, і мы загадавалі не́цель.* Галубчыкі Глыб. *Дык мая карова не́цель сёлета – малако круглы год ядзім.* Луначарскае В.-Дзв., Карабанавічы Дубр., Стараселле Леп., Мішкавічы Шум. *Адна карова, і тая не́цель.* Кубелеўшчына Шарк. 2. Цялушка, маладая карова, якая яшчэ не цялілася. *Мы сваю не́ціль навязваем у садку.* Жалезкі Беш. *На зіму аставілі яшчэ і не́целку.* Буеўшчына Шарк.

НЕЧЫСЦЁ *н., зб., міф.* Чэрці, нячыстая сіла. *Тфу, цэлую ноч нечысцё снілася.* Галбея Паст. Параўн. *не́мач.*

НЕ́ЧЫСЦЬ *ж.* Лён добрай якасці. *Як часалі лён, зрэб'е адлятала, а не́чысць заставалася ў руках.* Коравічы Чаш.

НЁБА *н.* Скляпенне ў печы. *Некаторыя хазяіны дажэ нёба ў печы бялілі, верылі, што там дамавік жывець.* Гунчанкі Віц.

НЁЖ гл. НЯГО́

НЁСКА гл. НЯСУ́ХА

НІВЕ́СТУЛЬКА *ж., памянш.-ласк.* Дзяўчына дашлюбнага ўзросту. *Дачка вырасла, ніве́стулькай ужо стала.* Рулёўшчына Сен.

НІ́ВЕСЬ *прысл.* Немаведама, невядома. *Ні́весь што тварыцца ў свеце, такое ўремя настала, што і загадываць рана.* Карабанавічы Дубр. Параўн. *нізна́ма, нітве́дама, нязна́на.*

НІВІДЫ́ *прым.* Нябачны, непрыкметны, незаўважаны. *Моладасць прабегла нівіда́я.* Свабодная Сен.

НІ́ГДЫ[1] *прысл.* Ніколі. *Ні́гды так не робі.* Смалоўка Сен. *На гэтай крайняй баразне ні́гды не было добрай бульбы.* Мельніца, Савуткі Шарк. *Ні́гды такога ні было.* Камаі Паст. *Далей сваёй вёскі ні́гды не выязджала.* Балаі, Васілеўшчына, Муляры Паст.

НІ́ГДЫ[2] *толькі мн.* Плёткі. *Ты ўжо ні́гды нейкія пляцеш.* Бортнікі Глыб.

НІДАЛУ́ГІЙ гл. НЕДАЛУ́ГІ

НІДАЛЭ́НГА гл. НЕДАЛЭ́НГА

НІДАПО́ШЛЫЙ гл. НЕДАПО́ШЛІВЫ

НІЁЗДЛЫ *прым.* Неаб'езджаны (пра каня). *Коні стаялі да чатырох гадаў ніёздлыя.* Пушкі Лёзн.

НІЗМІРО́НЫ *прым.* Неймаверны; вельмі вялікі, надзвычайны. *Нізміро́ны страх у вайну пераджылі мы.* Груздава Паст.

НІЗНА́МА, НЯЗНА́НА *прысл.* Невядома. *Як жа мне ісці нізна́ма куды?* Крыпулі Докш. *Нізна́ма што павыдумываюць, а тады самі веруць.* Сянно. *У свеце нязна́на што робіцца.* Велеўшчына Леп. Параўн. *ні́весь, нітве́дама.*

НІ́КАЦЬ *незак.* 1. Сланяцца без справы, сноўдацца. *Што ты ні́каеш па хаце? Ідзі лепш вады прынясі!* Косарава Глыб. *От ні́каець і ні́каець! Чаго не хочыш на работу ісці?* Пугачова Докш. 2. Шукаць. *Што ты там ні́каіш у камодзе?* Звязда Леп. Параўн. *но́даць, ні́шпарыць, ны́скаць.* 3. Выведваць што-н. *Гэта баба толька па хатах ходзіць ды ні́каіць.* Псуя Глыб. Параўн. *ня́даць.* 4. Прыглядацца. *Мой мужык доўга хадзіў і ні́каў на мяне маладую.* Лашукі Паст.

НІЛА́ДНЫ *прым.* Непрыгожы. *Ніла́дна дзеўка была, а маліц дык такей лоўкій іе ўзяў.* Двухполле Гар. Параўн. *некары́сны, нялю́бы, няпе́кны.*

НІНАЕ́Д *м.* Празмерны апетыт. *Чаго цябе нінае́д разбіраіць?* Баева Дубр.

НІНА́СКІ, НІНА́СЬКІ, НІНА́СЬКІЙ, НЯНА́СЬКІ *прым.* Чужы, незнаёмы, нетутэйшы. *Што там балбочуць на ніна́скай мові?* Рубеж Брасл. *Хадзіў быў па вёске ніна́ські чалавек.* Лазы Тал. *Гэтыт чалавек ніна́ській.* Мурагі Рас. *Нейкія няна́ськія канбікорм прадавалі.* Спігальшчына Міёр.

НІПУТНЭ́Й, НЯПУ́ТНЫ *прым.* Бесталковы, някемлівы. *Такі ніпутнэ́й унук у яе, як і сын.* Карабанавічы Дубр. *Няпу́тныя ў іх дзеці.* Новыя Валосавічы Леп.

НІПУЦЁВІЦА *ж.* Няўдачы, нягоды. *Як пашла ніпуцёвіца, дык яна ва ўсім будзіць.* Ляхаўка Дубр. Параўн. *налёты, недабро́цце, непералі́ўкі, непярэ́лі́ўкі.*

НІСЯНЕ́ЦІЦА *ж., экспр.* Глупства, бязглуздзіца, бяссэнсіца. *Во ўжо вярзець нісяне́ціцу!* Сталіца Шарк. *Пасля трэцяй чаркі пачынаець казаць нісяне́ціцу.* Мікалаёва Міёр.

НІТВЕ́ДАМА *прысл.* Немаведама, невядома. *Наплёў тут нітве́дама чаго і пашоў.* Свіраны Паст. Параўн. *ні́весь, нізна́ма, нязна́на.*

НІТЫ́[1] *мн.* Ніткі. *Ніты́ купіш і сядзіш вечарамі вяжаш, а раніцай – на базар.* Сувалкава Пол. *Мы тыя ніты́ і сплуталі.* Абольцы Тал.

НІ́ТЫ, НІТЫ́[2], *памянш.* НІ́ЦІКІ *мн., ткац.* 1. Ніт; злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы. *У ні́ты нітачкі паўцягваем і ткаць пачынаем.* Пятровічы Шарк. *Зноў зламаліся ні́ты.* Тупічына Шарк. *Кросны маюць ніты́, ставы.* Камоскі Беш., Надазер'е Глыб. *Ніты́ ўнізу прывязваюцца к панажам.* Белае Пол. *У ні́цікі ўстаўлялі ніткі.* Ракаў Засценак Сен. Параўн. *ніча́льніца.*

2. Ніт; спосаб ткання. *Я абрус ткаць зарадзіла на сем нітоў.* СпігальшчынаМіёр.

НІЎКО́ІМУ *прысл.* Нізашто, ні ў якім разе. *Каб мяне золатам засыпалі, не пайшла б за яго замуж ніколі, ніўко́іму.* Белая Ліпа Сен.

НІЦ *займ.* Нічога. *Ніц не зробіш ужо – згніла ўся бульба.* Дрыгучы Міёр. *Ты ніц не хацела?* Воўкаўшчына Міёр. *Для цябе мне ніц не жалка.* Баравуха Пол. Параўн. *нічо́г*[1], *нічо́гей.*

НІЦЕ́ЦЬ *незак.* Рабіцца тонкім, кволым (пра расліны). *У траве картошка ніце́іць.* Асвея В.-Дзв. *Увесь агурэчнік пачаў ніце́ць.* Зарачыцак Докш. Параўн. *наці́цца, ніці́цца.*

НІЦІ́ЦЦА, НАЦІ́ЦЦА *незак.* Станавіцца тонкім, кволым (пра расліны). *Густа пасаджаная расада ніці́цца.* Ткачы Гар. *Нешта мой гарод ніці́цца пачаў зарання.* Дрыгучы Міёр. *У суседзій нашых пад яблянямі бульба дужа наці́цца.* Воўкаўшчына Міёр. Параўн. *ніце́ць* у 2 знач.

НІЧА́ЛЬНІЦА *ж., ткац.* Ніт; злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы. *Ніча́льніцу маці, бывала, рабіла з нітак.* Матырына Леп. Параўн. *ніты́*[2], *ні́ты, ніцікі* ў 1 знач.

НІЧО́Г[1], НІЧО́ГЕЙ *займ.* Нічога, нішто. *Нічо́г мне ўжэ ні інціресна, нічо́г ўжэ ні нада: старая стала я.* Канашы Гар. *Нічо́гей не вырасла на полі.* Замшына Лёзн. Параўн. *ніц.*

НІЧО́Г[2] 1. *прысл.* Нічога, нядрэнна, даволі добра. *Жывуць нічо́г ціперь, пабагацелі.* Лужасна Віц. Параўн. *нягоры.* 2. *безас.-прэдык.* Нічога, хоць бы што. *Нічо́г, ні памрём ад голаду.* Канашы Гар. 3. *безас.-прэдык. у знач. вык.* Няблага, добра (пра фізічнае адчуванне). *Я ўжэ нічо́г з учарашніга, паправілася.* Казловічы Гар.

НІЧО́ГЕЙ гл. НІЧО́Г[1]

НІЧО́ГІ *прым.* Нядрэнны, даволі добры. *Нічо́гая ў яе сукенка.* Звязда Леп. *Дзень выдаўся нічо́гі.* Промыслы Беш. Параўн. *ніштава́ты, нела́пы*[2].

НІ́ШКНУЦЬ *зак.* Замаўчаць. *Ні́шкні! Каму я гавару, чуеш?* Колпіна Сен.

НІ́ШПАРЫЦЬ *незак.* Шукаць. *Чаго ты ні́шпарыш па хаце?* Балаі Паст. Параўн. *ні́каць* у 2 знач., *но́даць, ны́скаць.*

НІШТАВА́ТЫ *прым.* Нядрэнны, неблагі. *Гэты хлопец ніштава́ты, але дзіўны.* Савенічы Сен. Параўн. *нічо́гі, нела́пы*[2].

НІ́ШЧА *ж.* Самае глыбокае месца на возеры. *Раз было ў ні́шчы чуць не ўтапіўся.* Янкавічы Рас.

НІЯКЕ́Й, НІЯ́КІ, НІЯ́КІЙ *займ.* 1. Ніякі. *Ніяке́й помачы мне не давалі.* Шчарбакі Шум. Параўн. *не́йкам.* 2. *займ. у знач. прым.* Дрэнны, нікуды не варты. *Ні́які ў цябе мужык! Як ты з ім жывеш? Усягды ў сіняках ходзіш.* Ветахмо Докш. *Ну, хазяін ён усігда быў ні́які.* Слабодка Леп. *Бульба сёлета ні́якая – уся малая.* Далёкія Брасл.,

Заточча В.-Дзв., Псуя Глыб. Параўн. *нявартны.* 3. *займ. у знач. прым.* Слабы, кволы. *Што здарылася? Ты сёння зусім ніякій.* Жары Рас. Параўн. *недапошлівы, недапошны, нездаляшчы, нездараўчаны, немагушчы, нездаравячы, нідапошлый, нэнзны.*

НО́ДАЦЬ *незак.* Шукаць. *Што ты тут нодаеш? Што трэба?* Сакольнікі Віц. Параўн. *нікаць* у 2 знач., *нішпарыць, нысkaць.*

НО́ЖНІ *толькі мн.* Нажніцы. *Авечыя ножні вялікія.* Слабада Дубр. *Купіла ножні авечак стрыгчы.* Савуткі Шарк. *Ножні зялезныя паклала, не ведаю куды.* Плюсы Брасл. *Прінясі ножні – матус нада перярезаць.* Грабяніца Віц., Вадзянікі, Канашы, Ноўка Гар.

НО́КАЦЬ *м.* Ногаць. *Нокаць баліць на пальцу, будзець нарываць.* Канашы Гар., Грынеўшчына Докш.

НО́НЕЧНЫ *прым.* Сёлетні. *Нонечная вісна позняя.* Баравуха Пол.

НО́НІЧЫ *прысл.* Цяпер, сёння; сёлета. *Нонічы лета было цёплае.* Ікaзнь Брасл. *Нонічы дужа суровая зіма.* Сушчова Віц. *Нонічы час не такі: паўсюль тэхніка, раней не так было.* Язна Міёр. *Нонічы пацяплела на дварэ.* Перавознікі Паст. *Нонічы добрая бульба ўрадзіла.* Ёды Шарк.

НО́РАСТ гл. НА́РАСТ

НОС *м.* Лыч, выцягнутая пярэдняя частка галавы ў некаторых жывёл. *Свіння рые носам.* Шыці Шарк.

НО́СІКІ *мн., перан., памянш.* Насенне клёна. *Вун возле плота носікаў нападала, нада насабіраць.* Забалацце Леп. *Дзеці носікі клёна прыклейваюць к свайму носу.* Царкавішча Уш.

НО́ТАЧКА *ж., экспр.* Разбалаваная, капрызная дзяўчынка. *У мяне дачка такая нотачка!* Зубава Арш.

НО́ТНЫ *прым.* 1. Ганарысты, фанабэрлівы. *Нотная гэта была баба, на нас і ні глядзела.* Клясціцы Рас. 2. Капрызны. *А сын яго такі ўжо нотны – радачкі няма.* Папоўка Сен. 3. Сумны. *Нейкая ты, унучачка, сёння нотная, не смяешся.* Папшулі Міёр.

НО́ХАЦЦА *незак.* Бегаць, насіцца. *Наш сабака ноxaўся дзень цэлый.* Езярышча Гар. *У маладых косці крэпкія, вот яны і нохаюцца туды-сюды.* Новы Пагост Міёр. *Чаго ты нохаешся па двары?* Сокарава Беш.

НО́ЧКА *ж., абрад.* Беларускі народны танец і адпаведная песня да яго. *Я ў клубе з другімі бабамі самадзеіцельнасць паказвала: какетку, каробачку, кадрэлю, ночку, каркавяк скакала.* Белая Ліпа Сен.

НО́ЧЧЫ *прысл.* Ноччу. *Баба на фермі дзяжурыла ноччы.* Старая Рудніца Глыб., Сценка Докш., Будаўка Тал. *Саветы ноччы прышлі, паноў сабралі і павязлі.* Гута, Лынтупы Паст. *У дзядзькі майго ўкралі ноччы каня.* Заазер'е Пол.

НО́ШЫ *толькі мн.* Насілы. *Бяры во но́шы ды нясі сена.* Мікіціха Шум.

НУДА́ *ж.* Беднасць, галеча. *Тую сям'ю нуда́ заела.* Ганкавічы Беш. Параўн. *не́быт*[2], *нястá́так.*

НУ́ДЗІЦЬ, НУДЗІ́ЦЬ *незак.* Ныць, балець. *Адзін зуб застаўся ды і тый ну́дзіць.* Празарокі Глыб. *Як галава нудзі́ць!* Суша Леп. *Нага мне нудзі́ць.* Кураполле Паст.

НУ́ЖНІК *м.* Туалет, прыбіральня. *Трэба новы ну́жнік ставіць.* Іказнь Брасл. *Я яе шукала, а яна сядзела ў ну́жніку.* Булахі Глыб.

НУРА́ *ж.* Сум, туга. *Цяжка жыць, такая нура́, бываець, находзіць.* Астроўна Беш.

НУРКО́ТКА *ж., бат.* Стакротка. *У нас нурко́ткі пад плотам растуць.* Раманчукі Глыб.

НУТРЫ́ *мн.* Нутро; вантробы. *У яго усе нутры́ балелі, нічога есці нільзя было.* Ляхаўка Дубр.

НУ́ЧКА *ж.* Ануча. *Раней, помню, абкруціш ногі ну́чкамі некалькі разоў і ходзіш цэлы дзень.* Крывое Сяло Шум.

НУ́ШКАЦЬ *незак., экспр.* Панукаць; падганяць у выкананні работы. *Не ну́шкай ты мяне, сам знаю, што рабіць.* Папшычы Глыб.

НЫ́РКА *ж., заал.* Нырэц; дзікая качка. *Дзядзька пайшоў на ны́рак на балота.* Дабрамыслі Лёзн.

НЫ́РКАЦЬ *незак., экспр.* Падглядваць. *Што ты ўсё ны́ркаеш? Ці табе няма чаго рабіць?* Павулле Уш.

НЫРПО́ЛІЦЦА *незак.* Корпацца. *Вунь іна ў гародзе нырпо́ліцца.* Трыгубцы Віц.

НЫРУ́Х *м.* Сухое дрэва. *У садзе маім ныру́х ужо даўно стаіць.* Суднікі Арш.

НЫ́СКАЦЬ *незак.* Шукаць. *Ны́скаць грыбы ў лесе будзім доўга.* Расалаі Шум. *Суседскі кот ны́скаець па сталах.* Ноўка Віц. Параўн. *ні́каць* у 2 знач., *но́даць, ні́шпарыць.*

НЫ́ТКА *прысл.* Сумна. *Ны́тка адной сядзець. А што здзелаеш?* Стары Лепель Леп.

НЫТЛІ́ВЫ *прым.* Пануры, няветлівы. *Надаела мне гэта нытлі́вая прадаўшчыца – не спрасі нічога.* Мікіціха Шум.

НЭ́НЗНЫ *прым.* Худы, знясілены. *Нейкі ты зусім нэ́нзны, можа, захварэў?* Антонаўцы Брасл. Параўн. *недапо́шлівы, недапо́шны, нідапо́шлый, нездаля́шчы, нездаравя́чы, нездараўча́ны, немагу́шчы, нія́кій* у 3 знач.

НЮ́НІННЕ *н., экспр.* Хныканне. *Яе ню́нінне ўсім надаела, яе ўжо слухаць не хочуць.* Баева Дубр.

НЮ́НЬКА *ж., часцей* НЮ́НЬКІ *мн.* 1. Ранняя асака. *У нас кажуць, што ню́нькі – самая ранняя трава, але расцець яна доўга.* Папшулі Міёр. *Ню́нькі нашыя коні добра ядуць па вясне.* Дзяйкі Віц.

*Мы козам раньшэй сабіралі на балоці нюнькі.* Скрыпкі Гар. *Коні і каровы любяць нюнькі ранняй вясной.* Зазер'е Гар. *Нарві парасёнку нюнік.* Верамееўка, Гарані, Канашы, Ноўка, Ткачы Гар. *Нюнька расцець і расцець у маім агародзе.* Барздоўка Арш. *Назбірай нюнькі для свіней.* Крыпулі Докш., Асінаўка Сен. 2. Пустазелле. *Нюнька вырасла ў рост чалавека.* Сокарава Беш. Параўн. *націнне* ў 1 знач.

НЮХАЎКА *ж., экспр.* Нос. *От ікая ў яго вялікая нюхаўка.* Моханава В.-Дзв. *Фу! Як смярдзіць! Аж нюхаўка на бок вернецца!* Псуя Глыб., Спігальшчына Міёр. Параўн. *насапырка.*

НЮШО́К *м., памянш.* Драбок. *Усып у суп нюшок солі і нюшок перцу.* Баруны Брасл. *Насып мне нюшо́к солі.* Старое Сяло Уш. *Усыпала прыправы на адзін нюшо́к.* Лазы Тал.

НЯБО́ГА *ж.* Пляменніца. *Гэта мая нябо́га – старэйшага брата дачка.* Савенічы Сен. Параўн. *нябо́ж.*

НЯБО́Ж *м.* Пляменнік. *Нябо́ж прыйшоў, даўно не бачыліся.* Савенічы Сен. Параўн. *нябо́га.*

НЯВА́ЛА *аг., асудж.* Гультай. *Саседка такая нява́ла – нічога робіць ні хочыць.* Кузняцова Віц. Параўн. *неўстава́ка, нявы́валака* ў 1 знач.

НЯВА́РТНЫ *прым.* Дрэнны ў маральных адносінах, кепскі. *Нява́ртны ён чалавек, не дапаможыць.* Дзянісава Міёр. Параўн. *ніякі* ў 2 знач.

НЯВЕ́СТУХНА, НЯВЕ́ХНА гл. НАВЭ́СТКА

НЯВЕ́Я *ж.* Мякіна. *Падкінь карове нявеі.* Азёры Дубр.

НЯВО́ЛЬНА, НЯВО́ЛЬНЕ, НЯВО́ЛЛЕ, НЯВО́ЛЛЯ *безас.-прэдык.* Нельга, няможна. *Няво́льна здзеквацца са старых, і ты такім будзіш.* Папшычы Глыб. *Няво́льне, дзеткі, так казаць.* Буцавічы Паст. *Няво́лле ў свята працаваць.* Ваўкалата Докш. *Няво́лля так рабіць.* Латышы Глыб.

НЯВО́ЛЬНАЯ *прым.* Цяжарная. *Няво́льная яна ў нас.* Ксты Пол. *Няве́стка наша няво́льная, беражом яе.* Пустышы Пол.

НЯВО́ЛЬНЕ гл. НЯВО́ЛЬНА

НЯВЫ́ВАЛАКА *аг., абразл.* 1. Гультай. *Майму мужыку, што ні скажы, нічога рабіць не хочыць – нявы́валака.* Папоўка Сен. *А гэты нявы́валака толькі і знаіць, каб газетку пачытаць ды ў карты пагуляць.* Навумаўка Беш., Сабалі Чаш. Параўн. *неўстава́ка, нява́ла.* 2. Няўмелы, няздатны да работы чалавек; няўмека. *Што ты за нявы́валака? Нічога рабіць не можаш.* Ноўка Гар., Гатаўшчына Глыб. *Нявы́валака нейкі – нічога рабіць не ўмееш.* Проземля Чаш. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *нягеглік, нягегліца, няздэ́ба, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да.* 3. Няспрытны, нязграбны, непаваротлівы чалавек; няўклюда. *Ну, быстрей ідзі! Што ты, як нявы́валака?* Канашы Гар., Расоны. *Ты сёння ходзіш, як нявы́валака якая.* Старое

Сяло Уш. Параўн. *нязгра́ба, нязгра́бнік, незграбэ́йла, няўдо́біца* ў 1 знач. 4. Нерашучы, слабавольны чалавек; размазня. *На размазняватага чалавека ў нас ёсць цягучае слова – нявы́валака.* Замошша Уш.

НЯГА́Ж гл. НЯГО́

НЯГЕ́ГЛІК *м., абразл.* Нягеглы, няўмелы мужчына; недалуга, няўмека. *Што ўзяць з нягеглі́ка?* Серкавіцы Тал. *Такі ўжо ён нягеглік: не ведаець, куды рукі дзець, як крок ступіць, як галаву павярнуць.* Іванск Чаш. *Апрацівіла бачыць таго нягеглі́ка.* Сабалі Чаш. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *незграбэ́йла, нявы́валака* ў 2 знач., *нягеглі́ца, нязгра́бнік, нязгра́ба, нядзэ́ба, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да.*

НЯГЕ́ГЛІЦА *ж., абразл.* Нягеглая, няўмелая жанчына; недалуга, няўмека. *Яна ў мяне гаспадынька, а не нягеглі́ца.* Замачак Чаш. *Усе дзеўкі як дзеўкі, а гэта такая нягеглі́ца: нічога рабіць не ўмеіць.* Іванск Чаш. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *незграбэ́йла, нявы́валака* ў 2 знач., *нягеглі́к, нядзэ́ба, нязгра́бнік, нязгра́ба, няўда́чанька, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да.*

НЯГІ́БА *ж.* Няўдалае замужжа. *Дзяўчына добрая, а трэба ж было ў такую нягі́бу папасці.* Папоўка Сен.

НЯГО́, НЯГО́Ж, НЯГА́Ж, НЯЖ, НЁЖ *часц.* Няўжо, хіба. *Няго́ ты нічога не помніш?* Абруб Беразвецкі Глыб., Казяны Брасл. *Няго́ж не пойдзем заўтра ткаць?* Кавалі, Надазер'е Глыб. *Няго́ж я ні знаю, хто сягоння грукаў у вакно?* Макары Гар., Ліпаўкі Докш., Карабанавічы Дубр. *Няго́ж не хочаш есці? Няго́ж ты сёння прыйдзеш трэзвы?* Балаі Міёр. *Няга́ж не знаеш?* Ноўка Віц. *Няж ты ні ведаеш?* Марозава Гар. *Няж ты пра міне забылася?* Стадолішча Гар. *Нёж ты і будзеш так сядзець без работы?* Задуброўе Віц.

НЯГО́ДДЗЕ *н., зб., абразл.* Нягодныя, нізкія ў маральных адносінах людзі. *Хто путный сюды пойдзіць жыць? Усё няго́ддзе сюды сабіраецца.* Ляхаўка Дубр. *Сколька няго́ддзя кругом: п'юць, б'юцца.* Малая Вядрэнь Чаш. Параўн. *на́брадзь, на́брыдзь, наглі́нец, нелюбя́ціна, несувіру́тнік.*

НЯГО́РЫ *прысл.* Нядрэнна, добра. *Няго́ры сёння папрацавалі.* Гута Паст. Параўн. *нічо́г*[2].

НЯГРО́ЗНА *прысл.* Спакойна. *Была маладая, было нягро́зна за бацькамі жыць.* Слабада Уш.

НЯ́ДАЦЬ *незак.* Выведваць што-н. *Што ты тут ня́даеш? Скажы, што трэба.* Труды Пол. Параўн. *ні́каць* у 3 знач.

НЯЁШЧЫ *прым.* Які мае дрэнны апетыт, мала есць (пра чалавека). *Няе́шчага зяця дачка ўзіла.* Канашы Гар. *Унучку сваю не ведаю чым карміць, зусім няе́шчая.* Марынцы Чаш. *Сям'я мая няе́шчая.* Мікіціха Шум.

НЯЖ гл. НЯГО́

НЯЗВО́ДНЫ *прым.* Які не зводзіцца, пастаянна прысутнічае. *Яйкі ў нас заўсёды на стале, бо куры ў хаяйстві нязво́дныя.* Іванск Чаш.

НЯЗГА́РАК *м.* Галавешка. *Пасля пратопкі печы застаецца нескалька нязга́ркаў.* Звёздная Арш.

НЯЗГО́ДНА *прым.* Нягодная, невартая. *Нікуды нязго́дна такая работа.* Ляхаўка Дубр.

НЯЗГРА́БНІК *м.*, НЯЗГРА́БА, НЕЗГРАБЭ́ЙЛА *аг., абразл.* Няспрытны, няўмелы, нязграбны чалавек; няўклюда, недалуга. *Во ўжо нязгра́бнік дзе!* Задроўе Арш. *Да гэтай нязгра́бы лепш не звяртацца: яна як зробіць, дык хоць стой хоць падай.* Марынцы Чаш. *З такім нязгра́бам жыць – век дома нічога не будзець.* Сабалі Чаш. *Што ж ты ро́біш, незграбэ́йла?!* Альхоўцы Шарк. Параўн. *недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *не́галда, нявы́валака* ў 2 і 3 знач., *нягé́глік, нягé́гліца, нядзэ́ба, няўдо́біца* ў 1 і 2 знач., *няўду́да.*

НЯЗГРА́ЙСТВА *н., экспр.* Беспарадак, адсутнасць парадку. *Мая першая жонка нязгра́йства не любіла, кожную нядзелю ў хаце чысціла.* Заслонаўка Арш.

НЯЗДЭ́БА *аг., абразл.* Някемлівы, няўмелы чалавек; недарэка, недалуга. *Звязалася з няздэ́бай такім і жызнь пражыла.* Будзілава Чаш. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, нідалэ́нга* ў 2 знач., *нявы́валака* ў 2 знач., *нягé́глік, нягé́гліца, нязгра́ба, нязгра́бнік, незграбэ́йла, няўдо́біца* ў 2 знач., *няўду́да.*

НЯЗЛО́МНІК *м., экспр.* Нязломны, стойкі чалавек. *Твой мужык – такі ўжо нязло́мнік.* Бельнякі Чаш.

НЯЗНА́НА гл. НІЗНА́МА

НЯЙНА́ЧЫ *прысл.* Няйначай; напэўна. *На гэты кажух пайшло няйна́чы як тры аўчынкі.* Пустаселле Докш.

НЯКЛЁПІСТА *прысл.* Непрыстойна, няёмка. *Няклёпіста атрымалася – нарабіў сын праблем.* Труды Пол.

НЯЛА́Д *м.* Нязгода, разлад. *У маіх маладых няла́д у сям'і.* Баршчоўка Віц.

НЯЛЮ́БЫ *прым.* Непрыгожы. *Нялю́бая, а мальцаў колькі маець.* Мікіціха Шум. Параўн. *няпе́кны, некары́сны, ніла́дны.*

НЯМТУ́Р, НЯМЧУ́Р, НЯМТУ́РНІК *м., экспр.* 1. Нямы чалавек. *Наш сынок – бедалага, немчуро́м нарадзіўся.* Вераб'і Пол. *Глянь, нямчу́р на дарозе.* Камайск Докш. *За маімі табе нечага глядзець, луччы свайго нямту́рніка глядзі.* Выхадцы Лёзн. Параўн. *нема́к.* 2. *перан.* Маўклівы чалавек. *Што ты маўчыш, як нямту́р які?* Сабалі Чаш. *Нямчу́р нейкі: з ім гаворыш, а ён стаіць як вады ў рот набраўшы.* Запруддзе Глыб. *Наш нямчу́р сёння разгаварыўся.* Мілашова Міёр.

НЯНА́СЬКІ гл. НІНА́СКІ

НЯПЕ́КНЫ *прым.* Непрыгожы. *Хай дзеўка няпе́кная, а як багатая, то і каждую суботу сваты едуць.* Дунілавічы Паст. Параўн. *некары́сны, ніла́дны, нялю́бы.*

НЯПЕ́ЎНЫ *прым.* Які не дае ўсходаў, не прарастае (пра зерне). *Бываець шмат няпе́ўнага насення, асабліва гуркоў.* Уздорнікі Сен. Параўн. *няўсхо́лы.*

НЯПО́ПАДЗЕ *прысл.* Неўпапад. *Што ты меліш няпо́падзе?* Каўровая Дубр.

НЯПУ́ТНЫ гл. НІПУТНЭ́Й

НЯРО́ЎНІЦА *ж.* Жанчына, якая не можа быць парай мужчыне па розных характарыстыках (багацці, знешнасці і інш.). *А ўзяў ён сабе жану, ды няро́ўніцу.* Шаркоўка Леп.

НЯСКЛЁПІСТЫ *прым.* Няўмелы, непаваротлівы. *Ву́нака ў гэтай бабы сын такі нясклёпісты.* Слабодка Брасл. Параўн. *неўсюлю́кі, нейкаве́рны, непаваро́тны, непаваро́ткі, ніда́лу́гій* у 2 знач.

НЯСНО́ЦЦЕ *н.* Недамаганне, хвароба. *Усё няснó́цце на мяне звалілася.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *недамо́га.*

НЯСТА́ТАК *м.* Нястача; беднасць. *Гэта сям'я жывець у няста́тку.* Слабада Шум. Параўн. *нуда́, не́быт²*.

НЯСУ́ХА, НЁСКА *ж.* Нясушка (пра курыцу). *Нясу́ха ў мяне добрая была.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Велеўшчына Леп. *Гані нёсак у куратнік – урэмя ўжо.* Ілава Шум. *Купіла нясу́ху на базары, а яна саўсем ніякая аказалась – несціся не хочыць.* Мікалаева Шум.

НЯЎДА́ЧАНЬКА *ж., перан., памянш.* Няўдачніца; няўдалая, няўмелая жонка. *А знайшоў жа мой сын няўда́чаньку і жывець з ей.* Дуброўна. Параўн. *няге́гліца.*

НЯЎДО́БА *ж.* Няўдобіца. *Зімля там – адна няўдо́ба.* Станіслававa Дубр.

НЯЎДО́БАВЫ *прым.* Неўрадлівы. *Няўдо́бавыя землі пры Саветах крэсцьянам раздавалі.* Замасточча Віц.

НЯЎДО́БІЦА *аг., абразл.* 1. Нязграбны, няспрытны, непаваротлівы чалавек; няўклюда. *Чаго ты ходзіш, як няўдо́біца?* Косарава Глыб. Параўн. *нявы́валака* ў 3 знач., *нязгра́бнік, нязгра́ба, незграбэ́йла.* 2. Няўмелы чалавек; няўмека, недалуга. *Табе што ні дай здзелаць, ты ўсюды будзіш няўдо́біца.* Быцава Беш. *Мужыка трэба выбіраць з умом, а то пападзецца якая няўдо́біца.* Слабадзішча Лёзн. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, незграбэ́йла, ніда́лэнга* ў 2 знач., *нявы́валака, няге́глік, няге́гліца, нязгра́ба, нязгра́бнік, нязд́эба, няўду́да* ў 2 знач.

НЯЎДУ́ДА *аг., абразл.* Няўмелы, ні да чаго не здатны чалавек; няўмека, недалуга. *Ні дачка ў мяне, а няўду́да нейкая – нічога зрабіць не можа.* Арэхаўск Арш. Параўн. *не́галда, недалэ́нга, незграбэ́йла,*

*нідалэнга* ў 2 знач., *нявывалака* ў 2 знач., *нягеглік, нягегліца, нязграба, нязграбнік, няздэба, няўдобіца* ў 2 знач.

НЯЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Ці чуеш ты, дзе няўкаець кашак?* Паташня Міёр.

НЯЎЛАД *прысл.* Недаспадобы. *Табе ўсё няўлад, што я ні скажу.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

НЯЎЛЕДНЫ *прым.* Абыякавы, раўнадушны. *Плоха, як чалавек няўледны.* Трыгубцы Віц.

НЯЎЛОЎЛІВЫ *прым.* Няўлоўны. *Мой хлопец зусім няўлоўлівы.* Стаі Леп.

НЯЎМЫСЛЯ, НЯЎМЫСНА *прысл.* Ненаўмысна, незнарок. *Так загаварылася, што няўмысля ляпнула лішняга.* Карабанавічы Дубр. *Мой малец ета няўмысна зробіў.* Ваўкалата Докш.

НЯЎРОДА *ж.* Неўраджай. *Такая няўрода гэты год – нічога не расцець.* Кузняцова Віц. Параўн. *нерадзь*[3].

НЯЎРУЧНА *прысл.* Нязручна. *Няўручна так будзець ехаць.* Валынцы В.-Дзв. *Няўручна нам перапраўляцца на тэй бераг возера.* Селішча Гар. *Мне няўручна з етым грузам.* Пальмінка Гар.

НЯЎСЕДА *аг., экспр.* Непаседа. *Няўседы маёй тут не бачылі?* Будзілава Чаш. Параўн. *накальніца, неслуханец, непаслушнік, няўструй.*

НЯЎСТРУЙ *м., экспр.* Непаседа. *Мой унук – няўструй: не пасядзіць, не пастаіць.* Крукі Брасл. Параўн. *накальніца, неслуханец, непаслушнік, няўседа.*

НЯЎСТРУЙНЫ *прым., экспр.* Неўтаймаваны, неўгамонны, несціханы. *Дзед такі няўструйны: усё гаворыць і гаворыць.* Галубава В.-Дзв.

НЯЎСХОЛЫ *прым.* Які не дае ўсходаў, не прарастае. *Нідаспелыя зерніты будуць няўсхолыя.* Слабодка Брасл. *У гэтым годзе тутака няўсхолая зямля.* Старыя Крукі Міёр. Параўн. *няпеўны.*

НЯХВІЛЯ *ж.* Мяцеліца. *Няхвіля ўсё чыста завеяла.* Вялікае Сяло Сен.

НЯХЛЮЙ *м.* Неахайны чалавек; мурза. *Ён у нас няхлюй – век брудным ходзіць.* Мосар Глыб. Параўн. *недабай.*

НЯХОТА *прысл.* Неахвота. *Няхота было ў такую рань падымацца карову даіць.* Уна Лёзн. Параўн. *няладзя.*

НЯШЫ *толькі мн.* Каромысел. *На няшах няцяжка насіць ваду.* Кураполле Паст. Параўн. *насілы, насілкі.*

# О

О́БАК *прысл.* Побач. *О́бак з ёй стой!* Бугаі Сен. *Жаніх ідзець о́бак з маладой.* Астроўна Беш.

О́БШЧЫМ *мад. сл.* Увогуле; у цэлым, у выніку. *О́бшчым, я вам усё расказаў.* Абольцы Тал.

ОБЭ́РКА *ж.*, ОБЭ́РЭК *м.* Хуткі польскі танец. *Розныя танцы таньчылі – обэ́рка, полька.* Гута Паст. *А танцавалі мы раней кадрыль, вальс, польку, обэ́рэк.* Коўзаны Паст.

О́ГНІШЧА *н.* Пажарышча. *У нас тут было страшнае о́гнішча.* Казлоўшчына Паст.

О́СВА *ж.* Аса. *Мяне о́сва ўчора за нагу ўкусіла.* Нярэйша Сен.

○ О́СЕНСКАЯ АПЕ́НКА *ж.*, *бат.* Асенняя апенька. *О́сенскія апе́нкі абыкнавеныя, толькі пазней растуць, пад замаразкі, у сінцябрэ.* Дразды Беш.

ОСЦЬ *ж.*, *часцей* О́СЦІ *мн.*, *рыб.* Прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы. *Осць – эта то ж самае, што і астрыга.* Доўжа Віц. *У яго о́сці, таптун, ўдачка, сеткі – каждый дзень ходзіць на рыбу.* Скрыпкі Гар. *Дык мярёжай і цяпереча лаўлю, і асцямі, і прудняй і калі-некалі сетку пастаўлю.* Гунчанкі Віц.

ОСЬ *часц.* Вось. *Ось у нас, у етуй старане, уся прырода красівая.* Мікіціха Шум. Параўн. *о́то.*

О́СЬМЫ *ліч.* Восьмы. *О́сьмая гадзіна ўжо прабіла.* Баравуха Пол.

О́ТГЛАСКІ *толькі мн.* Рэха. *У лесе пачуеш о́тгласкі.* Грынеўшчына Докш. *Мы гукаем, а о́тгласкі ідуць ад крыку.* Фарынава Пол. *Крыкнуў – і пайшлі о́тгласкі па лесе.* Лашукі, Кураполле Паст.

О́ТКУЛЬ *прысл.* Адкуль. *І о́ткуль толькі гэты мусар бярэцца?* Сураж Віц.

О́ТО *часц.* Вось. *О́то як было раней тое Купалле: цішэй было, пілі мені, благога не рабілі.* Гараўцы Міёр. *Такія о́то дзялы у нас!* Ула Беш. Параўн. *ось.*

О́ХАП *м.* Складзеная ў кучу гародніна. *У о́хап унукі ўмесце са мной складваюць восенню буракі.* Панізоўе Арш.

# П

ПААБЛУПА́ЦЬ *зак.* Абламаць, паабломваць што-н. *Усё дрэўца пааблупа́лі, як звяры нейкія.* Выдрэя Лёзн.

ПААШМУ́ЛІВАЦЬ *зак.* Пацерці, змазоліць. *Паашму́лівау усе пальцы ад гэтай работы.* Мішкавічы Шум.

ПАБАВЕ́ШКА, ПАБАЕ́ШКА *ж.* Прыстасаванне для біцця дроў. *Пабаве́шкаю, бывала, і лён калацілі.* Магуны Паст. *Пойдзем дровы біць, бяры пабае́шку.* Надазер'е Глыб.

ПАБА́ВІЦЬ *зак.* Зрабіць, пабудаваць. *Бацька лазню даўно яшчэ паба́віў.* Іванск Чаш.

ПАБАГА́ТА *прысл.* Шмат, багата. *Бобу пабага́та садзілі.* Белькі Паст.

ПАБАЕ́ШКА гл. ПАБАВЕ́ШКА

ПАБА́ІЦЬ *зак.* Пагаварыць. *Паба́ілі мы з ім пра ўсё.* Кулакова Віц. *Ён прыйдзя, паба́я і пойдзя.* Чорнае Паст.

ПАБА́НІЦЦА *зак.* Памыцца ў лазні. *Дзед ужо паба́ніўся.* Шыркі Сен.

ПАБІРА́ЦЦА *незак.* Жабраваць. *Яны пабіра́юцца па свету.* Жаўры Беш. *Не бойся, пабіра́цца не пайду.* Ноўка Гар.

ПАБІРА́ЦЬ *незак.* Падымаць лён. *Лён ляжыць, нада ісці пабіра́ць.* Воўкаўшчына Глыб.

ПАБІ́ЦЬ *зак.* Пакляпаць, навастрыць касу малатком. *Нада было каму-небудзь пабі́ць касу.* Аўсянка Міёр. *Нада было б касу каго папрасіць пабі́ць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Хачу касу пабі́ць і ісці касіць.* Котава Віц.

ПАБЛАЖА́ЦЬ *зак.* Пахудзець. *За лета я саўсім паблажа́ла.* Іванаўка Гар. Параўн. *пада́цца.*

ПАБЛУ́ТАЦЦА *зак.* Паблытацца, пераплесціся (пра ніткі). *Паблу́таліся ніткі.* Ясюкі Паст.

ПАБЛЫ́НДАЦЬ *зак.* Пайсці. *Куды ты ўжо паблы́ндаіш?* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАБО́ЖНІК *м.* Нябожчык. *Пабо́жніка ў сне відзела, ці на дабро?* Булаўкі Пол.

ПАБО́ІНА, ПАБО́ЙНЯ *ж.* 1. Палена, якім забіваюць кол у зямлю. *Пабо́інай стукнуў разы два.* Замошша Тал. *Вазьмі пабо́йню ды схадзі карову перавяжы.* Опліса Брасл. 2. *перан., аг., лаянк.* Гультаяваты, няздатны да працы чалавек. *Ляжыш, пабо́іна, а бацька за цябе робіць.* Савуткі Шарк. *Маладый, здаровый, а во пабо́йня – нічога не робіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Во дзе пабо́йня вырасла!* Лужасна Віц.

ПАБО́ЙКІ *толькі мн.* Патаптаныя жывёлай пасевы. *Ах, гэты сабакі, столькі пабо́ек надзелалі!* Дзяйкі Віц.

ПАБО́ЙНЯ гл. ПАБО́ІНА

ПАБО́ЛЬШАЦЬ *зак.* Падрасці. *Як я пабо́льшала, то адна бабка мне ўсё расказала.* Андрэеўшчына Арш.

ПАБО́ЎЦІНА *ж.* Нішчымны, рэдкі суп. *Дадуць нейкую пабо́ўціну, аж есці нільзя.* Грышаны Віц.

ПА́БРАДЗЬ *ж.* Пра нешта (некага) дрэннае (дрэннага). *Па́брадзь усякая сабралася.* Кавалі Гар.

ПАБРА́НЫ *дзеепрым.* Вырваны (пра лён). *Раней пабра́ны лён круцілі ў снапы,сушылі, абрабатывалі, не тое, што зараз: пашоў і купляй любую адзежу.* Лугавыя Віц.

ПАБРАХА́ЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Яна з настаўніцай за сена пабраха́лася.* Полымя Сен. Параўн. *пава́дзіцца.*

ПАБРА́ЦЦА *зак.* Пайсці куды-н. з пэўнай мэтай. *А куды гэта твая баба з самага ўтра пабра́лася?* Воўкаўшчына, Новы Пагост Міёр.

ПАБРА́ЦЬ *зак.* Падабраць, сабраць з зямлі. *Прыедуць унукі, усе яблыкі пад яблынямі пабе́руць.* Фарынава Пол.

ПАБРЫ́НГАЦЬ *зак.* Скасіць траву абы-як, збіўшы верхнюю частку раслін. *Папрасіла саседа канаву абкасіць, дык прышоў, чуць пабры́нгаў ды яшчэ і сто грам папрасіў.* Залессе В.-Дзв.

ПАБЯЁДАВАЦЬ *зак.* 1. Неразумна распарадзіцца чым-н., згубіць што-н. *Вот хазяін, такіі доскі пабяёдаваў, згнілі ўсе.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ты яму грошы не давай, пабяёдуіць усе.* Залессе В.-Дзв. 2. Знасіць, парваць. *Гэта ж трэба: і году світку не панасіў – пабяёдаваў.* Латышы Глыб.

ПАБЯЛЕ́НЫ, ПАБЯЛЁНЫ *дзеепрым.* Эмаліраваны. *Пабяле́ны посуд у пасаг далі.* Калінавая Міёр. *У тазу пабялёным сцірай сваё бяллё.* Канашы Гар.

ПАВА́ДЗІЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Пава́дзілася Ядзя са мной не ведаю за што.* Валкалата Докш. Параўн. *пабраха́цца.*

ПАВАДЗЭ́НЯ *н.* Паводзіны. *Да́ўней, як сватаюцца, пыталіся, які ён чалавек, якога павадзэ́ня, якія бацькі.* Слабада Паст.

ПАВА́Л[1] *м.* Накат з бярвення. *Пад страхой у нас быў пава́л.* Магуны Паст.

ПАВА́Л[2] *м.* Тоўстая вяроўка для ўмацавання сена на возе. *Каб сена за адзін раз усё ўзяць, нада жардзіну якую ці пава́л браць.* Обаль Гар. Параўн. *папярэ́дзень, парубе́ль, парубе́нь, прыжы́м, прышчамі́лы.*

ПАВА́ЛАК *м.* Сенажаць каля нівы. *У канцы нівы выкацішся на пава́лак.* Анкуды Паст.

ПАВАЛО́ЖЫЦЬ *зак.* Заправіць ежу маслам ці тлушчам. *Бульбу нада маслам павало́жыць.* Паўазер'е Беш. *Блін павало́жыць, зложыць і так есць.* Жоўніна В.-Дзв., Канашы Гар., Бокішава Шум.

ПАВА́РА *ж.* Вялікая драўляная лыжка. *Бяры пава́ру, каша скіпае.* Галбея Паст.

ПАВАРЁШКА, ПАВАРЭ́ШКА *ж.* Апалонік. *Суп наліла паварёшкай.* Бубалі Шум. *Бяры паварэ́шку, налівай сабе супу і еш.* Фарынава Пол. Параўн. *пало́днік, пало́йка[1], пало́йнік[1], пало́ннік.*

ПАВАРО́ТАК *м.*, ПАВАРО́ТКА *ж.* Паварот, месца, дзе паварочваюць убок. *Высадзі нас на паваро́тку.* Вялікае Сяло Сен. *За паваро́ткай астанавісь.* Курына Віц., Канашы, Ноўка Гар.

ПАВАРЭ́ШКА гл. ПАВАРЁШКА

ПАВЕ́ЕК *м.* Цёплы слабы вецер. *І паве́ек не спасаець ад жары.* Ваўчо Уш.

ПАВЕ́ЛІЦА, ПАВІЛІ́КА, ПАВІЛІ́ЦА *ж.* Травяністае пустазелле, павой. *Паве́ліца ўсе грады заслала.* Лазоўка Сен. *Павілі́ка ўсю бульбу сёлета спляла.* Гарэлькі Дубр. *Па бульбі дужа многа павілі́цы.* Моханава В.-Дзв. *Павілі́ца па ўсім градам разраслась.* Двухполле Гар.

◊ ПАВЕ́РХ ЛЕ́СУ РАСЦІ́ Паводзіць сябе, ігнаруючы агульнапрынятыя правілы паводзін (пра дзіця). *А ён паве́рх ле́су расце́ць, нікога слухаць ні хочыць.* Канашы Гар.

ПАВЁРТКІ *прым.* Рухавы. *Маё дзіця было такое павёрткае, такое находчывае.* Мярэцкія Глыб.

ПАВЕ́ЦЦЕ, ПАДПАВЕ́ЦЦЕ *н.* Паветка, павець. *Стары пад паве́ццю венікі вяжыць.* Смаляны Арш. *Адчыні дзверы ў падпаве́цці – хай дровы сохнуць.* Белая Ліпа Сен.

ПАВІ́ДЗЕЦЬ *зак.* Пабачыць. *Яна ў Германію ездзіла, шмат чаго паві́дзела.* Забалаць Арш. *Ужо сколькі я на гэтым свеце паві́дзела, ніхто столькі не паві́дзеў.* Велеўшчына Леп. *Яна паві́дзіць свету.* Балаі Паст.

ПАВІ́ДЗІЦЦА *зак.* Пабачыцца. *Хочыць ён паві́дзіцца, пад самую восінь прыедзіць.* Заточча В.-Дзв., Лашукі Паст.

ПАВІ́ДЛА *ж.* Павідла. *Я булачкі з яблачнай паві́длай здзелала.* Канашы Гар.

ПАВІДНУ́ *прысл.* У светлы час сутак, засветла. *Павідну́ паедзем, а то дарога слізкая.* Двухполле Гар. *Я нават павідну́ не ўцягну ніткі ў іголку.* Васілеўшчына Паст.

ПАВІЛІ́КА, ПАВІЛІ́ЦА гл. ПАВЕ́ЛІЦА

ПАВІЛЯ́ЦЬ *зак.* Падазваць, прынадзіць. *Пайду павіля́ю курэй, каб прышлі ў хлеў.* Мярэцкія Глыб.

ПАВІТА́ТАЦЬ *зак.* Запрасіць да сябе ў госці. *Павіта́й іх к сабе калі-небудзь.* Прудок Гар.

ПАВІХА́ *ж.* Асака. *Павіха́ рэжацца.* Абруб Глыб., Ляхаўшчына Паст.

ПАВУ́ЗРАБ'Я *н.* Палатно з адходаў ільну. *Паву́зраб'я танчэй за любую другую тканіну з лёну.* Пліса Глыб.

ПАВУ́К *м.* Паўлін. *У павука́ красівае пер'е і длінный хвост.* Вішэнькі Чаш.

ПАВУ́ТА, ПАВУЦЕ́НЬ, ПАВУЦЕ́НЯ, ПАВУЧЫ́НА *ж.*, ПАВУЧЫ́ННЕ, ПАЎЧЫ́ННЕ *н.* Павуцінне. *Паву́та ляціць, як у бабіна лета.* Равяцічы Тал. *Павуце́нь у яе ў каждым вуглу.* Ферма Шум.

*Павуце́ня ляціць – значыць, баб'е лета ўжо.* Двухполле Гар. *Не хачу, каб павучы́на па ўсей хаце вісела.* Слабодка Брасл. *Толькі ў плахой хазяйкі ёсць у хаце павучы́на.* Лукомль Чаш. *Павучы́ння ў хаце многа, знімі.* Канашы Гар., Пліса Глыб., Пашкі Шарк. *Павук віець паўчы́нне.* Варапаева Паст.

ПАВУЦІ́ННІК *м.* Кмен. *Насабіралі сноп павуці́нніку.* Вялікая Пярэспа Сен.

ПАВУЧЫ́НА, ПАВУЧЫ́ННЕ гл. ПАВУ́ТА

ПАВЫ́ВАЛІЦЦА *зак.* Павывальвацца, вываліцца. *Павы́валілася з карманаў усё.* Ноўка Гар. *Павы́валіліся кнігі з рук.* Слабада Шум.

ПАВЫДУРНЯ́ЦЦА *зак.* Пасваволіць, падурэць нейкі час. *Троху павыдурня́ліся – і досыць.* Карасіна Брасл.

ПАВЫ́МА *прыназ.* Міма; не спыняючыся, не затрымліваючыся каля чаго-н. *А ён прабег павы́ма мяне.* Бігосава В.-Дзв.

ПАВЫСМЫКА́ЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Нада лён з вады павысмыка́ць.* Івоні Сен.

ПАВЫЦЯГА́ЦЦА, ПАВЫЦЯ́ГАВАЦЦА *зак.* Выступіць знутры, паказацца на паверхні чаго-н. *Ад работы жылы на руках павыцяга́ліся.* Сяло Гар. *Паглядзі, як джылы на руках павыця́гаваліся.* Селішча Арш.

ПАВЫ́ЧАЎРЫЦЬ *зак.* Перасохнуць. *Дажджоў ужо столькі не было, зямля павы́чаўрыла ўся.* Баева Дубр.

ПАВЫШЭ́Й *прысл.* Вышэй. *Павышэ́й людзей не сажайся.* Велеўшчына Леп.

ПАВЭ́ДЗГАЦЬ *зак.* Пабіць, разбіць што-н. *Малыя павэ́дзгалі ўвесь хрусталь мне.* Пачаевічы Чаш.

ПАВЭ́ДЛАК, ПАВЭ́ДЛУК *прыназ.* У параўнанні з чым-н. ці кім-н. *Павэ́длак з прошлым годам уражай у гэтым многа лепшы.* Мікалаёва Міёр. *Павэ́длук астатніх я была саўсім малая.* Лынтупы Паст.

ПАВЯ́З *м.* Планкі, якімі звязваюцца кроквы ля скрыжавання. *Ненадзёжны павя́з.* Лескавічы Шум.

ПАВЯРБО́ЎКА *ж.* Найм на працу; вярбоўка. *Чаго на павярбо́ўку не прыхадзіла?* Ула Беш.

ПАВЯРХО́ЎКА *ж.* Рыба верхаводка. *Дзед нацягаў адных павярхо́вак.* Балаі Паст.

ПАВЯ́СНІЦА *ж.* Пояс у штанах, нагавіцах. *Прышыць нада ў штанах павя́сніцу, зачапілася была недзе.* Грышаны Віц.

ПАГА́ДАВАЦЬ *незак.* Спагадаць. *Ціпер маладыі не пага́даваюць старым.* Жоўніна В.-Дзв.

ПАГАДА́НКА *ж.* Байка. *Такая пагада́нка была: дзеці асталіся ў хаце, выходзя баранчык з печы і гуляе з імі.* Ясюкі Паст.

ПАГАДЗІ́ЦЬ *зак.* Пачакаць. *З уборкай нада пагадзі́ць трохі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пагадзі́, я зараз прыду.* Макаранкі Лёзн. *Пагадзі́,*

*яшчэ нешта скажу!* Канашы Гар., Паташня Міёр. *Пагодзь, пагодзь, не спяшы!* Камаі Паст., Верацеі Шарк.

ПАГАДЗЯ́ *прысл.* Пазней, праз некаторы час. *Прыдзі пазней, пагадзя́, як я буду дома.* Слабодка Брасл. *Карову падаю пагадзя́.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Лужасна Віц., Канашы Гар.

ПА́ГАДКІ, ПАГО́ДНІКІ *мн.* 1. Дзеці, якія нарадзіліся адзін за адным праз год. *Мы з сястрой па́гадкі, разніца ў паўтара года.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Аднагодкі. *З сястрой мы паго́днікі, толькі я радзілась у начале года, а яна – у канцы.* Пунішча Віц. *У яе паго́днікі дзеці, а на выгляд не скажаш.* Ураджайная Глыб. *Паго́днікі – дзеці, якія радзілісь у адзін год.* Вялікае Сяло Лёзн.

ПАГАЛІ́ЦЬ *зак.* Павандраваць, пахадзіць. *Пагалі́ў, пагалі́ў недзе цэлы год, а цяпер паявіўся і яшчэ нечага хочыць.* Лужкі Шарк.

ПАГАЛО́ЎШЧЫНА *ж.* 1. Забой жывёлы. *У нас заўтра пагало́ўшчына будзіць – во мяса наядзімся.* Кавалі Глыб. *Цяпер пачці каждый дзень у людзей пагало́ўшчына – усе свіней рэжуць, патаму што чума афрыканская.* Язна Міёр. *Перад Вялікаднем усягды пагало́ўшчына: якое ж свята без мяса!* Дзёрнавічы В.-Дзв., Лукашова Паст. 2. Частаванне пасля забою жывёлы. *Пасля таго, як мяса спарадкуюць, устраівалі пагало́ўшчыну.* Варапаева Паст. *Сасед, як заколіць кабана, просіць да сябе на пагало́ўшчыну.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Гута Паст. 3. Свежына. *Як кабана заколюць і прынясе мне сусед сала, мяса, на гэта ў нас кажуць "пагало́ўшчына".* Беразіно Докш.

ПАГАЛЯ́ШКА *ж.* Палка. *Як палучыш пагаля́шкай па руках – лазіць не будзеш у сад!* Папкі Міёр.

ПАГА́ННІКІ *мн.* Паганкі, неядомыя грыбы. *Гэта, відаць, пага́ннікі растуць.* Шарагі Міёр.

ПАГАНЯ́ЦЬ *незак.* Спаганяць, патрабаваць. *Не паганя́й ад яго грошы.* Альхоўцы Шарк.

ПАГАРЭ́ЛАЎКА *ж.* Пажарышча; месца, дзе выгаралі кусты ці лес. *Схадзі на пагарэ́лаўку, можа, што там знойдзеш.* Папшычы Глыб. Параўн. *па́лішча, па́ля, паля́нішча.*

ПАГАРЭ́ЛЬЦЫ *мн.* Грыбы, якія растуць на выгарынах. *Унукі набралі адных пагарэ́льцаў.* Малыя Пышнагоры Леп. Параўн. *пажа́ркі, пажа́рнікі, папялу́шкі.*

ПАГБА́НЫ *дзеепрым.* Пагнуты. *У старым пагба́ным тазу пол мый.* Канашы Гар. Параўн. *пагнёны.*

ПАГБА́ЦЬ *зак.* Пагнуць, сагнуць, пакарабаціць што-н. *Матацыклам ванну зацапіў на дваре, пагба́ў край.* Лужасна Віц. *Пагба́ў ключ увесь: гараж ні адкрываўся.* Вярэчча Гар.

ПАГЕРГЕТА́ЦЬ *зак.,экспр.* Пасмяяцца, парагатаць. *Пагергета́лі – і досыць.* Буеўшчына Шарк.

ПАГЛЁД *м.* Погляд. *Мой мужык закахаўся ў мяне з першага паглёду.* Велеўшчына Леп.

ПАГЛО́СКІ *толькі мн.* Рэха. *Адбіваюцца пагло́скі.* Белае Паст.

ПАГНЁНЫ *дзеепрым.* Пагнуты. *Пагнёнае вядро.* Дунілавічы Паст. Параўн. *пагба́ны.*

ПАГО́ГАЦЬ *зак.* Пагаварыць, пагаманіць. *Паго́галі троху – і тым скончылася.* Засценак Сен.

ПАГО́ДНІ *прым.* Кучавы (пра воблакі). *Хмары нешта сёння паго́днія.* Баравуха Пол.

ПАГО́ДНІК *м.* Цяля, якое перазімавала. *Добры ў яе паго́днік, расцець быстра.* Суша Леп.

ПАГО́ДНІКІ гл. ПА́ГАДКІ

ПАГО́ЙКАЦЬ *зак.* Пакрычаць, пагукаць. *Паго́йкай у лесі, каб не заблудзілась.* Заточча В.-Дзв., Канашы Гар.

ПАГО́Н *м.* Паласа зямлі. *Паставілі хаткі на паго́нах тых.* Грышаны Віц.

ПАГО́НІШЧА *н.* Паша. *Утрачкам з кароўкамі на паго́нішча ішлі.* Казімірова Пол. Параўн. *па́дбішча, па́свішча.*

ПАГРАБНЯ́, ПАГРЭ́БІЦА, ПАГРЭ́БКА *ж.* 1. Памяшканне для захоўвання бульбы на зіму, склеп. *У паграбне́ і летам халодна.* Ларынаўка, Тумінічы Арш. *У паграбню́ яшчэ рана бульбу сыпаць.* Іскозы Дубр. *Ідзі ў паграбню́, вазьмі цыбулю.* Літусава Сен. *Паграбня́ вышла на славу: глыбокая, прасторная.* Пачаевічы Чаш. *Бульбу зручна захоўваць у пагрэ́біцы.* Коравічы Чаш. *Сёлета пагрэ́бка ўжо будзе поўная: год дужа ўраджайны.* Бабічы Глыб. Параўн. *по́дграб, прыгрэ́біца.* 2. Прыбудова да пограба ў яго пярэдняй частцы. *У паграбне́ ў мяне ляжыць тая картопля, каторая не памясцілася ў пограб.* Гаршчэўшчына Тал. Параўн. *прыкле́тнік, прыскле́пнік.* 3. Самае высокае, сухое месца на агародзе. *Бульбу нясі і рассып на паграбні́ – няхай сушыцца на сонцы.* Пірагі Дубр.

ПАГРАЛЁНІСТЫ, ПАДГАЛЁНІСТЫ *прым.* 1. Даўганогі, цыбаты. *Сынок у цябе такі пагралёністы.* Філімонава Гар. *Брат падгалёністы, нескладны.* Халамер'е Гар. 2. Пра нешта высокае. *Капуста вырасла паграпёністая.* Макары Гар.

ПАГРАМЧЫ́ЦЬ *зак.* Павялічыць гук. *Паграмчы́ крыху радыё, трэба надвор'е паслухаць.* Задоры Леп.

ПАГРО́БКІ *толькі мн.* Рэшткі сена ці саломы, што засталіся пасля ўборкі на полі. *Пагро́бкі карове пад ногі ўкінь.* Залессе В.-Дзв. *Ідзі сабяры пагро́бкі і прынясі цялятам.* Прыпернае Глыб. *Брыгадзірка дала воз пагро́бак, вот і ўсё сена.* Кашталянаўшчына Глыб.

ПАГРЭ́БІЦА, ПАГРЭ́БКА гл. ПАГРАБНЯ́

ПАГУЛЯ́НКА *ж.*, ПАГУЛЯ́ННЕ *н.* Гулянка. *Вазьмі паўлітра на пагуля́нку.* Анкуды Паст. *Пайдзём на пагуля́нне?* Бугаі Сен. Параўн. *піру́шка.*

ПАГУ́Р, ПАГУ́РАК, *памянш.* ПАГУ́РАЧАК, ПАЎГО́РАК, ПРЫГУ́РАК, ПУГУ́РАК *м.* Узгорак. *Пагу́р – усегда сухая сенажаць.* Абруб Глыб. *Заснеш на пагу́рку, а каровы ў шкоду пабягуць.* Рубеж Беш. *З крутога пагу́рка баюся ехаць на кані.* Латышы Глыб., Слабодка Брасл., Папшулі, Калінавая Міёр. *Саўсім я старая стала, пад пагу́рак падняцца не магу.* Галбея, Дварчаны, Казлоўшчына Паст., Слабада Уш. *За пагу́рачкам канава пачыналася.* Шаркаўшчына. *З нашага паўго́рка ўсю аколіцу відаць.* Бігосава В.-Дзв. *З-за прыгу́рка ўсё роўна не відна.* Баравуха Пол. *Машыну на пугу́рку паставілі, каб відна была.* Вярхоўе Беш. *З гэнага пугу́рку ўсё сяло відна.* Надазер'е Глыб. *А як пачнеш капаць, дык на пугу́рку бульба большая.* Воцькавічы Уш. *На пугу́рку збіраліся.* Луцік Чаш.

ПАГЭ́МТАНЫ *дзеепрым.* Пакамечаны. *Кофта мая зусім пагэ́мтаная, трэба разгладзіць.* Янкі Докш. Параўн. *пажмя́каны* ў 2 знач., *пако́мканы.*

ПАДАБА́БАК, ПАДБА́БАК *м.*, ПАДБА́БКА *ж.* Грыб абабак, звычайна са светлай шапкай. *Падаба́бак цяперака звёўся.* Белая Ліпа Сен. *Баравікоў дужа няма, а падаба́бкі ёсць.* Пралетарыя Уш., Латыгалічы Чаш. *Падба́бкам падбярозавік у нас называюць.* Доўжа Віц. *Падба́бак добра сабіраць і сушыць для зімы.* Азёрцы Глыб. *Красівенькія падба́бкі, як на рысунку.* Іванькі Міёр., Дроздава Тал. *Падба́бку нашоў.* Гарадок. Параўн. *падбяро́знік.*

ПАДАБЕ́ДАК *м.* Час перад абедам. *Учора ад падабе́дка да самай ночы ўбіралі ў пограбе.* Дразды Беш.

ПАДАБРА́ЦЦА[1] *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Работу парабіла, падабра́лася ўжо.* Мярэцкія Глыб. *Пакуль бацька прыедзе, трэба падабра́цца.* Грынеўшчына Докш. *Падабра́лася ўжо, свінням дала, курэй пакарміла.* Янкі Докш. Параўн. *падрабі́цца, падхадзі́цца, папо́рыцца.*

ПАДАБРА́ЦЦА[2] *зак.* Сабрацца. *Пакуль касіць падбе́рыцца, сонца сядзець.* Сокарава Беш.

ПАДАБРА́ЦЬ *зак.* Прыбраць у хаце. *Нада б у хаце падабра́ць.* Амбросенкі Шарк.

ПАДАЕ́НКА, ПАДАЯ́НКА *ж.* Міласціна. *Цяпер ён сядзіць і просіць падае́нкі.* Вярэнькі Паст. *Ніхто зараз падая́нку не дае.* Казлоўшчына Паст. *Жабракі на Ганну пад Касцёл прыхадзілі і падая́нку прасілі.* Варапаева, Гута, Лынтупы Паст.

ПАДАКО́НАК *м.*, ПАДАКО́НКА *ж.*, ПАДВАКО́ННЕ *н.* Падаконнік. *Падако́нак у вакне згніў, нада новый.* Сяляўшчына Рас. *Пастаў букет на падако́нку.* Жаўры Беш. *Падвако́нне шырокае, дык*

*многа вазонаў на яго ўлазіць, каб паставіць на сонца.* Мурагі Рас. Параўн. *падлакóтнік.*

ПАДАКЎЧЫЦЬ *зак.* Злёгку акучыць (пра бульбу). *Нада падакýчыць трохі бульбу.* Барсукі Арш. Параўн. *падмяшáць.*

ПÁДАЛА *н.* Зламанае ветрам дрэва. *Пасля такога бурану столькі пáдалаў у лясу!* Кавалькі Міёр.

ПАДАЛЕ́ХАВІК, ПАДАЛЕ́ШНІК, ПАДАЛЁШНІК *м., бат.* Грыб свінушка тонкая, кабылка. *Падале́хавікі, свінні і курачкі – гэта адны і тыя ж грыбы.* Доўжа Віц. *Падале́хавікі пака данясеш дамой, дык аж чорныя стануць.* Крынкі Лёзн., Падбярэззе Тал. *У лясу многа падале́шнікаў.* Андрэеўшчына Арш., Арляны Сен. *Падалёшнікаў многа і лісічак.* Еўлахі Тал. Параўн. *пітушкí.*

ПÁДАЛІЦЫ, ПÁДАЛЬЦЫ, ПÁДАНІКІ, ПÁДАНКІ, ПАДУНЦЫ́ *мн.*, ПÁДАЛЬ *ж.* Апад з пладовых дрэў. *Зрання пад яблынямі столькі пáдаліц ляжыць.* Дзяйкі, Котава, Ходцы Віц., Гарані Гар., Баяноўшчына Пол., Слабада Шум. *Пад грушай многа пáдальцаў.* Дрысвяты Брасл. *Пáданікаў набраў цэлую карзіну.* Лукомль Чаш. *Пад канец лета ўся трава пáданкамі завалена.* Опса Брасл., Белая Ліпа, Вялікая Пярэспа Сен. *Набяры падунцóў на кампот.* Дзеркаўшчына Глыб. *Схадзі пад яблыню і падбяры пáдаль карові.* Канашы Гар. *Летам косім каровам траву, пáдаль пад яблынай сабіраем.* Сяло Лёзн. Параўн. *пýканікі, пýкаўкі.*

ПАДАПЕ́ЧАК, ПАДПЕ́ЧЧЫК *м.*, ПАДПЕ́ЧЧА *н.* Падпечак. *Загані курэй у падапе́чак.* Слабада Шум. *У падпе́ччыку патэльня твая.* Янкі Докш. *У падпе́чча можна класць дровы, каб высахлі.* Ларынаўка Арш. Параўн. *падпрыпек, падпрыпечак* у 1 знач.

ПАДАРÓЖНІКІ *мн.* Грыбы апенькі. *Набралі многа падарóжнікаў.* Сарочына Чаш.

ПАДАРÓЖНЫ *м.* Спадарожнік, чалавек, які знаходзіцца ў дарозе разам з кім-н. *Ішла я на хутар не адна – падарóжны ўстрэціўся.* Арлея Пол.

ПАДАРЭ́ШАЎНІК *м.* Трава, якая расце пад кустом арэшніку. *Малады падарэ́шаўнік.* Старое Сяло Віц.

ПАДАСІ́НІК *м.* Падасінавік. *Падасíнік знайшла.* Фарынава Пол. *Пайду ў лес за падасíнікамі.* Матырына Уш.

ПАДАТКНЎЦЬ *зак., груб.* Даць хабар. *Як не падаткне́ш, так нічога і не будзе ў тым судзе.* Шантары Докш.

ПАДАЎКІ́ *прым.* Падатлівы. *Хлопец рос у яе падаўкí.* Пятровічы Шарк.

ПАДÁЦЦА *зак.* Схуднець. *Я за ету зіму крэпка падáўся.* Зябліны Шарк. Параўн. *паблажáць.*

ПАДАШВÁ *ж.* Падэшва. *А якая гэта хвароба, калі падашвá баліць?* Барздоўка Арш. *Падашвá ные.* Грынеўшчына Докш.

ПАДАЯ́НКА гл. ПАДАЕ́НКА

ПАДБА́БАК гл. ПАДАБА́БАК

ПАДБЕ́ЛЬ *м.* Падбел. *Падбе́ль – гэта маць-і-мачаха.* Казімірова Пол.

ПАДБІРА́ЦЦА *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Жонка пайшла падбіра́цца.* Тумілавічы Докш. *Летам іду падбіра́цца часоў у дзевяць–дзесяць вечара, а зімой каля шасці, а то і раней, бо цёмна робіцца.* Гута Паст. *Нядаўна падбіра́лася ў дворышчы, а сена зноў натраслося.* Абруб Глыб., Турлы Паст. Параўн. *падрабля́цца.*

ПАДБІ́ЦЦЕ *н.*, ПАДБО́ЙКА *ж.* Тое, чым падбіта, падшыта што-н. знізу, з адваротнага боку, падбіўка. *Раней падбі́цце з хлопку прышывалі.* Папкі Міёр. *Падбо́йка нада к крышы, каб дождж па ей сцякаў, а не па хаці.* Грышаны Віц.

ПА́ДБІШЧА, ПА́СВІШЧА *н.* Паша. *На па́дбішча ў нас кароў можна выганяць ужо ў апрэле.* Абухава В.-Дзв. *У нас добрае па́свішча.* Яцукі Шум. Параўн. *паго́нішча.*

ПАДБО́ЙКА гл. ПАДБІ́ЦЦЕ

ПАДБРУ́ШША *н.*, ПАДБРУ́ШЫНА *ж.* Ніжняя частка чэрава, падчарэўе. *Учора падбру́шша капцілі.* Мярэцкія Глыб. *Падбру́шша я ўжо пасаліла.* Акунёва Міёр. *Падбру́шша солім, скручываем, копцім.* Свірдуны Паст. *Як свінню зарэжаш, на зіму падбру́шыну закручвалі.* Залессе В.-Дзв., Занькі Леп., Таўкіні Шарк.

ПАДБУКРО́ІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Гэта ж дзед падбукро́іў нас у лес схадзіць.* Несцераўшчына Докш. *Дзіця падбукро́іць – многа розуму не трэба.* Крыпулі Докш.

ПАДБЭ́ЛЬК *прысл.* Да самага верху. *Сена падбэ́льк наклалі, болей ужо не ўцісную.* Савінічы Сен.

ПАДБЯРО́ЗКА *ж.* Уюн палявы. *Падбяро́зка ўсё апутала, спасу ад яе няма.* Прыпернае Глыб. *Уся бульба падбяро́зкай зарасла.* Зарачыцак Докш.

ПАДБЯРО́ЗНІК *м.* Падбярозавік. *Падбяро́знікі нада чысціць, варыць.* Доўжа Віц. Параўн. *падаба́бак.*

ПАДВАКО́ННЕ гл. ПАДАКО́НАК

ПАДВАРА́ЧЫВАЦЬ *незак.* Падварочваць, падварушваць. *Куды вецер дуіць, туды і сена падвара́чываюць.* Канашы Гар., Баяноўшчына Пол.

ПАДВЕ́С *м.* Упрыгожанне для ложка, кавалак тканіны, у якім ніжні край абшыты брыжамі ці карункамі; падзор. *Амаль усе пасцелі тады падве́самі падшывалі.* Барсукі Глыб. Параўн. *падзо́рнік, падузо́рнік.*

ПАДВІРА́ЦЬ *незак.* Падплятаць. *Раней мы лапці падвіра́лі ільнянымі вяроўкамі.* Пушкі Лёзн.

ПАДВІ́РЫНА *ж.* Брак у палатне. *Падві́рына ідзець павярху ў палатне.* Сляяўшчына Рас.

ПАДВО́ДНІК *м.* Возчык на падводзе. *Бацька быў падво́днікам у паліцаяў.* Абольцы Тал.

ПАДВО́З *м.* Фурманка. *Нада было даць каня ў падво́з.* Лісна В.-Дзв.

ПАДВО́Р *м.* Падворак. *На падво́ры не мішала б убрацца.* Іванаўка Гар. *Вымеці падво́р.* Баравуха Пол.

ПАДВУ́Й *м.* Дубэльты. *Скора замаразкі, нада падву́й устанавіць.* Далёкія Брасл.

ПАДВЯЧО́РКАВАЦЬ *незак.* Есці падвячорак. *Ну што, будзем падвячо́ркаваць?* Папкі Міёр.

ПАДВЯЧО́РКАМ *прысл.* Пад вечар. *На лаўцы падвячо́ркам збіраюцца дзяўчаты.* Мілашы Брасл.

ПАДВЯЧО́РНІК *м.* Падвячорак. *Я ў калхозе работаю, ежу з сабой нашу: сняданне, падвячо́рнік.* Язвіна Шум.

ПАДГАЛЁНІСТЫ гл. ПАГРАЛЁНІСТЫ

ПАДГАЛІНЯ́СТЫ *прым.* Галінасты, разгалісты. *Падгаліня́стае дзерава.* Беразіно Докш.

ПАДГАРЛЁ *н.* Падбародак. *Падгарлё ў старога адвісла.* Сянно.

ПАДГО́ЛКА *ж.* Каток. *Калі лёгкій марозец, харашо б схадзіць на падго́лку.* Казімірова Пол.

ПАДГО́РНАЯ *ж.* Назва танца. *Усяк танцавалі, але падго́рную мог не ўсякій.* Лугавыя Віц.

ПАДГРО́Б, ПАДГРО́БНІК *м.* Грыб грузд. *Падгро́бы – грыбы белыі, крэпкіі.* Язна Міёр. *Цэлы кошык падгро́баў можна набраць пад адной алешынай.* Каўшэлева Шарк. *Калі падгро́бнікі хрушчаць, то яны добра пасоленыя.* Выдрэя Лёзн.

ПАДГУ́ЗЫ, ПАДУ́ЗЫ *мн.* Раменная частка вупражы, збруі, якая накладаецца на тулава каню. *Падгу́зы ўжо мяняць каню нада.* Новае Сяло Сен. *Адзень каню паду́зы.* Заазер'е Тал.

ПАДДАЁНІК *м.* Даёнка. *Падай паддаёнік, на лаўцы стаіць.* Антонаўцы Брасл.

ПАДДА́ТЫ *дзеепрым.* Пра чалавека, які знаходзіцца ў лёгкай стадыі ап'янення. *Ты сёння, відаць, падда́ты.* Ганкавічы Беш. *Прышоў вечарам падда́ты, да нас усіх чапляўся.* Латышы Глыб.

ПАДДЗЕ́ЎКА, ПАДДЗЕ́ЎЧЫНА *ж.* Верхняя мужчынская вопратка, паддзёўка. *Вун твая паддзе́ўка, на кручку вісіць.* Забалаць Арш. *Ён гэту паддзе́ўчыну на зямлі кінуў, а яна настыла – і прастудзіўся во.* Станіслава Дубр.

ПАДДУ́БАВІК *м.* Паддубовік, ядомы грыб. *Нешта пападаюцца адны падду́бавікі.* Ушачы.

ПАДДУ́РЫВАЦЬ *незак.* Падманваць. *Любіш ты паддýрываць, а сам носам варочаіш, як цябе паддурáюць.* Выхадцы Лёзн.

ПАДЖАНІ́ШНІК *м., абрад.* Шафер, удзельнік вясельнага абраду. *Паджанíшнік – хлопец з горада, культурны такі.* Дуброўна, Міхалова Чаш., Верацеі Шарк. Параўн. *пéршы, пытáнішнік.*

ПАДЖО́ГА *ж.* Падпал, смалякі, трэскі, якія служаць для распальвання печы. *Дровы без паджóгі разгараццa не хочуць.* Лісуны Арш. *Растапіць нечым, паджóгі прынёс бы.* Новы Двор В.-Дзв. *Паджóгу кала бані пад паветкай бярі.* Заполле Віц. *У хату к вечару паджóгі прінясі.* Казловічы Гар. *Паджóга ў падпечку ляжыць – знойдзеш.* Кляўцы Лёзн. *Я шчэпкі, сучкі не выкідываю: яны на паджóгу пойдуць зімой.* Горы Рас. *Паглядзі, ці ляжыць паджóга на каптуру ля коміна.* Дабея, Лескавічы Шум. *Без паджóгі печ не затопіш.* Ула Беш., Князі Віц., Заазер’е, Халамер’е Гар., Азёрцы Глыб., Папшулі Міёр., Баяноўшчына Пол., Пралетарыя Уш., Лужкі Шарк. Параўн. *падпáлле, падтóпа, падтóпіна, падтóпка.*

ПАДЖЫВО́ТНІК *м.* Вялікая калода. *Калі дровы вун на тым паджывóтніку.* Халамер’е Гар.

ПАДЗЕ́МКІ, ПАДЗЁМКІ, ПАЗЕ́МКІ, ПАЗЁМКІ, ПО́ЗЕМКІ *мн.* Суніцы. *Скора і падзéмкі будуць.* Выдрэя Лёзн. *У нас з падзёмак варэнне не вараць.* Ляхаўшчына Паст. *Пазéмак на ўсё лета наеліся.* Спрынды Брасл. *Го, сёліта столькі пазéмак ёсціка, нада схадзіць.* Косарава, Надазер’е Глыб. *Унучкі як прыедуць, дык у пазéмкі пойдзем.* Крыпулі Докш. *Набралі мальцы ўчора многа пазéмак.* Пагошча Брасл., Котава Віц., Азёрцы Глыб., Макаравічы Докш., Жарцы Леп., Дэмскія Міёр., Прамышляды Паст., Латышы Рас., Пралетарыя Уш., Пашкі Шарк., Далуева Шум. *Пазёмкі ўжо, відаць, паспелі.* Глыбокае. *Дзіўчаты вун схадзілі пазёмак набралі, а ты ўсё сядзіш.* Верхняе Глыб. *У нядзелю з малой у пóземкі за возера пойдзем.* Глыбокае. *Знайшла добрую паляну, пóземкамі ўсё ўсыпана.* Завараты Глыб.

ПАДЗЁНІК, ПАДЗЁННІК *м.* Рабочы, які выконвае падзённую работу, падзёншчык. *Падзёнік памагаіць, і яму за гэта плацюць.* Заточча В.-Дзв. *Нешта майго падзённіка няма сёння – відаць, захварэў.* Фарынава Пол.

ПАДЗЕНЬКАВА́ЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Падзенькавáць за мёд.* Дэмскія Міёр.

ПАДЗЕ́ЦІСЯ *зак.* Падзецца. *Няма дзе падзéціся.* Ясюкі Паст.

ПАДЗІКА́ТАР *м.* Назва танца. *Калі была маладой, танцавала кадрылю, какетку, падзікáтар.* Белая Ліпа, Шацяні Сен.

ПАДЗІЯ́ЛА *н.* Коўдра. *Дай ім новае падзіяла.* Галі Беш.

ПАДЗО́ЛІЦА, ПАДЗО́ЛЬ *ж.* Бедная на солі і мінеральныя рэчывы зямля, падзол. *Дзе падзóліца, нічога не вырасціць.* Кутняны Пол. *Падзóль – запушчаная зямля.* Беразіно Докш.

ПАДЗО́РНІК, ПАДУЗО́РНІК *м.* Упрыгожанне для ложка, кавалак тканіны, у якім ніжні край абшыты брыжамі ці карункамі; падзор. *Раней дзяўчаты падзо́рнікі вышывалі, а ціпер нічаво ні нада.* Кузняцова Віц. *Добры пашыла падзо́рнік.* Белая Ліпа Сен. *Падузо́рнік змяніць нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ложак без падузо́рніка некрасівы, жалеззе тарчыць.* Зарачыцак Докш., Клясціцы Рас. Параўн. *падве́с.*

ПАДЗЫ́ГІВАЦЬ *незак.* Падсмейваць, насміхацца. *Вот не люблю, як падзы́гіваюць.* Залессе В.-Дзв. *І так дрэнна, а тут яшчэ ўсе падзы́гіваюць.* Празарокі Глыб. *Пасварыцца мы не пасварымся, але падзыгіваць мяне тожа не нада.* Вісяты Міёр. Параўн. *падсмі́хіваць, пад'ялды́ківаць* у 2 знач.

ПАДЗЯЛЁНКА *ж.* Восеньскі грыб чарнавата-зялёнага колеру, радоўка шэрая. *Падзялёнак няма ў лесе.* Зарачыцак Докш.

ПАДЗЯМЕ́ЛЬНІЦА *ж., асудж.* Дрэнная, нізкая ў маральных адносінах жанчына. *Падзяме́льніца яна старая, змяя падкалодная!* Абруб Глыб.

ПАДЗЯНІ́ЦА *ж.* Падзёншчына. *У пана ў падзяні́цы служыла.* Стары Лепель Леп.

ПАДКАРАГО́ДЗІЦЬ *зак.* Знайсці, прывабіць хлопца. *Пра яе і не падумаеш, а яна плясала дый хлопца сабе падкараго́дзіла.* Межава Арш.

ПАДКІЛЬЗА́ЦЬ *зак.* Зацугляць (каня). *Падкільза́ець каня свайго і вечарам прыедзець да нас.* Фролкавічы Беш.

ПАДКЛА́Д *м.*, ПО́КЛАДЗЬ, ПО́КЛАДКА *ж.* Поклад. *Яек дажа на падкла́д няма.* Жарцы Леп. *Адно яйцо на гніздзе на по́кладзь астаў.* Канашы Гар. *Што твая по́кладзь, калі яна ў іншае месца ходзіць несціся.* Абруб Глыб. *По́кладзь трэба на гняздо палажыць.* Матырына Леп. *По́кладзь не бяры.* Загарадна Лёзн. *По́кладку сёння куры склявалі.* Велеўшчына Леп.

ПАДКО́СНІКІ *толькі мн.* Нязжатыя сцёблы збожжавых. *Бываіць, нячыста жнуць, то кажуць: "Падко́снікі стаяць ззаду".* Анкуды Паст.

ПАДКРЭ́П'Е *н., зб.* Адходы памолу ад круп. *Бывала, свіней толькі падкрэ́п'ем і кармілі.* Слабада Шум.

ПАДКУРЫ́ЦЬ *зак.* Падпаліць. *Мокрыя дровы падкуры́ць цяжка.* Старнікі Глыб.

ПАДЛА́ДЗІЦЬ *зак.* Падгледзець пчол. *Надабі падла́дзіць пчол, вымаць рамкі з мёдам.* Жоўніна В.-Дзв.

ПАДЛАКО́ТНІК *м.* Падаконнік. *Я ўсе падлако́тнікі абоямі залапіла.* Слабада Дубр. Параўн. *падако́нак, падако́нка.*

ПАДЛА́СІЦА *ж.* Звер ласка. *У пастку папалася падла́сіца.* Моханава В.-Дзв.

ПАДЛЕ́ТЫШ, ПАДЛЁТАК, ПАДЛЁТЫШ, ПАДУЛЁТАК *м.* 1. Падлетак. *Ванька Данілаў яшчэ падле́тыш.* Сокарава Беш., Залучча Гар., Грынеўшчына Докш. *Сын у яе малы яшчэ, падлётак.* Сасновая Докш. *Даўно гэта было, я яшчэ падлётышам быў.* Гаршчэўшчына Тал. *От, цяпер гэтыя падулёткі, толькі чорта і твораць напіўшыся.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *падуро́стак, падуро́стачак, падшпа́рак.* 2. ПАДЛЁТЫШ *м.* Птушанё. *Вуткі ў мяне падлётышы.* Урбаны Брасл. *Сярод варон былі і падлётышы.* Шчотнікі Гар., Івоніна Шум.

ПАДЛІ́ЗЛІВЫ, ПАДЛЫ́ЖНЫ *прым.* Пра таго, хто падлізваецца, дагаджае; падліза. *Не люблю такіх падлі́злівых, як ты.* Івесь Глыб. *Во ўжо дзе падлы́жны малы!* Гацькаўшчына Арш.

ПАДЛІ́ЦА[1] *ж., груб.* Дзяўчына або жанчына, якая робіць подласці. *Падлі́цу эту Таньку відзець не хачу.* Пішчалава Арш.

ПАДЛІ́ЦА[2] *ж.* Пляма карычневага колеру на скуры; радзімка. *Вялікая падлі́ца на шыі.* Пашкі Шарк.

ПАДЛО́ЖНІКІ *мн.* Бервёны, на якія насцілаецца падлога. *Калі хату строілі, дык падло́жнікаў каля сарака заказалі.* Коравічы Чаш. Параўн. *падмо́снік, падмо́сцік* у 2 знач.

ПАДЛО́ЎЧЫ *прым.* Хуткі, жвавы. *Хлопец той дужа падло́ўчым быў.* Серкавіцы Тал.

ПАДЛЫ́ЖНЫ гл. ПАДЛІ́ЗЛІВЫ

ПАДМА́НАК *м.* Ашуканец, падманшчык. *Тыя два хлопцы – дзявочыя падма́нкі.* Пышна Леп.

ПАДМА́СЦЕР *м.* Памочнік, падмайстар. *Бацька не адзін работаў, у яго быў падма́сцер адзін.* Арцёмава Лёзн.

ПАДМАЎЛЯ́ЦЬ *незак.* Падгаворваць каго-н. *У нас такія людзі ёсць, што падмаўля́юць адзін другога і змовы робяць.* Кошчава Беш.

ПАДМЕ́ЛЬНЫ *м.* Млынар. *Падме́льны рукавадзіць млынам, меліць на млыні.* Ясева Міёр.

ПАДМЕ́ШВАЦЬ *незак.* Акучваць. *Падыходзіць час бульбу падме́шваць.* Тумінічы Арш. *Пара ўжо бульбу падме́шваць.* Гаршчэўшчына Тал. Параўн. *плужкава́ць.*

ПАДМІШУ́РЫЦЬ *зак.* Падмануць. *Падмішу́рыў я суседа.* Станіслававова Дубр.

ПАДМО́РНІК *м.* Шуфляда. *У падмо́рніку пуста.* Опса Брасл.

ПАДМО́СНІК, ПАДМО́СЦІК *м.* 1. Падмурак. *На падмо́сніку дзержыцца пол.* Ларынаўка Арш. Параўн. *падмуро́вак, падмуро́ўка.* 2. *часцей мн.* Бярвенне, на якое насцілаецца падлога. *Пол мяняць нада: падмо́снікі пагнілі.* Абольцы Тал. *Я сам гэныя падмо́сцікі ставіў.* Абольцы Тал. Параўн. *падло́жнік.*

ПАДМО́СЦЯ, ПАДПАМО́СЦЕ *н.* Падполле, паглыбленае ў зямлю памяшканне пад падлогай для захоўвання садавіны, агародніны і інш. *У Тасі падмо́сця не бульбай, а абы-чым загружана.* Зубава Арш.

*У падмóсці бульба прарасла.* Смалоўка Гар. *У падпамóсце мы бульбу на зіму ссыпаем.* Ваўчо Уш. Параўн. *падпóлля, пóдграб, пóдпал, прыгрэ́біца.*

ПАДМУРÓВАК *м.*, ПАДМУРÓЎКА *ж.* Падмурак. *Хата старая, падмурóвак асеў.* Мацюкова Глыб. *Нада пабяліць падмурóвак.* Мікалаёва Міёр. *Падмурóвак ужо трэснуў.* Белая Ліпа Сен. *Падмурóўку зрабілі ўжо.* Беразіно Докш. Параўн. *падмóснік* у 1 знач.

ПАДМЫ́ЦЬ *зак.* Памыць падлогу. *Заўтра ў кухні падмы́ю.* Кулакова Віц., Ноўка Гар. *У хаце нада было б падмы́ць ужэ.* Заобаль Шум.

ПАДМЯ́ЛКІ *толькі мн.* Адходы льну. *З падмя́лак путы вілі.* Белькі Паст.

ПАДМЯ́ЦІНКА *ж.* Мясныя адходы. *Накруцілі фаршу на катлеты, а ўсе шкуркі ды падмя́цінку пааддавалі катам ды сабакам.* Нізкабор'е Віц.

ПАДМЯШÁЦЬ *зак.* Акучыць. *Як ета так: бульбы не падмяшáць матцы?* Селішча Арш. Параўн. *падакýчыць.*

ПАДНАВÉС *м.* Навес. *Паднавéс шчэ дравамі незапоўнены.* Казімірова Пол. *Схадзі ў паднавéс, там на жэрдках мяхі вісяць.* Гілі Чаш. Параўн. *падшóпка.*

ПАДНАДÓЛАК, ПАДÓЛАК, ПАДПАДÓЛАК, ПАНАДÓЛАК, ПАНАДÓЛЬНІК *м.* Ніжні край сукенкі, кашулі і інш., падол. *Падшый паднадóлак, ходзіш, як абадранка.* Стралкі В.-Дзв. *Абрэзаць паднадóлак.* Пугачова Докш., Лескавічы Шум. *Падóлак аж да зямлі.* Валкалата Докш., Кулінава Уш. *Падпадóлак абрубліваю.* Беразіно Докш. *Атарваўся ў спадніцы панадóлак.* Пугачова Докш. *Панадóльнік адарваўся.* Пашкі Шарк.

ПАДНАРÁЎ *прысл.* Даспадобы. *Адрэманціраваць хату хочацца, каб усім паднарáў было.* Абруб Глыб. *Хлопец мне паднарáў.* Васілеўшчына Паст.

ПАДНÉБАВІК *м.* Палявы грыб вялікага памеру. *Ідзі пазырай паднéбавікаў.* Шарагі Міёр.

ПАДНЁМКА *ж.* Частка збруі. *Конь чуць паднёмкі не парваў.* Укля Брасл.

ПАДНÓЖКІ *толькі мн.* Шэрсць, абстрыжаная ў авечак каля ног. *Воўну кладзі аддзельна, паднóжкі – аддзельна.* Даўгабор'е Рас.

ПАДНÓЖНІК *м.* 1. Невялікі дыван. *Купілі красівы паднóжнік.* Новая Яблынька Тал. 2. Палавік. *Паднóжнік новый звізала.* Булаўкі Пол. Параўн. *палóвік.*

ПАДНЯБÉННЕ *н.* Верхняя ўнутраная частка печы. *Печка ў мяне старая, нада каго прасіць, каб хоць паднябéнне падмацаваць.* Камары Віц. *Летам паднябéнне ў печы рэманціравалі.* Язна Міёр. *Як у каго печ складзена: у каго паднябéнне нізкае, дык і варыцца ўсё скора, а ў нас*

*нада было воз дроў спаліць, пакуль усё зварыцца.* Іскра, Марцінава В.-Дзв., Вялікі Поўсвіж Леп., Лукашова, Масленікі Паст., Сарочына Уш., Коравічы, Марынцы Чаш.

ПАДНЯВЕ́СНІЦА *ж., абрад.* Шаферка, старшая дружка нявесты ў вясельным абрадзе. *Паднявесніца прыехала з дарагім падаркам.* Луцік Чаш.

ПАДО́БРЫЦЦА *зак.* Памірыцца. *Падобрыліся дружбаны.* Свяча Беш.

ПАДО́Л *м.* Месца на рацэ, дзе мыюць бялізну. *Панясу на падол і памыю ўсё там, хоць і далекавата.* Рэдзькі Дубр.

ПАДО́ЛАК гл. ПАДНАДО́ЛАК

ПАДО́НКІ *толькі мн.* 1. Адгон, малако, абястлушчанае на сепаратары. *Пасля сепаратара ўжэ падонкі астаюцца.* Ліпкі Віц. 2. Муць, дробныя часцінкі ў вадкасці (кампоце, соку і інш.) на дне слоіка. *Кампот выпілі – адны падонкі на дне асталіся.* Лужасна Віц.

ПАДО́ЎЖНЯ *ж.* Адтуліна, ляток у вулеі. *Уцякаюць пчолы ад дажджу, аж у падоўжні не памяшчаюцца.* Анціпенкі Дубр.

ПАДО́ХЦІ *зак., груб.* Здохнуць. *Лепей падохці, як так жыць.* Абруб Глыб.

ПАДПАВЕ́ЦЦЕ гл. ПАВЕ́ЦЦЕ

ПАДПАДО́ЛАК гл. ПАДНАДО́ЛАК

ПАДПА́ЛІВАЦЬ *незак.* Распальваць, прымушаць гарэць. *Раніцай, як устану, печ падпаліваць пачынаю.* Драбаўшчына Глыб.

ПАДПА́ЛЛЕ *н.* Трэскі, шчэпкі для падпалкі. *Куча падпалля каля печы ляжыць.* Пірагі, Савіна Дубр. Параўн. *паджога, падтопа, падтопіна, падтопка.*

ПАДПАМО́СЦЕ гл. ПАДМО́СЦЯ

ПАДПА́Р[1] *м.* Папар. *У сённяшні год будзем падпар пахаць.* Лугавыя Віц. Параўн. *папар, параніна, параніна, паріна, парына[1].*

ПАДПА́Р[2] *м.* Месца на рацэ, якое не замярзае ўзімку. *Дзе цёплае места ў рацэ, якое ў мароз не замярзаіць, то падпар кажуць.* Пліса Глыб.

ПАДПА́СТАК *м.* Падпасак. *Унук мой летам падпасткам быў, каровак пасціў.* Барсукі В.-Дзв.

ПАДПА́СЦІ *зак.* Правінавацііцца. *Мусіць, падпаў, раз судзіць будуць.* Уна Лёзн.

ПАДПАХА́ЦЬ *зак.* Падмесці. *Во як набегалі, нада цяпер за вамі падпахаць падлогу.* Таўкіні Шарк.

ПАДПА́ШАК *м.* Ахапак сена, саломы. *Прынясі падпашак з сарая і засцялі ў свінкі.* Папкі Міёр.

ПАДПА́ШША *н.* Падпахі. *Сукенку пашыла, але ў падпашшы нешта нядобра.* Запруддзе Глыб.

ПАДПАЯ́С *м.* Падпяразка, пояс. *Красівый падпаяс у плаццi.* Марачкова Рас. Параўн. *падперязка, паяс, повяс.*

ПАДПЕРЯ́ЗКА *ж.* Пояс. *Усе падперязкі ў шкапе ляжаць.* Галубова Рас. Параўн. *падпаяс, паяс, повяс.*

ПАДПЕ́ЧНІК *м., міф.* Дамавік. *Дзяцей пужалі падпечнікам.* Лазукі Чаш.

ПАДПЕ́ЧЧА, ПАДПЕ́ЧЧЫК гл. ПАДАПЕ́ЧАК

ПАДПІ́ЛАК *м.* Напільнік. *Дай падпілка пілу патачыць.* Моханава В.-Дзв. *Падпілкам тачылі пілу.* Смародзіна Лёзн.

ПАДПІНА́ЦЬ *незак.* Падвязваць, падпіраць. *Памідоры нада падпінаць, а то павалюцца.* Дрысвяты Брасл.

ПАДПІ́НКА *ж.*, ПАДПІ́НКІ *толькі мн.* Частка конскай збруі, вупражы. *Падпінка ляжыць у пуні.* Старнікі Глыб. *Падпінкі добрыя, ужо колькі гадоў у мяне.* Дамашы Брасл.

ПАДПЛЁТАЧНІК *м.* Пляткар. *З падплётачнікамі адрадзяся ні вадзілася.* Клясціцы Рас.

ПАДПЛО́ТНІК *м.* Падтыннік. *Падплотнік таго так і называецца, што расце пад плотам.* Павулле Уш.

ПАДПО́ЛЛЯ *н.*, ПО́ДПАЛ *м.* Падполле, паглыбленае ў зямлю памяшканне пад падлогай для захоўвання садавіны, агародніны і інш. *Бульбу ў падполля сыпаць будзем.* Лужасна Віц. *У старай хаці ў нас падполля саўсім маленькае было.* Канашы Гар. *Свякроў мне расказвала, як яе мачыха была са злосці ў подпалі закрыла.* Казловічы Гар. *Карзіну з бульбай у подпал высыпай.* Жабыкі Дубр. Параўн. *падмосця, падпамосце, подграб, прыгрэбіца.*

ПАДПО́ЛНАТА *ж.* Час паміж маладзіком і поўнатай. *Пераваліла на падполнату.* Буеўшчына Шарк.

ПАДПРУ́ГА *ж.* 1. Частка конскай збруі, папруга. *Падпруга ляжыць на ідным месце.* Баршчоўка Віц. *Падпруга саўсім худая ўжэ, нада новую.* Гунчанкі Віц. 2. Раменны пояс, папруга. *Калі ішлі касіць, падпругай апаясываліся, каб спіна ўвечарку не балела.* Лугавыя Віц.

ПАДПРЫ́ПЕК, ПАДПРЫ́ПЕЧАК *м.* 1. Падпечак. *Пашчапай дроў і ў падпрыпек палажы.* Драгуны Міёр. *Падпрыпечак поўны дроў.* Фарынава Пол. Параўн. *падапечак, падпечча, падпеччык.* 2. Пляцоўка перад топкай рускай печы, прыпечак. *Скавараду пастаў на падпрыпечак.* Залессе В.-Дзв. *Падпрыпечак ёсць у кажнай печы.* Луначарскае В-Дзв.

ПАДРАБІ́ЦЦА *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Падрабілася і лягла паляжаць.* Ляхаўшчына Паст. Параўн. *падабрацца[1], падхадзіцца, папорыцца.*

ПАДРАБІ́ЦЬ *незак.* Чараваць, калдаваць. *Калі падробіць злы чалавек, у сям'і шчасця не відаць.* Кошчава Беш.

ПАДРАБЛЯ́ЦЦА *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Цямнее, трэба ісці падрабля́цца.* Параўн. *падбіра́цца.*

ПАДРАЗУМІ́ЦЦА *зак.* Паразумнець. *Тады ўжо падразумі́ліся і сталі ў хаце сядзець.* Рубеж Брасл.

ПАДРА́ІЦЬ *зак.* Параіць. *Саседка падра́іла зрабіць капусту так.* Узмёны Міёр. Параўн. *падсаве́таваць.*

ПАДРАПА́ЧЫЦЬ *зак.* Разрыхліць глебу бараной, пабаранаваць. *Хачу падрапа́чыць папар, каб лягчэй было.* Моханава В.-Дзв.

ПАДРАШЭ́ТНІК, ПАДРЭ́ШАТНІК, ПАДРЯШО́ТНІК *м.* Грыб махавік зялёны. *Во і падрашэ́тнікі ё ў лясу.* Белая Ліпа Сен. *Гэты грыб ядзім, падрэ́шатнік у нас называецца.* Сінякова Шум. *Як кароў пасціла, пару падряшо́тнікаў у кустах нашла.* Ноўка Гар. Параўн. *падсасно́ўкі, піту́х.*

ПАДРО́Б *м.* Чарадзейнае дзеянне, якое аказвае шкодны ўплыў на іншых людзей. *Мужык мяне кінуў – гэта ж, вядома, падро́б.* Верхняе Глыб.

ПАДРУ́БНІК *м.* Карункі. *Звязала новы падру́бнік.* Язна Міёр.

ПАДРУГА́ЦЬ *зак.* Папракнуць. *Падруга́ла дачку ўчора, што не прыехала.* Мярэцкія Глыб.

ПАДРУЖЭ́ЙНЫ *наз.* Паляўнічы сабака. *У бацькі добрыя падружэ́йныя.* Бешанковічы Беш., Бычыха Гар.

ПАДРЭ́БКІ *толькі мн.* Ніткі тоўстага валакна. *З падрэ́бак во даўней ткалі мяхі бульбяныя.* Папшычы Глыб.

ПАДРЭ́ЗАЦЬ *зак.* Дастаць частку мёду з вулея. *Нада падрэ́заць пчол.* Заточча В.-Дзв.

ПАДРЭШАТНІК, ПАДРЯШО́ТНІК гл. ПАДРАШЭ́ТНІК

ПАДСАВЕ́ТАВАЦЬ *зак.* Параіць. *Падсаве́тавалі знахарку, дык яшчэ хужэй стала.* Велеўшчына Леп. Параўн. *падра́іць.*

ПАДСА́ДА *ж.* Атава; маладая густая трава. *Цімафееўка чуць стала ўсхадзіць, а каля яе падса́да пашла.* Залессе В.-Дзв. *На нашай дзялянцы падса́да добрая, сена накосім многа.* Латышы Глыб.

ПАДСА́НКІ *толькі мн.* Невялікія сані. *Падса́нкі можна прычапіць да саней.* Луначарскае В.-Дзв. *Каня запраг, а падса́нкі ззадзі.* Беразіно Докш.

ПАДСАСНО́ЎКІ *мн.* Грыбы махавікі. *Падсасно́ўкі жоўценькія, чысценькія, у моху.* Беразіно Докш. Параўн. *падрашэ́тнік, падрэ́шатнік, падряшо́тнік.*

ПАДСЕ́ДЗЕЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Сёння дзіка падсе́дзеў мой стары.* Надазер'е Глыб.

ПАДСІВІ́ЦЬ *зак.* Забяліць малаком, заправіць. *Прынясі малако, хачу крупнік падсіві́ць.* Суша Леп.

ПАДСКАВАРО́ДНІК *м.* Падстаўка для патэльні. *На падскаваро́днік я і каструлю калі пастаўлю, і кацялок.* Гуліна Сен.

ПАДСКРО́БЫШ, ПАДСКРЁБЫШ, ПАДСКРЭ́БІШ, ПАСКРО́БАК *м., памянш.* ПАСКРЭ́БІШКА 1. Хлябец з рэшткаў цеста. *Як астаецца цеста, дык тады мы падскро́бышы пяклі.* Варашылы Сен. 2. *аг., перан.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Гэта мой падскро́быш, наш паследні сынок.* Галубчыкі Глыб., Новыя Валосавічы Леп., Замачак Чаш., Далуева Шум. *Падскрёбышам быць няплоха, усё яму дастаецца.* Задуброўе Віц. *Падскрэ́біш іхны дужа шустры.* Старое Сяло Уш. *Пяцёра дзяцей у сям'і, Васька – паскро́бак.* Хацейка Гар. *Я, дачушка, апошні ў сям'і – паскро́бак.* Алексінічы Сен. *У сорак гадоў радзіла пятую, сваю паскрэ́бішку.* Сахнавічы Глыб.

ПАДСЛАНЕ́ЧНЫ *прым.* Сланечнікавы. *І елі падсладне́чныя семкі ўдваіх.* Зорнікі Беш.

ПАДСМЕ́ЦЕННЕ *н.*, ПАДСМЕ́ЦІНА *ж.*, ПАДСМЕ́ЦІННЯ *н.*, ПАДСМЁТКА *ж.*, ПАДСМЯТА́ННЕ, ПАСМЕ́ЦЕННЕ *н.*, ПАСМЕЦІНА *ж.* Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла ў бойцы; сыроватка. *Малая дужа любіць падсме́ценне.* Сакольнікі Віц. *Бліны пякуць на падсме́ціне.* Двухполле Гар. *Пайду падсме́ціння карові выллю.* Казловічы Гар. *Падсмётку мамка карове аддавала.* Стасева Лёзн. *Падсмята́ннем парасят кармілі.* Верацеі Шарк. *Када масла скалацілі, то, бывала, адкрыеш крышачку – і відна пасме́ценне.* Езярышча Гар. *Пасме́ціну я выліваю вон.* Доўжа Віц.

ПАДСМЕ́ЦЦЕ *н.*, ПАДСМЯТА́НІК, ПАДСМЯТА́ННІК *м.* Вяршкі. *Бліны макалі ў падсме́цце.* Сарочына Уш. *Не люблю падсмята́нік.* Хацейка Гар. *Сабраць падсмята́ннік.* Жарцы Леп. Параўн. *пастаялка.*

ПАДСМЁТКА гл. ПАДСМЕ́ЦЕННЯ

ПАДСМІ́ХІВАЦЬ *незак.* Падсмейваць, насміхацца. *Разве гэта нармальна, калі мужык жонку падсмі́хіваіць?* Асвея В.-Дзв. *А ты міне ні падсмі́хівай.* Канашы Гар., Ляхаўшчына Паст. Параўн. *падзы́гіваць, пад'ялдыківаць* у 2 знач.

ПАДСМЫРО́ДЗІЦЬ *зак.* Заскварыць. *Дажыліся! Нечым ужо суп падсмыро́дзіць!* Іванск Чаш.

ПАДСМЯТА́НІК гл. ПАДСМЕ́ЦЦЕ

ПАДСМЯТА́ННЕ гл. ПАДСМЕ́ЦЕННЕ

ПАДСМЯТА́ННІК гл. ПАДСМЕ́ЦЦЕ

ПАДСО́БА *ж.* Дапамога. *Хаця б мне падсо́ба была, я ж старая ўжо, а дзяцей нет.* Мікіціха Шум.

ПАДСТА́ЎКА *ж.* Рамка для сотаў. *Паставіў у вулей падста́ўку.* Пугачова Докш.

ПАДСТУ́ПЛІВЫ *прым.* Хітры. *О, гэта яшчэ тая зараза, падсту́плівы, каго хочаш запутаць можыць.* Мікіціха Шум.

ПАДТО́ПА, ПАДТО́ПІНА, ПАДТО́ПКА, ПАТО́ПКА *ж.* Трэскі, бяроста для падпалу. *Падто́па закончылась.* Стар Арш. *Добра б яшчэ*

*падто́пы наскіпаць.* Вяцера Чаш. *Падто́піну нада ўкінуць, скарэй разгарыцца.* Баева Дубр., Валосава Тал. *Падто́пку ў хату занясі, каб ні замокла.* Лужасна Віц. *Падто́пкі прынясла печку затапіць.* Каралі Сен. *Падто́пку за печку злажыла.* Рускі Шум. *Ад пато́пкі добра гарыць у печы.* Дразды Беш. Параўн. *паджо́га, падпа́лле.*

ПАДТРАІ́ЦЬ *зак.* Узараць перад пасевам другі раз. *Нада падтраі́ць, а тады сеяць, каб добра расло жыта.* Грышаны Віц.

ПАДУЗО́РНІК гл. ПАДЗО́РНІК

ПАДУ́ЗЫ гл. ПАДГУ́ЗЫ

ПАДУЛЁТАК гл. ПАДЛЕ́ТЫШ

ПАДУ́МКА *ж.* Думка. *Дажа і паду́мкі не было, што так рана пасівею.* Жоўніна В.-Дзв.

ПАДУРО́СТАК, *памянш.* ПАДУРО́СТАЧАК *м.* Падлетак. *Падуро́сткі цяпер абы-што твораць.* Быцава Беш. *Памёрла яшчэ падуро́сткам.* Пашкі, Трабаўшчына Шарк., Замшына Лёзн. *На танцы падуро́стачкі толькі пачыналі хадзіць.* Мацюкова Глыб. Параўн. *падле́тыш, падлётак, падлётыш* у 1 знач., *падуле́так, падулётак, падшпа́рак.*

ПАДУ́ШАЧКІ *мн.* Мочкі вушэй. *Жалею, што раней не пракалола паду́шачкі і не ўдзела сярожкі.* Янушова Докш.

ПАДУ́ШЧАНІК *м.* Навалочка. *Паду́шчанікі новыя ў магазін прывязлі, дык усе ўжо разабралі.* Янкі Докш.

ПАДХАДЗІ́ЦЦА *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Дай ты мне падхадзі́цца, а тады ўжо пра кіно гавары.* Сардыкі В.-Дзв. *І як гэта мне падхадзі́цца скоранька?* Савінічы Сен. Параўн. *падабра́цца*[1], *падрабі́цца, папо́рыцца.*

ПАДХАДЗЯ́, ПАДХАДЗЯ́ШЧА *прысл.* Даволі многа. *Падхадзя́ зярна намалацілі.* Камаі Паст. *Падхадзя́шча бульбы накапалі.* Лужасна Віц. Параўн. *пара́дашна.*

ПАДХВА́ТНЫ, ПАХВА́ТНЫ *прым.* Зручны для карыстання. *Такі чайнік падхва́тны дачка падарыла!* Мількі Брасл. *Якая ў цябе машынка швейная падхва́тная!* Вітунічы Докш. *Тапорык у дзядзькі быў пахва́тны.* Андрэева Гар. Параўн. *пахадкі́.*

ПАДХВА́ТЫ *толькі мн.* Вілкі, якімі ставяць у печ і выцягваюць з печы катлы. *Падхва́ты ў качарэжніку ператры.* Верхняе Глыб. *Вазьмі падхва́ты, каб кацёл зручней было паставіць.* Рудня Пол.

ПАДХЛЕ́БЛІВАЦЦА *незак.* Ліслівіць. *Падхле́бліваца не люблю.* Селішча Уш.

ПАДХО́ДЛІВЫ[1] *прым.* Ветлівы, прыязны. *Чалавек ён падхо́длівы, харошы.* Васілеўшчына Паст.

ПАДХО́ДЛІВЫ[2] *прым.* Нахабны. *А знойдуцца і такія падхо́длівыя бабы, што не адчэпяцца самі ад мальцаў.* Клінавое Шарк.

ПАДЦЕ́ЛАК, ПАДЦЁЛАК *м.* Цяля ва ўзросце ад паўгода. *Падце́лак у нас сёлета ніякі, хварэе ўсё.* Порплішча Докш. *Карову прывязала на полі, а падцёлак яшчэ ў хляве стаіць.* Лабачова Беш. *Падцёлак гладкі, хоць зіму ў хляве стаяў.* Беразіно Докш. *За зіму падцёлак падрос.* Груздава Паст. *Падцёлак наравісты.* Зорнікі Беш., Бычыха Гар., Янкі Докш., Стараселле, Суша Леп., Мерзлякова Лёзн., Крычава, Новы Пагост Міёр., Муляры Паст., Вялікія Апанаскавічы, Арэхаўна, Дольцы, Кублічы Уш., Антаполле Чаш., Буеўшчына, Жданы Шарк., Мішкавічы Шум.

ПАДЦІ́РКА *ж.* Прамасленая, насычаная маслам анучка для змазвання патэльні. *Падці́рка мая некуды заваліласл.* Канашы Гар. Параўн. *памазо́к, перанка́, по́дмаз, по́мазка.*

ПАДЦЫГА́НІЦЬ *зак.* Падмануць. *Чалавек ужо такій, не агледзішся – падцыга́ніць.* Халамер'е Гар.

ПАДЦЫГЛЯ́СТЫ *прым.* Худы. *Немцы пры адступленні былі як падцыгля́стыя ваўкі галодныя.* Папіна Сен. *Такі ўжо падцыгля́сты стаў, саўсім высах.* Алексінічы Сен.

ПАДЦЯПЛЯ́ЦЬ *незак.* Запальваць, уключаць (пра сістэму ацяплення). *Ці ты падце́пліў паравое?* Турлы Паст.

ПАДЦЯРУ́ШНІК *м.* Невялікі пернік з рэшткаў цеста. *Падцяру́шнік аддаюць меншаму, каб у сілу ўбіраўся скарэй.* Якубова Рас.

ПАДЧАПУРЫ́ЦЦА *зак.* Прыбрацца, прыгожа апрануцца. *Падчапуры́лася – і на вечарынку.* Лазы Тал.

ПАДЧАПУРЫ́ЦЬ *зак.* Прыбраць, прыгожа апрануць каго-н. *Так падчапуры́лі маладую, што не ўзнаць.* Казлы Міёр.

ПАДЧАРО́ВАК, ПАДЧАРЭ́ВАК *м.* Сала з унутранай часткі жывата жывёлы, падчарэўе. *На гэты раз падчаро́вак на славу.* Сокарава Беш. *Зарэзала парсюка, зняла падчаро́вак і палажыла ў яшчык.* Станіслававова Дубр. *З падчарэўка скварак ён не любіць.* Запруддзе Сен.

ПАДЧАХЛІ́ЦЦА *зак.* Добра выпіць, напіцца. *Дзе ты ўжо так падчахлі́ўся?* Машканы Сен.

ПАДЧАЧУ́РКА *ж.* Дзяўчына-падлетак. *Добрая твая падчачу́рка, ладная ды складная.* Станіслававова Дубр. Параўн. *пасіка́ўка, петнасто́ўка, петнацо́ўка, плі́гаўка, пятна́стка, пятнасто́ўка, пятно́стаўка.*

ПАДШКО́ЛІЦЬ *зак.* Прабраць, зрабіць вымову. *Ніяк ты яго ні падшко́ліш сёння што-та.* Ноўка Гар. *Як падшко́лю – такей маліц харошый становіцца.* Лужасна Віц.

ПАДШЛЕПНАВА́ТЫ, ПРЫШЛЁПНУТЫ *прым.* Прыдуркаваты, з дзівацтвамі. *Мужык першы падшлепнава́ты ў яе быў, няўзглядны*

*такі.* Селішча Уш. *Ён калі п'яны, то як прышлёпнуты.* Быцава Беш. Параўн. *прітыріны, прытыраны.*

ПАДШО́ПКА *ж.* Драўляная гаспадарчая пабудова для розных мэт. *Падшо́пка – толька страха, бакоў няма.* Абруб Глыб. Параўн. *паднаве́с.*

ПАДШПА́РАК *м.* Падлетак. *Я яшчэ падшпа́ркам быў, як вайна ішла.* Папіна Сен. Параўн. *падле́тыш, падлётак, падлётыш, падулетак, падуро́стак, падуро́стачак.*

ПАДШЧЭ́НКІ *мн.* Сківіцы. *Такі злы быў, што аж падшчэ́нкі хадзілі.* Пралетарыя Уш.

ПАДЫМА́ШНІК *м., бат.* Любіста. *Падыма́шнік вон расцець.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАДЫСПА́Н, ПАДЫСПА́НЕЦ *м.*, ПАДЫСПА́НКА *ж.*, ПАДЫСПА́ЧЫК *м.* Побытавы бальны танец падэспань. *Танцавалі полечку, кракавяк, ліцію, падыспа́н.* Езярышча Гар. *Мы ўсю маладосць толькі падыспа́н і танцавалі.* Абольцы Тал. *Падыспа́нец быў самый красівый танец.* Лугавыя Віц. *Я очэнь танцуваць любіла, асобенна падыспа́нец.* Езярышча Гар. *Раней скакалі падыспа́нку.* Арляны Сен. *У аснаўном тут танцавалі кадрыль, вальсы, польку, падыспа́чык.* Кіселева Тал.

ПАДЫСПО́ДАМ *прысл.* Унізе, пад чым-н., падыспадам. *Падыспо́дам у лажку траўка ўжо зазелянела.* Дрыгучы Міёр.

ПАДЭ́СЦЬ *ж.* Падман, падвох. *А ці няма тут якой падэ́сці?* Гацькаўшчына Арш.

ПАД'ЯЛДЫ́КА *аг., асудж.* Насмешнік. *Пад'ялды́ка – ета тот, хто ўсіх падсмеіваіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАД'ЯЛДЫ́КІВАЦЬ *незак.* 1. Згаджацца, выказваць згоду, адабрэнне, дагаджаючы некаму. *Свайго слова не імеіць, толькі пад'ялды́ківаіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *А ты яму не пад'ялды́ківай.* Пугачова Докш., Старое Сяло Уш. 2. Падсмейваць, насміхацца. *Зноў ты мяне пад'ялды́ківаеш! Што я табе зрабіў?* Абруб Глыб. *Любіш жа ты пад'ялды́ківаць!* Старое Лядна Леп. Параўн. *падзы́гіваць, падсмі́хіваць.*

ПАД'ЯЛІ́НЕЦ *м., толькі адз.* Ядловец. *Пугаўё з пад'ялінцу ёмкае выразаў.* Шклянцы Докш.

ПАД'ЯЛО́ВІК *м.* Баравік, які расце пад елкай. *Пад'яло́вікаў сабрала.* Нізы Лёзн.

ПАЁМІСТЫ *прым.* Здагадлівы, кемлівы. *Паёмісты такі ўнук і паслушны.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЁМНА *прысл.* Зручна. *З правай рукі мне больш паёмна.* Смаляны Арш.

ПАЁНІК, ПАЁНІШ *м.* 1. Малое цяля. *Якое там у мяне хазяйства – карова ды паёнік.* Шарагі Міёр. *Пойдзем паёніша паіць.*

Урбаны Брасл. 2. Дзіця на штучным ускормліванні. *А ў мяне рабяты абодва паёнікі, і нічога: здаровыя, харошыя і без мацярынскага малака.* Сахнавічы Глыб.

ПАЁРКА *ж.* Круглы чыгунны круг, якім закрываецца адтуліна ў пліце. *Агонь праз паёрку відаць.* Пашкі Шарк.

ПАЁСЬ *зак.* Паесці. *Парцізану толькі нада было паёсь.* Браслаў. *Паёсь ён любіць, а вот робіць – не.* Канашы Гар.

ПАЖАНА́ТЫ *прым.* Жанаты. *А сыны ўжо мае пажана́тыя, жывуць добра.* Іванск Чаш.

ПАЖА́РАК *м.*, *часцей* ПАЖА́РКІ, ПАЖА́РНІКІ *мн.* Грыбы, якія растуць на выжарынах. *Пажа́ркі сталі вылазіць на выпаліне.* Ноўка Гар. *Калі ідзеш у грыбы, дык і пажа́рнікі бярэш.* Дразды Беш. Параўн. *пагарэ́льцы, папялу́шкі.*

ПАЖВА́НЫ *дзеепрым.* Памяты, заспаны (пра чалавека). *Пасля свята ўвесь нейкі пажва́ны, памяты.* Стары Лепель Леп.

ПАЖДА́ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Нам прыказалі пажда́ць.* Дунілавічы Паст.

ПАЖЛУБІНЯ́ЦЬ *зак.* Перакусіць. *Трошкі пажлубіня́йце.* Слабада Паст.

ПАЖМЯ́КАНЫ *дзеепрым.* 1. Патрушчаны. *Свінні гарбузы пажмя́каныя паелі.* Бугаі Сен. 2. Пакамечаны. *Плацце пажмя́канае.* Стары Лепель Леп. Параўн. *пагэ́мтаны, пако́мканы.*

ПАЖНІ́НА *ж.* Сенажаць, пожня. *На пажні́не каровы пасуцца.* Залясінкі Шарк. Параўн. *пажня́ўка* ў 1 знач.

ПАЖНЯВІ́ЦА, ПАЖНЯВУ́ХА *ж.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства злакавых; курынае проса, брыца. *У нас буракі сёлета спрытныя і пажнявіцы мала.* Завараты Глыб. *Пажнявýха па бульбе пашла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *пласку́ха, плашчу́га, плі́шчына.*

ПАЖНЯ́ЎКА *ж.* 1. Сенажаць, пожня. *Каня на пажня́ўку завядзі.* Лужкі Шарк. Параўн. *пажні́на.* 2. Трава, якая расце на пожні. *Трэба пажня́ўкі трусам адкасіць.* Верацеі Шарк.

ПАЖО́НДАК *м.* Парадак. *Ціпер у хаце пажо́ндак.* Папкі Міёр.

ПАЖЫ́ЗНІ *прысл.* Навек, назаўсёды. *А хвост у яго пажы́зні астаўся.* Кашталянаўшчына Глыб.

ПАЖЫ́ЛЫ *прым.* Пажылы. *Тут адны пажы́лыя людзі жывуць.* Гомель Пол.

ПАЖЫ́ЧЫЦЬ *зак.* Пазычыць. *Прыдзець і просіць пажы́чыць то зярна, то хлеба.* Лынтупы Паст.

ПАЖЭ́ЧКІ *толькі мн.* Парэчкі. *Кусты пажэ́чак ужо пакраснелі.* Абаляны Брасл. *Пажэ́чкі смачныя сталі, някіслыя.* Дрысвяты Брасл.

ПАЗАВУГО́ЛЛЕМ *прысл.* Хаваючыся, таемна. *Пазавуго́ллем ходзіць, каб не відзелі.* Жабыкі Дубр.

ПАЗАВУГО́ЛЛЮ *прысл.* Абы-дзе. *Цігаецца сын пазавуго́ллю.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ні хадзі пазавуго́ллю, ідзі дамой.* Ноўка Гар.

ПАЗА́ДЗЕ *прысл.* Ззаду. *Дзеці ідуць паза́дзе за мной.* Далуева Шум.

ПА́ЗАЛКІ *толькі мн.* Памыі. *Чай што па́залкі, піць неяк.* Рыдамля Тал. Параўн. *памы́дліны, памы́йкі.*

ПАЗАЛО́ТНІЧКІ *мн.* Сваты. *Раней пазало́тнічкі калі прыязджалі, то дамой усегда другой дарогай вазврашчаліся.* Камоскі Беш.

ПАЗАПАМІНА́ЦЬ *зак.* Забыць, пераблытаць нешта. *Пазапаміна́ў я ўсё, што па-беларуску гаварылі.* Анціпенкі Дубр.

ПАЗАСКА́БІЦЬ, ПАЗАСКАЛА́БІЦЬ, ПАЗАСКАЛЮ́БІЦЬ *зак.* Загнаць стрэмкі. *Рукі пазаска́біш аб гэтыя дошкі.* Карабанавічы Дубр. *Усе рукі пазаскала́біла.* Канашы Гар. *Лён як начнеш рваць, дык рукі пазаскалю́біш.* Ламіншчына Тал.

ПАЗА́ЎТРА, ПАЗА́ЎТРАМУ *прысл.* Паслязаўтра. *Паза́ўтра паедзім у госці.* Паташня Беш. *Калі пагода, дык заўтра-паза́ўтра нада сена звязці.* Дрыгучы Міёр. *Каб к пазаўтраму ўсё было зроблена!* Паліцы Беш. Параўн. *паслязаўтрага.*

ПАЗГУ́Р, ПАЗУ́Р *м., часцей* ПАЗУРЫ́ *мн.* Пазногаць. *Такія пазгу́ры адрасціла, як з імі работаць?* Мішкавічы Шум. *Пазу́р баліць. Можа, загнала што-небудзь.* Дрысвяты Брасл., Савенічы Сен. *Дзеўкі цяпер ходзяць пазуры́ маляваць у нейкі магазін.* Трашчанішкі Паст., Боўкалы Шарк.

ПАЗДЗЕ́РНІК *м.* Лістапад. *Цяпер гавораць лістапад, а раней усё паздзе́рнік называлі.* Баруны, Дварчаны Брасл.

ПАЗЕ́МКІ, ПАЗЁМКІ гл. ПАДЗЕ́МКІ

ПАЗЕ́МНІК, ПАЗЁМАЧНІК *м.* Сунічнік. *Пазе́мнік яшчэ зялёны, а ягады ўжо пасохлі.* Азёрцы Глыб. *Пазёмачнік быў добры, а ягад не было.* Ластавічы Глыб.

ПАЗІ́ЦЬ *незак.* Выразаць пазы. *Ідзіце і пазіце балкі на хату.* Даўгабор'е Рас.

ПАЗМІРА́ЦЬ *зак.* Памерці. *Усе мужыкі ў нас ужо пазміра́лі.* Свірэлі Паст.

ПАЗНАВІ́ТА, ПАЗНАТО́Й *прысл.* Позна, познім часам. *Дзеці пазнаві́та на вуліцы гуляюць.* Бушыкі Глыб. *Такой пазнато́й ніхто моркву не садзіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пасля танцаў пазнато́й ішлі дамой.* Уна Лёзн.

ПАЗО́ЧАК *м.* Невялікая скрынка. *Пакладзі ніткі ў пазо́чак.* Капланы Сен.

ПАЗУ́Р гл. ПАЗГУ́Р

ПАЗЯВУ́ШКІ, ПАЗЯЎКІ́ *мн.* Пазяханне. *Пазяву́шкі заразныя: адзін пазяўнець, і другі тут жа.* Залессе В.-Дзв.

◊ ПАЗЯВЎШКІ (ПАЗЯ́ЎКІ) БЯРЎЦЬ Хочацца спаць (пра чалавека, які пазяхае). *Пазяву́шкі бяру́ць ад такой скукацішчы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пайду я, а то пазя́ўкі бяру́ць.* Мікіціха Шум.

ПАЙДА́ЦЬ *зак.* Паесці, пад'есці. *Мы ўжо пайда́лі, цяперь будзім лажыцца спаць.* Баброва Дубр.

ПА́ЙКА[1] *ж.* Участак, надзел зямлі. *Луг обшчый, а як падзелюць, то называюць "твая па́йка", "мая па́йка".* Грышаны Віц. *Бацька з касою пайшоў на па́йку.* Рудня Гар. *Адным лучшую, другім хужэйшую па́йку дадуць.* Гарэлькі Дубр. *У Івана аж дзве па́йкі, дык і ходзіць касіць каторы дзень.* Ульянавічы Сен. *Пайду буракі на сваю па́йку палоць.* Арэхаўна, Вялікія Дольцы Уш. *Заўтра па́йкі дзяліць будуць.* Заессе Чаш.

ПА́ЙКА[2] *ж.* Шчасце, удача. *Па́йка сама не прыходзіць.* Запружаны Чаш.

ПА́ЙМАЧКА *ж., памянш.* Пучок валасоў, пасма. *Тады возьме дзеўка па́ймачкі валасоў і прапусціць цераз кальцо.* Кветча Леп.

ПА́ЙСМЫ, ПА́СЛЫ *толькі мн., груб.* Валасы. *Я табе зараз усе па́йсмы павырываю.* Амбросенкі Шарк. *Памый ты ўжо свае па́слы.* Лужкі Шарк.

◊ ПАЙСЦІ́ ДА САСНО́ЎСКАГА Легчы спаць. *Прыстала сёння, ды і позна, пара б ужо да са́сноўскага пайсці́.* Шаркаўшчына.

◊ ПАЙСЦІ́ Ў ПРЫМА́КІ, ПАЙСЦІ́ Ў ПРЫ́МКІ, ПАЙСЦІ́ Ў ПРЫ́СТАЎКІ, ПРЫСТА́ЦЬ У ПРЫ́МЫ Пра мужчыну, які пайшоў жыць у дом жонкі, якога прынялі ў жончыну сям'ю. *Пайшоў Іван да яе ў прыма́кі.* Вярхоўе Беш. *Пойдзеш у пры́мкі, а тады глядзі з цешчыных рук хлеба кусок.* Селішча Арш. *Тады ён і пайшоў у пры́стаўкі.* Міцькаўшчына Арш. *Сямён, як жонка выгнала, прыстаў да Волькі ў пры́мы.* Моханава В.-Дзв.

◊ ПАЙЦІ́ НА БАЧЭ́ЙКАВА Легчы спаць. *Пайду́ на бачэ́йкава, дужа спаць хочацца.* Паўазер'е Беш.

◊ ПАЙСЦІ́ НА ВІ́ШНІ Пайсці на танцы; арганізаваць гулянне з танцамі ўвечары. *Сёння пойдзем на ві́шні ў суседнюю вёску.* Тумінічы Арш.

ПАЙЦІ́ЦЬ *зак.* Пайсці. *Пасля абеду хочу пайці́ць к Маруські.* Лялеўшчына Гар. Параўн. *пакандыба́ць.*

ПАІ́ЛЬНЯ *ж.* Паілка для жывёлы. *У паі́льню налі свежай вады.* Вымна Віц.

ПАІМІРЫ́ЦЦА *зак.* Памірыцца. *Яны то пасварацца, то паіміра́цца.* Германавічы Шарк.

ПАІ́МКА *ж.* Улоў. *Сягоння добрая паі́мка была, цэлую кашолку ляшчоў налавілі.* Вішкавічы Чаш.

ПАІНДЗЮ́ЛІЦЬ *зак.* Хутка накіравацца куды-н. *Вунь, глянь, паіндзю́лілі мужыкі некуды.* Расоны.

ПА-ЇХНАМУ *прысл.* Па-іхняму. *Па-їхнаму няхай будзець.* Андрэеўшчына Арш.

ПАЇЦЦА *незак.* Піць. *Жаркавата. Каровы бягуць паїцца.* Смаляны Арш.

ПА́К *м.* 1. Куфар. *Раней, калі маладая замуж ішла, то брала з сабой па́к.* Міхалова Чаш. 2. Скрыня для захавання зерня. *Бяры ў паку́ леташні ячмень.* Галбея Паст.

ПАКА́ГДАСЬ *прысл.* Пазаўчора. *Пака́гдась хадзілі да Францаўны.* Валынцы В.-Дзв.

ПА-КАДЛО́ЎСКУ *прысл.* Абы-як. *Ты ўсё робіш па-кадло́ўску.* Шылы Сен.

◊ ПАКАЗА́ЦЬ, НА ЧЫМ СВІННЯ́ ХВОСТ НО́СІЦЬ Правучыць. *Я паказа́ў яму, на чым свіння́ хвост но́сіць, дык болей не лезе.* Папоўка Сен.

◊ ПАКАЗА́ЦЬ САЛО́МУ Прымусіць працаваць. *Брыгадзір новы вам пака́жыць салому, не адстанець.* Малая Вядрэнь Чаш.

ПАКАЗЁЛІЦЦА *зак., груб.* Зрабіць вялікія вочы. *Чаго пdefault казёлілася, не нравіцца праўда?* Дрыгучы Міёр.

ПА́КАЛАК[1] *м.* Невялікая палка. *Ногі баляць, дык з па́калакам хаджу.* Сялец Чаш.

ПА́КАЛАК[2] *ж.* Невялікая яма. *Вырый па́калак і засып туды смецце ды закапай.* Баршчоўка Віц.

ПА́КАЛАК[3] *м., асудж.* Гультаяваты чалавек. *Што ты за па́калак, нічога памагаць не хочаш.* Жывалака Уш.

ПАКА́МЕСЬ, ПАКА́МІСЬ, ПАНА́МЕСЬ 1. *злуч.* Пакуль. *Пака́месь тое ды сёе, мы на рэчку збегаем.* Бор Леп. *Пана́месь ты прыйшоў, я і заснула.* Ураджайная Глыб. Параўн. *по́кант.* 2. *прысл.* На працягу некаторага часу. *Пака́місь у лес не ідзіце.* Рубеж Брасл. *Ты пака́місь тут у нас пагуляй.* Кляны Дубр. *Пака́місь не крадзець, дзякуй Богу.* Гута Паст., Славені Тал. Параўн. *паку́дава, паку́ліка, паку́ля.*

ПАКАНДЫБА́ЦЬ *зак.* Пайсці, схадзіць. *К каму тут пакандыба́еш – адны старыя.* Галубава В.-Дзв. Параўн. *пайці́ць.*

ПАКАРМЯ́ХА *ж.* Жанчына, якая корміць грудзьмі дзіця. *Не захадзі туды: пакармя́ха наша там малога свайго корміць.* Пірагі Дубр.

ПАКАТА́НКА *ж.* Ушчуванне, вымова, сварка. *Позна ўжо, ідзі дамоў, а то ад мамы паката́нку палучыш.* Каты Шарк.

ПАКАТО́ *н.* Кола. *У калёсах пакато́ адвалілася.* Гарбачэва Рас. *Пакато́ зламалася ўчора.* Цялічына Уш.

ПАКАТО́К *м.* Качулка, прыстасаванне цыліндрычнай формы, якое выкарыстоўваецца для выцягвання катлоў з печы. *Пакато́к пад вілкі пакладзі.* Опліса Брасл. *Пакато́к некуды заваліўся.* Корніца Шарк.

ПАКАЦЁЛ *м., ткац.* Зубчатае кола ў пярэднім навоі кроснаў. *Закруці пакацёл, каб было добра нацягнута палатно.* Мнюхі Міёр.

ПАКВА́СІЦЬ *зак., экспр.* Пабіць, паразбіваць. *Увесь по́судак мне паквасіў, у поцемках ходзячы.* Латышы Глыб.

ПАКІДА́НКА *ж.* Жонка, якую кінуў муж. *Яна пакіда́нка, адна дзяцей гадуець.* Шодзікі Шум.

ПАКЛЯ́ПШЫ *прым.* Стары, лядашчы. *Хата ў мяне ніякая, пакля́пшая ўся.* Пліса Глыб.

ПАКМЕ́ІЦЦА *зак.* Прарасці. *Насёны ўжо пакме́іліся, можа і вырасціць што.* Пліса Глыб.

ПАКО́МКАНЫ *дзеепрым.* Пакамечаны. *Як ты ў пако́мканым плацці на людзі пойдзіш?* Канашы Гар. *Кофта мая зусім пагэ́мтаная, трэба разгладзіць.* Янкі Докш. Параўн. *пагэ́мтаны, пажмя́каны* ў 2 знач.

ПАКО́РПАНЫ *прым.* Зморшчаны, пакрыты маршчынамі, складкамі, з няроўнай паверхняй. *Смарчкі былі дужа маленькіі, чорненькіі, пако́рпаныі.* Бялынавічы Віц.

ПАКО́СІШЧА *н.* Пакос, сенажаць. *Мужыкі скосюць, а патом бабы ідуць на пако́сішча падварачываць.* Адаменкі Лёзн.

ПАКРА́СА *ж.* Прыгажуня. *Міхаліна была пакра́сай у нас.* Калышкі Лёзн.

ПАКРО́МАК *м.* Кавалак хлеба. *Пакро́мкі хлеба ўбяру і пайду.* Доўжа Віц.

ПАКРЫЁМА *прысл.* Скрытна, незаўважна. *У гарод зайцы ходзяць пакрыёма ноччу.* Свярдлова Віц.

ПАКРЫ́ЎКА *ж.* 1. Накідка на падушку. *К святу пакры́ўкі на падушкі накінуць нада свежыя.* Крычава Міёр. 2. Жалобнае пакрывала. *Пакры́ўкай пакрываюць труну.* Пліса Глыб.

ПАКРЫ́ЧЫВАЦЬ *незак.* Пакрыкваць. *Дзеці і тыя пакры́чываюць на нас.* Белькі Паст.

ПАКРЫ́ШАЧКА *ж., памянш.* Крышка. *Вазьмі, унучачка, пакры́шачку і накрый каструльку.* Іказнь Брасл.

ПАКСЦІ́ЦЦА *зак.* Перахрысціцца. *Паксці́лася перад абразамі.* Ганкавічы Беш.

ПАКУ́ДАВА, ПАКУДО́ВА 1. *злуч.* Пакуль. *Паку́дава ты дома, малога майго прігледзь.* Канашы Гар. *Паку́дава буду есці варыць, ты ў хаце прыбяры.* Пераходцы Леп. *Ён у нас такі: паку́дава не крыкнеш, нічога рабіць не будзе.* Іванск Чаш. 2. *прысл .* На працягу некаторага часу, нейкі час. *А я пакудо́ва тут застануся: тут хата мая.* Дворышча Леп. Параўн. *пака́месь, пака́місь* у 2 знач., *паку́ліка, паку́ля.*

ПА́КУЛА, ПА́КУЛЯ *ж.* Пакля. *Валасы пасля сена, як па́кула.* Канашонкі Рас. *Мы малыя любілі церабіць па́кулю.* Мельніца Шарк.

ПАКУ́ЛІКА, ПАКУ́ЛЯ *злуч.* Пакуль. *Паку́ліка прыехала, стамілася.* Новыя Валосавічы Леп. *Эту дзярэўню мы не знали, паку́ля*

*не прышлі немцы к нам.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *пака́месь, пака́місь, паку́дава.*

ПА́КУРЦЬ *ж.* Сабака. *Па́курць брэшыць.* Бор, Гілі Чаш.

ПАКУЦЦЁ *н.*, ПО́КУТ *м.* Кут у хаце, дзе вісяць абразы, покуць. *На пакуцці́ сядзіць хазяін.* Грабяніца Віц. *На пакуццё ікону вешаюць.* Трыгубцы Віц. *У по́куце ўсегда чыстыя ручнікі вісяць, а калі не – то перад святымі стыдна.* Шаркаўшчына.

ПАКУ́ШКА *ж.* Спроба. *Прынясла табе пірага на паку́шку.* Галубава В.-Дзв. *Бяры ету булку на паку́шку.* Лужасна Віц.

ПАКЯРДЭ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Сказаць штосьці незразумелае. *Пакярдэ́чыў нешта пад нос і пашоў.* Лужкі Шарк.

ПАЛ *м.* Ліхаманка, павышаная тэмпература цела, гарачка. *Такі пал быў ноччу, аж ад памяці адходзіла.* Ясева Паст.

ПАЛАВІ́ННЕ *н., зб.* Пілавінне. *Палаві́нне нада сабраць.* Баравуха Пол.

ПАЛА́ДДЗЯ *ж., неадабр.* Неахайная, брудная жанчына. *Ну што ты ходзіш, як пала́ддзя, хоць бы адзенне сваё памыла.* Сапегі Сен.

ПАЛА́ДНЕЦЬ *зак.* Пазграбнець, зрабіцца больш прыгожым. *К трыццаці гадам толькі яна пала́днела.* Ваўчо Уш.

ПАЛАЖНІ́ЦА *ж.* Цяжарная жанчына. *Палажні́ца во-во рассыпацца далжна.* Кавалі Рас. Параўн. *по́ўная, пуза́та, пука́тая.*

ПАЛАЖЫ́ЦЦА *зак.* Прывыкнуць. *Хто як палажы́ўся, так і гаворыць.* Беразіно Докш.

ПАЛАЗНІКІ́ *толькі мн.* Сляды ад палазоў. *Праехаў нехта па снягу, палазнікі́ відаць.* Шодзікі Шум.

ПАЛАЗО́К *м., с.-г.* Частка плуга. *Палазо́к крывы, трэба параўняць.* Валкалата Докш.

ПАЛАНДРЫ́ЦА, ПАЛІНДВІ́ЦА, ПАЛІНДРЫ́ЦА, ПАЛЯМБІ́ЦА, ПАЛЯНГВІ́ЦА, ПАЛЯНДРІ́ЦА, ПАЛЯНДРЫ́ЦА, ПАМЯНДРЭ́ЦА, ПЕЛЯМБВІ́ЦА, ПЕЛЯНДВІ́ЦА, ПІЛІНДРЫ́ЦА *ж.* Паляндвіца. *Паландры́цу ў поле бралі, калі каровак пасцілі.* Пятровічы Шарк. *Засалілі паліндві́цу.* Чэрцы Леп. *Толькі бабушка ўмеіць такую ўкусную паліндры́цу дзелаць.* Бачэйкава Беш., Дзёрнавічы В.-Дзв. *Палямбі́цу лучшы засушыць.* Серкавіцы Тал. *Смачная палянгві́ца.* Бараны Глыб. *А мая малая не любіць зусім паляндрі́цу.* Яроненкі Гар. *Як кабана заб'юць, бабы ўсякія стравы робяць, а я – паляндры́цу.* Старое Лядна Леп., Белая Ліпа Сен., Вялікія Дольцы Уш. *Памяндрэ́ца аж пад юшкай вісіць.* Пачаевічы Чаш. *Пелямбві́цу кошка сцягнула ноччу.* Замошша Сен. *Сёлета мяса многа – хопіць і на каўбасы, і на пеляндві́цу.* Глыбокае. *Пііліндры́цу нада пусціць на рулеты.* Сокарава Беш.

ПАЛА́НКА *ж.*, ПАЛА́НКІ, *памянш.* ПАЛА́НАЧКІ *мн.* Невялікія начоўкі для ачысткі зерня ў хатніх умовах, апалушкі. *Када зерне таўчэш у пала́нке на крупы, мякіна высыпаецца, і палучаюцца крупы.*

Слабада Шум. *Палáнкі – начовачкі такія, як палаеш, пыл угору ідзе.* Валкалата Докш. *Раней усё рукамі дзелалі і зерне ў палáнках чысцілі.* Коравічы Чаш. *У каго бабы былі без мужыкоў, дык пользаваліся палáначкамі.* Дразды Беш. *Усё скідывалі ў палáначкі.* Жданоўка Шум.

ПАЛАННЯ́ *ж.* Палонка. *Паланнá на возеры была бальшая.* Дворышча Рас.

ПАЛАСАВА́ЦЬ *незак.* Калыхацца. *Глядзі, як жыта паласýіць.* Моханава В.-Дзв.

ПАЛАСА́Р *м.* Вялікі нож. *Бралі паласáр і зрізалі мяса з рёбраў.* Пушкі Лёзн.

ПАЛАСА́ЦІК, ПАЛО́СНІК *м.* Каларадскі жук. *Паласáцікі бульбу апанавалі.* Буда Дубр. *Палóснік аб'еў бульбу.* Даўгінава Міёр.

ПАЛАСНУ́ЦЬ *зак.* Памыць збольшага. *Калі врэмя нет, паласнём адзежыну ў рэчке – і добра.* Уна Лёзн.

ПАЛАСЯ́СТЫ *прым.* Паласаты. *Паласястыя кацяняты.* Асвея В.-Дзв. *Наш кот паласясты, як тыгра.* Арэхаўск Арш.

ПАЛА́ТКА *ж.* Палок, памост у лазні, на якім парацца. *Палáткі шырокія рабілі, каб памногу чалавек залазілі хвастацца.* Грэйцева Паст.

ПАЛАТУ́НАК *м.* Гасцінец. *Прывёз палатýнак?* Рэпухава Арш.

ПАЛАЦЕ́НЕЦ, *памянш.* ПАЛАЦЕ́НЧЫК *м.* Ручнік. *Калі рукі будзеш мыць – палацéнец на гвазду вісіць.* Грышына Рас. *Палацéнец красіва вышыты.* Жукоўшчына Шарк. *Я вазьму палацéнец да карову абцяру, яна ў мяне ніколі не лажылась.* Арцёмава Лёзн., Мікіціха Шум. *Палацéнчык падай мне.* Лужасна Віц.

ПАЛА́ЦІ, ПАЛА́ЦЫ *мн.*, ПАЛО́Т *м.* Палаткі, драўляны насціл паміж сцяною і печчу. *Так мой бацька на палáцях і памёр.* Каменка Віц. *Палажылі нас на палáці.* Скрыдлева Віц. *Яблыкі сушыцца на палáцях рассцялі.* Канашы Гар. *Хадзі прыляж на палáцах.* Віркі Чаш. *Я паклала куртку на палóт сушыцца.* Іванск Чаш.

ПАЛА́ЦЬ *незак.* Трэсці. *Палажу яблыкі ў начоўкі і палáю іх.* Белая Ліпа Сен.

ПАЛБАЦІ́НКІ *мн.* Паўбацінкі. *Унучцы на восень палбацíнкі купіла.* Іванск Чаш.

ПАЛВЕ́Й *м.* Шалфей. *Чай з палвéем люблю.* Вялікая Пярэспа Сен.

ПАЛЕВІКІ́ *мн.* Палявыя грыбы. *Палевікóў набрала поўнае вядро.* Слабада Леп.

ПАЛЕ́ГЛІЦА *ж.*, ПАЛЯЖА́ТАК *м.* Палеглыя ад ветру і дажджу зерневыя культуры і травы. *Палéгліцу цяжка жаць.* Бачэйкава Беш. *Адна палéгліца, нідзе ячменю добрага няма.* Зарачыцак Докш. *Такі дождж лупіць, усё палéгліцай станець.* Лазы Тал. *Паляжáтак і жаць цяжка, і касіць.* Рускі Шум.

ПА́ЛЕЦ, ПАЛЬЧУ́К, ПАЛЮ́К, ПАЛЮ́Х *м.* Ручка на касільне, за якую трымаюцца пры касьбе. *Новы пáлец у касу нада здзелаць.* Бароўка, Барсукі, Бігосава, Цясты В.-Дзв. *Касу трэба трымаць за пáлец.* Сасноўка Глыб. *У касы пальчу́к адламаўся.* Жданы Шарк. *Мог бы яшчэ касіць, ды палю́к паламаўся.* Верхняе, Чарневічы, Ясевічы Глыб. *Палю́к ніжэй апусці, а то зямлю будзім рэзаць.* Шклянцы Докш., Казлы, Паташня, Ясева Міёр., Матырына Уш., Пачаевічы Чаш. *Палю́х аслаб і саскочыў.* Укля Брасл. Параўн. *пупóк.*

ПАЛЕ́ШНЯ *ж.* Паляванне. *Хадзілі на палéшню, стрілялі кабаноў.* Езярышча Гар.

ПАЛЁНКІ *мн.* Запалкі. *Усе палёнкі паадсырэлі.* Замошша Брасл. Параўн. *палі́лкі.*

ПАЛЁЎКА *ж.* Чарга пасвіць жывёлу, радоўка. *Наша палёўка была яшчэ ў канцы мая.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *парадóўка, пáста* ў 1 знач.

ПАЛІВА́ЙКА, ПАЛІВА́ШКА *ж.* Палівачка, лейка. *Палівáйка ўся заржавела.* Мілашкі Брасл., Кузняцова Віц. *Куды гэта малы палівáшку знёс?* Якубова Рас. *Як прыедзіць унук малы, дык зацягніць куды-небудзь палівáшку, а я хажу патом па двару, ішчу.* Гуліна Сен. *І палівáшкай сёліта ні нада было паліваць.* Гацькаўшчына Арш., Дзёрнавічы В.-Дзв., Гаране Гар., Косарава, Латышы Глыб., Стаі Леп., Рудніца Сен., Навасельцы Шарк..

ПАЛІВА́НІК *м.* Посуд, пакрыты паліваю. *У палівáніку малако не аддае затхляй.* Анціпенкі Арш.

ПАЛІВА́ШКА гл. ПАЛІВА́ЙКА

ПАЛІЗІ́ЦЕЛЬНЫ, ПАЛЬЗІ́ЦЕЛЬНЫ *прым.* Карысны. *Яблыкі вельмі палізі́цельныя.* Варапаева Паст. *Гэтыя ягады дужа пальзі́цельныя.* Нярэйша Сен.

ПАЛІЗНІ́ЦЕЛЬНА, ПАЛЬЗІ́ЦЕЛЬНА *прысл.* Карысна. *Дзеўкі, вы ж ешче ягады, гэта ж дужа палізні́цельна.* Сценка Докш. *Халоднай вадой мыцца пальзі́цельна.* Лынтупы Паст.

ПАЛІКМА́ХЕР *м.* Цырульнік. *Да палікмáхера пашоў.* Серкавіцы Тал.

ПАЛІ́ЛКІ *мн.* Запалкі. *Палі́лкі не забудзь купіць.* Антонаўка Арш. Параўн. *палёнкі.*

ПАЛІНДВІ́ЦА, ПАЛІНДРЫ́ЦА гл. ПАЛАНДРЫ́ЦА

ПАЛІСА́Д *м.* Палісаднік. *У палісáдзе красата!* Стрынадкі Глыб.

ПАЛІЎНІКІ́ *мн.* Яблыні-дзічкі. *Паліўнікі́ – на палях яблыны; вот некалі насеілася семя із яблыкаў, і яны выраслі із яго.* Ідолта, Ясева Міёр. Параўн. *паля́ўка* ў 1 знач.

ПАЛІ́ЦЬ *незак.* Сушыць (пра яблыкі). *Яблакі рэжу, на зіму палі́ць буду.* Вялікая Пярэспа Сен.

ПАЛІЦЭ́Й *м.* Паліцай; мясцовы жыхар, які служыў у нямецкай паліцыі. *Немцы і паліцэ́і ноччу хадзілі па хатах, пыталіся, дзе партызаны хаваюцца.* Ходцы Сен.

ПА́ЛІШЧА *н.*, ПА́ЛЯ *ж.*, ПАЛЯ́НІШЧА *н.* Папялішча, пажарышча. *Парэжуць увесь лес, карчы астануцца і паляць – вот адкуль па́лішча.* Дразды Беш. *На месце хаты асталася па́ля.* Курылаўшчына Беш. *Усё было папалена. Па́ля і бур'ян.* Жарцы Пол. *Калі ўжо да паля́нішча дайдзём?* Гразіна Арш., Полымя Сен. Параўн. *пагарэ́лаўка.*

ПА́ЛКА[1] *ж.* 1. Адно палена дроў. *Шэсць па́лак дроў спаліла, каб хоць духам пахла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Прынясі па́лкі са тры дроў.* Бортнікі Глыб. 2. Швабра. *Маладая пол на каленях мыла, цяпер па́лкай.* Замошша Брасл.

ПА́ЛКА[2] *прысл.* Горача. *Печ натапілі – і па́лка ў хаце стала.* Папкі Міёр.

ПАЛКА́ЦЬ *незак.* Глытаць. *Не дзяржы ў роце лекарства, палка́й.* Халамер'е Гар.

ПА́ЛКНУЦЬ *зак.* Праглынуць. *Не магу па́лкнуць, засела ў роце – і ўсё тут.* Анціпенкі Дубр.

ПАЛО́ВІК *м.* Палавік. *Засцялі новы пало́вік.* Папкі Міёр. Параўн. *падно́жнік* у 2 знач.

ПАЛО́Г *м.* Ложак. *Ідзі запраў пало́г.* Тумілавічы Докш.

ПАЛО́ДНІК, ПАЛО́ЙКА[1] *ж.*, ПАЛО́ЙНІК[1], ПАЛО́ННІК *м.* Апалонік. *Супу налі сабе, пало́днік ля каструлі ляжыць.* Тумінічы Арш. *Вазьмі пало́днік і разлій суп.* Цілеўцы Міёр. *Не магу найці пало́йку, можа, хто відзеў.* Цясты В.-Дзв. *Пало́йка звалілася.* Сушчова Віц. *Ідзём хоць пало́йнік супу налью.* Доўжа Віц. *Налі пало́йнік супу.* Прудок, Смалоўка Гар. *Пало́йнік супу давалі і вот такую булачку на цэлыя суткі.* Цешылава Паст., Багатырская Пол., Залессе Шум. *Пало́ннік супу налілі.* Тумілавічы Докш. Параўн. *паварёшка, паварэ́шка.*

ПАЛО́ЙКА[2] *ж.* Невялікая рачулка. *Пало́йка мелкая, вузкая.* Запружаны Чаш.

ПАЛО́ЙНІК[1] гл. ПАЛО́ДНІК

ПАЛО́ЙНІК[2], ПАЛО́ЎНІК *м.* Хвастатая лічынка жабы, апалонік. *Еслі пойдзіш за вадой гряды паліваць у канаву, то стока ў відре пало́йнікаў прінісеш, што аж чорна ад іх.* Навасёлкі Віц. *Ёсь у нас нічыйная сажалка, дык рабяты цэлый дзень там пало́йнікаў ловюць..* Сокарава Беш., Іказнь Брасл., Лялеўшчына Гар., Губіца Шум. *Унучок пало́ўнікаў ловіць.* Баравуха Пол.

ПАЛО́ННЕ *н.*, ПАЛО́ЎКА[1] *ж.* Працэс праполкі. *А яна каіць: "І амерыканка хочаць жыць", – вот і ўсё яе пало́нне.* Арэхаўск Арш. *Пало́нне гэта за лета так надаесць.* Шэпелева Глыб. *Аднаго пало́ння*

*на тыдзень будзе.* Шантары Докш. *Скора начнеца палóўка.* Бычыншчына Міёр. *Ужо другі раз палóўка за месяц.* Залясінкі Шарк.

ПАЛÓННІК гл. ПАЛÓДНІК

ПАЛÓСНА *ж.* Паласа засеянага збожжа. *Трэба сёлета болей палóснаў.* Оспа Брасл.

ПАЛÓТ гл. ПАЛÁЦІ

ПАЛÓЎКА[1] гл. ПАЛÓННЕ

ПАЛÓЎКА[2] *ж.* Адно зерне гароху, бобу, фасолі. *Фасолю будзем садзіць палóўкамі.* Стрынадкі Глыб.

ПАЛÓЎНІК гл. ПАЛÓЙНІК[2]

ПАЛÓШНІК *м.* Матыка. *Палóшнік валяецца без дзела, а агарод зарос.* Шарагі Міёр.

ПАЛУБÉЛЫ, ПАЎБÉЛЫ *прым.* Неразумны, дурны. *Мужык пасля вайны стаў палубéлы.* Сокарава Беш. *Ідзі ты, палубéлая тая.* Канашы Гар., *Палубéлы атрымаў мянушку.* Свіркі Докш. *Ён пяты на печы пячэць, пакуль не згараць, во ўжо паўбéлы.* Быцава Беш.

ПАЛУВÉР *м.* Пуловер. *Палувéр новый купіў.* Сокарава Беш.

ПАЛЎДЗЕНЬ *м.* Абед. *Кароў на палўдзень пагналі.* Камоскі Беш., Балдышы Пол., Кулінава Уш.

ПАЛЎДЗЕЎКА *ж.* 1. Дзяўчынка-падлетак. *Куды ей замуж, яна яшчэ палўдзеўка.* Філімонава Гар. 2. *абразл.* Пра дзяўчыну непрыстойных паводзін. *Верына дзеўка дамоў так позна варочаецца, як тая палўдзеўка.* Драбаўшчына Глыб. *Палўдзеўка – дрэнная дзяўчына, распусная.* Гута Паст.

ПАЛЬЗÍЦЕЛЬНА гл. ПАЛІЗНÍЦЕЛЬНА

ПАЛЬЗÍЦЕЛЬНЫ гл. ПАЛІЗÍЦЕЛЬНЫ

ПАЛЬНÍЦА *ж.* Дошка ў падлозе, масніца. *Пальнíцы сухія, лёгкія, лепшыя за новыя дошкі.* Камень Леп. Параўн. *памаснíца.*

ПАЛЬНЎЦЬ *зак., экспр.* Рэзка, нечакана ўдарыць. *Як пальнўў палкай па галаве, дык я і паваліўся.* Каршункі Шарк.

ПАЛЬНЫ́ *прым.* 1. Палявы. *Набрала пальны́х малін.* Ясева Міёр. 2. Дзíкі. *Каля плоту вырасла пальнáя яблыня.* Бароўка В.-Дзв. *Там, дзе шнур наш быў, на мяжы і расцець пальнáя грушына.* Снегі Міёр. *Тут водзюцца і гусі пальны́і, і вуткі пальны́і.* Ясева Міёр.

ПАЛЬТÁК *м.,* ПАЛЬТÓЎКА *ж., памянш.* ПАЛЬТÓЧКА *н.,* ПАЛЬТЎШКА *ж.* Паліто. *А ці носіш ты той пальтáк, каторы я табе ў прошлым гаду шыла?* Папкі Міёр. *Во які вецер – у пальтóўцы холадна.* Воцькавічы Уш. *Сягоння пайду ў пальтóчку.* Камаі Паст. *На двор пойдзіш – пальтўшку надзень, а то дождж будзе.* Вадзянікі Гар.

ПАЛЬЧЎК гл. ПÁЛЕЦ

ПАЛЮДНÉЦЬ *зак.* Стаць больш чалавечным, таварыскім, гаваркім. *Іванаў малец палюднéў у гэтым гаду.* Смалоўка Гар.

ПАЛЮ́К гл. ПÁЛЕЦ

ПАЛЮРЫ́НА, *памянш.* ПАЛЮРЫ́НКА *ж.* Палоска матэрыі, прышытая складкамі ці зборкамі на адзенне. *Раней былі простыя палюры́ны ў дзевак.* Арляны Сен. *Палюры́нкаў панашывала к кофці.* Лісна В.-Дзв.

ПАЛЮ́Х гл. ПА́ЛЕЦ

ПАЛЮ́ШКА *ж.* Палявы гарох, пялюшка. *Такі гарох сорны, які сеюць для каня, называюць палю́шка.* Дунілавічы Паст.

ПА́ЛЯ, ПАЛЯ́НІШЧА гл. ПА́ЛІШЧА

ПАЛЯВІ́К *м.* Палявая дарога. *Стараюся выбраццa на віднейшае, на палявік, але дзе там!* Дварэц Чаш.

ПАЛЯДЗЕ́ЦЬ *зак.* Пaглядзецъ. *Палядзём, што будзіць.* Лісна В.-Дзв. *Палядзі́, хто ідзець.* Замшына Лёзн. *Хочаш картачкі палядзе́ць?* Стар Арш., Ула Беш., Еўлахі Тал., Кублічы Уш., Заобаль Шум., Іванск Чаш.

ПАЛЯЖА́ТАК гл. ПАЛЕ́ГЛІЦА

ПАЛЯ́К *м.* Католік. *Паля́кі ў касцёл ходзяць.* Ульянаўка Беш.

ПАЛЯМБІ́ЦА, ПАЛЯНГВІ́ЦА, ПАЛЯНДРІ́ЦА, ПАЛЯНДРЫ́ЦА гл. ПАЛАНДРЫ́ЦА

ПАЛЯ́НІЦА *ж.* Бохан хлеба. *З таго цеста аж тры паля́ніцы выйшла.* Грышаны Віц.

ПАЛЯ́НІШЧА гл. ПА́ЛЯ

ПАЛЯ́НКІ *мн.* Плады яблыні-дзічкі. *Прынёс вам з лесу паля́нак.* Паташня Міёр. Параўн. *паля́ўка* ў 2 знач.

ПАЛЯНЯ́КА *ж.* Палка, палена. *Каб ты ўзяў паляня́ку якую ды добра гэтых гусей папаганяў бы.* Грышаны Віц.

ПАЛЯРУ́Ш *м.* Пара́люш, параліч. *Бадай цябе паляру́ш!* Анціпенкі Арш. Параўн. *паралю́ш.*

ПАЛЯРЭ́С *м.* Кашалёк. *Палажы грошы ў паляръ́с.* Моханава В.-Дзв. Параўн. *паралёз, партуманэ́т.*

ПАЛЯТУ́ХА *ж.* Рухавая дзяўчына ці жанчына. *Дачка твая такая паляту́ха.* Бароўка В.-Дзв.

ПАЛЯ́ЎКА *ж.* 1. Яблыня-дзічка. *Сядзела на ўскрайку паля́ўка.* Астроўна Беш. Параўн. *паліўнікі́.* 2. Плод яблыні-дзічкі. *Як есці нечага было, дык паля́ўкі елі.* Вялікае Сяло, Якубаўшчына Лёзн., Гарэлькі Дубр. Параўн. *паля́нкі.*

ПАМАГА́ЙЛА *аг.*, ПАМАГА́ННІК, ПАМАГА́ТАР, ПАМАГА́Ч *м.* Памочнік. *Пасля збераццa памага́йлаў, і ўсім па чарпаку дадуць рыбы.* Анціпенкі Дубр. *А вун і памага́ннік наш ідзе!* Багданава Сен. *Прывёў табе памага́ннікаў.* Селішча Уш. *Так я і сама здзелую, як той памага́тар.* Макаравічы Беш. *Памага́тар мне знайшоўся, ідзі лепей дахаты і там мітусіся.* Бельнякі Чаш. *Прышоў к вам за памагача́.* Слабада Віц. *У мяне ўжо ёсць памага́ч.* Высачаны Лёзн.

ПАМАГА́ННІЦА, ПАМАГА́ТАРНІЦА *ж.* Памочніца. *Хай малым памагаіць наша памага́нніца.* Багданава Сен. *Ну што, ужо вырасла, малая памага́тарніца?* Папкі Міёр. Параўн. *памачні́ца.*

ПАМАГА́ТАР, ПАМАГА́Ч гл. ПАМАГА́ЙЛА

ПАМАГА́ТАРНІЦА гл. ПАМАГА́ННІЦА

ПАМАЗГАВА́ЦЬ *зак.* Падумаць над чым-н., абмеркаваць што-н. *Нада яшчэ памазгава́ць, як тут здзелаць што.* Лужасна Віц. Параўн. *памергава́ць.*

ПАМАЗГАТА́ЦЬ *зак., экспр.* Пабіць, разбіць што-н. *Етый чалавек майму саседу ўсе вокны памазгата́ў.* Станіславова Лёзн.

ПАМАЗО́К, ПО́ДМАЗ *м.*, ПО́МАЗКА *ж.* Кавалак сала для змазвання патэльні, падмазка. *Сала адрэж на памазо́к.* Залессе В.-Дзв. *Як бліны пячы, дык нада, каб памазо́к які быў.* Надазер'е Глыб. *Кот зноў по́дмаз сцягнуў.* Жабыкі Дубр. *Вазьмі по́мазку, каб бліны не прыгаралі.* Анэліна Тал. Параўн. *падці́рка, перанка́.*

ПАМАЗЭ́ЛІЦЬ *зак.* Пафарбаваць. *Прыйшлося мазэльнікаў браць, каб хату памазэ́лілі.* Язна Міёр.

ПАМА́К *м.* Паваленае дрэва, якое ляжыць у вадзе. *Выцягнуў пама́к, а пад ім сом.* Гута Паст.

ПАМАЛЕ́НЕЧКУ, ПАМА́ЛЕЧКУ *прысл.* Памалу, паціху. *Ідзі памале́нечку.* Дрыгучы Міёр., Селішча Уш. *Пама́лечку тэпае.* Булахі Глыб.

ПА́МАРАК *м.* Псіхічны стан, пры якім чалавек страчвае памяць. *У дзеда па́марак, успомніць ужо нічога не можыць.* Гарэлькі Дубр.

ПАМАСНІ́ЦА *ж.* Дошка ў падлозе, масніца. *Пол стары, памасні́цы расхадзіліся.* Абольцы Тал. Параўн. *пальні́ца.*

ПАМАСТО́К *м.* Невялікі мост. *Абкасі каля памастка́, трава там вялікая.* Папшычы Глыб.

ПАМАЧНІ́ЦА *ж.* Памочніца. *Вадзіца ўсяму свету памачні́ца.* Велеўшчына Леп. Параўн. *памага́нніца, памага́тарніца.*

ПАМЕ́ЖНІЦА *ж.* Жанчына-ўладальніца суседняга зямельнага надзела. *З паме́жніцай нада дружыць, а то ні будзіць толку.* Трыгубцы Віц.

ПАМЕ́ЛЬНІК *м.* Кут у хаце, дзе стаяць вілкі, качарга. *Дзе я тых гасцей пасаджу, калі хата малая, у паме́льніку?* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У паме́льніку ўсігда ў міне парядак.* Канашы, Радчонкі Гар. Параўн. *памы́йніца.*

ПАМЕ́НЕЦЬ *зак.* Паменшыцца ў колькасці. *Цяпер паме́нела ваўкоў.* Кутняны Пол. *Сотак на пяць бульбы ў мяне паме́нела.* Пятровічы Шарк.

ПАМЕ́НІЦЬ *зак.* Паменшыць. *Трэба паме́ніць гучнасць.* Грынеўшчына Докш.

ПАМЕРГАВА́ЦЬ *зак.* Абдумаць, абмеркаваць. *Нада памергава́ць, як сына звезці.* Вялікае Гальцава Тал. Параўн. *памазгава́ць.*

ПАМЁТ *м.* Запушчаная зямля. *Раней усю зямлю пахалі, а цяпер усюды адзін толькі памёт.* Гарнаполле Пол.

ПА́МЖА, ПАМЖА́ *ж.* Бяда, насланнё. *Што за па́мжа на нас навалілася?!* Бычыха, Канашы Гар. *Памжа́ нейкая напала на нас.* Сокарава Беш.

ПАМІДО́РАННЕ *н.* Нарыхтоўка памідораў на зіму. *У мяне сёння памідо́ранне.* Шарагі Міёр.

ПАМІДО́РІНА, ПАМІДО́РЫНА *ж.* Плод памідора. *З'ела дзве памідо́ріны ў абед.* Кулакова, Лужасна Віц., Канашы, Ноўка Гар. *Памідоры выраслі дык выраслі: адна памідо́рына на трыста грам.* Марцінава В.-Дзв. *Я памідо́рынай не пад'ем.* Булахі Глыб. *Дай хаця гурка і дзве памідо́рыны.* Белая Ліпа Сен., Каралёва Шарк.

ПАМІДО́РІШНІК, ПАМІДО́РНІК *м.* Куст памідораў. *Памідорі́шнікі выраслі пад неба.* Слабада Шум. *Памідоры на памідо́рніку няспелыя.* Заазер'е Гар.

ПАМІ́Н, ПО́МІН *м., абрад.* Абрадавы абед у памяць пра памерлага, памінкі. *Канфеты і пячэнне – ета ў нас памі́н называецца.* Азёркі, Канашы Гар. *Нада дзелаць памі́н.* Шчанькова Гар. *Заўтра пайду на по́мін да суседкі.* Мерзлякова Лёзн. Параўн. *панахві́да, панахві́ды.*

ПАМІНУ́ТНЕ *прысл.* Вельмі часта. *Сашка памінýтне ў магазін бегаець, саўсім спіўся.* Алексінічы Сен.

ПАМО́ЖНЫ *прым.* Той, які дапамагае. *Добрая дачушка, памо́жная.* Хоціна Беш.

ПАМО́ЎЗА *аг.* Шкоднік, свавольнік. *Якая ж ты памо́ўза, усюды далезеш!* Філімонава Гар. Параўн. *патво́ра.*

ПАМО́ЧКА[1] *ж.* Мачанка. *Зяць упадабаў памо́чку з блінамі.* Галбея Паст.

ПАМО́ЧКА[2] *ж.* Дождж. *Німа памо́чкі – бульба засохла.* Лужасна Віц.

ПАМПУ́ЦЬ *м.* Тоўстае, пульхнае дзіця. *Мой дзетка – пампу́ць, ножкай ступнуць не можа.* Латышы Глыб.

ПАМСЛІ́ВЫ *прым.* Помслівы. *Памслі́вы чалавек.* Слабада Паст.

ПАМЫ́ДЛІНА *ж.* Мыльная пена. *Парашок добры: памы́дліна вун якая паднялася.* Пагошча Брасл.

ПАМЫ́ДЛІНЫ, ПАМЫ́ЙКІ *толькі мн.* Памыі. *Вылі ты ўжо гэтыя памы́дліны, дзень стаяць.* Абруб, Доўгае Глыб. *Памы́йкі на бурачкі выліваю.* Лялеўшчына Гар. *Вылі памы́йкі ў свіное вядро.* Макаранкі Лёзн. Параўн. *па́залкі.*

ПАМЫДЛЯ́РКА *ж.* Мыльніца. *Я рукі памыю, а мыла ў памыдлярку пакладу.* Кубелеўшчына Шарк.

ПАМЫ́ЗНЫ *прым.* Любімы. *Заўтра ў царкву юбку новую надзену і хустку памызную завяжу.* Гараўцы Міёр.

ПАМЫ́ЙКІ гл. ПАМЫ́ДЛІНЫ

ПАМЫ́ЙНІК *м.* Рукамыйнік. *Калі цёпла, дык памыйнік на двор вешала.* Бушыкі Глыб.

ПАМЫ́ЙНІЦА *ж.* Кут у хаце, дзе стаяць вілкі, качарга. *Дзе памыйніца, там стаяць гаршкі, вядро гразнае.* Станіслававa Дубр. Параўн. *паме́льнік.*

ПАМЫ́СНА *прысл.* Наўмысна. *Памысна зрабіў гэта.* Бугаі Сен.

ПАМЯ́КАЦЬ *зак., экспр.* Моцна пабіць, адлупцаваць. *Казалі, сын бацьку чуць не да смерці памякаў.* Задроўе Арш. Параўн. *паня́ньчыць.*

ПАМЯЛО́ *аг., груб.* Пляткар. *Вот памяло якое, растрапаў усё.* Мікіціха Шум.

◊ ПАМЯЛО́ ТАПТА́ЦЬ Пустасловіць, пляткарыць. *Які цяпер у маладых занятак? Вуглы аббіваць і памяло́ таптаць – вот і ўсё.* Альхоўцы Шарк.

ПАМЯНДРЭ́ЦА гл. ПАЛАНДРЫ́ЦА

ПАНАДО́ЛАК, ПАНАДО́ЛЬНІК гл. ПАДНАДО́ЛАК

ПАНАЖО́К *м.*, ПАНАЖЫ́ *мн.* Педаль у ткацкім станку, понаж; педаль увогуле. *На панажо́к нагу нада паставіць, а пасля начынаць прасці.* Пішчалава Арш. *У ровары панажы́ паламаныя.* Ваўкалата Докш.

ПАНАЗАПА́СІЦЬ *зак.* Паназапашваць, назапасіць што-н. у вялікай колькасці. *Дроў паназапасілі, будзем зіму сядзець без гора.* Велеўшчына Леп.

ПАНАЙХО́ДЗІЦЬ *зак.* Пазнаходзіць. *Пахаваю грошы, а ён усё роўна іх панайхо́дзіць.* Губіна Леп.

ПАНАЛЁВАНЫ *дзеепрым.* Наліты сокам. *У калхозным садзе яблыкі ўжо паналёваныя.* Калышкі Лёзн.

ПАНА́МЕСЬ гл. ПАКА́МЕСЬ

ПАНАРА́ВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Не панара́вілась яму гэта.* Сар'я В.-Дзв. *Панара́вілась яму дачка мая.* Полымя Сен., Равяцічы Тал.

ПАНАРА́ВІЦЬ, ПАНРА́ВІЦЬ *зак.* Упадабаць. *Сваты дужа панара́вілі нявестку будушчую.* Іскра В.-Дзв. *Унук панара́віў ката, а кот – унука, і гуляюць.* Шантары Докш. *Нейкі малец з горада панара́віў маю ўнучку.* Велеўшчына Леп. *І гэдак ён тую дзеўку панара́віў, што і дня пражыць не мог без яе.* Мікалаёва Міёр. *Панра́вілі бацькі зяця.* Лагі Арш.

ПАНАРА́ЎНЫ *прым.* Які падабаецца. *Дужа панара́ўны хлопец, усе яго любяць.* Шантары Докш.

ПАНАРО́ЎКА *ж.* Звычка. *Такая ў яго панаро́ўка.* Філімонава Гар.

ПАНАСЯЛІ́ЦЦА *зак.* Пасяліцца. *Панасялі́лася ў нас многа народу, і з Гомельшчыны ёсць.* Велеўшчына Леп.

ПАНАХВІ́ДА *ж.*, ПАНАХВІ́ДЫ *мн.* Памінкі. *Панахві́ду па ім матка спраўляла.* Канашы Гар. *Рабілі панахві́ды па роднаму чалавеку.* Закур'е Чаш. Параўн. *памі́н, по́мін.*

ПА-НА́ШАНСКАМУ *прысл.* Па-нашаму. *Неяк ты косы не па-на́шанскаму пляцеш.* Бігосава В.-Дзв.

ПАНЕ́НШЧЫНА *ж., абрад.* Вечарынка, гулянка перад вяселлем дзяўчыны. *Пане́нишчына – вечар, калі дзеўка замуж ідзець, у суботу моладзь гуляець.* Шаркоўка Леп.

ПАНЁВА *ж.* Спадніца. *І куды во панёва мая падзелася?* Рэдзькі Дубр.

ПАНІЗО́ЎЕ *н.* Нізіна. *Наша меснасць у панізо́ўі.* Абруб Глыб.

ПАНІ́КЛІВЫ *прым.* Блізарукі. *Бацька мой пані́клівы, вот і я па ім пашла.* Псуя Глыб. *Косця пані́клівы, з дзецтва ачкі носіць.* Макаравічы Докш.

ПАНІ́КЛІТАВАСЦЬ *ж.* Гарбатасць. *Сільна была відаць яго пані́клітавасць.* Укля Брасл.

ПАНІМА́ТНЫ *прым.* Кемлівы. *Ён паніма́тны чалавек і ў навуцы, і ў рабоце.* Камень Леп.

ПАНІ́ЦІЦЦА *зак.* Стаць тонкім, кволым (пра расліну). *Гуркі пані́ціліся на грядкі з-за травы.* Лужасна Віц., Асташэва Лёзн. *У калхозе картошка пані́цілася, а нікому і дзела нет.* Сяло Лёзн. *Усе буракі пані́ціліся.* Сураўні Шум.

ПА́НКА *ж.* Карэнне аеру. *Па́нка лекарственная.* Ходцы Віц. *Па́нку варуць і мыюць галаву.* Дуброва Шум.

ПАНО́ЦАК *м., памянш.-ласк.* Паночак. *Вяночак пляла, пано́цку дала.* Ферма Шум.

ПАНРА́ВІЦЬ гл. ПАНАРА́ВІЦЬ

ПАНСА́К, ПАНЦА́К *м.* 1. Ячныя крупы. *З пансаку́ даўней варылі груцу.* Дрысвяты, Пашкі Шарк. *Панца́к доўга варыцца.* Беразіно Докш. 2. Суп з ячных круп. *Нада панцаку́ жыдзенькага зварыць.* Бачэйкава Беш. *З'еш нашага пансаку́.* Мікалаёва, Паташня Міёр.

ПАНТО́ПЛІ *мн.* Дамашнія туфлі, пантофлі. *На падарак панто́плі купілі.* Доўгае Глыб., Пашкі Шарк.

ПАНЦА́К гл. ПАНСА́К

ПАНЧО́ШКІ *мн.* Вараная ў лупінах бульба. *Панчо́шкі смачна есці з соллю.* Сарочына Уш.

ПАНЮ́ЧКА *ж.* Лясны клоп. *У лесе многа панючак.* Крывое Сяло Шум.

ПАНЮ́ШКАЦЬ *зак.* Пашукаць. *Панюшкай лепей у шкафу!* Папкі Міёр.

◊ ПАНЯ БЯЛЬМО́НЦКАЯ Пра багатую, заможную жанчыну. *Ты жывеш, як паня бяльмонцкая.* Кубелеўшчына Шарк.

ПАНЯДЗЁРНІК, ПАНЯДЗЯ́ЛАК *м.* Панядзелак. *У панядзёрнік прыходзіць аўталаўка.* Зачарэўе Міёр. *Да панядзялку пабуду, а патом – дамоў.* Машканы Сен.

ПАНЯ́НЬЧЫЦЬ *зак.* Пабіць каго-н. *Гляжу: Мішка ўвесь у сіняках, мусіць, яго ізноў нехта добра панянньчыў.* Сахнавічы Глыб. Параўн. *памякаць.*

◊ ПАНЯ́ЦЬ МО́ДУ Прызвычаіцца. *Адзін раз папрасіў грошы – далі, дык ён і паняў моду хадзіць каждую нідзелю.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кот паняў моду спаць са мной.* Камаі Паст.

◊ ПА́ПА КА́РЛА Кароль (масць) у картах. *Куды ты б'ешся папам карлам?* Антонаўка Арш.

ПАПАЖЖА́ *прысл.* Пазней. *Папажжа зайду, цяпер некалі.* Дрыгучы Міёр.

ПАПАЗО́РЫЦЬ *зак.* Падгледзець. *Нешта папазорыць, а патом усім раскажыць.* Трыгубцы Віц.

ПА́ПАР *м.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным; папар. *На папары бульбу пасадзім.* Старое Лядна Леп. *За лесам усюды адзін папар.* Шаўкоўшчына Чаш. Параўн. *падпар*[1], *параніна, параніна, парына, парына*[1].

ПАПАРА́ДЧЫЦЬ *зак.* Уладкаваць, стварыць неабходныя ўмовы для існавання. *Мы ўжо, дзякуй Богу, усіх пісклят папарадчылі.* Дроздава Тал.

ПА́ПАРАТКА *ж.*, ПА́ПАРНІК *м.* Папараць. *Вёдры з ягадамі прыкрываем папараткай.* Беразіно Докш. *Папарнік у вазоне вун які вырас.* Папкі Міёр. *Набяры сухога папарніка, пчол будзем ставіць на зіму.* Ілава Шум.

ПАПА́СКА *ж.* Ежа для перакусу, якую бяруць з сабою, калі адбываюць радоўку – пасуць кароў. *Забыўся з сабой папаску ўзяць.* Абруб Глыб., Селішча Уш.

ПА́ПЕЛІЦА *ж., рэліг.* Пост, згодна з царкоўным патрабаваннем, перыяд устрымання ад скаромнай ежы. *На папеліцу ні ў коем случае не было ніякіх вечарынак.* Мікалаёва Міёр.

ПАПЕ́ЛІШЧА *н.* Пажарышча. *Бацька паехаў на папелішча.* Барздоўка Арш., Станіслававова Дубр.

ПАПЕ́РАДЗЬ *прысл.* Зараней, загадзя. *Паперадзь ніхто труны не дзелаець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАПЕ́РАДУ, ПАПЯРО́Д *прысл.* Наперадзе. *Бяжы папе́раду.* Астроўна Беш. *Папяро́д ходзіць.* Вялікая Вядрэнь Чаш.

ПАПЕ́РВАСЦІ *прысл.* Спачатку. *Як пажаніліся, дык папе́рвасці усяго было.* Канашы Гар., Жабыкі Дубр. *Папе́рвасці мне выпісалі гэтыя лекарствы.* Васілеўшчына Паст., Гомель Пол.

ПАПЕ́РДУ *прысл.* Па-першае. *Папе́рду, бацьку ж памагаць нада.* Іванск Чаш.

ПАПЕ́РНЫ *прым.* Папяровы. *Таблеткі вазьмі ў папе́рнай каробке.* Альхоўцы Шарк.

ПАПЁРЦІ *зак.* Украсці. *Іскала-іскала кошык і не нашла, наверна, нехта папёр.* Турчына Міёр.

ПАПЕ́ТАЦЬ *зак.* Пабіць, перабіць. *Папе́тацъ бы тваіх курэй, каб у агарод не лазілі.* Баева Дубр.

ПАПЁХАЦЬ *зак.* Пагушкаць на каленях. *Я ўжо старая, не магу ўзяць унучка папёхаць.* Каверзы Гар. *Малыя дзеці любілі, каб іх папёхалі.* Палова Гар.

ПАПЕ́ЧАНКА *ж.* Печка-буржуйка. *Бабушка аддала сваю папе́чанку на восень нам.* Езярышча Гар.

ПАПІ́КІШЧА *н.* Пасмешышча. *Было папі́кішча на цэлы свет.* Слабада Уш.

ПАПЛЁХАЦЬ, ПАПІЛЯ́ХАЦЬ *зак.* Распілаваць. *Нада было б нам гніллё тое папілёхаць і спаліць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Папрасілі дровы папіля́хаць.* Ласкаўшчына Міёр.

ПАПІЛО́ЎЦЫ *толькі мн.* Апілкі. *Сабяры папіло́ўцы каля дроў.* Шарагі Міёр. Параўн. *пелюха́* ў 1 знач., *пілава́нне, пілаві́ны.*

ПАПІЛЯ́ХАЦЬ гл. ПАПІЛЁХАЦЬ

ПАПІ́НКА *ж., бат.* 1. Гатунак яблыні пэпін шафранны. *Сёлета папі́нку зрубілі.* Боркавічы В.-Дзв. *Дзед каля папі́нкі казе травы накасіў.* Прыпернае Глыб. 2. Плады гэтай яблыні. *Папі́нка – невялі́чкія красненькія яблачкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Болей за ўсё люблю папі́нкі.* Надазер'е Глыб., Казлоўшчына Паст., Рошчына Сен.

ПАПІРЕ́ЧКА, ПАПЯРЭ́ЧКА *ж.* Кароткая папярочная баразна. *Усё пасадзілі, адна папіре́чка асталася.* Казловічы Гар. *Пасадзілі доўгія барозны, а цяпер будзем садзіць папярэ́чкі.* Station Станіслававa Дубр. *Папярэ́чкі былі бульбай засаджаны.* Стэцава Сен. *Каля краю гароду наганялі папярэ́чак.* Мацюкова Глыб., Папшулі Міёр., Ветрына Пол., Юхавічы Рас., Уздорнікі Сен., Дроздава Тал., Пралетарыя Уш.

ПАПІРУ́ФКА, ПАПЯРУ́ЎКА *ж.* Плады яблыні папяроўкі. *Папіру́фкі ў завязі абваліліся.* Дрысвяты Брасл. *Папяру́вак многа сёлета.* Белькі Паст.

ПАПІ́ХА *ж.* Жонка папа, пападдзя. *У нашай дзярэўні папі́ха такая ўжо добрая, набожная была.* Апечкі Сен.

ПАПІХА́ЙЛА *аг., асудж.* Папіхач. *Пражыў папіха́йлам – у людзей на пабягушках.* Бараўцы Чаш. *За што такую папіха́йлу ўважаць?* Замачак Чаш.

ПАПКІ́ *мн.* Галоўкі канюшыны. *У вайну сабіралі папкі́, сушылі, таўкачыкамі таўклі і елі.* Абольцы Тал.

ПАПЛАВІ́НЫ *толькі мн.* Багна. *Астарожна нада хадзіць, ёсць вокны ў паплаві́нах.* Абруб Глыб.

ПАПЛАВО́К *м.* Сена з забалочанай сенажаці. *Паплаво́к нада на воз забраць.* Шарагі Міёр. *У паплаўку могуць і вужакі, і змеі быць.* Залясінкі Шарк.

ПАПЛАВУ́Н *м.* Рыбалоўная снасць. *Паплаву́н пользаваў увесь год.* Свяча Беш.

ПАПЛАВУ́ХА *ж.* Расліна сямейства асаковых. *Вясной, калі яшчэ трава не вырасла, дык і паплаву́ху каровы ядуць.* Павулле Уш.

ПАПЛАШЭ́Й *прысл.* Горш. *Сёння мне паплашэ́й.* Азёркі Гар.

ПАПЛІ́СКА *ж.* 1. Палка. *Папλі́скай, бывала, назбіваеш арэхаў з самага верху арэшыны і лушчыш тады.* Несцераўшчына Докш. *Па балоту хадзілі – дык папλі́ска была ў руках.* Лук'янава Сен. 2. Пуга. *Пацягні папλі́скай, дык і пабяжыць твой конік.* Грышаны Віц.

ПАПЛЮ́ТАНЫ *дзеепрым.* Паблытаны. *Ніткі паплю́таныя.* Анкуды Паст.

ПАПЛЮ́ТАЦЦА *зак.* Паблытацца. *Паплю́талася ў галаве ўсё ад старасці.* Казнадзеюшкі Паст.

ПАПЛЯЧЭ́ЦЬ *зак.* Раздацца ў плячах, узмужнець. *Падрос, паплячэ́ў, гляджу, унук мой.* Ушачы.

ПАПО́НКА *ж.* Бярэмя сена, саломы, травы, звязанае ў посцілку. *Адной папо́нкі хваціць, каб падаслаць карове.* Калінава Віц.

ПАПО́РЫЦЦА *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Я раненька папо́рылася.* Пацеенкі Міёр. Параўн. *падабра́цца*[1], *падрабі́цца, падхадзі́цца.*

ПАПО́ХВАЛІ *прысл.* Паціху, не спяшаючыся. *Папо́хвалі зробім.* Лужасна Віц.

ПАПРА́ВА *прыназ.* Справа. *Мы жывём папра́ва ад дарогі.* Стаі Леп.

ПАПРАСІ́МКА *аг., асудж.* Папрашайка, той, хто ўвесь час выпрошвае што-н., дакучае ўсім просьбамі. *Атыйдзіся ты, папрасі́мка.* Лазічы, Папшычы Глыб.

ПАПСУ́Й *м., асудж.* Няўмека, партач. *Толькі не абіжайся: ты не кравец, а папсу́й.* Бор Леп.

ПАПСУ́ЦЦА *зак.* Сапсавацца. *У мяне целевізара нет, нешта ў ім папсу́лася.* Лонск Шарк.

ПАПУГА́, ПАПУГА́ІЛА *н.* Пудзіла. *На полі папугі́ стаяць і сабакі начуюць, каб кабаны не хадзілі.* Сухавержжа Міёр. *На чарэшню добра было б папуга́іла паставіць.* Барздоўка Арш.

ПАПУРНО́СІК *м.* Пінжак. *Мой мужык самы модны быў. Папурно́сік як надзеніць – усе дзеўкі за ім.* Бушыкі Глыб.

ПАПУ́СТУ, ПО́ПУСТУ *прысл.* Упустую. *Учора ў пяць часоў у ягады пашла, аж пад Сітна, і нічога не насабірала, хадзіла папу́сту.* Арлея Пол. *Німа хлеба ўжэ ў магазіні – схадзіла по́пусту.* Курына Віц. *По́пусту ў лес схадзілі, ні сабралі нічога.* Канашы, Ноўка Гар.

◊ ПА ПУСТЫ́Х МАЛІ́НАХ Безвынікова. *Чаго там цягаца па пусты́х малі́нах? Ніякіх грыбоў у лясу яшчэ нету.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАПУ́ТНІК *м.* Спадарожнік. *Праз лес адна без папу́тнікаў не ідзі, зблудзіш.* Завер'е Брасл. *Папу́тнік мой прытаміўся.* Беразіно Докш. *Будзім з табой папу́тнікамі ў горад.* Касары Уш.

ПАПУШЫ́ЦЬ *зак.* Правеяць. *Папушы́ла жыта.* Пліса Глыб.

ПАПЯЛІ́ЦЬ *зак.* Абсыпаць гародніну попелам ад шкоднікаў, апрацаваць. *Нада заўтра капусту папялі́ць.* Камаі Паст.

ПАПЯЛУ́ШКІ *мн.* Грыбы, якія растуць на выжарынах. *Папялу́шкі сталі нешта расці.* Шарагі Міёр. Параўн. *пагарэ́льцы, пажа́ркі, пажа́рнікі.*

ПАПЯРЭ́ЧКА гл. ПАПІРЕ́ЧКА

ПАПЯРО́Д гл. ПАПЕ́РАДУ

ПАПЯРЭ́ДЗЕНЬ *м.* Жэрдка ці вяроўка, якой прыціскаюць сена на возе. *Зацягівай папярэ́дзень, а то сена разваліцца.* Кузняцова Віц. Параўн. *пава́л*[2], *па́рубель, парубе́нь, прыжы́м, прышчамі́лы.*

ПАПЯРЭ́ЧКА гл. ПАПЯРЕ́ЧКА

ПА́Р *ж.* Па́ра. *Адрэзаная бочка, зверху крышка, у ей – дзве дыркі: адна штоб водку гнаць, другая – штоб па́р туды ішла.* Арцёмава Лёзн.

ПАРА́БІВА *н.* Кулінарныя стравы, ежа. *Мар'іна пара́біва мне ўсегда нравілась.* Дубішча Беш.

ПАРАВУ́ХА *ж.* Самагон. *Мы варылі абычную катлавуху, а саседзі гналі паравýху.* Арцёмава Лёзн. *На вяселле паравýху рабілі.* Верацеі Шарк.

ПАРА́ДАШНА *прысл.* Даволі многа. *Пара́дашна ската ёсць.* Балаі Паст. Параўн. *падхадзя́, падхадзя́шча.*

ПАРА́ДАШНЫ *прым.* Даволі вялікі. *Перапёлачкі пара́дашныя, шэранькія.* Лісна В.-Дзв. *Пара́дашная была дзевачка.* Фарынава Пол.

ПАРА́ДЗІНА *ж.* Парада. *Пайду да саседа на пара́дзіну.* Ноўка Віц.

ПАРАДО́ЎКА *ж.* Чарга пасвіць кароў, радоўка. *Заўтра мая парадо́ўка ў поле.* Зубава Арш. Параўн. *палёўка, па́ста* ў 1 знач.

ПАРАДО́ШЫ *прысл.* Радзей. *Дзеці мае ўжо ўзрослыя, да нас пародо́шы прыязджаюць.* Валынцы В.-Дзв.

ПА́РАЗГІ *мн.* Тонкія дубцы. *Па́разгамі грады паўтыканы, каб куры не капалі.* Абруб Глыб.

ПАРАЛЁЗ *м.* Кашалёк. *Раньшы паралёзаў не было.* Трыгубцы Віц. Параўн. *палярэ́с, партуманэ́т.*

ПАРАЛІ́К, ПАРАЛЮ́Ш *м.* Пара́люш, параліч. *Каб цябе паралік!* Смаляны Арш., Кашчына Чаш. *Каб цябе паралю́ш узяў!* Абруб Глыб. *Паралюш разбіў з-за нерваў.* Савенічы Сен. Параўн. *паляру́ш.*

ПА́РАНІНА, ПАРАНІ́НА, ПАРІ́НА, ПА́РЫНА[1] *ж.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным, папар. *Па́раніну запусцілі саседзі.* Сарочына Уш. *На парані́не пасеем пшаніцу.* Станіслававва Дубр. *Поле, што не пашуць, парані́най завуць.* Крывыя Тал. *Сёлета нада пары́ну ўзараць і пасеяць бульбу.* Ваяводкі Віц. *Кароў на па́рыне пасуць.* Стасева Лёзн. *Не будзем араць, няхай стаіць па́рына.* Жарцы Леп., Алексінічы, Лазоўка Сен. Параўн. *па́пар.*

ПА́РАСЛЯ *ж.* Поле, не аранае некалькі гадоў запар, аблога. *У мяне за пуняй сотак дваццаць па́раслі.* Моханава В.-Дзв.

ПАРАСО́НЬ *м.* Суквецце ў выглядзе парасона. *На моркве ўжо парасо́ні паявіліся.* Стрынадкі Глыб.

ПА́РАСТ, ПАРО́СТ[1] *м.* Падлесак. *Па́расту яшчэ далёка да магутных дзярэўяў.* Горы Чаш. *У паро́сце і грыб можна найці.* Ула Бешо.

ПАРАСЯНЯ́, ПАРАСЯ́ТКА *н., памянш.* Парася. *Парасяня́ наша здохла.* Міхалінава Лёзн. *Учора парася́тка купіла, буду гадаваць.* Калышкі Лёзн. Параўн. *по́дсвінак.*

ПАРАХНЯ́К *м.* Парахня. *Згніло браўно, адзін парахня́к астаўся.* Жданы Шарк.

ПАРВА́Н *м.* Заслона. *За парва́нам стаіць ложак.* Чаромхава Шарк.

ПАРГА́Н, ПАРКА́ННІК *м.* Плот, паркан. *Паставілі новы парга́н.* Высачаны Лёзн. *Парка́ннік ужо даўно нада мяняць.* Велеўшчына Леп. Параўн. *патарча́ка.*

ПАРЁНКА *ж.*, ПАРЁНКІ, ПАРО́НКІ *толькі мн.* 1. Параная бульба ў лушпінах, паранка. *У катле, на запарніку, дзед варіць парёнку для свінак.* Ляды Дубр. *Ідзі патаўчы парёнкі свінням.* Дроздава Тал., Лісуны Арш. 2. Завараная кіпенем сумесь бульбы, сечкі, мякіны і пад., прызначаная для корму жывёле. *Рэзалі салому, складывалі ету рэзь, дабаўлялі муку і запарівалі, дзелалі парёнку карове.* Вядзерава Беш. *Пайду ладзіць парёнку кароўку карміць.* Сураўні Шум. 3. Дробная бульба, прызначаная для корму жывёле. *У гэтым гаду парёнак мала.* Буда Дубр. *Ну і бульба зрадзіла сёлета – адны паро́нкі!* Серкавіцы Тал.

ПАРІ́НА гл. ПА́РАНІНА

ПА́РКА[1] *ж.* Гарачае вільготнае надвор'е. *На вуліцы па́рка стаіць.* Запружаны Чаш. Параўн. *пары́лаўка.*

ПА́РКА[2] *ж.* Пара (коней). *Па́рку вазьмі, паркай скарэй зробіш.* Вараны Докш.

ПАРКУ́Н *м., неадабр.* Пра чалавека, які робіць што-н. вельмі марудна. *Парку́н гэты яшчэ доўга шыць будзіць.* Макаравічы Докш.

ПАРЛО́ЎКА *ж.* Ячныя крупы. *Зварым, бывала, поснай парло́ўкі і ядзём.* Опліса Брасл.

ПА́РНА *безас.-прэдык.* Спякотна. *Як па́рна, то і сенца добра сохне.* Савуткі Шарк.

ПА́РНІ *прым.* Які выконваецца парай, парны. *Эта па́рні танец.* Заазер'е Тал.

ПАРО́БАК *м.* Парабак. *Рызнік хадзіў па хатах і пытаўся ў паро́бкаў, што ўзяць.* Лынтупы Паст.

ПАРО́ДДЗЕ *н.* Радня. *Верка не вашага паро́ддзя, чаму тут дзівувацца.* Лужкі Шум.

ПАРО́ЖНІ *прым.* Нятлусты, нішчымны. *Масла няма, дык і каша паро́жняя.* Іванск Чаш.

ПАРО́ЗНЕ, ПАРО́ЗЬ *прысл.* Асобна, воддаль, паасобку. *Паро́зне паставілі хату ад усіх, каб не лезлі.* Анціпенкі Арш. *Ідуць паро́зь, як бы не толькі пажаніліс.* Езярышча Гар.

ПАРО́НКІ гл. ПАРЁНКА

ПАРО́СІНЫ *толькі мн.* Роды ў свінні, апарос. *У нас учора паро́сіны былі, дык васьмярых прывяла.* Новы Пагост Міёр.

ПАРО́СКА *ж.* Свіння, якая павінна апарасіцца. *Паро́ска ляжыць і нічога не есь.* Мікалаева Шум.

ПАРО́СТ[1] гл. ПА́РАСТ

ПАРО́СТ[2] *м.* Нараст на ствале дрэва. *На яблынях паявіліс паро́сты.* Дзеркаўшчына Глыб.

ПАРО́СТАК *м.* Расада. *Паро́стку надавала саседке.* Ляляўшчына Гар.

ПАРО́СТЫ *мн.* Расткі на бульбе. *Нада к вечару ўсе паро́сты з бульбы абабраць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПАРО́ЦЦА, ПО́РАЦЦА, ПО́РКАЦЦА *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Паро́лася ўвесь дзень на дваре.* Кулакова Віц., Ноўка Гар. *Свякроў памагае мне па хазяйству по́рацца.* Губіна Леп., Арлея Пол., Багушэўск Сен. *А бабка мая ўсё по́ркаецца і по́ркаецца, то на гародзе, то ля печы.* Сардыкі В.-Дзв., Абруб, Ясевічы Глыб., Ваўкалата Докш., Крынкі Лёзн. Параўн. *прібіра́ць, прыбіра́цца, прыбіра́ць, пыні́цца, пя́хацца.*

ПАРПЛІ́ЦА *ж., груб.* Худая жанчына. *Куды ета парплі́ца падыбала?* Марозава, Філімонава Гар. Параўн. *пасвіре́лка, пасвірэ́лка.*

ПАРСЮ́ЧКА *ж.* Свіння. *У хлеве асталася толькі адна парсю́чка.* Вялікія Дольцы Уш.

ПАРТАМАНЕ́Т *м.* Сумка прамавугольнай формы, чамаданчык. *Глянь, якей партамане́т у маей унучкі.* Кулакова Віц. *Стаў свой партамане́т во тут і давай есці.* Канашы Гар.

ПАРТНЫ́ *прым.* Зроблены з порту, парцяны. *На свята надзявалі новую партну́ю адзежу.* Пашкі Шарк.

ПАРТНЯ́ЖНІК *м.* Кравец. *Раней партня́жнікі з дзярэўні ў дзярэўню хадзілі.* Луначарскае В.-Дзв.

ПАРТУМАНЭ́Т *м.* Партаманет, невялікі кашалёк. *Партуманэ́т мой ляжыць у сумцы.* Абаляны Брасл. *Грошы ў партуманэ́т лажыла, а іх там няма.* Віркі Чаш. Параўн. *палярэ́с, паралéз.*

ПА́РУБАК *м.* Наёмны рабочы. *Свякрова мая па́рубка дзяржала.* Спігальшчына Міёр.

ПА́РУБЕЛЬ, ПАРУБЕ́НЬ *м.* Жэрдка, якой прыціскаюць сена ці снапы на возе, рубель. *Каб сена не звалілася з возу, наверх клаўся па́рубель.* Жданы Шарк. *Ідзі парубе́нь высячы, будзем воз увязываць.* Бягомль Докш. *Як накладалі вялікі воз, тады клалі парубе́нь і ўціскалі вяроўкамі.* Лукашова Паст. Параўн. *пава́л*[2], *папярэ́дзень, прыжы́м, прышчамі́лы.*

ПАРУКА́ЦЦА, ПАРУ́КАЦЦА *зак.* Павітацца за руку. *Парука́ўся сын ейный са мной.* Канашы Гар. *Са мной дажа і не парука́ўся.* Залучына Леп. *Чаго з ім не парука́ўся, добры ж хлопец?* Фарынава Пол. *Давай, браток, пару́каемся, а то даўно не відзіліся.* Савінічы Сен.

ПАРУ́ЛІКІ *мн.* Бліны з мёрзлай бульбы. *З вайны не было што есці, елі, што прыйдзецца, і пару́лікі пяклі.* Велеўшчына Леп.

ПАРУЧЫ́ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Сёння нам дужа паручы́ла.* Пашкі Шарк.

ПАРХА́ЎКА *ж.* Грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл, порхаўка. *Парха́вак нарасло на гародзе – страх!* Асінторф Дубр.

ПАРЦЯ́НІК *м.* Палатняная спадніца. *Парця́нік ва ўсіх дзевак тады быў: самі шылі.* Прудок Гар.

ПАРЧНЯ́ *ж.* Ануча. *Парчня́ недзе завалялася.* Опса Брасл.

ПАРША́К *м.* Першая, самая моцная самагонка, пяршак. *Паршака́ сто грамаў вып'еш – і песні можна пяяць, дужа моцны.* Пятровічы Шарк.

ПАРШНІ́ *мн.* Абутак з кавалка ялавай або свіной сырамятнай скуры, поршні. *Цялёнка зарэжуць і нашыюць паршне́й.* Старынкі Пол.

ПАРШЧА́ЦЬ *незак.* Утвараць пырскі, разлятацца дробнымі кроплямі; бурліць. *Масла паршчы́ць дужа, як рыба жарыцца, дык агонь маленькій хай будзіць.* Мазалава Віц. *У бані ў бачку вада ўжо паршчы́ць.* Ноўка Гар.

ПАРЫ́ЛЬНІК *м.* Самаробны сыр, які гатуюць у печы. *На выхадныя пары́льнік зробім.* Мілашкі Брасл.

ПАРЫ́ЛАЎКА *ж.* Гарачае, парнае надвор'е. *Пары́лаўка такая стаіць, што дыхаць нечым.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Сёння такая пары́лаўка!* Белая Ліпа Сен. Параўн. *па́рка.*

ПА́РЫНА[1] гл. ПА́РАНІНА

ПА́РЫНА[2] *ж.* Пярына. *Раней па́рына ў пасаг давалася дзеўцы.* Савуткі Шарк.

ПАРЫ́ПАНЫ *дзеепрым.* Парэпаны, патрэсканы. *У іх сорт бульбы такі, што кажура пары́паная.* Латышы Глыб.

ПАРЫ́ПАЦЦА *зак.* Парэпацца, патрэскацца. *Рукі век у макраце, дык і пары́паліся ўсе.* Латышы Глыб. Параўн. *паскіпа́цца.*

ПАРЭ́НДЖА, ПАРЭ́НЧЫНА *ж.* Поручань, парэнча. *Раней тут мост быў з парэ́нджамі па баках.* Падворыца Сен. *Пойдзеш па мосціку – трымайся за парэ́нчыну.* Латышы Глыб., Турлы Паст.

ПАСАБЛЯ́ЦЬ *незак.* Дапамагаць, аказваць дапамогу. *Пасабля́й во мне бульбу ў мяшкі набіраць.* Канашы Гар. *Пара табе ўжо, мая дачушка, пасабля́ць матцы.* Кляны Дубр.

ПА-САБА́ЧЧУ *прысл.* Па-сабачы. *Дзед мой гаварыў, што і сцены часам чуюць, і ваўкі па-саба́ччу брэшуць.* Сянькова Шум.

ПАСАВІ́К *м.*, ПАСО́ЎКА *ж.*, ПАСЯ́К *м.* Саматканая посцілка ці дыван у палосы. *І зноў пасаві́кі ў моду ідуць.* Аўсянка Міёр. *Раней было модна пакрываць ложкі пасавіка́мі.* Буеўшчына Шарк. *Падарылі тады Зойцы пасо́ўку новую і кветак букет.* Дрыгучы, Папкі Міёр. *Пася́к мой пасажный дзе ляжыць?* Сухавержжа Міёр.

ПАСА́Д[1] *м.* Качарга. *Паса́дам у печы мяшаюць.* Мікалаёва Міёр.

ПАСА́Д[2] *м.* Рад снапоў, раскладзеных на таку. *Паса́д ладны наклалі.* Кляны Дубр.

ПАСА́ЖНАЕ *н.* Пасаг дзяўчыны. *Што ў нас у хаце ёсць – гэта ўсё маё паса́жнае.* Марынкі Міёр.

ПАСАЖЫ́РКА *ж.* Аўтобус. *У горад можна заехаць пасажы́ркай.* Зубава Арш.

ПАСА́К *м., асудж.* П'яніца. *Як мне надаеў гэты паса́к!* Барздоўка Арш. *Жыць няможна – во паса́к, каждый дзень п'яный.* Залучча, Макары, Стадолішча, Філімонава Гар.

ПА́САК *м.*, ПАСЫ́КА *ж.* Свіная кроў, кроў увогуле. *Варуць па́сак з крупой і набіваюць кішкі.* Кузняцова Віц. *Так дам, што пасы́кай абальешся.* Бабышкі Брасл.

ПАСАЛЁНКА *ж.* Вараная бульба. *Дзецям пасалёнку з малаком давай – і болей нічога не нада ім.* Межава Арш.

ПА́САЧКА[1] *ж., памянш.* Вузкі доўгі кавалак чаго-н.; вяроўка, лента, шнурок. *Завяжы вузел гэтай па́сачкай.* Станіслававва Дубр.

ПА́САЧКА[2] *ж., памянш.* Форма для гульні ў пясочніцы. *Дзеці пабіліся, пасачкі свае не падзялілі.* Бабічы Глыб.

ПА-СВАЕ́М *прысл.* Па-свойму. *Яны па-сваём гавоуць.* Германавічы Шарк.

ПАСВІРЕ́ЛКА, ПАСВІРЭ́ЛКА *ж.* Худая жанчына. *Пасвірелка яна, але красівая.* Гарадок. *Паяском перацянулася, як пасвірелка стала.* Верамееўка Гар. *Саседка наша вун якая пасвірэлка.* Верамееўка, Езярышча Гар. Параўн. *парпліца.*

ПА́СВІШЧА гл. ПА́ДБІШЧА

ПАСВЯЦА́ЦЬ *зак.* Правесці абрад, паводле якога каму- або чаму-н. надаецца святасць; пасвяціць. *Пасвяцаць нясём яечкі, булку, сыр, масла, соль.* Азёркі Гар.

ПАСЕ́ВЕРАЦЬ, ПАСЕ́ВІРЦЬ, ПАСЕ́ЎРІЦЬ *зак.* Пасівераць, абветрыцца. *І холаду нет, а рукі пасеверали.* Іскра В.-Дзв. *Рукі пасеверали і дужа баляць.* Лісуны Арш., Яцукі Шум. *У мяне ўсе губы пасевірілі ад ветра.* Зубава Арш. *Пасеўрілі рукі за дзень: пірчаткі дома забыла.* Лужасна Віц.

ПАСЕ́ДАВА *прысл.* Дасюль. *Скосім пасёдава і пайдзём абедаць.* Барздоўка Арш. *Рукі пасля такой работы пасёдава гразныі.* Задроўе Арш.

ПАСЕ́ДКІ, ПАСЯДЗЕ́НЬКІ, ПАСЯДУ́ШКІ *толькі мн.* Наведванне каго-н. з мэтай прабавіць вольны час у размовах. *У нас часта на пасёдкі па вечарах бабы збіраліся.* Вялікая Вядрэнь Чаш. *На пасядзенькі да мяне прыхадзіла заплаканая ўся.* Шурпікі Паст. *Пасядушкі начыналіся абычна ў маразы, як работы не было.* Базылёўка Пол. *От, добрыя пасядушкі сёння!* Багушэўск Сен., Баяры Чаш.

ПАСЕ́К *м.* Пчаляр. *Пасек цэлае хазяйства развёў.* Новае Сяло Беш.

ПА́СЕКА *ж.* Агароджанае месца ў свірне для захоўвання чаго-н., засек. *У мяне ў пасекі многа капусты, буракоў.* Езярышча Гар.

ПАСЁЛАК *м.* Вуліца. *На тым пасёлку кароў выганяюць раней, як у нас.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Пайду на пасёлак выйду.* Канашы Гар.

ПАСЕ́ЛІШЧА *н.* Курынае гняздо. *Нада схадзіць паглядзець, ці ёсць у паселішчы яйцы.* Казімірова Пол.

ПАСЕ́ЎРІЦЬ гл. ПАСЕ́ВЕРАЦЬ

ПАСІКА́ЎКА *ж., экспр.* Дзяўчынка-падлетак. *Адны пасікаўкі на танцы сабіраюцца ў клубе.* Альхоўцы Шарк. Параўн. *падчачурка, петнастоўка, петнацоўка, плігаўка, пятнастка, пятнастоўка, пятностаўка.*

ПАСІ́ЛІЦЬ *зак.* Здолець. *Не пасілю ўжо дзяржаць карову, здароўя нет.* Абухава, Міцькаўшчына, Пашына Арш.

ПАСІЦІЦЦА *зак.* Стаць вельмі рэдкім, тонкім (пра тканіну). *Штаны ззаду так пасіціліся, аж стыдна.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Каленкі ў штанах пасіцілісь.* Туркова Міёр.

ПА́СКА *ж.* 1. Вялікдзень. *Яек пакрасілі к Па́ске.* Ганкавічы Беш. *Я радзіўся якраз на Па́ску.* Залессе В.-Дзв. *На Па́ску дзеці пріедуць.* Мазалава Віц. *Па́ска скора – у хаці нада прібіраць.* Канашы Гар. *Сёння Па́ска, а я табе буду жар даваць – яшчэ што прідумаіш!* Маскаляняты Гар.,Чарневічы Глыб., Алексінічы Сен., Замачак Чаш. 2. Ежа з тварагу, якую гатуюць да Вялікадня. *Хадзіла па́ску свяціла.* Задроўе Арш. *Вечарам пайду па́ску свяціць.* Пастушкі Сен. *Смачней за маміну па́ску нічога не еў.* Красніца Чаш.

ПАСКАННЁ *н.* Палатно з грубай кудзелі і адзенне з яго, зрэб'е. *Пасканнё для калхоза ткалі.* Андрэеўшчына Арш.

ПАСКІПА́ЦЦА *зак.* Патрэскацца. *Пяткі паскіпа́ліся.* Смародзіна Лёзн. Параўн. *пары́пацца.*

ПАСКІПА́ЦЬ *зак.* Пашчапаць. *Паскіпа́й дравіну на тоненькія палачкі.* Іскра В.-Дзв.

ПАСКО́ННЫ *прым.* З грубай тканіны. *Штаны пasко́нныя ў лес надзявай.* Каўровая Дубр.

ПАСКРО́БАК, ПАСКРЭ́БІШКА гл. ПАДСКРО́БЫШ

ПАСКУБА́ЦЦА *зак.* Пагаліцца. *Дзед, паскуба́йся, а то аж глядзець брыдка.* Трашчанішкі Паст.

ПАСЛЕ́, ПАСЛЕ́Й *прысл.* Пасля. *Ну а тады, пасле́, усё перамянілася.* Пастушкі Сен. *Унучка паслей прыехала.* Белькі Паст.

ПАСЛЕ́ДЫ *мн.* Абрэзкі, адходы. *Цэлы мех пасле́даў выкінула.* Кругляны Сен.

ПАСЛІМА́ЧЫЦЦА *зак.* Памачыць, пакапаць (пра дождж). *Дождж толькі паслімачыўся.* Азярцы Глыб.

ПАСЛО́ЕНКА *ж.* Ягады, перацёртыя з цукрам. *Пасло́енкі надзелала на зіму, дзеці ўсё з'ядуць.* Грышаны Віц.

ПАСЛУ́ШЛІВЫ *прым.* Паслухмяны. *Мая галубка ты паслу́шлівая, усягды мяне слухаешся, затое я цябе і люблю.* Мазурына Шум.

ПА́СЛЫ гл. ПА́ЙСМЫ

ПАСЛЯЗА́ЎТРАГА *прысл.* Паслязаўтра. *Паслязаўтрага ў дровы пайдзём.* Велеўшчына Леп. Параўн. *паза́ўтра, паза́ўтраму.*

ПАСМАКТАВА́ЦЬ *зак.* Пакаштаваць. *Пасмактава́ць малако можна?* Ваўкалата Докш.

ПАСМЕ́ЦЕННЕ, ПАСМЕ́ЦІНА гл. ПАДСМЕ́ЦІНА

ПАСМІРНЕ́ЦЬ *зак.* Супакоіцца. *Во ўжо дзіцё – ніяк не можа пасмірне́ць.* Задроўе Арш.

ПАСМІ́ХА *аг.* Насмешнік. *Пляменнік мой пасмі́ха бальшы.* Забор'е Рас.

ПАСМУ́РАК *м.* Пахмурнае надвор'е. *Зноў пасму́рак, сонца не відаць.* Антонаўка Арш.

ПАСО́Л *м.* Працэс засолкі агуркоў. *Толькі другі пасо́л у мяне ідзець, бо многа не ядзім салёных гуркоў.* Дразды Беш.

ПАСО́ЛЬ *м.*, ПАСО́ЛЬ, ПАСО́ЛЯ *ж.* Фасоль. *Благі пасо́ль вырас.* Чорнае Паст. *Пасо́лю дзед любіць.* Шыркі Сен. *Пасо́ль плоха ўзышла.* Мокавічы Чаш. *У гэтым годзе пасо́ля добрая.* Дворнава Шарк.

ПАСО́РЫЦЬ *зак.* Згубіць. *Грошы пасо́рыла.* Малыя Смалянцы Чаш.

ПАСО́ЎКА гл. ПАСАВІ́К

ПАСПАСІ́БАВАЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Паспасі́баваў, што я яму ўгадзіў, савет даў.* Вялікае Сяло В.-Дзв. *Паспасі́бавала мне за падарак.* Езярышча, Канашы Гар. *Паспасі́баваць не забыўся.* Гута Паст.

ПАСПЕ́ШКА *ж.* Гатунак скараспелай бульбы. *А на гэтым канцы пасадзім паспе́шку.* Залессе В.-Дзв. *Пасадзіла паспе́шкі, праз два месяцы можна будзе капаць.* Папшычы Глыб. *Паспе́шка ў гэтым гаду ўрадзіла.* Залучча Гар., Залессе Глыб., Пугачова Докш., Новыя Валосавічы Леп., Новы Пагост Міёр., Вярэнькі, Кавалі, Казлоўшчына Паст., Алексінічы Сен., Серкавіцы Тал., Сарочына Уш., Яцукі Шум.

ПАСПЯШКІ́ *мн.* Раннія агуркі. *Ох, ну і нарасло паспяшко́ў!* Сіўцы Паст.

ПАСПЯШО́НАК *м.* Пра паспешлівага чалавека. *Які́й ты ў мяне паспяшо́нак!* Дворышча Рас.

ПА́СТА, ПА́СТВА *ж.* 1. Чарга адбываць радоўку – пасвіць кароў; пасьба. *А хто сёння на па́сце?* Іскра В.-Дзв. *На па́сту хадзілі, весела было.* Задуброўе Віц., Бортнікі, Косарава Глыб., Янкі Докш., Стаі, Валосавічы Леп. *Цяперака кароў мала, па́ста выпадае разоў шэсць на лета.* Клясціцы, Якубова Рас., Літусава Сен. *Скора наша па́ства.* Замачак, Іванск Чаш., Жукоўшчына, Лужкі, Савуткі Шарк. *Па́ства скора падыдзіць.* Сар'я В.-Дзв., Туркова Міёр. Параўн. *палёўка, парадо́ўка.* 2. Месца, дзе пасецца жывёла, паша. *Сёлета па́ста для кароў была ўдалая, багатая.* Беразіно Докш. *Кароўку на па́ству выгані.* Галубчыкі Глыб., Узмёны Міёр.

ПАСТАВЕ́Ц *м.* Драўляны посуд для алею. *Наліў мне масла поўны паставе́ц.* Грышаны Віц.

ПАСТА́ДЗЬ *ж.* Паласа збажыны, якую займае адна жняя ў час жніва, постаць. *Раней нам давалі паста́дзі, і кажная гнала сваю.* Слабада Шум.

ПАСТАЎНЯ́ *ж.* Рыбалоўная снасць. *Пастаўню́ днём не ставяць, а ставяць на ноч.* Несцераўшчына Докш.

ПАСТАЯ́ЛКА *ж.* Вяршкі. *Пастая́лка хоць і не смітана яшчо, а дабавіш у суп – дык і нічога пряма.* Дразды Віц. *Што такое*

*пастаялка? Дык гэта тое, што і вяршынкі.* Залескі Глыб. Параўн. *падсмята́нік, падсмята́ннік.*

ПА́СТВА гл. ПА́СТА

ПАСТРАМІ́ЦЦА *зак.* Пасаромецца. *Пастрамі́лася б гаварыць такое.* Ноўка Гар. *Я пастрамі́лася пасці кароў, служыць пашла.* Макаранкі Лёзн.

ПАСТРО́ІЦЬ *зак.* Прыгатаваць (пра ежу). *Жонка пастро́іла нам абед.* Ахрэмаўцы Брасл., Янкі Докш.

ПАСТРО́НКА *ж.* Частка збруі, рэмень, які злучае ворчык з хамутом пры запраганні каня ў плуг; пастронак. *А былі мужыкі, што пастро́нку не маглі ўпутаць.* Дабравольск Тал.

ПА́СТЫР, ПАСТЫ́РЬ *м.* Пастух, пасты́р. *Па́стыр у нас плахі: каровы самі па сабе гуляюць.* Барсукі В.-Дзв. *Хто з вас з пастырём пагоніць на пасту?* Бягомль Докш.

ПАСУ́ДДЗЕ *н., зб.* Посуд. *Памый пасу́ддзе – вун колькі набралася.* Мельніца Шарк.

ПАСУ́ДНІК *м.* Ручнік для посуду. *Вазьмі пасу́днік, міскі пратры.* Рускі Шум.

ПАСУЛІ́ЦЬ *зак.* 1. Прапанаваць, выказаць жаданне дапамагчы, зрабіць паслугу. *Грошай унуку пасулі́ла, дык нізашто ні ўзяў.* Кулакова Віц. *Пасулі́ малачка рябёнку.* Канашы Гар. *Нада пасулі́ць сена карове.* Баяры Чаш. 2. Параіць, выказаць прапанову. *Пасулі́ла рэцэпт саседка, дык такій салат укусный палучыўся.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *І не знаю, што табе пасулі́ць.* Іскра В.-Дзв. *Мне пасулі́лі добрую работу.* Кавалі, Лашукі Паст.

ПАСУМА́НЫ *толькі мн.* Падцёкі, сляды ад сцяканнння якой-н. вадкасці, фарбы і інш.; разводы. *Пасума́ны на курткі асталіся – не адсціралася ў машыні.* Курына Віц. *Паглядзі, якія пасума́ны на палу.* Вярэчча, Казловічы, Канашы, Ноўка Гар. Параўн. *пацёк.*

ПА́СУШ *ж.* Перарослая сухая трава. *Што за сена нам сёлета далі – адзін асот і па́суш. А ці будзець карова тую па́суш есць?* Горы Рас.

ПАСЦЕ́ЛЯ *ж.* Пасцель. *Трэба пасце́лю слаць.* Белая Ліпа Сен. *Раней пасце́ля была не такая, якая ціпер, і цвярдзейшая, і грубейшая.* Астроўна Беш., Канашы Гар., Гарэлькі Дубр., Макаранкі Лёзн., Малая Вядрэнь Чаш., Куціна Шум.

ПАСЦІ́ *незак.* Глядзець. *Пасі́ туды, там дом гарыць.* Антонаўка Арш.

ПАСЦІ́ЛКА *ж.* Салома, якая пойдзе на подсціл жывёле. *Пасля жатвы нада высушыць ды скласць у копны пасці́лку.* Шлыкі Віц. Параўн. *падсцёл, по́дсціль, по́сцель.*

ПАСЫ́КА гл. ПА́САК

ПАСЫ́ПКА *ж.* Мука, якая ідзе на корм жывёле. *Дай парасёнку паесь і не забудзь пра пасы́пку.* Цяцеркі Віц. *Пасы́пкай мы свіней кармілі.* Варашылы Сен.

ПАСЮ́ЛЬ *прысл.* Да гэтага часу, дагэтуль. *Пасю́ль усё было добра, а цяпер як кошка з мышкай жывуць.* Булаўкі Пол.

ПАСЯ́БРА *м.* Сябар. *Пайду да пася́бры на сяло.* Янкавічы Рас.

ПАСЯДЗЕ́НЬКІ гл. ПАСЕ́ДКІ

ПАСЯДУ́ХА *ж.* Немаладая жанчына, якая не была замужам. *Бабу, што ў дзеўках асталася, пасяду́хай у нас называюць.* Крывыя Тал.

ПАСЯДУ́ШКІ гл. ПАСЕ́ДКІ

ПАСЯ́К гл. ПАСАВІ́К

ПАСЯЛЕ́НЬ *м.*, ПАСЯЛУ́ХА, ПАСЯЛУ́ШНІЦА *ж.* Пра таго, хто любіць без справы хадзіць па хатах. *Ну і пасяле́нь жа ты, дома не найці цябе.* Мікуліна Глыб. *Гэты пасяле́нь мне ўжо ўсе вочы аб'еў.* Бадзінава Пол. *Зноў гэта пасялу́ха да нас цягнецца!* Абрамава В.-Дзв., Вялікае Сяло В.-Дзв. *Наша Фоця такая пасялу́ха, што рэдка калі дома бывае.* Більдзюгі Шарк. *Саседка мая яшчэ тая пасялу́шніца: як увідзіць, што я з хаты вышла, дык сразу ляціць, сядзіць па тры часы, як бы і работы нет.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Ластавічы Глыб. Параўн. *паха́туха.*

ПАСЯЛУ́ШНІЧАЦЬ *незак.* Наведваць каго-н. з мэтай прабавіць вольны час у размовах. *Дзед што, зноў пасялу́шнічаць пашоў?* Воўкаўшчына, Новы Пагост Міёр.

ПАСЯРБА́ЦЬ *зак.* Паесці вадкай стравы, пасёрбаць. *Ідзі пасярба́й супу.* Мікалаёва Міёр.

ПАСЯРО́ДКУ *прысл.* Пасярэдзіне. *Прысядзь пасяро́дку нас.* Якаўлевічы Арш.

ПАСЯРПО́ЎНЯ *ж.* Нятлусты, нішчымны суп. *Трэба хоць пасярпо́ўню якую зварыць.* Крылаўшчына Шум.

ПАСЯЧЫ́СЯ *зак.* Перастаць гарэць, патухнуць. *Пасе́кся агонь у шчытку.* Казлы Міёр.

ПАТАЕ́МНІК *м.* Склеп. *У патае́мніку многа чаго нашлося старыннага.* Мокавічы Чаш.

ПАТАЙНІКІ́ *толькі мн.* Патайное месца, схованка. *Чуць нашла яе, у патайніка́х была.* Баброва Дубр.

ПАТАЛА́ХА, ПАТАЛА́ШЫНА *ж., груб.* Жанчына распусных, непрыстойных паводзін. *Патала́ху нейкую знайшоў, не пара яна яму.* Янкі Докш.

ПАТАПЕ́Ц *м., рыб.* Грузіла. *Патапе́ц нада новый.* Забор'е Рас.

ПАТАПЕ́ЧА *ж.* 1. Раздарожжа. *Куды тут ехаць на машыне: патапе́ча такая.* Гарэлькі Дубр. 2. Мокрае месца. *У карове ў хляву*

*патапе́ча, нада навоз выкідываць.* Зубава Арш. *Патапе́ча ўнізе на гародзе.* Баева Дубр.

ПАТАРЧА́КА *ж.* Плот, паркан. *Патарча́ку на Купалу вынесем на дарогу і абнімаем – варожым, значыцца.* Замхава Глыб. Параўн. *парга́н, парка́ннік.*

ПАТАСКУ́ХА *ж.* Густы цукровы сіроп, патака. *Разбаўляю патаску́ху вадой, і тады добрая самагонка палучаецца.* Грачыхі Тал.

ПАТАЎПЕ́ШКА *ж.* Таўкач. *Патаўпе́шкай бульбу свіням таўкуць у чыгуне.* Новы Двор В.-Дзв.

ПАТВО́РА *аг., неадабр.* Свавольнае дзіця. *Ну дзіцё, ну патво́ра!* Калышкі Лёзн. Параўн. *памо́ўза.*

ПАТНІ́ЦА *ж.* Сып на целе малога дзіцяці. *Нарві рамашкі, ад патні́цы добра памагаець.* Кругляны Сен.

ПАТО́ПКА гл. ПАДТО́ПА

ПАТО́РКАЦЬ *зак.* Пасадзіць. *Пато́ркала троху бульбы пад вокнамі – хай будзіць.* Канашы Гар. *Пато́ркала клубніку абы-дзе, а яна прыжылася.* Іёды Шарк.

ПАТО́РНУЦЬ *зак.* Уткнуць, усадзіць што-н. вострае, тонкае. *Пато́рні іголку во тут.* Лужасна Віц. *Пато́рні вілку ў разетку.* Заобаль Шум.

ПАТРА́ВА, ПАТРА́ЎКА *ж.* Страва, яда. *Сёння цэлы стол патра́вы ўсякай было.* Віркі Чаш. *На сталах многа патра́вак.* Зубава Арш.

ПАТРАКТАВА́ЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Дзед мёдам патрактава́ў.* Вал Чаш.

ПАТРАПА́ЦЬ *зак.* Навастрыць, зрабіць вострым (пра касу). *Патрапі́ касу і адкасі атавы карове.* Косарава Глыб.

ПА́ТРАП'Е, ПАТРЭ́П'Е *н.* 1. Адходы, якія атрымліваюцца пры трапанні лёну, атрэп'е. *З патрэ́п'я дзелалі мяшкі.* Матырына Леп. *Па́трап'е ішло на мяхі, на пасцілкі якія горшыя, на палавікі.* Лукашова Паст. *Як патрэпіш лён, астаецца толькі патрэ́п'е.* Белае Пол., Селішча Уш. 2. Старое, зношанае адзенне, атрэп'е. *Па́трап'е валяецца па ўсіх вуглах.* Хоціна Беш.

ПАТРАСА́ЦЬ *незак.* Пасыпаць. *Часнаком па салу патраса́ем, каб укуснейшае было.* Кутняны Пол.

ПАТРАЎНО́ *безас.-прэдык.* Шмат травы. *Гэтым летам патраўно́ было, многа сена накасілі.* Язна Міёр.

ПАТРА́ФІЦЬ *зак.* 1. Дагадзіць. *Пану цяжка было патра́фіць.* Мар'янполле Брасл., Ваўкалата Докш. 2. Змагчы, здолець зрабіць што-н. *Я ўжо і не патра́флю так танцаваць, старая ўжо.* Сабалі Чаш.

ПАТРАХІ́ *толькі мн.* Вантробы. *Патрахі́ ў вядро выкінь.* Лісуны Арш.

ПАТРАШО́НКА *ж.* Каўбаса з вантробаў. *Патрашо́нку люблю.* Германавічы Шарк.

ПАТРУ́СКА, ПАТРУ́ХА, ПАТРУХА́ *ж.* Пацяруха. *За нагамі сколькі патру́скі нанясла!* Шарагі Міёр. *Насеяў бы ты, чалавек, патру́хі, нада ж курэй нечым карміць.* Азярцы Глыб. *Натрушыцца патру́ха – ванну дзелала нагам, яна ж лячэбная.* Выдрэя Віц., Шантары Докш., Гарэлькі Дубр., Папшулі Міёр., Павулле Уш., Мельніца Шарк. *Пад вясну ад сена адна патруха́ астанецца.* Далёкія Брасл. *Патруху́ насыпалі ў мяшкі і адпраўлялі на скотны двор.* Слабада Віц., Жабыкі Дубр., Асташэва Лёзн.

ПАТРУ́СКАНЫ *дзеепрым.* Разбіты, трэснуты. *Патру́сканы жбан лепей выкінуць, усё роўна прапускаць будзець.* Рудня Пол., Матырына Уш.

ПАТРУ́СКАЦЬ *зак.* Пабіць, паламаць. *Заўчора гэныя п'яныя патру́скалі ўсё, што можна было.* Булахі Глыб. Параўн. *пахрапата́ць.*

ПАТРУ́ШКА *ж.* Падушка. *Патру́шкі мяккія, ад маці яшчэ асталісь.* Ноўка Віц.

ПАТРЫЁХАЦЬ *зак.* Паехаць. *Анюта яшчэ вечарам патрыёхала.* Галубава В.-Дзв.

ПАТРЭ́П'Е гл. ПАТРА́П'Е

ПАТУ́ЛЬНЫ *прым.* Ціхі. *У нас сабака быў пату́льны, ніколі не брахаў.* Сялец Чаш.

ПАТУРА́ЦЬ *незак.* Праклінаць, лаяць, асуджаць. *Цяпер пасля таго случая ўсе ў вёсцы патура́юць яго.* Косарава Глыб.

ПАТЭ́ЛІНА, ПАТЭ́ЛЬНІЦА *ж.* Патэльня. *Цеста пакласці на патэ́ліну і троху прыгрэць.* Узмёны Міёр. *Бліны мы пячом на патэ́ліне.* Луначарскае В.-Дзв., Празарокі Глыб., Лонск Шарк. *Трасу, трасу блін на патэ́льніцы, каб ён тоненькі быў.* Чарневічы Глыб.

ПАЎБЕ́ЛЫ гл. ПАЛУБЕ́ЛЫ

ПАЎБУТЫ́ЛАК *м.* Паўбутэлек. *Паёніку дадзём толькі паўбуты́лак малака.* Марынкі Міёр.

ПАЎГАСА́ЦЬ *зак.* Памлець. *Бывала, за дзень і рукі паўгаса́юць ад жатвы.* Верамееўшчына Дубр.

ПАЎГЛО́ВАК *м., груб.* Неразумны чалавек, дурань. *На паўгло́ўка гэтага не панадзеешся.* Абруб Глыб. Параўн. *паўду́рак, паўшабэ́лак* у 2 знач., *пе́нцюх, пріты́рак, прыты́рак.*

ПАЎГО́РАК гл. ПАГУ́Р

ПАЎДЗЁН, ПАЎДЗЁНАК *м.*, ПАЎДЗЁНКІ[1] *мн.* Поўдзень. *Бабы пайшлі кароў даіць у паўдзён.* Паўазер'е, Сініцы Беш. *Цяпер самы паўдзён, ідзі паляжы.* Балаі, Манякова Міёр. *У паўдзён летам скот з поля прыводзяць пераждаць жару.* Узмёны Міёр., Дубнякі Сен., Селішча Уш., Пашкі Шарк., Галі Шум. *Паўдзёнак ужо. Карову пара*

*ісці даіць.* Каўровая Дубр. *У паўдзёнкі ў грыбы не ходзяць.* Дубнякі Сен.

ПАЎДЗЁНКІ[2] *мн.*, ПАЎДЗЁННІК *м., бат.* Дэкаратыўная расліна іпамея (павой). *Ужо абед, вот і паўдзёнкі распусцілісь.* Новы Пагост Міёр. *Бутоны паўдзённіка распускаюцца, як высока падымаецца сонца.* Трабаўшчына Шарк.

ПАЎДНЁМ *прысл.* У поўдзень. *Паўднём паедзім у Паставы.* Белькі Паст.

ПАЎДУ́ЛЬКА *ж.* Груша-дзічка. *Паўду́лька расла побач бані.* Ляхаўка Дубр.

ПАЎДУ́РАК *м., груб.* Неразумны чалавек, дурань. *Гэта толькі паўду́рак такое сказаць можа.* Лазічы Глыб. *Гэтаму паўду́рку і за дзень не ўложыш у галаву нічога.* Масленікі Паст. *Адзін паўду́рак падвучыць, а другі зробіць.* Прыпернае Глыб., Кублічы Уш., Сабалі Чаш. Параўн. *паўгло́вак, паўшабэ́лак* у 2 знач., *пе́нцюх, пріты́рак, прыты́рак.*

ПАЎЗА́К *м.* Бляшанка, у якую складваюць рыбу падчас лоўлі. *Паўза́к – дужа добрая штука для рыбака.* Дразды Беш.

ПАЎЗУ́Н *м.* Любая паўзучая пакаёвая расліна. *Нада ў паўзуна́ зямлю памяняць.* Прыпернае Глыб. *Якіх толька вазонаў німа ў Стасі: і паўзу́н, і мушкат, і фікус, і дзіравы ліст!* Верхняе Глыб.

ПАЎЗУНКІ́ *мн.* Вусікі на сцябле гарбуза. *Не тапчыся па паўзунка́х!* Стрынадкі Глыб.

ПАЎЗЮ́ЧКА *ж.* Гадзюка. *У лес не пайду з-за гэтых паўзю́чак.* Кутняны Пол., Матырына Уш.

ПАЎКА́ДАК *м.* Невялікі цэбар. *Ці асталась эта зярно ў паўка́дку?* Казімірова Пол.

ПАЎЛІТРО́ВІК, ПАЎЛІТЭ́РАК *м.* Бутэлька ёмістасцю ў паўлітра, паўлітроўка. *Нёс у рукаве паўлітро́вік.* Булахі Глыб. *Адзін цэлы паўлітэ́рак высмактаў.* Друя Брасл. *З паўлітэ́рка малака ёсць у халадзільніку.* Вераб'і Глыб.

ПАЎЛЮ́К *м.* Павук. *Па сцяне паўлю́к папоўз.* Міхалінава Лёзн.

ПА́ЎНА *н.*, ПАЎНАТА́ *ж.* Поўня. *На вуліцы відна, як днём: па́ўна на небе такое яркае.* Новы Пагост Міёр. *Заўтра ўжо паўната́.* Грабяніца Віц.

ПАЎНЮ́ТУНЬКА *прысл., памянш.* У поўнай меры, шмат. *Гора гэта баба хапіла паўню́тунька.* Мікалаёва Міёр.

ПАЎНЮ́ХАТКІ *прым., памянш.* Поўны, да краёў запоўнены. *У нашай кароўкі можна паўню́хаткі жбан надаіць.* Рудня Пол.

ПАЎРО́ЗА *ж.* Вяроўка, шнур. *Зацягні паўро́зу лепей, каб воз не перакуліўся.* Марынцы Чаш.

ПАЎСКА́КІВАЦЬ *зак.* Паўскакваць. *Людзі паўска́ківалі з крэслаў, к выхаду кінуліс*ь. Залессе В.-Дзв. *Прышчыкі паўска́ківалі на руках.* Беразіно Докш.

ПАЎСУКЕ́НІК *м.* Адрэз, кавалак тканіны. *Пашыю Федзю касцюм з паўсуке́ніка.* Мельніца Шарк. *Гэты паўсуке́нік мне нявестка падарыла.* Варонка Шарк.

о ПАЎСУКЯНКО́ВЫ БЛІ́Н *м.* Блін з хлебнай рошчыны і надранай бульбы. *Мама часта такія паўсукянко́выя бліны́ нам пякла, а мы і любілі.* Лукашова Паст.

ПАЎСЫ́РАК *м.* Недапечаны, сыры хлеб. *Паўсы́рак тот нада выкінуць.* Сарочына Уш.

ПАЎТАРАЦЯ́ *ліч.* Паўтраця. *Купі паўтарацяя́ сахару.* Слабада Дубр.

ПАЎТАРНІ́К *м.* Гаршчок на паўтара літра. *Паўтарнік у печы з грыбамі.* Калінавая Міёр.

ПАЎТО́РАК *м.* Паўторны пасеў насення. *У нас добрае хазяйства, па паўто́рку ніколі зярно не сеялі.* Калінава Віц.

ПАЎХО́ДВАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Касцы мае чуць ідуць дамоў – так ужо паўхо́дваліся.* Мнюхі Міёр. Параўн. *праста́ць.*

ПАЎЦАБЭ́РАК *м.* Невялікі цэбар. *Я карову з паўцабэ́рка паю.* Надазер'е Глыб.

ПАЎЦАГЕ́ЛАК *м.* Палова цагліны. *Паўцаге́лак пад дзверы паклала.* Залессе В.-Дзв. *Паўцаге́лак з печы выкінь, нашто ён там.* Гарбачэва Рас.

ПАЎЧВЭ́РТАК *м.* Мера зямлі, роўна адной чвэрці гектара. *У дзеда майго паўчвэ́ртак зямлі быў.* Янушова Докш.

ПАЎЧЫ́ННЕ гл. ПАВУ́ТА

ПАЎШАБЭ́ЛАК *м.* 1. *неадабр.* Чалавек малога росту. *Па кім ягоны сын такі паўшабэ́лак удаўся?* Быцава Беш. 2. *груб.* Неразумны чалавек, дурань. *Што ты глядзіш, як паўшабэ́лак?* Антонава В.-Дзв. *Нашто табе гэты паўшабэ́лак, лепшага няма ці што?* Даўгаполле Гар., Надазер'е Глыб., Ветахмо Докш., Малы Поўсвіж Леп., Гарбачэва Рас. Параўн. *паўгло́вак, паўду́рак, пе́нцюх, пріты́рак, прыты́рак.*

ПАХАДЗЕ́НЬ *м.* Венік. *Быстрый, як пахадзе́нь.* Селішча Уш.

ПАХАДЗЯ́КА, ПАХАДЫ́КА *аг., асудж.* Валацуга, бадзяга. *Дзе ты падзелася, пахадзя́ка?* Ноўка Гар. *Што ты цягаешся, як пахадзя́ка, людзей пугаеш!* Папкі Міёр., Губіца Шум. Параўн. *пацяга́йла, пацягло́.*

ПАХАДКІ́ *прым.* Зручны для работы. *Зубы стругаюць, каб граблі былі пахадкія.* Кураполле Паст. Параўн. *падхва́тны, пахва́тны.*

ПАХАДНЯ́ *ж.* Драўляны трап. *Свінню па пахадне́ ўзвялі на машыну.* Верхняе Глыб.

ПАХАРО́Н *м.*, *часцей* ПАХАРО́НКІ *мн.* Пахаванне. *У дзярэўне сёння пахаро́н.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Як толькі карова прысніцца, дык сразу недзе пахаро́н пачую.* Макаравічы Докш., Калінавая, Мікалаёва Міёр., Пашкі Шарк. *На пахаро́нкі к брату ездзілі.* Казловічы Гар. Параўн. *пахо́вы.*

ПА́ХАТА *ж.* Ралля. *Вясной па́хата доўга была мокрай.* Тумінічы Арш.

ПАХА́ТУХА *ж.* Жанчына, якая любіць без справы хадзіць па хатах. *Ёсць у нас адна такая, якую ўсе завуць паха́тухай – за тое, што любіць яна хадзіць з хаты ў хату і расказываць разныя навасці.* Свярдлова Віц., Заполле Тал. Параўн. *пасяле́нь, пасялу́ха, пасялу́шніца.*

ПАХАЦЕ́ЦЬ, ПА́ХЦІ *незак.* Пахнуць. *Цвяты ў гародчыку так пахаця́ць!* Мішкавічы Шум. *Рыба начала па́хці.* Баравуха Пол.

ПА́ХАЦЬ *ж.* Паша. *Па па́хаці зярно ў гэтым гаду пасеем.* Цяцеркі Віц.

ПАХА́ЦЬ *незак.* Падмятаць. *Дачка пол пашы́ць у хаце.* Плюсы Брасл. *Абязаннасць меншых дзяцей – мост паха́ць, ваду прынасіць, кароўку заганяць.* Іванава, Іказнь Брасл.

ПАХВАЛЁНКА *ж.* Прывітальны выраз у каталікоў. *Зайшоўшы ў хату, казалі пахвалёнку: "Нех бэндзэ пахвалёны Езус Хрыстус!"* Лынтупы Паст.

ПАХВА́ТНЫ гл. ПАДХВАТНЫ

ПАХІ́БА *ж.* Памылка, недахоп, хіба. *Пахі́бу гэту і паправіць можна.* Мількі Брасл.

ПАХІ́СТКА *ж.* Невялікі кавалак тканіны, абрэзкі. *Здзелай з пахі́стак куклу.* Гарадок. *З тымі пахі́сткамі ўнучка гуляець у магазін.* Верамееўка Гар. *Увесь кусок пашоў на плацце, адна пахі́стка асталась.* Стадолішча Гар.

ПАХЛАПЕ́НЬКІ, *часцей мн., памянш.* ПАХЛАПЕ́НЬЧЫКІ, ПАХЛАПНІ́ 1. Тапкі, лёгкія туфлі без абцасаў. *У міне пахлапе́нькі дужа лоўкія – на нагах не чую.* Ноўка Гар. *Во дзе пахлапе́ньчыкі тваі стаяць.* Доўжа Віц. 2. Лапці, сплеценыя з вяроўкі. *Пахлапе́ньчыкі былі мацней, чым лапці з лазы.* Міхалова Чаш. 3. Стары разбіты абутак. *Пахлапе́нькі сваі разуваю, як з агарода пріхажу.* Лужасна Віц. *І не стыдна табе ў такіх пахлапня́х на работу хадзіць?* Мазалава Віц. *Выкінь ты пахлапні́ етыя.* Канашы, Ноўка Гар.

ПАХЛЕБУ́ЦЫЙ *м.* Булён. *Як худзела, адзін пахлебу́цый ела.* Крывое Сяло Шум.

ПАХМЕ́ЛЕНЫ *дзеепрым.* Які пахмяліўся (пра чалавека). *Гэта ж нада, цягаецца ўжо пахме́лены!* Мясаедава Шум.

ПАХНЮ́ЧЫ, ПАХНЮ́ШЧЫ *прым.* З моцным пахам, пахкі, духмяны. *А пахню́чым жа нечым надушыўся!* Макаравічы Докш,

Кляны Дубр. *Нада б купіць пахнючага перцу.* Урбаны Брасл., Белішкі Паст. *У кілбасы дабаўляю перцу пахнюшчага.* Гаўрылавічы Паст.

ПАХО́ВЫ *толькі мн.* Пахаванне. *Хацелась бы схадзіць на пахо́вы.* Зуі Лёзн. Параўн. *пахаро́н, пахаро́нкі.*

ПАХО́ЖЫ *прым.* Прыгожы, відны (пра чалавека). *Яна дзеўка пахо́жая, хоць карціну пішы.* Язна Міёр. *Ён хлопец пахо́жы.* Шуміліна. Параўн. *пе́нкны.*

ПАХО́ПНЫ, ПАХО́ТНЫ *прым.* Паспешлівы. *Дзед быў чалавек пахо́пны.* Стаі Леп. *Ён чалавек пахо́тны, не знаеш, што яму ў галаву стукнецъ.* Міўкавічы Шум.

ПАХО́РЧЫКІ *мн., памянш.* Маленькія карэньчыкі на караняплодзе морквы. *Пахо́рчыкі пачысці на моркве.* Опса Брасл.

ПАХО́ТНЫ гл. ПАХО́ПНЫ

ПАХРАПАТА́ЦЬ *зак.* Паламаць. *Карова за ноч усю кармушку пахрапата́ла.* Кашталянаўшчына Глыб. Параўн. *патру́скаць.*

ПАХУ́ВЕЦ *м.*, ПАХУ́ЧКА *ж.* Мята. *У чай дабаўляюць паху́вец.* Стрынадкі Глыб. *Паху́чку добра дабаўляць у чай.* Смаляны Арш. *Паху́чкі на чай насушылі.* Азёркі Гар. *Чай мы ніколі не купляем – заварываем паху́чку.* Вітунічы Докш.

ПАХУ́ЖАЦЬ *зак.* Пагоршаць. *Паху́жыіць жыць вам, як бацькі ні станіць.* Лужасна Віц. *Січас абстаноўка ў стране паху́жала.* Велеўшчына Леп. *Думала замужам палепшаіць, але не, пахужа́ла.* Шаркоўка Леп.

ПАХУ́ЧКА гл. ПАХУ́ВЕЦ

ПА́ХЦІ гл. ПАХАЦЕ́ЦЬ

ПА́Ц, ПА́ЦА, ПУЦА́К, ПУ́ЦУК *м.* Пацук. *Пацы́ добра бульбу пажорлі.* Цяцеркі Брасл. *Пацы́ скора ўсю бульбу з'ядуць.* Замхава, Косарава, Надазер'е Глыб. *Папа́ўся па́ц у пастку.* Пугачова Докш. *Па́ц дык па́ц, большы, пэўна, за ката.* Рандары Міёр. *Па́цаў развялося, аж страх.* Слабада Міёр., Ласіца Паст., Запруддзе Шарк. *Такую вялізную мыш сёння бачыла, можа, гэта па́ца быў?* Капыльшчына Глыб. *Калі кубел не закрыеш, то пуца́к ноччу ўваліцца.* Гута Паст. *Кошка чуць пуцака́ да хлява давалакла.* Якубава Рас. *У кладоўке пуцакі́ ноччу шыруць.* Гаршчэўшчына Тал. *Кошка бальшога пуцака́ злавіла.* Плігаўкі Уш. *У хлеве, дзе карова, пу́цука бальшога відзела.* Паўазер'е Беш.

ПАЦАПЕ́ЙКА *ж.* Вяроўка. *Ключы павесь на пацапе́йку.* Пашына Арш.

ПАЦАЦЕ́НЬ *м.* Пірог, спечаны на патэльні. *Адрэж кусок пацаце́ня.* Жабыкі Дубр.

ПАЦЁК *м.* След ад сцякання вадкасці, падцёк. *На вакне пасля дажджу пацёкі.* Моханава В.-Дзв. Параўн. *пасума́ны.*

ПАЦЁЛЬКА *ж.* Пятля для гузіка. *Пацёлькі і не ў тон кашулі рабілі.* Пятровічы Шарк.

ПАЦЁМАК *м.*, ПАЦЁМКІ *мн.* Час пасля захаду сонца, цемната, поцемак. *Што ты там у пацёмку чытаеш, не сляпі вочы.* Слабодка Брасл. *Ужо быў пацёмак, як мае прыехалі.* Латышы Глыб. *Куды гэта ты па пацёмках пойдзеш?* Жалезкі Беш., Іскра В.-Дзв., Камаі Паст.

ПАЦЁНГЛЫ *прым.* Худы. *Малы я быў дужа пацёнглы.* Баева Дубр.

ПАЦІПА́ХА *аг., неадабр.* Марудлівы чалавек. *Во ўжо дзе паціпа́ха расце!* Асінторф Дубр.

ПАЦЕ́ПЛІЦЬ *зак.* Выпаліць у печы. *Як пацеплілі, дык цяпло стала.* Ноўка Віц.

ПА́ЦЕПНІК *м., зб.* Сучча. *На па́цепніку пірагоў не напякеш.* Барсукі Дубр. *Калі мы лес валілі, то нам казалі: па́цепнік убірайце за сабой. Усё гэта сучча з паваленага дзерава.* Гарэлькі Дубр. Параўн. *пру́цце, пру́ццця.*

ПАЦЕ́ПЫВАЦЦА *незак.* Пацягвацца пасля сну. *Унучка пастаянна так: доўга ляжыць, паце́пываецца, ніяк устаць не можыць.* Лужкі Шарк.

ПАЦЕ́РЫКІ *толькі мн.* Пацеркі. *Паце́рыкі на свята ў маёй суседкі дужа ж пекныя былі, як вішанькі.* Папшычы Глыб.

ПАЦІ́РКА *ж.* Ручнік. *Паці́рка з махрам і крыжавам.* Валынцы В.-Дзв.

ПАЦЫМБА́ЛІЦЬ *зак., экспр.* Пакурыць. *Пацымба́лім ды пойдзем.* Янкавічы Рас.

ПАЦЮПІ́ЦЬ *зак.* Пакрышыць, раскрышыць. *Пічэння ў кармані пацюпі́ла за дзень.* Кулакова Віц. *Пацюпі́ сабе хлеба ў міску ды з'еш з малачком.* Казловічы Гар.

ПАЦЯГА́ЙЛА, ПАЦЯГЛО́ *аг., асудж.* Валацуга, бадзяга. *Пацягнуўся ўжо па хатах, во пацяга́йла!* Зубава Арш., Паліцы Беш., Опліса Брасл., Вяцера Чаш. *Таго і завецца пацягло́, што ўвесь час па хатах цягаецца.* Заазер'е Пол. Параўн. *пахадзя́ка, пахады́ка.*

ПАЦЯГА́КА *м., асудж.* Няверны муж. *Не пашанцавала, папа́ўся нейкі пацяга́ка.* Гілі Чаш.

ПАЦЯГУ́НКІ, ПАЦЯГУ́ШКІ, ПАЦЯГУ́ШЫ *толькі мн.* Пацягванне пасля сну. *Уставай, хваціць гэтых пацягу́нкаў!* Верамееўшчына Дубр. *Пацягу́шкі як у лягушкі.* Забор'е Глыб., Замачак Чаш. *Ой, якія пацягу́шы-расцягушы!* Пашына Арш.

ПАЦЯГУ́ШНІКІ *толькі мн.* Распусныя паводзіны. *Стыдна перад жонкай пасля пацягушнікаў.* Гарадок.

ПАЦЯГУ́ШЫ гл. ПАЦЯГУ́НКІ, ПАЦЯГУ́ШКІ

ПАЦЯМЕ́НЬКАВАЦЦА *незак.* Марудзіць. *Не пацяме́нькавайся, а сабірайся, а то на аўтобус апаздаем.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПАЦЯЎПЕ́ШКА *аг., неадабр.* 1. Пра нерашучага, марудлівага чалавека. *Вот жа пацяўпе́шка гэты Федзя: дзе сама не зраблю, там і няма.* Більдзюгі Шарк. *І што ты ў мяне такая пацяўпе́шка, ва ўсім цябе людзі абходзюць.* Макаравічы Докш. 2. *асудж.* Пра неахайнага чалавека. *Саседка мая такая пацяўпе́шка: і сама грязная ходзіць, і дома парадку нет.* Сухавержжа Міёр.

ПАЦЯЦЮ́РЫЦЬ *зак.* Згрэбці сена ў валы. *Пад вечар пацяцю́рылі сена.* Шацяні Сен.

ПА́ЧАЙ *прысл.* Лепей. *Нам чым далей ад поля, тым па́чай.* Мікалаёва Міёр.

ПАЧАПЕ́ЙКА *ж.* Вешалка ў вопратцы. *Пачапе́йку буду прышываць.* Пірагі Дубр.

ПАЧАПЕ́ЛЬНІК *м.* Вешалка, дошка, на якую вешаюць адзенне. *Навешалі на пачапе́льнік абы-чаго!* Камінщчына Глыб.

ПАЧАПЕ́ШКА *ж.* Дзіравы посуд. *Вазьмі ету пачапе́шку, сабяры бульбу.* Асінторф Дубр.

ПАЧАССЁ *н., зб.* Рэшткі пры часанні лёну, па́чассе, пачаскі. *Убяры пачассё з полу, а то людзі прідуць – стыдна будзіць.* Зуі Лёзн.

ПАЧАСУ́ХА *ж.* Кароста. *А колькі мы дзецьмі пачасу́хай перабалелі!* Гацькаўшчына Арш.

ПАЧА́ТАК *м., ткац.* Верацяно з пражай. *Два пача́ткі пражы ляжаць.* Зазерыца Чаш.

ПАЧАЧУ́Й *м.* Гемарой. *Вылечвала я і ад пачачу́я.* Гацькаўшчына Арш.

ПАЧВЕ́РА *аг., лаянк.* Пачвара. *Не чалавек, а пачве́ра нейкая!* Зубава Арш.

ПА́ЧКА *ж.* Натоўп. *С утра пад сельсаветам ужо сабралася па́чка людзей.* Рубеж Брасл.

ПАЧКІ́, ПАШЦІ́ *прысл.* Амаль. *Я на вайне адбыў пачкі́ два года.* Панцялейкі Брасл. *Пачкі́ сорак гадоў разам пражылі.* Залучча Гар., Лынтупы Паст., Навасельцы Шарк., Андрэеўка Шум. *Я пашці́ паела.* Лужасна Віц., Кугоні Уш.

ПАЧО́К, *памянш.* ПАЧО́ЧАК *м.* Пачак, пачка. *Макаронаў адзін пачо́к астаўся.* Курына, Лужасна Віц. *Пачо́к мукі куплю, разыдзецца за два разы.* Зарачыцак Докш. *Мне, пажалуста, пачо́к верміщэлі.* Мельніца Шарк. *Вазьмі мне пачо́чак чаю ў магазіні.* Лужасна Віц.

ПАЧО́ПКА[1], ПАЧЭ́ПКА *ж.* 1. Кручок. *Пальто павесіў на пачо́пку ў бакоўке, у хату не панёс.* Жданова Беш. *Атарвалася пачэ́пка на паліто.* Кузьмянцы Віц. 2. Дужка ў вядры з вяроўкі ці дроту, почапка. *Пачо́пку к кашолке прывяжы.* Слабодка Леп. *У вядрэ пачо́пка зламалася.* Павулле Уш., Вяцера Чаш. 3. Вяровачка, раменьчык, за якія чапляюць, падвязваюць што-н. *Прынясі мне пачо́пкі памідоры падвязаць.* Бачэйкава Беш. *Пачо́пкі на ключах німа.* Лужасна Віц.

4. Пра каго- або што-н., падобнае да вяроўкі. *Змеі ў лесе як пачóпкі.* Вяцера Чаш.

ПАЧÓПКА[2] *ж.* Дробная бульба. *У етым годзе адной пачóпкі накапалі.* Вялікае Сяло Сен.

ПАЧÓТНІЦЬ *незак.* Ушаноўваць. *Пачóтніла ўсю нашу родзіну.* Судзілавічы Уш.

ПÁЧПАРТ *м.* Пашпарт. *Картачка ў пáчпарце красівая.* Карабы Глыб.

ПАЧТАВІ́ЧКА, ПАЧТÁРКА, ПАШТАВІ́ЧКА *ж.* Паштальёнка. *Пісьмо пачтаві́чка прынясла.* Опса Брасл. *Пачтáрка новая ў нас.* Глінішча Докш. *Пачтáрка да нас, старых, харашо аднасілась.* Казлоўшчына, Турлы Паст., Кубелеўшчына Шарк. *Паштаві́чкі нешта сёння німа.* Кулакова, Курына, Мазалава Віц., Казловічы, Канашы Гар. Параўн. *паштóўка.*

ПАЧТЎФКА *ж.* Паштоўка. *Раней пачтўфкі дорага каштавалі.* Абаляны Брасл.

ПАЧУХРЫ́ЦЬ *зак.* Пачухаць. *Пачухры́ мне спіну.* Задоры Шум.

ПАЧЭ́ПКА гл. ПАЧÓПКА[1]

ПАШАНÓТА *ж.* Пашана, гонар. *Пры жызні пашанóты мала было.* Сабалі Чаш. *Пахавалі дзядзьку з пашанóтай.* Малая Вядрэнь Чаш.

ПАШАНÓТНЫ *прым.* Ганаровы. *Якая работа цяпер пашанóтная?!* Свярдлова Віц.

ПАШАНÓЎНЫ *прым.* Які выклікае павагу, шаноўны. *Радзіцелі ў яго пашанóўныя.* Мікіціха Шум.

ПАШÁНЦІЦЬ, ПАШВЭ́НДЗІЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *На этат раз не пашáнціла.* Езярышча Гар. *Сёння мне пашвэ́ндзіла.* Бараны Глыб. Параўн. *пашыхавáць.*

о ПАШÁРНАЯ КАРЗІ́НА *ж.* Кош вялікіх памераў, прызначаны для пераноскі сена ці саломы. *Поўную пашáрную карзі́ну надзяру сена са стога і нясу.* Далёкія Брасл.

ПАШАХНЎЦЦА *зак.* Пахіснуцца, згубіць раўнавагу. *Пашахнўлася ўбок я тады.* Іскозы Дубр.

ПАШКРÓБАК *м.* Апошні снег. *Як пашкрóбак сыдзе, то вясну ждаць можна.* Пятровічы Шарк.

ПÁШНЯ *ж.* Зерне. *Дык што, пáшню ўсю ссыпаць у адзін засек?* Лужкі Шарк.

ПАШТАВІ́ЧКА гл. ПАЧТАВІ́ЧКА

ПАШТÓ *прысл.* Навошта. *Паштó дождж ей нада?* Князі Віц. *Паштó ты так здзелаў – не знаю.* Баруны Брасл., Двухполле Гар.

ПАШТÓЎКА *ж.* Паштальёнка. *Паштóўка наша харошая.* Замошша Брасл. Параўн. *пачтаві́чка, пачтáрка, паштаві́чка.*

ПАШУГА́ЦЬ *зак.* Пакалыхаць. *Пашуга́й дзіця, хай яшчэ паспіць.* Станіслававa Дубр.

ПАШУРУДЗІ́ЦЬ *зак.* 1. Энергічна, хутка пацерці, пачысціць, зрабіць што-н. чыстым. *Пашуруд́зі паддувала, а то попелу многа.* Залессе В.-Дзв., Канашы Гар. 2. Падварушыць, падшавяліць. *Нада пашурудзі́ць сена, каб быстрэй высахла.* Зубава Арш., Лужасна Віц., Ноўка Гар. *Пайду пашуруджу́ зярно.* Залессе В.-Дзв. Параўн. *паюры́ць.*

ПАШЦІ́ гл. ПАЧКІ́

ПАШЧАСНЕ́ЦЬ *зак.* Стаць больш шчаслівым. *Няхай доля яго пашчасне́іць.* Ноўка Віц.

ПАШЧУКАТУ́РЫЦЬ *зак.* Патынкаваць. *Сянні шчыт пашчукату́рыў.* Барсукі Арш.

ПАШЧЭ́НКА *ж.* Сківаца. *Калатнёй мне пашчэ́нку выбілі.* Нурава В.-Дзв. *Наеўся яблыкаў кіслых, аж пашчэ́нкі зводзіць.* Забор'е, Косарава Глыб. *Пашчэ́нкі баляць – пэўна, ветрам надула.* Шантары Докш., Павяцце Міёр.

ПАШЫ́НА *ж.* Подсціл з галля, жэрдак, на які кладуць стог, адонак. *Перад тым, як паставіць стог, нада здзелаць пашы́ну.* Цясты В.-Дзв. *Сукоў для пашы́ны насячыце многа – стог бальшы будзем класці.* Азёркі Гар., Труды Пол.

ПАШЫХАВА́ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Яму добра пашыхава́ла.* Сяляўшчына Рас. Параўн. *паша́нціць, пашвэ́ндзіць.*

ПАШЭ́НДЗІЦЬ *зак.* Паглядзець, пашукаць. *Пашэ́ндзі ў тот бок, а я – у другі.* Мішкавічы Шум.

ПАЮРЫ́ЦЬ *зак.* Паварушыць сена. *Дзеўкі пашлі сена паюры́ць.* Шацяні Сен. Параўн. *пашурудзі́ць* у 2 знач.

ПАЯДУ́ХА *ж.* Ежа. *Бульбачкі ў кацёл, цыбулькі, мяса трошку – во і паяду́ха на дзень нам будзіць.* Лужасна Віц. *Травы насабірала многа – паяду́хі свінням дні на трі.* Канашы Гар. *Я табе такую смачную паяду́ху прыгатовіла – пальчыкі абліжыш.* Хралы Глыб. Параўн. *паяды́нак, по́кушак.*

ПАЯДЫ́НАК *м.* Ежа, перакус. *Што ў нас сёння на паяды́нак?* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *паяду́ха, по́кушак.*

ПАЯЗДА́ *ж.* Сані, каляска. *А ён і гаворыць: "Конікі мае, а паязда́ твая".* Шаркоўка Леп.

ПАЯЗДЖА́НЕ *толькі мн., абрад.* Госці з боку нявесты, якія на другі дзень вяселля едуць працягваць гулянне ў доме жаніха. *Нашы паязджа́не едуць наканец.* Дрысвяты Брасл.

ПАЯ́С, ПО́ВЯС *м.* 1. Пояс; рэмень ці шнур, якімі падпяразваюць адзенне па таліі. *Плацце новае пад пая́с купіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Паясо́м падперазалась.* Залессе В.-Дзв. *Плацце по́вясам падвяжы.* Стаі Леп., Галбея Паст. Параўн. *падпая́с, падпяря́зка.* 2. Саламяны жгут для

перавязвання снапоў, перавясла. *Старыя ставілі снапы, а малыя вязалі іх паясáмі.* Дрысвяты Брасл.

ПЕ́ГАЯ *ж.* Хвароба падстраўнікавай залозы. *Пе́гая замучыла мяне ўжо, сіл ніякіх няма.* Гарадок.

ПЕ́ЖЫЦЬ *незак.* Выігрываць (у карты). *Я ў карты добра гуляю, хоць старая, заўжды пе́жу.* Ноўка Віц.

ПЕ́КНЕНЬКА *прысл., памянш.* Прыгожа. *Прыбрала ў хаце, дык так пе́кненька стала.* Макаравічы Докш.

ПЕ́ЛЕНА, ПЕ́ЛІНА *ж.* Калені. *Кошку на пе́лену бяру і сяджу вечар.* Укля Брасл. *Хадзі, унучак, ка мне на пе́ліну.* Сасноўка, Слабада Глыб., Паташня Міёр.

ПЕ́ЛЬКІ *толькі мн.* Грудзі. *Цісне мне ў пе́льках дужа.* Астроўна Беш. *Не хадзі па марозу з голымі пе́лькамі, а зашпіліся.* Падрукша Брасл., Барсукі Дубр., Галбея Паст., Астроўшчына Пол. ПЕ́ЛЬНІК *м.* Матыка, прылада для ручной апрацоўкі зямлі. *Пе́льнік свой забірай.* Дамашы Брасл. Параўн. *прапóльнік, прыжунóўка.*

ПЕ́ЛЮСЦІ *толькі мн.* Верхні край ночваў. *Вада ўся вылілася праз пе́люсці на падлогу.* Андрэева Гар.

ПЕЛЮХА́ *ж., зб.* 1. Апілкі, пілавінне. *Дровы пілілі, а пелюхý не прыбралі.* Гарэлькі Дубр. Параўн. *папілóўцы, пілавáнне, пілавíны.* 2. Пацяруха, пацёртае сена, салома. *Пелюхý запарыную свінням зімой даём.* Сураўні Шум. Параўн. *пóтрух.*

ПЕЛЯМБВІ́ЦА, ПЕЛЯНДВІ́ЦА гл. ПАЛАНДРЫ́ЦА

ПЕНДЗАЛЕ́ТЫ *мн.* Басаножкі, шлёпанцы. *Надзень во гэтыя пендзале́ты.* Паўазер'е Беш.

ПЕ́НКНЫ *прым.* Прыгожы. *Дзеўка пе́нкная.* Купчэлі Брасл. Параўн. *пахóжы.*

ПЁНТАК *м.* Пятніца. *У пёнтак свята вялікае.* Белішкі Паст.

ПЕ́НТУХ, ПЯНЦЮ́Х, ПЯТУ́Н *м.* Певень. *Вось гэты добры пе́нтух.* Серкавіцы Тал. *А сын у яе, як пянцю́х той: з кожным біцца гатоў.* Галбея Паст. *Пяту́н у мяне што нада, хоць часы не купляй.* Дрысвяты, Слабодка Брасл. *Пяту́н ужо глотку дзерыць.* Зачарэўе, Ніўнікі Міёр. *Пяту́н мой клюецца.* Гута Паст. Параўн. *пяю́н.*

ПЕ́НЦЮХ *м.* Прыдуркаваты чалавек. *Быў пе́нцюх пенцюхóм, але безадказный ва ўсім.* Богіна Брасл. Параўн. *паўглóвак, паўду́рак, паўшабэ́лак* у 2 знач., *пріты́рак, прыты́рак.*

ПЕ́ПЕЛКА *ж.* Попельніца. *Падай мне пе́пелку.* Сокарава Беш.

ПЕРААДПАЧЫ́ЦЬ *зак.* Адпачыць. *Заходзілі канбайнёры да нас, каб пераадпачы́ць у цяньку пад клёнам, як абед у іх быў.* Машканы Сен. Параўн. *перадóхнуць.*

ПЕРАБА́БІЦЬ *зак.* Перахрысціць. *Пераба́білі дзіця ў царкве.* Верамееўшчына Дубр.

ПЕРАБАРЛЯ́ЦЬ, ПЕРІБУРЛЯ́ЦЬ *зак.* Перамяшаць. *Перабарляў усю адзежу, а мне цяпер складваць.* Старое Сяло Уш. *Перібурляіць-перібурляіць ежу, а есь не хочыць.* Кулакова Віц., Канашы, Ноўка Гар.

ПЕРАБАРШЧЫ́ЦЬ *зак.* Зрабіць што-н. звыш меры. *Мусіць, ты ў кашы солі перабаршчы́ла.* Далёкія Брасл.

ПЕРАБІРА́НКА[1] *ж.* Саматканая коўдра. *Такія перабіра́нкі ў маладосці рабіла!* Латышы, Празарокі Глыб. *Змоладу ўсе дзеўкі перабіра́нкі ткалі.* Язна Міёр.

ПЕРАБІРА́НКА[2] *ж.* Пласт сена. *Перабіра́нка – гэта сена, калі яго пласціць граблямі. Спласціш і ў капу кладзеш.* Гарэлькі Дубр.

ПЕРАБЛУ́ТАЦЬ *зак.* Пераблытаць, перамяшаць, парушыўшы папярэдні парадак размяшчэння чаго-н. *Зноў ты ўсё мне пераблу́тала.* Урбаны Брасл., Мікалаёва Міёр.

ПЕРАБО́ЙКА, ПЕРАБО́РКА, ПІРЯБО́ЙКА *ж.*, ПЕРАБО́Р *м.* Сцяна, перагародка з дошак. *Калі перабо́йку ў хаце ўбіралі, гэту фотакартку знайшлі.* Вярхоўе Беш., Далёкія Брасл. *Перабо́йку два разы ў гэтым гаду клеіла.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Занькі, Матырына Леп., Спігальшчына Міёр., Сіўцы Паст. *Перабо́рка ў нас ужэ даўно тут.* Ларынаўка Арш., Ула Беш., Грынеўшчына Докш., Расоны, Сяляўшчына Рас. *Перад свадзьбай усе перабо́ркі разабралі.* Абольцы Тал. *Пірябо́йку заўтра клеіць будзім.* Лужасна Віц. *Во танцуюць, аж пірябо́йка шатаіцца.* Канашы Гар. *Калі сын адыходзіў у армію, перабо́р паставілі.* Ула Беш. Параўн. *перасце́нак.*

ПЕРАБО́РА *аг., неадабр.* Пераборлівы, капрызны чалавек. *Усё не так гэтай перабо́ры!* Паліцы Беш., Сабалі Чаш.

ПЕРАБРА́НКА *ж.* Хвароба, прастуда, якая суправаджаецца кашлем. *Змучыла перабра́нка – ужо сіл ніякіх нет.* Слабада Глыб.

ПЕРАБУ́КНУЦЦА *зак.* Кульнуцца, перакуліцца. *Глядзі, каб малы не перабу́кнуўся.* Парфенаўка Дубр.

ПЕРАВЕ́СЛА, ПЕРАВЯСЛО́, ПІРІВЯСЛО́, ПЯРЭ́ВІСЛА, ПЯРЭ́ВЯСЛА, ПЯРЭ́МЕСЛА, ПЯРЭ́МІСЛА *н.* 1. Перавясла, жгут (часцей з сена ці саломы) для звязвання нейкіх прадметаў ці рэчаў. *Переве́сла парвалася.* Кушлікі Пол. *Перавясло́м сноп абвізала.* Малыя Лётцы Віц., Мікіціха Шум. *Пірівясло́ з сена здзелаю.* Канашы Гар. *І куды гэта пярэ́вісла падзелася?* Шалашнікі Рас. Параўн. *пе́рвязень.* 2. Ручка ў вядры. *О, якое ты добрае зрабіў пярэ́вясла!* Янкішкі Паст. *Пірівясло́ руку нацёрла.* Кулакова Віц. *Пірівясло́ ў відре зламалась.* Казловічы Гар. *Пярэ́вісла прагнулася ад такой цяжасці.* Сарочына Уш. *Пакуль бульбу з поля несла, пярэ́вісла мазалёў нарабіла.* Пятровічы Шарк. *Ручку ў вядры называюць пярэ́меслам.* Сухавержжа Міёр. *Пярэ́місла пагнулася.* Янкавічы Рас.

ПЕРАВІ́ДЗІЦЦА *зак.* Убачыцца, сустрэцца. *Як добра, што пераві́дзіліся з табой, а то ўсё па целефону.* Марцінава В.-Дзв.

ПЕРАВЕ́СЦІ, ПЕРАВІ́ЦЬ *зак., экспр.* Ударыць, прычыніць боль, нанёсшы ўдар. *Бацька як паравёў мне за гэта кнутом, аж след во застаўся.* Лашукі Паст., Фарынава Пол. *Пераві́ў ён табе добра, што чуць ідзеш.* Вяцера Чаш. Параўн. *пялёхнуць, плёснуць, пя́рнуць.*

ПЕРАВУ́ЗІНА *ж.* Месца, дзе звужаецца возера і яго можна перайсці ўброд. *Праз перавýзіну тут можна возера перайсці.* Лісна В.-Дзв.

ПЕРАВЯ́ЗІСТЫ *прым.* Стройны, з тонкай таліяй (пра фігуру). *Ты са сваёй перавя́зістай фігурай любога звядзеш.* Мікіціха Шум. Параўн. *перахі́льны.*

ПЕРАВЯСЛО́ гл. ПЕРАВЕ́СЛА

ПЕРАГАВАРЫ́ЦЬ *зак.* Паўтарыць, сказаць яшчэ раз. *Перагаварыць табе дзвенаццаць раз трэба, толькі тады і зробіш.* Аколіца Брасл.

ПЕРАГАВО́РШЧЫК *м.* Перакладчык. *На ўсю вёску быў тады адзін перагавóршчык.* Крыпулі Докш., Узмёны Міёр., Еўлахі Тал.

ПЕРАГЛЯДА́ЦЬ *незак.* Падглядаць, выбіраць мёд у пчол. *Пара ўжо пчол перагляда́ць.* Кушняроўка Чаш.

ПЕРАГНА́ЦЬ *зак.* Аддзяліць вяршкі ад малака пры дапамозе сепаратара. *Перагані́ малако: на смятану хачу паставіць.* Чарнія Пол.

ПЕРАДКАВА́ЦЦА *незак.* Замінаць, перашкаджаць выконваць якую-н. работу. *Ніякай работы няма ў хаце: дзеці перадкýюцца, што за імі зробіш.* Ліпаўкі Докш.

ПЕРАДКАВА́ЦЬ *незак.* 1. Блытацца пад нагамі, забягаючы наперад. *Не перадкýй ты мне. Дай прайду.* Сахнавічы Глыб. Параўн. *пла́тацца, плýтацца, плута́цца* ў 2 знач. 2. Замінаць рабіць што-н. *Зноў прыйшла мне перадкава́ць, сядзь на лаўку і сядзі.* Воўкаўшчына Міёр.

ПЕРАДО́К, ПІРЯДО́К, *памянш.* ПЕРАДО́ЧАК *м.* 1. Пярэдняе кола веласіпеда, матацыкла і інш. *Перадóк у веласіпедзе прабіў.* Чарневічы Глыб. *Пірядóк нада здзелаць, каб ехаць у дарогу надзёжна.* Даўгаполле, Канашы Гар. 2. Веласіпедная рама; пярэдняя частка веласіпеда. *На пірядóк садзіся – падвязу к магазіну.* Доўжа Віц. *Гляжу, аж на пірядкý майго мужыка п'янага візець.* Вярэчча Гар. 3. Зэдлік, услончык. *Гэты перадóк яшчэ мой дзед рабіў.* Слабада Пол. *На перадóк прысядзь.* Замошша Тал. *Як іду палоць у гарод, перадóчак з сабой бяру.* Быцава, Вярхоўе, Заполле Беш., Баршчоўка Віц., Вярэчча Гар., Задоры Леп., Сушына Пол., Белая Ліпа, Капланы, Ульянавічы Сен., Лазы, Нізкі Гарадзец Тал., Кулінава Уш., Асташова, Кажары, Плаўнік, Сабалі, Куціна Шум. *Дзед мой усю зіму на перадóчку каля печы сядзеў.* Коравічы, Шаўкоўшчына Чаш. 4. Прыстасаванне для сядзення, лаўка перад домам. *Кожны год перадóк,*

*што каля дома, падкрашываць нада.* Замачак Чаш. *Бывала, суседкі збяруцца і пасядуць у нас на пірядкý.* Плісы Беш.

ПЕРАДÓХНУЦЬ *зак.* Адпачыць, зрабіць кароткачасовы адпачынак. *Перадóхнем трошку – і далей у дарогу.* Гаршчэўшчына Тал. Параўн. *пераадпачыць.*

ПЕРАДÓЧАК гл. ПЕРАДÓК

ПЕРАЖÁБІЦЦА *зак.* Перагнуцца, звесіцца. *Бярозка зусім пераж́абілася праз плот.* Белая Ліпа Сен.

ПЕРАЖАРГÁЦЬ, ПЕРАЖАРГНÝЦЬ, ПЕРАЖЫРГНÝЦЬ *зак.* Пераскочыць ці пераступіць праз што-н. *Ляжала драціна, я пераж́аргаў яе і далей пайшоў, а малая зачапілася.* Ясюкі Паст. *Пераж́аргнýў лужыну.* Купчэлі Брасл., Стралкі В.-Дзв. *Ён мігам пераж́ыргнýў праз плот і пабег к лесу.* Лісна, Стралкі В.-Дзв.

ПЕРАЖЫГНÝЦЦА *зак.* Перахрысціцца. *Каб вывесці дзічы ўсякія, нада на захадзе сонца ісці на могілкі, пераж́ыгнýцца і пацерці дзічы зямлёй з магілкі.* Дунілавічы Паст.

ПЕРАЖЫРГНÝЦЬ гл. ПЕРАЖАРГÁЦЬ

ПЕРАЖЫ́ТАК *м.* Перажыванне, псіхічны стан чалавека, для якога характэрны непрыемныя адчуванні, прадчуванні, пачуцці. *Маці забалела дужа ад пераж́ытку за сына: не ўдавалася яму ў жыцці.* Слабада Пол.

ПÉРАЗ *прыназ.* Цераз (пры назвах прадметаў, праз якія хто-н. праходзіць, пранікае). *Перакінь пéраз плот.* Беразіно Докш.

ПЕРАЗÍМАК *м.* Пярэзімак, свойская жывёла мінулагодняга прыплоду (звычайна пра цялят). *Перазíмка свайго будзем у калгас здаваць.* Межава Арш., Бешанковічы, Жалезкі Беш., Слабодка Брасл., Лялеўшчына Гар., Леснікі Глыб., Драгуны Міёр., Муляры Паст., Буеўшчына, Мішуты Шарк.

ПЕРАЗÓЎ *м.*, ПЯРЭ́ЗВА *ж.*, *часцей* ПЕРАЗÓВЫ, ПЕРАЗÓЎКІ, ПЕРАЗЫ́ЎКІ, ПЯРЭ́ЗАЎКІ, ПЯРЭ́ЗВЫ *мн., абрад.* Заключны этап вясельнага абраду, калі бацькі маладой пасля вяселля прыязджаюць у госці да сватоў. *А ў нас сягодні перазóў, сам Бог дарожку перайшоў.* Камоскі Беш. *І на пярэ́зву грошы трэба: хачу, каб усё было, як у людзей.* Шыліна Шум. *Ездзілі на перазóвы ўчора.* Пугачова Докш., Задоры Шум. *У перазóўкі да сватоў ездзілі.* Котава, Хайсы Віц., Выдрэя Лёзн., Вялікая Вядрэнь, Падрэзы, Пачаевічы Чаш. *На пераз́ыўкі паедзім у суботу.* Грынеўшчына Докш., Клясціцы, Сяляўшчына Рас., Лужкі Шарк. *Пярэ́заўкі абычна ў тыдзень пасля вяселля бываюць.* Порплішча Докш., Багушэўск, Выгада Сен. *Пасля пярэ́зваў маладая да мужа жыць пайшла.* Шыці Шарк.

ПЕРАКАВЫ́ *прым.* Папярочны. *А з таго боку баразны другія, называюцца перакав́ыя.* Вялікае Сяло В.-Дзв., Гарэлькі Дубр.

ПЕРАКВІТШЫ *дзеепрым.* Пераспелы. *Боб рана садзіла, дык ён ужо, канешне, пераквітшы.* Струста Брасл.

ПЕРАКІНЧЫК *м.* Здраднік, той, хто перайшоў на бок ворага. *І сярод нашых у вайну перакінчыкі былі.* Замошша Тал.

ПЕРАКОМКАЦЬ *зак.* Памыць адзенне. *Сёння сёе-тое перакомкала.* Надазер'е Глыб.

ПЕРАКРУЦЕНЬ *м., міф.* Ваўкалак. *Матка нам, каб спалі, расказывала пра перакруценя, які ноччу ходзіць і дзяцёнкаў хватаіць.* Язна Міёр. Параўн. *пожык.*

ПЕРАЛАГІ *толькі мн.* Перакаты; няроўная, з лажбінамі і ўзгоркамі паверхня зямлі. *Паміж Доўгім возерам і Псуя такія пералагі.* Псуя Глыб.

ПЕРАЛАЗ *м., абрад.* Улазіны, наваселле. *А ўжо на пералаз хто што прыносіць: агуркі салёныя, сала, бульбу.* Літусава Сен.

ПЕРАЛЕСКА *ж.* Пралеска. *Пералескі за хатай адцвілі ўжэ.* Лялеўшчына Гар. Параўн. *пярвёснік.*

ПЕРАЛІСЦІЦЬ *зак.* Перагарнуць (старонку). *Пералісці старонку, там пра наш калгас напісалі.* Еўлахі Тал.

ПЕРАМЕШКА *ж.* Перашкода. *Кожны дзень нейкія перамешкі, а трэба працу ўжо скончыць.* Фарынава Пол.

ПЕРАМОЦІНА *ж.* Перакручаныя ў працэсе прадзення ніткі. *Перамоціну зрабіла была, а мама мяне не ругала.* Белая Ліпа Сен.

ПЕРАНЕРВАВАЦЦА *зак.* Знервавацца. *Паранервавалася з-за цябе дужа.* Купчэлі Брасл.

ПЕРАМЯНІЦЦА *зак.* Пераапрануцца, змяніць адзежу. *Адзежы з вайны было мала, перамяніцца не было ў што.* Бугаі Сен. *Нада ж перамяніцца пасля мыцця.* Лужкі Шарк.

ПЕРАМЯНТЭЖЫЦЬ *зак.* Збянтэжыць, збіць з толку. *Дзядзька тады мяне перамянтэжыў.* Казяны Брасл.

ПЕРАНКА *ж.* Кавалак сала для змазвання патэльні, падмазка. *Перанку трэба новую шукаць.* Германавічы Шарк. Параўн. *падціркa, памазок, подмаз, помазка.*

ПЕРАНОСНІЦА *ж.* Пераноссе. *Нешта пераносніца чэшацца – мусіць, нехта памрэ.* Камаі Паст.

ПЕРАНОСНЫ *прым.* Пра чалавека, які пляткарыць, пераносіць плёткі. *Якая ж яна пераносная баба!* Груздава, Казлоўшчына Паст.

ПЕРАПАЛ *м.* Сварка. *Сёння зноў быў перапал з суседкай.* Грынеўшчына Докш., Сяляўшчына Рас., Задоры Шум.

ПЕРАПЕЧКА[1] *ж.* 1. Піражок, булачка з начынкай. *Парачку перапечак перад школай з'еш хоць.* Ласі Глыб., Расходна Сен. Параўн. *плюшка[2], пухлік, пыжык.* 2. *перан.* Тоўстая дзяўчына ці жанчына. *Во ідзе перапечка, зноў каўбасу з магазіна цягне.* Светачоўка Арш., Дварэц Чаш. Параўн. *пражорліца, пуздракоўна.*

ПЕРАПЕ́ЧКА[2] *жс.* Клякса. *Маткі, бывала, дужа баяліся, дык там, дзе перапе́чкі ў каго былі, аж да дырак сціралі.* Лужкі Шарк.

ПЕРАПЛО́Т *м.* Курасадня, седала. *Курыца адна заскочыць на пераплót ніяк не можа, дык, думаю, падсаджу.* Калышкі Лёзн.

ПЕРАПРО́С *м.* Прабачэнне. *З перапро́сам унучка прыходзіла.* Фарынава Пол.

ПЕРАПУШЫ́ЦЬ *зак.* Ачысціць зерне ад смецця, пустазелля. *Ячмень перапушы́м – тады можна і ў аруду сыпаць.* Азярцы Глыб.

ПЕРАПЫ́Х *м.* Перадышка, кароткачасовы адпачынак. *Хопіць капаць. Можа, перапы́х зробім?* Алексінічы Сен. Параўн. *піряды́х, прады́ха, пярэ́дых.*

ПЕРАПЫХНУ́ЦЬ *зак.* Перадыхнуць, зрабіць кароткі перапынак для адпачынку. *Пайду трохі перапыхну́, дыхаць цяжка.* Князі Віц.

ПЕРАРВА́ЦЦА, ПІРІРВА́ЦЦА *зак.* Перапрацавацца. *На рабоце ён не перарве́цца ніколі.* Нурава В.-Дзв. *Дачка ейная ніколі не пірірва́лася робіўшы.* Кулакова Віц.

ПЕРАРВА́ЦЬ *зак., перан.* Перасячы, перабегчы (дарогу). *Перарва́лі дарогу адным махам – і ў кусты.* Міхалова Чаш.

ПЕРАРУ́Б *м.* 1. Зробленая з бярвёнаў сцяна ў хаце ці гаспадарчай пабудове, якая раздзяляе яе на дзве часткі. *Разряшыце станцаваць, разряшыце стопнуць. А няўжэлі ж у етай хаці перару́бы лопнуць?* (з песні). Азёркі Гар. *Лазня з прылазнікам раздзяляюцца перару́бам.* Чаромхава Шарк. 2. Зроблены з бярвення мост. *Па гэтым перару́бу страшна хадзіць.* Дубішча Беш.

ПЕРАСМІ́ХВАЦЬ, ПІРЯСМІ́ХІВАЦЬ *незак.* Іранізаваць; пацяшацца, кпіць з каго-н. *А перасмі́хваць мяне не трэба.* Нярэйша Сен. *Хваціць міне ўжэ пірясміхі́ваць.* Канашы Гар.

ПЕРАСО́ЎКА *жс.* Край стала. *Абрус сцягнулі аж да перасо́ўкі.* Пралетарыя Уш.

ПЕРАСТО́Й *м., зб.* Сухастой. *За гародам адзін перасто́й.* Варашылы Сен.

ПЕРАСТРЭ́ЦЬ *зак.* Прыпыніць на дарозе. *Спяшалася я тады моцна, а суседка перастрэ́ла мяне.* Верамееўшчына Дубр.

ПЕРАСУ́ДАК *м.* Нагавор, паклёп, плётка. *Пра яго такі перасу́дак быў, што немцам служыў.* Баева Дубр.

ПЕРАСЦЕ́НАК *м.* Сцяна, перагародка ў памяшканні. *Перасце́нкі ў хляву зрабілі тоненькія.* Вымна Віц. Параўн. *перабо́йка, перабо́р, перабо́рка, пірябо́йка.*

ПЕРАСЯ́ДКА *жс.* Перасадка. *Каб дадому даехаць, адну перася́дку нада зрабіць.* Шантары Докш., Сасноўцы Шарк.

ПЕРАТО́МА *жс.* Стомленасць. *Нешта галава баліць, ці ад нерваў ці перато́мы.* Паліцы Беш.

ПЕРАХІ́ЛЬНЫ *прым.* Гнуткі, стройны (пра стан, фігуру). *Такая ты ўжо перахі́льная, ветрам пераломіць.* Цаўі Шум. Параўн. *перавя́зісты.*

ПЕРАХЛЯБНУ́ЦЬ *зак.* Прамокнуць наскрозь (ад дажджу). *Прыйшлі мае грыбнікі, перахлябну́лі так, аж грыбоў тых не хацелася.* Камаі Паст.

ПЕРАЦА́ЦКАЦЬ *зак.* Перарабіць, перапусціць. *Бабская работа за работу не пойдзе, а колькі яна пераца́цкае праз свае рукі.* Дунілавічы Паст.

ПЕРАЦМО́КВАЦЦА *незак.* Змяняцца, набываць іншы выгляд. *Вёска наша пасля вайны перацмо́квацца пачала.* Андрэеўшчына Арш.

ПЕРАЦЭ́ПНУЦЦА *зак.* Пераміргнуцца. *Я бачыла, як яны перацэ́пнуліся.* Латышы Глыб.

ПЕ́РВА, ПЕ́РШУ *прысл.* Спачатку, спярша, у першую чаргу. *Пе́рва пойдзем на базар, а потым за білетамі.* Бігосава В.-Дзв. *Пе́рва рашчыняюць цеста.* Бокішава Шум. *Пе́ршу за стол у нас садзіўся бацька, а тады ўжо дзеці.* Галбея Паст.

ПЕ́РВАСІНКА, ПЕ́РВАСЦІНКА, ПЕРВАЦЕ́ЛКА *ж.*, ПЕРВАЦЁЛ *м.*, ПЕРВАЦЁЛКА, ПЕ́РВАЧКА, *памянш.* ПЕРВІ́СІНКА, ПЕ́РШАЧКА, ПІРСЯ́ВАЧКА, ПІРША́ЧКА, ПЯРВА́ЧКА, ПЯРВО́СТКА, ПЯРВО́СЦІЛКА, ПЯРВО́СЦІНКА, ПЯРВУ́СТКА, ПЯРВУ́СЦІНКА, ПЯРША́ЧКА *ж.* Першацёлка, карова, якая ацялілася ўпершыню. *Пе́рвасінку сабе купі.* Лялеўшчына Гар. *Такі ўжо добранькі бычок у маёй первасці́нкі.* Мар'янполле Брасл. *Наша Рагуля была первацёлкай.* Жабыкі Дубр. *У мяне первацёл, малака мала дае.* Леснікі Глыб., Ходараўка Сен. *У той год мы ўзялі первацёлку.* Сініцы Беш., Опса Брасл., Мазалава Віц., Лялеўшчына, Селішча Гар., Азярцы Глыб., Стараселле Леп., Стасева Лёзн., Алексінічы, Багушэўск, Будзішча, Малішы, Нямойта Сен., Галі, Далуева, Крывое Сяло, Навікі Шум. *Тая пе́рвачка была слабая пасля ацёла.* Замошша Сен. *У мяне перві́сінка і малака мала дае.* Грынеўшчына Докш., Сяляўшчына Рас. *Пе́ршачка мая ўжэ з усімі каровамі разам ходзіць у поле.* Бешанковічы Беш., Дзяйкі, Котава, Хайсы Віц., Бараны Глыб. *Зорка ў нас пе́ршачка.* Маргавіца Докш., Стараселле Леп., Выдрэя Лёзн., Арэхаўна Уш., Падрэзы Чаш. *Кароўку сабе пірся́вачку ў калгасе ўзялі.* Рубеж Брасл. *Наша пірша́чка мала малака давала.* Жалезкі Беш., Надазер'е Глыб. *Карову-пярва́чку купілі.* Бароўка, Боркавічы, Цясты В.-Дзв. *Дзве пярво́сткі на ўсё стада.* Доўжа Віц. *Карову нашу дужа цяжка падаіць: вядома ж, пярво́стка.* Сваташыцы Дубр. *Кароўка маладая, пярво́сцілка, дык малака мала дае.* Белая Ліпа Сен. *Летась карову зарезаць прішлось, жалка кароўку: пярво́сцінка.* Ноўка, Скрыпкі Гар. *А мы са стада калхознага сабе пярво́сцінку бралі.* Вялікае Сяло Сен. *Пярву́стка добрая, цялёначак харошанькі.* Межава

Арш. *Карова ў іх – пярвўсцінка.* Мазалава Віц., Віраўля Гар., Мішкавічы Шум. *Карова мая – пяршáчка, дык прыходзіцца і абедам даіць.* Бортнікі, Галубчыкі, Завараты, Папшычы Глыб. *Мая пяршáчка другі дзень, як ацялілася.* Пугачова Докш. *Пяршáчка мая ў хляве стаіць.* Балаі, Павяцце Міёр. *Карова ў мяне пяршáчка, з першым целюком.* Варапаева, Муляры Паст. *Адны пяршáчкі ў кароўніку.* Зорка Шарк.

ПЕРВАЦЁЛАК *м.* Цяля ад першага ацёлу. *Ладны ўжо первацёлак, акрэп.* Багушэўск Сен.

ПЕРВАЦЁЛКА гл. ПÉРВАСІНКА

ПЕРВАЦÍНА, ПЕРШАВÍНА, ПЕРШЫНÁ, ПЯРВÍНА *ж.* Сена першага ўкосу. *Усю первацíну мы ўжо высушылі і ў пуню склалі.* Дрысвяты, Укля Брасл. *Першавíны мала ў гэтым годзе.* Дубрава Шум. *Першынў скасілі ў пятніцу.* Ластавічы Глыб. *Пярвíна сыраватая яшчэ, каб у пуню класці.* Заазер'е Гар., Папшулі Міёр., Масоры, Нямойта Сен., Селішча Уш. Параўн. *пяршáк* у 1 знач.

ПÉРВАЧКА, ПЕРВÍСІНКА гл. ПÉРВАСІНКА

ПÉРВЯЗЕНЬ *м.* Перавясла. *І пéрвязень скруціць умець нада.* Барсукі Дубр. Параўн. *перавéсла, перавясло́, пярэ́вісла* ў 1 знач.

ПЕРВЯНÉЦ *м.* Першынец. *Ён жа ў вас первянéц.* Арэхаўск Арш.

ПÉРГА *ж., пчал.* Пярга, кветкавы пылок, сабраны і складзены пчоламі ў соты. *Пчолы нанасілі пéргі ў соты.* Верамееўшчына Дубр.

ПÉРЕЙКА *н., зб., памянш.* Пер'е. *Абскубала пéрейка.* Чаромхава Шарк.

ПЕРІБУРЛЯ́ЦЬ гл. ПЕРАБАРЛЯ́ЦЬ

ПÉРНІК *м.* Нáсыпка. *Увесь пéрнік парваўся – пер'е сыпецца.* Бігосава В.-Дзв.

ПÉРСЦІ *толькі мн.* Грудзі, пярэдняя частка тулава ад шыі да жывата. *Конь здаровы, толькі пахаць на ім: глянь, якія пéрсці.* Вядзерава Беш., Моханава В.-Дзв.

ПЕРСЬ *м.* Пярсцёнак. *Раней такіх пéрсяў залатых не было.* Кутняны Пол., Матырына Уш.

ПЕРУНÓЦЦЕ *н.* Навальніца. *Ноччу, бываець, і блішчыць усё, і грукаець – такое перунóцце!* Шаркаўшчына.

ПЕРХÉКАЦЬ, ПІРХÉКАЦЬ, ПЯРХÉКАЦЬ *незак.* Кашляць, перхаць. *Цэлы дзень перхаю.* Марачкова Рас. *Перхéкаеш ад таго, што курыць зноў пачаў.* Пішчалава Арш. *Перхéкаіш – на вуліцу не пушчу.* Задзетуні, Пунішча Віц. *Пірхéкаць – гэта ў яго хранічна.* Барздоўка Арш. *Сын нешта мой пірхéкаіць – таблеткі нада купляць.* Мазалава Віц. *Прастудзіцца ў школе, а тады давай пірхéкаць усю ноч.* Канашы Гар. *Стары мой пярхéкаць нешта стаў.* Навумаўка Беш. *Пачала пярхéкаць я з учарашняга: прастудзілася, відаць, на рабоце.*

Грынеўшчына Докш. *А чаго гэта ты пярхе́каеш? Прастыў?* Гудава Зямянскае Дубр. *Хопіць табе ўжо пярхе́каць, ідзі лячыся.* Старое Лядна Леп. *На, папей чаю з мёдам, усю ноч пярхе́каў, спаць не даваў.* Жары Рас. Параўн. *пя́рыць* у 3 знач.

ПЕРШАВІ́НА гл. ПЕРВАЦІ́НА

ПЕРШАЖАРО́БКА *ж.* Кабыла, якая першы раз ажарабілася. *У нас тады першажаро́бка пад вясну жарабілася.* Малішы Сен.

ПЕ́РШАЧКА гл. ПЕ́РВАСІНКА

ПЕРШАЧО́К *м., памянш.* Пяршак, першая самагонка, якая атрымліваецца ў працэсе яе вырабу. *Першачо́к крэпкі ўдаўся.* Дэмскія Міёр.

ПЕ́РШУ гл. ПЕ́РВА

ПЕ́РШЫ *м., абрад.* Шафер, удзельнік вясельнага абраду. *Брат ягоны на вяселлі быў за пе́ршага.* Мікіціха Шум. Параўн. *паджані́шнік, пыта́нішнік.*

○ ПЕ́РШЫ АДДЗЕ́Л *м.* Першы клас. *Меншая ў іх яшчэ толькі ў пе́ршы аддзе́л ходзіць.* Мурмішкі Брасл.

ПЕРШЫНА́ гл. ПЕРВАЦІ́НА

ПЕ́РЫЦЬ, ПІРЫ́ЦЬ, ПЯРІ́ЦЬ, ПЯ́РЫЦЬ, ПЯРЫ́ЦЬ *незак., экспр.* 1. Моцна біць, лупцаваць, наносіць удары каму-н. ці па чым-н. *Гляджу, аж ён пе́рыць курыцу з усёй сілы нагой.* Алексінічы Сен. *Сатканае трэба было яшчэ піры́ць і мачыць.* Белая Ліпа Сен. *А ён давай нагой са злосці пяры́ць курыцу ні за што.* Канашы Гар. *Бацька, як жывы быў, часта пя́рыў яго, а цяпер во некаму.* Бярозаўка Докш. *Яна тую вужаку пя́рыла, пакуль не забіла.* Быцава Беш., Мосар, Празарокі Глыб., Германавічы Шарк. *Пяры́ў ён жонку сваю першую – казалі людзі – за гарэлку: піла яна дужа.* Макаравічы Докш. *Мост у нас тут новы робяць, дык пя́рацъ так, што ў хаце чуваць.* Галбея Паст. Параўн. *пра́таць* у 1 знач., *пэ́тлашыць.* 2. Выбіваць бялізну пранікам у працэсе яе мыцця. *Раней у рацэ пе́рыла бялізну.* Андрэева Гар. *Даўней у нас казалі "пя́рыць адзежу", а цяпер гавораць "біць".* Воўкаўшчына Глыб. 3. Кашляць, пераносіць прыступ кашлю. *Кашаль яго ноч цэлую пя́рыў.* Латышы, Чарневічы Глыб. Параўн. *перхе́каць, пірхе́каць, пярхе́каць.*

ПЕ́САК, ПЭС *м.* Сабака. *Ну, як твой пе́сак, на паляванні быў?* Дрысвяты Брасл. *Пэс вас не чапаў, як ішлі?* Сцяпанавічы Гар. Параўн. *пся́ра.*

ПЕСКАВІ́ЦА *ж.* Пясчаны бераг возера ці ракі. *На пескаві́цы валяюцца, як свінні.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПЕСТА́Н *м.* Таўкач, кароткая прылада з патоўшчаным круглым канцом, якой таўкуць што-н. *Вазьмі песта́н ды бульбу патаўчы – снедаць будзім.* Ваяводкі Віц.

ПЁСТРЫ *прым.* Газіраваны. *Смага дужа мучыла, дык мы з дзедам пёстрай у магазіне купілі.* Лукаўцы Пол.

○ ПЁСТРАЯ ВАДА *ж.* Газіроўка, газіраваны напой. *Налій мне пёстрай вады трошку ў стакан.* Пашкі Пол.

ПЕ́СТУН *м.*, ПЕ́СЦЯ, ПЯСТО́ТА *аг.*, ПЯСТУ́ШКА *ж.*, ПЯСЧО́НІК *м., неадабр.* Пястун, распешчаны чалавек (звычайна пра дзіця). *Як гэта яна аддала ў садзік свайго малога, ён жа такі пе́стун у яе!* Сабалі Чаш. *Ну пе́сця: увесь дзень адно салодкае ясі!* Дроздава Тал. *Як дзіця ў сабе носіш, то есці, ходзячы, забараняецца, а то дзіця пясто́тай вырасце.* Варапаева, Вярцінскія, Гута, Турлы Паст. *Пясту́шку сабе выгадавала, нічога рабіць ёй не давала па дому.* Янкі Докш. *Такога пясчо́ніка, як ён, свет не відзеў.* Шарагі Міёр.

ПЕ́ТАВАЦЦА *незак.* Многа і цяжка працаваць, шчыраваць. *Усё жыццё яна пе́туецца з ранку да ночы, а шчасця няма.* Сакольнікі Віц., Лучна, Труды Пол.

ПЕТЛЯВА́НІКІ *мн.* Тонкія бліны з пытляванай мукі. *На дарогу з сабой узялі петлява́нікаў.* Зорка Шарк.

ПЕТЛЯВА́НЫ *прым.* Пытляваны. *Хлеб з мукі петлява́най.* Гатаўшчына Глыб.

ПЕТЛЯВА́ЦЬ *незак.* Пытляваць. *Петлява́лі муку ржаную, а тады хлеб робілі.* Каленкішкі Брасл.

ПЕТНАСТО́ЎКА, ПЕТНАЦО́ЎКА, ПЯТНА́СТКА, ПЯТНАСТО́ЎКА, ПЯТНО́СТАЎКА *ж., экспр* 1. Дзяўчына-падлетак ва ўзросце пятнаццаці гадоў. *Петнасто́ўкі за рукі ўзяліся і бягуць.* Баяры Чаш. *Пятна́сткі во нашы бягуць.* Белішкі Паст. *Дзяўчынкі-пятнасто́ўкі сабраліся і круцяцца каля клуба.* Яроненкі Гар. Параўн. *падчачу́рка, пасіка́ўка, плігаўка.* 2. *асудж.* Пра жанчыну, якая маладзіцца, прымае захады, прыкладае ўсе намаганні, каб молада выглядзець. *Петнасто́ўка знайшлася, на танцы ёй загарэлася!* Замачак Чаш. *Петнацо́ўку з сябе строіць!* Іванск Чаш. *Ты выглядаеш, як пятна́стка тая.* Белішкі Паст. *Пятно́стаўка знайшлася такая – бач, на танцы пайшла б ужо.* Сабалі Чаш.

○ПЁТРА-ПА́ЎЛА *ж.* Божая кароўка. *А кароўка ў нас называецца "пётра-па́ўлай".* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *пе́трык*[2].

ПЕ́ТРІЦЬ, ПЕ́ТРЫЦЬ *незак., экспр.* Разумець, keміць. *Пе́тріць нада.* Езярышча Гар. *Нічога ты не пе́трыш у гэтым дзеле.* Навасёлкі Паст. *А ён петрыць у гэтай справе, і мне памог.* Янкавічы Рас., Дварэц Чаш.

ПЕ́ТРЫК[1] *м.* Пстрычка. *Малыя надавалі адзін аднаму пе́трыкаў у лоб.* Галубава В.-Дзв.

ПЕ́ТРЫК[2] *м.* Божая кароўка. *Колькі ў пе́трыка пятнышак, столькі ў яго і дзетак.* Панізоўе Арш. Параўн. ○ *пётра-па́ўла.*

ПЕ́ТРЫЦЬ гл. ПЕ́ТРІЦЬ

ПЕТУШО́К *м.* Адкрыты, без даху трактар. *У майго дзеда свой петушо́к: сабраў грошай і купіў.* Буда Дубр. Параўн. *пучо́к, пыхцік.*

○ ПЕ́ЎНАЕ Я́ЙКА *н.* Аплодненае яйка. *Тыя яйкі ўсе пе́ўныя.* Замошша Сен.

ПЕ́ЎНЫ *прым.* Пра насенне, якое добра прарастае і дае багаты ўраджай. *Я сама загатаўліваю насенне, можа таму амаль усё пе́ўнае.* Уздорнікі Сен.

ПЕ́ХАМ, ПЕХАЦО́Й, ПЕ́ШАКІ, ПЕ́ШАМ, ПЕ́ШКА, ПЕ́ШЧУ, ПЁХАМ, ПІХАТО́Й *прысл.* Пехатой, пешшу. *Ішоў пе́хам з аўтобуса.* Міцькаўшчына Арш. *Пехацо́й з самага Мінска беглі.* Гастынічы Тал. *За тры вярсты пе́шакі хадзілі.* Высачаны Лёзн. *Пе́шам да суседняй вёскі я ўжо не дайду.* Обаль Шум. *Не пайду я пе́шка.* Ушачы Уш. *Раней у горад пе́шчу хадзілі ягады прадаваць.* Булаўкі Пол. *Пёхам ісці далёка, лепей аўтобусам.* Галубава В.-Дзв. *Са школы заўсёды піхато́й хадзілі.* Фарынава Пол.

ПЕ́ЦКА *ж.* Печка. *Пе́цка мая зусім зімой не грэе, два разы на дзень тапіць трэба.* Хвошна Гар., Адаменкі Лёзн.

ПЕ́ЧАВА *н., толькі адз.* Печыва, адна выпечка хлеба. *Я ўжо пе́чава дастала.* Бугаі Сен.

ПЕЧАВА́ЦЬ *незак.* Працаваць. *А я там восем гадоў печава́ла.* Барсукі Арш. Параўн. *пінава́ць, піхто́ліць.*

ПЕЧАНЁЎКА, ПІЧАНЁЎКА *ж.* Вантрабянка, дамашняя каўбаса з вантробаў або печані. *З парсючка печанёвак шмат нарабілі.* Залессе, Ласі Глыб., Тумілавічы Докш., Белаазёрны, Велеўшчына, Забалацце Леп., Галбея Паст., Іванск, Коравічы, Красніца Чаш. *Як парсюка зарэзалі, пічанёўкі многа накруціла.* Празарокі Глыб. *Пічанёўку ў нас у сям'і ўсе любілі.* Шаркаўшчына. Параўн. *пха́наўка.*

ПЕЧАНІ́ *толькі мн.* Вантробы, у тым ліку і печань. *Печані́ ўсе скруцім і каўбас наробім.* Макаравічы Докш.

ПЕ́ЧАНІК *м.*, ПЕ́ЧАНКА *ж.* Спечаны яблык. *Сёння толькі пе́чанік з'ела.* Бычыха, Пшанічана Гар. *Пе́чанку вазьмі ды з'еш з сахарам.* Гарадок. *Дзеці пе́чанкі ядуць цэлы дзень.* Суша Леп., Бабінавічы Лёзн., Гараны, Фарынава Пол., Матырына Уш.

ПЕ́ЧАНЬ *м.* Печань. *Пе́чань забалеў.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЕ́ЧЫННЕ *н.* Выпяканне, прыгатаванне шляхам выпечкі. *Хлеб не пікла, не да пе́чыння было.* Езярышча Гар.

ПЕ́ШАКІ, ПЕ́ШАМ, ПЕ́ШКА, ПЕ́ШЧУ гл. ПЕ́ХАМ

ПЕЯ́ЦЬ, ПІЯ́ЦЬ, ПЯЯ́ЦЬ *незак.* Спяваць. *Нават і на працы пея́лі, як дзеўкамі былі.* Лужкі Шарк. *Пыталіся пра песні ў мяне, а ім пія́ла.* Ахрэмаўцы, Карасіна, Мар'янполле, Опса Брасл. *Мой мужык, як быў маладым, любіў пія́ць дужа.* Азернікі, Весніно В.-Дзв., Навікі Віц., Яроненкі Гар., Празарокі, Сахнавічы Глыб. *На танцах і плясалі, і пія́лі раней.* Ветахмо, Ліпаўкі Докш. *На свадзьбах пія́ла лучшы за ўсіх*

*баб.* Бяседы, Залучына, Суша Леп., Загарадна, Пушкі Лёзн. *Наша ўнучка і піяць, і танцаваць навучылась яшчэ ў садзіку.* Новы Пагост, Папшулі, Сухавержжа, Узмёны, Язна Міёр. *Піялі, бывала, як жыта жалі.* Галбея, Гута, Круткі, Прамышляды Паст. *На Каляды насілі звязду са свечкай, хадзілі і песні піялі.* Фарынава Пол., Бугаі, Нямойта Сен., Арэхаўна, Воцькавічы, Ляснеўшчына, Селішча Уш., Вяжоўка, Іванск Чаш., Альхоўцы, Верацеі, Савуткі Шарк., Ферма Шум. *На гулянцы піяць будзем.* Малыя Смалянцы, Тараскі Чаш. *Хадзілі на Каляды па хатах, піялі – весела было.* Лонск Шарк. *Тады ў нас усе піялі на дажынках.* Слабада Шум. *Я ж раней так пяяць любіла, а цяпер ужо голас не такі.* Мількі Брасл., Каханавічы, Чыстаполле В.-Дзв. *І сэрцу во пяяць хочацца, як у дзяцей добра ўсё.* Івесь, Лучайка, Нікалаёва, Чарневічы Глыб. *Пяяць пазней будзем, як работу паробім.* Слабада Докш., Ляды Дубр. *Любіла я пяяць у маладосці.* Гомель, Лучна Пол., Ваўчо Уш., Іванск Чаш.

ПЁХАМ гл. ПЁХАМ

ПІВО́Н, ПІЁН *м.*, ПІВО́НІЯ, ПІВО́ННЯ, ПІВО́НЬ, ПІВОНЬЯ, ПІО́НІЯ *ж., бат.* Півоня. *Піво́ны мне прынёс.* Бароўка, Іскра В.-Дзв. *Я вельмі люблю піёны, асабліва белыя.* Дзяйкі Віц., Дубрава Гар. *А назаўтра ўжо ні адной піво́ніі не было.* Вітунічы Докш., Ланенка Дубр., Вялікі Поўсвіж, Кветча Леп., Асташэва, Матушова, Перамонт, Слабадзішча Лёзн., Камянполле Міёр., Лукашова, Сіўцы Паст., Баяноўшчына, Кутняны, Фарынава Пол., Горы, Клясціцы, Паўлава Рас., Папкі Шарк. *Во якую піво́нію вецер заваліў.* Пасад, Ульянавічы Сен., Матырына Уш., Жданы, Запруддзе, Лужкі Шарк., Лескавічы Шум. *Люблю піво́нню, а таму і сажу ў палісадніку.* Барсукі Глыб., Клясціцы Рас. *Піво́нь уся палягла ад дажджу.* Бортнікі, Глыбокае, Латышы, Ломашы, Прыпернае, Шэпелева, Юркава Глыб. *Адны піво́ны саджу.* Барадуліна Арш. *Піо́нія расцвіла.* Лонск Шарк.

ПІГУ́ЛКА *ж.* Пілюля, таблетка. *Пігу́лак раней дужа не было – травамі разнымі лячыліся, як што забаліць.* Абаляны Брасл. *Выпіла пігу́лку – і галава перастала балець.* Квачы, Латышы, Лужкі, Лучайка, Папшычы, Празарокі, Сасноўка Глыб., Ветахмо, Макаравічы Докш., Скрунды Паст., Жданы, Шыці Шарк.

ПІЁН гл. ПІВО́Н

ПІЖМА́К, ПІЖНА́К *м.* Пінжак. *Чаму свой новы піжма́к не носіш?* Шыбекі Арш., Верамееўшчына Дубр. *Піжнак надзявай: холадна.* Варапаева Паст.

ПІЗУ́РАННЕ *н., экспр.* Музыка, песні, якія не падабаюцца. *Па целевізару адно пізу́ранне, глядзець нечага.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПІЗУ́РЫЦЬ *незак., экспр.* Іграць на музычным інструменце або спяваць. *Чаго я на тым канцэрце не чула, будуць валасацікі пізу́рыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *пілі́ць* у 1 знач.

ПІ́ЗЬМА *ж.* Лекавая расліна піжма, якая мае моцны пах і горкая на смак. *Дзеці назбіралі мне пі́зьмы.* Лужкі Шарк.

ПІ́КА *ж.* Доўгая вострая палка, якую ўтыкаюць зверху ў стог для ўмацавання сена. *Далёка відаць, як са стагоў пікі тырчаць.* Белая Ліпа Сен.

ПІКАВА́ЦЬ *незак.* Пікіраваць. *Пайду памідоры пікава́ць.* Варапаева Паст.

ПІКАНТУ́ХА *ж.* Брага, пітво дамашняга вырабу з хмелем і цукрам. *Піканту́хі так напіўся, што на нагах стаяць не мог.* Ахрэмаўцы Брасл.

ПІ́КАР *м.*, ПІКІ́ТА *ж.* Дзіцячая гульня, у працэсе якой удзельнікі па чарзе палкамі збіваюць пікер – кол, убіты ў зямлю. *Мы, бывала, як толькі вясна прыйдзе, цэлымі днямі ў пі́кара гулялі.* Псуя Глыб., Слабада Докш. *Ну, згуляем у пікі́ту?* Чарневічы Глыб.

ПІКА́СТЫ *прым.* З высокім верхам, высокі. *Бачыў салдат у піка́стых шапках.* Латышы Глыб.

ПІКЦЮ́К *м., неадабр.* Тоўсты чалавек. *Во ад'еўся за лета, пікцюк такі стаў!* Новае Сяло Сен. Параўн. *пі́хцер, пузга́н, пума́к.*

ПІЛАВА́ННЕ *н., зб.*, ПІЛАВІ́НЫ *мн.* Пілавінне, апілкі. *Пілава́нне зносілі за плот.* Стаі Леп. *Пілаві́ны не выкідвай.* Мілашкі Брасл., Янкішкі Паст., Падбярэззе Тал. Параўн. *папіло́ўцы, пелюха́* ў 1 знач.

ПІЛЕ́ПСІЯ *ж., мед.* Эпілепсія. *У цёткі маёй піле́псія была.* Белая Ліпа Сен., Альхоўцы Шарк.

ПІ́ЛІК *м.* Верабей. *А пілікі ўвесь мох з лазні павыцягвалі.* Ула Беш.

ПІЛІ́КАЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць, весці размовы. *Мы ўсю ноч пілі́калі пра ўсё на свеце, і спаць не хацелася.* Чыстаполле В.-Дзв.

ПІЛІМЁТ *м.* Кулямёт. *Пілімётаў тады многа было.* Жданова Беш.

ПІЛІНДРЫ́ЦА гл. ПАЛАНДРЫ́ЦА

ПІЛІ́ЦЬ *незак., экспр.* 1. Іграць на музычным інструменце. *Добра пілі́ў раней на гармошкі.* Езярышча Гар. Параўн. *пізу́рыць.* 2. *перан.* Паўтараць, гаварыць адно і тое ж. *А ён давай пілі́ць адно і тое сем разоў, быццам ніхто не знаіць.* Партызанаўка Віц. 3. *перан.* Даймаць, дапякаць, надакучваць просьбамі, бесперапыннымі папрокамі і прыдзіркамі. *Яна, гадаўка, яго ўсё жыццё пілі́ла, колькі жылі.* Доўжа Віц. *Жонка ўвесь вечар міне пілі́ла.* Вярэчча Гар.

ПІ́ЛКАЦЦА *незак.* Тузацца, штурхаць адзін аднаго. *За сталом пі́лкацца не трэба, ціха сядзіце і ешце.* Ліпаўкі Докш. Параўн. *піргаць.*

ПІЛО́ЎКА *ж.* Пілаванне, валка лесу пры дапамозе піл. *Яны гэтую піло́ўку ніколі не скончаць.* Лескавічы Шум.

ПІЛЬГУ́Й *м., асудж.* Скваліны чалавек. *Сусед наш дык пільгу́й пільгуём: снегу зімой не дапросішся.* Коравічы Чаш.

ПІ́ЛЬНА[1] *прысл.* Добра, старанна. *Дамашняе заданне трэба пі́льна рабіць, уважліва.* Клясціцы Рас.

ПІ́ЛЬНА[2] *прысл.* Вельмі, дужа. *Пі́льна прыгожая маладзіца была яе першая нявестка.* Казечкі Арш.

ПІ́ЛЬНА[3] *прысл.* Тэрмінова, неадкладна. *Ці пі́льна табе ехаць у горад нада?* Лужасна Віц., Канашы Гар. *Калі табе на работу пі́льна, дык ідзі, сама спраўлюся.* Шантары Докш., Прамышляды Паст., Селішча Уш.

ПІ́ЛЬНІЦА *ж.* 1. Гарачы час (касьбы, жніва і інш.). *Пі́льніца скора будзіць: усе на сена пойдзем.* Азёркі Гар. *Дык а як жа, пі́льніца: сена ўхапіць ад дажджу трэба.* Кавалі, Латышы Глыб., Варапаева, Слабада Паст. Параўн. *пуры́м.* 2. Спешка ў рабоце. *Як пі́льніца, дык тады і выходзіць абы-як.* Белая Ліпа Сен. *Што табе, пі́льніца палоць у свята?* Дзёрнавічы В.-Дзв., Більдзюгі, Папкі, Пашкі Шарк.

ПІЛЬЧА́К *м.* Кароткая верхняя вопратка пераважна з грубага даматканага сукна. *Пільча́к надзявай, як на двор выходзіш.* Дубы В.-Дзв., Сялец Чаш.

ПІЛЯ́ХАЦЬ *незак.* Пілаваць, распілоўваць. *Чым бярно піля́хаць будзім?* Заазер'е Сен.

ПІМО́ШКА *ж.* Кармавы гарох. *Сёлета пімо́шкі ў калгасе многа.* Смалоўка Сен.

ПІНАВА́ЦЬ *незак.* Шчыраваць, старанна працаваць. *Твой сын ужо зранку піну́е, а майго ж сілай не прымусіць.* Чарневічы Глыб. Параўн. *печава́ць, піхто́ліць.*

ПІНДЗЮ́РІЦЬ *незак., экспр.* Многа і прагна есці. *Яму суп ні нада – цэлый дзень калбасу піндзю́ріць.* Мазалава Віц. *Гляджу на яго: піндзю́ріць за дзве шчакі.* Канашы Гар.

ПІНДО́РЫ, ПІНДУ́РЫ *толькі мн.* Засаўка, рухомая металічная або драўляная планка на прабоях для запірання дзвярэй. *У майго бацькі ўсе дзверы былі на піндо́рах.* Белае Пол. *У іхняй калітцы дзверы і сёння на пінду́рах.* Верхняе, Чарневічы Глыб.

ПІНЧА́НКА *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Пінча́нку сваю нешта не знаходжу яшчэ з лета.* Сасноўка, Удзела Глыб. Параўн. *пухо́ўка, пянько́ўка.*

ПІНЭ́СКІ *мн.* Кнопкі. *Шпалеры адарваныя пакуль пінэ́скамі замацавала.* Муляры Паст.

ПІО́НІЯ гл. ПІВО́Н

ПІ́ПКА *ж.* Кончык носа. *Ён так хутка піў, аж пі́пку малаком замачыў.* Доўгае Глыб.

ПІРАЛЁТ *м.* Канюшына, якая цвіце кветкамі белага колеру. *Піралёт – гэта белы клевер, па руччах расцець.* Ясева Міёр.

ПІРГА́ЦЬ *незак.* Штурхаць. *Не пірга́йце, дзеці, малога.* Ясева Паст. Параўн. *пі́лкацца.*

ПІРІВЯСЛО́ гл. ПЕРАВЕ́СЛА

ПІРІРВА́ЦЦА гл. ПЕРАРВА́ЦЦА

ПІРСЯ́ВАЧКА гл. ПЕ́РВАСІНКА

ПІРУ́ШКА *ж.* Гулянка. *Шмат піру́шак у нас было.* Ульянаўка Беш. Параўн. *пагуля́нка, пагуля́нне.*

ПІРХЕ́КАЦЬ гл. ПЕРХЕ́КАЦЬ

ПІРЫСА́ДНІК *м.* Палісаднік, кветнік. *Пірыса́днік каля школы дзеткі кожны дзень паліваюць.* Міхалова Чаш.

ПІРЫ́ЦЬ гл. ПЕ́РЫЦЬ

ПІРЯБО́ЙКА гл. ПЕРАБО́ЙКА

ПІРЯГО́НКА *ж.* Перагон, малако, абястлушчанае на сепаратары. *А я піряго́нку стаўлю на тварог – тады ён няжырны палучаецца.* Кляўцы Лёзн.

ПІРЯДО́ЙКА, ПЯРЭ́ДАЙКА *ж.* Перадойка, ялавіца. *Пірядо́йкай у іх карова асталася, дык у калхоз здалі сёліта.* Канашы Гар., Лужасна Віц. *У нас сёлета пярэ́дайка.* Жалезкі Беш.

ПІРЯДО́К гл. ПЕРАДО́К

ПІРЯДЫ́Х, ПЯРЭ́ДЫХ *м.*, ПРАДЫ́ХА *ж.* Кароткачасовы адпачынак. *Без піряды́ху ягады сабіралі.* Кулакова Віц. *Нада пірядых зрабіць троху.* Вярэчча Гар. *Пярэ́дых зробім сабе пасля абеду.* Шыпы Глыб. *Дайце хоць пярэ́дыху трошкі, а то не дойдзем дадому.* Іванск Чаш. *Карову пасля ацёлу чатыры разы на дзень даіла, прады́хі ёй не давала.* Дабрамыслі Лёзн. Параўн. *перапы́х.*

ПІРЯСМІ́ХІВАЦЬ гл. ПЕРАСМІ́ХВАЦЬ

ПІСКАЛЁНАК, ПІСКЛЁНАК, ПІСКЛЮ́К, ПЯСКЛЮ́К *памянш.-ласк.* ПІСКЛЮЧО́К, ПІСКЛЯНЁНАК *м.*, ПІСКЛЯНЯ́ *н.*, *часцей* ПІСКАЛЯ́ТЫ, ПІСКІЛЯ́ТЫ, ПІСКЛЯНЯ́ТЫ, *памянш.-ласк.* ПІСКЛЯ́ТКІ, ПІСКЛЯ́ТЫ *мн.* Кураня. *Піскалёнак гэты зусім слабы.* Дубніцы Арш., Свяча Беш., Вярэчча Гар., Макаравічы Докш., Дуброўна. *Адзін пісклёнак толькі за лета здох у мяне.* Глыбокае. *Пісклёнак адзін некуды забег.* Анкуды Паст. *Глядзі, каб кот пісклёнка не схапіў, а то так і нацэльваецца.* Белая Ліпа Сен. *Адзін пісклёнак рабенькі папаўся, а астальныя белыя і чорныя.* Варанцэвічы Тал. *Адзін пісклёнак некуды прапаў.* Амбросавічы Шум. *Пісклю́кі маленькія былі.* Гарадок. *Палаві пісклюко́ў, а то ўжо вечар скора.* Латышы Глыб. *Які піскліо́к, такі і галасок.* Варапаева Паст. *Пясклю́к у цябе пекны, каб была курыца, дык падружыліся б яны.* Папшычы Глыб. *Піскключкі́ на сонца выбеглі, у зямлі капаюцца.* Царкавішча Уш. *Пісклянёнка кот сцягнуў.* Слабада, Станіслававе Дубр., Слабодка Леп. *Піскаля́ты мае любыя!* Зуі, Міхалінава Лёзн., Дзянісава Міёр., Вярэнькі, Галбея, Гута, Казлоўшчына, Лукашова Паст. *Піскіля́ты ўсе пад плотам.* Белая Ліпа Сен., Старое Сяло Уш., Іванск Чаш., Юрава Шум. *Во курыца і дзесяць пісклянят ейных.* Ларынаўка, Лісуны,

Шыбекі Арш. *Адно піскляня́ засталося.* Ластавічы Глыб. *Пайду піскля́ткам дам.* Жалезкі, Луг, Паліцы, Сокарава Беш., Кавалі Глыб. *Піскля́ткі маленькія яшчэ, усё за квочку хаваюцца.* Базылёўка Пол., Алексінічы, Багушэўск, Бугаі, Нярэйша, Папоўка, Пасад, Студзёнка Сен. *А цяпер во толькі піскля́так і пасу.* Крывыя Тал. *Піскля́ты вясной выведуцца.* Ларынаўка, Тумінічы Арш. *Піскля́ты нашы прагаладаліся, бягуць за мной ззаду.* Навумаўка Беш. *У той год піскля́т многа было.* Урбаны Брасл. *Выбеглі піскля́ты мае.* Абруб Беразвецкі, Бараны, Верхняе, Галубчыкі, Леснікі, Мнюта, Папшычы, Псуя, Сахнавічы, Чашкі, Шэпелева, Юркава Глыб. *Піскля́т паглядывай, а то кот ужо акасеў.* Ветахмо, Макаравічы Докш., Барадзіно, Верамееўшчына, Волева, Гарэлькі, Карабанавічы, Ляды, Сваташыцы Дубр. *Пільнавала ўвесь дзень піскля́т, каб вароны не пакралі.* Бяседы, Жарцы, Стараселле, Суша Леп., Выхадцы Лёзн., Калінавая, Язна Міёр., Гута, Камаі, Лукашова, Ляхаўшчына Паст. *Градкі піскля́ты параскапалі.* Канева Сен. *Пайду піскля́т пільнаваць, бо грады пакапаюць.* Зарэчча, Лаўрэнаўка, Мяшкова, Прусінічы, Рамашкава Тал. *Насып есці піскля́там.* Арэхаўна, Замошша, Кублічы Уш. *Піскля́ты яшчэ малыя, каб адных на двор выпускаць.* Асташова, Вяцера, Замачак, Коравічы Чаш. *Піскля́т во буду карміць.* Верацеі, Жукоўшчына, Пашкі Шарк. *Піскля́т глядзі, як я ў горад паеду.* Слабада Шум. Параўн. *пылёнак.*

ПІСКЛЯ́ТНІК *м.* Куратнік. *Піскля́тнік я на дзень не зачыняю, каб піскляты свабодна бегалі.* Гуліна Сен.

ПІСКЛЯ́ТНІЦА *ж.* Курыца, якая сядзіць на яйках і выводзіць куранят. *Не пужай курыцу: яна ў мяне піскля́тніца.* Пірагі, Станіслававa Дубр., Алексінічы, Песачанка Сен.

ПІСКУ́Н[1] *м., заал.* Уюн, невялікая вельмі рухавая рыба з доўгім чэрвепадобным целам і дробнай луской. *Лавілі піскуно́ў усю ноч.* Абухава, Асвея В.-Дзв. *Мальцы ўчора вядро піскуно́ў прынеслі.* Мікалаёва Міёр. *Піскуно́ў на Бярозцы можна пройму з мосціка налавіць.* Белая Ліпа Сен. *Піскуно́ў мы сачкамі лавілі.* Паліцы Беш., Барсукі, Ластавічы Глыб., Базылёўка Пол., Жары, Краснаполле Рас., Багушэўск, Белая Ліпа, Пасад Сен., Абольцы, Мяшкова Тал., Буеўшчына, Пашкі Шарк., Кардон Шум.

ПІСКУ́Н[2] *м., заал.* Пеўчая птушка сямейства драздоў атрада вераб'іных. *Піскуно́ў у нас тут ужо другі год не чуваць.* Ідоўта Міёр.

ПІСКУ́Н[3] *м., заал.* Камар. *Піску́н сёння не даў заснуць.* Белая Ліпа Сен., Дварэц Чаш.

ПІСМАНО́С *м.* Пісьманосец. *Пісмано́с тады прынёс вестку пра яго.* Жакі Тал.

ПІСО́ГІ *толькі мн.* Рубцы, шрамы. *Жывога месца на спіне няма, як з поля кароўка прыйшла, адны пісо́гі.* Ахрэмаўцы Брасл., Каўшэлева Шарк.

ПІСУ́РКА *ж.* Ліст, пісьмо. *Пісу́рка дайшла да нас вельмі позна.* Сокарава Беш.

ПІТАЛІ́ШКА *ж.* Начны матыль. *Піталі́шка каля агню так і лётае.* Муляры Паст.

ПІТЛЁЎКА *ж.* Пытляваная мука. *Пітлёўкі два мяхі стаіць.* Зорка Шарк.

ПІТНІЧО́К *м.* Конаўка, прызначаная для піцця вады. *У нас на калодзежы пітнічо́к вісіць.* Трыгубцы Віц.

ПІТНУ́ЦЬ *зак.* Выпіць, глытнуць. *Закасілася, што вады пітну́ць некалі.* Выхадцы Лёзн.

ПІТО́КА *аг.*, ПІТУ́Н *м., іран.* 1. Піток, чалавек, які п'е спіртныя напоі. *Піто́ка з цябе – ты ад кружкі піва звалішся.* Сабалі Чаш. *От пітуны́! Бутэльку гарэлкі за вечар не выпілі.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *піцу́га, п'янчу́к, п'ню́га, п'янь, п'яню́х.* 2. Чалавек, які п'е многа вадкасці. *От піту́н, кубак чаю не змог выпіць.* Антонаўцы Брасл.

ПІТУХІ́, ПІТУШКІ́ *мн.* Ядомыя грыбы, якія знешнім выглядам падобныя да сыраежкі. *Пітухі́, свінні, курачкі – ета адны і тыя грібы. Проста па-разнаму іх называюць у нас.* Доўжа Віц. *Дзеці пітушко́ў набралі і нясуць у руках.* Асташэва Лёзн. *У нас таксама пітушкі́ растуць.* Папшулі Міёр. Параўн. *падрэ́шатнік, падряшо́тнік.*

ПІТУ́ШКА[1] *ж.* Гарлачык, пасудзіна невялікага памеру. *Памый піту́шку пад смятану, каб з сабою ўзяць.* Белая Ліпа Сен.

ПІТУ́ШКА[2] *ж.* Дэкальтэ, аголеная шыя і верхняя частка грудзей. *Піту́шку на сонцы спаліла.* Ноўка Гар.

ПІТУШКІ́ гл. ПІТУХІ́

ПІХАТО́Й гл. ПЁХАМ

ПІХТО́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Доўга, рупліва працаваць, шчыраваць. *Піхто́ліць ён з ранку да вечара.* Слабада Глыб. Параўн. *печава́ць, пінава́ць,*

ПІ́ХЦЕР *м., неадабр.* Поўны, тоўсты чалавек. *Во пі́хцер, вушэй з-за шчок не відаць.* Асінторф Дубр. Параўн. *пікцю́к, пузга́н, пума́к.*

ПІЦУ́ГА *аг., асудж.* П'яніца. *У нашай дзярэўні піцу́г колькі хочаш.* Селішча Арш. Параўн. *піто́ка, піту́н, п'янчу́к, п'яню́га, п'янь, п'яню́х.*

ПІЦЦЁ *н.* 1. Выпіўка, выпіванне спіртных напояў. *Піццё тваё ўжэ надаела ўсім – сколька можна?* Лужасна Віц. *Як абед будзіць: з піццём ці насухую?* Казловічы Гар. 2. Пачастунак са спіртным. *За добрую работу і піццё вам будзіць.* Іванаўка Гар.

ПІЧАНЁВЫ *прым.* Зроблены з вантробаў, у тым ліку з пячонкі – печані жывёлы. *Пічанёвай кілбасы дзецям у горад адправіла.* Германавічы Шарк.

ПІ́ЧКАЦЦА *незак.* Ушчамляцца. *Чаго ён пі́чкаецца ўсё ў гэту дзірку?* Зубава Арш.

ПІ́ЧКАЦЬ *незак., экспр.* Пхаць, даваць што-н. у вялікай колькасці, звыш меры. *Ды не пі́чкай ты яго салатам гэтым.* Казімірова Пол.

ПІЧУ́РЫКІ *мн.* Шампіньёны. *Пічу́рыкаў многа ў гэтым годзе.* Шарагі Міёр.

ПІ́ШНЯ *ж., рыб.* Прылада для лоўлі рыбы. *Стары мой з пі́шняй на рыбу ходзіць.* Мількі, Цяцеркі Брасл.

ПІШНЯ́К *м.* Палена, кавалак распілаванага і рассечанага бервяна. *Пішня́к з лесу прінёс, метры са два даўжынёй.* Сяляўшчына Рас.

ПІШЧА́ЛКА, ПІШЧО́ЛКА *ж.* Зялёнка, ядомы грыб з пласцінistай зялёнай шапкай. *Люблю салёныя пішча́лкі.* Храпакі Віц. *Пішчо́лкаў назбірала.* Велеўшчына Леп., Наваселле Уш.

ПІ́ШЧЫК[1] *м.* Вабік, дудачка, свісток, пры дапамозе якога ў час палявання падзываюць птушак або звяроў, падрабляючы іх голас. *Узяў пі́шчык і пашоў на ахоту.* Езярышча Гар.

ПІ́ШЧЫК[2] *м.* Астаткі пер'я, якія застаюцца ў целе свойскай птушкі пасля таго, як яе абскубуць і абсмаляць. *Выдзіраць пі́шчыкі буду доўга.* Паліцы Беш., Слабодка Чаш. Параўн. *пнéўе, пянэ́ўя, пні.*

ПІЯ́НКА *ж.* П'янка, гулянка. *Раньшы такіх піянак не было, як цяпер: у меру пілі ўсе.* Рубеж Брасл.

ПІЯ́ЦЬ гл. ПЕЯЦЬ

ПІЯ́ЧКА *ж.* Настаўніца спеваў. *Пія́чка маладая, дык дужа слухаць не хочуць яе дзеці ў школе.* Лісуны Арш.

ПЛАВУ́Н *м., рыб.* Від рыбалоўнай сеткі. *Мужыкі рыбу плавуно́м лавілі.* Драбушова Беш. *Плотак добра ноччу плавуно́м лавіць.* Слабада Уш. *Параўн. пляцённік.*

ПЛАДАЕ́ЖКА, ПЛАДАЖО́РКА *ж.* Пладажэрка. *Пладае́жка ўсе яблыкі паела.* Новае Саколіна Тал. *Дрэва голае, усе лісты пладажо́ркі паелі.* Мішневічы Шум.

ПЛАДНЫ́ *прым.* Ураджайны. *Прошлы год пладны́ быў.* Празарокі Глыб.

ПЛЯ́ЗДАЦЦА *незак.* 1. Боўтацца, гарэзаваць, рухаючыся ў вадзе ў розных напрамках. *Хопіць вам ужо пля́здацца ў той лужыне.* Павулле Уш. 2. Сваволіць, дурэць. *Што ты пля́здаешся цэлы дзень? Спакою няма табе нідзе.* Завыдрына Уш.

ПЛА́КАЎКА *ж.* Раса. *Раніцай трава пла́каўкай пакрыта.* Мілашы Брасл.

ПЛАКСЭ́ДА *аг.* Плакса. *Малая такая ўжо плаксэ́да, страх боскі!* Спігальшчына Міёр.

ПЛА́МЯНЬ, ПЛО́МЯНЬ *м.* Полымя, агонь. *Праз вакно мы тады ўвідзелі пла́мянь.* Бароўка В.-Дзв. *Як хата наша гарэла, такі пло́мянь быў!* Барсукі, Сардыкі, Цясты В.-Дзв. *Пло́мянь усё большы і большы становіўся.* Бігосава, Сенькава В.-Дзв. Параўн. *по́лам.*

ПЛАСКАСТУ́П *м.* Чалавек, які хварэе на плоскаступнёвасць. *Ён у нас пласкасту́п, таму і ў армію не ўзялі.* Лужкі Шарк.

ПЛАСКУ́ХА, ПЛАШЧУ́ГА, ПЛІ́ШЧЫНА *ж., бат.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства злакавых; курынае проса, брыца. *Пласку́ха пусцілася па агароду.* Іскра, Дзёрнавічы В.-Дзв. *За садам пласку́хі поўна.* Дуброўна Дубр., Латыгаль Сен. *Там адна плашчу́га расцець.* Зазер'е Гар. *Плішчына разраслася не прайсці, нада было ўжо скасіць, а то людзі смяяцца будуць.* Дроздава Тал. Параўн. *пажнявіца, пажнявуха.*

ПЛА́СЦІК *м.* Лустачка, прадаўгаваты кавалачак чаго-н. *Адрэж мне колькі пла́сцікаў сала.* Гілі Чаш.

ПЛА́СЦІЦЬ, ПЛАСЦІ́ЦЬ *незак.* Пластаваць, накладваць пласт адзін на другі. *Пайду пла́сціць сена, пасля будзем вазіць у пуню.* Моханава В.-Дзв., Пугачова, Селішча Докш., Высачаны Лёзн. *Сена я пласці́ць не ўмела, дык мама сказала, каб ішла падграбала ззаду.* Лісуны Арш.

ПЛАТ *м.* Хустка. *Накінь пла́т, зімна.* Іказнь Брасл. *Плато́ў сёння ў магазін навязлі ўсякіх: і шарсцяных, і газавых.* Спрынды Брасл., Ніўнікі Міёр.

ПЛА́ТАНКА *ж.* Латка. *Хоць бы пла́танку прышыла на штаны мужыку.* Гараны Пол.

ПЛА́ТАЦЦА, ПЛУ́ТАЦЦА, ПЛУТА́ЦЦА *незак.* 1. Хадзіць без мэты, сноўдацца. *Пла́таўся па вуліцы ўчора доўга.* Ноўка Гар. Параўн. *плэ́нтацца, плю́згаць.* 2. Блытацца, чапляцца за што-н. *Ката не карміла сёння, дык праходу не даець, пад нагамі плу́таецца.* Кулакова Віц. *Ніткі плу́таюцца ў руках.* Канашы Гар. *Плута́ецца трава за ногі – абкасіць пара.* Бондарава Шум. Параўн. *перадкава́ць* у 1 знач. 3. Блытацца, страчваць яснасць, дакладнасць пры выражэнні думак; гаварыць недакладна, збівацца. *А ў яго думкі ўсягды плу́таліся.* Бокішава Шум. *А малы мой гаворіць нешта, плу́таецца – так нічога і не зразумела.* Кулакова Віц. 4. Запляташца (пра язык, які ў п'янага чалавека ледзь варушыцца). *Во напіўся, што язык плу́таіцца.* Лужасна Віц.

ПЛАЎ *м.* 1. Востраў на возеры. *На плава́х асаку касілі.* Асвея В.-Дзв. 2. Кладка праз ручай або нешырокую рэчку. *Плаў тонкі – удвух не становіцеся.* Пачаевічы Чаш.

ПЛАЎНІ́К *м.* Купальнік, жаночы касцюм для купання. *Адзявай плаўні́к і пашлі купацца.* Камаі Паст.

ПЛА́ХА *ж.* Участак вялікіх памераў, прызначаны для сельскагаспадарчых культур. *Такую пла́ху пад бульбу аставілі. Што з ёй рабіць?* Косарава Глыб.

ПЛАХЕ́Й *прым.* Дрэнны, неспрыяльны. *Сёлета плахе́й год, мокрый.* Замшына Лёзн.

ПЛАХЕ́ЙШЫ *прым., выш.* Горшы. *Усё плахе́йшае надзівай, а то вымажашся.* Слабада Шум.

ПЛАЦЕ́НАЧНЫ *прым.* Саматканы. *Плацёначная ткань ішла на верхнюю адзежу.* Магуны Паст.

ПЛАЦЁНКА, ПЛА́ЦІЙКА, ПЛАЦЦЁНКА *памянш.*, ПЛА́ЦЦЯ *н.* Сукенка, плацце. *Плацёнкаў нейкіх кароткіх панакупляла.* Белая Ліпа Сен. *У міне адно пла́ційка было, каб у людзі выйці.* Ноўка Гар. *Пла́цийка, а не штаны, надзень.* Заазер'е Пол. *Прішла і кінула абы-як плаццёнка сваё.* Мазалава Віц. *Надзела доўгая пла́цця.* Мар'янполле, Опса Брасл., Ураджайная Глыб., Кавалі Лёзн., Дэмскія, Новы Пагост Міёр., Нямойта, Смалоўка, Ульянавічы Сен.

ПЛАЦІ́НА *ж.* Жэрдка ў плоце. *Яшчэ адну плаці́ну прыб'ю – і на абед.* Вязьмічы Арш.

ПЛАЦЦЁНКА, ПЛА́ЦЦЯ гл. ПЛАЦЁНКА

ПЛАЧЛІ́ВЫ *прым.* Плаксівы, які часта плача. *Наша меншая ўнучачка плачлі́вая вельмі.* Мікіціха Шум.

ПЛАШЧА́ДКА *ж.* Трактарны прычэп. *Зламаную плашча́дку на двор прыцягнуў і паставіў.* Мікіціха Шум.

ПЛАШЧАЧО́К *м., памянш.* Плоскае палена. *Я як печ таплю, дык пад ніз плашчачкі́ кладу.* Надазер'е Глыб.

ПЛАШЧО́К *м., памянш.* Плашч. *Польты ўсе параскідала, адзін плашчо́к застаўся.* Арэхаўск Арш.

ПЛАШЧУ́ГА гл. ПЛАСКУ́ХА

ПЛАШЭ́ЙШЫ *прым., выш.* Горшы. *А вось тут у мяне плашэ́йшая бульба.* Вязьмічы Арш., Верамееўшчына Дубр. *У лес плашэ́йшую кохту надзень.* Баравуха Пол.

ПЛЁВАЧКА *ж., памянш.* Плеўка, тонкая абалонка на паверхні нерухомай вадкасці. *Плёвачка на малаку занялася.* Германавічы Шарк. Параўн. *плёнка.*

ПЛЁНКА *ж.* Пенка, плеўка, якая ўтвараецца на кіпячоным малацэ пры яго астыванні. *Ці любіш ты малочную плёнку?* Вялікае Сяло Сен. Параўн. *плёвачка.*

ПЛЕСАРО́ЎКА, ПЛІСІРО́ЎКА *ж.* Спадніца плісэ. *Знайшла я тваю плесаро́ўку.* Завольша Лёзн. *Плісіро́ўку, бачу, купіла. Як па табе шытая.* Тупічына Шарк.

ПЛЁСЦІСЯ *незак.* Чапляцца, кранаць, датыкацца, зачэпліваючы што-н. *Асака праходу не даець, пляцёцца за рукі.* Канашы Гар., Крыпулі Докш., Смалоўка Сен.

ПЛЕ́ТНІЦА, ПЛЁТАЧНІЦА, ПЛЁТКА[1] *ж., асудж.* Пляткарка. *Ёсць у нас у дзярэўні плетніца.* Варашылы Сен. *Пайшла ўжэ плётачніца на дзіреўню плёткі збіраць.* Канашы Гар. *Мая суседка – плётка яшчэ тая!* Ваўкалата, Макаравічы Докш.

ПЛЕ́ЦЕНКА *ж.* Павуціна. *Ададзвінула стол – а там вялікую плеценку павук сплёў.* Арлея Пол.

ПЛЕ́ЦІ *мн.* Сцёблы гарбуза без лісця. *Плеці пасушыла, пранікам пабіла – добрая будзіць шараванка для катлоў.* Азярцы Глыб.

ПЛЕ́ЦЦЯ *н., толькі адз.* Плётка, няправераная або лжывая чутка. *Мне плеццяя тваё ўжэ надаела, займіся ты чым іншым.* Гарадок. Параўн. *по́слаўка.*

ПЛЕ́ЧЫ *мн.* Дэталі верхняй вопраткі, якія прышываюцца са сподняга боку на стыку спінкі і рукавоў. *Пашыла сарочку і плечы падшыла, каб было крапчэй.* Станіслававова Дубр.

ПЛЕ́ШАК *м.* Плеш, лысіна. *Ты хоць свой плешак пад шапку схавай.* Старое Лядна Леп. *На галаве плешак здаравенны.* Лескавічы Шум.

ПЛЕ́ШЧЫЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць няпраўду, хлусіць. *Што ты плешчыш абы-што?* Забор'е Глыб.

ПЛЁНАЧНІК, ПЛЁНАШНІК *м.* Парнік. *У нашых суседзяў плёначнік сёлета новы.* Бабча Леп. *Сёлета агуркі ў плёнашніку пасаджу.* Мурагова Тал. Параўн. *пы́рнік.*

ПЛЁСА *ж.* Яма, запоўненая вадой; лужына. *Возьмеш ваду ў плёсе, каб паліць агуркі.* Завер'е Брасл.

ПЛЁСКАЦЬ *незак., экспр.* Ісці пехатою. *Гэта ж столькі плёскаць нам яшчэ!* Круткі Паст.

ПЛЁСНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Чуць не плёснуў ад злосці рукой па ёй.* Крыпулі Докш., Дэмскія Міёр. Параўн. *перавесці, перавіць, пялёхнуць, пярнуць.*

ПЛЁСЫ *прым.* Голы, без раслліннага покрыва. *Усё поле плёсае ад жары, ні адной травінкі нідзе.* Мікіціха Шум.

ПЛЁТАЧНІЦА, ПЛЁТКА[1] гл. ПЛЕ́ТНІЦА

ПЛЁТКА[2], ПЛЯСЦЁНКА, ПЛЯЦЯ́НКА *ж.* Пляцёнка, сплеценая ўздоўж цыбуля, грыбы і інш. *Сёлета цыбуля ўрадзілася, навязала тры плёткі.* Гарані, Ткачы Гар., Горы Рас., Рускі Шум. *Плётка грыбоў на сонцы вісела, сушылі на зіму.* Бокішава, Слабада Шум. *У куце вісяць плясцёнкі цыбулі.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Гарэлькі Дубр. *Прынясі вунь тую пляця́нку цыбулі, бо трэба нечым суп заправіць.* Сураўні Шум.

ПЛЁХА *ж., заал.* Казадой, начная птушка з шырокай пляскай галавой. *Гнёзды сваё плёхі заўсёды хаваюць у траве.* Залессе Пол.

ПЛЁХНУЦЬ *зак.* Кінуць, выпусціўшы з рукі. *Ён тады як плёхне вужа мне ў двор.* Чаўнышкі Беш., Нямойта Сен.

ПЛІГАЎКА *ж., неадабр.* Маладая легкадумная дзяўчына. *Гэта плігаўка школу яшчэ не кончыла, а ўжо на танцы лётае.* Празарокі Глыб. Параўн. *падчачўрка, пасікаўка, петнастоўка, петнацоўка, пятнастка, пятнастоўка, пятностаўка.*

ПЛІМЯШ, ПЛЯМЕШ, ПЛЯМЯША *м.* Пляменнік. *Давай, плімяш, руку.* Лужасна Віц., Ноўка Гар. *Пойдзем, пляме́ш, сёння на рыбу.* Макаравічы Беш., Сабалі Чаш. *Вясной забяруць плямяшу майго ў армію.* Псуя Глыб.

ПЛІНДАЎКА *ж.* Вузкае доўгае адзенне (сукенка ці спадніца). *Адзела нейкую пліндаўку, ногі не расставіць – можыць і заваліцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЛІНТА *ж.* Прылада для забівання мух. *Плінта ляжыць, унучак, на печы.* Дрысвяты Брасл. Параўн. *пытка*[2].

ПЛІСАНІНА *ж., толькі адз.* Танцы; гулянка, вечарынка з музыкай і танцамі. *На гэтым і скончылася наша плісаніна.* Белая Ліпа Сен. *Плісаніну ўстроілі.* Пожанькі Сен.

ПЛІСІРОЎКА гл. ПЛЕСАРОЎКА

ПЛІСІЦА, ПЛІСІЦА, ПЛІСТАЎКА *ж., заал.* Пліска, невялікая пералётная птушка атрада вераб'іных з доўгім хвастом. *Плісіца прыляцела – нада лён сеяць.* Бокішава Шум. *А каля речкі плісіц відзілі.* Езярышча Гар. *Пліставак нешта ў нас усё меней і меней з кожным годам.* Жарцы, Залессе Пол.

ПЛІСКІ[1] *толькі мн.* Пырскі. *Нырнуў хлопец, аж пліскі паляцелі ў бакі.* Зазерыца Чаш.

ПЛІСКІ[2] *мн.* Грыбы лісічкі. *Назбірала цэлы мех плісак.* Абруб Глыб.

ПЛІСТАЎКА гл. ПЛІСІЦА

ПЛІСЦІЛІН *м.* Пластылін. *Сёння малая ўвесь дзень ляпіла з плісціліну нешта.* Сокарава Беш.

ПЛІТКА *ж.* Недаспелы, пусты гарохавы стручок. *Гарох яшчэ не паспеў, адны плíткі вісяць.* Стаі Леп.

ПЛІХАЦЦА *незак.* Разліваццa, плюхацца, часткова выліваццa. *Вада з вядра на зямлю паціху пліхаіцца.* Заазер'е Сен.

ПЛІХНУЦЬ, ПЛІХНУЦЬ *зак.* Лінуць, рэзкім рухам выліць вадкасць у што-н. ці на што-н. *Пліхні мне малака ў кубачак.* Надазер'е Глыб. *Пліхні на рукі вады трошку, памый збольшага.* Лужасна Віц., Канашы Гар.

ПЛІХУН *м., неадабр.* Паспешлівы чалавек, які не даводзіць пачатую справу да канца. *Зрабі ты толкам хоць што-небудзь, пліхун ты.* Псуя Глыб.

ПЛІШЧОМ *прысл.* Нахрапам. *Плішчом ломіцца ў хату.* Бельнякі Чаш.

ПЛІШЧЫНА гл. ПЛАСКУХА

ПЛІ́ШЧЫЦЦА *незак.* Цягнуцца, з цяжкасцю ісці, плесціся. *Зноў п'яны плі́шчыцца ў хату.* Бельнякі Чаш. Параўн. *плягáцца.*

ПЛІ́ШЧЫЦЬ *незак.* Несці, цягнуць што-н. цяжкае. *Гляджу, а ён ледзь плі́шчыць чамадан той – ну дык і падвёз.* Лужкі Шарк.

ПЛО́МАК *м.* Часопіс. *Плóмак на вакзале не паспела купіць.* Абаляны Брасл.

ПЛО́МЯНЬ гл. ПЛА́МЯНЬ

ПЛОТ *м.* Мост. *Плот на рацэ трэба абнавіць, хадзіць страшна.* Новы Пагост Міёр., Рог Уш.

ПЛО́ТНЫ *прым.* 1. Поўны, тоўсты. *Раскарміла ты свайго мужыка, такі ўпітаны, плóтны стаў.* Стар Арш. 2. Крэпкі, моцны (пра качан капусты). *У гэтым годзе добры ўраджай капусты, амаль усе качаны плóтныя.* Вянужа Міёр.

ПЛОЎТ *м.* Прадаўгаватая дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у калоду – вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. *Плоўт у калодзе адкрываюць, як трэба падглядзець пчол.* Абруб Глыб.

ПЛУГА́ *ж.* Плуг. *Вазьмі ў брата свайго плугý – пахаць будзім.* Марчанкі Гар. *Ён за плугóй ходзіць, а мы бульбу падбіраем.* Вярэчча, Хвошна Гар.

ПЛУЖКАВА́ЦЬ *незак.* Акучваць. *Не так і даўно бульбу плужкавáлі, а травы зноў процьма.* Іванаўка Гар. Параўн. *падмéшваць.*

ПЛУ́ТАЦЦА, ПЛУТА́ЦЦА гл. ПЛА́ТАЦЦА

ПЛУ́ТАЦЬ *незак.* Падманваць, гаварыць няпраўду. *Ты мне не плýтай, а гавары праўду.* Казімірова Пол. Параўн. *пляўдýрыць.*

ПЛУТУВА́ЦЬ *незак.* Плесці, перавіваючы лазу ці што іншае, злучаць у адно цэлае, вырабляць што-н. *Плутувáлі плот лазой.* Сухавержжа Міёр.

ПЛУ́ШАК *м.* Кавалак, кусок. *Во гарбуз вырас – прыходзі, і табе плýшак дам.* Кузняцова Віц.

ПЛЫВУ́Н *м.* Плывунец, водная расліна. *Рыба ў плывунáх хаваецца.* Арляны Сен.

ПЛЫ́ЖЫЦЬ *незак.* Цiскаць, сціскаць у абдымках, моцна абнімаць. *Усё цацку сваю плы́жыць і спіць нават з ёй.* Дубы В.-Дзв.

ПЛЫ́СКАЦЬ *незак.* Боўтаць. *Не плы́скай ложкай, акуратна еж.* Глазамічы Віц.

ПЛЫТО́ *н.* Плыт. *Плытó ён ладнае скалаціў.* Зорнікі Беш.

ПЛЭ́НТАЦЦА *незак.* Блукаць, бадзяцца, хадзіць без мэты. *Плэ́нталася ўвесь дзень па лесе і нічога не знайшла.* Суша Леп., Камаі Паст. Параўн. *плáтацца* ў 1 знач., *плю́згаць.*

ПЛЮГА́ЎСТВА *н., зб.* Машкара, мошкі. *Надакучыла гэтае плюгáўства: і ў вочы, і ў рот лезуць.* Ушачы.

ПЛЮГА́ШКА *ж.* Лягушка. *Плюга́шка як прыгнула, дык я і села.* Карабанавічы Дубр.

ПЛЮДА́ЦЬ *незак.* 1. Пляваць. *Ну не плюда́й жа ты на падлогу!* Жукоўшчына Шарк. Параўн. *плявýзгаць.* 2. *перан., груб.* Адносіцца да каго-н. абыякава, з пагардай. *Плюда́ў ён на гэтую дзеўку: не пара яна яму.* Казяны Брасл.

ПЛЮ́ЗГАЦЬ *незак., экспр.* Хадзіць дзе-н., бадзяцца. *Плю́згаў недзе Мішка ўсю ноч.* Антонаўка Арш. Параўн. *пла́тацца* ў 1 знач., *плэ́нтацца.*

ПЛЮ́САЎКА, ПЛЮСО́ЎКА, ПЛЮ́ШАЎКА, ПЛЮ́ШКА[1], ПЛЮШО́ЎКА[1] *ж.* Жаночая зімовая куртка з плюшу. *Плю́саўка ў мяне была цёплая.* Серкавіцы Тал. *Берaглі плюсо́ўкі, каб хадзіць на кірмаш у Дабею.* Куціна Шум. *Падай мне плю́шаўку: холадна нешта стала.* Лужкі, Ноўка Віц. *Як у школу хадзіла яшчэ, мне красную плю́шку купілі, а астальныі дзевачкі, у асноўным, у цілагрейках хадзілі.* Лугавыя Віц. *Плюшо́ўкі раньшы ўсе бабы ў нас насіць зімой любілі.* Кулакова Віц. *І дзе плюшо́ўка магла падзецца?* Ноўка Гар. *Як табе плюшо́ўка мая?* Каўровая Дубр. *Зашпілі плюшо́ўку.* Мацюкова Глыб., Язна Міёр., Каты Шарк.

ПЛЮ́СКА *ж.* Клоп. *Замучылі плю́скі, маленькія, а гадкія!* Нямойта Сен.

ПЛЮСО́ЎКА гл. ПЛЮ́САЎКА

ПЛЮ́ХІ *прым.* Баязлівы, палахлівы. *У нас такая плю́хая карова, усіх кароў баіцца.* Абруб Глыб., Нямойта Сен.

ПЛЮ́ХКІ *прым.* Вадкі, сыры, недапечаны. *Сырнікі нейкія плю́хкія палучыліся: наверна, мала мукі ўсыпала.* Макаравічы Беш.

ПЛЮ́ХЛЫ *прым.* Вялы, які страціў свежасць, звяў. *Сёліта клюква плю́хлая нейкая: відаць, на сонцы ад жары спіклася.* Міхалкова Віц. *А што там на гародзі, разві што гуркі плю́хлыі асталіся.* Канашы Гар.

ПЛЮ́ШАЎКА, ПЛЮ́ШКА[1] гл. ПЛЮ́САЎКА

ПЛЮ́ШКА[2] *ж.* Маленькая спечаная булачка. *Плю́шкі падпаліла сёння ў печы.* Пашына Арш. Параўн. *перапе́чка[1]* ў 1 знач., *пу́хлік, пыжык.*

ПЛЮ́ШКА[3] *ж.* Гнілая бульбіна. *Адны плю́шкі пасля даждзя на гародзе выкапываюцца – не будзе бульбы сёлета.* Зубава Арш., Анэліна Тал.

ПЛЮ́ШКІ *толькі мн.* Агрэст. *А плю́шкі збіраю, калі яны ўжо спелыя, жаўтаватыя, бо зялёныя зубы не жвуць.* Пецькі Дубр.

ПЛЮ́ШНІК *м.* Плюшч, паўзучая расліна, якая абвіваецца вакол сваёй апоры. *Чаго, як той плю́шнік, уешся ўсё каля мяне?* Пачаевічы Чаш.

ПЛЮШО́ЎКА[1] гл. ПЛЮ́САЎКА

ПЛЮШО́ЎКА[2] *ж.* Гатунак яблыкаў. *У мяне ў садзе шмат яблыкаў: грушоўка, плюшо́ўка, штатына.* Бортнікі Глыб.

ПЛЯВУ́ЗГАЛА, ПЛЯВУ́РЗГАЛА *аг., лаянк.* Ілгун, падманшчык. *Ідзі ты адсюль, плявýзгала.* Латышы Глыб. *Што яго слухаць? Зноў нешта сваё напрыдумаў, плявýрзгала гэты.* Перавознікі Паст., Замачак Чаш.

ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ *незак.* Пляваць. *Сядзіць цэлымі днямі ды семачкі гэтыя плявýзгаіць.* Паліцы Беш. Параўн. *плюда́ць* у 1 знач.

ПЛЯВУ́РЗГАЛА гл. ПЛЯВУ́ЗГАЛА

ПЛЯВУ́ЧЫ *дзеепрым.* Пра дзіця, якое плюецца. *Малы плявýчы, гад.* Латкова Шум.

ПЛЯГА́ЦЦА *незак., экспр.* Марудна, з цяжкасцю ісці. *Ну і плягáешся тады, бывала, колькі кіламетраў па гурбах.* Верацеі Шарк. Параўн. *плі́шчыцца.*

ПЛЯ́ЙМА *ж.*, ПЛЯЙМО́ *н.* 1. Пляма, змяненне на скуры. *Ліцо ў яго ўсё ў пля́ймах нейкае.* Бокішава, Бондарава Шум. 2. *перан.* Пляма, брудны след ад чаго-н. *Халат увесь у нейкіх пля́ймах.* Гаршчэўшчына Тал.

ПЛЯ́ЙСТАР *м.* Пластыр. *Я сваю балячку пля́йстарам заляпіла, каб хутчэй загаілася.* Бортнікі Глыб.

ПЛЯ́ЙСТРАЧКА, ПЛЯЙСТЭ́РКА *ж., памянш.* Луста, кавалачак, частачка чаго-н. *Кінь сабаку адну пляйстрачку.* Папшычы Глыб. *Бульбу пляйстэ́ркамі рэзалі.* Верхняе, Латышы, Чарневічы Глыб.

ПЛЯМ *м.* Месца, частка агарода, на якой не ўзышлі агародныя расліны. *Паглядзі, колькі на тым гародзе плямóў.* Крыпулі Докш., Рунды Міёр. Параўн. *прагáла, пралёт, праплéшына, пýстка, пустóта, пустэ́чча.*

ПЛЯМЁНКА *ж.* Пляменніца. *Во і плямёнка мая прыехала.* Бокішава, Бондарава Шум.

ПЛЯМЕ́Ш, ПЛЯМЯ́ША гл. ПЛІМЯ́Ш

ПЛЯНІ́ЦА *ж.* Сіло, прыстасаванне ў выглядзе пятляў для лоўлі птушак. *У пляні́цу курыца трапіла.* Мікалаёва Міёр.

ПЛЯНТО́ЎКА *ж.* Луг, месца выпасу жывёлы. *Калгасных кароў у шэсць гадзін выгналі на плянтóўку.* Задоры Леп. *Скаціну на плянтóўку ганіце.* Пустынкі Сен.

ПЛЯСНЁГ *м.* Трыснёг. *Дык там адзін пляснёг расце.* Папшулі Міёр.

о ПЛЯСНІ́ВАЕ ПЯЧЭННЕ *н.* Пернікі. *Купі яшчэ пляснíвага пячэння.* Жары Рас.

ПЛЯСУ́НЯ *ж.* Танцорка. *Мая дачка ж на месцы не сядзіць, такая ўжо плясýня.* Стралкі В.-Дзв.

ПЛЯСУ́ХА *ж.* Полька (танец). *Мая мама дужа танцаваць не ўмела, а плясýха дык у яе вот добра атрымлівалася.* Бортнікі Глыб.

ПЛЯСЦЁНКА гл. ПЛЁТКА

ПЛЯТУ́ХА *ж.* Жанчына, якая валодае майстэрствам плесці косы, рабіць жаночыя прычоскі. *Плятýха мне такую касу запляла, што ўсе дзеўкі на вяселлі охалі.* Замошша Брасл.

ПЛЯТУ́ЧЫ *прым.* Які чапляецца за што-н., датыкаецца да чаго-н., перашкаджаючы ісці. *Асака плятýчая вельмі – не прайсці.* Грышаны Віц.

ПЛЯЎДУ́РЫЦЬ *незак.* Хлусіць, маніць, казаць няпраўду. *А ён усё сваё пляўдýрыць і вокам не мігне.* Бортнікі, Вусава Глыб. Параўн. *плýтаць.*

ПЛЯ́ЦА *ж.* Града, вузкая паласа зямлі, ускапаная на агародзе. *Вось там у мяне лучок на пляцы расце.* Гарадок.

ПЛЯЦАВА́ЦЬ *незак.* Плесці цыбулю ў пляцёнкі. *Дапамажы мне цыбулю пляцавáць.* Старыя Крукі Міёр.

ПЛЯЦА́К, ПЛЯЧА́К *м.* Рэчыўны мяшок, рукзак. *Узяў пляцáк з лавы, у лес сабраўся.* Андрэева Гар., Галбея Паст. *Бяры плячáк і ідзі калядаваць.* Бачэйкава Беш.

ПЛЯЦЁНКІ *мн.* Лапці. *Яшчэ дзед мой умеў пляцёнкі плесці.* Пішчалава Арш.

ПЛЯЦЁННІК *м.* Самаробная рыбалоўная сетка. *Рыбу многія ў нас пляцённікам ловяць.* Чарневічы Глыб. Параўн. *плавýн.*

ПЛЯ́ЦКАЛА *аг., неадабр.* Гаварун, гаварлівы, балбатлівы чалавек. *Як прыйдзе гэты пля́цкала на пошту, то хоць вушы затыкай.* Будзілава, Сабалі Чаш.

ПЛЯ́ЦКАЦЬ *незак., неадабр.* Чмякаць губамі, прыцмокваць. *Што ты пля́цкаеш, як свіння.* Замачак Чаш.

ПЛЯЦО́К *м., памянш.* Пляц, участак зямлі, заняты сядзібай, агародам. *Тут пляцóк раней панскі быў.* Германавічы Шарк.

ПЛЯЧА́К гл. ПЛЯЦА́К

ПЛЯ́ШКА *ж.* Кавалак, частка распілаванага бервяна, звычайна цыліндрычнай ці круглай формы. *Пля́шак зяць напіліў, а цяпер нада, каб хто-небудзь пакалоў.* Шацяні Сен.

ПЛЯШНЯ́ *ж.* Лом, металічны завостраны стрыжань, якім разбіваюць што-н. цвёрдае. *Помню, з дзедам б'ём гэты лёд пляшнёй.* Рошчына Сен.

ПЛЯШЫ́ВІК *м., лаянк.* Нядобры, дрэнны, заганны ў маральным плане чалавек. *Во гад, во пляшы́вік!* Канашы Гар. *А ён, пляшы́вік, ціперь ні нагой у ейную хату.* Доўжа Віц.

ПНЕ́ЎЕ, ПЯНЭ́ЎЯ *н., зб.*, ПНІ *мн.* Астаткі пер'я, якія застаюцца ў целе свойскай птушкі пасля ліньки. *Курыца выліняла, а пнéўе асталося.* Пралетарыя Уш. *Куры паліналі, дык замест пер'я толькі пянэ́ўя асталося.* Зубава Арш. *Пні ў мясі астаюцца, як ліняіць вутка.* Старыя Крукі Міёр. Параўн. *пíшчыкі.*

ПНЁЎКІ *мн.* Апенькі. *Пнёвак сёлета многа.* Опса Брасл. Параўн. *пянькоўкі.*

ПНІ гл. ПНЕЎЕ

ПО́БАК *прысл.* 1. Побач, блізка. *Многа гадоў по́бак жылі – хата ягоная па той бок вуліцы стаяла.* Бурая Дубр., Вялікае Сяло Сен. Параўн. *по́раўні, по́тач.* 2. Сумесна, разам. *Во і жывём, як пажаніліся, скора пяцьдзясят гадоў по́бак.* Крыўкі Чаш.

ПО́ВІДЗЬ *м.* Зайздроснік. *Вот по́відзь хлопец расцець – і тое яму нада, і гэта.* Лужкі Шарк. *Гэты по́відзь ніяк не супакоіцца.* Нурава В.-Дзв.

ПО́ВЯС гл. ПАЯ́С

ПО́ГАЛАСКА *ж.* Рэха, водгук. *Крыкні – і па ўсім лесе по́галаска пойдзе.* Крыпулі Докш.

ПО́ГНІЛЬ *ж.* Гніль, што-н. гнілое, сапсаванае гніеннем. *Пад нагамі адна по́гніль валяецца.* Казімірова Пол.

ПО́ГРАБ *м.* Груздь. *Посля дажджоў по́грабы павылазілі.* Кузняцова Віц.

ПО́ДАЛ *м.* Падол. *У вайну ў по́далі цібе насіла, як ад немцаў уцікалі.* Канашы Гар. *По́дал падрубіць нада.* Мазалава Віц. *Абатруся по́далам – і пайшла.* Заазер'е Тал. *По́дал падрубі.* Азярок Арш., Станіслававa Дубр., Бондарава, Сахоненкі Шум.

ПО́ДАЎНА *прысл.* Даўнавата, многа часу таму назад. *Гэта ўжо по́даўна было, а калі – і не прыпомню.* Валосава Тал. Параўн. *прада́ўна.*

ПО́ДГРАБ *м.* Падвал, склеп, закрытае памяшканне, паглыбленае ў зямлю, для захоўвання садавіны, гародніны, харчовых прадуктаў і інш. *По́дграб пад домам капалі.* Гарадок. Параўн. *падмо́сце, падпамо́сця, падпо́лля, по́дпал, прыгрэ́біца.*

ПО́ДДЗЕЎКА *ж.* Паддзёўка. *По́ддзеўку надзявай, а то змерзнеш.* Канашонкі Рас.

ПО́ДМАЗ гл. ПАМАЗО́К

ПО́ДНЯЕ *н., толькі адз.* Нацельная, споднія бялізна. *Заўсёды пад адзежай по́дняе насілі.* Германавічы Шарк.

ПО́ДПАЛ гл. ПАДПО́ЛЛЯ

ПО́ДПЛЕТКА *ж.* Шыла для падплятання лапцей. *Стаў лапаць по́дплеткай калупаць.* Дварэц Чаш.

ПО́ДРУБ *м.* Падруба, ніжняе бервяно ў зрубе. *У бані даўно ўжо пара новы по́друб зрабіць.* Старое Сяло Уш. *По́друб нашай хаты гнілы ўжо.* Антаполле Чаш. *По́друб ладны зрабілі, яшчэ сто гадоў праслужыць.* Луначарскае В.-Дзв.

ПО́ДСВІНАК *м.* Падсвінак, парася. *На зіму по́дсвінка будзім браць.* Верамееўшчына Гар. *У мяне ўжо ладны по́дсвінак.* Алексінічы Сен. Параўн. *парася́тка.*

ПО́ДСЛУХ *м.* Падслухоўванне. *Ніколі не займалася по́дслухам.* Багушэўск Сен. *Вечарам ён на по́дслух выходзіць усё.* Чаромушкі Шарк.

ПО́ДСЦІЛЬ, ПО́СЦЕЛЬ *ж.* Подсціл; тое, што падсцілаюць свойскай жывёле. *Асака пойдзіць карове на по́дсціль.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Скату на по́дсціль німа нічога.* Кулакова, Лужасна Віц. *Салому на по́дсціль пусцім.* Канашы Гар. *У гэтым годзе будзем касіць асаку, бо ў по́сцель няма чаго слаць.* Сураўні Шум. Параўн. *пасці́лка.*

ПО́ЖАНЬ *ж.* Пожня, сенажаць. *На по́жань пасля абеду прыязджай: сена будзем класці.* Мікіціха Шум.

ПО́ЖЫК *м., міф.* Выдуманая міфічная істота, якой пужаюць малых дзяцей. *Утварыўшы дзялоў, дзеці крычаць ратунку, каб по́жыку не аддавалі. По́жыка ўсе малыя баяцца.* Якубова Рас. Параўн. *перакру́цень.*

ПО́ЗЕМКІ гл. ПАДЗЁМКІ

ПО́ЗНІЦЦА *незак.* 1. Спазняцца, з'яўляцца пазней, чым трэба. *У школу ўжо по́знішся, выходзіць трэба.* Навасёлкі Паст. 2. Не паспяваць зрабіць што-н. своечасова. *По́знімся з азімымі, даўно ўжо пасадзіць нада, а то марозы будуць скора.* Машканы Сен.

ПО́ЙЛА *н., груб.* Гарэлка, віно, спіртныя напоі. *Пастухі по́йла ў магазіне набяруць – і ў поле.* Езярышча Гар.

ПО́ЙСАВАЦЬ, ПО́ЙСАЦЬ *незак.* Малаціць, выбіваць зерне з каласоў. *По́йсаваць даўно ўжо пара.* Крыпулі Докш., Янкішкі Паст. *Сёння будзем ячмень по́йсаць.* Воўкаўшчына, Стрынадкі Глыб. Параўн. *пу́каць* у 1 знач.

ПО́ІЛКА *ж.* Паілка, спецыяльная ёмістасць, вядзерца для паення свойскай жывёлы. *По́ілку новую купіць нада, а то гэта працякаць стала дужа.* Жабыкі Дубр.

ПО́КАЗКА *ж.* Прыказка. *Старая ўжо гэта показка.* Булахі Глыб. *Дзед мой любіў по́казкамі гаварыць усё.* Наваселле Уш.

ПО́КАНТ *злуч.* Пакуль. *По́кант я туды-сюды, ён ужо і змыўся.* Усяны Брасл. Параўн. *пака́месь, пака́місь, паку́дава, пана́месь* у 1 знач.

ПО́КАЦЦЮ *прысл.* Побач, блізка адзін да аднаго. *Сідзяць по́каццю.* Шчанькова Гар.

ПО́КІ *прысл.* Пакуль (у значэнні злучальнага слова ў даданай частцы складанага сказа). *Пільнавалі яго, по́кі не прыйшоў.* Іванаўка Гар.

ПО́КЛАДЗЬ, ПО́КЛАДКА гл. ПАДКЛА́Д

ПО́КУТ гл. ПАКУЦЦЁ

ПО́КУШАК *м.* Ежа; страва. *Дужа з по́кушкам уладзіла сваім старым.* Кузняцова Віц. Параўн. *паяду́ха, паяды́нак.*

ПО́ЛАМ *м.* Полымя. *По́лам моцна шугае.* Ласкаўшчына Глыб. Параўн. *пла́мянь, пло́мянь.*

ПО́ЛАЦЦЕ, ПО́ЛАЦЦЯ, ПО́ЛІВА *н.*, ПО́ЛКА[1] *ж.* Праполка, ачыстка агарода ці поля ад пустазелля. *Як лета, дык толькі адно по́лацце ў галаве.* Ёды Шарк. *По́лацця я не люблю, хоць і не ў горадзе расла.* Абруб Глыб. *У гародзі яшчэ по́ліва цьма сколька.* Смалоўка Гар. *З ранку на по́лку збіраюся.* Асташова Чаш.

ПО́ЛАЦЬ *м.*, ПОЛСЦЬ, ПО́ЛЦЫЯ, ПО́ЛЦЬ *ж.* Паласа свінога сала. *Пасаліла по́лаці.* Язна Міёр. *Цэлую по́лсць сала тады яму адвезла.* Ласкаўшчына Глыб. *Ужо можна і другога кабана біць, але яшчэ ёсць дзве по́лцыі сала, з таго разу астаўшыся.* Верхняе Глыб., Лукашова Паст. *Бацька злупіў з тушы тры по́лці сала.* Канашы Гар.

ПО́ЛЕК *м.* Паляк. *Аказваецца, ён по́лек быў.* Узмёны Міёр.

ПО́ЛІВА гл. ПО́ЛАЦЦЕ

ПО́ЛІК *м.* Палок, памост у лазні, на якім парацца. *У хаце жарка было, дык я на по́ліку ў бані спала.* Андрэеўшчына Арш.

ПО́ЛІЎКА *ж.* 1. Юшка, страва са свежай рыбы з прыправамі. *Зладілі рыбы на по́ліўку.* Камары Віц. 2. *абрад.* Курыны булён, які спажываецца ў якасці традыцыйнай абрадавай ежы на пахаванні ці рэлігійных святах. *Першая ежа за пахавальным сталом у нашай мясцовасці – по́ліўка.* Заессе, Пачаевічы Чаш.

ПО̀ЛІЭФІ́РКА *ж.* Нейлонавыя ніткі. *Як шэрсці не было, дык і по̀ліэфі́рка для вязання ішла.* Чарневічы Глыб.

ПО́ЛКА[1] гл. ПО́ЛАЦЦЕ

ПО́ЛКА[2] *ж., памянш.* ПО́ЛАЧКА, *часцей* ПО́ЛКІ *мн.* Пялёнка, невялікая прасцінка для спавівання грудных дзяцей. *По́лку са шнура знімі. Малога завярнулі ў по́лачку.* Станіслававова Дубр. *По́лкі, відаць, мне сціраць прыйдзецца.* Малотынь Арш. *Памыла по́лкі і павесіла на сонца, каб хутчэй высахлі.* Завер'е Брасл., Бароўка В.-Дзв. *По́лкі з учарашняга яшчэ не мытыя.* Залессе, Мацюкова Глыб. *По́лкі прапаласкчы і павешай сушыць на вуліцы, а не ў хаце.* Балаі, Галбея Паст., Рулёўшчына Сен. *Як і бацька, так і ён по́лкі будзе паласкаць, раз жонку-беларучку ўзяў.* Слабада Уш.

ПО́ЛСАК *м.* Жаночы касцюм у выглядзе спадніцы і пінжака. *На другі дзень вяселля маладая нейкі дужа кароценькі по́лсак надзела.* Замачак Чаш.

ПОЛСЦЬ гл. ПО́ЛАЦЬ

о ПО́ЛЦАЕ СА́ЛА *н.* Тоўстае свіное сала. *Добры парсючок быў: по́лцае сала ў чатыры пальцы.* Слабада Докш.

ПО́ЛЦЫЯ, ПО́ЛЦЬ гл. ПО́ЛАЦЬ

ПО́ЛЫНЬ *ж.* Палынь. *Горкі, як по́лынь.* Мікіціха Шум.

о ПО́ЛЬСКІ БАРАВІ́К, ПО́ЛЬСКІ ГРЫБ *м., бат.* Несапраўдны баравік. *По́льскія баравікі́ нада есці маладымі і варыць некалькі разоў.* Дразды Беш., Азяраўцы Брасл., Калінава Віц. *По́льскія грыбы́ ніхто з нашых не бярэ.* Белая Ліпа, Пустынкі, Скоглен., Падбярэззе Тал.

ПО́МАЗКА гл. ПАМАЗО́К

ПО́МАЦ, ПО́МАЧ[1] *ж.* Дапамога. *Не завуць мяне ў по́мац.* Магуны Паст. *По́мачы ніякай ад дзяцей.* Езярышча, Канашы Гар. *Ці нада по́мач?* Анэліна Тал. *Ніякай по́мачы мне не было, як дзяцей гадавала.* Шчарбакі Шум.

ПО́МАЦКІ *прысл.* Навобмацак. *Чаго ты там по́мацкі поўзаеш.* Багушэўск Сен.

ПО́МАЧ [1] гл. ПО́МАЦ

ПО́МАЧ [2] *ж.*, ПО́МЫЧЫ *мн.* Падцяжкі; шлейкі. *Любіў ён тыя штаны з по́маччу.* Калінавая Міёр. *Напяліў свае по́мычы.* Серкавіцы Тал.

ПО́МЕТ *м., зб.* Пустазелле. *Запусцілі зямлю по́метам.* Плісы Беш. Параўн. *пынза.*

ПО́МІН гл. ПАМІ́Н

ПО́МСНІК *м.* Мсцівец, чалавек, які помсціць за любую крыўду. *Я думала, сусед наш добры по́мснік, а ты яшчэ лепшы.* Бельнякі Чаш.

ПО́МЫЧЫ гл. ПО́МАЧ [2]

ПО́ПАЎЗКАМ *прысл.* Паўзком. *Нагу як пабіла, дык хацела ўжо по́паўзкам дамоў дабірацца.* Лагі Арш. *Гляджу, а яны по́паўзкам у канаву ад мяне.* Крупяжына Сен. *Немцы нападуць, а мы по́паўзкам па снягу ў балота.* Слабада Уш.

ПО́ПУСТУ гл. ПАПУ́СТУ

ПО́РАЗ *прын.* Праз, цераз. *Ішла по́раз кусты.* Доўжа Віц.

ПО́РАМ *м.* Паром. *У тым годзе так рака высахла, што і по́рам не хадзіў.* Кралькі, Ферма Шум.

ПО́РАЎНІ *прысл.* Побач, поруч, блізка адзін да аднаго. *Пріляж по́раўні са мной.* Езярышча Гар. *Ідзі са мной по́раўні.* Вяцера Чаш. *Заўсёды хай по́раўні ідуць маладыя.* Пачаевічы Чаш. Параўн. *по́бак, по́тач.*

ПО́РАЦЦА гл. ПАРО́ЦЦА

ПО́РКАЎКА, ПУ́РХАЎКА, ПУРХО́ЎКА, ПУ́ХАЎКА *ж.*, ПУХАВІ́К *м.* Порхаўка, шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл. *Не бяры, гэта ж усё по́ркаўкі.* Котава, Хайсы Віц., Выдрэя Лёзн. *Як мы былі малымі, то тупалі па пу́рхаўкам нагамі, а з іх дым ішоў.* Гарані Гар. *Пурхо́ўкі і на полі добра растуць.* Крынкі Лёзн. *Кажуць, што пурхо́ўкі толькі маладыя можна есці.* Скоґ Сен. *Пу́хаўкі быстра растуць.* Малыя Пышнагоры Леп. *Станеш, бывала, нагой на пухаві́к, а з яго зялёненькі дымок ідзець.* Прыпернае Глыб. Параўн. *пухавы́ гры́б.*

ПО́РКАЦЦА гл. ПАРО́ЦЦА

ПО́РТНІХА *ж.* Швачка. *Мама мая была адна по́ртніха на ўсю акругу – усіх абшывала.* Папкі Міёр.

ПО́РХАЎКА *ж.* Сняжынка. *По́рхаўкі абляпілі ўвесь твар, пакуль даехаў.* Мілашы Брасл. Параўн. *по́ршань.*

ПО́РХАЎКІ *толькі мн.* Сухія дровы. *По́рхаўкі скора ў печы разгараюцца.* Рошчына Сен.

ПО́РШАНЬ *ж.* Дробны сняжок. *Сёння цэлы дзень по́ршань сыплецца.* Мілашы Брасл. Параўн. *по́рхаўка.*

ПО́СІК *м.* 1. Мачавы пузыр. *По́сік застудзіла, бо не апраналася.* Залессе Глыб. 2. Мачавы пузыр свойскай жывёлы, начынены ліверам. *Суседка дык мая по́сік з пячонкі, почак і лёгкага начыняе.* Кавалі Глыб. *Трэба по́сік начыніць, з'ядуць за мілую душу.* Завер'е Брасл., Надазер'е Глыб., Жарцы Леп., Замачак Чаш., Буеўшчына Шарк.

ПО́СЛАЎКА *ж.* Чутка; плётка. *Пусцілі по́слаўку пра суседку, быццам мужыка свайго кінула.* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *плёцця.*

ПО́СЛІ, ПО́СЛЯ 1. *прысл.* Пасля, потым. *По́слі ў магазін сходзіш.* Казловічы Гар. *По́слі сталі зажывацца патроху, строілі хату.* Папшулі Міёр. *По́слі напішаш, лажыся спаць сёння.* Равяцічы Тал. *Ідзі, а ў хаце по́сля прыбярэш.* Залессе Глыб. *Сразу ж п'яніцамі не становяцца, а по́сля распіваюцца.* Лонск Шарк. 2. *прыназ.* Пасля (выражае часавыя адносіны і ўжываецца пры назвах адрэзкаў часу, падзей і інш., услед за якімі што-н. адбываецца). *Снег пайшоў по́слі абеду.* Мазалава Віц. *Дом мы по́сля вайны строілі.* Барсукі Дубр.

○ ПО́СНАЕ МА́СЛА *н.* Алей. *Усё цяпер на по́сным масле жарым, не так, як раней.* Расходна Сен. *Салат запраўляю по́сным ма́слам: кажуць, што палезна.* Бачэйкава, Сініцы Беш., Бароўка В.-Дзв., Сакольнікі Віц., Азярцы Глыб., Слабодка Леп., Сасноўцы Шарк.

ПО́СНІЦА *ж., абрад.* 1. Пост, перыяд устрымання ад скаромнай ежы. *По́сніца скора начнецца.* Канашы Гар. 2. Посная, не скаромная страва. *Елі пасля вайны мы адну по́сніцу.* Янава Тал.

ПО́СНЫ *прым.* Неўрадлівы, бедны на пажыўныя рэчывы (пра зямлю, глебу). *Зімля тут по́сная – удабряць будзім сёліта.* Мазалава Віц.

ПО́СТАЦЬ *ж.* Паласа поля, якую займае адна жняя ў працэсе жніва. *По́стаць на полі заўсёды шырокую займала, не бегла ўперад усіх.* Кавалі Глыб.

ПО́СУДАК *м.* Посуд. *Ваду на по́судак бяры з печкі.* Сардыкі В.-Дзв.

ПО́СЦЕЛЬ гл. ПО́ДСЦІЛЬ

ПО́СЯЧ *ж.* Просека. *На по́сяч хадзіла, малін сабрала.* Абруб Глыб. Параўн. *про́лабка*[2].

ПО́ТАЛАК *м.* Столь, верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання. *Я ўсігда по́талак к Паскі мыю.* Канашы Гар.

ПО́ТАРЧ *прысл.* Дагары нагамі. *Гляджу, а ён стаіць каля сцяны по́тарч – на галаве стаіць.* Лужкі Шарк. Параўн. *по́бак, по́раўні.*

ПО́ТАЧ *прысл.* Побач, адзін каля аднаго, паблізу. *Сядайце по́тач.* Параўн. *по́бак* у 1 знач., *по́раўні.*

ПО́ТРУХ *м.* Пацяруха ад сена. *По́трух выкарыстоўваюць на посцілку жывёле.* Папоўка Сен. Параўн. *пелюха́* ў 2 знач.

ПОТС *аг., асудж.* Гультай, лодар. *Такі потс палец аб палец не ўдарыць.* Крыпулі Докш.

ПО́ТЧЫЦЬ *незак.* Частаваць. *Мёдам буду вас по́тчыць, і з сабой крыху возьміце.* Белая Ліпа Сен.

ПО́ЎЗЕНЬ *м.* Вуж. *У нас вялізны по́ўзень пад ганкам жыве.* Янкавічы Рас.

ПО́ЎЗКІ *прым.* Паўзучы, які сцелецца або чапляецца за што-н. *Глянь, які яна по́ўзкі цвет вырасціла, усё акно заплёў.* Навумаўка Беш.

ПО́ЎНАТА *ж.* Поўня, фаза Месяца, калі бачны ўвесь яго дыск. *Агуркі ніхто не садзіць у по́ўнату.* Далёкія Брасл. *Як по́ўната, у нас светла на двары, хоць іголкі збірай.* Моханава, Нурава В.-Дзв., Бараны, Завараты Глыб., Дрыгучы, Манякова, Снегі Міёр., Варапаева, Камаі, Муляры Паст.

ПО́ЎНАЯ *прым.* Цяжарная. *Нявестка яе чуць ішла: по́ўная, народзіць скора.* Ульянавічы Сен. Параўн. *палажні́ца, пуза́та.*

ПО́ЎНІЦЬ *незак.* Памятаць. *Не по́ўню я такога случая.* Канашы Гар. *Даўно было, але раскажу, што по́ўню.* Галбея Паст.

ПО́ЎРАЗЬ *ж.* Вяроўка. *По́ўразь старая, нікуды не гадзіцца.* Кругляны Сен.

ПО́ЎСТКА *ж., памянш.* Поўсць, шэрстка. *Кошачку мне ўнукі той раз з гораду з доўгай по́ўсткай прывязлі.* Багатырская Пол.

ПО́ХАЦЦА *незак.* Бегаць, мітусіцца. *Чаго ты по́хаешся туды-сюды?* Воўкаўшчына Міёр.

ПО́ХНУЦЬ *незак.* Пухнуць, апухаць. *У вайну ад голаду по́хлі.* Канашы Гар. *Як ногі по́хнуць ці рукі, трэба піць во гэту настойку.* Галі Беш., Дэмскія Міёр.

ПО́ЦЕСЬ *ж.* Самапралка. *По́цесь раней амаль у кожнай хаці была.* Равяцічы Тал. Параўн. *прадзі́льна, пра́ліца, прядзі́лка.*

ПО́ЧАРАК *м.* Почырк. *Добры по́чарак у цябе, панятны!* Мельніца Шарк.

ПО́ЧЫТ *м.* Грубка. *У вас печка ці по́чыт у той хаце?* Лісуны Арш.

ПО́ШАР[1] *м.* Сена. *Сёлета по́шару ўволю было.* Валожанкі Шарк. *Трымаў бы скаціну і далей, але по́шару няма.* Воўкаўшчына Глыб., Драгуны Міёр., Муляры Паст., Пашкі Шарк.

ПО́ШАР[2] *м.* Табака, травяністая расліна з пахучымі кветкамі. *Сусед насадзіў у гародзе сабе шмат пошару: ніяк курыць не кіне.* Балаі Паст.

ПО́ШАСЦЬ *ж.* Непрыемныя, страшныя здарэнні, беды. *По́шасць нейкая найшла на яе сям'ю, як мужыка забілі.* Дворышча Рас.

ПО́ШАЎКА *ж.* Навалочка; чахол для падушкі. *По́шаўку на падушку спецыяльную пашыла.* Абруб, Каралевічы, Ласкаўшчына Глыб.

ПО́ШЛІНА *ж.* Пошасць, хвароба, эпідэмія. *На курэй напала по́шліна.* Мікалаёва Міёр.

ПРА́БАРАЗДАК, ПРІ́БАРАЗДАК *м.* Пратаптаная паміж градкамі ці барознамі сцежка. *Вада ў пра́бараздках стаіць.* Ткачы Гар. *Ідзі па прі́бараздку – і выйдзеш у канец гарода.* Ноўка Гар. *Прі́бараздкі зараслі – палоць нада.* Лужасна, Мазалава Віц. Параўн. *прыгра́дак, прыгра́днік, прыме́жак, прыле́шак.*

ПРАБЁЛ *м.* Прабел у памяці. *Я старая – прабёлы ўжэ ў міне.* Езярышча Гар.

ПРАБО́ЙНІК *м.* Прабой. *Прабо́йнік на дзвярах быў сарваны.* Лісуны Арш.

ПРАВАВА́ЦЦА *незак.* Даказваць сваю правату, пераконваць у сваёй праваце. *Свякроў мая нікому, бывала, не змоўчыць, усё прававалася з людзьмі.* Яроненкі Гар. Параўн. *пра́віць*[1] у 2 знач.

ПРАВА́Л *м.* Размытае вадой месца на дарозе. *Сеялка ніяк не магла праехаць праз права́л.* Клясціцы Рас.

ПРАВАРО́К *м.* Прыстасаванне, апарат для вырабу самагону. *Ля праварка́ дымок клубіўся.* Іванск Чаш.

ПРАВА́РЫНА *ж.* Стойла, адгароджанае месца ў хляве для свойскай жывёлы. *Права́рына малая стала для цялятка.* Свольна В.-Дзв., Рудня Пол., Матырына Уш. Параўн. *прі́гарадка, прыгаро́дка.*

ПРАВЕ́Д *м.* Праведванне, наведванне каго-н. *Да брата ў праве́д во еду.* Ноўка Віц.

ПРА́ВІЦЦА *незак.* Выздараўліваць, папраўляцца пасля хваробы. *Сёння, гляджу, мая малая пра́віцца пачала.* Лужкі Шарк.

ПРА́ВІЦЬ[1] *незак.* 1. Апавядаць, расказваць. *Бабуля ўсё пра́віла, як ад немцаў уцякалі.* 2. Даказваць, пераконваючы ў сваёй праваце. *З унукам рады ніякай не дам: сваё толькі пра́віць мне, а слухаць не хочыць.* Кулакова Віц. *А ён сваё толькі пра́віць, не слухаіць нікога.* Канашы Гар. Параўн. *прававáцца.*

ПРА́ВІЦЬ[2] *незак.* Рамантаваць, праводзіць рамонт, чыніць што-н. *Бацька ў гараж нешта пра́віць пайшоў.* Мазалава Віц. *Павязу цілівізар пра́віць у горад.* Брыжынкі Міёр.

ПРА́ВІЦЬ[3] *незак.* Праведваць, наведваць каго-н. *Кожны месяц яна пра́ве сваю маці.* Бігосава В.-Дзв.

ПРАВО́Д *м.* Водаправод. *А колькі шчасця было, як нам право́д падключылі.* Іванск Чаш.

ПРАВО́ДЗІНЫ *толькі мн.* Вечарынка, урачысты вечар з прычыны адыходу хлопца на службу ў войска. *На право́дзіны да свайго дружка заўтра пойдзе.* Верамееўшчына Дубр. Параўн. *прашча́ліны.*

ПРАГАЙДАМА́ШЫЦЬ *зак., экспр.* Марна патраціць грошы. *Усю пенсію прагайдама́шыў.* Макаравічы Докш. Параўн. *прае́рыць, прашмы́льгаць, прашы́каць.*

ПРАГА́ЛА *ж.* Месца, дзе не ўзышла пасаджаная агародніна; пустое месца на агародзе. *Прага́лаў сёлета хапае на агародзе: засушыла з мая, дажджу ні разу не было.* Гарэлькі Дубр. Параўн. *плям, пралёт, праплёшына, пу́стка, пусто́та, пустэ́чча.*

ПРАГАЛАДАВА́ЦЦА, ПРАГУЛУДУВА́ЦЦА *зак.* 1. Прагаладацца, захацець есці. *Прагаладава́ліся за дзень у ягадах.* Ноўка Гар. 2. Пражыць пэўны час у голадзе, нястачы. *Прагулудува́ліся мы ў вайну дужа.* Старыя Вайханы Гар.

ПРАГА́ЛЕЦ *м.* Прагаліна, не зарослае дрэвамі месца ў лесе; палянка. *На прага́льцу на тым баку ад дарогі сустрэнемся.* Дзеркаўшчына Глыб. Параўн. *прарэ́ха, прачо́с, пусто́ша.*

ПРАГАНЯ́ЦЬ *незак.* Запіваць, выпіваць што-н. разам са спажываннем ежы. *Бульбу харашо малачком праганя́ць.* Лужасна Віц. *Прагані́ пячэнне чаем.* Суша Леп. Параўн. *пріхлёбываць.*

ПРАГА́ПІЦЬ *зак., экспр.* 1. Упусціць час ці зручны выпадак, празяваць. *Суседка мая прага́піла: свіння ў яе апарасілася і парасят падавіла ноччу.* Галубічы, Латышы, Лужкі, Празарокі Глыб., Акцябрскі Чаш. Параўн. *прастро́чыць.* 2. Не заўважыць, прапусціць, прагледзець. *Суседка мая карову прага́піла ўчора, як тая з поля ішла.* Чарневічы Глыб. Параўн. *прахля́паць.*

ПРАГЛО́Т, ПРАГЛО́ТАК *аг., груб.* Пражора, ненажэрны чалавек. *Прагло́т – ніяк не ўкарміць яго.* Ноўка Гар. *Прагло́т гэны ўсё за дзень у халадзільніку падчысціў.* Зябкі Глыб. *Малы яшчэ, а прагло́так, аж страх.* Навумаўка Беш. *Схавай канфет троху, а то ўляцяць прагло́ткі тыя, дык нічога не астанецца.* Будзілава Чаш.

ПРАГНА́ЦЬ *зак.* Запіць, выпіць што-н., аблягчаючы праглынанне. *Што ты сухое ясі? Вазьмі прагані́ малаком, лепш будзе.* Акцябрскі Чаш.

ПРА́ГНУЦЦА *незак.* Хацець, жадаць нечага. *Дачка мая з новым зяцем прыехала, дык суседка ўсё пра́гнецца паглядзець на яго.* Лужкі Шарк.

ПРАГНУ́ЧЫ *прым.* Вельмі прагны, хцівы. *Прагну́чы быў, зладзюга.* Воўкаўшчына Глыб.

ПРАГО́НКА *ж.* Прагон, дарога, па якой ганяюць кароў; выган. *Карову на прагóнку напраў.* Гута Паст. *Карову толькі па прагóнцы гані.* Чаромушкі Шарк.

ПРАДАВА́ЧКА *ж.* Прадаўшчыца. *Прадавáчка наша захварэла – магазін не робіць сёння.* Буда Дубр.

ПРАДА́Ж *м.* Продаж. *Збіраюць рабіну на прадáж і прадаюць.* Воўкаўшчына Глыб.

ПРАДА́ННЕ *н.* Базар, рынак як месца продажу. *Учора на прадáнне ў горад ездзілі, купілі кой-што.* Камары Віц.

ПРАДА́ЎНА *прысл.* Вельмі даўно. *Хата іх прадáўна згарэла.* Ласкаўшчына Глыб. *Ой, і прадáўна гэта было.* Ухлё Чаш. Параўн. *пóдаўна.*

ПРАДБА́НІК, ПРАДБА́ННІК, ПРІБА́НІК, ПРІБА́ННІК, ПРЫБА́ЙНІК, ПРЫБА́НІК, ПРЫБА́ННІК, ПРЫДБА́ННІК *м.* Прылазнік, памяшканне ў лазні, дзе распранаюцца і апранаюцца. *У прадбáніку вядро з вадой пастаў.* Бялынавічы, Старое Сяло Віц. *Я ад яго тады ў прадбáнніку схавалася.* Грушава Чаш. *У прібáніку ўчора сцірала.* Мазалава Віц. *Бяры адзежу ў прібáнніку.* Евіна, Смалоўка Гар. *Раней жыта ў прыбáйніку сушылі.* Бокішава Шум. У *прыбáніку новы венік вазьмі.* Сарочына Уш. *Прыбяру ў прыбáнніку перад баняй.* Ганкавічы, Свяча Беш. *У нас малы прыбáннік, бо баню яшчэ ж з вайны строілі.* Казяны Брасл. *Сціраць буду ў прыбáнніку.* Дзёрнавічы, Іскра В.-Дзв. *Адкрый дзверцы ў прыбáннік – можа, палягчэіць.* Кавалі, Мікуліна, Надазер'е Глыб. *Венікі бярозавыя ў прыбáнніку вісяць.* Ваўкалата, Зарачыцак, Сценка, Тумілавічы, Янкі Докш. *У прыбáнніку душна было.* Велеўшчына, Губіна Леп. *Прыбáннік той даўно нада разабраць.* Стасева Лёзн. *Халат у прыбáнніку другі дзень вісіць: забылася, як мыцца хадзіла.* Драгуны, Мікалаёва Міёр. *У прыбáнніку таз стаіць.* Мяшкова Тал. *Раздзенуцца ў прыбáнніку, а тады ў баню ідуць.* Пралетарыя, Царкавішча Уш. *Выйдзі ў прыбáннік, калі табе дужа душна.* Заессе, Малыя Смальянцы Чаш. *Прыбáннік нада строіць такі, каб месца ўсім хваціла.* Мікіціха Шум. *Сёння нават у прыдбáнніку душна.* Янкавічы Рас. Параўн. *прімы́льнік, прымы́льнік.*

ПРАДВЕ́ДКІ *толькі мн., абрад.* Адведкі, наведванне жанчыны, якая нарадзіла дзіця. *Буду ў прадвéдкі да ўнучкі збірацца.* Плюсы Брасл.

ПРАДВЕ́ЧНЫ *прым.* Спрадвечны, адвечны. *Гэта прадвéчнае слова ў нашай ваколіцы – усе яго знаюць.* Буда Дубр.

ПРАДЗЁРНУЦЬ *зак.* Праехаць, перамясціцца крыху ўперад. *Прадзёрні ты метраў пяць на сваім трактары.* Лужасна Віц.

ПРАДЗІ́ЛЬНА, ПРЯДЗІ́ЛКА *ж., ткац.* Самапралка. *Прадзі́льна і ў нас была, матка на ёй палаценцы, рушнікі ткала.* Вядзерава Беш. *Раней вечарамі бабы за прядзі́лкамі ўсе сідзелі, а не па хатах лыхалі.* Зуі Лёзн. Параўн. *по́цесь, пра́ліца.*

ПРАДУ́ХА *ж.* Адтуліна, дзірка, шчыліна. *У склепе праду́ху адкрый.* Свольна В.-Дзв. *Праду́ху яшчэ не закрывай: бульба спацець можа.* Дзеркаўшчына, Латышы, Чарневічы Глыб. *Праду́хі няма ў нашым склепе.* Пышна Леп.

ПРАДЫ́ХА гл. ПІРЯДЫ́Х

ПРАДЫХА́ЛЬНІК *м.* Засланка. *Печку, як вытапіцца, закрый прадыха́льнікам.* Езярышча Гар. Параўн. *пры́сланка.*

ПРАЕ́РАК *м.* Дзірка ў адзенні. *У халаце, што карову даю, прае́рак зашыць нада.* Абруб Глыб.

ПРАЕ́РЫЦЬ *зак.* Бяздумна, марна патраціць, прагуляць (звычайна пра грошы). *Пенсію ўсю за два дні прае́рыў.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *прагайдама́шыць, прашмы́льгаць, прашы́каць.*

ПРАЖЛО́ *н.* Спечаныя на вогнішчы каласы жыта ці пшаніцы. *На полі пражло́м пахніць.* Андрэева Гар.

ПРА́ЖНЯ *ж.* Амлет, яечня. *Мама мая рабіла ў печы пра́жню дужа ўкусную.* Чыстаполле В.-Дзв.

ПРАЖО́НКА, ПРАЖЭ́НІНА, ПРІЖАНІ́НА ПРІЖЭ́НІНА ПРЫЖЭ́НІНА *ж., кулін.* Пражаніна, страва, прыгатаваная з кавалачкаў тушанага мяса і сала з дабаўленнем мукі. *Як замуж зайшла, ад свякрухі навучылася пражо́нку ў печы гатовіць.* Езярышча Гар. *Сын мой, як прыязджае, дужа пражо́нку любіць: кажа, што ў горадзе жонка не робіць такую.* Сахнавічы Глыб. *На Каляды пражо́нку з блінамі зробім.* Мікалаёва Міёр., Селішча Уш. *Пражо́нку рабіць пайду.* Іванск Чаш., Куціна, Слабада Шум. *Пражэ́ніну тушыць у печ паставіла: дзеці прыедуць – к сталу ж нешта нада.* Бачэйкава Беш. *На абед пражэ́ніну з блінамі есці будзім.* Крывое Сяло Шум. *Пріжані́най у нас называюць мачанку скаромную, калі ў разведзеную муку дабаўляюць сала, каўбас, цыбулі.* Азёркі Гар. *Пріжэ́ніну ў печку пастаў, каб не прастыла.* Лугавыя Віц. *Прыжэ́ніна добрая ўдалася.* Шацяні Сен. *Заўтра можна і прыжэ́ніну зварыць.* Рускі Шум.

ПРАЖО́РЛІЦА *ж., груб.* Поўная, тоўстая дзяўчына. *Бяры, сынку, багатырку, не лянівіцу, не хваслівіцу, не пражо́рліцу, а бяры сухотніцу.* Шаркоўка Леп. Параўн. *перапе́чка*[1] ў 2 знач., *пуздрако́ўна.*

ПРАЖЫ́ЛІНА, ПРАЖЫ́ЛКА, ПРО́ЖЫЛКА *ж.* Доўгая прадольная жэрдка ці планка ў плоце. *Дзед пражы́ліну зрабіў для паркана.* Абольцы Тал. *Пражы́лкі зрабіў, маю штакет – цяпер плот буду рабіць.* Чарневічы Глыб. *Про́жылкі зрабілі з сынам учора – усё гатова, каб абгарадзіць за хатай.* Латышы Глыб.

ПРАЖЫ́ЦЬ *незак.* Пра́жыць, пячы, гатаваць на адкрытым агні ў печы. *Сёння буду пражы́ць мяса з цыбуляй.* Сухавержжа Міёр.

ПРАЗ *прыназ.* Пра (выражае аб'ектныя адносіны, абазначае прадмет размовы, думкі). *Раскажы мне праз усё, як было.* Казечкі Арш. *Увесь вечар з маці праз цябе гаварылі.* Шантары Докш. *Помню толькі троху праз вайну: малая ж была яшчэ.* Еўлахі Тал.

ПРАЗВЕ́ЎКА *ж.* Мянушка. *Не нада празве́ўкі даваць, а то і табе дадуць.* Абруб Глыб. Параўн. *прызы́ўка, пры́квалле, пры́кванне.*

ПРАЗДО́ННЯ, ПРАЗДЭ́ННІЦА *ж.* Прадонне, бездань, прорва. *Сколька ні даю ім грошай, як у праздо́ння нейкае: усё роўна ні хватаіць.* Канашы Гар. *Як у праздэ́нніцу нейкую лезіць і лезіць.* Слабодка Леп.

ПРА́ЗНІЧНАЕ *н.* Святочны пачастунак, абед. *Пастухам, бывала, на тройцу пра́знічнае давалі.* Буда Дубр.

ПРА́ЙНІК[1], ПРА́НІК, ПРА́ННІК[1] *м.* Пернік. *Дай хоць адзін пра́йнік з малаком з'ем.* Абухава, Барсукі В.-Дзв. *Пайду якіх пра́йнікаў к малаку куплю ці яшчэ што: унукі прыедуць.* Хацейка Гар. *У лаўкі сёння пра́йнікаў купіла.* Рускі Шум. *Пра́нікі во на стале, бяры і еш.* Крылаўшчына Шум. *Смачныя пра́ннікі цяпер робяць, з ізюмам.* Баяршчына Уш. *Я табе канфет і пра́йнікаў купіла.* Мурагі Рас., Кулінава Уш., Акцябрскі Чаш.

ПРА́ЙНІК[2], ПРА́ННІК[2] *м., уст.* Пранік, плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны пры мыцці ці абмалоту лёну ў мінулыя часы. *Бабка мая ўсё бяллё пра́йнікам уцюжыла.* Вялікія Лётцы Віц. *Раней пра́йнікам і снапы малацілі, і тряпкі мылі.* Езярышча Гар. *Бывала, пра́йнікам на рэчцы ўсю адзежу выб'ем – мяккая, то і не прасавалі.* Зароўе Леп., Лукашова Паст. *Узяць толькі ды пра́ннікам па спіне.* Надазер'е, Хралы Глыб. *Пра́ннікам бабы і дзеўкі адзенне мылі на возеры.* Ваўкалата, Зарачыцак, Тумілавічы Докш. *Раней толькі пра́ннікамі і мылі.* Верамееўшчына Дубр. *Пра́ннікамі дзеравяннымі раней лён білі.* Абольцы, Еўлахі Тал. *А я адзежу пра́ннікам памяшу-памяшу, дык яна і чыстая, і рукам лягчэй.* Шаўкоўшчына Чаш.

ПРАКАЛО́ТКА *ж.* Кулеш. *Пракало́ткай толькі і карміліся з вайны.* Снегі Міёр.

ПРАКАЛЫХА́ЦЬ *зак., экспр.* Пражыць, праіснаваць. *Вось так і пракалыха́ла з нялюбым разам усё сваё жыццё.* Янава Тал. Параўн. *пракарчэ́ць.*

ПРАКАРЧЭ́ЦЬ *зак., экспр.* Пражыць, праіснаваць. *Баба Насця пракарчэ́ла сваі восемдзесят гадоў і нікога ніколі не абгаварыла.* Старое Лядна Леп. Параўн. *пракалыха́ць.*

ПРАКІДА́ЦЬ *незак.* Прыпраўляць, класці ў страву заправу, закрасу. *Салам кашу пракіда́ю – ды ў печ.* Ахрэмаўцы, Бабышкі Брасл. *Пракі́нула суп жыркам.* Драгуны Міёр.

ПРАКІМА́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Працягнуць, прабавіць час. *Мальцы баяліся дадому ісці, дык на возеры да вечара час пракіма́чылі.* Пліса Глыб.

ПРАКІ́НУЦЬ[1] *зак.* Прапаліць у печы, працпліць. *Халодна – нада ў хаці пракі́нуць троху.* Мазалава Віц. *Пракі́нь у бані заўтра – памыімся вечарам.* Ноўка Гар. Параўн. *праце́пліць.*

ПРАКІ́НУЦЬ[2] *зак.* Прыправіць, пакласці ў страву закрасу. *Пракі́нь суп смітанкай – укусней будзіць.* Канашы Гар. *Пракі́нуў бульбу маслам.* Фарынава Пол. Параўн. *прывало́жыць.*

ПРАКІСЕ́НЯ *ж.* Кіслае малако. *Нанач люблю заўсягды пракісе́ні папіць.* Галубава В.-Дзв. Параўн. *прастакі́ша.*

ПРАКУ́ДА *аг., асудж.* Надакучлівы чалавек (звычайна пра дзіця). *Адчапіся, ідзі займіся чым, праку́да!* Бондарава Шум. Параўн. *прые́длівы, прыліпа́йла, прылі́плівы, прystава́ка.*

ПРАКУ́ДНЫ *прым.* Хворы на заразную хваробу. *Стары нікому не нада: ён жа праку́дны.* Лонск Шарк.

ПРАКУЛО́ГАЦЬ *зак., экспр.* Працерці, памыць збольшага. *Ёй абы пракуло́гаць полкі, а хто мыць будзець?* Ульянавічы Сен.

ПРАЛА́ЗА *аг., асудж.* Пранырлівы, хітры чалавек, прайдзісвет. *Прала́зу гэтую ў хату не пускай.* Свольна В.-Дзв. *Ты не знаіш яго – прала́за яшчэ той!* Гарадок. Параўн. *працíўка, про́йда, псо́тнік.*

ПРАЛЁТ *м.* Месца, дзе не ўзышла гародніна. *На пралёце буракі адсаджваць буду.* Дрысвяты Брасл. Параўн. *плям, прага́ла, праплёшына, пу́стка, пусто́та, пустэ́чча.*

ПРА́ЛІЦА *ж., ткац.* Самапрадка. *Сёлета з хаты на вуліцу вынесла пра́ліцу.* Міхалінава Лёзн. Параўн. *прадзі́льна, прядзі́лка, по́цесь.*

ПРАЛУ́БКА, ПРО́ЛАБКА[1], ПРО́ЛУБ, ПРО́ЛУБКА *ж.* Палонка. *Глядзі ў пралу́бку не праваліся.* Іказнь Брасл. *На возеры з самага краю про́лабка была.* Рубеж, Урбаны Брасл. *Як пойдзеш, у про́лабку на сажалцы не ўваліся.* Моханава В.-Дзв. *Зімой про́лабкі на азёрах робяць, каб рыба дыхала.* Сасноўка Сен. *У про́луб не ўваліся – учора высеклі.* Язвіна Шум. *У про́лубку ўваліўся п'яный.* Канашы Гар. *Сусед паўдня про́лубку прабіваў: дужа лёд тоўсты.* Ласкаўшчына Глыб.

ПРАЛЫ́СІЦЬ *зак., экспр.* Збольшага падмесці ці памыць (пра падлогу). *Пралы́сіла пол трохі – і ладна: хто там глядзіць.* Лазы Тал.

ПРА́ЛЬНІЦА *ж.* Пралля. *Пра́льніц у нас не засталося амаль.* Вялікае Сяло Сен. Параўн. *пря́ха.*

ПРАМЕ́Ж, ПРАМІ́Ж *прыназ.* 1. Паміж. *Як дам праме́ж глаз – будзеш думаць, што гаварыць.* Старое Лядна Леп. *Сеў праміж нас з*

*дзедам.* Хацейка, Канашы Гар. 2. Апрача, акрамя, у дадатак да чаго-н. *Праміж таго, яна добра спявае.* Старыя Крукі Міёр.

ПРАМО́КНУТЫ *дзеепрым.* Намочаны, насычаны вадкасцю ў працэсе прарошчвання (пра насенне). *Прамóкнутую моркву ў суботу садзіць буду.* Стрынадкі Глыб.

ПРАМО́ЎЧЫЦЬ *зак.* Прамаўчаць, не адказаць, ухіліцца ад адказу. *Глядзі, прамóўчыць ён табе!* Замшына Лёзн.

ПРА́НІК гл. ПРА́ЙНІК[1]

ПРАНІКА́НКА *ж.* Запяканка з тварагу. *Вельмі смачная твая пранікáнка!* Камішчына Глыб.

ПРА́ННІК[1] гл. ПРА́ЙНІК[1]

ПРА́ННІК[2] гл. ПРА́ЙНІК[2]

ПРАНТ *м.* Франт (пра гультая). *Прант ты гэткі, нічога не хочаш рабіць!* Быцава, Паўазер'е Беш.

◊ ПРА́НУ ЯГО́ БЯРЫ́, ПРА́НЦЫ ЯГО́ ВАЗЬМІ́! ХАЙ ЯГО́ ПРА́НЦЫ ВО́ЗЬМУЦЬ! ХАЙ НА ЯГО́ (ЦЯБЕ́) ПРА́НЦЫ! БАДА́Й ЦЯБЕ́ ПРА́НЦЫ! Зламыснае пажаданне, праклён. *Прáну ягó бяры́, як ён мне надакучыў, жыць не дае.* Друя Брасл. *От ён даўся мне, прáнцы ягó вазьмі!* Верацея Арш. *Хай ягó прáнцы вóзьмуць, твайго сынка!* Спрынды Брасл. *Хай на цябé прáнцы!* Даўгаполле, Канашы Гар. *А бадáй цябé прáнцы з тваёй работай!* Макаравічы Докш.

ПРА́НЦЫ *толькі мн., лаянк.* Пра дрэннае, нікчэмнае. *Прáнцы, а не работа.* Лужасна Віц. *Прáнцы, а не людзі. Разві ж так можна?!* Канашы Гар. *Сёлета не ўраджай, а адны прáнцы.* Акцябрскі Чаш.

◊ ПРА́НЦЫ ЯГО́ ВАЗЬМІ́! ХАЙ ЯГО́ ПРА́НЦЫ ВОЗЬМУЦЬ! ХАЙ НА ЯГО́ (ЦЯБЕ́) ПРА́НЦЫ! БАДА́Й ЦЯБЕ́ ПРА́НЦЫ! гл. ◊ ПРА́НУ ЯГО́ БЯРЫ́

ПРАПАТО́ПНЫ *прым.* Дапатопны, старамодны, устарэлы. *І была ў нас толькі прапатóпная балалайка.* Гута Паст.

ПРАПЛЕ́ШЫНА *ж.* Месца, дзе не ўзышлі агародныя расліны. *А як гуркі не ўзыдуць, дык праплéшына тады на агародзе.* Бабінічы Арш. Параўн. *плям, прагáла, пралёт, пýстка, пустóта, пустэ́ча.*

ПРАПО́ЛЬНІК *м.* Матыка, прылада для ручной апрацоўкі зямлі. *Рады пара абганяць прапóльнікам: зараслі дужа.* Дрысвяты Брасл. *Два прапóльнікі ў нас дома.* Абруб, Чарневічы Глыб. Параўн. *пéльнік, прыжунóўка.*

ПРАПЯКА́НКА *ж.* Рагатка, невялікая драўляная развіліна з прывязанай да абодвух яе канцоў гумкай для кідання чаго-н. *Нарабілі прапякáнак, страляюць і бегаюць адзін за адным цэлы дзень.* Лужкі Шарк.

ПРАРЭ́ХА *ж.* Разрэз, прарэх. *У цібе ў спадніцы прарэ́ха дужа бальшая.* Канашы Гар.

ПРАРІЗІНКІ, ПРЫРЫЗІНКІ, ПРАРЭЗІНКІ *мн.* Кеды, гумавыя тапкі. *У прарізінках, бывала, на танцы хадзілі.* Канашы Гар. *Прырызінкі былі, як цяпер джынсавыя тапкі.* Абруб Глыб. *Вазьмі во адзень прарэзінкі, ато ногі замочыш.* Паўазер'е Беш.

ПРАРЫЗІНКА *ж.* Праслойка, слой мяса ў сале. *Сала з прарызінкай жарыць.* Бондарава Шум.

ПРАРЭЗІНКІ гл. ПРАРІЗІНКІ

ПРАРЯДЗІЦЬ *зак.* Прарэдзіць. *Моркву ўчору прарядзіла.* Канашы Гар.

ПРАРЭХ *м.*, ПРАРЭХА *ж.* 1. Неўзараны кавалак поля пасярод раллі. *Во прарэхаў нарабіў!* Лескавічы Шум. 2. Не зарослае дрэвамі ці кустамі месца ў лесе. *Як у лес зойдзеш, направа звярні, і прарэха там скора будзе.* Ластавічы Глыб. Параўн. *прагалец, прачос, пустоша.*

ПРАСВЕТ *м.*, ПРАСВЯТЛАСЦЬ *ж.* 1. Прасвет, радасць, шчасце ў жыцці. *Ні з вайны, ні ціперь ніякага прасвету німа.* Канашы Гар. *Няма ёй ніякай прасвятласці, усё робіць і робіць.* Ласкаўшчына Глыб. 2. ПРАСВЕТ Канец. *Усё работа і работа, прасвету ёй німа.* Лужасна Віц.

ПРАСІДАЦЕЛЬ, ПРІСІДАЦІЛЬ, ПРЫСЯДАЦЕЛЬ, ПРЭСІДАЦЕЛЬ *м.* Старшыня калгаса. *Прасідацель у нас харошы.* Заазер'е Тал. *Надумаліcь каго прісідацілім паставіць – мальчышку нейкага.* Бачэйкава Беш. *Прісідаціліm агранома выбралі.* Казловічы Гар. *Прысядацель дужа строгі ў нас у калхозе.* Жарцы Пол. *Прэсідацель цяпер да нас у Крыпулі пераехаў жыць.* Крыпулі Докш. *Прэсідацель на машыне на поле ездзіць.* Дэмскія Міёр.

ПРАСНІК *м.* Прас. *Праснік мой цяжкі дужа, стары ўжо, а працуе спраўна.* Халмы Арш.

ПРАСНУШКА *ж.* Праснак, тоўсты блін з прэснага цеста. *Зранку мама праснушкі пякла часта.* Міхалова Чаш. Параўн. *прэсняк.*

ПРАСОЛ *м.* Запас, тое, што назапашана, сабрана з пэўнымі мэтамі. *Што ў прасол дзяржаць, пара збываць многае.* Ноўка Віц.

ПРАСТАКІША *ж.* Прастакваша, кіслае малако. *Добра, як кароўка ёсць: і малачко сваё, і прастакіша, і смятанка.* Ахрэмаўцы Брасл., Краснаполле Рас. *Налей прастакішы з сабой на сена.* Ёды Шарк. *Нада бліноў напячы з прастакішы.* Яўцерашкі Міёр., Ухлё Чаш. Параўн. *пракісеня.*

ПРАСТАМОЛКА *ж.* Пытляванка, пытляваная мука. *Прастамолку яшчэ цёплую ў мяхі сыпалі.* Шаркаўшчына. Параўн. *пятлёўка.*

ПРАСТАЎЛЯЦЦА *незак.* Наладжваць частаванне з гарэлкай з нагоды якой-н. падзеі. *Калі ўжо прастаўляцца будзеш? А то месяц ужо як сын нарадзіўся.* Мікалаёва Міёр.

ПРАСТАЎЛЯ́ЦЬ *незак.* Прабіраць, лаяць, абгаворваць пры ўсіх. *І давай прастаўля́ць яго за сталом.* Кублічы Уш.

ПРАСТА́ЦЬ *зак.* Змарыцца, стаміцца. *Так праста́ла, бульбу капаўшы.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Так к вечару праста́ла, з ног валюся.* Фарынава Пол. Параўн. *паўхо́двацца.*

ПРАСТРО́ЧАНЫ *прым.* Пра тавар, прадукт, у якога скончыўся тэрмін ужывання. *Зноў прастро́чанае малако прадаюць.* Пераброддзе Міёр.

ПРАСТРО́ЧЫЦЬ *зак.* Прапусціць, упусціць, не выкарыстаць што-н. своечасова. *Прастро́чыла аўтобус сёння.* Бортнікі Глыб. *Прастро́чылі час толька: раней нада было садзіць бульбу.* Мазалава Віц. *Каб мне кіно сваё не прастро́чыць!* Спігальшчына Міёр. Параўн. *прага́піць* у 1 знач.

ПРАСТЫ́ЛЫ *дзеепрым.* Які стаў халодным, астыў. *Не хочаш зараз супу, дык будзеш тады прасты́лы есці.* Шыбекі Арш.

ПРАСТЫ́Н *м.* Прасціна. *І сама бабка ідзе і прасты́н нясе.* Кветча Леп. Параўн. *прасціра́дла* ў 1 знач.

ПРАСТЫ́ЦЬ *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Вынімі суп з печы, каб прасты́ў.* Расходна Сен.

ПРАСТЭ́Й *прым.* Чорны, з аржаной мукі (пра хлеб). *Ці ёсць хлеб прастэ́й у магазіне?* Межава Арш.

ПРАСЦІРА́ДЛА *ж.* 1. Прасціна. *Прасціра́длы раней самі шылі.* Пліса Глыб. *Учора з дачкой усё пасціралі: і бяльё, і прасціра́длы, і наўлечкі.* Мельніца Шарк. Параўн. *прасты́н.* 2. Посцілка, покрыўка. *Гляджу, аж канапа ў яе маёй прасціра́длай засцелена.* Груздава Паст. *Накрый ложак прасціра́длай.* Груздава, Магуны Паст.

ПРАСЦЯ́ЦКІ *прым., экспр.* Няхітры, прастадушны, адкрыты (пра чалавека). *Не бойся, ён прасця́цкі чалавек.* Селішча Уш.

ПРАСЯ́НІК *м.* Верабей. *Прася́нікаў на яблыньку колькі пасела!* Ураджайная Глыб.

ПРАТА́ЛКІ *мн.* Праталіна, месца, дзе растаў снег. *Прата́лкі каля дому ўжо паявіліся.* Узмёны Міёр. *На полі ўжо прата́лкі ёсць.* Шпакоўшчына Пол. *Як прата́лкі паяўляюцца, мы босыя бегаем.* Кудзіны Гар.

ПРА́ТАНКІ *толькі мн.* Хованкі, дзіцячая гульня, у якой адзін шукае астатніх удзельнікаў гульні, якія схаваліся. *Ці пойдзем у пра́танкі гуляць?* Цілеўцы Міёр.

ПРАТАНУ́ЦЬ *зак.* Згінуць, прапасці (у складзе праклёну). *Каб яна пратану́ла, падманшчыца такая!* Селішча Арш.

ПРАТАПЛЯ́ЦЬ *незак.* Нямоцна паліць у печы з мэтай абагрэву памяшкання. *Зімой нада ў бані і пасярэд нідзелі пратапля́ць, каб цёпла было, як суботу мыімся.* Канашы Гар. *Пратапля́ць сёння ўжо не буду.* Груздава Паст.

ПРА́ТАЦЬ *незак.* 1. Біць, моцна лупцаваць каго-н. *Ну і пра́тала тады ж маці яго.* Каўшэлева Шарк. Параўн. *пе́рыць, пэ́тлашыць, пяры́ць, пя́рыць, пяры́ць* у 1 знач. 2. Сячы, ударочы чым-н. вострым, раздзяляць на часткі. *Каля рэчкі нехта цэлы дзень пра́таў дровы.* Коравічы Чаш. 3. Забіваць, знішчаць каго-н. *Зараз буду мух пра́таць.* Чаромушкі Шарк.

ПРАТУПЕ́Я *ж., іран.* Партупея, рэмень. *Дужа я знаю, дзе ты кінуў сваю пратупе́ю ўчора. Можа, на лаўцы ляжыць?* Сахнавічы Глыб. Параўн. *пая́с, по́вяс.*

ПРАЎДЗІ́ВІК *м.* Баравік сапраўдны. *Я толькі праўдзі́вікі збіраю, не хачу другіх грыбоў.* Нурава В.-Дзв. *Цэлы кош амаль праўдзі́вікаў нясу: мясціну добрую абнаружыла.* Лужкі Шарк. Параўн. *праўдзі́вы грыб.*

○ ПРАЎДЗІ́ВЫ ГРЫБ *м.* Баравік. *Больш за ўсё люблю збіраць праўдзі́выя грыбы́.* Пятровічы Шарк. Параўн. *праўдзі́вік.*

ПРА́ЎДЫ *прысл.* Сапраўды. *Пра́ўды так усё было.* Варапаева Паст.

ПРА́ЎНІК *м.* Праўнук. *Можа, дай бог, і пра́ўнікаў во дачакаюся.* Новыя Вайханы Гар.

ПРАЎШНЯ́ *аг.* Чалавек, які валодае правай рукой больш актыўна, лепш, чым левай. *Яна ж у нас не праўшня́, як усе, а ляўшня.* Мельніца Шарк.

ПРАХАДНЫ́ *прым.* Кароткачасовы. *Цэлымі днямі дажджы праходны́я ідуць – не высушым сена.* Вялікае Сяло Сен.

ПРАХАЖА́К *м.* Прахожы. *Прахажа́к нейкі ў вакно стукаў доўга – не пусціла.* Кураполле Паст.

ПРАХЛЯ́ПАЦЬ *зак., экспр.* Празяваць, прапусціць, прагледзець каго- ці што-н. *Куды ты глядзела? Машыну хлебную прахля́пала.* Параўн. *прага́піць* у 2 знач.

ПРАХО́ДАМІ *прысл.* З перапынкамі, час ад часу. *Мяцеліцы сёлета яшчэ не было, снег прахо́дамі ідзе, то ноччу, то днём бывае.* Казлоўшчына Паст.

ПРАЦАВА́ННЕ *н.* Праца. *Якая плата, такое і працава́нне было.* Гастынічы Тал.

ПРАЦАВЕ́НЬ *м.* Працавіты чалавек. *Працаве́нь ён добры быў, рукі залатыя меў.* Зерчаніцы Уш.

ПРАЦАЎНЫ́ *прым.* Працавіты. *А мы работы не баімся: людзі працаўны́я.* Брыжынкі Міёр.

ПРАЦЕ́ПЛІЦЬ *зак.* Прапаліць у печы. *Нада печ праце́пліць трохі.* Кулакова Віц. *Праце́плім у бані заўтра.* Канашы Гар. Параўн. *пракі́нуць.*

ПРАЦІЎКА *аг., лаянк.* Паганец, дрэнны, подлы чалавек. *З гэтай працíўкай ніхто з нашых баб і звязвацца не хоча.* Сабалі Чаш. Параўн. *псóтнік.*

ПРАЦУДЭ́РА *аг., экспр.* Дзівак, чалавек з незвычайнымі звычкамі, поглядамі; выдумшчык. *Ну і працудэ́ра: як выдумае, дык выдумае.* Чарневічы Глыб. Параўн. *прычýддзе.*

ПРАЦЫЦЫРАВА́ЦЬ *зак.* Абгаварыць, нядобразычліва ахарактарызаваць каго-н. *Бабы ў нас толькі і могуць што працыцыравáць адна адну.* Груздава Паст.

ПРАЦЯРÓБКА *ж.* Працярэбліванне. *Працярóбка ідзе – гэта лінейку сякуць.* Гарэлькі Дубр.

ПРАЧÓС *м.* Прагаліна, не зарослае дрэвамі месца ў лесе. *Управа зварочвай, а там прачóс будзе.* Суднікі Арш. Параўн. *прагáлец, прарэ́х, пустóша.*

ПРАЧЎТКІ *мн.* Чуткі, весткі пра каго- ці што-н. *Прачýткі пра яе нехарошыя ходзяць.* Зубава Арш. *З вайны пра дзеда ні чуткі ні прачýткі не было.* Астроўна Беш.

ПРАЧУХА́НКА, ПРАЧУХÓНКА *ж., экспр.* Праборка, вымова за што-н. *Прачухáнку ён ужэ ад міне палучыў.* Вярэчча Гар. *Вечарам устрою табе прачухóнку.* Грышына Рас. Параўн. *пытка*[1].

ПРАЧЎХАЦЦА, ПРАЧХА́ЦЦА *зак., экспр.* Працверазіцца пасля сну (пра п'янага чалавека), праспацца. *Мой мужык дык толькі на другі дзень пасля п'янкі той прачýхаўся.* Заполле Арш. *Прачхáецца і зноў глядзіць, каб дзе напіцца.* Акцябрскі Чаш.

ПРАЧХНЎЦЦА *зак.* Прачнуцца, прабудзіцца. *Прачхнýлася я ранелька тады.* Ляды, Опліса Брасл. *Прачхнýўся ён, як у горад уехалі.* Полымя Сен. *Прачхнýўся ў кумавай хаце.* Селішча Уш.

ПРАЧЫ́ХАЦЦА *зак.* Прачухацца, прачнуцца, прыйсці ў сябе. *Толькі прачы́халася – і за работу.* Брыжынкі Міёр.

ПРАЧЫХА́ЦЦА *незак.* Прачынацца. *Прачыхáюся ранічкай – аж бачу: кот на стале каля місак спіць.* Чарневічы Глыб.

ПРА́ШКІ *мн.* Выдумкі, глупства, хлусня. *Усё гэта прáшкі, нікога ты ні слухай, у цябе свая галава на плячах.* Мішкавічы Шум.

ПРАШМАНА́ЦЬ *зак., экспр.* Перабраць, ператрэсці, перагледзець (рэчы). *Трэба прашманáць усё адзенне ды павыкідваць нянужнае.* Проземля Чаш.

ПРАШМЫ́ЛЬГАЦЬ *зак., экспр.* Бяздумна, без патрэбы растраціць грошы. *Прашмы́льгаў кароўку за месяц, усё развёў, што было.* Стар Арш., Акцябрскі Чаш. Параўн. *прагайдамáшыць, праéрыць, прашмы́льгаць, прашы́каць.*

ПРАШТАБНАВА́НЫ *дзеепрым.* Прашыты, прастрочаны. *Джынсы жоўтымі ніткамі праштабнавáны – во мода пайшла!* Папіна Сен.

ПРАШТРА́ПІЦЦА *зак.* 1. Правінаваціцца ў чым-н. *Праштра́пілася дзеўка, нарадзіўшы без мужа.* Анэліна Тал. *Праштра́піўся мой сын: доўга не мог грошы аддаць, што задалжаў быў.* Канашы Гар. 2. Аказацца ў нявыгадным для сябе становішчы. *Праштра́піліся мы на базары, бульбу прадаваўшы.* Вярэчча Гар. *Праштра́піўся ты з машынай: можна было і болей узяць за яе.* Казловічы Гар.

ПРАШЧАВА́ЙЦЕ *выкл.* Бывайце, да пабачэння (як формула развітання). *Ну, прашчава́йце, будзем жывы – звідзімся.* Калышкі Лёзн.

ПРАШЧА́ЛІНЫ *мн.* Вечарынка, урачысты вечар з прычыны адыходу хлопца на службу ў войска. *Ці пойдзіш к другу на прашча́ліны?* Вярэчча Гар. *Запрасілі на прашча́ліны даўно.* Ульянавічы Сен. Параўн. *траво́дзіны.*

ПРАШЫ́КАЦЬ *зак., экспр.* Патраціць усе грошы. *Прашы́кала ўсю пенсію ў магазіне.* Празарокі Глыб. Параўн. *прагайдама́шыць, пра́ерыць прашмы́льгаць.*

ПРАЯ́ВА *аг., асудж.* Распусны, непаслухмяны чалавек, свавольнік (звычайна пра дзіця). *З такой прая́вай я не застануся на цэлы дзень – сама глядзі свайго дзіцёнка, раз васпітываць не ўмееш, як нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Не ўнук, а прая́ва: робіць, што ўздумаіцца.* Канашы Гар. *Ужо сабралася гуляць, прая́ва: у горад паедзе, даўно не была.* Замачак Чаш.

ПРІБАМБА́СЫ, ПРЫБАМБА́СЫ *толькі мн.* 1. Начынне, набор прадметаў, інструментаў для выканання якой-н. работы. *Тут во сваі прібамба́сы мой мужык кладзець: малаткі, гвоздзі, жалеззе ўсякае.* Лужасна Віц. *Складзі прыбамба́сы свае.* Азярок Арш. 2. Сукупнасць прадметаў касметыкі. *А божа ж мой, колькі ў яе прыбамба́саў усякіх, каб красату наводзіць!* Латыгаль Сен.

ПРІБА́НІК, ПРІБА́ННІК гл. ПРАДБА́НІК

ПРІ́БАРАЗДАК гл. ПРА́БАРАЗДАК

ПРІБАРАХЛІ́ЦЦА, ПРЫБАРАХЛІ́ЦЦА *зак., экпр.* 1. Прыадзецца, набыць сабе новую адзежу. *Саўсім ужэ абнасілася, паеду ў горад, прібарахлюся к унучкінай свадзьбі троху.* Канашы Гар. *На базар паедзім: прыбарахлімся трошку к лету.* Белая Ліпа Сен. 2. Модна, прыгожа апрануцца. *Бачу, прыбарахлілася. Пойдзеш некуды?* Славені Тал. *Саседка наша во некуды прыбарахлілася, на ранішні аўтобус пабегла.* Вяцера Чаш. Параўн. *прыстро́іцца²,* *прычапу́рыцца.*

ПРІБІРА́ЦЬ, ПРЫБІРА́ЦЬ *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы, даглядаць гаспадарку. *Пайду на двор прібіра́ць, пакуль не цёмна.* Мазалава, Навасёлкі Віц. *Зімой увечары рана прібіра́ць ідзём.* Канашы,

Ноўка Гар. *Пайду скот прыбіра́ць.* Гаршчэўшчына Тал. Параўн. *паро́цца, по́рацца, по́ркацца, прыбіра́цца, пыні́цца, пя́хацца.*

ПРІБО́РЫ, ПРЫБО́РЫ *толькі мн.* 1. Прыборка, прыбіранне; уборка. *Пасля тваіх прібо́раў ні найдзіш нічога.* Лужасна Віц. *Займіся прібо́рамі ў хаці.* Канашы Гар. 2. Уборы, адзенне. *Ёй адны прібо́ры ў галаве.* Мазалава Віц. *Прыбо́ры нам не нада, а на хлеб грошай хваціць.* Панізоўе Арш. *Раней не глядзелі, каб якія прыбо́ры надзець.* Прыветак Сен. 3. Пасаг. *Пакладу во гэта дзеўкам сваім у прыбо́ры: можа ж, замуж каторая пойдзе скора.* Крывыя Тал. Параўн. *пры́данае, прыда́нае, прыда́ннае.*

ПРІГАРАДКА, ПРЫГАРО́ДКА *ж.* Стойла, адгароджанае месца ў хляве для свойскай жывёлы. *У прі́гарадку цялёнка заганяй.* Казловічы Гар. *У прыгаро́дку саломкі пакладзі, каб парсючку мякчэй было.* Пшанічана, Стадолішча Гар. *У хляве сёлета прыгаро́дку зрабілі – авечак туды паставім.* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *права́рына.*

ПРІГО́РШНЯ, ПРЫГО́РШНЯ *ж.*, ПРЫГО́РАШ *м.*, *часцей* ПРІГО́РШНІ, ПРЫГО́РШЧЫ *мн.* 1. Прыгаршчы, складзеныя разам далоні так, каб імі можна было што-н. набіраць, трымаць і інш. *Цэлую прігóршню ягад смехам назбірала.* Канашы Гар. *Дзержыць у прыгóршні грыбы.* Ласкаўшчына Глыб. *Трымай прыгóраш – арэхаў насыплю.* Старое Лядна Леп. *Лапату забылі, дык прігóршнямі пясок у вядро насыпала.* Кулакова Віц. *Давай прігóршні дзяржы, ягад насыплю.* Ноўка Гар. *Сып во ў прыгóршчы.* Кублічы Уш. 2. ПРІГО́РШНІ, ПРЫГО́РШЧЫ Колькасць чаго-н., якая ўмяшчаецца ў прыгаршчы. *Трое прігóршній бруснікі – і вядро цэлае будзіць.* Мазалава Віц. *Двое прыгóршчаў мукі яшчэ ў цеста ўсыпала.* Лукашова Паст.

ПРІДЗЕ́РЖЫЦЬ[1], ПРЫДЗЕ́РЖЫЦЬ *зак.* 1. Прытрымаць, не даць упасці. *Прідзéржы стул, каб не заваліўся.* Казловічы Гар. *Яны мяне прыдзéржылі, ато б звалілася.* Стражава Дубр.

ПРІДЗЕ́РЖЫЦЬ[2] *зак.* Прытрымаць, прыхаваць, прыберагчы да нейкага часу. *Грошы прідзéржыць не палучаецца: адны расходы кругом.* Лужасна Віц. *Прідзéржы ў сібе дзе-нібудзь плуг на лета.* Канашы Гар. Параўн. *пріжу́чыць* у 1 знач.

ПРІДЛО́ЖЫЦЬ, ПРЭДЛО́ЖЫЦЬ *зак.* Прапанаваць, выказаць, унесці прапанову. *Прідлóжылі мне ў магазіні работаць.* Ноўка Гар. *А затым прэдлóжылі мне стаць заўклубам.* Крывыя Тал.

ПРІЖУ́ЧЫЦЬ, ПРЫЖУ́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* 1. Прыхаваць, пакінуць на запас, зберагчы што-н. для сябе. *Пріжу́чыла грошай трошкі з пенсіі.* Кулакова Віц. Параўн. *прідзержыць*[2]. 2. Прысвоіць, зрабіць што-н. чужое сваёй уласнасцю. *Любіць чужое прыжу́чыць.* Скоаг Сен. 3. Прымусіць, абавязаць што-н. зрабіць. *Як пріжу́чыш рібят, дык і здзелаюць хоць нешта па дому.* Казловічы Гар.

ПУПСА́ *ж., памянш.* ПУ́ПСІК *м.* Кутас. *Шапку з пу́псікамі сваёй малой купіла.* Заезвіна Беш. *І шапка ў яе харошанькая, з пу́псікам.* Новыя Валосавічы Леп. *А пупсы́ якія ў цябу на шапцы!* Чарневічы Глыб.

ПУПУГА́ІЛА, ПУПУГА́ЙЛА гл. ПУГА́ЙЛА

ПУПУРЫ́ШКА, ПУПЫРЫ́ШКА, ПУРПУРЫ́ШКА *ж.* 1. Маленькі бугарок на скуры. *Як з вады вылезеш, пупуры́шкі па целу.* Башні Шум. *Са страху пупуры́шкамі пакрылася ўся.* Мазалава Віц. *Ад холаду цела пупуры́шкамі пайшло.* Канашы Гар. *Гаворыш, што не холадна, а сам пупыры́шкамі пакрыўся.* Гарэлькі Дубр. 2. Сып; пухір, балючае ўздутае месца на скуры. *Мошкі ўсё цела з'елі, усе рукі во ў пупуры́шках другі дзень.* Расоны. *Пупыры́шка нейкая ўскочыла – к урачу нада было б.* Лужасна Віц. *Як з'ела клубнікі, так уся пурпуры́шкамі і пакрылася.* Сокарава Беш.

ПУПЫ́ *мн.* Сцёблы дзьмухаўцоў, якія адцвілі. *Пупы́ гэтыя лепш зусім не касіць, яны вельмі доўга сохнуць.* Сваташыцы Дубр.

ПУПЫРЫ́ШКА гл. ПУПУРЫ́ШКА

ПУПЫ́Х гл. ПУ́ПАК

ПУРПУРЫ́ШКА гл. ПУПУРЫ́ШКА

ПУ́РХАЎКА гл. ПО́РКАЎКА

ПУРХЛЯ́НЫ *прым.* Няроўны, пакручасты. *Лён сёлета нейкі руды, пурхля́ны.* Гаравыя Пол.

ПУРХО́ЎКА гл. ПО́РКАЎКА

ПУРЫ́М *м.* Прыпар, час касьбы ці жніва. *Пуры́м – сена касіць пара, а то дажджы пойдуць.* Сакольнікі Віц. *Не да парадку ў хаце: пуры́м зараз, сена косім.* Труды Пол. Параўн. *пі́льніца* ў 1 знач.

ПУСТАКВЕ́Т *м.* Пустацвет, кветка без завязі, якая не дае пладоў. *Адзін пустакве́т сёлета.* Слабада Глыб.

◊ ПУСТАЛЬГУ́ ГАВАРІ́ЦЬ Гаварыць абы-што, хлусіць. *Пуста́льгу гаво́ріць цэлый дзень – аж слухаць праціўна.* Канашы Гар.

ПУСТА́ННЕ *н.* Мясціна, не пакрытая расліннасцю. *Кругом адно пуста́нне.* Латыголічы Чаш.

ПУСТАТА́ *аг., неадабр.* Пустасмех. *Пустата́ гэтая і з пальца будзе смяяцца.* Замачак Чаш.

ПУСТАЦЕ́ЛА *н.* Гародніна, полая ўнутры. *Сёлета не радыска, а адно пустаце́ла.* Лепель. Параўн. *пу́стач, пусты́шка.*

ПУ́СТАЧ, ПУСТЫ́ШКА *ж.* Гародніна (часцей радыска, рэдзька), полая ўнутры. *Добрай рэдзькі мала, адна пу́стач.* Мікіціха Шум. *У гэтым годзе дужа горкая радыска і пусты́шак шмат.* Слабада Шум. Параўн. *пустаце́ла.*

ПУ́СТКА, ПУСТО́ТА *ж.*, ПУСТЭ́ЧЧА *н.* Месца, участак на агародзе, дзе не ўзышла агародніна. *Пу́стку ў нізіне агарода, дзе бульба адмякла, буду буракамі адсаджваць.* Доўжа, Котава Віц.

*Пустку на агародзе нечым трэба засадзіць.* Выдрэя Лёзн. *Дужа многа пустóт на агародзе сёлета.* Селішча Леп. *Дрэнна бульба на агародзе ўзышла – адно пустэ́ча, куды ні глянь.* Гарэлькі Дубр. Параўн. *плям, прагáла, пралёт, праплéшына.*

ПУ́СТЛА *ж., зб.* Пустазелле, якое застаецца пасля ачысткі (прасейвання) збожжа. *Адна пýстла, а не ячмень!* Шарагі Міёр.

ПУСТО́ША *ж.* Просека. *На пустóшы многа апят нашла.* Кузняцова Віц. Параўн. *прагáлец, прарэ́х, прачóс, прóлабка.*

ПУСТУ́НЯ *ж.* Пустая, неўрадлівая глеба. *Нічога расці не хоча: пустýня там.* Воўкаўшчына Глыб. Параўн. *пясчýра, пясчы́на.*

ПУСТЫ́ *прым.* Бяздзетны. *Пустóму цяжка жыць, у старасці няма вады каму падаць.* Язна Міёр.

ПУСТЫ́ШКА гл. ПУ́СТАЧ

ПУСТЭ́ЛЬ *м.* Халодны цагляны будынак, памяшканне. *Ну што гэта за дамы робяць, пустэ́лі нейкія, а не кватэры!* Таўкіні Шарк.

ПУСТЭ́ЛЬНІК *м.* Балбатун, пустаслоў, пляткар. *Твой брат такі пустэ́льнік, лепш бы ўжо маўчаў.* Серкавіцы Тал.

ПУСТЭ́ЧА гл. ПУ́СТКА

ПУСЦЫ́ *мн.* Галёнкі. *І чаго гэта так пусцы́ разныліся?* Каўровая Дубр.

ПУСЬ *часц.* Няхай. *Пусь ён тады зойдзе сёння.* Вялікае Лёзн.

ПУ́ТА *аг., лаянк.* 1. Непаслухмяны, незгаворлівы чалавек. *Пýта ты, а не малец: не згаворыцца з табой ніхто.* Гарбачэва Рас. Параўн. *пракýда* ў 2 знач., *праява.* 2. Неадукаваны, нявыхаваны, распусны чалавек. *Во дык кавалера адхваціла ўнучачка: пýта нейкае.* Канашы Гар. *Пýта ты, хоць і ў школу дзесяць гадоў адхадзіў.* Вялікая Пярэспа Сен.

ПУТНО́Е *н.* Карыснае, якое прыносіць карысць. *Зрабіў бы лепш што-небудзь путнóе па дому, чым прападаць абы-дзе.* Каўровая Дубр.

ПУ́ТНЫ *прым.* Добры, умелы, старанны, здольны. *Пýтны хлопец вырас.* Кавалі Гар.

ПУ́ТРА *ж.* 1. Каша. *Зрабі агонь меншы, а то пýтра збяжыць.* Дрысвяты Брасл. *З'ешце хоць пýтры з грэчкі.* Барсукі В.-Дзв. *Пýтру прыпраўляю – і ў печ, а як упарыцца, тады жоўценькая становіцца.* Ласкаўшчына Глыб. *Пýтра ў бабулі заўсёды смачная выходзіла, хапала і масла, і солі.* Мікуліна Глыб., Мікалаёва Міёр. 2. Хлебны квас, солад. *Мама з хлебных корак, бывала, пýтру рабіла – пілі ўсе з удавольствіем.* Кавалі Глыб. *Даўней пасты пасцілі, дык якую перапечку з пýтрай з'ясі – і ходзіш так.* Койры Паст.

ПУТРАНЫ́ *прым.* Густы крупяны суп. *Суп путраны́ есці будзеце?* Валынцы В.-Дзв.

ПУХ *м.*, ПУХА́ *ж.*Тупы канец яйка. *У яйца ёсць нос, а тупы канец у нас пух называюць.* Вяцера Чаш. *Давай пойдзем на байца, дзяржы пухý, а я носам біць буду.* Моханава В.-Дзв.

ПУХАВІ́К, ПУ́ХАЎКА гл. ПО́РКАЎКА

○ ПУХАВЫ́ ГРЫБ *м.* Порхаўка, шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханніператвараецца ў цёмны пыл. *Пухавы́м гры́бам ногі лечаць, калі на іх язвы.* Дразды Беш. Параўн. *по́ркаўка, пу́рхаўка, пурхо́ўка, пухаві́к.*

ПУХАВЫ́ *прым.* Пуховы, зроблены з пуху. *У госці як еду, бывала, платок пухавы́ завязываю.* Старыя Вайханы Гар.

ПУ́ХАЛЬ *м.* Кубак, невялікая пасудзіна з ручкай для піцця. *Падай ты мне пу́халь.* Цяцеркі Брасл.

ПУ́ХЛІК *м.* Мучны выраб з цеста на кіслым малацэ; пірог. *Пу́хлік сёння ўдаўся, хаця б з малачком з'еў хто.* Папоўка Сен. Параўн. *перапе́чка*[1] ў 1 знач., *плю́шка*[2], *пы́жык.*

ПУХЛІ́НА *ж.* Падушка. *У шкапу пухлі́н многа, адна на адной ляжаць.* Заазер'е Тал.

ПУХЛЯ́НІК *м.* Кажух, доўгая верхняя вопратка з выробленых аўчын; цёплая куртка на пуху. *Адзень пухля́нік: мароз на дварэ.* Бешанковічы.

ПУХНА́ЦІК *м., памянш.* Пухнаты, пушысты кот. *Наш пухна́цік у хату просіцца.* Замачак Чаш.

ПУХО́ВІК *м.* Цёплы вязаны світар. *Пухо́вік надзень, усё ж цяплей будзе.* Папшычы Глыб.

ПУХО́ЎКА *ж.* Цёплая пуховая хустка. *Стаяла, пухо́ўкай абкрыўшыся.* Лазічы, Папшычы Глыб. Параўн. *пінча́нка, пянько́ўка.*

ПУЦ *м.* Сякера. *Як ехаў, пуц згубіў недзе.* Кулінава Уш.

ПУЦА́К, ПУ́ЦУК гл. ПАЦ

ПУ́ЦІК *м., часцей* ПУ́ЦІКІ *мн.* 1. *экспр.* Сліна. *Чаго пу́цікі распусціў?* Канашы Гар. 2. Пот. *Работаць нада так, каб аж пу́цікі цяклі.* Слабадзішча Лёзн. 3. Разводы, няроўныя, звілістыя падцёкі (звычайна на вокнах); брудныя разводы. *Увесь твар у пу́ціку. Дзе валяўся?* Міхалінава Лёзн. *Усё вакно ў пу́ціках.* Свяча, Сініцы Беш. *Пу́цікі зімой на вокнах часта бываюць.* Лужасна Віц. 4. *перан.* Вадкасць, сок, які выдзяляецца з кумпяка пры вэнджанні. *Калі вісіць кумпяк і з яго капаюць пу́цікі – пойдзець дождж.* Ульянавічы Сен.

ПУЦЯ́ *ж.* 1. Чыгунка. *Сын мой на пуці́ працуе.* Селішча Арш. *Сёлета каля пуці́ бульбу садзіць не будзем.* Лужасна Віц. *За пуцёй адразу лес.* Навязкі Сен. 2. *перан.* Шлях, жыццёвая дарога, кірунак у жыцці. *Кожны сам сабе сваю пуцю́ выбірае.* Баравуха Пол.

ПУЧО́К *м.* Адкрыты, без даху трактар. *А вот гэта калгасны пучо́к паехаў.* Ваўчо Уш. Параўн. *петушо́к, пы́хцік.*

ПУЧТУ́ФКА *ж.* Паштоўка. *Яна дужа любіла атрымліваць пучту́фкі з Польшчы.* Савуткі Шарк.

ПУ́ЧЧА, ПУЧЧО́ *н., зб.* Сцёблы раслін. *Пу́чча ў кусты за гарод вынось.* Лялеўшчына Гар. *Досыць ужо пу́чча насіць: павяне.* Каўровая Дубр. *Пуччо́ хвасолі вісіць у сенях.* Весніно В.-Дзв.

ПУШАНІ́ЦА *ж.* Пшаніца, хлебны злак. *У етым годзе, відаць, пушані́ца добра ўродзіць: і сушыць, і палівае.* Ляды Дубр. *Пушані́цу летам зжалі мы яшчэ з бацькам.* Сваташыцы Дубр.

ПУ́ШКА[1] *ж., памянш.* ПУ́ШАЧКА 1. Каробка, невялікая скрынка. *У розных пу́шачках у яе розныя лекі стаяць.* Варапаева Паст. *Прынясі пу́шку з фотаздымкамі.* Булахі, Верхняе, Чарневічы Глыб. *У пу́шцы іголку вазьмі ды зашый.* Расходна Сен. *У пу́шачкі з-пад канфет для малога шмат цікавага было.* Вялікія Дольцы, Завыдрына, Кулінава Уш. 2. Пачак (запалак). *Ціпер ужо і пу́шка спічак сто рублёў стоіць.* Пагошча Брасл. *Пу́шка спічак на акне валялася ўчора.* Дзеркаўшчына Глыб. *Дай пу́шку спічак мне.* Перавознікі Паст. 3. Бляшанка. *Налей малачка свежага для ката ў пу́шку.* Арэхаўск Арш.

ПУ́ШКА[2] *ж.* Стрэльба. *Помню, як пашлі мы з пу́шкамі мядзведзя валіць.* Язна Міёр. Параўн. *прыпяка́нка, пуга́ч* у 1 знач.

ПУ́ШЧАЙ *прысл., выш.* Горш. *Пу́шчай за яе зяця ні ў кога зяця няма.* Мішкавічы Шум.

ПУШЧА́Й *часц.* Няхай. *Пушча́й да мяне заўтра прыходзіць.* Весніно, Задзежжа В.-Дзв.

ПУ́ШЧЫ *м., асудж.* Каварны, вераломны чалавек. *І нашто мне гэтага пу́шчага падаслалі?* Мазурына Шум.

ПУ́ШЫЦЬ *незак., безас.* Раздуваць (пра чалавека ці жывёлу). *Пу́шыць карову ад атавы начало.* Канашы Гар.

ПХА́НАЎКА *ж.* Вантрабянка. *Як свінню заб'ём, пха́наўкі ды крывянкі наробім.* Сураўні Шум. Параўн. *печанёўка, пічанёўка.*

ПХНУ́ЦЦА *незак., экспр.* Павольна ісці, рухацца; прабірацца, прадзірацца. *Пхну́ліся паціху да магазіна. Цэлы час праз лес ды кусты пхну́ліся.* Зябкі Глыб.

ПЧАЛІ́НА *толькі адз.*, ПЧО́ЛА, ПШЧАЛА́, ПШЧО́ЛА, *памянш.* ПШЧО́ЛКА *ж.* Пчала. *У хату пчалі́на заліцела.* Кулакова Віц. *Пчалі́на за руку ўкусіла – пайду содай памажу.* Казловічы Гар. *Ні адной пчалі́ны на агурках не бачна.* Шклянцы Докш. *Блізка і не падыходзіў, а ўсё роўна пчалі́на ўкусіла.* Шклянцы Докш. *Пчалі́на каля каровы ў хлеве лётала – чуць адагнала.* Гастынічы, Дабравольск Тал. *Укусіла пчо́ла за ліцо.* Багушэўск Сен. *У хату пшчала́ залящела, дык спужаліся, што пакусае.* Баршчоўка Віц., Кавалі, Лашукі, Лынтупы Паст., Багушэўск Сен., Сутокі Шум. *Майго бацьку пшчо́лы як пакусаюць, дык апухае ўвесь.* Муляры, Турлы Паст. *Пшчо́лак многа – значыць і ягад многа будзець.* Стары Лепель Леп.

ПЧО́ЛЬНІК[1] *м.* Пчаляр. *Пчо́льнік, а мёду хоць бы калі проста так даў. Толькі за грошы.* Замошша Брасл.

ПЧО́ЛЬНІК[2], ПЧЭ́ЛЬНІК *м.*, ПЧЭ́ЛЬНЯ *ж.* Пасека, пчальнік. *Вунь твой кот, каля пчо́льніка сядзіць.* Паўазер'е Беш. *У пчэ́льніку буду ліпу садзіць і верх яе затым зламаю, штоб яна кусцілася. Рой на яе сядзіць, а мне яго будзіць лягчэй у раёўню зняць.* Азёркі Гар. *У абед пчэльнік быў пусты, як вымер.* Лескавічы Шум. *На пчэ́льню, дзетка, не хадзі: пчолы пакусаюць.* Радчонкі Гар.

ПШАНІ́ЧЫШЧА *ж.*, ПШО́НІЧНІК *м.*, ПШЭНАЎЁ *н.* Іржышча, поле, на якім зжалі пшаніцу. *Стог злажылі на пшані́чышчы.* Дразды Беш., Пралетарыя Уш. *Пшо́нічнік абараць трэба.* Шарагі Міёр. *Пустое ўжо пшэнаўе́ стала.* Крупяжына Сен.

ПШАННЫ́, ПШО́ННЫ, ПШО́НЫ, ПШЭ́ННЫ *прым.* Пшанічны. *Пшанна́я мука белая.* Селішча Уш. *Кашкі пшо́ннай увечары зварім.* Канашы Гар. *Пшо́ныя бліны пяку.* Заполле Беш. *На поле нам кашу пшо́ную прывозілі часта.* Ваўкалата Докш. *Пшэ́нную муку з новага мяшка бяры.* Магуны Паст.

ПШО́НІК, ПШО́ННІК *м.* Блін, спечаны з пшанічнай мукі. *Пшо́нікі ў печы добра палучаюцца.* Заполле Беш. *Хадзі пшо́нікаў маіх пасправуй.* Шыці Шарк. *Пакуль печ уранку топіцца, пшо́ннікі спяку свайму хазяіну.* Бортнікі Глыб. *Мама часта нам пшо́ннікі з сабой у школу давала.* Шантары Докш.

ПШО́НІЧНІК гл. ПШАНІ́ЧЫШЧА

ПШО́НКА[1] *ж.*, ПШЭ́НКА *ж.* 1. Крупы з проса. *Пакет з пшо́нкай у стале ў карідоры стаіць.* Мазалава Віц. *Забыла пшо́нкі ціплятам купіць.* Канашы Гар. *Прывязі пшэ́нкі, а то цыплят карміць нечым.* Рэпухава Арш. 2. Прасяная каша. *Як у арміі служыў, пшо́нку часта давалі.* Лужасна Віц. *Пшо́нкі як пад'ясі, дык цэлый дзень дзержыць.* Ноўка Гар.

ПШО́НКА[2] *ж.*, ПШО́ННЕ *н., зб.* Салома са сцёблаў пшаніцы, якія застаюцца пасля абмалоту. *Жытняй саломы ўжэ німа, дык пшо́нку будзім на подсціл браць.* Заазер'е Гар. *Пшанічную салому ў нас пшо́нкай завуць.* Ходцы Сен. *Пшо́нку сёлета рана з поля прыбралі.* Шасцярні Уш. *Пшо́нку дождж мочыць на полі другі дзень.* Дуброва Шум. *Пшо́нне ў снапы звяжам.* Грыцы, Папшычы Глыб.

ПШО́ННЫ, ПШО́НЫ гл. ПШАННЫ́

ПШЧАЛА́, ПШЧО́ЛА, ПШЧО́ЛКА гл. ПЧАЛІ́НА

ПШЫ́КАЎКА *ж.* Пырскаўка, прыстасаванне для распырсквання чаго-н. *Дзізадарант выкінуць нада: пшы́каўка зламалася.* Сокарава Беш.

ПШЫ́КНУЦЬ *незак.* Пырснуць, распыліць што-н. *Пшы́кнулась духамі перад дарогай.* Сокарава Беш.

ПШЫПАЛЁНЫ *дзеепрым.* Падгарэлы. *Сягоння пшыпалёныя бліны будуць: агонь вялікі.* Камаі Паст.

ПШЫШ *займ.* Нічога. *Хацеў многа, а палучыў пшыш.* Ляды Дубр.

ПШЫЯ́ЦЮЛКА *ж.* Блізкая сяброўка, прыяцелька. *Мы з суседкай маёй з дзетства самага пшыя́цюлкі.* Галбея Паст.

ПШЭК *м.* 1. Паляк. *Не люблю я пшэкаў, і матка мая не любіла.* Дрысвяты Брасл. *Пшэк і да нас дайшоў.* Мыкава В.-Дзв. 2. Выхадзец з Заходняй Беларусі. *Замуж за пшэка вышла, дык і мучаюсь.* Марцінава В.-Дзв.

ПШЭ́КАЦЬ *незак.* Размаўляць па-польску. *Як яны там пшэкаць пачынаюць, я не разумею нічога.* Дрысвяты Брасл.

ПШЭНАЎЁ гл. ПША́НІЧЫШЧА

ПШЭ́НКА гл. ПШО́НКА[1]

ПШЭ́ННЫ гл. ПШАННЫ́

ПШЭ́ЦЫЯ *ж.* Заходняя Беларусь, тэрыторыя якой у мінулыя часы знаходзілася пад уладай Польшчы. *Бацькі асталісь пахаваныя ў Пшэцыі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЫ́ЖЫК *м.* Пончык, піражок, спечаны на кіслым малацэ. *Давай пыжыкаў з макам надзелаім.* Зарэчча Арш. *Нада пыжыкаў на кіслым малацэ спеч, бо хлеб не ўкіс.* Даўгабор'е Рас. Параўн. *перапе́чка[1]* ў 1 знач., *плю́шка[2]*, *пу́хлік.*

ПЫ́ЗЫ *мн., кулін.* Бульбяныя клёцкі, начыненыя мясам. *Унукі мае, што з горада, дужа пызы з печы любяць.* Ласі Глыб.

ПЫЛЁНАК *м., часцей* ПЫЛЮ́ТЫ, ПЫЛЯНЯ́ТЫ, ПЫЛЯ́ТЫ *памянш.* ПЫ́ЛЬКІ, ПЫЛЮ́ТКІ, ПЫЛЯ́ТКІ *мн.* Кураняты. *Нешта шэранькі пылёнак кульгаць стаў.* Вялікае Сяло Сен. *Пылю́ты мае, відаць, без вады ўжо.* Ляхаўшчына Паст. *Пыляня́ты вылупіліся.* Гацькаўшчына Арш., Грыгаравічы Леп., Белая Ліпа Сен., Новае Сяло Тал., Крывое Сяло, Навікі Шум. *Тры курыцы ў нас і восем пыляня́т.* Ваўчо Уш. *Пасып зерня пыля́там.* Ганкавічы Беш. *Большую палову пыля́т сёлета шашок з'еў.* Зарачыцак Докш. *Пыля́ты суседкіны мне ўвесь агарод за лета разрылі.* Язна Міёр. *На двары пыля́ты – не выпусці за вароты.* Ула Беш., Казімірова Пол., Багушэўск Сен. *Пы́лькі мае разбегліся хто куды, як выпусціла.* Кулакова Віц., Пірагі Дубр., Зялёнка Пол., Нямойта Сен. *Пабягу сваіх пылю́так карміць.* Кавалі Глыб. *Памані пыля́так.* Капланы Сен. *Пыля́ткі з хлева выбеглі – і на двор.* Мікалаева Шум. Параўн. *піскалёнак, пісклёнак, піскла́к, пісклюко́к, пісклянёнак, піскляня́, піскаля́ты, піскіля́ты, піскляня́ты, піскля́ткі, піскля́ты, пясклю́к.*

ПЫ́ЛІ-ПЫ́ЛІ, ПЫЛЬ-ПЫЛЬ *выкл.* Вокліч, якім падзываюць куранят. *Пы́лі-пы́лі-пы́лі, мае любыя!* Задуброўе Віц. *Пыль-пыль, хадзіце есці, крупак дам.* Тумінічы Арш., Алёнавічы Тал.

ПЫ́ЛЬНІК *м.* Насоўка. *Палез у кішэню за пыльнікам.* Паташня Міёр.

ПЫЛЮ́ГА *ж., павел.* Вялікі пыл. *Такая пылюга, што вочы не адкрыць.* Замачак Чаш.

ПЫЛЮ́ТКІ, ПЫЛЮ́ТЫ, ПЫЛЯНЯ́ТЫ, ПЫЛЯ́ТКІ, ПЫЛЯ́ТЫ гл. ПЫЛЁНАК

ПЫ́ЛЯ *ж.* Курыца. *Пыля ўсё круціцца на гародзе каля нас.* Дворнава Шарк.

ПЫ́НЗА *ж.* Пустазелле. *Агуркі ўсе пынзай забіла.* Ула Беш. Параўн. *по́мет.*

ПЫНІ́ЦЦА *незак.* Рабіць хатнюю работу, упраўляцца з хатнімі справамі. *Бабская работа – пыні́цца ў хаце.* Дольдзева Сен. Параўн. *паро́цца, по́рацца, по́ркацца, прібіра́ць, прыбіра́цца, прыбіра́ць, пя́хацца.*

ПЫНІ́ЦЬ *незак.* Апрацоўваць, даглядаць зямлю. *Жонка адна ўсё лета пыні́ць той жаўтапесак.* Лужкі Шарк.

ПЫ́ПЛІЦЦА *незак., экспр.* Марудзіць, павольна, доўга збірацца куды-н. ці выконваць нейкую працу. *Як пачнём куды сабірацца – не даждацца: усё пыпліцца і пыпліцца.* Ноўка Гар. *Чаго ты пыплішся там? Ісці пара.* Падворыца Сен. *Пыпліцца ён увесь час за працай.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *пэ́цкацца.*

ПЫ́ПЛЯ *аг., негадабр.* Марудлівы, непаваротлівы чалавек; няўмека. *Не дзіця, а пыпля нейкая: ніяк не даждацца, пакуль збярэцца.* Забалацце Арш. *Эх ты, пыпля малая! Круці так, як я.* Азёркі Гар.

ПЫР’Ё, ПЫ́РІЙ, ПЫ́РНІЦА, ПЫР’Я́Н гл. ПРЭЙ

ПЫ́РНІК *м.* Парнік. *У пырніку ўжо памідоры саспелі.* Булахі Глыб. Параўн. *плёначнік, плёнашнік.*

ПЫ́РЫН *м.* Індык. *Па двары пы́рын ходзіць.* Стаўбцы Чаш.

ПЫ́СІКІ, ПЫ́СМЫ, ПЭ́СІКІ, ПЭ́СМЫ *толькі мн., груб.* Валасы. *Пысікі свае хоць памый.* Арляны Сен. *Пысмы абсмаліш, калі блізка каля агня стаяць будзіш.* Палова Гар. *Пэ́сікі сваі абстрыч хачу.* Кулакова Віц. *Прычашы свае пэ́смы троху.* Мяшкова Тал. Параўн. *пэ́рлы, пэ́тлы.*

ПЫ́СКІ *мн.* Сківіцы. *Як дам у пыскі зараз.* Круткі Паст.

ПЫ́СМЫ гл. ПЫ́СІКІ

ПЫТА́НІШНІК *м., абрад.* Шафер, удзельнік вясельнага абраду. *Пыта́нішнікам у нас бу́дзе Федзька.* Шыліна Шум. Параўн. *паджані́шнік, пе́ршы.*

ПЫ́ТКА[1] *ж.* Праборка, вымова за што-н. *Я табе ўстрою сёння пытку – паглядзіш.* Ноўка Гар.

ПЫ́ТКА[2] *ж.* Самаробнае прыстасаванне для знішчэння мух. *Пытка мая паламалася – ціпер мух німа чым біць.* Мікалаёва, Цілеўцы Міёр. Параўн. *плі́нта.*

ПЫ́ХАЦЬ *незак.* 1. Успыхваць, раптоўна загарацца. *Звёзды ў жніўні пыхаюць-пыхаюць.* Барсукі, Бігосава, Сардыкі В.-Дзв. 2. *перан., экспр.* Вельмі эмацыянальна выяўляць незадавальненне, нерваваццa. *Чаго ты пыхаеш без толку? Не пыхай: цібе не чапляець пакуль ніхто.* Мазалава Віц.

ПЫ́ХЦІК *м.* Адкрыты, без даху трактар. *Брыгадзір вон на сваім пыхціку паехаў.* Забор'е Глыб. Параўн. *петушóк, пучóк.*

ПЭ́КНУЦЬ *зак., экспр.* Застрэліць, забіць з агнястрэльнай зброі. *Ці пэкнеш ты мне парасёнка ў суботу?* Буда Дубр. Параўн. *прíляпаць, прыля́паць.*

ПЭ́ЛТА *ж., асудж.* Жанчына-п'яніца. *Зноў гэта пэлта сіняя цягнецца ка мне.* Булахі Глыб.

ПЭ́НДЗІЦЬ *незак.* Выпрабляць гарэлку шляхам перагонкі, рабіць самагон. *Тады купляць не было за што – сваю пэндзілі.* Андрэеўшчына Арш.

ПЭ́НКНУЦЬ *зак.* Лопнуць, разарвацца. *Учора так ягад наелася, чуць не пэнкнула.* Купчэлі Брасл.

ПЭ́НСІЯ *ж.* Пенсія, грашовае забеспячэнне ў старасці. *Пэнсію маленькую зарабіла.* Рубеж Брасл. *Я дык добрую пэнсію палучаю.* Гута Паст.

ПЭ́РКАЛЬ *м.* Паркаль. *Спадніцы раней, у асноўным, з пэркалю дзеўкі шылі.* Сваташыцы Дубр.

ПЭ́РЛЫ *толькі мн., груб.* Валасы. *Пэрлы выдзерыць за мужыка.* Гарбачэва Рас. Параўн. *пысікі, пысмы, пэсікі, пэсмы, пэтлы.*

ПЭС гл. ПЕ́САК

ПЭ́СІКІ, ПЭ́СМЫ гл. ПЫ́СІКІ

ПЭ́ТЛАШЫЦЬ *незак., экспр.* Біць, лупцаваць. *І пэтлашыць ён яе за п'янку кожны дзень, а толку мала.* Купчэлі Брасл. Параўн. *пéрыць, прáтаць, пярíць, пя́рыць, пяры́ць* у 1 знач.

ПЭ́ТЛЫ *толькі мн., груб.* Валасы. *Пэтлы распусціць, як ядзім усе за сталом, аж нялюба.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *пысікі, пысмы, пэрлы, пэсікі, пэсмы.*

ПЭ́ЎНЕ, ПЭ́ЎНІ, ПЭ́ЎНЯ *мад. сл.* Напэўна. *Пэўне, на дождж збіраецца.* Гута Паст. *Пэўні, дзеці мае прыехалі.* Нікалаёва Міёр. *І замуж, пэўня, пайшла ўжо.* Надазер'е Глыб.

ПЭ́ЎНЫ *прым.* Упэўнены. *У сваёй сіле быў пэўны.* Смаляны Арш.

ПЭ́ЎНЯ гл. ПЭ́ЎНЕ

ПЭ́ХКАЦЬ *незак., экспр.* Курыць, выпускаць клубы дыму. *Пэхкае стары мой, відаць, тут на вуліцы, бо ў хаце не даю.* Пераходцы Леп.

ПЭ́ЦКАЦЦА *незак., экспр.* Марудзіць. *Усё пэцкаецца там, ніяк не закончыць.* Смалоўка Сен. Параўн. *пыпліцца.*

ПЮ́РНІК *м.* Пенал. *У мяне ў школе самаробны пюрнік быў: бацька з дрэва зрабіў нам усім.* Квачы Глыб. *У пюрніку алоўкі твае.* Абруб Беразвецкі Глыб.

П'Я́ВІЦА, П'Я́ГА *ж.* П'яўка, прэснаводны чарвяк, які корміцца кроўю жывёл, прысмоктваючыся да іх цела. *Цётка баялася зачэрпнуць п'явіцу ў вядро.* Старaселле Леп. *Не палезу я ў ваду: там п'ягі водзяцца.* Бешанковічы.

ПЯВУ́ХА, ПЯЮ́ЛЕЙКА, ПЯЮ́ЛІЦА, ПЯЮ́ЛЛЯ *ж.* Пявуння. *Пявýхай у маладасці была.* Старыя Вайханы Гар. *Былі пяюлейкі запрошаны, як у сельсавеце распісываліся.* Стаі Леп. *Во пяюліца! Песні цэлы дзень у яе.* Дэмскія Міёр. *Не скрывай, бо ведаем, што ты пяюлля добрая.* Надазер'е Глыб. *А ў нас усе дзеўкі ў вёсцы добрыя пяюллі былі.* Заазер'е Пол.

П'Я́ГА гл. П'Я́ВІЦА

ПЯКА́ЦЬ *незак., экспр.* Сварыцца, крычаць, лаяцца на каго-н. *Пякáла я яе дужа за гэтага хлопца, бо не пара ён ёй.* Мурашкі Міёр. Параўн. *пярэ́каць.*

ПЯКЛО́ *н.*, ПЯКО́ЛКА[1], ПЯКУ́ХА *ж.* Крапіўнік, зараснікі крапівы; крапіва, жыгучка. *У пякло́ ўлезла.* Расоны. *Уся баня пякóлкай абрасла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пякýху за хатай вырваць ці скасіць трэба.* Старое Лядна Леп.

ПЯКО́ЛАК[1] *м.*, ПЯКО́ЛКА[2] *ж.* 1. Прыпечак, месца перад чалеснікамі печы. *Як зварыцца ежа свінням, на пякóлку пакідаю, каб не прастыла да вечара.* Абруб Беразвецкі Глыб., Паставы. *Пусты кацёл на пякóлку пакінь, як свінням ежу выльеш.* Пранікі Уш. Параўн. *прыкóлак, прымýрак.* 2. Цёплае месца на печы, куды лазяць грэцца або ставяць што-н. грэць. *На пякóлку штаны твае ляжаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *На пякóлку цёпла дужа сёння.* Мяжа Гар. *Лезь на пякóлак ды пагрэйся.* Тупічына Шум. 3. Пячурка, невялікая ніша ў бакавой сцяне печы. *Рукавічкі ў пякóлку пакладзі, каб высахлі за ноч.* Паўазер'е Беш., Галбея Паст. *Збоку пякóлак зрабі, як станеш печ перакладываць.* Крывыя Тал.

ПЯКО́ЛАК[2] *м.*, ПЯКО́ТА *ж.* Гарачыня, спякота, духата. *Ужо цэлы месяц такі пякóлак. Хоць бы дождж пайшоў, усё ж засохне.* Мішкавічы Шум. *На дварэ такая пякóта, што з хаты не выйсці.* Шацяні Сен.

ПЯКО́ЛКА[1] гл. ПЯКЛО́

ПЯКО́ЛКА[2] гл. ПЯКО́ЛАК[1]

ПЯКУ́ХА гл. ПЯКЛО́

ПЯЛЕ́НГВАЦЬ *незак.* Смеціць, забруджваць смеццем. *Зноў будзеш пялéнгваць мне на стол.* Кублічы Уш.

ПЯЛЁХНУЦЦА *зак., экспр.* Пабіцца, стукнуцца, ударыцца аб што-н. *І нада ж было яму так пялёхнуцца – чуць не забіўся!* Лазукі Чаш.

ПЯЛЁХНУЦЬ *зак., экспр.* Ударыць, стукнуць, нанесці ўдар. *Як пялёхнуў кулаком па стале, аж ложкі рассыпаліся.* Лазукі Чаш. Параўн. *перавéсці, перавíць, плёснуць, пя́рнуць.*

ПЯНЁНЗЫ *толькі мн.* Грошы. *Усе свае пянёнзы, што збірала, унуку аддала.* Целякі Паст.

П'ЯНÍКА *ж.*, *часцей* П'ЯНÍЦЫ *мн.* Буякі. *П'янíкі сёлета дужа многа.* Бароўка, Каханавічы В.-Дзв. *Сёлета ўжо крэпка многа п'янíц было, дык мы і з іх варэння наварылі.* Баруны, Вяжы, Далёкія, Казяны, Турчылава Брасл. *Бабы п'янíц па бітончыку панеслі.* Асвея, Луначарскае, Нурава В.-Дзв. *Дзед мой з п'янíц, бувала, настойку на зіму рабіў.* Загуззе, Обаль, Лялеўшчына Гар. *Раней з п'янíц варэнне не варылі, бо казалі, што сп'янееш ад іх, а цяпер вараць.* Азярцы, Бортнікі, Булахі, Гатаўшчына, Грыцы, Залессе, Мікуліна, Прыпернае, Сасноўка, Ураджайная, Удзела Глыб. *На мох за п'янíцамі пайшлі.* Балаі, Воўкаўшчына, Іванькі, Калінавая, Папшулі, Паташня, Цілеўцы, Язна Міёр. *П'янíцы ў лесе лепш не есці.* Буцавічы, Галбея, Камаі, Муляры, Прамышляды Паст. *П'янíц праз дарогу – толькі збірай!* Баяноўшчына, Ветрына, Гаране, Залессе, Казімірова Пол. *У нас усе даўно п'янíцы збіраюць, і нічога, як кажуць, не п'янеюць.* Альхоўцы, Буеўшчына, Васюкі, Верацеі, Зорка, Клінавое, Лужкі, Лучайка, Савіцкія, Сасноўцы Шарк.

П'ЯНÍЦА[1] *ж.* Гартэнзія. *У Яніны на вакне п'янíца зацвіла.* Драбаўшчына Глыб.

П'ЯНÍЦА[2] *ж.* Сіло, прыстасаванне для лоўлі птушак. *Здзелаў п'янíцу і паставіў на сініц.* Моханава В.-Дзв.

П'ЯНÍЦЫ гл. П'ЯНÍКА

П'ЯНÍЧНІК *м., зб.* Сцёблы, кусцікі, на якіх растуць ягады буякі. *Дзе многа п'янíчніку, там і багану многа.* Азярцы, Грыцы, Шэпелева Глыб. *П'янíчнік дужа пах, як у ягадах былі.* Савіцкія Шарк.

ПЯНЦЮ́Х гл. ПÉНТУХ

П'ЯНЧУ́ЖНЫ *прым.* Пра чалавека, які злоўжывае спіртнымі напоямі; п'яніца. *Мужыка нейкага п'янчу́жнага займела: дзень пры дні п'яны ходзіць.* Мікіціха Шум.

П'ЯНЧУ́К *м.*, П'ЯНЮ́ГА, П'ЯНЮ́Х, П'ЯНЬ *аг., асудж.* П'яніца, алкаголік. *П'янчу́к мой скора з хаты ўсё павыносіць: піць жа за нешта нада.* Задроўе Арш. *П'яню́га, а не дзеўка.* Ульянавічы Сен. *А ты яшчэ хацела, каб я з гэтым п'яню́гам танцавала!* Марынцы Чаш. *Сусед наш – такі п'яню́х, што страх!* Валынцы В.-Дзв. *Ты толькі паглядзі на п'янь гэту.* Іванск Чаш. Параўн. *пітóка, піту́н, піцу́га.*

ПЯНЬКО́ЎКА *ж.* Цёплая хустка. *Пянько́ўку маю нявестка любіць завязываць, хоць сваіх шапак многа.* Абрамава, Стралкі В.-Дзв. *Пянько́ўкай вазьмі абкрыйся, а то холадна.* Замкава Глыб. *Пянько́ўку завязывай, бо ў галаву надуець.* Ліпаўкі, Макаравічы Докш. *Пачакай, пянько́ўку завяжу, разам у цэркаў пойдзем.* Тумілавічы Докш. *Раней усе дзяўчаты пянько́ўкі зімой насілі.* Узмёны Міёр. Параўн. *пінча́нка, пухо́ўка.*

ПЯНЬКО́ЎКІ *мн.* Апенькі. *Пянько́вак у нас на пнях восенню – як усыпана.* Вялікая Пярэспа Сен. Параўн. *пнёўкі.*

ПЯНЭ́ЎЯ гл. ПНЁЎЕ

ПЯНЯ́ННЕ *н.* Папрок, дакор. *Як надакучыла мне ўжо твaё пяня́нне.* Баева Дубр.

ПЯРВА́ЧКА гл. ПЕ́РВАСІНКА

ПЯРВЁСНІК *м.* Пралеска. *Ля дарогі, як да нас едзеш, пярвёснікі ўжо з'явіліся.* Пашкі Шарк. Параўн. *перале́ска.*

ПЯРВІ́НА гл. ПЕРВАЦІ́НА

ПЯРВО́СТКА, ПЯРВО́СЦІЛКА, ПЯРВО́СЦІНКА, ПЯРВУ́СТКА, ПЯРВУ́СЦІНКА гл. ПЕ́РВАСІНКА

ПЯРІ́ЦЬ гл. ПЕ́РЫЦЬ

ПЯРЛО́ЎНІК *м.* Суп з ячных круп. *Звечара крупы замачу, а заўтра ў печ пярло́ўніку варыць пастаўлю.* Гуліна Сен.

ПЯ́РНУЦЬ *зак., экспр.* Ударыць, стукнуць. *Так пя́рнула ў вакно, што сцены ў хаце закалаціліся.* Латышы, Мосар, Празарокі, Чарневічы Глыб. Параўн. *перавесці, перавіць, плёснуць, пялёхнуць.*

ПЯРТУ́ХА *ж.* Камы, бульбяная каша. *Сёння пярту́хі з малаком наелася перад дарогай.* Чарневічы Глыб.

ПЯРХЕ́КАЦЬ гл. ПЕРХЕ́КАЦЬ

ПЯРША́К *м.* 1. Сена першага ўкосу. *Пярша́к няважны сёлета.* Шарагі Міёр. *Пярша́к кароўкам во будзе смачны.* Папшычы Глыб. Параўн. *перваці́на, першаві́на, першына́, пярві́на.* 2. Першае дзіця ў сям'і. *Гэта мой пярша́к, ва ўсім памагае мне летам.* Стаі Леп.

ПЯРША́ЧКА гл. ПЕ́РВАСІНКА

ПЯРШЧА́ТКА *ж.* Пальчатка. *Пяршча́тку правую згубіла недзе, як з гораду ехала.* Ніўнікі Міёр.

ПЯРЫ́ЛЫ *толькі мн., абрад.* У вясельным абрадзе перагароджванне дарогі падчас таго, калі маладыя едуць з царквы пасля вянчання. *Маладыя астанаўліваюцца перад пяры́ламі, злазіць сват, канфеты сыпець, грошы.* Замошша Тал.

ПЯРЫ́ННІК гл. ПРЭЙ

ПЯ́РЫЦЬ, ПЯРЫ́ЦЬ гл. ПЕ́РЫЦЬ

ПЯРЭ́БАРЫ *толькі мн.* Сварка, спрэчка. *Я ў тыя пярэ́бары іхнія не хацела нават умешвацца.* Зарэчча Тал.

ПЯРЭ́БІРАК *м.* Не ўкладзены добра і не прыціснуты пласт сена ці саломы ў стозе. *Толькі ў заднім стозе пярэ́бірак уніз дужа звісаў.* Ластавічы Глыб.

ПЯРЭ́БРЫНКА *ж.* Рабро, дугападобная вузкая косць, якая ідзе ад хрыбетніка да грудной косці. *Пярэ́брынку, відаць, зламала яму – устаць не можыць.* Нурава В.-Дзв. *А схуднела ж як – усе пярэ́бранкі можна ўбачыць.* Гарадзец Шарк.

ПЯРЭ́ВІСЛА, ПЯРЭ́ВЯСЛА гл. ПЕРАВЕ́СЛА

ПЯРЭ́ДАЙКА гл. ПІРЯДО́ЙКА

ПЯРЭ́ДЫХ гл. ПІРЯДЫ́Х

ПЯРЭ́ЖАК *м.* Сенцы. *Бывала, што ў пярэ́жак курэй бралі на зіму.* Пецькі Дубр. Параўн. *пры́вень, прыхо́дка, прыхо́дня.*

ПЯРЭ́ЖНІ *прым.* Пярэдні, які размяшчаецца наперадзе. *На пярэ́жняй полцы паглядзі свой інструмент.* Ласкаўшчына Глыб.

ПЯРЭ́ЗАЎКІ, ПЯРЭ́ЗВА, ПЯРЭ́ЗВЫ гл. ПЕРАЗО́Ў

ПЯРЭ́КА *ж.* Перашкода. *Столькі мне трэба было перажыць, адны пярэ́кі кругом былі.* Фарынава Пол., Матырына Уш.

ПЯРЭ́КАЦЦА *незак.* Пярэчыць, не згаджацца, сварыцца з кім-н. *Павыганяў усіх дзяцей з хаты, каб не пярэ́каліся з бацькам.* Казімірова Пол. *Чаго ты ўвесь час пярэ́каешся са мною?* Старое Сяло Уш. Параўн. *пяка́ць.*

ПЯРЭ́КРУТКІ *мн.* Скручаныя месцы ніткі ці вяроўкі. *Не вяроўка, а адны пярэ́круткі.* Воўкаўшчына Глыб.

ПЯРЭ́ЛЕТАК *м.* Пералетак, цяля паўгадавога ўзросту. *У нас бычок-пярэ́летак.* Слабада Дубр.

ПЯРЭ́МЕСЛА, ПЯРЭ́МІСЛА гл. ПЕРАВЕ́СЛА

ПЯРЭ́ПЛАТ *м.* Пляцень. *Пярэ́плат з зімы ўжо разваліўся.* Старнікі Глыб.

ПЯРЭ́ПЛАТЫ *толькі мн.* Прыстасаванне з жэрдак для сушкі снапоў. *Пярэ́платы з зяцем паставілі, а ячмень пасля абеду укладываць буду.* Латышы, Стрынадкі, Чарневічы Глыб. *Пярэ́платы пшаніцай запоўнены.* Гута Паст.

ПЯРЭ́ПУСК *м.* Перапалох, сполах. *Во пярэ́пуск быў тады – пабеглі хто куды!* Замошша Тал.

ПЯРЭ́СМЫК *м.* Града, рад невялікіх узгоркаў, парослых кустоўем. *Як пярэ́смык перапезлі, так і суніцы знайшлі адразу.* Груздава Паст.

ПЯРЭ́ХЛЯ *ж.* Дах. *Пярэ́хлю шыхверам гадоў дзесяць як накрылі.* Панізоўе Арш.

ПЯРЭ́ХРЫСЦЬ *аг., асудж.* Бязбожнік, чалавек, які не верыць у Бога, адмаўляе яго існаванне. *Пярэ́хрысць гэты не толькі Бога, а і бацьку свайго прадасць.* Макаравічы Докш.

ПЯРЭ́ЧКА *ж.* Загон, участак ворнай зямлі, які размешчаны ўпоперак поля. *Пярэ́чку ўчора трактарам узаралі.* Узмёны Міёр.

ПЯРЭ́ЧКІ *мн.* Парэчкі. *Летась пярэ́чак не дужа зашмат было.* Ветахмо Докш. *Не еш пярэ́чкі: яны ж зялёныя яшчэ.* Камаі Паст.

ПЯСКЛЮ́К гл. ПІСКАЛЁНАК

ПЯСО́ЧНЫ *прым.* Пясчаны. *Пясо́чнае места там цяпер стала – не праехаць ніяк на машыне.* Ласкаўшчына Глыб. *Да самага леса дарога пясо́чная будзе.* Касцюкі Докш.

ПЯ́СТКА, *памянш.* ПЯСТАЧКА *ж.* Жменя. *Дайце пя́стку вун тых ледзянцоў.* Іказнь Брасл. *Усып мукі пя́стачку.* Лужасна Віц. *Хоць пя́стачку ягад сабяры.* Ноўка Гар.

ПЯСТО́ТА, ПЯСТУ́ШКА[1], ПЯСЧО́НІК гл. ПЕ́СТУН

ПЯСТРУ́ШКА *ж.* Стронга, фарэль. *Я большай за ўсё люблю пястру́шку.* Бешанковічы.

ПЯСТУ́НКА, ПЯСТУ́ШКА[2] *ж.* Калыханка, кароценькая песенька для дзяцей. *Пясту́нку на ноч пяю ўнучке.* Старое Лядна Леп. *Сынок мой усе пясту́шкі мае помніць, успамінае часта і свайму малому.* Чэрнева Брасл. *Бывала, пакуль дзяцей паўкладзеш, дык гадзіну пясту́шкі пяяеш.* Іванск Чаш.

ПЯСЦІ́ЦЬ *незак.* Песціць, лашчыць, галубіць (дзіця). *Хоць і адно дзіця, але ўсё роўна не трэба пясці́ць.* Слабада Докш.

ПЯСЧА́НКІ *мн.* Грыбы, якія растуць на пясчаным месцы, курачкі. *У нашым краі самыя хадавыя грыбы – пясча́нкі.* Зачэрня Лёзн.

ПЯСЧУ́ГА, ПЯСЧУ́РА, ПЯСЧЫ́НА *ж., экспр.* Пясчаная неўрадлівая глеба. *На такую пясчу́гу згадзіліся – што ў іх там вырасце?* Мілашы Брасл. *Адна пясчу́га, нічога не вырасце.* Ульянавічы Сен. *На гэтай пясчу́ры расці не будзе нічога.* Алексінічы Сен. *За лесам не садзім бульбу ўжо: адна пясчы́на там.* Бярозаўка Докш. Параўн. *пусту́ня.*

ПЯ́ТАРА *ліч., зб.* Пяцёра. *Пя́тара нас тады было.* Новыя Вайханы Гар.

ПЯ́ТКА *ж.* Зародак зерня. *Жыта адцвіло, пя́тка ўжо ёсць.* Сяляўшчына Рас.

ПЯТЛЁЎКА *ж.* Пытляванка, пытляваная мука. *Бабка мая пакойная хлеб з пятлёўкі ўсё рабіла: бедна жылі мы тады.* Шаркаўшчына. Параўн. *прастамо́лка.*

ПЯТНА́СТКА, ПЯТНАСТО́ЎКА, ПЯТНО́СТАЎКА гл. ПЕТНАСТО́ЎКА

ПЯТРЭ́ЦЬ *незак.* 1. Сохнуць, вянуць, трацячы вільгаць. *Агурочнік нешта рана пятрэ́ць начаў.* Свольна В.-Дзв. Параўн. *прыча́ўрыць.* 2. *перан.* Сохнуць, чахнуць, станавіцца слабым, нядужым (пра чалавека). *На вачах дзіцятка пятрэ́ла ад хваробы.* Гарадзец Леп.

ПЯТУ́Н гл. ПЕ́НТУХ

ПЯ́ХАЦЦА *незак.* Рабіць хатнюю работу, упраўляцца па гаспадарцы. *Вы на хрэсьбіны ідзіце, а я тут паціху адна пя́хацца буду.* Забалацце Арш. Параўн. *паро́цца, по́рацца, по́ркацца, прібіра́ць, прыбіра́цца, прыбіра́ць, пыні́цца.*

ПЯХЦЕ́РЬ *м.* Кашэль, вялікая кашолка, звычайна з лучыны. *Як куды ехалі ў дарогу, то сена для каня ў пяхце́рь клалі.* Гарэлькі Дубр.

ПЯЦЕ́ЛІЦЦА *незак.* Лезці без чаргі. *Я пяце́ліцца не люблю, па сваёй вочарадзі прайду.* Кляны Дубр.

ПЯЧКА́Р, ПЯЧКУ́Р[1] *м.* Пячнік. *Дрэнную печ зрабіў пячка́р: дыміць.* Шодзікі Шум. *Пячку́р у нас адзін толькі на ўсіх.* Загарадна Лёзн. *Ці ёсць у вас пячку́р дзе знаёмы? Печка наша ўжо нікуды нягожа.* Язна Міёр. *Калі пячку́р печ закончыць, тады сваю работу пачнём.* Алексенічы, Андрэйчыкі, Малішы, Расходна Сен. *Пячку́р той мужык добры быў, умеў печы добра класці.* Сарочына Чаш.

ПЯЧКУ́Р[2] *м.* Той, хто любіць спаць на печы (пра ката). *Ну што, пячку́р, зноў вылежваешся, а мышы па хаце пяшком ходзяць.* Слабада Дубр., Старое Сяло Уш. Параўн. *пячу́рнік.*

ПЯЧО́НІК *м.*, ПЯЧО́НКА[1] *ж.* Спечаная бульбіна. *Вазьмі хоць адзін пячо́нік з'еш.* Бачэйкава Беш. *Любілі пячо́нікі, спечаныя ў зале.* Груздава Паст., Кушлікі Пол. *Бывала, на кастры пячо́нікі пяклі.* Альшаны Уш. *Як у полі кароў пасём, люблю каля агню пячо́нікі есці.* Слабада Шум. *Пячо́нка з сальцам добра ідзе.* Сваташыцы Дубр., Мокавічы Чаш.

ПЯЧО́НКА[2] *ж.* Печань. *Пячо́нка, наверна, ад таблетак баліць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ПЯЧО́РКА, ПЯЧУ́РА *ж.*, ПЯЧУ́РАК *м.* 1. Пячурка, невялікая ніша ў бакавой сцяне печы. *Цыбулька, унучка, у пячо́ркі ляжыць.* Бычыншчына Міёр. *У пячо́рку пакладзі наскі мокрыя.* Мяшкова Тал. *Вазьмі мак у пячу́ры, у булкі дабавім.* Драгуны Міёр., Галбея Паст. *Пячу́ра маленькая – нічога дужа не ўлазіць, каб пасушыць.* Завыдрына Уш. *Наскі твае ў пячу́рку сушацца.* Сіўцы Паст. 2. ПЯЧУ́РАК Пячурка, грубка, невялікая печка. *Раней пячу́рак усю хату абаграваў.* Абаляны Брасл.

ПЯЧУ́РКА[1] *ж.* 1. Ніша збоку прыпечка, куды заграбаюць попел, вуголле. *Гален, як падмяцеш, у пячу́рку пастаў.* Сахнавічы Глыб. *Трэба пачысціць пячу́рку.* Гунчанкі Віц., Гудава Зямянскае Дубр.

ПЯЧУ́РКА[2] *ж.* Зямлянка. *Пад гарой вырылі пячу́рку.* Міхалінава Лёзн.

ПЯЧУ́РКА[3] *ж., заал.* Пеначка, невялічкая пеўчая птушка атрада вераб'іных. *Пячуркі не чутна нешта.* Даўгінава Міёр.

ПЯЧУ́РКІ *мн.* Шампіньёны. *Пячу́ркі ў нас не растуць, у горадзе магазінныя купляем.* Дзяйкі Віц. *Пячу́ркі ўсе ў нашай сям'і любяць.* Асінаўка Сен.

ПЯЧУ́РНІК *м., экспр.* Пра таго, хто любіць грэцца на печы лежачы. *Такі пячу́рнік наш кот: з хаты не выйдзе, каб мышэй ў хлеве паганяць.* Шклянцы Докш. *Пячу́рнік унучок мой старшы, каторы з горада.* Драгуны Міёр. Параўн. *пячку́р*[2].

ПЯЧЫ́ШЧА *н.* Месца, дзе раней стаяла хата, была сялянская сядзіба. *Пячы́шча наша кустамі зарасло.* Ноўка Гар.

ПЯЧЭ́НЯ *ж.* Тушанае мяса. *Сёння будзем пячэ́ню есці, утушылася ў печы добра.* Мішкавічы Шум.

ПЯША́К *м.* Хадзьба, хаджэнне. *Пяша́к для мяне цяжкі, ногі баляць.* Баева Дубр.

ПЯШО́К *м., памянш.* Пень. *Дрэва ўбяруць і пяшо́к выкапаюць пасля.* Валынцы В.-Дзв.

ПЯЮ́ЛЕЙКА, ПЯЮ́ЛІЦА, ПЯЮ́ЛЛЯ гл. ПЯВУ́ХА

ПЯЮ́Н *м.* Певень. *Дзесяць курэй у мяне і адзін пяю́н.* Турлаі Арш., Жукі Чаш. Параўн. *пе́нтух, пянцю́х, пятун.*

ПЯЮ́НКА *ж.* Песня. *Давай якую-небудзь пяю́нку завядзём.* Свілелі Паст.

ПЯЯ́ННЕ *н.* Спевы. *Нейкае пяя́нне ў вас, як не елі.* Старое Лядна Леп. *Зноў вечарам пад вокнамі дзеўкі пяя́нне завядуць.* Фарынава Пол. *З самага ранку пяя́нне за агародам чуваць.* Кулінава, Матырына Уш.

ПЯЯ́ЦЬ гл. ПЕЯ́ЦЬ

# Р

РАБА́К *м.* Дажджавы чарвяк. *Пасля дажджу рабакі́ на дарогу павылазілі.* Урбаны Брасл. *Дождж прайшоў, рабако́ў поўна.* Муляры Паст. *Спачатку трэба рабако́ў накапаць, а потым ужо і пра рыбалку думаць.* Слабада Шум.

РАБАЦІ́ЛА *м.* Работнік. *Мой сынок – рабаці́ла добры.*Чаронка Шум.

РАБАЦІ́НА *ж.* Хвалі (на возеры). *Рабаці́на сёння вялікая.* Старое Лядна Леп.

РАБАЦЦЁ *н., толькі адз.* Вяснушкі. *У дзяўчыны столькі рабацця́ на твары.* Слабада Докш.

РАБЁНАК, РАБЁШАК, РАБЯНЁНАК, РАБЯЦЯНЁНАК, РІБЯНЁНАК, РЯБЁНАК *м.* Дзіця. *Гэты рабёнак нейкі не такі, як усе ў іх.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *У іхняй сям'і быў адзін рабёнак.* Спігальшчына Міёр. *Рабёнак яшчо малы, каб яго карміць гэткімі*

*харчамі.* Тур'ева Сен. *Рабёшак радзіўся ў нас.* Астроўна Беш. *Ва ўнучкі нядаўна рабянёнак нарадзіўся – дзевачка, Сашай назвалі.* Каханавічы В.-Дзв. *Рабянёнак яшчэ толькі гаварыць навучыўся.* Мацюкова Глыб. *Мой рабяцянёнак апяць забалеў.* Янкавічы Рас. *Рібянёнка сабе завядзі.* Курына Віц., Канашы Гар. *Ой, які яшчэ ты горкі рябёнак яшчэ!* Стасева Лёзн.

РАБІ́НІХА *ж.* Настойка з пладоў рабіны. *Салодкая рабі́ніха ў цябе атрымалася, налівай яшчэ.* Опса Брасл.

РАБЛЁНЫ *дзеепрым.* Вязаны. *Уся адзежа ў яе раблёная.* Іванаўка Гар.

РАБО́ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая выконвае па найме сезонныя сельскагаспадарчыя работы. *Яна тады ў іх за рабо́тніцу была.* Камары Віц.

РАБО́ТНЫ *прым.* Працавіты. *Я здаровы, рабо́тны мужчына якніяк. Не ёлупень нейкі.* Язна Міёр. Параўн. *ра́жны, рупе́сны.*

◊ РАБО́ТЫ ЧЭ́РМА Шмат работы. *Рабо́ты чэ́рма – аж у вочках чорна.* Пранікі Уш.

РАБО́ЦІНА *ж.* Работа, справа. *Якую б рабо́ціну па хаці зрабіў, а не шлындаў на дваре!* Канашы Гар.

РАБРО́ *н.* Спінка крэсла. *Павешай хустку на рабро́, каб не забыць.* Зачарэўе Міёр.

РАБЯНЁНАК гл. РАБЁНАК

РАБЯЦЯНЁНАК гл. РАБЁНАК

РАВУ́ЛА *аг., груб.* Крыкун, крыклівы чалавек. *Цішэй ты, раву́ла.* Быцава Беш. *Чаго ты равеш, як раву́ла?!* Паўазер'е Беш.

РАВЭ́ЖА *ж.*, РО́ВАР, РО́ВЕР, РО́ВЭР *м.* Веласіпед. *Зламалася мая равэ́жа, нада калясо купіць.* Зачарэўе Міёр. *Сямён багаты стаў і тры ро́вары купіў.* Зубава Арш. *Вазілі яго ў школу на ро́вары.* Фролкавічы Беш. *На ро́вары туды-сюды гойсаюць.* Падрукша Брасл. *Застаўся маім унучыкам мой старэнькі ро́вар і яшчэ два колы да яго.* Ліпаўкі Докш. *Мама з бацькам купілі мне новенькі ро́вар, пайду катацца.* Чарамхова Шарк. *Вазьмі ро́вер і едзь к бабушке.* Ульянавічы Сен. *Мой дзед крэпкі быў! Восемсят сем гадкоў, а ён – на ро́вэр і ў косцел едзіць!* Сахнавічы Глыб.

РАГАЖА́НКА, РАГАНСА́НКА *ж.* Падвода, фурманка. *На рагажа́нках раз'язджалі толькі галоўныя ў вёсцы людзі.* Казімірова Пол. *Добрая рага́нсанка ў нас, але старая.* Булаўкі Пол.

РАГАЗА́[1], РАГЕ́ЗА, РАГЕЗА́, РАГІЗА́ *ж.* 1. Груваcткая рэч, мэбля, якая перашкаджае свабодна рухацца, перамяшчацца дзе-н. *Прібярі ты рагазу́ ету з праходу.* Кулакова Віц. *Не стол, а рагаза́ нейкая.* Ноўка Гар. 2. *перан., аг., груб.* Няўлюдны, нязграбны чалавек. *Што ты стала тут, як рагаза́.* Паўазер'е Беш. *Рагазу́ нейкую замуж узяў.* Казловічы Гар. *Ой, раге́за, не ўмееш рабіць ніякую работу.*

Кублічы Уш. *Бывае, дзеўка як дзеўка, а ёсць – ідзе, як рагезá.* Казімірова Пол. *З рагізы́ гэтай аніякага толку няма.* Старое Сяло Уш.

РАГАЗÁ[2] *ж.* Чарот. *Каровы ў рагазу́ ўлезлі каля балота.* Грышаны Віц.

РАГÁЗІНА, РАГАЗУ́ЛІНА, РАГАТУ́ШКА, РАГÁЦІНА, РАГОЗІ́НА *ж.* Сукаватая палка. *Рагазі́ну адламай – лягчэй іці будзіць.* Канашы Гар. *Прыпрэць якую-небудзь рагазу́ліну – і ў доме цяпло.* Зачысцікі Шарк. *Я ў лес во хадзіла, іскала рагату́шку з такімі сучкамі.* Езярышча Гар. *Падымі з зямлі рагáціну.* Глазамічы Віц. *Бросьце вы гэтую рагáціну.* Лялеўшчына Гар. *Мой дзядок накідаў рагáцін, што аж двор перагароджваюць.* Матырына Уш. *Рагóзіну выламала.* Ноўка Гар. *Прыбяры з дарогі рагóзіну.* Казімірова Пол. Параўн. *ралату́шка.*

РАГÁНСАНКА гл. РАГАЖÁНКА

РАГАТÁННЕ *н.* Іржанне коней. *З канюшынь даносіліся рагатáнні.* Слабада Шум.

РАГÁТКА[1], РАГÁЧКА *ж.* Карова з вялікімі рагамі. *Гані тую рагáтку туды, а то капусту памнець.* Слабодка Брасл. *У рагáткі ў нашай у гэтым гаду двойня была, ашчаслівіла яна нас.* Лялеўшчына Гар., Svіла Глыб. *Гляджу, аж рагáтка наша па вуліцы нясецца.* Пераходцы Леп. *Нашу рагáчку многа хто пабойваўся.* Ваўчо Уш.

РАГÁТКА[2] *ж., абрад.* Столік, якім перагароджваюць дарогу вясельнаму поезду падчас сустрэчы маладых. *На рагáтцы стаяў вялікі каравай.* Верацеі Шарк.

◊ РАГÁТКУ ПАСТÁВІЦЬ *абрад.* Перагарадзіць дарогу вясельнаму поезду. *Каля магазіна маладым рагáтку пастáвілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАГÁТКА[3] *ж.* Скрыжаванне. *Перакростак гэтак называўся ў нас рагáткай.* Полацк.

РАГАТУ́ШКА гл. РАГÁЗІНА

РАГÁЦІНА гл. РАГÁЗІНА

РАГÁЧ[1] *м.* 1. Вілы. *Капешкі складалі рагачóм.* Гараны Пол. 2. Вілкі, прылада, пры дапамозе якой ставяць у печ і вымаюць з яе гаршкі, чыгункі. *Катлы рагачóм з печкі цягаюць.* Гарадок.

РАГÁЧ[2] *м.* Прыстасаванне на кроснах, на якое намотваюцца ніткі. *На кроснах ёсць рагáч, на яго наматываюцца ніткі.* Полацк.

РАГÁЧКА гл. РАГÁТКА[1]

РАГÉЗА, РАГЕЗÁ, РАГІЗÁ гл. РАГАЗÁ[1]

РАГÓЖА *ж.* Палавік. *Добра вымятай рагóжу.* Новае Сяло Талач.

РАГÓЖКА *ж.* Мачалка. *Намыль рагóжку і патры мне плечы.* Косарава Глыб.

РАГО́ЖЫНА *ж.* Ануча, якой мыюць падлогу. *Вазьмі ты рагóжыну пад шафай ды затры ваду на палу.* Сахнавічы Глыб. Параўн. *рызінка.*

РАГО́ЗІНА гл. РАГА́ЗІНА

РАГО́ЛІК *м.* Рагалік. *Вазьміце сабе па рагóліку к чаю.* Грышаны Віц., Чырына Дубр.

РАД, РЯД *м.* Пракос. *Прайду па радáх і паразбіваю сена.* Алексінічы Сен. *Сёння два ряды́ прайшоў, дык спацеў увесь.* Канашы Гар.

РАДАБО́ДДЗЕ *н., зб.* Зараснік. *Мы астанавіліся тады ў радабóддзі хмызнякоў.* Слабада Шум.

РАДАБО́ЦЬ *ж.* Тонкая, рэдкая тканіна. *Што ты з яе пашыеш, з радабóці? Такая рэдкая, як бінт.* Лазы Тал.

РАДАДУ́ЛІ, РЭ́ДАЛІ, РЭДА́ЛІ, РЭ́ДЫ *толькі мн.* Зробленыя з жэрдак бакавіны, якія ўстаўляюцца ў калёсы для перавозкі сена. *Бяры рададýлі, сена накладзём ды завязём брату.* Ноўка Гар. *Стаяць гэты рэ́далі каля крыльца, некуды прама дзецца.* Валынцы В.-Дзв. *Сена капяшкамі ложаць на рэдáлі і звозяць у амбар.* Шаркаўшчына. *Рэ́ды нашыя зламаліся. І як сена цяпер вазіць будзем?* Падрукша Брасл.

РА́ДАНІЦА *ж., абрад.* Радаўніца. *На Рáданіцу на кладбішча пойдзім.* Лужасна Віц. *А на Рáданіцу шоў дождж.* Чарневічы Глыб.

РА́ДАСЬ *ж.* Радасць як эмацыянальнае пачуццё. *Якая рáдась, што вы прыехалі.* Боркавічы В.-Дзв. *Як дзеці добрыі, дык маткі рáдась.* Чырына Дубр.

РАДА́ЦЬ *незак.* Рыдаць, моцна плакаць. *Яна ізноў радáе – ну што ты зробіш?* Стаі Леп. Параўн. *ры́гаць, ры́згаць.*

РА́ДВАЦЦА *незак.* Ганарыцца, адчуваць гордасць. *Жывіце так, каб мы вамі маглі рáдвацца.* Евіна Гар.

РА́ДЗІВА, РА́ДЗЬВА, РА́ДЫВА *н.*, РА́ДЗІЯ, РАДЗІВО́ЛА *ж.* Радыё. *Рáдзіва ўключы.* Чырына Дубр. *Рáдзіва тожа не работала ў іх.* Свабодная Сен. *У наш час было толькі адно рáдзьва.* Ступакі Дубр. *Уключы рáдыва.* Фарынава Пол. *Жылі даўней не так, як цяпер: цілівізараў не было, рáдзіяў тожа.* Папшычы Глыб. *Пра гэта гаварылі па радзівóле.* Груздава Паст.

РАДЗІВО́Л *м.* Радыёла. *Помню, як бацька прывёз першы радзівóл.* Спігальшчына Міёр.

РАДЗІВО́ЛА гл. РА́ДЗІВА

РАДЗІ́НА, РО́ДЗІНА *ж., толькі адз.* Сваякі, радня. *Радзі́на ў іх бальшая.* Канашы Гар. *На Каляды да нас збіраецца ўся радзі́на.* Чырына Дубр. *Уся бабуліна рóдзіна з'ехалася на юбілей.* Галбея Паст.

РАДЗІ́НЫ *мн., абрад.* Хрэсьбіны. *На радзі́ны сягоння ідзём.* Чырына Дубр. *Учора на радзі́нах пасля царквы добра пагулялі.* Высачаны Лёзн., Слабада Шум.

РАДЗІЦКА, РАДЫ́СА *ж.* Радыска. *На стале салат з радзіцкі.* Кудзіны Гар. *Радысу таксама выполваю.* Езярышча Гар.

◊ РАДЗІ́ЦЦА ПА́ДА МНОЙ Быць малодшым за некага. *Сёстры старэйшыя былі, а брацец радзіўся па́да мной ужо.* Крывыя Тал.

РАДЗІ́ЦЬ, РЯДЗІ́ЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Трэба буракі і моркву радзіць, а то малыя вырастуць.* Замошша Брасл. *Рядзіць буракі пайду заўтра.* Канашы Гар. Параўн. *раздзёргваць.*

РА́ДЗІЯ гл. РА́ДЗІВА

РА́ДЗЬВА гл. РА́ДЗІВА

РАДЗЮ́ШКА *ж.* Саматканая коўдра, пакрывала з грубай тканіны. *Бывала, накрыешся радзюшкай і спіш, а цяперака спаць не хочыцца.* Рошчына Сен.

РА́ДНІЦА *ж.* Грубая тканіна. *Спадніцу пашылі з ра́дніцы, цёплая такая.* Ураджайная Глыб.

РА́ДУНІЦА *ж.* Вясёлка. *Паглядзі на неба ўверх – якая ра́дуніца!* Опса Брасл.

РАДУ́ХА *ж.* Радоўка, ядомы грыб. *Назбіраў раду́х толькі на суп.* Слабада Шум.

РА́ДУШКАМ *прысл.* Побач. *Стаяў ён кала мяне ра́душкам.* Чарневічы Глыб.

РА́ДЫВА гл. РА́ДЗІВА

РАДЫ́СА гл. РАДЗІ́ЦКА

РАЁК *м.* Адпачынак пасля сельскагаспадарчай працы. *Вось і раёк надышоў, пасядзім.* Опса Брасл.

РАЁНКА *ж., экспр.* Раённая газета. *У раёнку напішы.* Мазалава Віц. *Раёнка прыходзіць па сярэдах.* Славені Тал.

РАЁЎКА, РО́ЙКА, РЭЁЎНЯ *ж.* Раёўня, лёгкі драўляны посуд з палатняным дном для збірання раёў. *Мой дзед збіраў пчол з дрэва ў раёўку.* Абольцы Тал. *Пчолы паселі, а я іх у ро́йку саграбаю.* Дабравольск Тал. *А я бяру рэёўню ды іду да іх ціхенька.* Данілкава Тал.

РАЁЎКІ *толькі мн.* Вулей. *Ужо раненька утрам у раёўках чуўся гоман – гэта пчолы праснуліся.* Старое Лядна Леп.

РАЖАСТВО́, РАСТВО́, РАШТВО́ *н., абрад.* Каляды. *На Ражаство́ к вам прієду.* Кулакова Віц. *Я старыя празьнікі харашо помню: послі Новага года зразу бываіць Ражаство́.* Баева Дубр. *А на Ражаство́ хачу паехаць да хроснай у госці.* Язвіна Шум. *Раньшы ўсегда на Раство́ гадалі дзеўкі.* Крывасельцы, Стралкі В.-Дзв. *Самы мой любімы празнік – гэта Раство́.* Папшычы Глыб. *Сёння Раштво́!* Канашы Гар., Стар Лёзн. *К Раштву́ ўжо рабілі каўбасы і мяса.* Дабея Шум.

РАЖА́ЧКА *ж.* Ёмістасць для захоўвання масла. *У кладоўцы на стале заўсёды стаяць збаночкі са смятанай і ража́чка з маслам.* Шаркаўшчына.

РА́ЖНА *прысл.* Прыгожа, пекна. *Што ты на сябе напяліў? Гэта саўсім не ра́жна.* Язна Міёр.

РАЖНЫ́ *прым.* Працавіты. *Я ж ужо не малы і яшчэ не стары. Ражны́, работны мужчына. Не ёлупень нейкі.* Язна Міёр. Параўн. *рабо́тны, рупе́сны.*

РАЖО́К *м.* Чалавек, які прапаведуе адначасова дзве веры – каталіцкую і праваслаўную. *А я ражо́к! Мама мяне так называла. Хадзіў адразу ў дзве царквы.* Варнелі Брасл.

РАЖЭ́ННЕ *н.* Дзень нараджэння. *У ўнучкі ражэ́нне скора – нужна гасцінец пакупаць.* Весніно В.-Дзв. *Ражэ́нне ў мяне пятнаццатага іюля.* Стралкі В.-Дзв.

РАЗ *м.* Выпадак. *У тыя ра́зы неяк па-іншаму рабілі.* Іванск Чаш.

РАЗГРАМАЗДЗІ́ЦЬ *зак.* Убраць, выкінуць аднекуль лішнія, непатрэбныя рэчы, прадметы. *Разграмаздзі́ ты ў кладоўкі троху.* Лужасна Віц.

РАЗ'Е́ХАЦЬ *зак.* Акучыць. *Раз'ехалі бульбу ўчора.* Лужасна Віц. *Раз'едзь мне бульбу заўтра.* Чырына Дубр.

РАЗ'ЯЗЖА́ЦЬ *незак.* Акучваць. *Сёння ўранні мы раз'язжа́лі картоплю сваю.* Адаменкі Лёзн. Параўн. *разга́піваць.*

РАЗАЗНА́ЦЦА *зак.* Пазнаёміцца, уступіць у знаёмства з кім-н. *Разазна́ліся дзеці – гуляюць, ніхто ім з бальшых ні нада.* Канашы Гар. *Калі мы з ім разазна́ліся, назаўтра ўжо ў кіно пайшлі.* Чырына Дубр.

РАЗАЙСЬЫ́ЦІСЯ *зак.* Развесціся, скасаваць шлюб. *Мая дачка сабіраецца разайсьы́ціся з сваім мужыком.* Порплішча Докш.

РАЗА́К *м., уст.* Арала, саха. *Спачатку ўзорвалі зямлю разако́м.* Галбея Паст.

РА́ЗАМ *прысл.* Зрэдку, час ад часу. *Ра́зам нічога так бываіць.* Замошша Брасл. *Ра́зам як заколіць у плячо, а ра́зам – і нічога.* Канашы Гар.

РАЗБАЗУРЭ́ЦЬ *зак.* Стаць непаслухмяным, нахабным. *Пляменнік зусім разбазурэ́ў, бацьку не слухае.* Полацк. Параўн. *разбэ́цацца, развудрэ́ць.*

РАЗБАЛАБО́ШАНЫ *дзеепрым.* Разбіты, растаптаны (пра глебу). *Пасля ўсё сціхла, чутна толькі было, як сцякала з разбалабо́шанага капытамі берага вада назад у лагчыну.* Папіна Сен.

РАЗБАРЫШЫ́ *толькі мн.* Разлад, нязгода, нелады. *Я ўжо ад маткі пачула, што ніякага вяселля не будзе, што ў іх разбарышы́.* Чарневічы Глыб.

РАЗБІРА́ЦЦА *незак.* Рыхтавацца, збірацца. *Нада ўжо разбіра́цца дадому ісці.* Замошша Брасл.

РАЗБО́КШЫ *дзеепрысл.* Які загінуў або параніўся ў выніку падзення. *Адзін з нашага класа ў дзевяноста другім разбо́кшы быў на матацыклеце.* Гута Паст.

РАЗБУ́БНІЦЬ *зак.* 1. Разбухнуць, набухнуць, набрыняць. *Гарох за ноч разбу́бніў у вадзе, садзіць буду.* Чырына Дубр. 2. *перан., неадабр.* Распаўнець (пра чалавека). *Дзесяць гадоў я яе не бачыла, яна так разбу́бніла.* Яроненкі Гар.

РАЗБУЛЁНІЦЬ *зак.* Размясіць, растаўчы (пра глебу). *Во забуксаваў, зямлю разбулёніў, сваім ходам не выедзе, дапамога трэба.* Лужкі Глыб.

РАЗБУ́Р *м.* Беспарадак. *Такога разбу́ру, як у маёй суседкі, ні ў кога няма.* Мішкавічы Шум. Параўн. *разгірэк, раскірдáш, рóіла, рэ́дар.*

РАЗБЭ́ЦАЦЦА *зак.* Распусціцца, стаць непаслухмяным. *Зараз моладзь разбэ́цалася ўся.* Варапаева Паст. Параўн. *разбазурэ́ць, развудрэ́ць.*

РАЗБЯЗУ́РЫЦЬ *зак.* Разбэсціць, разбалаваць. *Разбязу́рыла малых, хутка на галаву сядуць.* Мікалаёва Міёр.

РАЗВАДЗЕ́НЬ *м.* Мужчына, які скасаваў шлюб, развёўся з жонкай. *Найшла сабе разваднá, нічога не рóбіць.* Камары Віц. Параўн. *разлу́чнік*[1].

РАЗВАДУ́ХА *ж.* Разведзеная, адзінокая жанчына. *Развадýха ёсць, жыве каля леса, цяжыло ей: усё сама дзелаіць.* Кузняцова Віц. Параўн. *распускáнка.*

РАЗВА́Л *м.* Від узворвання, пры якім барозны размяшчаюцца адна ад адной на значнай адлегласці. *Як і раней пашуць – у свал і ў развал.* Гунчанкі Віц.

РАЗВА́ЛКІ, РАЗВАЛЬНІ́ *толькі мн.* Падвода, прызначаная для перавозкі чаго-н.; сані. *Селі ў развáлкі і паехалі.* Опліса Брасл. *Мой дзед учора развальні́ чыніў цэлый дзень.* Езярышча Гар.

РАЗВА́Р *м.* Кампот з ягад. *Добра было б па абедзе разварý папіць.* Роўнае Шум.

РАЗВУДРЭ́ЦЬ *зак.* Распусціцца, стаць непаслухмяным. *У наш час вучні дужа развудрэ́лі.* Кузьмянцы Віц. Параўн. *разбазурэ́ць, разбэ́цацца.*

РАЗГА́НІВАЦЬ *незак.* Разганяць, акучваць (пра бульбу). *Трэба бульбу разгáніваць.* Сянно. Параўн. *раз'язжáць.*

РАЗГАСЦЯВА́ЦЦА *зак.* Пагасціць доўгі час. *У суседзей госці разгасцявáліся.* Ветрына Пол.

РАЗГІ́РЭК *м.* Беспарадак. *Каб ты бачыў, які разгірэк у іх у хаце.* Мішкавічы, Шум. Параўн. *разбýр, раскірдáш, рóіла, рэ́дар.*

РАЗГНЕ́СЦІ *зак.* Расціснуць, расплюшчыць. *Мама разгнéсла ягады для пірага.* Стаі Леп.

РАЗГО́ЕНЫ *дзеепрым.* Раскіданы. *Гляджу, аж ля Буронкі ляжаць на разгóенай саломе двое цялятак – бурыя, як і сама Буронка.* Папіна Сен.

РАЗГО́НКА *ж.* Працэс акучвання бульбы. *А ўчора на полі дзед разго́нку рабіў.* Чарневічы Глыб.

РАЗДЗЕ́ЛКІ *толькі мн.* Перагародкі ў пячной трубе, калі ў дымаход зроблены выхады з дзвюх печаў. *Дарэмна ў вашым дымаходзе зроблены раздзе́лкі.* Чарневічы Глыб.

РАЗДЗЁРГВАЦЬ *незак.* Прарэджваць (пра агародныя расліны). *Калі расліны часта растуць, іх нада раздзёргваць.* Доўжа Віц. Параўн. *радзі́ць, рядзі́ць.*

РАЗЗУДЗІ́ЦЦА *зак., экспр.* Шырока размахнуцца, разгарнуцца. *Глядзём, а вакол нас нешта лятаець, усё роўна як дзяўчаты фартухамі раззудзі́лісь.* Баршчоўка Віц.

РАЗЗЯ́ПІЦЬ *зак., экспр.* 1. Шырока расчыніць, раскрыць. *Раззя́піла дзверы, зачыняй, а то наляціць мух.* Валосава Тал. Параўн. *расплікну́ць, раступы́рыць, расха́мпіць.* 2. *груб.* Разявіць (рот). *Што глядзіш, рот раззя́піла?* Чырына Дубр. Параўн. *разі́ніць.*

РАЗІ́НІЦЬ *зак.* Разявіць (рот). *Як разі́ніць Ваўчок, сабака наш, ляпу, дык і ад ваўка не адлічыць.* Задзетуні Віц. Параўн. *раззяпі́ць.*

РА́ЗІЦА *ж.* Розніца. *Якая ра́зіца, хто дзе жыве.* Свіраны Паст.

РАЗЛАПУШЫ́ЦЦА *зак., экспр.* Рассесціся. *А яна як разлапушы́цца на лаўцы, дык, кроме яе, ніхто туды больш не ся́дзіць.* Старое Лядна Леп. Параўн. *раскапу́сціцца.*

РАЗЛА́ТЫ *прым.* Лапавухі (з вялікімі адтапыранымі вушамі). *Вушы тваі разла́тыі надзяру січас.* Канашы Гар.

РАЗЛУ́ЧНІК[1] *м.* Разведзены мужчына. *Мая дочка выхадзіла замуж за разлу́чніка. Мы ўсёй сям'ёй проціў былі.* Турлы Паст. Параўн. *развадзе́нь.*

РАЗЛУ́ЧНІК[2] *м.* Сепаратар. *Маці зліла малако ў разлу́чнік.* Груздава Паст.

РАЗМАЗНЯ́ *ж.* Каша з нацёртай, як на дранікі, бульбы, запраўленая салам. *Размазню́ ў печ паставіла, хай утушываіцца.* Гарбачэва Рас.

РАЗМАНДЫ́КІВАЦЬ *незак., груб.* Многа гаварыць, разважаць над чым-н. *Вы лучшы не размандыкі́вайце, а работайце.* Ахрэмаўцы Брасл., Янкі Докш. Параўн. *рассусо́ліваць, рассяме́нькаваць.*

РАЗМО́ЛЬШЧЫК *м.* Млынар, работнік у млыне. *Трэба ж размо́льшчыку схадзіць, мукі набраць.* Бешанковічы.

РА́ЗНА *прысл.* Па-featureзнаму. *Лавіць рыбу можна ра́зна.* Крывое Сяло Шум.

РАЗНАМЁТ *м.* Рознакаляровасць, стракатасць. *Відзіш, які разнамёт на яе пасцілках, ажно ў вачах дзелаіцца раба.* Мішкавічы Шум.

РАЗНІ́ЦА, РАЗНІЦА́, *ж.* Сячкарня, прыстасаванне для змяльчэння травы ці саломы. *Траву сама лепш рэзаць разні́цай.*

Дворнава Шарк. *Два гады збіралі грошы на разні́цу.* Таўкіні Шарк. *Разніца́ перастала працаваць пасля дажджу, можа заржавела?* Мікалаёва Міёр.

РАЗНО́ДАНЫ *дзеепрым.* Знішчаны, ліквідаваны. *Пасля вайны ўсе нашы калхозы былі разно́даны.* Германавічы Шарк.

РАЗНО́СКА[1] *ж.* 1. Сумка. *Вазьмі разно́ску і схадзі за хлебам у аўталаўку.* Сухавержжа Міёр. *Калі ішла ў магазін, дык забыла сваю разно́ску.* Крывое Сяло Шум. 2. Кашэль, вялікая кашолка. *Калі пойдзеш у лес, разно́ску сваю бяры.* Драздыі Беш. *Вазьмі з сабой разно́ску, болей яблыкаў назбіраеш.* Коравічы Чаш. 3. *перан.* Паштальёнка. *Многа ўсякага тавару, газет і пераводаў перацягала вясковая разно́ска.* Вісяты Міёр.

РАЗО́ЎКА *ж.* Гатунак пшанічнай мукі. *Панабіралі людзі разо́ўкі і аўсянкі.* Грышаны Віц.

РАЗРАБІ́ЦЦА *зак., неадабр.* Растаўсцець, распаўнець. *Гэта ж трэба было ёй так разрабі́цца.* Сар'я В.-Дзв.

РАЗРАБІ́ЦЬ *зак.* Распусціць на ніткі. *Разрабі́ць кофту.* Верацеі Шарк.

РАЗРУ́ХАЦЦА *зак.* Разварушыцца, расшавяліцца. *До ляжаць! Када ты ўжо разру́хаешся і на вуліцу пойдзеш?* Казімірова Пол.

РАЗСУПО́НІЦЦА *зак.* Распрануцца. *Я ужо разсупо́нілась, лень мне назад апранацца.* Кутняны Пол.

РАЗУ́МЕЦ *м.*, РАЗУМУ́ТА *аг., іран.* Разумнік, разумны чалавек. *Зайдзі да майго суседа. Ён жа такі разуму́та.* Ахрэмаўцы Брасл. *Такі ты і разу́мец, а хата ў цябе крывая, на рамонт зарабіць не можаш.* Чырына Дубр.

РАЗУМІ́ЦЦА *незак.* Неапраўдана, недарэчна дэманстраваць свае разумовыя здольнасці, не лічыцца з поглядамі іншых (часцей з адмоўем *не*). *Не разумі́ся ты дужа там, дзе ні нада.* Ноўка Гар., Лужасна Віц.

РАЗЯ́ПІЦЦА *зак., экспр.* Сварыцца, моцна крычаць. *Калі мая свякруха разя́піцца, то ўжо доўга не сунімеш.* Папоўка Сен. Параўн. ◊ *раўці́ дзі́ччу* ў 1 знач.

◊ РАЗЯ́ПІЦЬ ЗЯ́ПУ Дзівіцца з чаго-н. *Усе як убачылі маладую, дык разя́пілі зя́пу.* Сваташыцы Дубр.

РА́ЙДЫ *толькі мн.* Калёсы з высокімі драбінамі па баках, якія служаць для перавозкі сена. *Наладзь ра́йды, заўтра сена вазіць трэба.* Юнькі Паст. *Вазілі сена на ра́йдах.* Дворнава Шарк. *Грузілі сена на ра́йды.* Клінавое Шарк.

○ РАК ЗЕМЛЯНЫ́ *м., заал.* Мядзведка, шкоднік сельскагаспадарчых культур. *Пад пнём знайшлі земляно́га ра́ка.* Біцялёва Віц.

○ РА́КАВАЯ ШЭ́ЙКА *ж., бат.* Дзекабрыст, род эліфітных кактусаў. *Тута стаіць ра́кавая шэ́йка на падаконніку.* Абольцы Тал.

РАКАВІ́К *м., заал.* Рачны рак. *Пад мастом, недалёка ад старой станцыі, хлопцы налавілі цэлы кошык ракавіко́ў.* Старыя Лаўкі Чаш.

РАКА́ІЦЬ *незак.* Рычаць. *А ў цёмнам лесі рана мядзведзьрака́іць.* Новыя Крукі Міёр.

РАКА́ЛЯ *аг.* Гарэза. *А гэты рака́ля яшчэ недзе бегае.* Азёркі Гар.

РА́КАЎКА *ж.* Ракавіна. *Глядзі, смоўжык у ра́каўку схаваўся!* Баева Дубр.

РАКЕ́ЛЯ *ж.* Кішка, частка органаў стрававання ў жывёлы. *Не знаю, ці будзем ракелю для каўбас браць. Лепш сабакам кіну.* Друя Брасл.

РАКЗА́К м. Рукзак. *З мора ракушак поўны ракза́к прывезлі.* Алексінічы Сен.

РА́КУШКА *ж.* Ракавіна, від покрыва і абароны цела некаторых бесхрыбтовых жывёл. *Ёсць такія ра́кушкі кала возера ці рэчкі, бываюць дужа красівыя.* Гарбачы Беш. *Мы тады сабіралі ра́кушкі, як рібятамі былі.* Біцялёва Віц., Абруб Глыб. *Дзевачкі з нашага класа робяць цацкі і каралі з ра́кушак.* Стараселле Леп., Мярзлякова Лёзн. *На беразе многа ра́кушак.* Свабодная Сен. *На Дзвіне можна найсці многа дужа красівых ра́кушак.* Далуева Шум. *А насабірае гэтых ра́кушак процьму – нашто во яны?* Мішневічы Шум.

РАЛАТУ́ШКА *ж.* Сукаватая палка. *Хадзіла ў лес, іскала рагату́шку з такімі во сучкамі: калатоўку новую хачу.* Езярышча Гар. Параўн. *рагазі́на, рагазу́ліна, рагату́шка, рага́ціна, раго́зіна.*

РАЛА́ШКА *ж.* Калатоўка. *Абтрасі рала́шку: бульбы наліпла.* Завяззе Шум.

РАЛЕ́МЫЙ *прым.* Хамут. *Вунь ужо цягнуць і ралемый каню.* Валынцы В.-Дзв.

РАЛЛЯ́ *ж.* Зямля, зямельны ўчастак, надзел. *У маткі нашай многа раллі́ было.* Зорнікі Беш.

РАМАНЁК, РО́МАН *м.*, РАМО́НКА *ж.*, РАМА́НЫ, РАМАНЫ́, РАМУЛІ́ *мн.* Рамонак. *Сколькі сёлета ў агародчыку раманько́ў нарасло!* Папшычы Глыб. *Ро́ман гэткі цвёў побач.* Бялькоўшчына В.-Дзв. *Рамо́нку адарваў.* Сценка Докш. *Вельмі смачны чай з рамо́нкі.* Мікіціха Шум. *Тут на полі ніякіх цвятоў, кроме рама́наў, не цвіце!* Варанцэвічы Тал., Шыці Шарк. *Букеты і вянкі прыгожыя атрымліваюцца з рамано́ў, і не вянуць яны доўга.* Сваташыцы Дубр. *Рамулі́ бываюць як сарняк, а бываюць апцечныя.* Зачысцікі Шарк. *Пашла ў поле, набрала рамулёў.* Радзюкі Шарк.

РАМАЦІ́СТ *м., мед.* Рэўматызм. *Хварэю я. Рамаці́ст во скруціў.* Бігосава В.-Дзв.

РАМО́НКА гл. РАМАНЁК

РАМА́НЫ, РАМАНЫ́, РАМУЛІ́ гл. РАМАНЁК

РАМЁНЫ *мн.* Плечы. *Падымі рамёны, а то і майка спаўзе.* Казімірова Пол.

РАНДО́ЛІК *м.* Скрутак. *Я разбіраў рандо́лік вельмі доўга.* Опліса Брасл.

РАНДЭ́ЛЕК, РАНДЭ́ЛІК, РУНДЭ́ЛІК, РЫНДО́ЛІК *м.* Каструля невялікіх памераў без ручак. *Трэба рандэ́лек памыць.* Белішкі Паст. *Поўны рандэ́лек кашы.* Вярэнькі Паст. *Рандэ́лек нязручны, лепш кацялок небальшэнькі ўзяць.* Турлы Паст. *Вазьмі рандэ́лік, звары геркулесу, надта хочыцца мне паесці.* Папшычы Глыб. *Госці ўсе раз'ехаліся, таму маці ўжо варыла ў рандэ́ліку.* Пліса Глыб. *Бульбачку варылі ў рундэ́ліку.* Чарневічы Глыб. *А суп звары ў рындо́ліку.* Лужкі Шарк.

РА́НЕТЫ, РАНЕ́ТЫ *дзеепрым.* Паранены. *Салдат быў крэпка ра́неты.* Чычанева Тал. *А брат с вайны прышоў ране́ты.* Заазер'е Тал.

РА́НШЫ, РА́НЬША, РА́НЬШЫ, РА́НЬШЭ, РА́НЬШЭЙ *прысл.* Раней. *Ра́ншы ўмесці дзеці сабяруцца і ў ягады.* Слабодка Леп. *Ра́ньша жызня другая была.* Варапаева Паст. *Ра́ньшы было весялей.* Бабінавічы Лёзн. *Раньшы весялей было.* Ула Беш. *Ра́ньшэ тут цэркаў была, людзі богу маліліся.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Ра́ньшэ танцы былі, так танцы.* Кляўцы Лёзн. *Ра́ньшэй было зусім не так.*

РАНЬКО́М *прысл.* Раніцай, раненька. *Заўтра ранько́м пойдзем у поле саджаць бульбу.* Зарубы Дубр.

РА́НЬША, РА́НЬШЫ, РА́НЬШЭ, РА́НЬШЭЙ гл. РА́НШЫ

РА́ПАЦЬ *незак., экспр.* Іграць на музычным інструменце. *Цэлы дзень ра́паіць на гармоніку.* Чарневічы Глыб.

◊ НА РАПСО́Н ЛЕ́ЗЦІ На ражон лезці, рабіць што-н. рызыкоўнае; дзейнічаць, не думаючы пра вынікі. *На рапсо́н ле́зеш, ты ж глядзі, каму гаворыш.* Кошчава Беш.

РАПУ́Х, РАПЯ́ШНІК, РО́ПУХ *м.* Лопух. *Рапухі́ мы рэзалі ў полі і кармілі імі кароў.* Дуброўна. *Гэтыя рапя́шнікі растуць усюды.* Грышаны Віц. *Ро́пух такім жоўтым цвёў.* Весніно В.-Дзв.

РАСІ́ЦА, РО́СЫП *ж.* Раса. *Уставалі даіць кароў рана, яшчэ расі́ца была.* Валькі Віц. *Ро́сып сягоні вялікая, хадзіць мокра.* Пранікі Уш.

РАСКАВЯ́РКАЦЬ *зак., экспр.* Разламаць, разарваць што-н. *Ён і аб кружку біў, трохі раскавя́ркаў.* Крывыя Тал.

РАСКАПУ́СЦІЦЦА *зак., экспр.* Рассесціся дзе-н., расклаўшы рэчы. *Раскапу́сцілася во тут на лаўкі ў міне і сядзіць.* Казловічы Гар. Параўн. *разлапушы́цца.*

РАСКАРА́КА, РАСКАРА́ЧКА *ж.* 1. Старое, расшчэпленае, раздвоенае дрэва. *За гародам у мяне раскара́ка стаіць. Гэта ад смалявіцы. Во сілішча!* Язна Міёр. *Яблынька старая стаіць, раскара́чка ўжо.* Янкі Докш. 2. *перан.* РАСКАРА́КА Стары,

непаваротлівы чалавек. *Хоць і стары раскара́ка, а падойдзя ціхонька і ўсё паробіць.* Зароўе Леп.

РАСКАРА́Ч *м.* Палатняная торбачка. *Ставілі ў раскара́ч яду мы с мамкай, якую я несла ў поле да бацькі.* Дуброўна. *Раней бабуля часта ткала, дык столькі раскара́чаў засталося!* Барсукі Дубр.

РАСКАРА́ЧКА гл. РАСКАРА́КА

РАСКАРА́ЧЫЦЦА *зак., экспр.* Стаць на карачкі, выконваючы якую-н. работу; сагнуцца, прыняць нязручную позу. *Што ты тут раскара́чылася, не прайці ніяк.* Ноўка Гар.

РАСКАРЕ́КА, РАСЬКЯ́РЭКА *аг., груб.* Няўклюдны, непаваротлівы, нязграбны чалавек. *Не дзеўка, а раскаре́ка нейкая расцець.* Ноўка Гар. *Раськярэка ты, хто ж так робіць?Атыйдзіся, я лепш сама зраблю!* Сахнавічы Глыб.

РАСКАТА́НІКІ *толькі мн.* Пячэнне з раскатанага цеста. *Раската́нікі гатовілі раньшэ ўкусныя.* Коўзаны Паст.

РАСКЕ́ПЛІВАЦЬ *незак.* Расшчапляць, рассякаць (пра дровы). *Унук дровы раске́пліваў.* Ульянаўка Беш.

РАСКІ́ДАЦЦА *зак.* Размокнуць, раскіснуць (пра дарогу). *Дарога як раскі́даецца, то не паедзеш.* Фалевічы Паст.

РАСКІРДА́Ш *м.* Беспарадак, адсутнасць парадку ў чым-н. *Развіла раскірда́ш у комнаці.* Лужасна Віц. Параўн. *разбу́р, разгі́рэк, ро́іла, рэ́дар.*

РАСКІРЭ́ЧЫЦЦА *зак.* Паваліцца, раскінуўшы ногі. *Ішла да калодзежа ды як раскірэ́чылася!* Папоўка Сен.

РАСКО́ПКІ *толькі мн.* Месца, дзе высечаны лес. *Раней там лес быў, а цяпер – раско́пкі.* Лескавічы Шум.

РАСКРАТА́ЦЦА *зак.* Расхадзіцца пасля доўгага ляжання ці сядзення. *Нада мне раскрата́цца, а то балець будуць ногі.* Леднікі Глыб.

РАСКУДЛА́НЫ *дзеепрым.* Раскудлачаны. *Раніцай глянеш на сябе – такая раскудла́ная!* Чырына Дубр. *Прыйшоў ноччу з гулянкі, стаіць у сенцах раскудла́ны.* Кветча Леп.

РАСКУ́БРЫЦЬ *зак.* Раскрыць, распячатаць. *А такі ж цікаўны! Усе каробкі да адной раску́брыў.* Папоўка Сен.

РАСКУГО́ЛІЦЦА *зак.* Расхваляваццa, засмуціцца; расплакацца. *Чаго ты ўжо раскуго́лілась? Што здарылась?* Анэліна Тал.

РАСО́Л[1] *м.* Суп, звараны на аснове капуснага расолу. *Расо́л вару, раблю яго з капуснага соку, дранай картошкі, троху мяса – смачна.* Швэплі Докш.

РАСО́Л[2] *м.* Гнаявая жыжка. *Расо́л кожны дзень з хлеву вычэрпваеш, а яго апяць поўна.* Евіна Гар.

РАСПАЛЁЎКА *ж.* Падпал; смалякі, трэскі, якія служаць для распальвання печы. *А як палілі ў печы, дык даставалі распалёўкі.* Звёздная Арш.

РАСПАСО́РЫЦЬ *зак., экспр.* Патраціць, зрасходаваць (пра грошы). *Сястра распасо́рыла ўсе грошы на кірмашу.* Фарынава Пол. Параўн. *расшы́каць.*

РАСПІ́САНКА *ж., абрад.* Пафарбаванае на Вялікдзень яйка. *Нада хрэсніку распі́санку аднясці.* Янкавічы Рас.

РАСПІРЫ́НДАВАЦЬ *незак.* Распараджацца; адчуваць сябе гаспадаром. *Толькі паявіўся – і давай распіры́ндаваць: туды пакладзі, сюды прынясі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

РАСПЛІКНУ́ЦЬ *зак.* Расчыніць. *Вокны лепш расплікні́, а не дзверы.* Кутняны Пол., Матырына Уш. Параўн. *раззя́піць* у 1 знач., *раступы́рыць, расхампі́ць.*

РАСПУСКА́НКА *ж.* Разведзеная жанчына. *Вось гэту бяры: няважна, што распуска́нка, зато рабіць усё ўмее.* Грышаны Віц. Параўн. *разваду́ха.*

РАСПУ́СКІ *толькі мн.* Тачка. *Зламаў сусед нашы распу́скі, а новых зрабіць не жадае.* Шаркаўшчына.

РАСПУТРЭ́ЦЬ *зак., экспр.* Разленавацца. *Зусім распутрэ́ў, нічога не хоча рабіць.* Лазы Тал.

РАССАСУ́ЛІВАЦЬ *незак.* Марудзіць, цягнуць час. *Хваціць рассасу́ліваць, ехаць нада.* Мазалава Віц., Канашы Гар.

РАССТА́ЦЦА *зак.* Развітацца. *Доўга не мог расста́цца з імі, але ж дадому трэба было ехаць.* Стаі Леп.

РАССУСО́ЛІВАННЕ *н.* Пустыя, бессэнсоўныя размовы. *Няма канца твайму рассусо́ліванню.* Урбаны Брасл.

РАССУСО́ЛІВАЦЬ *незак.* Доўга і бессэнсоўна гаварыць. *Як пачне рассусо́ліваць, рот не закрыеш.* Папоўка Сен. Параўн. *размандзы́ківаць, рассямé́нькаваць.*

РАССЯМЕ́НЬКАВАЦЬ *незак.* Весці доўгія бессэнсоўныя размовы. *Любіць рассямé́нькаваць, канца яе байкам няма.* Палата Пол. Параўн. *размандзы́ківаць, рассусо́ліваць.*

РАСТАРО́ПІЦЬ, РАСТРО́ПІЦЬ *зак.* Размарозіць, даць магчымасць адтаць чаму-н. *Растаро́піла халадзільнік, ажна на пол пайшло.* Валынцы В.-Дзв. *Растро́піла халадзільнік, вады налілося на пол.* Валынцы В.-Дзв.

РАСТВО́ гл. РАЖАСТВО́

РАСТРО́ПІЦЬ гл. РАСТАРО́ПІЦЬ

РАСТУПЫ́РЫЦЬ *зак.* Расчыніць, адчыніць. *Чаго ты дзверы раступы́рыў, халодна ўжо ў хаце стала! Не май месяц!* Абруб Глыб. Параўн. *раззя́піць* у 1 знач., *расплікну́ць, расха́мпіць.*

РАСТЫ́ *толькі мн.* Адросткі на клубнях бульбы, якія з'явіліся на ёй у час захоўвання. *Так доўга бульба ляжала, што расты́ чуць абарвала.* Падрукша Брасл. *Расты́ на бульбе – будзь здароў.* Лужасна Віц. *Бульба сёлета раста́мі пайшла.* Езярышча Гар. *К вясне бульба стала мяккая, была ўся ў раста́х.* Клясціцы Рас.

РАСТЫБУНЯ́ЦЦА *зак.* Разгуляцца, захапіцца гульнёй, развесяліцца. *Сядзеў, маўчаў, а потым растыбуня́ўся.* Палата Пол.

РАСУМЭ́ХА *ж., асудж.* Неакуратная, неахайная дзяўчына. *Якая расумэ́ха расце.* Новае Сяло Тал. Параўн. *ро́йха.*

РАСХА́МПЦЬ *зак.* Расчыніць насцеж. *Нашто расха́мпіў сарай? Куры разбягуцца. Ідзі зачыняй!* Баева Дубр. Параўн. *раззя́піць* у 1 знач., *расплікну́ць, раступы́рыць.*

РАСХВАСТА́ЦЬ *зак., экспр.* Пабіць, разбіць што-н. *Глядзі не расхваста́й мне посуд.* Леднікі Глыб.

◊ РАСЦІ́ Ў РО́ЦЕ Пра нясмачную страву, якую не хочацца есці, глытаць. *У дзіцёнка каша гэтая расце́ ў ро́це.* Варанцэвічы Тал.

РАСЦІ́РКА *ж.* Лекі (мазь, настойка) для націрання. *Лепей за таблеткі толькі расці́рка памагае.* Замошша Брасл.

РАСШАЛО́ПАЦЬ *зак., экспр.* Патлумачыць. *Расшало́пай ты яму нарэшце, што да чаго!* Сар'я В.-Дзв.

РАСШЫ́КАЦЬ *зак., экспр.* Растраціць, бяздумна зрасходаваць (пра грошы). *Мая ж як паедзіць у горад, так усе грошы і расшы́каіць.* Казімірова Пол. Параўн. *распасо́рыць.*

РАСШЭ́ЎКА *ж.* Вышыўка. *А мая маці прыгожыя расшэ́ўкі рабіла.* Высачаны Лёзн.

РАСЬКЯРЭ́КА гл. РАСКАРЕ́КА

РАТАКІ́ *мн.* Рыба невялікіх памераў, малькі. *Налавіў адных ратако́ў.* Літусава Сен. *Раз цэлы дзень вудзіў – адных ратако́ў прынёс, кату аддала.* Таўкіні Шарк. Параўн. *ры́бель.*

РАТА́Н *м.* Сом. *Мужыкі кажуць, нібыта ратаны́ ядуць усё, што відзюць перад сабой: і прыкормку і маленькіх рыбак.* Езярышча Гар.

РАТО́НДА *ж., груб.* Тоўстая жанчына. *Жонка ў яго такая ўжо ратонда стала.* Казімірова Пол. Параўн. *ро́ха, ру́ля*[1].

◊ РАТУ́НКІ КРЫЧА́ЦЬ Лямантаваць, нястрымана плакаць. *Спужалася і давай рату́нкі крыча́ць.* Верамееўка Гар. Параўн. ◊ *раўці́ дзі́чу* ў 2 знач.

РАЎГЕ́НІЯ, РАЎГЕ́НЯ *ж., абрад.* 1. Абрадавая ежа з аўса ці пшанічнай мукі, якую гатавалі на Вялікдзень. *Перш чым спрабаваць страву на Вялікдзень, трэба было адведаць раўге́ніі.* Друя Брасл. *Раўге́ню мы малыя асабліва любілі.* Германавічы Шарк. 2. РАЎГЕ́НЯ Напой, квас, прыгатаваны з жытняга хлеба і ржаной мукі. *Пост прыйшоў, пі раўге́ню і еш камы.* Папшычы Глыб. *Раўге́ня – квас з мукі. Муку запарывалі, настаівалі, хлеб дабаўлялі, дужа ўкусна палучалася.*

Сухавержжа Міёр. *Залі камы раўгéняй, так смашней.* Галбея Паст. *Елі толькі ўсё поснае: бульбу, раўгéню, грыбы.* Савуткі Шарк.

◊ РАЎЦІ ДЗІЧЧУ 1. Злосна крычаць, сварыцца. *А ён равé дзíччу на ўсё сяло.* Яблонка Тал. Параўн. *разя́піцца.* 2. Моцна плакаць, крычаць. *Малы мой ўвесь дзень равé дзíччу.* Баяры Чаш. Параўн. ◊ *ратýнкі крычáць.*

РАХАВÁЦЦА *незак.* Рыхтавацца, рабіць прыгатаванне да чаго-н. *Валачобнікі тыя рахавáліся-рахавáліся ды сабіраліся.* Вялікі Поўсвіж Леп.

РАХÁЛЛЕ, РАХАПÉЦЦЕ *н., зб., экспр.* Старыя, паламаныя рэчы, мэбля. *Убяры адсюль гэта рахáлле!* Старое Сяло Уш. *Выкінь ты ўжо гэтае рахáлле, сорам адзін глядзець!* Дабея Шум. *Колькі яшчэ гэта рахапéцце будзіць мазоліць мне вочы?* Старое Сяло Уш.

РАХЭ́ЛЯ *аг., асудж.* Неахайны, неакуратны чалавек. *У хаце абы-як, у хлеве, абы-як. Ні хазяйка, а рахэ́ля нейкая.* Вісяты Міёр. Параўн. *рóхля.*

РÁЧЫК *м., памянш.* Рак. *Мужык рáчыка злавіў і ў хату прынёс, жонкі гэта не спадабалася.* Пышна Леп.

РАШАТÓ, РІШАТÓ *н.* Рэшата, сіта. *Бабуля насыпала мукі ў рашатó.* Груздава Паст. *Боты цяпер як рішатó.* Гарадок. *Рішатó некуды прапала.* Канашы Гар. *Сёння бліны печ буду, а ты вазьмі муку ў рішацé прасей.* Кудзіны Гар.

РÁШКА *ж.* Даёнка. *Поўную рáшку малака надаіла.* Дворнава Шарк.

РАШÓТКА *ж.*, РАШЭ́ТНІК[1] *м.* Махавік, ядомы грыб. *Рашóткі хто берыць, хто не, а я дык і не бяру: і без іх грыбоў хапае.* Дразды Беш. *Рашэ́тнікаў цэлы кошык.* Лялеўшчына Гар.

РАШТВÓ гл. РАЖАСТВÓ

РАШЧЫ́НА *ж.* Рошчына, рашчыненае цеста. *У дзяжы заўсёды пакідаюць рашчы́ну, каб у наступны раз быў добры хлеб.* Тумінічы Арш. *Зроб рашчы́ну для бліноў.* Перабродддзе, Язна Міёр.

РАШЭ́ТНІК [1]гл. РАШÓТКА

РАШЭ́ТНІК[2], РЯШЭ́ТНІК *м.* Плот са штыкету. *На ряшэ́тніку вісяць тряпкі, сушуцца.* Жыгалава Віц. *Павесь рубаху на рашэ́тнік прасушыцца.* Задроўе Віц.

РВАНÍНА *ж.*, РВАННЁ *н.* 1. Парванае адзенне, лахманы, рыззё. *Дай мне якую-небудзь рванíну, вытру акно.* Мазалава Віц. *Схавай рваннё! Не саромся*! Фарынава Пол. *Ходзяць людзі ў рваннí – глядзець страшна.* Янкавічы Рас. Параўн. *ры́ззе, ры́зка.* 2. РВАНÍНА *аг., абразл.* Абадранец, басяк. *Рванíна-хлопец, за яго і не пойдзець ніхто с нашых дзевак.* Каменка Тал.

РÉЖАЙ *прысл.* Радзей. *Пасля Іллі людзі ўжо рéжай ходзяць купацца.* Канашы Гар.

РЕЗ *м.* Надзел, выдзелены для пакосу зямельны ўчастак. *Сёння ўсе людзі з вёскі пайшлі касіць сваі рязы́.* Адаменкі Лёзн.

РІБЯНЁНАК гл. РАБЁНАК

РІ́ЖКА, РІ́ШКА *ж.* Гумно, сушылка, памяшканне для прасушвання зерня. *Нада ў рі́жку мне схадзіць, паглядзець, ці падсохла зерне.* Валынцы В.-Дзв. *А тада насілі снапы ў рі́жку, каб трохі прасохлі.* Езярышча Гар. *У рі́шкі зерне намокла: крыша працекает.* Езярышча Гар.

РІЗЕ́ТКА *ж.* Разетка. *Дзве різе́ткі ў міне ў залі.* Канашы Гар. *Уключы целявізар у різе́тку.* Лазоўка Сен.

РІТУВА́ЦЬ, РЯТАВА́ЦЬ *незак.* Выратоўваць. *Рітува́ць бягу цібе!* Канашы Гар. *Рятý́й вас Бог!* Дабея Шум.

РІШАТО́ гл. РАШАТО́

РІ́ШКА гл. РІ́ЖКА

РО́ЎСТВЕНІЦА *ж.* Сваячка. *У нас на хутары была ро́ўственіца, ну і яна як-та пазнакомілася.* Дубрава Гар.

РО́БІЦЬ *незак.* 1. Рабіць, займацца чым-н. *Я работу ро́біў, а не гуляў.* Быцава Беш. *Калі я ро́блю працу, мне нічога не шкодзіць.* Опліса Брасл. *Мой дзед заўсёды гаваріў, што нада ро́біць, хоць што.* Бычыха Гар. *Памятаю, мамка ро́біла крупы з малозіва.* Чарневічы Глыб. *Ідзі ты ўжо ро́біць!* Новы Пагост Міёр. *Што ты будзеш ро́біць?* Рошчына Сен. *Ідзі ты ўжо роб!* Апанаскавічы Уш. 2. Працаваць, выконваць якую-н. працу ў адпаведнасці з прафесіяй, родам заняткаў, вывучкай. *Ро́біць трэ было шмат на яго рабоце.* Крывасельцы В.-Дзв. *Каб былі грошы, трэба ро́біць болей.* Дубрава Гар. *Гэта ж ро́біць на любой рабоці нада.* Кудзіны Гар. *І дзе во ён ро́біць цяпер, не знаю.* Сценка Докш. *Ён некалі дарожнікам ро́біў.* Спігальшчына Міёр. *Усю жызнь ро́біла і ро́біла ў калхозі!* Мурагі Рас. *Ён жа нідзе не ро́біць.* Кублічы Уш. *А я на ферме ро́біла даяркай.* Іванск Чаш. *Ро́біць трэба больш, дык будуць і грошы!* Курылаўшчына Шум.

РО́ВАР, РО́ВЕР, РО́ВЭР гл. РАВЭ́ЖА

◊ РО́ГІ ВЫ́РАСЛІ Пра чалавека, які звар'яцеў, здурэў. *У суседскага хлопца, наверна, ро́гі вырáслі: трасецца, як шалёны.* Сарочына Уш.

РО́ДЖАНІК *м.* Нованароджаны. *Як ро́джаніка прывязуць дамоў, многа гасцей прыходзіць.* Ульянаўка Беш.

РО́ДЗІНА гл. РАДЗІ́НА

РО́ДЗІЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Ну, нічога, яна яшчэ ро́дзіць.* Бігосава В.-Дзв.

РО́ДНЭЙ *м.* Дарагі, мілы, любімы. *Ро́днэй ты мой, а хто ж табе не дае? Рабі як знаеш.* Дворышча Леп.

РО́ЖА, *памянш.* РУЖЭ́ЧКА *ж.* Ружа. *А свая жонка, як ро́жа садавая.* Грышаны Віц. *У садзе ро́жа цвіце.* Ноўка Віц. *Там Манечка*

*пахадзіла, тую рóжу заламала, к свайму твару прымярала.* Вялікі Поўсвіж Леп. *У зале на стале рóжа стаіць.* Задоры Леп. *Бач ты, якія ў яе прыгожыя ружэ́чкі!* Белішкі Паст. Параўн. *рýта.*

РÓЗВІНЫ[1], РÓЗЬГІНІ, РЭ́ЗВІНЫ, РЭ́ЗГІНІ, РЭ́ЗЬГЕНІ *толькі мн.* Рэзгіны. *Мы пераносілі сена ў рóзвінах раней.* Тумінічы Арш. *Бярозу ці лазу гнулі і перапляталі вяровачкай, дзелаліся рóзвіны.* Дразды Беш. *Рóзвіны сплецены з вяровак, а ручкі з палак.* Лазы Тал. *Зімой карове сена заўсёды рóзвінамі нашу: ускінуў на плечы – і добра.* Коравічы Чаш. *Рóзьгіні паламаліся, а зрабіць некаму.* Язна Міёр. *Рэ́звіны стаялі ў хляве.* Мікалаёва Міёр. *Сын узяў рэ́згіні і пайшоў знасіць сена, пакуль не было дажджу.* Пліса Глыб. *У рэ́зьгенях не наносіш сена, быстра рукі ўстаюць.* Тупічына Шарк.

РÓЗВІНЫ[2] *толькі мн.* Лейцы. *Каня запрагалі, а тады адзін за плугам ідзе, а другі за рóзвіны дзяржыцца.* Дабравольск Тал.

РÓЗГАЛАС *м.* Рэха. *Чую: будта мой голас, а гэта рóзгалас.* Кошалева Віц. *Яго словы раздаваліся рóзгаласам.* Груздава Паст.

РÓЗДУР *м.* Распешчанасць, разбэшчанасць. *З рóздуру не будзе розуму.* Ветрына Пол.

◊ РÓЗУМАМ ТРÓНУЦЦА Звар'яцець. *Мусіць, ён рóзумам трóнуўся.* Кушлікі Пол.

РÓЗЬГІНІ гл. РÓЗВІНЫ[1]

РÓІЛА *н.* Беспарадак, адсутнасць парадку дзе-н. *Стаіць рóіла ў гэтай хаце, калі толькі не зайдзі.* Шыбекі Арш. Параўн. *разбýр, разгі́рэк, раскірдáш, рэ́дар.*

РÓЙКА гл. РАЁЎКА

РÓЙКІ *толькі мн.* Вантрабянка, кішкі, начыненыя бульбай з мясам. *Рóйкі апошні раз я ў дзяцінстве толькі ела.* Мікалаёва Міёр.

РÓЙХА *ж., асудж.* Неакуратная, неахайная дзяўчына ці жанчына. *Што за жонка ў яго: ходзіць як рóйха!* Старое Сяло Уш. Параўн. *расумэ́ха.*

РОК, РÓЧНІК *м.* Год. *Быў тады, сорак втары рок, калі бацьку немцы забілі.* Новы Пагост Міёр. *Хутка рóчнік прайшоў нават не заўважылі.* Галбея Паст.

РÓМАН гл. РАМАНЁК

РÓНА *ж.* Варона. *Надаелі гэтыя рóны, прылятаюць і вішні порцяць.* Замошша Брасл.

РÓПУХ гл. РАПÝХ

РÓСВЕНІК *м.* Той, хто знаходзіцца ў сваяцтве з кім-н., сваяк. *Сёлета я была ў Піцеры ў рóсвенікаў.* Езярышча Гар. Параўн. *рóўны.*

РÓСЛІКІ *толькі мн.* Праafрослае зерне жыта, пшаніцы. *Рóслікі збіраюся пайсці змалоць.* Чарневічы Глыб.

РÓСТАНЬКІ *толькі мн.* Ростані. *Як дойдзеш да рóстанек, да дому будзе рукой падаць.* Клясціцы Рас.

РО́СЦЯЖНІ *толькі мн.* Шырокія калёсы ці сані для перавозкі доўгага бярвення, на якіх мацуецца рамка, зробленая з жардзін. *Глядзі, каб ро́сцяжні не зламаліся.* Гарбачэва Рас.

РО́СЫП гл. РАСІ́ЦА

РОСЬ *прысл.* Прама. *Касі рось, не зварочвай.* Грабяніца Віц.

РОЎ *м.* Трэшчына на скуры. *У равы́ пяты пашчапаліся.* Магуны Паст.

РО́ЎНЫ ў *знач. наз.* Родны, сваяк. *У маіх ро́ўных не было ні золата, ні грошай.* Іванск Чаш. Параўн. *ро́свенік.*

РО́ХА *ж., неадабр.* Тоўстая, непаваротлівая дзяўчына ці жанчына. *Такой ро́хай стала, у плацце не ўлазіць.* Баравуха Пол. Параўн. *рато́нда, ру́ля[1].*

РО́ХЛЯ *аг., абразл.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Суседзе, што ты ўжо такі ро́хля.* Ржаўка Беш. *Ро́хля з ро́хлі мая нявестка.* Чыстаполле В.-Дзв. *Ён такі ро́хля. Не ведаю, што рабіць.* Грабяніца Віц. *Ці можна такім ро́хляй быць. Гэты малец быў ро́хля з маленства.* Гарадок. *Глянь на сібе, што ты, як ро́хля, ходзіш.* Марчанкі Гар. *Хоць і маладая была, але ўсе яе называлі ро́хляй.* Дабея Шум. Параўн. *рахэ́ля.*

РО́ЧНІК гл. РОК

РУБ *м.* Рубель. *Раньшы на руб сумку хлеба набіреш.* Канашы Гар. *Грошай трэба было нямнога: мо, руб ці два.* Шуміліна.

РУБА́НАК *м.* Калодка, на якой сякуць дровы. *У бацькі быў вялікі руба́нак, на ім ён заўсёды сек дровы.* Мікіціха Шум.

РУБА́НЕЦ *м.* Палена. *Руба́нец да руба́нцу – і дроўня гатова.* Звёздная Арш.

РУБА́НКА *ж.* Месца каля хаты, дзе сякуць дровы. *На руба́нцы ляжала многа дроў.* Антонаўка Арш.

РУБА́ЦЬ *незак.* Сячы. *Бацька руба́ў дрэвы сходу.* Багданова Брасл.

РУБЕРО́ЛЬ *м.*, РУБІРО́ЛЬ, РУБЕРО́ЛЯ *ж.* Рубероід. *Пенсію палучыла, купіла рубeróля, каб у пуні крышу перакрыць.* Задзежжа В.-Дзв. *Нада ж рубіро́лю купіць ішчо.* Кублічы Уш. *Вот етай руберо́ляй трэба крышу крыць.* Крывасельцы В.-Дзв.

РУБЕ́Ц *м.* Спінка ложка. *Абперлася тады на рубе́ц і ўзбіла падушкі.* Дворнава Шарк.

РУБІ́НА *ж., толькі адз.* Адзежына, цёплая вопратка. *Цёплую рубі́ну згубіла і ні знаю, што надзець цяпер.* Буднікі Беш.

РУБІРО́ЛЬ гл. РУБЕРО́ЛЬ

РУБІ́ХА[1] *ж.* 1. Прылада ў выглядзе праніка, з дапамогай якой прасуюць бялізну. *У мяне ёсь рубі́ха. Яна старая, але яшчэ годная.* Езярышча Гар. *Я выгладзіла шмат адзення рубі́хай.* Езярышча Гар. *Зламала рубі́ху. Чым цяпер буду ўцюжыць?* Лескавічы Шум.

2. Прылада, з дапамогай якой мыюць бялізну. *Рубíха ў бані стаіць. Заўтра вазьмі на ряку, мыць адзежу будзім.* Канашы Гар.

РУБÍХА[2] *ж.* Зруб. *Прыйдуць хлопцы, будзем новую рубíху на лазню рабіць.* Пірагі Дубр.

РУБЛЁНКА *ж.* Мясарубка. *Праз рублёнку прапусці мяса, катлет наробім.* Серкавіцы Тал.

РУВАНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Вельмі хутка пабегчы. *Я ад іспугу як рувану́ла!* Ясень Асіп.

РУДА́ *ж.* Гразь. *Увесь двор зарос рудóй.* Замачак Чаш.

РУДУ́ШКІ *мн.* Лісічкі. *Руду́шкі не бываюць чарвівымі – добрыя грыбы.* Ноўка Віц.

РУЖЭ́ЧКА гл. РÓЖА

РУКАВÍК *м.* Ручнік. *Вазьмі рукавікóм вытрыся.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *рукамáшка, рукáўнік, рушня́.*

РУКАВÓ *н.* Рукаў. *Рукавó рванае, давай заш'ю.* Ноўка Віц., Канашы Гар. *У куртцы зашый рукавó мне.* Груздава Паст.

РУКАМÁШКА *ж.* Ручнік кухонны. *На кухні нада ўсігда мець пад рукой рукамáшку.* Верамееўка Гар. Параўн. *рукавíк, рукáўнік, рушня́.*

РУКАМÓЙНІК *м.* Рукамыйнік. *Рукамóйнік вісіць на дварэ.* Ферма Шум.

РУКÁЎНІК *м.* Ручнік. *Калі рукáўнікаў сабіраецца гара, дык мама кладзе іх і варыць у кіпятку, каб чыстыя былі.* Мясаедава Шум. Параўн. *рукавíк, рукамáшка, рушня́.*

РУКÁЦЦА *незак.* Вітацца за руку. *Рукáліся яны шчыра: абняліся і пайшлі ў хату.* Бешанковічы. *Другей год ужэ з ім не рукáюся.* Чырына Дубр.

РУ́ЛІ *мн.*, РУЛЬ *м.* 1. Малако з накрышаным хлебам. *Помню, як прыедзіш да бабушкі, то первае, што ела, – гэта ру́лі.* Рыбчаны Паст. 2. Страва, прыгатаваная з вады, хлеба і цыбулі. *А што ж! Даўней елі не так, як шчас, ні ласаваліся ўсякімі прысмакамі. А ў пост толька ру́лі елі, самая смаката для нас была.* Сахнавічы Глыб. *Мужу часта ру́лі рабіла: туды хлеб, лук ды масла дабаўляла.* Чарневічы, Ясевічы Глыб. *Прыгатуй сёння на абед ру́лі.* Цілеўцы Міёр. *Мы любім ру́лі есці.* Варапаева Паст. *Ру́лі – найлепшая страва на вячэру.* Варапаева Паст. *Даўней ру́лі былі вельмі ядомай стравай.* Клясціцы Рас. *Калі хлеб счарцвее, нельга яго выкідваць, маці заўсёды руль рабіла.* Шаркаўшчына.

РУ́ЛЬКА *ж.* Ручай. *Авечкі нашы каля ру́лькі пасуцца.* Абрамава В.-Дзв. Параўн. *руччó.*

РУ́ЛЯ[1] *ж., экспр.* Тоўстая, поўная дзяўчына ці жанчына. *Вунь якая ру́ля пайшла.* Бешанковічы. *Во дык баба разгадавалася! Была як*

*шкілеціна, а цяперака добрая ру́ля.* Перавознікі Паст. Параўн. *рато́нда, ро́ха.*

РУ́ЛЯ[2] *ж.* Сажалка. *У гэтай ру́лі рыбы многа.* Замачак Чаш.

РУМЫ́НКІ *толькі мн.* Лёгкі жаночы абутак, тапкі. *Маці зняла з ног румы́нкі.* Груздава Паст. *Бабуля казала, што ў яе былі прыгожыя румы́нкі ў маладосці.* Клясціцы Рас.

РУМЯ́НКІ *мн.* Рамонкі. *Румя́нкі – гэта лекавая расліна. Кашаль ці што – яны дапамогуць.* Варнелі Брасл. *Настоі румя́нак памагаюць, як горла абаліць.* Чарневічы Глыб. *На румя́нках дзеўкі варожаць.* Дварчаны Паст. *На полі яшчэ толькі дзе-нідзе знойдзеш румя́нкі.* Дунілавічы Паст. *Чай з румя́нкаў і ўкусны, і цалебны.* Турлы Паст. *З румя́нак вянкі плялі.* Германавічы Шарк.

РУНДЭ́ЛЕК *м.* Мачалка. *Я ўсё ўжо ў баню занісла, толькі рундэ́лек з мылам вазьмі.* Сухавержжа Міёр.

РУНДЭ́ЛІК гл. РАНДЭЛЕК

РУПЕ́САК *м.* Руплівасць. *Дзе падзеўся твой рупе́сак? Учора ты лепш працаваў.* Мількі Брасл.

РУПЕ́СНЫ *прым.* Руплівы, працавіты. *Мужык мой рупе́сны быў, ніколі на месцы не сядзеў.* Казімірова Пол. Параўн. *рабо́тны, ра́жны.*

РУ́ПІЦЦА *незак.* Вельмі хутка рабіць, выконваць якую-н. працу. *Вось калі вы ўчора ру́піліся, дык мы справіліся ўсяго за дзве гадзіны.* Барсукі Глыб.

РУ́ПНІК *м.* Руплівы чалавек. *Да працы ён ру́пнік.* Вішня Шум.

РУСАЧО́К *м., памянш.-ласк.* Рускі (па нацыянальнай прыналежнасці). *А ты, русачо́к, дзіўны дзівачок, чаго ты дзівішся?* (з песні). Кветча Леп.

РУСІ́ЦЬ *незак.* Гаварыць, размаўляць па-руску. *Звычайна пасля арміі мальцы трохі русі́лі, а потым зноў пераходзілі на сваю гаворку.* Гарбачэва Рас. *Во, троху ў арміі пацёрся, дык русі́ць-русі́ць, спасу нет.* Забор'е Рас.

РУ́СКІ *м.* Праваслаўны. *Ру́скія ў царкву маліцца заходзяць.* Ульянаўка Беш.

РУ́ТА *ж.* Ружа. *Ру́та зялёная расла за сеньмі.* Лісна В.-Дзв. Параўн. *ро́жа, ружэ́чка.*

РУХУ́МА *ж.* Звычай, традыцыя. *На Купала руху́ма такая: пяюць, дурэюць.* Булахі Глыб. *Ой, там тады руху́ма такая – Купалу пяюць, качаюцца там каля агню.* Сухавержжа Міёр.

РУЦЭ́СКА, РУЦЭ́ШКА *ж., адзінк.* Сцябло лёну. *Дзяўчына вырвала руцэ́шку з корнем.* Заходы Гар. *Дзесіць руцэ́сак – куль.* Прудок Гар.

РУЦЯ́НЫ *прым.* Сплецены з кветак ружы (пра вянок). *Вянок руця́ны звіла.* Ноўка Віц.

РУЧА́ЙНІК *м.* Гліняны збан з ручкай. *Руча́йнік з малаком паставіла ў халадзільнік.* Сарочына Уш.

РУЧНІ́ЦА *ж., абрад.* Гадавіна, памінкі праз год пасля смерці чалавека. *Год прайшоў пасля смерці бацькі, ручні́цу трэба рабіць.* Белішкі Паст.

РУЧЧО́ *н.* Ручай. *Руччо́ журчыць, а я бягу.* Празарокі Глыб. Параўн. *ру́лька.*

РУ́ШКА *м.* Парсюк. *Ру́шкі любяць па́даліцце есці.* Выдрэя Лёзн.

РУШЛЕ́ТАЧКА *ж., памянш.* Вышытая сарочка. *Маці ў прыданае мне і рушле́тачак палажыла.* Выдрыца Арш.

РУШНІ́К[1] *м.* Банны ручнік. *Такім рушніко́м страшна і выціраццa.* Старыя Крукі Міёр.

РУШНІ́К[2] *м.* Вышытыя накідкі на абразы. *Рушні́к у покуць сёння павешалі святочны.* Стар Лёзн.

РУШНЯ́ *ж.* Ручнік. *Дай мне рушні́, сцёклы пратру ад пылюкі.* Каменка Тал. Параўн. *рукаві́к, рука́ўнік, рукама́шка.*

РЫ́Б'Е *н.* Юшка, страва са свежай рыбы з прыправамі. *Мой налавіў учора рыбы, дык ры́б'е згатавала, з бульбай гарачай елі.* Фарынава Пол.

РЫ́БЕЛЬ *ж., зб.* Дробная, малая рыба. *Рыбаку ніяк не лавілася – адна ры́бель.* Стрыгі Сен. Параўн. *ратакі́.*

РЫ́БЛЯ *ж.* Рыбалоўства, лоўля рыбы. *У яго тут і ахота, і ры́бля.* Папоўка Сен.

РЫ́ГАЦЬ, РЫ́ЗГАЦЬ *незак., экспр.* Плакаць, румзаць. *Што я табе такога сказала, чаго ты ры́гаіш?* Зубава Арш. *А яна ідзе і ры́згаіць на ўсю вуліцу.* Прошкава Глыб. *Ён, як вып'ець сто грам, ну тады ўжо ры́згаіць.* Псуя Глыб. Параўн. *рада́ць.*

РЫ́ГЛІ *толькі мн.* Тачыла. *Дай мне ры́глі, каса затупілась.* Сіўцы Паст.

РЫДВА́Н *м.* Калёсы. *Запраглі мы каня ў рыдва́н і паехалі да бабулі.* Грыгаравічы Леп.

РЫ́ДЗЕНЬ *м.* Рыдлёўка. *Узяўшы ры́дзень, я патроху пайшла ў сторану поля.* Стаі Леп.

РЫ́ЖЭНЬ *м., экспр.* Чалавек з рыжым колерам валасоў. *Іхні ры́жэнь ужо некуды выправіўся.*

РЫ́ЗГАЦЬ гл. РЫ́ГАЦЬ

РЫЗЕ́ЎКА *ж.* Пасцілка. *Рызе́ўку заслалі на ложак.* Дворнава Шарк.

РЫ́ЗЗЕ *н.*, РЫ́ЗКА *ж.* 1. Рыззё, старыя рэчы, лахманы. *Па хаце скрозь валялася ры́ззе.* Еўлахі Тал. *Мне ўжо і ры́зка добра.* Дворышча Леп. Параўн. *рвані́на, рваннё* ў 1 знач. 2. Бялізна. *Ры́ззе палошчуць тут, у ракі.* Машканы Сен.

РЫЗІ́НАВІКІ, РЭЗІ́НАВІКІ *толькі мн.* Гумавыя боты. *Абувай рызі́навікі, а то ў туфлях ногі вымачыш.* Бабічы Глыб. *Абуўшы рызі́навікі, выскачыла на вуліцу.* Савуткі Шарк. *А гэтыя такія добрыя рэзі́навікі: я ў іх і ў лес, і па дровы хаджу.* Баравуха Пол. *На вуліцы гразь па калена – трэба рэзі́навікі абуваць.* Лескавічы Шум.

РЫЗІ́НКА *ж.* Ануча для мыцця падлогі. *Рызі́нка ўжо зусім патрапалася, няма чым падлогу мыць.* Дварчаны Паст. Параўн. *рагóжына.*

РЫ́ЗКА гл. РЫ́ЗЗЕ

РЫ́ЗНІК *м.* Жабрак. *Мой бацька заўсёды ры́знікаў пускаў у хату, карміў.* Спігальшчына Міёр.

РЫКА́СТЫ *прым., асудж.* Злы, сварлівы, грубы. *Ну твая свякрова, ну рыка́стая баба!* Ілава Шум.

РЫ́КАЎКА *ж.* Карова. *Добрую ры́каўку купілі, на такую грошай не шкода.* Выдрэя Лёзн.

РЫ́НА *ж.* Труба для сцёку вады. *Тую гнілую ры́ну ўжо год замяніць ні можыць.* Ваўчо Уш. *Ры́на перажавелая была.* Дварэц Чаш.

РЫ́НДЗЕЛЬ[1] *м., груб.* Тоўсты чалавек. *О, ры́ндзель, морду якую наеў!* Старое Сяло Уш.

РЫ́НДЗЕЛЬ[2] *м.* Шуфель. *У кожнага гаспадара быў ры́ндзель.* Матырына Леп.

РЫНДО́ЛІК гл. РАНДЭ́ЛІК

РЫ́НУЦЦА, РІ́НУЦЦА *зак., экспр.* Легчы спаць. *Шчас кіно дагляджу і ры́нусь.* Каханавічы В.-Дзв. *Прідзём дамой і рі́німся.* Кулакова Віц., Ноўка Гар.

РЫ́ПАЦЦА *незак.* Рухацца. *Сядзі і ні ры́пайся.* Канашы Гар. *Пасля бацькавай гутаркі сядзеў ужо ціха, з месца не ры́паўся.* Баева Дубр.

РЫСУ́ЦЬ *незак.* Маляваць. *Дай, мама, фарбы, пайду рысу́ць.* Двор-Пліна Уш.

РЫХАВА́ЦЦА *незак.* Раіцца, дамаўляцца. *Рыхава́ліся, як зрабіць, каб на экзамен пайшоў першым.* Ноўка Віц.

◊ РЫ́ХАЛА-БЫ́ХАЛА Натоўп, зборышча. *Ры́хала-бы́хала гэта ледзьве абышла.* Ноўка Віц.

РЫ́ХЛЫ *прым.* Хуткі, шпаркі, паспешлівы. *Гэты хлапчук вельмі ры́хлы.* Звязда Леп.

РЫШТ *м.* 1. Месца ўпадзеня ракі ў возера. *Пойдзем сягоння купацца на рышт?* Пранікі Уш. 2. Канава; вязкае, гразкае месца. *Хлопчык хадзіў па полі, пакуль не праваліўся ў рышт.* Рыдамля Тал.

РЫШТА́Г *м.* Рэйхстаг. *Дзед мой хваліўся, што распісаўся штыком на рышта́гу.* Галбея Паст.

РЫШТА́НТ *м., экспр.* Свавольнік, гарэза. *Ах ты, жулік, ах ты рышта́нт малы!* Стралкі В.-Дзв. *Рышта́нты етыі ўсе мне паламалі.* Канашы Гар.

РЭ́ГАЛА *ж.* Крывая, сукаватая палка. *А яна тады схапіла нейкае рэ́гала ды як дала "жаніху" па спіне, што ён аж прыгнуўся.* Сваташыцы Дубр.

РЭ́ГНУЦЦА *зак., экспр.* Моцна ўдарыцца. *Упоцемку рэ́гнулася галавой аб вушак.* Празарокі Глыб.

РЭ́ДАЛІ, РЭДА́ЛІ гл. РАДАДУ́ЛІ

РЭ́ДАР *м.* Беспарадак, адсутнасць парадку ў хаце. *Ні рабі ж ты мне рэ́дару ў хаці, няўжо нільзя класці адразу ўсё на сваі месцы?* Сахнавічы Глыб. Параўн. *разбу́р, разгі́рэк, раскірда́ш, ро́іла.*

РЭ́ДЫ гл. РАДАДУ́ЛІ

РЭЁЎНЯ гл. РАЁЎКА

РЭ́ЖА *ж.* Рагожка, тканіна рэдкага палатнянага перапляцення. *У рэ́жы бальшэі вокны.* Валынцы В.-Дзв.

РЭ́ЗАЛКІ, РЭЗАЧЫ́ *толькі мн.* Нажніцы. *Падай, Марына, рэ́залкі – падрэзаць лісты трэба.* Бешанковічы. *Рэзачы́ былі цяжкія, жалезныя.* Мясаедава Шум.

РЭ́ЗАНКА, РЭЗЬ[2] *ж., зб.* Дробна нарэзаная трава ці салома на корм жывёле. *Назаўтра свінням рэ́занкі звару.* Лялеўшчына Гар. *Раньшэ рэзь свінням дзелалі самі.* Дразды Беш.

РЭ́ЗАЦЦА *незак.* Нападаць, накідвацца на каго-н. *Сабака наш давай на яе рэ́заца. Скача вакол, усё хоча кусануць.* Празарокі Глыб.

РЭ́ЗАЦЬ *незак., экспр.* Есці. *Яму каб усё прысмакі! А ты рэж і нясмачнае.* Алексінічы Сен.

РЭЗАЧЫ́ гл. РЭ́ЗАЛКІ

РЭ́ЗВІНЫ гл. РО́ЗВІНЫ[1]

РЭ́ЗГЕННЕ *н.* Вялікі кош для пераноскі сена. *Меней лажы сена, а то вельмі цяжкое рэ́згенне.* Старыя Крукі Міёр.

РЭ́ЗГІНІ гл. РО́ЗВІНЫ[1]

РЭЗІ́НАВІКІ гл. РЫЗІ́НАВІКІ

РЭ́ЗКА, РЭЗЬ[1] *ж.* Прыстасаванне для змяльчэння травы, сена, саломы і інш. *Нарвалі батвы, а потым на рэ́зку яе.* Старыя Крукі Міёр. *Рэзь дапамагала нам патом увосені, рэзалі ёй сена.* Дуброўна.

РЭЗЬ[2] гл. РЭ́ЗАНКА

РЭ́ЗЬГЕНІ гл. РО́ЗВІНЫ[1]

РЭ́ЙДАЛА *аг., груб.* Балбатун, пустаслоў. *Я пазнаёмілася з адным хлопцам – такі рэ́йдала, рот не закрываецца.* Лескавічы Шум.

РЭМІ́ЗА *ж.* Старая, закінутая хата. *Вунь ля той рэмі́зы, у якой вокны ў зямлю ўраслі, і расла раней бярозка.* Галбея, Гута Паст.

РЭ́НЧЫК *м.* Ручнік. *Мама рэ́нчыкаў са старай простыні нашыла.* Стаі Леп. *Вазьмі рэ́нчык і вытры рукі.* Свілэлі Паст. Параўн. *рукаві́к, рукама́шка, рука́ўнік, рушня́.*

РЭ́ЦЬМІ *прысл.* Стрымгалоў, вельмі хутка. *Во п'янчуга, рэ́цьмі нясецца ў магазін за дабаўкай, хоць плюй на яго.* Папоўка Сен.

РЭ́ШАТА *н.* Пяльцы. *Я, як маладая была, вышывала вечарамі, да паўночы з рэ́шатам сядзела.* Абольцы Тал.

РЮ́ШКА *ж.* Гульня ў адгадванне назваў гарадоў. *Мы са старым гулялі ў рюшку, як заняцца не было чым.* Езярышча Гар.

РЯ́БЫ *прым.* Веснушкаваты. *А Каця ўся ря́бая.* Смародзіна Лёзн.

РЯБЁНАК гл. РАБЁНАК

РЯД гл. РАД

◊ РЯД (РЯ́ДУ) ДАЦЬ Прывесці ў парадак, разабрацца з чым-н. *Не магу ягадам ніяк ряд даць – баюся, што скіснуць.* Кулакова Віц. *Усё параскідана, ніяк ря́ду ні дам.* Вярэчча Гар.

◊ РЯД НЕ ДАЙШО́Ў Не дайшла чарга. *Да етай работы яшчэ ряд не дайшо́ў.* Кулакова Віц.

РЯДЗІ́ЦЬ гл. РАДЗІ́ЦЬ

РЯДО́ШАЙ *прысл., выш.* Радзей. *Сын ейный у горад жыць піряехаў, дык ціперь рядо́шай биваіць у іх.* Канашы Гар.

РЯТАВА́ЦЬ гл. РІТУВА́ЦЬ

РЯ́ХА, РЯ́ШКА *ж., груб.* Тоўсты, поўны твар. *Адкарміў сабе ря́ху, аж шчокі вісяць.* Азёры Дубр. *Куды ж ты сунешся з такой ря́шкай?* Ляды Дубр.

РЯШЭ́ТНІК гл. РАШЭ́ТНІК[2]

# С

САБА́ЦКІ *прым.* Сабачы. *Саба́цкі жыр памагае ад прастуды.* Валынцы В.-Дзв.

САБАЧАНЁНАК, САБАЧО́НАК *м.* Сабачаня, шчаня. *А гэта мой сабачанёнак – Тарзан клічуць.* Пашкі Пол. *Сабака сёння прынесла трох сабачанёнкаў.* Янкавічы Рас. *Сабачо́нак ён крэпінькі.* Бараны Глыб. *Любіць сабачо́нак пабіцца з кацянёнкам.* Мішкавічы Шум.

САБА́ЧКІ[1] *толькі мн.* Расліна ваўчкі. *Начапляў на штаны саба́чак.* Залессе Глыб. *Ой, колькі паўз дарогу саба́чак гэтых!* Зачысцікі Шарк. Параўн. *су́чкі.*

САБА́ЧКІ[2] *мн.* Любыя неядомыя грыбы, так званыя “воўчыя”. *Саба́чкі не ядуць, яны ядавітыя.* Лужкі Шарк. Параўн. ○ *саба́чы грыб.*

САБАЧО́НАК гл. САБАЧАНЁНАК

○ САБА́ЧЫ АІР *м.* Расліна, падобная да аера. *Саба́чы аір цвіціць па-другому і цямнейшый, чым абыкнавенный аір.* Дразды Беш.

○ САБА́ЧЫ ГРЫБ *м.* Любы неядомы грыб. *У гэтым годзе так многа саба́чых грыбо́ў, а белых зусім мала.* Ёды Шарк. *Во ўжо саба́чыя грыбы́ пайдуць пасля дажджу.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *сабачкі*[2] .

САБІЖА́ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Хлопцы сабіжа́юць дзяўчат, дык яны і не ідуць да хлопцаў.* Смародзіна Лёзн.

САБІРА́НКІ *толькі мн.* Плёткі; лішняя, пустая размова. *Не люблю слухаць твае сабіра́нкі.* Вяцера Чаш.

СА́БКА *ж.* Матыка. *Прынясі мне са́бку з гумна.* Галбея Паст. Параўн. *спатыка́ч.*

САБЯРУ́ХА *ж.* Бязглуздзіца, глупства. *Сабяру́ху мне нейкую расказываў.* Мазалава Віц.

◊ САБЯРУ́ХУ САБІРА́ЦЬ Гаварыць глупства, выдумляць; падманваць. *Што ты мне сабяру́ху сабіра́еш? Лічы, што паверыла.* Вярэчча Гар.

САВА́ *ж.* Дзікая пчала. *Сава́ лётаіць, сматрі, каб не ўкусіла.* Кузняцова Віц.

СА́ВАНАК *м.* Шуфлік для смецця; савок. *Змяці ў са́ванак смецце і выкінь.* Заенкі Пол. Параўн. *сува́к*[2].

САВА́ЦЦА *незак.* Заляцацца. *Да Марусі сава́ўся, але не палучылась.* Канашы Гар.

САВІВА́ЦЬ *незак.* Звіваць. *Раньшы самі вянкі на свадзьбу сабе савіва́лі.* Сушчова Віц.

САВЯНЧЫ́ЦЬ *зак.* Абвянчаць. *Я вас у цэркві савянчу́.* Ноўка Віц.

САГ *м.* Прыстасаванне для лоўлі рыбы. *Са́гам шмат рыбы налавілі: што зварылі, а што засушылі. Мы рыбу не купляем.* Лугавыя Віц.

САГА́Н *м.* 1. Чыгун або гліняны гаршчок, у якім вараць ежу. *Бульба стаіць у печы ў сага́не.* Зарэчча Арш. *Буракі кісленькія, у сага́н укінеш, зварыш.* Буднікі Беш. 2. Кацёл. *Свінням бульбы ў сага́не наварым.* Вярэнькі, Кавалі Паст.

САГАНЕ́Ц, САГА́НІК, САГАНО́К *м.* *Памянш. да* САГА́Н. Чыгунок ці невялікі гліняны гаршчок, у якім вараць ежу. *Даўней куццю ў саганца́х варылі.* Язна Міёр. *Памый сага́нік к вечару.* Старое Лядна Леп. *Яда ў гліняным саганку́ куды смачнейшая, чым у люміневай каструлі.* Якубова Рас. *Пасярод агню ставілі маленькі сагано́к з бульбай.* Нямойта Сен. *Я з вечара заўсягды настройваю саганкі́.* Марагова Тал. *На прыпечку сагано́к з бульбай, вазьмі ды паеж з сыраквашай і сальцам.* Вішня Шум.

САДЖО́НІК *м.* Саджаны лес. *У бярозавым саджо́ніку столькі многа ўсякіх грыбоў!* Язна Міёр.

САДЖЭ́НІЦА, САЖА́ТАЯ *ж.* Жанчына, якая садзіць бульбу. *Саджэ́ніца багата бульбы пасадзіла ў нас.* Паташня Міёр. *Засеемся хутка, калі столькі сажа́тых.* Алексінічы Сен.

САДЗЕ́ННЕ *н.* Сядзенне, месца, на якое садзяцца. *Садзе́нні былі старыя, дык я ўзяў і абцянуў іх.* Верацеі Шарк.

СА́ДЗІЦЬ[1] *незак.* Садніць; моцна пячы, даваць пякучы боль. *Кажыцца, саўсім троху зацапілась за ветку, а царапіна сільна са́дзіць.* Навасёлкі Віц. *Усё цела ад крапівы са́дзіць.* Канашы Гар.

СА́ДЗІЦЬ[2] *незак.* Садзі́ць. *Са́дзіла гурка́ троху, капусты.* Чарневічы Глыб.

СА́ЖА *ж.* Хвароба хлебных злакаў. *Зноў на ячменю многа са́жы.* Язна Міёр. *Чорныя зярняты ў каласах ячменю і пшаніцы называюцца са́жа.* Перакопава Сен. Параўн. *спа́рыш.*

САЖА́ТАЯ гл. САДЖЭ́НІЦА

САЗВАДЗІ́ЦЬ *незак.* Пляткарыць. *Маёй суседцы адзін занятак – сазвадзі́ць.* Старое Сяло Уш.

САЗВЯРЭ́ЦЬ *зак.* Азвярэць. *У дачкі начальнік на рабоці зусім сазвярэ́ў.* Пагост Арш.

САЗЛІ́ЗНУЦЬ *зак.* Зрабіцца хворым (у складзе зламыснага пажадання). *А каб ты сазлі́з!* Ноўка Віц.

САЗМАНУ́ЦЬ *зак.* Зманіць, схлусіць. *Калі гэта было? Каб не сазману́ць вам, здаецца, да вайны.* Галбея Паст.

САКА́ *ж.* Асака. *Сака́ вырасла вышэй за чалавека.* Загарадна Лёзн. *На этам балоце засягды сакі́ поўна была.* Уна Лёзн.

САКА́ВІК, САКО́ЎНІК *м.* Сакаві́к; трэці месяц года. *Сака́вік – першы месяц вясны.* Шуміліна. *Сако́ўнік на дварэ, а так сцюдзёна.* Верхняе, Празарокі, Чарневічы Глыб.

САКАТУ́ХА *ж.* Сарока. *Сакату́ха зноў прыляцела, сакоча на дрэве.* Залессе Глыб.

САКА́Ч *м.* Сякач. *Сакачо́м траву патаўчом і свіней кормім. Назбіраем крапівы і сакачо́м яе тады, то свінні любяць.* Савуткі Шарк.

САКО́ЛКА *ж.* Футболка. *Надзеў быў новую сако́лку і пашоў гуляць, за адзін раз мячыкам усю змурзаў.* Равяцічы Тал.

САКО́ЎНІК гл. САКА́ВІК

САКО́ЎНІЦА *ж., абрад.* Свята Масленіца. *Бывала, у Сако́ўніцу блінцоў напячом і па хатах ходзім, песні співаем, вясну заклікаем.* Савуткі Шарк.

САЛАДЗЯННЯ́ *н.* Салодкае, салодкія стравы, дэсерт. *Унучок мой вельмі любіць саладзянння́.* Абаляны Брасл.

САЛАДО́ВЫ *прым.* Соладавы. *Салат расцілі, сушылі і саладо́вую муку ро́білі.* Лужкі Шарк.

САЛАДУ́ХА *ж.* Мучная страва. *Перад пастом мы варылі ў печы саладу́ху.* Вялікая Вядрэнь Чаш. Параўн. *салма́ха.*

САЛАМЯ́НКА *ж.* Сяннік; матрац або падушка з саломы. *На саламя́нках мы спалі і на сенніках.* Вядзерава Беш. *Напхні саламя́нку, а то не будзе дзе спаць гасцям.* Косарава Глыб. *Раней жа толькі на саламя́нках спалі, не тое, што цяпер.* Расходна Сен. Параўн. *се́ннік*[2].

САЛАНІ́НА *ж.* Сала; свежына. *Саланíну рэзалі на кавалкі і салілі.* Ноўка Гар.

САЛА́НКА гл. СА́ЛЬНІК[1]

САЛАФА́Н *м.* Цэлафан; празрыстая плёнка з віскозы, якая выкарыстоўваецца для ўпакоўкі. *Завярні хлеб у салафа́н, а то засохне.* Калышкі Лёзн.

○ САЛЁНАЯ ВАДА *ж.* Мінеральная вада. *Салёная вада ў нас толька ў магазіне есць.* Загор’е Глыб.

САЛЁНІКІ *мн.* 1. Грыбы, якія звычайна спажываюць у засоленым выглядзе (грузды, ваўнянкі і інш.). *Салёнікі шчас ужо не бярём, хватаіць і добрых грібоў.* Доўжа Віц. 2. Бульба, вараная “ў мундзірах”. *Салёнікі з салам на полі добра ідуць.* Друя Брасл.

САЛЁНІЦА гл. САЛЁНКА[1]

САЛЁНКА[1], САЛЁНІЦА, САЛЯ́НКА, СО́ЛЬНІЦА *ж.* Сальніца; невялікая пасудзіна, у якой трымаюць соль. *Набяры ў салёнку солі ды пастаў на стол.* Урбаны Брасл. *Падай мне, дзетка, салёнку.* Радчанкі Гар. *Салёнка ўсігда на стале далжна стаяць.* Стасева Лёзн., Арляны Сен. *Салёніцай добра саліць, соль не прасыпаецца на стол.* Янкавічы Рас. *Вялікая саля́нка з крышкай прыбіта к сцяне.* Наваселле Уш. *Насып у со́льніцу солі.* Жабыкі Дубр.

САЛЁНКА[2] *ж.* Вараная бульба. *Салёнка са шквяркамі – і больш нічога мужыку не трэба.* Абольцы Тал.

САЛЁННІК *м.* Той, хто соліць (пра чалавека). *Каб твой салённік ні насыпаў чырашчур солі, будзіць дрэнна.* Мішкавічы Шум.

САЛМА́ХА *ж.* Страва з мукі; зацірка. *Змешвалі ваду з мукой, ставілі ў печ, а потым елі салма́ху.* Заазер’е Пол. Параўн. *саладу́ха.*

САЛО́ *н.* Сяло. *Сало́ зяця была побач, там дачка часта бывала.* Радзюкі Шарк.

САЛО́ДКА *ж., часцей* САЛО́ДКІ *мн.* Барбарыс, ягады барбарысу. *Я люблю сало́дкі есці, дык пасадзіла сабе куст у гародзе.* Бараноўскія Шум.

○ САЛО́ДКАЯ ВАДА *ж.* Ліманад. *Сало́дкую ваду́ калі купіш у магазіне раз на год, дык і добра.* Амбросавічы Шум.

○ САЛО́ДКАЯ СМЯТА́НА *ж.* Вяршкі. *Большэй люблю сало́дкую смята́ну ў суп класці.* Расходна Сен.

САЛО́НІК *м.*, *часцей* САЛО́НІКІ *мн.* Печаная бульба. *У печы спякла на вячэру салóнікі.* Бароўка В.-Дзв.

САЛО́ХА *аг., неадабр.* Расцяпа, някемлівы, рассеяны чалавек. *Што ты, як салоха, усё з рук валіцца.* Астроўна Беш.

САЛУ́ШКІ *толькі мн.* Шалупінне ад бульбы. *Салу́шкі ўставіла ў печ ды зварыла свінням; дабаўлю туды мукі, ды ім і до.* Партызанаўка Віц. Параўн. *скарлупíнне.*

СА́ЛЬНІК[1] *м.*, СА́ЛЬНІЦА, САЛА́НКА *ж.* Пасудзіна (дзежка, бочка, кубел, скрынка), у якой захоўваюць салёнае сала. *Са́льнік ужо пусты, куды ўсё дзелася?* Карабанавічы Дубр. *Пасуду як называлі – не помню, толька для сала са́льніца запомнілася.* Камоскі Беш. *Што рабіць? Сала не лезіць, нада са́льніцу большую.* Гараўцы Міёр. *Са́льніцай цяпер яе ніхто не называе, проста бочка.* Казімірова Пол. *Сала ўзяў, а сальніцу не закрыў.* Мяшкова Тал. *Сала́нку трэба занесці ў сенцы.* Езярышча Гар. Параўн. *свíзік.*

СА́ЛЬНІК[2] *м.* Страва, прыгатаваная з бліноў і сала. *Са́льнік у цябе на славу! Адразу бачна: сапраўдная гаспадыня гатавала.* Пачаевічы Чаш.

САЛЯ́НКА гл. САЛЁНКА[1]

САМАВЫ́ВАДАК *м.* Кураняты, якіх курыца выседзела ўпотай. *Курыца прівела самавы́вадак.* Смародзіна Лёзн. Параўн. *самаса́дка[1]* ў 1 знач.

САМА́Н *м.* Невялікая печ для прыгатавання ежы свойскай жывёле. *Схадзі сама́н растапі: нада бульбу парсюкам зварыць.* Янкі Докш.

САМАПА́Л *м.* Самагон. *Самапа́л п'юць – скора, можа, патравяцца ім.* Вярэчча Гар. Параўн. *самагра́й, сэм.*

САМАГРА́Й *м.* Самагонка. *Выгнаў 100 літраў самагра́ю.* Абольцы Тал. Параўн. *самапа́л, сэм.*

САМАПРА́ХА, САНАПРА́ЛКА, САНАПРЯ́ЛКА, СНАПРА́ЛКА, СУНУПРЯ́ДКА *ж.* Самапрадка. *Самапра́ху новую дзед купіў.* Рабцы Сен. *Цяпер у мяне ёсь і электрычная санапра́лка.* Сініцы Беш. *Санапря́лка бабіна стаяла ў нас як памяць пра яе.* Пішчалава Арш. *І січас у міне санапря́лка есь, і січас пряду.* Езярышча Гар. *Наша бабуля санапря́лкай ужо не прадзе.* Загарадна Лёзн. *А санапря́лка да сіх пор ёсь, жалка выкідываць.* Стасева Лёзн. *Зламалася снапра́лка, а настроіць няма каму.* Кругляны Сен. *Раньшы ж прялі пряжу сунупря́дкай самі, рукамі.* Яроненкі Гар.

САМАРА́ДНЫ *прым.* Самастойны. *Ці не рана ты ўжо самара́дная стала?* Ноўка Гар.

САМАРУ́ЧНЫ *прым.* Самаробны, зроблены сваімі рукамі. *Ета раньшэ было ўсё самару́чнае, а цяпер усё з магазіна.* Жакі Тал.

САМАСА́Д *м.* Дзікае, непрышчэпленае пладовае дрэва (яблыня, груша, сліва і інш.) і плады яго. *Найдуць у лесе самаса́ды – гэта дзікія яблыні.* Дразды Беш. Параўн. *сібі́рка.*

САМАСА́ДКА[1] *ж.*, *часцей* САМАСА́ДКІ *мн.* Кураняты, якіх курыца выседзела ўпотай. *Маленькія самаса́дкі прыйшлі з курыцай на двор.* Дразды Беш. *У двары пасецца курыца з самаса́дкамі.* Зазыбы Віц. *Ой, глядзіце, курыца вывела сваіх самаса́дак гуляць!* Вяцера Чаш. Параўн. *самавы́вадак.*

САМАСА́ДКА[2] *ж.* Папяроса з самасаду. *Дзед курыць свае самаса́дкі.* Казімірова Пол.

САМАСЕ́ДКА, СЫМЫСА́ДКА *ж.* Курыца, якая садзіцца на яйкі ўпотай і тайна выседжвае куранят. *А этыя чэрці надаелі зусім: як трэба цыпляты – не содзюцца, а як ужо ёсь цыпляты – самасе́дкамі cтановяцца – на крашэсь не загнаць.* Гунчанкі Віц. *Сёлета курыца-самасе́дка вывела многа цыплят.* Цяцеркі Віц. *Летась саседка нашла нашу самасе́дку ў сібе пад навесам.* Радчонкі Гар. *У гэтым гаду ў мяне ні было, а пазалетась і летась было па дзве сымыса́дкі.* Слабада Дубр.

САМАТКА́ЛКА *ж.* Саматканая тканіна, зробленая ў хатніх умовах саматужным спосабам. *Усё я ўмею: і саматка́лкі тку, і скацеркі розныя.* Іванск Чаш.

САМАТКА́ЛЬНЫ *прым.* Саматканы. *Заўсягды сцялю саматка́льную скацерку – не трэба і ў магазіне купляць.* Белая Ліпа Сен.

САМАТКА́НІК *м.* Саматканы дыван. *Які ў цябе саматка́нік пекны, да душы пекны!* Папшычы Глыб.

САМАХО́Д *м.* Камбайн. *Рабіў ён тады на самахо́дзе ў полі.* Амбросавічы Шум.

САМАХО́Ў *м.* Вартаўнік. *Самахо́ў стаяў, не варушыўся, слухаў, ці не ідзе хто.* Гута Паст. Параўн. *сцéраж.*

СА́МЫ ДАРО́ЖЫ *прым.*, *найвыш.* Самы дарагі, найдаражэйшы. *Тады мне, малой, маці была са́ма даро́жа.* Чачанева Тал.

САНАПРА́ЛКА, САНАПРЯ́ЛКА гл. САМАПРА́ХА

САНДА́Ч *м.* Судак; прамысловая рыба сямейства акунёвых. *Санда́ч – драпежная рыба. Мы калісь елі сандача́.* Варахобкі Беш.

СА́НІ *толькі мн.* Сені. *Там у саня́х ляжаць два мяхі крупнай бульбы.* Тур'ева Сен. Параўн. *се́ні.*

СА́НКІ *толькі мн.* Ніжняя сківіца. *Так са́нкі баляць, к урачу нада.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

САПАКО́М *прысл.* Моўчкі. *Што вы сёння ўсё сапако́м дзелаіці?* Скрыпкі Гар.

САПА́ТКА, САПЁЛКА *ж., экспр.* Нос. *У народзе кажуць: сапа́тка з гарбінкай – багаты будзеш.* Задоры Леп. *Сапёлку падатры! Глідзець праціўна!* Слабодка Леп.

САПЕ́Д *м.* Веласіпед. *О, як малая спрытна катаецца на сапе́дзе!* Казімірова Пол. *Мой сапе́д ужо тры гады без дзела стаіць.* Апанаскавічы Уш. *А я на сапе́дзе прыехала.* Кублічы Уш.

САПЕ́ЛКА гл. САПА́ТКА

САПЛІ́ *мн., груб.* Ледзякі, што звісаюць з дахаў. *Саплі́ са страхі вісяць, могуць на галаву ўпасці.* Ясева Міёр. Параўн. *стрэ́лка[2], сусо́лка.*

САПСУ́ЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Не прыехаў, бо ў яго машына сапсу́лася.* Селішча Уш.

САРАКВА́ША *ж., толькі адз.* Сыракваша, кіслае малако, кефір. *Мне так хочацца дамашняй сараква́шы, асобенна з пахмелля.* Пашына Арш. *Вельмі смачна есці вараную бульбу з халоднай сараква́шай.* Тумінічы Арш., Бачэйкава Беш. *Я і маі сёстры любілі нанач піць сараква́шы.* Двухполле Гар. *Раней любіла есь сараква́шу з хлебам, цяпер люблю свежае малако.* Сяло Гар. *Сараква́шу з малаком дзеткі любяць, а яшчэ і бульбу са смітанкай.* Хвошна Гар. *Бабуля дась сараква́шы сербануць.* Коршыкава Дубр. *Ці будзеш ты есці бульбу з сараква́шай?* Кляўцы Лёзн. *Бабуля мая любіла сараква́шу з соллю, а я салёнага не люблю.* Пушкі, Стасева Лёзн. *З сараква́шы мы дзелаем тваражка.* Смародзіна Лёзн. *На сараква́шы пяклі бліны, аладкі.* Заессе Чаш. Параўн. *сарапе́ня, сырапе́ня, сырапо́ня, сырва́тка, сыро́вачка.*

САРАНІ́ЗЛІВЫ *прым.* Сарамлівы, сарамяжлівы. *Дачка ў яе – дзяўчына ціхая, сарані́злівая.* Лісуны Арш.

САРАПЕ́НЯ, СЫРАПЕ́НЯ, СЫРАПО́НЯ, *памянш.* СЫРАПО́НЬКА *ж., толькі адз.* 1. Сыракваша, кіслае малако. *З'еш ты сарапе́ні з хлебам!* Астроўна Беш., Канашы, Марчанкі, Прудок Гар. *Учора забылі паставіць малако ў халадзільнік, і за ноч зрабілася сарапе́ня.* Лескавічы Шум. *Пап'еш сырапе́ні, кусок хлеба з'ясі – і сыт.* Вядзерава Беш. *Сырапе́ню піць будзіш?* Паўазер'е Беш. *А сыраква́шу ў нас называюць сырапе́няй.* Азёркі, Мяжа Гар. *Тады мы пілі адну сырапе́ню.* Шацяні Сен. *Малако ў цябе ўжо нясвежае, не малако, а сырапо́ня.* Грыгаравічы Леп. Параўн. *сараква́ша, сырва́тка, сыро́вачка.* 2. СЫРАПО́НЯ *ж.* Падліва да мяса. *Не лі мне на мяса так многа гэтай сырапо́ні.* Старое Сяло Уш. 3. СЫРАПОНЬКА *памянш.* Сырадой; цёплае малако. *Дзеці, як каты, вельмі любяць сырапо́ньку.* Сарочына Уш. Параўн. *сырадо́я, сыро́лена.*

САРАЧНЯ́ *ж.* Сорак штук снапоў. *Раней мамка гаварыла, калі сорак снапоў ставіла, што сарачня́ гатова.* Камоскі Беш.

САРО́КА[1] *ж.* Вузкая стужачка, якую зацягвалі ў сарочку. *Саро́ку падвязвалі банта́мі для большай красаты.* Кузняцова Віц.

САРО́КА[2] *ж.* 1. Страва з дранай запечанай бульбы. *Саро́ка – ета такая драная каша.* Ясева Міёр. 2. Яечня на малацэ, крыху падкалочаная мукой. *Надовічы мы пяклі саро́ку.* Касцяні Паст.

САСІЦЬ *незак.* Карміць грудзьмі (пра чалавека ці жывёлу). *Унучка з такой любасцю глядзіць, як свіння парасятак сасіць.* Манголія Сен. *Паглядзім, як свіння парасятак сасіць.* Слабада Уш. *Сястра пайшла сасіць.* Верацеі Шарк. Параўн. *сцаць.*

САСКРÓБЫШ *м., перан.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Разбалываўся твой саскрóбыш, ты яго ніскалька ў руках ні дзяржыш.* Мішкавічы Шум.

САСНЯ́НКА *ж.,* *часцей* САСНЯ́НКІ *мн.* Грыб лісічка. *Сядні назбіраў поўны кош саснянак.* Гаршчэўшчына Тал.

САСТÓЙКА *ж.* Слоік для малака. *Малако ў састóйку налію, а заўтра здам у саўхоз.* Тупічына Шарк. Параўн. *стаўбýн*[1] у 1 знач.

САСТРЫГАВА́ЦЬ *зак.* Сфастрыгаваць. *Каб прымерыць плацце, сначала трэба яго састрыгавáць.* Клясціцы Рас.

САТ *м.* Мяшок у невадзе, куды трапляе рыба. *Узялі сат, пайшлі да рэчкі, можа, рыбіну якую зловяць.* Валынцы В.-Дзв.

САТКНУ́ЦЦА *зак.* Нечакана сустрэцца, сутыкнуцца. *Саткнýліся мы з ім сянні ў першы раз.* Фарынава Пол.

САТНІ́ гл. СА́ЧАНЬ

САЎГАНУ́ЦЦА *зак.* Слізгануцца. *Акуратна ідзі, а то як саўганéшся – і ляснеш галавой аб лёд.* Каты Шарк.

САЎЛА́К *м.* Камяк, скрутак чаго-н. (часцей ужываецца з назоўнікам *сена*). *Сена пакруцілася ў саўлакí, рады даць няможна.* Каўшэлева Шарк.

САЎЛА́ТКА *ж., груб.* Дзяўчына ці жанчына з растрапанымі валасамі. *Колькі я казаць буду? Прычашыся! Лётаіш, як саўлáтка.* Сахневічы Глыб.

САЎРЫМЁННЫ *прым.* Сучасны. *Саўрымённая маладзёж не ўмее весяліцца так, як мы ў свой час.* Варапаева Паст.

САЎСЁМ, САЎСІМ, СУСЁМ *прысл.* Зусім. *Моладзь саўсём павыязджала з дзярэўні.* Галбея Паст. *Я ж яшчо саўсём была маладая.* Гута Паст. *Так вы саўсём зеляненькія дзетачкі.* Чачанева Тал. *У лясу саўсём мала ягад.* Тупічына Шарк. *Я тады была малая саўсíм.* Ходцы Сен. *А хлеб сталі зараз выпякаць сусём ніякі.* Мацюкова Глыб. *Сусём мне гэта не нарáвіцца.* Гута Паст.

СА́ЎТАЦЦА *незак., груб.* Хадзіць, соўгацца сюды-туды без мэты. *Сáўтаюцца п'яніцы па вуліцы, не, каб дамой іціць.* Астроўна Беш.

СА́ХАРКА *ж., толькі адз.* Самагонка з цукру. *Чаго тут Богу грашыць, дзед любіў вечарам выпіць сáхаркі.* Ветрына Пол.

САХАРÓНКА *ж.* Цукарніца. *І казала ж тады матка: не да дабра сахарóнка на мелкія кусочкі разбілася – быць бядзе.* Задуброўе Віц.

САХЕ́Р *м., толькі адз.* Цукар. *Можа, чаю наліць? Толькі сахéру нетуці.* Вярэчча Гар.

САЧАВІ́ЦА *ж.* Чачавіца. *Сачаві́ца сёлета вырасла добрая.* Перакопава Сен.

САЧА́К, СА́ЧЫК, СА́ЧЧЫК *м.* Сачок; лёгкае верхняе адзенне жанчыны; пінжак. *На вуліцы халаднавата, апрані сача́к.* Чарневічы Глыб. *А са́чык у цябе які пекны!* Дварчаны Паст. *Па святах дзядуля адзяе са́ччык.* Дварышча Шарк.

СА́ЧАНЬ, САЧЭ́НЬ, СО́ЧАНЬ, СЫ́ЧЫНЬ *м.*, САТНІ́, САШНІ́ *мн.* 1. Праснак, выпечаны з аржаной мукі, на які зверху клалі тоўчаную вараную бульбу і зноў запякалі. *Яны называліся са́чні з таго, што такія сочныя, пышныя былі.* Азёркі Гар. 2. Тоўсты блін з дранай бульбы, мукі і сала або малака і яек, цыбулі і морквы. *На свята напякла смачных сачнёў, бо ўнукі прыедуць.* Мехавое Гар., Язна Міёр. *Со́чань – ета такі тоўсты блін з бульбай, яйкамі, салам, бабка мая вельмі смачныя со́чні пякла.* Залессе Шум. *Пышны сы́чынь удаўся сянні.* Выдрэя Лёзн. *Нарабілі сатнёў, што ўсім гуртам не з'есці.* Ноўка Віц. *З аржаной мукі і пшанічнай пяклі, уместа хлеба, сашні́. Учынялі вечарам, штоб забродзіла цеста; сільна яны не падымаліся, былі, як бліны.* Вядзерава Беш. *Раней калбасу не елі, не было яе, матка сашні́ напячэ – і рады былі.* Камары, Доўжа, Грабяніца Віц. Параўн. *свік, сашэ́нь.*

САШО́К *м.* Шашок; драпежны звярок сямейства куніц. *Як надаелі гэтыя сашкі́, прыходзяць у куратнік душыць курэй.* Астроўна Беш., Рускі Шум.

САШЭ́НЬ *м.* Малы хлябок з астаткаў цеста. *Сашэ́нь, бувала, жаўтком мазалі.* Бокішава Шум. Параўн. *са́чань, сачэ́нь, со́чань, сы́чынь, сатні́, сашні́, свік.*

САЯ́Н *м.* 1. Паўсукно. *Есь такі сая́н, спадніцы з яго шылі.* Грабяніца Віц. 2. Саматканая спадніца. *Адзёжы шмат не было, таму і са́ян, і сарочку сама сабе спраўляла.* Лугавыя, Партызанаўка Віц. *Зімой дзяўчаты насілі шарсцяныя сая́ны.* Міхалінава Лёзн. *Заўтра на вяселле свой новы сая́н надзену.* Новая Зара, Лыскі Чаш. 3. Халат. *У сая́не адхадзіла ўсю нядзелю і кофты ні разу не надзела.* Роўнае Шум.

СВАДЗЁБНІКІ *мн., абрад.* Удзельнікі вясельнага абраду. *Буду віно наліваць, свадзёбнікаў частаваць.* Камоскі Беш. *Людзей было нямнога: усе свадзёбнікі селі ў тры машыны.* Шыбекі Арш. *Свадзёбнікі пабілісь у клубе.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Свадзёбнікаў найшла поўная хата.* Клясціцы Рас.

СВАДЗЁБНЫ *прым.* Вясельны. *Калі хочаш, свадзёбных песень табе ўспомню, я іх дужа любіла.* Камоскі Беш., Канашы Гар. *Паглядзіце свадзёбныя фатаграфіі.* Абольцы Тал. *Мой свадзёбны касцюм недзе ў шкафе вісіць.* Янава Тал.

СВАКРО́ЎКА гл. СВЯКРО́ВА

СВАЛ *м.* Від узворвання, пры якім поле арэцца ў напрамку ад краёў да сярэдзіны. *Шчас пашуць, як і раней: у свал і ў развал.* Гунчанкі Віц.

СВАРУ́ХА *ж., неадабр.* Сварлівая жанчына. *Жонка яго такая сварýха, якіх свет не відзіў.* Язна Міёр.

СВАТАВА́ЦЬ *незак.* Сватаць. *Сватавáлі мы ўжэ іе, але яна ніяк.* Ноўка Гар.

СВА́ШКА *ж., абрад.* Дружка жаніха. *У маладога дзяўчаты-свáшкі бойкія на язык.* Псуя Глыб.

СВАЯ́ШНІК *м.* Сваяк. *У дзярэўні ў мяне толька адзін сваяшнік застаўся.* Замошша Брасл.

СВЕСЬ *ж.* Швагерка; жончына сястра. *Нядаўна свесь заязжала да мяне з дачушкай.* Беразіно Докш.

СВЕ́ТЫ *прым.* Святы́. *Пайду памалюся Свéтаму Міколу ды свечачку пастаўлю.* Бігосава В.-Дзв.

СВЕ́ЧКА *ж.* Кропля тлушчу на паверхні вадкай стравы. *Суп давалі посны, ніводнай свéчкі не плавала.* Іванаўка Гар.

СВЕ́ЧНІК *м.* Падсвечнік. *А ці вы куплялі такі красівы свéчнік, ці падарылі вам?* Макаравічы Беш. *Свечка ў свéчніку ў мяне заўсёды на стале стаіць.* Язна Міёр.

СВЁРНУТЫ *прым.* Зморшчаны. *А ліцо ў яго было свёрнутае нейкае.* Абольцы Тал.

СВІВА́ЦЬ *незак.* Спавіваць. *Нада дзіця свівáць.* Палова Гар.

СВІ́ЗІК *м.* Бочачка (дзежка, кубел) з крышкай, дзе захоўваюць салёнае сала. *Свíзік сала наклала – будзем зіму жыраваць.* Камары Віц. *Прынясі сала са свíзіка, у сёнках стаіць.* Радчонкі Гар. Параўн. *сальнік*[1].

СВІК *м.* Блін. *Робілі свíкі на ўсіх такія тоўстыя, у два пальцы.* Гута Паст. Параўн. *сáчань, сачэ́нь, сóчань, сы́чынь, сатні, сашні́, сашэ́нь.*

СВІКРО́ЎКА гл. СВЯКРО́ВА

СВІ́МЧА гл. СВІНЁНАК

СВІНАВА́Я, СВІНУ́РКА *ж.* Свінарка. *І свінавóй я работала, і даяркай.* Заазер’е Тал. *Ой, і дзе я толькі не работала! І свінýркай была.* Крывыя Тал.

СВІНА́РКА гл. СВІННЯ́ ў 1 знач.

СВІ́НАЎКА гл. СВІНУ́ШКА[1]

СВІНЁНАК, СВІННЁНАК *м.*, СВІМЧА́ *ж.*, СВІНЯ́КА *н.* 1. Парася, падсвінак. *Гэтай вясной тры свінёнкі купілі, але не павязло: адзін здох.* Новы Пагост Міёр. *Усё нада здзелаць дома, і свінёнка, і свінню пакарміць.* Варанцэвічы Тал. *А я свінёнка добрага выгадавала: сыценькі, длінненькі.* Кубелеўшчына Шарк. *Маленькій свіннёнак нічога не хоча есці.* Стайкі Віц. *Свіннёнка пайду выпушчу ў двор, пусь*

*зямельку парыіць.* Вярэчча Гар. *Свіннёнак добрый вырас, пудоў пяць будзіць.* Лялеўшчына Гар. *Гэта мая свімча рабая.* Андроны Паст. *Адно свіняка ў мяне, мне хапаіць аднаго.* Латышы Глыб. 2. *перан.* Бруднае, запэцканае дзіця. *Пайду свайго свіннёнка мыць, за дзень вымазаўся дужа, уся адзежа грязная.* Кулакова Віц., Казловічы Гар.

СВІНЁЎКА гл. СВІНЎШКА[1]

СВІ́НКА гл. СВІННЯ́ ў 1 знач.

СВІННЯ́, СВІНА́РКА, СВІ́НКА, СВІНЮ́ШКА *ж., часцей* СВІ́ННІ, СВІНА́РКІ, СВІ́НКІ, СВІНЮ́ШКІ *мн., бат.* 1. Свінушка; грыб сямейства свінухавых з пласцяністай шапкай жоўтага, бурага або лілова-шэрага колеру. *Не, свінні смачнейшыя за капыты.* Лагі Арш. *Пітухі, падалехавікі, свінні і курачкі – гэта адні і тые ж грыбы.* Доўжа Віц. *Вельмі смачныя смажаныя свінаркі са смятанай.* Сваташыцы Дубр. *Свінкі горкія, іх нада вымачываць у трох-чатырох вадах, а тады саліць на зіму.* Дразды Беш. *Свінкі – гэта грыбы сіваватыя такія.* Леснікова Сен. *Учора назбіралі кошык свінюшак і трошкі лісічак.* Гаршчэўшчына Тал. 2. Чорны грузд. *Свінней збіраем, каб суп варыць.* Рабцы Сен. *Пашоў у лес і адных свіней насабіраў.* Абольцы Тал.

СВІНО́К гл. СВІНЎШКА[1]

СВІ́НСТВА *н., зб.* Пагалоўе свіней. *Раней у нас свінства многа было.* Лужкі Шарк.

СВІНЎРКА гл. СВІНАВА́Я

СВІНЎХА гл. СВІНЎШКА[1]

СВІНЎШКА[1], СВІ́НАЎКА, СВІНЁЎКА, СВІНЎХА *ж.,* СВІНО́К *м.* Дробная бульба, прызначаная на корм жывёле. *Сянні бульбу рыла, дык адна свінушка.* Баршчоўка Віц., Канашы Гар. *После вайны дажа свінаўку елі.* Загор'е Глыб. *У гэтым годзе мала была бульбы, больш усяго свінёўкі.* Старое Лядна Леп. *Нада парасятам свінухі наварыць.* Абольцы Тал. *Калі бульбу капаім, свінок у асобны кошык сразу адкідаем.* Бабічы Глыб.

СВІНЎШКА[2] *ж., бат.* Расліна сівец. *А гэта вось трава свінушка, калі косяць, яна прыгінаецца, няможна яе касой узяць.* Свярдлова Віц.

СВІНЦО́ЎКА *ж.* Пуга з жалезным наканечнікам. *У маладосці так бывала, што і свінцоўкамі біліся.* Клінавое Шарк.

СВІНЮ́ШКА гл. СВІННЯ́ ў 1 знач.

СВІНЯ́КА гл. СВІНЁНАК

СВІРА́Н *м.* Свіран; халодны будынак для захоўвання збожжа. *Схадзі ў свіран, прынясі снапы.* Шуміліна.

СВІ́РАНКА *ж.* Выцінанка; папяровая занавеска з выразанымі ўзорамі. *Раней на вокны толькі свіранкі вешалі.* Слабада Докш.

СВІРА́НКА *ж.* Фіранка. *Усе свіра́нкі дзіцёнак абмызгаў.* Угрынкі Уш.

СВІРАСЦЁЛКА *ж.* Цяліца; маладая карова. *Добрая ў мяне свірасцёлка, малака многа дае.* Выдрэя Лёзн.

СВІРЕ́ПІЦА *ж., бат.* Свірэпа; пустазелле, палявая шматгадовая расліна сямейства крыжакветных з жоўтымі кветкамі. *Бульба ўся свіре́піцый зарасла.* Зубава Арш.

СВІРІ́БЫЙ *прым.* Свірэпы, злы. *Які ён учора быў свірі́бый!* Езярышча Гар. *Сабака ў суседа свірі́бый, гатоў цябе з'есці.* Кавалі Гар. *Нешта вельмі свірі́бый ты сёння.* Верамееўка Гар.

СВІ́РІЦЬ *незак.* Перацягваць, апускацца ніжэй пад уздзеяннем большага цяжару. *Сумка свіріць набок – ісці нялоўка.* Канашы Гар.

СВІРКУ́Н *м.* Цвыркун; насякомае атрада прастакрылых, якое трэннем крыл утварае строкат. *У сенцах заходзіўся свірку́н.* Даўгінава Міёр.

СВІРО́НАК *м.* 1. Хлеў. *Пайду ў свіро́нак скаціну карміць.* Свілелі Паст. 2. Свіран, гаспадарчая пабудова. *Мяхі з зярном у свіро́нак занясі.* Барсукі Глыб. Параўн. *стры́ня.*

СВІСТКІ́ *толькі мн., груб.* Вусны, губы. *О божа, якія ў яе свісткі́!* Новае Сяло Тал.

СВІСТУ́Н[1] *м.* Пуга. *Толькі замахніся свістуно́м – кароўка і пабегла.* Зялёнка Пол.

СВІСТУ́Н[2] *м.* Салавей. *Усю ноч свісту́н пяяў, спаць не даваў.* Серкавіцы Тал.

СВІСТУ́Н[3] *м.* Панос. *Не запівай жырнае вадой – свісту́н будзіць.* Ноўка Гар.

СВІ́ТКА *ж.* Любое цёплае верхняе адзенне. *Што за сві́тка на табе, новую купіла?* Сухавержжа Міёр.

СВО́ЙСКАЕ *займ.* Сваё. *Гэта сво́йскае малако, пей, не параўнаць з куплёным.* Двухполле Гар.

СВЭ́ТАР *м.,* СВЭ́ТРА *ж., памянш.* СВЭТЭ́РАК *м.* Світар, джэмпер, кофта. *Надзень мой свэ́тар.* Казяны Брасл. *Адзень свэ́тар, бо халодна на вуліцы.* Падрукша Брасл. *Ён насіць любіў сівы свэ́тар.* Урбаны Брасл. *А мая мама сама звязала дзядулі новы свэ́тар.* Яніна В.-Дзв. *Свэ́тары ў вайну матка на продаж вязала.* Бушыкі Глыб. *З той воўны я бацьку свэтар звязала.* Мосар Глыб. *Мая бабуля вязала спіцамі свэ́тры і мяне навучыла.* Чарневічы Глыб. *Учора на базары сыну к школі купілі добры свэ́тар, цёплы такі.* Цімошкава Міёр. *Зараз і свэ́тараў, і юбак – усяго многа ў магазінах.* Гута Паст. *Навізала столькі свэ́тараў, што век ні перанасіць.* Жукоўшчына, Савуткі, Чаромхава Шарк. *Свэ́тру і бацьку, і сыну я звязала сама, цяпер сабе вяжу.* Папшулі Міёр. *Які харошы свэтэ́рак звязала, каб вы толькі бачылі!* Галбея Паст.

СВЯКО́ЛЛЕ *н., зб.* Бурачнае лісце. *Я ў суп дабаўляю свяко́лле, так укусней.* Антонаўка Арш.

СВЯКРА́ТКА гл. СВЯКРО́ВА

СВЯКРО́ВА, СВЯКРО́ЎКА, СВІКРО́ЎКА, СВАКРО́ЎКА, СВЯКРА́ТКА *ж.* Свякроў, свякруха; маці мужа. *Свякро́ва мая дужа харошая была, любіла я сваю свякро́ву.* Стасева Лёзн. *Мая свякро́ва, царства ей нябеснае, была дужа благая.* Спігальшчына Міёр. *Мая свякро́ва – добрая жанчына, грэх казаць благое пра яе.* Нямойта Сен. *А мая свякро́ва добрая, я ёй усягда памагаю.* Варанцэвічы Тал. *Свякро́ва заўсёды казала, што я разбэшчаная.* Зарэчча Тал. *А як у цябе са свякро́ўкай, ці памагаеш ты ей?* Камоскі Беш. *Бывала, як зберымся ў свякро́ўкі ўсёй сям'ёй – чыста цыганскі табар.* Гута Паст. *Кажуць, свякро́ўкі злыя, а мяне мая нявестка любіць.* Турлы Паст. *А яна прыйшла да свякро́ўкі ў госці і на тыдзень там заседзелася.* Фарынава Пол. *Дзе ж твая свікро́ўка жывець?* Бігосава В.-Дзв. *Не хацелі дзяўчаты да свакро́ўкі ісці ў хату жыць. А свакро́ўка як маці родная дзяўчыне пасля замужжа.* Савуткі Шарк. *Учора была ў свякра́ткі ў гасцях, натамілася, аж сёння косці гудуць.* Ноўка Віц.

СВЯНЦІ́ЦЬ *незак.* Свяціць. *Я ўсягда свянчу́ на Вербніцу веткі з коцікамі.* Макаравічы Беш.

СВЯНЦО́НКА *ж.* 1. Асвечаная ў храме вада. *Кажуць, свянцо́нка дажэ хваробы лечыць і нячыстую сілу з хаты выганяе.* Вераб'і Пол. 2. Прадукты, асвечаныя святой вадой у храме. *Яна мне прынесла на Паску свянцо́нку.* Ноўка Гар. *На Вялікдзень маці прынясе з касцёла свянцо́нку, без свянцо́нкі на Вялікдзень – нікуды.* Варапаева, Вярэнькі, Кавалі Паст.

СВЯНЦО́НЫ *прым.* Святы, акроплены святой вадой. *На могілкі ўсе прыносяць свянцо́ныя яйкі.* Пішчалава Арш.

СВЯРДЗЁЛ *м.* Свердзел; інструмент для ручнога свідравання. *Бяры свярдзёл і начынай работу.* Матырына Леп.

СВЯ́ТКІ *толькі мн.* Калядныя песні. *Адзін пачынае свя́ткі, а далей іншыя ўжо падхватваюць.* Чарневічы Глыб.

○ СВЯТЫ́ ЯН *м., толькі адз., бат.* Зверабой. *Нада будзіць свято́га я́ну назбіраць, пакуль не перацвіў.* Перавознікі Паст.

СВЯЦІ́ШЧА *н.* Святое месца. *У нашым краі ёсць свяці́шча, там б'е крыніца.* Вішкавічы Чаш.

СВЯЧО́НКА *ж.* Лямпа-газоўка. *Раней нашы бабулі свяцілі кірасінавымі свячо́нкамі.* Мазуліна Уш. Параўн. *смарка́чка.*

СЕ́ВАЛКА, СІВА́ЛКА *ж.* Сявенька; лубянка ці каробка, з якой сеялі збожжа ўручную. *Каб засеяць гэта поле, нам трэба ўсяго тры се́валкі.* Тумінічы Арш. *Вазьміце се́валкі і ідзіце сеяць лён.* Матырына Леп. *Па вясне ў поле се́валка кожнаму патрэбна.* Янкавічы Рас. *Бяры*

*сівáлку, пайдзём у поле*. Быцава Беш. *Дзед сам сівáлку рабіў, ні ў каго не прасіў*. Малыя Лётцы Віц.

СЕГАЛЁТАК, СІГАЛЁТАК, СЯГÓЛЕТАК, СЁЛЕТНІК, СЯЛЁТАК *м*., СЕГАЛЁТКА, СІГАЛЁТКА, СЯГÓЛЕТКА *ж*. Жывёліна (парася, цяля, авечка) гэтага года. *Гэтае цяля ў нас сегалётак*. Бешанковічы, Сялец Чаш., Боркавічы В.-Дзв. *Сегалётак мой добра падрос апошнім часам*. Лямніца Віц. *Цялёнка-сігалётка сабе гадаваць будзім, на мяса не будзім здаваць*. Лялеўшчына, Селішча Гар. *Карова і невялікі бычок-сігалётак – вот і ўсё яго хазяйства*. Крывое Сяло Шум. *Загані сягóлеткаў у хлеў*. Багушэўск Сен. *А мы свайго сёлетніка здалі*. Жалезкі Беш. *Сёлетніка навязываем аднаго*. Бычыха Гар., Бараны Глыб. *Цяля тое шчэ зусім малое, гэта ж сёлетнік*. Леснікі Глыб., Стараселле Леп. *І трэба ж было так здарыцца: нават сёлетніка ваўкі зацягнулі ў лес*! Суша Леп. *Вот рашыла сёлетніка мяснікам здаць. А ён такі ласкавы, хлеб вельмі любіць*. Машчоны Сен., Замачак Чаш. *Сялётак – гэта цялёнак, які радзіўся ў гэтым гаду*. Доўжа Віц. *Жылі мы добра: карову мелі і сегалётку кілаграмаў на сто ў калхоз здалі*. Кубелеўшчына Шарк. *Гэтае цяля, пэўна, сегалётка*. Даўгінава Міёр. *Бацька відзеў сёння дзіка-сегалётку*. Янкавічы Рас. *Сегалётку купілі добрую, здаровую*. Мішкавічы Шум., Буеўшчына Шарк. *Сегалётка ейная падрасла трошкі*. Грыбоўшчына Шарк. *Адна з маіх авец – сігалётка*. Мар'янполле Брасл. *Штосьці сігалётка есь плоха*. Езярышча Гар. *Свайго цялёнка я ў поле не ганяю, бо ён яшчэ сягóлетка. Я пазней сягóлетку здаць хачу*. Мішкавічы Шум.

СÉДЗЕННЕ, СІДЗÉННЕ *н*. Рэшткі былой сядзібы. *Цяпер там засталіся толькі лес ды сéдзенне ад вёскі*. Пішчалава Арш. *Справа ад нашай хаты жылі Лёнчыха з рібятамі, а злева было сідзéнне*. Яроненкі Гар. Параўн. *стáрыца*.

СЕДЛАВÍНА *ж*. Сядло. *Бацька купіў новую седлавíну*. Пачаевічы Чаш.

СÉДНЯ гл. СЁГАННЯ

СÉЖА *ж*. Рыбалоўнае прыстасаванне ў выглядзе сеткі, якую ставяць упоперак ракі. *Каб рыбы толкам налавіць, мальцы на рацэ сéжу паставілі*. Язна Міёр.

СЕКАНÝЦЬ *зак., экспр*. Сігануць; хутка пабегчы з перапуду. *І тут я не вытрымаў – свіснуў. А ён ужо секанýў праз жыта*. Фарынава Пол.

СЕКÁЧ *м*. Стары кабан, дарослы самец дзіка. *У лесе секачóў няшмат*. Фролкавічы Беш., Казімірова Пол.

СÉКВІНА *ж*. Мача. *Была ў нас адна такая, усё сéквінай лячылась*. Кузняцова Віц.

СÉКЧЫСЯ *незак., перан*. Біцца, ваяваць. *Сякýцца яны з суседам ужо штогод*. Германавічы Шарк.

СЕ́ЛІШЧА *н.* Сцелішча; месца, дзе рассцілаюць лён. *На се́лішчы даўней лён рассцілалі.* Весніно В.-Дзв.

СЕ́ЛЬБІШЧА *н.* Селішча; хата з сельскагаспадарчымі пабудовамі. *На сваім се́льбішчы сам сібе і хазяін.* Вядзерава Беш.

СЕ́МЕНКА, СЕ́МІНКА, СЯМЯ́НКА *ж.* Сеянка; дробная насенная бульба, прызначаная для пасадкі. *У етым гаду нам хваціць сваёй се́менкі.* Бялынавічы Віц. *Прапала сёлета се́менка.* Балаі Міёр. *Не нада, каб се́менка была дужа вялікая, а так, сярэдняя, абы расток хоць адзін быў.* Навасельцы Шарк. *Схадзі навыбірай се́мінкі, а то заўтра можа не хапіць для пасеву.* Бачэйкава Беш. *Сямя́нка захавалася добра, не пагніла, не памерзла.* Груздава Паст. Параўн. *се́ўка.*

СЕ́МЕННІК, СЕМЯНІ́К *м.*, СЕ́МЯ *н.* Перапечка, блін з ільнянога семя. *У ваенныя гады толькі се́меннікі і елі.* Чарневічы Глыб. *Частавалі ад душы ўкусным семяніко́м.* Весніно В.-Дзв. *Раней елі се́мя і ўкусна была.* Вядзерава Беш.

СЕ́МЕНЫ гл. СЕМЯНО́

СЕМІДЫ́РКА *ж., заал.* Мінога – рыба, якая формай нагадвае вугра. *Вясной у нашай рэчцы багата лічынак семіды́рак.* Свабодная Сен.

СЕ́МІНКА гл. СЕ́МЕНКА

СЕМНАСТО́ЎКА *ж.* Маладая дзяўчына ва ўзросце сямнаццаці гадоў. *Добрая, ладная вырасла семнасто́ўка, можна замуж аддаваць.* Станіслававa Дубр. *Дохтарка ўчора прыходзіла, дык сёдня я як семнасто́ўка.* Турлы Паст. *А чыя тая семнасто́ўка?* Вярэнькі, Кавалі, Ласіца Паст.

СЕ́МЯ, СЕМЯНІ́К гл. СЕ́МЕННІК

СЕМ'ЯНІ́ЧЫНА *ж.* Сямейнік, член сям'і. *Хоць і п'яніца, алі ж наша сем'яні́чына.* Лужасна Віц.

СЕМЯННІ́К, СІМЯННІ́К *м.* Жоўты агурок, які застаецца на насенне. *Сабяры гуркі, толькі семянні́к не атарві.* Смаляны Арш. *У мяне ўжэ два семянніка́ ляжаць, бальшэя выраслі, як парсюкі ляжаць.* Дразды Беш. *Адзін семянні́к ўсігда на сіміна астаўляю.* Доўжа Віц. *Бабуля з агароду прынесла пяць семяннiко́ў, іх не трэба есці.* Лазічы Глыб. *Сабрала аж сем семяннiко́ў; во гуркоў будзіць на лета!* Новы Пагост, Туркова Міёр. *Маці назбірала на лешчы многа семеннiко́ў.* Кушлікі Пол., Сарочына Уш. *Я ні купляю сімя́ны агурцоў, сама астаўляю піряроспыі на сімянні́кі.* Задзетуні Віц. *Паглядзі, які ладны семянні́к вырас.* Гілі Чаш.

СЕМЯНО́, СЯМЕ́ННЕ *н., толькі адз.*, СЕ́МЕНЫ, СЕ́МЯНКІ, СІМЯ́НЫ *мн.* Насенне гарбузоў, сланечніку і іншых культур. *Нада сабраць семяно́.* Боркавічы В.-Дзв. *Мне паказалі сяме́нне ў тры пальцы.* Гаравыя Пол. *Се́мены трэба пасушыць, а то заплесніюць.*

Кудзіны Гар. *Я люблю сухія се́мянкі есці.* Антонаўка Арш. *Гэту памідорыну мы кінем на сім́яны.* Папшулі Міёр.

СЕНАВА́Л *м.*, СЕНАВА́ЛКА *ж.* Адрына, пуня. *А нам дзядуля збудаваў новы сенава́л.* Галбея Паст. *Гэты год сенава́лка наша пустуе: карову здалі.* Падрукша Брасл. Параўн. *се́ннік[1]* у 1 знач., *со́бка, стажа́рня, стажа́рына* ў 1 знач.

СЕНАВА́ЦЬ *незак.* Убіраць сена. *Я кожнае лета езджу да бабулі сенава́ць.* Варапаева Паст. *Сенава́лі сёлета з рання да цямна.* Кавалі Паст.

СЕ́ННІК [1], СЯНА́Ж *м.*, СЕ́ННІЦА, СЯННІ́ЦА, СІНА́ШКА *ж.* 1. Адрына, пуня; халодная будыніна для захоўвання сена. *Карове ўжо есь нечага, се́ннік пусты стаіць.* Езярышча Гар. *У сенажы́ ўжо няма сена, а трава на дварэ шчэ не вырасла.* Шуміліна. *Вязіце шчас сена ў се́нніцу.* Нарыца Паст. *Складаем усё сена ў сянні́цу; калі яна бітком набіта, значыць, яго хопіць на зіму.* Баяры Чаш. *У добрага хазяіна сіна́шка далжна быць поўная.* Вядзерава Беш., Расходна Сен. Параўн. *сенава́л, сенава́лка, со́бка, стажа́рня, стажа́рына* ў 1 знач. 2. СЕ́ННІЦА *ж.* Яслі; месца ў хляве, дзе кладуць сена жывёле. *У се́нніцы няма ні крошкі, ідзі падкладзі ахапку.* Мілашкі Брасл.

СЕ́ННІК[2], СЯДНІ́К, СЯЛЬНІ́К, СЯННЯ́К *м.* 1. Падушка, набітая звычайна сенам. *У се́ннік можна класці пахучыя лекавыя травы.* Рошчына Сен. 2. Сяннік; матрац, набіты сенам ці саломай. *Сплю толькі на сяднікý даўно ўжо.* Бігосава В.-Дзв. *На сяльнікý спалося добра.* Новая Вёска Докш. *А сянняк на кожную зіму набівалі свежым сенам ці саломай.* Іванск Чаш. Параўн. *салам́янка.*

СЕННО́, СЯДНО́ *прысл.* Усё адно, усё роўна. *Аддай, бо сенно́ заберут.* Равяцічы Тал. *Пойдзем са мной, сядно́ ж нічога не робіш.* Каты Шарк. Параўн. *сіраўно́, серемно́.*

СЕ́НТА *прысл.* Сёлета, у гэтым годзе. *Ураджай се́нта быў добры.* Пазнякова Пол. Параўн. *сёгады, сяго́лека, сяго́ліка.*

СЕ́ПКА *аг., асудж.* Неахайны чалавек. *Што ты ходзіш, як се́пка?!* Пушкі Лёзн. Параўн. *стармáла.*

СЕРАБРА́НКА *ж.* Сярэбраная фарба. *Літары на помніку вывелі серабра́нкай.* Фарынава Пол.

СЕ́РАН, СЕ́РІН, СЯРЭ́Н *м.*, СЯРЭ́НЬ *ж.*, СІРЯНО́ *н.*, *памянш.* СЕРАНО́К, СІРАНО́К *м.* Шарпак; абледзянелая скарынка на паверхні снегу, па якой можна хадзіць, не правальваючыся. *Се́ран даўней часта быў, бегалі па ім, дажа коні хадзілі.* Весніно, Дзёрнавічы В.-Дзв. *Зімы раньшэ былі халодныя, з сугробамі па пояс, да плюс ешчо еслі се́рін…* Каменка Віц. *Бывала, такі сярэ́н, што па ім можна і хадзіць, і ехаць на конях.* Германавічы Шарк. *Сярэ́нь на снягу аж хрумсцела, было чутно каго метраў за сто.* Гунчанкі Віц. *Раньшы рібяты па сірянý любілі зімой бегаць.* Ноўка Гар. *Зімою браўся такі*

*серано́к, ну, ета снег такі замерзлы*. Грабяніца Віц. *Такі серано́к, што мог выдзержаць малых рібят*. Клясціцы Рас. *Як толькі з'явіцца сірано́к, можна ехаць за драва́мі*. Клясціцы Рас. *Як вясна, так сірано́к часта бываець. Добра па ім ісці, не правальваешся*. Вусава Глыб.

СЕРА́НКІ, СЕ́РКАЧКІ, СЕ́РЧЫКІ, СЕРЯ́НКІ, СІРКА́ЧКІ, СІРЯ́НКІ, СЫРНІ́ЧКІ, СЯРА́НКІ, СЯРКА́ЧКІ, СЯРНІ́ЧКІ *мн*. Запалкі, спічкі. *Без сера́нак не абыйсціся было тады нам*. Шчыпечы Віц. *Ля газа се́ркачкі паглядзі*. Опліса Брасл. *Дзе се́рчыкі падзела? Дай се́рчыкаў закурыць*. Ляхаўка Дубр., Белішкі, Вярэнькі Паст. *Вазьмі серя́нкі, затапі печку*. Іказнь Брасл. *У магазіне на здачу далі сірка́чкі*. Мількі Брасл. *Дзеці нашлі сіря́нкі ў бацькі ў кармані ды сразу палі́ць іх; харашо, што саседка ўвідзіла ды сказала, а то надзелалі б горя*. Заполле Віц. *У першабытныя часы людзі не ведалі сырні́чак*. Замачак Чаш. *Раней у вайну сяра́нкі цяжка было знайці*. Езярышча Гар. *Сярка́чкі раней дужа бальшыя былі, не такія, як цяпер*. Сухавержжа Міёр. *Куды сярні́чкі паклалі? Няма чым пліту запаліць*. Мацюкова Глыб. *Сярні́чкі там пад прыпічкам ляжаць, вазьмі іх ды печ прылажы*. Сахнавічы Глыб. *Палучалі сярні́чкі на трудадні*. Ліпаўкі Докш. *Ужо што-што, а сярні́чкі ад рабят усігда хаваю*. Воўкаўшчына Міёр. *Сярні́чак што – ужо нету? А чым гэта печ расцепліць? – Сярні́чкі там, у шуфлядзе*. Новы Пагост Міёр., Бачэйкава Беш., Урбаны Брасл., Бароўка В.-Дзв., Задуброўе Віц., Езярышча Гар., Булахі, Дылевічы, Камішчына, Ласкаўшчына Глыб., Станіслававa Дубр., Малы Поўсвіж Леп., Мікалаёва Міёр., Заессе Чаш., Верацеі Шарк., Лучайка Шарк.

СЕРБАЛІ́ННІК *м*. Ажыннік. *Сербалі́ннік ўецца, цапляецца*. Доўжа Віц. Параўн. *сірбалі́ны*.

СЕРДАВІ́К *м*. Хлеў для авечак. *У сердавіку́ многа авечак, настрыжом багата шэрсці*. Фарынава Пол.

СЕ́РДЗЕЧКА *н*. Сардэчка, сэрцайка. *Ой, нешта разбалелася маё се́рдзечка, аж рабіць нічога не магу*. Калышкі Лёзн.

СЕ́РІН гл. СЕ́РАН

СЕ́РКА *ж*. Малозіва; першае каровіна малако пасля ацёлу. *Карова ў іх добрая, поўнае вядро се́ркі цётка надаіла*. Чарневічы Глыб. Параўн. ○ *се́рнае малако́*.

○ СЕ́РНАЕ МАЛАКО́ *н*. Малако ў першыя тры дні пасля ацёлу каровы. *У шафе стаіць цэлы збан се́рнага малака́, трэба з яго зварыць малозіва, пачаставаць унучат*. Радчонкі Гар. Параўн. *се́рка*.

СЕ́РПЕНЬ *м*. Жнівень. *Свадзьбуігралі яны ў се́рпені*. Паташня Міёр.

СЕ́РПІК *м., памянш*. Серп. *Жанкі з се́рпікамі на поле пашлі*. Ступакі Дубр.

СЕ́РТАЦЬ *незак.* Бадзяцца абы-дзе, хадзіць без справы. *Ён вельмі баяўся ісці дадому, таму і сёртаў па вуліцы да вечара.* Рудня Пол.

СЕ́СЦІ *зак.* Сапсаваць здароўе. *Годы не тыя: дужа сёла.* Белая Ліпа Сен.

СЕ́ТКА *ж.* Торба, гаспадарчая сумка, у якой носяць прадукты. *А што ета ты ў сётцы нясеш?* Коравічы Чаш. *Бабуля накупляла яды, што чуць несла сётку з магазіна.* Кугоні Уш.

СЕ́ЎКА *ж.* Насенная бульба. *І як прыдзе ўрэмя, сёўку ў зямлю тыркай.* Весніно В.-Дзв. Параўн. *сёменка, сёмінка, сямянка.*

СЕ́ЎРІЦЬ *незак.* Выветрываць (пра мяса). *Кумпякі доўга салілі і сёўрілі.* Даўгаполле Гар.

СЕ́ЧА, СЕ́ЧАВА гл. СЯКА́НКА[1]

СЕ́ЧКА *ж.*, СІЧКА́Р *м.* Сякач; прылада для сячэння жывёле травы, гародніны. *І ахапак сена паложа дачушка, і сёчкай траву пасячэ.* Баршчоўка Віц. *Лепей патачы сёчку, зусім затупела.* Бабінавічы Лёзн. *Траву часцей за ўсё січкаро́м мельчым.* Чарневічы Глыб.

СЕ́ЯНЕЦ *м.* Мак-самасейка. *Пад вокнамі ўсё засеяла сёянцам.* Панізоўе Арш. Параўн. *сёмха.*

СЁГАДЫ *прысл.* Сёлета, у гэтым годзе. *Сёгады не ўрадзіла бульба.* Матырына Леп. Параўн. *сёнта, сёлета, сяго́лека, сяго́ліка.*

СЁГАННЯ, СЁГО́НІ, СЁДНЯ, СЁННЕКА, СЁННЯКА, СЯВО́ННЯ, СЯГА́ННЯ, СЯГА́НЯ, СЯГО́ДНІ, СЯГО́НІКА, СЯГО́ННІКА, СЯ́ННЕ, СЯ́ННІ, СЯ́ННЯ *прысл.* Сёння. *Сёгання вогнішча будуць паліць.* Галбея Паст. *Сёго́ні будзе цёплы дзень.* Кушлікі Пол. *Сёдня зноў сонцэ і жарка.* Равяцічы Тал. *Я да цябе сённека прыду.* Дубінцы Чаш. *Сённяка очынь жарка, перадавалі, будзе бальшы лівень.* Варапаева Паст. *Ці ідзеш сяво́ння на танцы?* Іказнь Брасл. *Сяга́ння пагода нішто сабе выдалася.* Турлы Паст. *Сяга́ня мамка будзіць байню цепліць.* Нарыца Паст. *Я сяго́дні пагуляю трошкі з унукамі.* Стадолішча Гар. *Сяго́ніка нада схадзіць у магазін: хлеба няма.* Боркавічы, Каханавічы В.-Дзв., Чаромхава Шарк. *Сяго́нніка дык лягчэй жыць, грошы добрыя плацяць у калхозе.* Абруб Глыб., Турлы Паст. *Ся́нне ездзілі ў другую дзярэўню.* Чачанева Тал. *Ся́нне будзе добра касіць – раса.* Бокішава Шум. *Ся́нні дзед ў грібы хадзіў.* Кудзіны Гар. *Ся́нні ў поле пагонім.* Ляды, Сваташыцы Дубр., Кляўцы Лёзн., Нярэйша Сен., Заазер'е Тал. *Ся́ння ўнукі прыехалі, павырасталі, што тыя тапалі каля шляху.* Сценка Докш.

СЁДМЫ *ліч.* Сёмы. *Сёдмага, у пятніцу, ездзіла ў лес за грыбамі.* Галбея Паст.

СЁЛЕТАШНІ, СІГАЛЕ́ТНІЙ *прым*. Сёлетні, сяголетні. *Ета яна забыла, як забыла сёлеташні снег.* Варанцэвічы Тал. *Сігале́тній год будзіць жарчэй, чым той.* Мішуткі Віц.

СЁЛЕТКА *прысл., памянш*. Сёлета. *Дзевачка ж сёлетка шчэ маленькая зусім.* Сар'я В.-Дзв. Параўн. *се́нта, сёгады, сяго́лека, сяго́ліка*.

СЁЛЕТНІК гл. СЕГАЛЕ́ТАК

СЁМХА *ж*. Мак-самасейка. *Сёмха сама насяваецца, трэба збаўляцца ад сёмхі.* Опса Брасл. Параўн. *се́янец*.

СЁНКІ *толькі мн*. Сені. *Прынясі дроў – ляжаць у се́нях.* Заходы Гар. *Летам дужа добра паляжаць у се́нях: там свежа і прахладна.* Мехавое Гар. *Сёнкі ўвесь дзень былі адкрытыя, то ў сёнках свежы воздух.* Булахі Глыб. *Некаторыя ставілі ў сёнках ложак і спалі.* Слабада Докш. *Дзверы ў сяня́х не зачыняй.* Язна Міёр. *Чаго толькі ў сёнках у мяне няма!* Рудня Пол., Матырына Уш. Параўн. *са́ні*.

СЁННЕКА, СЁННЯКА гл. СЁГАННЯ

СІБІ́РКА *ж*. Лясная яблыня. *Ён не помніць добра: сінім, мусіць, цвіла сібі́рка.* Кветча Леп. Параўн. *самаса́д*.

СІ́ВАЛКА гл. СЕ́ВАЛКА

СІВАЧО́К, СІВА́ЧЫК, СІВУ́ШНІК *м*. Стары, сівы чалавек. *Даўней сівачка́м была павага.* Варапаева Паст. *Вунь сівачо́к сядзіць на лаўцы.* Вярэнькі, Ласіца Паст. *Мой швагра ўжэ ў дваццаць восім гадоў сіва́чыкам стаў ад гора: дзяцёнка машынай збіла.*Турлы Паст. *З гора стаў саўсім сіву́шнікам.* Мішкавічы Шум.

СІВУ́НА *ж*. Сівуха; дамашні алкагольны напой з дражджэй і цукру. *Сядуць увечары ды п'юць сіву́ну без меры.* Новая Яблынька Тал.

СІВУ́ХА *ж., заал*. Гусцяра; прамысловая рыба сямейства карпавых, знешне падобная на ляшча. *На вуду лавілася адна сіву́ха.* Бешанковічы. Параўн. *сіня́ўка*[1], *страка́тка, сцёрка*.

СІВУ́ШНІК гл. СІВАЧО́К

СІГАЛЕ́ТАК, СІГАЛЕ́ТКА гл. СЕГАЛЕ́ТАК

СІГАЛЕ́ТНІЙ гл. СЁЛЕТАШНІ

СІДЗЕ́ННЕ гл. СЕ́ДЗЕННЕ

СІКА́НКА *ж., толькі адз*. Посны суп з адной бульбы. *Звары сёння хоць сіка́нкі якой.* Зубава Арш.

СІКА́НЬ *ж., толькі адз*. Страва, прыгатаваная з бульбы і свіного страўніка. *Цяпер сі́кань ніколі ні дзелаюць, бо ніхто есці ні хочыць.* Клясціцы Рас.

СІ́КАЎКА[1] *ж., заал*. Рачная рыба шчыпоўка. *Унук на вячэру налавіў сі́кавак.* Арляны Сен. Параўн. *су́чка*.

СІ́КАЎКА[2] *ж., неадабр*. Пустасмешка. *Бачна здалёку, як гамэрняй ідуць сі́каўкі.* Чэрцы Леп.

СІКА́Ч *м.* Хлопец-падлетак. *А што з яго ўзяць? Гэта яшчэ сіка́ч.* Нямойта Сен.

СІ́КЛЯН *м.* Мураш. *Колькі па лесе бегае сі́клянаў – недзе стаць!* Міхалінава Лёзн.

СІЛАВА́ЦЬ *незак.* Сілком прымушаць штосьці рабіць ці гаварыць. *Матка дачку ілгаць сілу́е.* Мішкавічы Шум.

СІЛА́ЧЫЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Сянні сіла́чыў цётцы складаць сена ў пуню.* Мілашкі Брасл.

СІ́ЛЛЮ *прысл.* Сілком, прымусова. *Упрэцца – сі́ллю адняць не магу.* Ноўка Віц. *Прывёў дамой сі́ллю.* Канашы Гар.

СІЛО́С[1] *м., толькі адз.* Сілас. *А машыны етыя ўсё сі́лос возюць.* Канашы Гар.

СІЛО́С[2] *м.* Вінегрэт. *Добра было б і сіло́су паесці.* Булахі Глыб.

СІ́ЛЬНА *прысл.* Многа. *Сі́льна людзей у вайну палягло.* Чарневічы Глыб.

СІЛЯ́ВА[1] *ж., заал.* Сялява; рапушка; рыба сямейства ласасёвых. *Сіля́ва – ета рыба, водзіцца ў возяры.* Груздава Паст. Параўн. *сіля́ўка* ў 2 знач.

СІЛЯ́ВА[2] *ж.* Ядавіты грыб сіняватага колеру. *Унук учара́ хадзіў у грыбы, дык набраў адных сіля́ў.* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *сіня́ўка*[2].

СІЛЯ́ЎКА, СЯЛЯ́ЎКА *ж., заал.* 1. Верхаводка; невялікая прэснаводная рыба сямейства карпавых з цёмна-зялёнай спінай і серабрыстымі бакамі. *Сіля́ўку гэту не дай бог чысціць.* Ваўчо Уш. *Убачыць сяля́ўку можна на самай паверхні вады.* Докшыцы. 2. Рыба рапушка. *Якая красівая рыба-сіля́ўка!* ДаўгінаваМіёр. Параўн. *сіля́ва*[1].

СІЛЯ́ЦЬ *незак.* Чапляць, падчэпліваць. *Сіля́й во за крючок сетку.* Канашы Гар.

СІМЯННІ́К гл. СЕМЯННІ́К

СІНА́ШКА гл. СЕ́ННІК[1]

СІННЯ́ *ж.* Свіння. *Сіне́й двое дзяржалі ды курэй некалькі було.* Машканы Сен.

СІ́НЬКІ *толькі мн.* Чарніцы. *Толькі мая бабка ведае, дзе растуць самыя крупныя і смачныя сі́нькі.* Пачаевічы Чаш.

СІНЮ́ГА[1] *ж.* Вялікая муха. *Сіню́га назаляе, лётае па хаце і гудзе, як паравоз, спаць не дае.* Обаль Сен.

СІНЮ́ГА[2] *аг., груб.* Пасінелы ад п'янкі чалавек. *На дарозе ля канавы ляжыць сіню́га, набраўшыся, як свіння заціркі.* Янава Тал.

СІНЮ́ШЫНА *ж.* Бручка. *Для супа нужна нарэзаць сіню́шыну ломцікамі і з нарэзанай картошкай варыць.* Азёркі Гар.

СІНЯ́ЎКА[1] *ж., заал.* 1. Быстранка; невялікая прэснаводная рыба сямейства карпавых з плоскім целам. *У нашым возеры сіня́ўка саўсім не бярэцца.* Града Сен. *Сіня́ўка – рыба такая, як маленькі карп.* Вярхоўе Беш. Параўн. *сіву́ха, страка́тка, сцёрка.* 2. Лешч. *Малец*

*злавіў ладную сіня́ўку.* Бешанковічы. 3. Шчупачок. *Паўторбы рыбы налавілі: плоткі, сіня́ўкі, ліні.* Латышы Глыб.

СІНЯ́ЎКА[2] *ж., бат.* Ядавітая, несапраўдная апенька з пласціністай шапкай фіялетавага колеру. *Глядзі, толькі не набяры сіня́вак, бо яны ядавітыя.* Сянькова Шум. *У лясу адны сіня́ўкі.* Бешанковічы. Параўн. *сіля́ва*[2].

СІПЕ́ЦЬ *незак.* Балець. *Адну баразну толькі прапалола, а ўжо ў карку сіпі́ць.* Спігальшчына Міёр.

СІРАНО́К гл. СЕ́РАН

СІРАЎНО́ *прысл.* Усё роўна. *Сіраўно́ я паеду ў горад.* Новы Пагост Міёр. *Сіраўно́ ўсе прыдуць туды.* Апанаскавічы, Кублічы Уш. Параўн. *сенно́.*

СІРБАЛІ́НЫ *толькі мн.* Ажыны. *У гэтым гаду сірбалі́н у лесе не было.* Палова Гар. Параўн. *сербалі́ннік.*

СІРБАТУ́ХА *ж.* Зацірка. *Часу ў мяне не было на гулянкі: сірбату́хі пахлібаю – і на ферму.* Дворышча Леп.

СІРКА́ЧКІ гл. СЕРА́НКІ

СІРТА́ЧКА *ж.* Брамка, веснічкі. *Не зачыніла сірта́чку – свіння і збегла са двара.* Езярышча Гар.

СІ́РЫНЬКІЙ *прым.* Шэранькі. *Ба́ю-ба́юшкі, баю́, не кладзіся на краю, прыдзе сі́рынькій ваўчок і пацягне ў лясок.* Двухполле Гар.

СІРЯДЗІ́НА, СЯРЁДКА *ж.* Сярэдзіна, сярэдняя частка тулава, органы брушной поласці. *Сірядзі́на балела ўчора – трываць нільзя было.* Кулакова Віц. *У сярёдкі як забаліць, аж дыхаць ні магу.* Канашы Гар.

СІРЯ́НКІ гл. СЕРА́НКІ

СІРЯНО́ гл. СЕ́РАН

СІ́ТА *н.* Галаўны ўбор з сеткай, які надзяваюць пры аглядзе пчол. *Гэта сі́та адзяваюць на галаву, каб пчолы не пакусалі.* Данілкава Тал.

СІТА́ *ж.* Аер. *У нас у балоце шмат сіты́.* Гута Паст.

СІЧА́С *прысл.* Зараз. *Січа́с усё па-новаму.* Ходцы Сен.

СІЧКА́Р гл. СЕ́ЧКА

СКА́БА *ж.* Рабро. *У яго зламана адна ска́ба.* Пурышкі Гар.

СКА́ПКА *ж.* Стрэмка. *Баліць мне паліц – ска́пку загнала.* Кузняцова Віц.

СКАБЫРДЗЁ *н., зб.* Камякі зямлі. *Паснедаем і пойдзем скабырдзё разбіваць.* Папшулі Міёр.

СКАВАРО́ДНІК[1] *м.* Праснак; тоўсты прэсны блін з хлебнага цеста. *Скаваро́днік смачна есці з малаком.* Тумінічы Арш. *Цеста на скаваро́днік лепей замясіць на ноч.* Кузьмянцы Віц. *З дзецтва ўмела пе́кчы скаваро́днікі.* Новае Запонне Докш. *Дзед сам скаваро́днікаў напёк.* Ланенка Дубр. *Спякла тры скаваро́днікі – пульхныя, тоўстыя.*

Слабада Леп. *Хлеб не скора спячэцца, а есь хочацца, то скаваро́днікі спасаюць*. Казімірова Пол., Дубінцы Чаш.

СКАВАРО́ДНІК[2] *м*. Чапяла, пры дапамозе якой выцягваюць патэльню з печы. *Скаваро́днік вазьмі ды скавараду з салам вынімай, ужэ пара*. Вядзерава Беш. *Тады ж у нас скаваро́днікі былі, а цяпер жа з ручкамі скавароды прадаюцца*. Езярышча Гар., Высачаны Лёзн. *Мой скаваро́днік ужо стары, прыпаліўся, трэба недзе новы дастаць*. Язна Міёр. *Скаваро́днік да скаварады цапляюць і вынімаюць яе з печы*. Клясціцы Рас., Расходна Сен., Бубалі Шум., Шыліна Шум.

СКАЖЭ́ННЫ *прым*. Дурны, шалёны, неразумны. *Што ты, як скажэ́нны, носісся? Ногі сабе паломіш*. Грышаны Віц.

СКАКУ́Н *м*. Танцор. *Скаку́н Мішка добра пляша*. Алексінічы Сен.

СКАКУНКІ́ *мн*. Клёцкі, звараныя на малацэ. *Бліны пяку ўнукам і скакункі́ вару*. Галбея Паст.

СКАЛО́ЦІНА *ж*., СКАЛО́ЦВІНЫ, СКАЛО́ЦІНЫ *толькі мн*. Маслёнка; вадкасць, што застаецца пры збіванні масла. *Бабка напякла бліноў на скало́ціне*. Клясціцы Рас. *Масла збіла, а скало́цвіны выліла ў вядро*. Бароўка В.-Дзв. *Саб'ю масла і пап'ю скало́цін*. Вяцера, Луцік Чаш.

СКАЛЬЗО́ТА *ж*. Слізгота, галалёдзіца. *У такую скальзо́ту і з хаты не выйсці, можна ўсё паадбіваць сабе*. Шаркаўшчына.

СКА́НЕЦ *м*., *часцей* СКА́НЦЫ *мн*. 1. Піражок з тварагом, варэннем ці іншай начынкай. *Бабуля спякла на вячэру ска́нцы*. Германавічы Шарк. *Заморымся за дзень, есці хочым, а баба ўжо ска́нцаў напякла*. Таўкіні Шарк. 2. Гасцінец, пачастунак. *Сваім унукам заўсягды ска́нцы пяку, не шкадую для іх нічога*. Ахрэмаўцы, Мількі Брасл.

СКА́ПАЦЬ *зак*. Пакалоць (дровы). *Сяк-так ска́палі ўсе дровы, дужа замарыліся*. Станіслававова Дубр.

СКАПА́ЦЬ *зак*. Звольніць з работы. *Усё роўна ж яго скапа́лі з таго месяца*. Слабада Докш.

СКАПА́Ч, СКА́ПЫТ, СКА́ПЫЧ, СКО́ПАЧ *м*., СКАПАЧЫ́ *мн*. 1. Крук для скопвання гною з калёс пры вывазцы на поле. *Да вайны папка са скапачо́м работаў у калхозе, патом нам самім прышлося прывыкаць*. Камоскі Беш. *Я вазьму шухлю, а ты – ска́пыт, усё ж будзе спраўней*. Дразды Беш. *Бацька ска́пычам скідвае гной*. Матырына Леп. *Прынясі мне ска́пыч з прыстопачніка*. Мяшкова Тал. *Гной лягчэй скопваць ско́пачам, чым віламі*. Тумінічы Арш. *Кінуў ско́пач, ціпер гразный будзе*. Кузняцова Віц. 2. Загнутыя вілы, якімі накідваюць або скідваюць сена, гной. *Нацягай скапычо́м мне сена ў кашалу*. Шацяні Сен. *Скапача́мі скідваюць навоз з воза*. Галбея Паст.

СКАПЕ́Ц *м.* Пакладаны (кастрыраваны) кабан (конь, вол). *Увосень зарежым скапца́; нашто ён на зіму ў хляве?* Свяча Беш. *Лепі сразу купляць скапца́, а то толькі будзіць авечак бунтаваць.* Бараны Глыб. *Трэба зарэзаць скапца́, стары ўжо.* Антаполле Чаш. *Астаўлялі аднаго скапца́, астатнія – авечкі.* Буеўшчына Шарк. *Сянні прыедзіць віцінар, каб з барана здзелаць скапца́.* Далуева, Мішкавічы, Галі Шум.

СКА́ПЫТ, СКА́ПЫЧ, СКАПАЧЫ́ гл. СКАПА́Ч

СКАРАДА́ *ж., с.-г.* Барана. *Скарада́ ўпаміналася ў кнігах вельмі даўно.* Малыя Лётцы Віц.

СКАРАДЗІ́ЦЬ[1] *незак., перан.* Ісці, цягнучы ногі; ледзь валачыць ногі па зямлі, падымаючы пыл. *Ён так скарадзі́ў, што пасля яго аж пыл стаяў, як пасля машыны.* Абольцы Тал. *Не скарадзі́ ты тут, а то пыл ідзець.* Язвіна Шум.

СКАРАДЗІ́ЦЬ[2] *незак.* Гаварыць абы́-што, пустасловіць. *Не скарадзі́ ты: праціўна слухаць тваі гаворкі.* Канашы Гар.

СКАРАСПЕ́ЙКА, СКАРАСПЕ́ЛАЎКА, СКАРАСПЕ́ШКА гл. СПЕ́ШКА[1]

СКАРА́ЦЬ *зак.* Пакараць. *Да яго дайшло, што хутка і яго могуць скара́ць.* Тумінічы Арш.

СКАРУ́ЗНУЦЬ *зак.* Скамянець, зрабіцца цвёрдым, як камень. *Зямля на агародзе саўсім скару́зла ад такога сонца.* Язна Міёр.

СКАРБЕ́Ц *м.* Гаспадарчая пабудова, у якую складвалі збрую. *Бацька пайшоў у скарбе́ц сядло ўзяць.* Асвея В.-Дзв.

СКАРЖЭ́ЛЫ *прым.* Высахлы, счарсцвелы (пра хлеб, булкі). *Гэты хлеб ужо скаржэ́лы, я зараз свежы дам.* Язна Міёр.

СКАРЛУПІ́ННЕ *н., зб.* Шалупінне. *У нас скарлупі́нне ад бульбы вараць свінням.* Папшулі Міёр. Параўн. *салу́шкі.*

СКАРО́МІНКА *ж.* Смажаніна. *Матка на снеданне гатовіць мне абычна скаро́мінку.* Канашы Гар.

СКАРУ́ШАЧКА, СКО́РКА *ж.* Скарынка хлеба. *Усігда даець каню хлеба скару́шачку.* Ноўка Віц. *Нельга выкідваць чорствы хлеб, бо кожная ско́рка до́рага дастаецца.* Марчанкі Гар.

СКАРЭ́ДА *аг., асудж.* Скупы чалавек. *Быў ён такі скарэ́да – нікому нічога не дасць, як ні прасі.* Зубава Арш. Параўн. *скна́рыца, скуперáка.*

СКАТ *м.* Кола, пакрышка ад кола. *Ска́таў навязлі ад машын старых – і давай паліць іх.* Галбея Паст. *У нашай каляскі адляцелі ска́ты.* Заенкі Пол. *Во спушчу ска́ты, дак нікуды не паедзеш.* Лазоўка Сен. Параўн. *скру́пка.*

СКАТНІ́К *м.* Ферма. *Даяркі, стаража работаюць на скатніку́.* Смародзіна Лёзн.

СКАЎРО́НАК *м.* Жаваранак. *Ужо скаўро́нак пачаў співаць – зіма не вернецца.* Воўкаўшчына Глыб. *Рана выйдзеш у поля – скаўро́нак спявае.* Магуны Паст.

СКА́ЦЕРКА *ж.* Абрус, настольнік. *Святочны стол пакрываюць ска́церкай.* Тумінічы Арш. *Ска́церку для гасцей сцялілі на стол толькі белую.* Сініцы Беш. *Выкіпецила ска́церку – зараз такая ўжо белая.* Косарава Глыб. *Уся ска́церка заліта нечым.* Зарэчча Тал. *Ска́церкі ткала я і вышывала ўзорамі.* Іванск Чаш., Дабея Шум.

СКАЦЯРО́ТКА *ж.* Сурвэтка. *Увечары дзеўкі вязалі скацяро́ткі.* Езярышча Гар., Пераброддзе Міёр.

СКА́ЧКІ *толькі мн.* Танцы. *Рана табе яшчэ на ска́чкі хадзіць.* Мацюкова Глыб.

СКАЧЫ́ХА гл. СКО́ЧКА

СКВА́РКА, СКВЯ́РКА *аг., перан., груб.* Капрызны, надакучлівы, сварлівы, прывярэдлівы чалавек. *Во ты сква́рка які, ніяк табе не ўгодзіш, як больцы якой!* Паўазер'е Беш. *Як тока нашы куры залезуць к суседцы ў гряды, бягіць бряхацца. Тады ўспомніць і тое, што было летась. Во надаела гэта сквя́рка!* Драздзы Віц.

СКВА́РНІК *м.* Маленькі кацялок. *У сква́рніку варылі сабе есці.* Абаляны Брасл.

СКВЕ́РЦІСЯ *незак., груб.* Румзаць, дакучаць, выпрошваючы што-н. *Ну чаго ты сквярэ́шся, як сала на скавародзе?!* Папоўка Сен.

СКВЯ́РКА гл. СКВА́РКА

СКЕ́ПКА *ж.* Трэска, шчэпка. *Там за камінам ске́пку якую паглядзі ды вазьмі, каб запаліць.* Грышаны Віц.

СКІ́БА *ж.* Пласт узаранай зямлі. *Садзім буракі на скібе.* Прамышляды Паст.

СКІДО́К *м.* Скачок зайца ўбок пры заблытванні слядоў. *На снезе было шмат скідко́ў, але мы не збіліся з напрамку.* Драздзы Беш.

СКІ́НУЦЦА *зак., міф.* Абярнуцца, ператварыцца ў міфічную істоту. *Скі́нуўся птушкай і паляцеў.* Ноўка Віц.

СКІПА́ЦЦА *незак.* Згінацца. *Іляжэць, аж скіпа́ецца, дзе толькі ў яго совесць!* Селішча Уш.

СКІПА́ЦЬ[1] *незак.* Сячы, расшчэпліваць (пра дровы). *Раней лучыну скіпа́лі і ёю асвятлялі ў хаце.* Слабада Уш. *Сын пайшоў дровы скіпа́ць.* Іванск Чаш.

СКІПА́ЦЬ[2] *незак.* Шчыпаць. *Гусі на двары скіпа́юць траву.* Луцік Чаш.

СКІПЕ́ЦЬ *зак.* Згарэць. *Скіпе́ў і дом, і хлеў датла.* Янава Тал.

СКІРДА́, СКІ́РТА *ж.* Штабель дроў. *З усёй кучы выйшла дзве вялікія скірды́ дроў.* Лісуны Арш. *Скірда́ адна развалілася, трэба новую складаць.* Тумінічы Арш. *У мяне яшчо цэлая скі́рта дроў у*

*кладоўкі і дравятнік полный.* Карабанавічы, Станіславова Дубр. Параўн. *суірта.*

СКІЦЕР *м.* Вялікі кавалак (сала). *Заўтра на кірмаш завязём скіцер сала прададзім.* Дварышча Шарк.

СКЛАДЗІК *м.* Бакоўка, бакавы пакойчык. *У бакоўку матка была выйшла.* Друя Брасл.

СКЛАДЧЫНА *ж.* Збор траў. *На Тройцу рабілі складчыну, у гэты час травы самыя палезныя.* Булахі Глыб.

СКЛАСЦІСЯ *зак.* Памерці. *Ад такой жызні кла́сціся можна.* Станіславова Дубр.

СКЛЁЗЕНЬ, СКЛІЗІНЬ *м., перан., груб.* 1. Малое дзіця. *Зусім яшчэ склёзень, а ўжо цыгарка ў зубах. Што ж вырасце з яго?* Чурылава Арш. *Склізінь ейный к саседу ў яблыкі ўсё лазіць.* Канашы Гар. 2. *абразл.* Подлы, нікчэмны чалавек. *Са склізнем етым я пяць гадоў адработаў разам, усё начальству далажываў пра ўсіх.* Ноўка Гар.

СКЛІЗГАЦЦА *незак.* Слізгацца. *Склізгаюцца рібяты, бувала, на азіре цэлымі днямі зімой.* Канашы Гар.

СКЛІЗКІ *прым.* Слізкі. *Склізкая падлога, можна і ўпасці.* Лазічы Глыб.

СКЛЫГАЦЬ *незак.* Іграць на якім-н. музычным інструменце. *Пад вокнамі нехта склыгае гармонню.* Машчоны Сен.

СКЛЮД *м.* 1. Тонкая сякера. *Дровы секлі склюдам. Па пню як гахнула, аж склюд адскочыў.* Вярхоўе Беш. *Тата калоў дровы, а куды дзеў склюд – не знаю.* Дварэц Чаш. 2. *перан.* Вельмі худы і высокі чалавек. *Глянула на яго – і аж спужалася: склюд! Такі страшны шкілет зрабіўся.* Турлы Паст. *Стаў высокі, галавы на тры вышэй міне, саўсім худы склюд.* Лужкі Шарк.

СКЛЮНІЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Той стары як склюніўся, так і не змог выпраміцца.* Варапаева Паст. Параўн. *скорчацца.*

СКЛЮЧЫЦЬ *зак.* Адлічыць, выключыць з навучальнай установы. *Там стаў прагуліваць, і яго сключылі, а ён вучыўся на хіміка-цехналагічыскім у цехнікуме.* Дуброва Гар.

СКНАРЫЦА *ж., асудж.* Скупая жанчына. *Хіба чаго выпрасіш у этай скнарыцы? Зімой снегу не выпрасіш.* Высачаны Лёзн. Параўн. *скуперака, скарэда.*

СКОГЛІЦЬ *незак.* Скуголіць. *Колькі можна скогліць?* Замасточча Віц. Параўн. *скверціся, скуліць.*

СКОКА, СКОЛЕЧКА *прысл.* Колькі. *Скока чалавек з дзеравень сабралі?* Барсучына Шум. *Сколечка той хады?!* Нямойта Сен.

СКОПАЧ гл. СКАПАЧ

СКОРКА гл. СКАРУШАЧКА

СКОРЧАЦЦА *зак.* Сцішыцца, сагнуцца. *Спужаўся ён і скорчаўся, каб не ўбачылі яго.* Гута Паст. Параўн. *склюніцца.*

СКО́СНА *прысл.* Наўскасяк. *Летні дожджык лье ско́сна, значыць, хутка скончыцца.* Крывое Сяло Шум.

СКОТ *м.* Схіл. *Асцярожна: унізе скот, не зваліся.* Астроўна Беш.

СКО́ТНІК *м.* Калгасная ферма для жывёлы. *Скора на ско́тнік пайду, пара кароў даіць.* Канашы, Кудзіны Гар.

СКО́ЧКА, СКАЧЫ́ХА *ж.* Блыха. *У вайну гэтых ско́чак стольні развялося!* Фарынава Пол. *У Жучкі нашай нада ско́чак патравіць.* Ваўчо, Матырына Уш. *Яна за капейку скачы́ху ў Маскву загоніць!* Касачы Віц.

СКРАБЕ́НЬ *м.* Венік. *Падлогу скрабе́нем падбіраем.* Янкавічы Рас.

СКРАДО́К *м.* Замаскіраваны шалаш, у якім хаваюцца паляўнічыя і адкуль страляюць па птушках. *На краю поля стаяў скрадо́к на цецерукоў.* Алексінічы Сен.

СКРІ́ПНІК *м., бат.* Скрыпень (руск. Иван-чай); высокая травяністая расліна сямейства скрыпнёвых з мяцёлкай пурпурна-ружовых або белых кветак. *Маці ўчора хадзіла ў поле і нарвала цэлы пакет скры́пніку, будзем з яго чай піць.* Марчанкі Гар.

СКРУ́ЖВАЦЬ *незак.* Прасейваць зерне, ачышчаць ад пустазелля. *Сёлетка ячмень скру́жваць трэба будзе.* Сар'я В.-Дзв.

СКРУ́ПКА *ж.* Шына, пакрышка ад колаў. *На Купала скру́пкі паскладаем і палім увечары.* Тупічына Шарк. Параўн. *скат.*

СКРУТА́ЦЬ *зак.* Скруціць. *Ён скрута́ў іх рукі вяроўкай.* Езярышча Гар.

СКРЫ́ДЛА *н.* Крыло. *Я заўсягды падразаю скры́длы курам, каб не лёталі цераз дзяннік.* Парадні Міёр. *Як узмахнула курыца скры́дламі, дык і ў гародзе апынулася.* Янкі Докш.

СКРЫ́ДЛІЧАК, СКРЫЙ *м.* Скрыль; адрэзаны кавалачак чаго-н. *На стале ляжаў толькі скры́длічак хлеба.* Вераб'і Глыб. *Дайце хоць скрый хлеба.* Свярдлова Віц.

СКРЫ́ДЛЯ *ж.* Замерзлая гразь на дарогах. *З-за гэтай скры́длі ўсе боты сапсаваліся, насы́ пазбівала.* Радчонкі Гар.

СКРЫ́НАСКА *ж.* Фотаапарат. *Ён мяне і ў скры́наске паказаў.* Галбея Паст.

СКРЫСЕ́ННЕ, СКРЫСЕ́ННЯ *н.* Нядзеля (рус. воскресенье), сёмы дзень тыдня. *Магазін па скрысе́нням не работаіць.* Зубава Арш. *У скрысе́нне дачка прыедзе з горада.* Пашына Арш. *А ў скрысе́ння звінчалі іх, у камору спаць паклалі.* Дуброўна.

СКРЫСО́НЦА *н.* Сланечнік. *На агародзе вышэй за кукурузу ўзнялося скрысо́нца.* Каўровая Дубр. Параўн. *слон[1], слану́ха, сло́нка, сло́нум.*

СКРЭ́СЦІ, СКРЭСЦЬ *незак.* Скрэбці. *Скрэ́сці многа морквы не нада, пачарнее.* Расходна Сен. *Па начах хтось скрэсць пачынаў.* Уна Лёзн.

СКУ́БІНА *ж.* Ахапак сена. *Чаго ляжыш? Хоць ску́біну каровам прынясі: даўно рыкаюць.* Выдрэя Лёзн.

○ СКУВЫРКА́НАЯ МО́ВА *ж.* Трасянка, змешанае маўленне. *А зараз не так, як раней: гаворым усе на скувырка́най мо́ве.* Лужкі Шарк. Параўн. *суба́рніца* ў 2 знач.

СКУКО́ЖЫЦЦА *зак.* Зморшчыцца. *Чаго скуко́жыўся, кіслы такі?* Кублічы Уш.

СКУЛІ́ЦЬ *незак., перан., груб.* Надакучаць размовамі пра адно і тое ж; ныць. *Дзед скулі́ў, што няма добрага ўраджаю.* Езярышча Гар. Параўн. *сквэ́рціся, ско́гліць.*

СКУЛО́ГАЦЬ *зак.* Сабраць, размясціць блізка адно ля аднаго. *Скуло́гаў усё ў адно месца і паехаў дадому.* Гута Паст.

СКУМА́Т *м.* Палатно, адрэз тканіны. *Нада вады наварыць, у бочку залы ўсыпіць і туды гарячай вады ўліць; тады ўзяць гэта палатно (скуматы́ іх звалі) – і ў бочку, хай адбеліваіцца.* Азёркі, Канашы Гар. *Многа скумато́ў засталося пасля таго, як пашыла спадніцу.* Косарава Глыб. *Замест бінта, раны перавязвалі скумато́м у вайну.* Мікалаёва Міёр.

СКУМА́ЦІЦЬ *незак., экспр.* Шкуматаць, ірваць. *Сабака, праўда, ухваціў тады цыганку не за нагу, а за плацце – і давай скума́ціць.* Канашы Гар.

СКУПЕРА́КА *аг., асудж.* Скупы чалавек. *Скупера́ка той, хто дзецям грошы не дае.* Слабада Докш. Параўн. *скарэ́да, скна́рыца.*

СКУ́ПІЦЦА *зак.* Сабрацца ў гурт, кучу, натоўп. *У магазіне прывоз, паўвёскі ску́пілася.* Іванаўка Гар.

СКУРАЛУ́П *м.* Той, хто здымае скуру з жывёлы падчас яе забою. *Мой муж некаторы час быў скуралу́пам.* Ула Беш.

СКУРАСПЕ́ЛКА гл. СПЕ́ШКА[1]

СКУРО́ЖЫЦЦА *зак.* Скурчыцца. *А ён скуро́жыўся і ўвесь затросся ад холаду.* Папшычы Глыб.

СКУ́СНА *прысл.* Смачна. *Што бы мама ні гатовіла – усё ску́сна.* Слабада Шум.

СКУТ *м.* Вялікі скрутак палатна. *Палатна скут рассцелюць – і яно сушыцца так.* Езярышча Гар.

СЛА́БА *прысл.* Мала. *А што мне аднэй той бульбы трэба, сусім сла́ба.* Чарневічы Глыб.

СЛА́БКІ *прым.* Слабы. *Хазяін пасля хваробы быў зусім сла́бкі.* Замачак Чаш.

СЛАБКІ́ *прым.* Вольны, свабодны, нічым не заняты. *Ты ж у нас дзеўка слабка́я – табе можна і ў клуб іціць.* Іказнь Брасл.

СЛАГА́ЦЬ *зак.* Расказаць, распавесці. *Што яшчо слага́ць вам такога інціэрэснага?* Чарневічы Глыб.

СЛА́ДЗЕНКІ *мн.* Пернікі. *У магазіне сла́дзенкі кілаграмамі бяруць, а раней па адным пяклі самі ды частавалі дзяцей.* Плісы Беш.

СЛАНУ́ХА гл. СЛОН[1]

СЛА́ДКАЕ *н.* Кампот. *Мы з сястрой раней сла́дкае любілі піць, з сухіх яблык, груш, сліў зімой наварым цэлую каструлю і п'ём увесь дзень.* Стасева Лёзн.

СЛАСЦЕ́НЫ *мн.* Разнавіднасць печыва; пампушка, пышка. *Сласце́ны пяклі мы на Каляды з мукі і сахарам пасыпалі іх.* Дуброўна.

СЛАТА́, СЛО́ТА *ж., зб.* Насякомыя маскіты. *Слаты́ гэтай наляцела – не адбаронішся. Зляцелася сло́та, усе вочы павыядала.* Слабада Докш.

СЛЕ́ПАЦЬ, СЛЕПАЦЕ́НЬ *аг., пераи., зневаж.* Сляпы чалавек. *А эта сле́пацъ куды прецца?* Кузняцова Віц. *Калі ты слепаце́нь, дык бяры вочы ў кулак і глядзі.* Ляхавічы Леп.

СЛЕ́ЦЦЕ *н., толькі адз.* Надвор'е. *Бульбы ў гэтым гаду нямнога – верна таму, што было паганае сле́цце.* Марчанкі Гар.

СЛІ́ВА *аг., перан.* П'яны чалавек з пасінелым носам. *Ну ты і слі́ва! Налізаўся пойла!* Ульянавічы Сен.

СЛІ́ВІНА *ж.* Сліва, пладовае дрэва. *З агрэсту робім варення, пазней са слі́він і грушын знімаім плады, мыем, косткі вынімаім і разам у адным вядру варім на джэм.* Задуброўе Віц.

СЛІЖ [1], СЛІЖНЯ́К, СЛІЗЬ *м., заал.* Уюн, галец; прэснаводная рухавая рыба сямейства ўюновых з тонкай скурай без лускі, з падоўжаным змеепадобным целам. *Яська прынёс дамоў свайго першага сліжа́.* Зялёнка Пол. *Сліжняка́ ты проста так не ўловіш.* Малы Двор Беш. *Слізь чорны, скольскі, рот як прісоска, алі ж ні прісоска.* Лялеўшчына Гар. Параўн. *слізня́к[1], сляпе́ц.*

СЛІЖ[2], СЛІЖА́К, СЛІ́ЗЕНЬ *м., заал.* Смоўж, слімак; малюск без ракавінкі. *На спелай сунічке сядзіць тоўсты сліж.* Стараселле Леп. *Летам у саду сліжакі́ бываюць.* Гарбачы Беш. *Слі́зень любіць сыраежкі. Так абгрызе, што і шляпка зваліцца можа.* Слабодка Брасл. *Ма-а-ма! Знімі з мяне гэтага слі́зня!* Вярэчча, Ракава Гар. *Глянь, дзе сядзіць аж некалькі слі́зняў.* Стараселле Леп. *На бярозавым лісточку сядзіць слі́зень. І што ён тут есь?* Ліпанты Міёр. *Слі́зні ўсю клубніку паелі.* Мішкавічы Шум. Параўн. *слізня́к[2], смаршо́к.*

СЛІ́ЖАК *м.* Сырое дрэва, брус. *Лазіў, бывала, малы на дзерава, глядзі, каб на слі́жку ні пакаўзнуўся.* Кузняцова Віц.

СЛІЖНЯ́К гл. СЛІЖ[1]

СЛІ́ЖЫКІ *мн.* Аладкі з варанай бульбы і крухмалу. *Спячы ты мне слі́жыкаў, дужа ж захацелася.* Лазічы, Папшычы Глыб.

СЛІЗГАНІЦА, СЛІЗГА́НІЦА *ж.* Галалёдзіца, слізгота. *Будзь асцярожным, на дварэ слізганіца, шагу ступіць нельга.* Верхняе, Празарокі, Чарневічы Глыб.

СЛІ́ЗГАНКА *ж., часцей* СЛІ́ЗГАНКІ *мн.* Канькі. *Слізганкі былі зусім новыя, а ён іх утапіў.* Жарцы Пол.

СЛІ́ЗЕНЬ гл. СЛІЖ [2]

СЛІЗНЯ́К[1] *м., заал.* Уюн, галец; прэснаводная рухавая рыба сямейства ўюновых з тонкай скурай без лускі, з падоўжаным змеепадобным целам. *Мяса слізняка́ тлустае, мяккае, крыху саладкаватае.* Павяцце Міёр. Параўн. *сліж [1], сліжня́к, слізь, слянéц.*

СЛІЗНЯ́К[2] *м., заал.* Смоўж; слімак; малюск без ракавінкі. *Дзе што сыра трошкі – заводзяцца слізнякі́.* Гарбачы Беш. Параўн. *сліж [2], сліжа́к, слі́зень, смаршóк.*

СЛІЗЬ гл. СЛІЖ [1]

СЛІМАЗА́РНЫ *прым.* Невялікі. *Меў я тады слімаза́рную гаспадарку.* Зубава Арш.

СЛІПУ́Н *м.* Крот. *Адзін сліпу́н, а перарыў нам увесь агарод.* Дразды Беш.

СЛІ́ШЧА, СЦІ́ЛІШЧА *н.* Сцелішча; месца, дзе рассцілаюць лён. *Бабы, пэўна, на слішчы, лён сцелюць.* Старое Лядна Леп. *Ці перанёс ты лён у сці́лішча?* Вяцера Чаш.

СЛО́ДЫЧ *ж., зб.* Салодкія пачастункі. *Вельмі любілі, калі бабка прывозіла нам з горада сло́дыч.* Зазерыца Чаш.

СЛО́ІК *м.* Гаршчок з двума вушкамі. *Падай мне сло́ік, звару ў ім зацірку.* Цяцеркі Віц.

СЛО́МКА *ж.* Саломінка. *Узяў сло́мку са стога і перамінае яе ў руках – работай чалавек заняты.* Стаі Леп. *Кінь ты гэту сло́мку!* Свілелі Паст.

СЛОН[1], СЛО́НУМ *м.*, СЛАНУ́ХА, СЛО́НКА *ж.* Сланечнік; семачкі сланечніку. *Во дык сланы́ ўдаліся у етым гаду.* Кузняцова Віц. *Пасеяў сло́ну, вырас вялікі – вышэй плоту.* Тур'ева Сен. *Сло́нума многа сеялі на гародзе.* Стасева Лёзн. *Вельмі смачная слану́ха.* Крывіцкі Шум. *Сло́нкі такія вялікія, што можна ў іх у хованкі гуляць.* Вяцера Чаш. Параўн. *скрысо́нца.*

СЛОН[2] *м.* За́сланка; прыстасаванне (звычайна бляшаны ліст з ручкай), якім засланяюць топку печы. *Печ закрый сло́нам.* Куты Беш. Параўн. *слоні́к[2].*

СЛО́НЕЦ гл. СЛО́НІК[1]

СЛОНІК[1], СЛО́НЕЦ, СЛО́НІЦ, СЛО́НЧЫК[1] *м.* Услончык; невялікі табурэт; невялікая пераносная лавачка. *А гэта маленькі сло́нік, зручна на ім бульбу чысціць.* Чарневічы Глыб. *На сло́ніку сядзіш сабе, ягады збіраеш.* Мясаедава Шум. *Падай сло́нец сесь, а то ногі не дзержацы.* Язвіна Шум. *Мальцы ўчэра сло́ніц мой сламалі, а я*

*ж без яго як без рук.* Казімірова Пол. *Сло́нчык стаіць каля сцяны, сядай і лушчы хвасолю.* Пашына, Тумінічы Арш. *Каля печы стаіць сло́нчык, стань, унучак, на яго – і дастанеш у шафе варэнне.* Ула Беш. *Ідзі, дзетка, сядзь на сло́нчык і глядзі цілівізар.* Жабыкі Дубр. *Ніхай баба пасядзіць, во і сло́нчык.* Карабанавічы Дубр. *Як папрацуеш, сесь на сло́нчык – любае дзела.* Пранікі Уш. Параўн. *сто́лак, сту́лка.*

СЛО́НІК$^2$, СЛО́НЧЫК$^2$ *м.* Засланка ў печы. *Сло́нік у печы трэба было б замяніць, а то зусім вышчарблены стаў.* Выдрэя Лёзн. *Сло́нчык адстаў убок.* Мацюкова Глыб. Параўн. *слон$^2$.*

СЛО́НІК$^3$ *м., заал.* Даўганосік, жук-шкоднік сельскагаспадарчых раслін. *Па пальцу паціхеньку паўзець сло́нік.* Стараселле Леп.

СЛО́НІЦ гл. СЛО́НІК$^1$

СЛО́НКА, СЛО́НУМ гл. СЛОН$^1$

СЛО́НЦА *н.* Сонца. *Сло́нца сягоня, мусі, не будзе, ды і тучы нагнала аднекуль.* Падрукша Брасл. *Ой, якое ж пякучае сёні сло́нца!* Ураджайная Глыб. *Летам сло́нца яркае, пячэ агнём, не так, як зімою.* Міхалінава Лёзн. *Ай-яй! Сло́нца ўжо высока, а я толькі ўскочыла.* Воўкаўшчына Міёр. *Вунь і сло́нца бліснула, дзякаваць Богу, дождж хутка скончыцца.* Дварчаны Паст. *Сло́нца ўжо высока, пара абедаць.* Лонск Шарк. Параўн. *со́нeнька, со́ўнінька.*

СЛО́НЧЫК$^1$ гл. СЛО́НІК$^1$

СЛО́НЧЫК$^2$ гл. СЛО́НІК$^2$

СЛО́ШКА *ж., груб.* Тоўстая жанчына. *Я была такая тоніенькая, калі была дзеўкай, а цяпер якая стала сло́шка.* Быцава Беш. Параўн. *сяўня́.*

СЛУЖБО́ВІК *м.* Шклянка. *Налій дзяўчатам па службовіку малака.* Пліса Глыб.

СЛУЖБО́ЎКА *ж.* Ватная фуфайка. *Адзень, унучак, службо́ўку, бо холадна ўжо стала па начах.* Ураджайная Глыб.

СЛУХІ́ гл. СЛЫ́ШКА

СЛУ́ШНЫ *прым.* Паслухмяны. *Слу́шныя якія дзеткі ў цябе!* Зоськава Арш. *У мяне ўсе вучні былі слу́шныя.* Рулёўшчына Сен. *Мужык выпіць любіў, але дужа слу́шны быў.* Селішча Уш.

СЛЫ́ШКА *ж.*, СЛУХІ́ *мн.* Чутка, плётка. *Па дзярэўні пашлі пра яе слы́шкі.* Ульянавічы Сен. *Слухі́ пашлі, што бацьку ўбілі ў лесе.* Галбея Паст.

СЛЫ́ШНЫ *прым.* Слаўны. *А ў тым месце хадзіла слы́шная паненка.* Пышна Леп.

СЛЮДО́ВЫЙ *прым.* Цэлафанавы (пра пакет). *Найдзі мне чыстый слюдо́вый мяшочак.* Мішуткі Віц.

СЛЮЖ *ж., толькі адз.* Вадкасць, слізь, якая з'яўляецца ў вымені каровы за месяц да ацёлу. *За месяц да ацёлу ў каровы адна слюж выходзіць.* Слабада Докш. Параўн. *смоль.*

СЛЮЗ *м.* Слізь. *Многа слюза ў кішках, нада іх чысціць.* Дабея Шум.

СЛЮМА́ЧЫЦЬ *незак., безас.* Пра непагадзь, дрэннае, з дажджом ці снегам надвор'е. *Другі дзень слюма́чыць, гразі дабавілася.* Серкавіцы Тал.

СЛЮНЯ́К *м., часцей* СЛЮНЯКІ́ *мн.* Грыб масляк. *Слюнякі́ – пахучыя і смачныя грыбы.* Мікіціха Шум.

СЛЮНЯ́ЎКА *ж.* Дзіцячая хвароба, якая характарызуецца празмерным выдзяленнем сліны. *А я і дзіцячую слюня́ўку, і задых магу вылечыць.* Ноўка Віц.

СЛЯПЕ́Ц *м., заал.* Галец; прэснаводная рыба сямейства ўюновых з тонкай скурай без лускі. *Маці зварыла юшку са сляпцоў.* Стараселле Леп. Параўн. *сліж[1], сліжня́к, слізь, слізня́к[1].*

СМА́ГЛА *прысл.* 1. Прагна, са смакам. *Сма́гла ж ты п'еш, аж мне захацелася піць, гледзячы на цябе.* Белішкі Паст. 2. *перан.* Старанна, рупліва, добра. *А як грошы нада, дык робіце вы ўсё сма́гла.* Турлы Паст.

СМА́ЖАНІК, СМАЖЭ́НІК *м.* Страва, прыгатаваная з дранай бульбы і грыбоў ці іншай начынкі, у выглядзе бліноў. *Зраблю сма́жанікаў на вячэру, няхай ядуць.* Язвіна Шум. *Даставай вун, дзетка, смажэ́нікі ды еш, я сёння гатовіла.* Лужкі Шарк.

СМА́ЖАНКА *ж.* Смажаная бульба. *Сама люблю сма́жанку і гасцей частую сма́жанкай.* Чарневічы Глыб.

СМА́ЖКА *ж.* Шкварка. *Сма́жкі, бульба, хлеб – аж слюна цячэць, як падумаю.* Каменка Тал.

СМАК *м.* Мак. *Там у булках і смак, і ізюм, і з варэннем какім-нібудзь.* Чарневічы Глыб.

СМАКТУНО́К *м., памянш.* Цукерка-ледзянец. *У наш магазін прывезлі новыя, смашныя смактункі́, купіла во ўнукам і сама калі пасмакчу.* Лазічы Глыб.

СМАЛЛЯ́НКА гл. СМАЛЯ́НКА

СМАЛЯВІ́ЦА *ж.* Маланка. *За гародам у мяне раскара́ка стаіць, гэта ад смалявіцы. Во сілішча!* Язна Міёр.

СМАЛЯ́К *м., толькі адз.* Смала. *І сноў рукі па плечы ў смаляку́.* Ілава Шум.

СМАЛЯ́НКА, СМАЛЛЯ́НКА, СМЫЛЯ́НКА *ж.* 1. Пацук. *Смаля́нкі ў полі жывуць.* Доўжа Віц. *У пастку папалася смаля́нка.* Новы Пагост Міёр. *Смалля́нкі ўсё зярно пагрызлі.* Пашына Арш. *Сёння дзве во такія смалля́нкі ў хляву відзела!* Мішуткі Віц. *З-пад падлогі выбягае смыля́нка – і шусь пад печ!* Станіслававова Дубр. 2. Мыш. *Смалля́нкі во ўсю бульбу паелі.* Зямянскае Гудава Дубр.

СМАЛЯ́ЧКА *ж.* Смаляк; смалісты кавалак дрэва, якім распальваюць у печы. *А дзе наша смаля́чка? Без яе агонь тухне, хоць ты яму сала дай.* Старое Лядна Леп.

СМАРКА́ЛКА *ж., экспр.* Насоўка. *Ці ёсць тут якая смарка́лка новая?* Мурагі Рас.

СМАРКА́ТКА, СМАРКА́ЧКА, СМАРКУ́ЛАЧКА *ж.* Лямпа-газоўка, газніца; бутэлька з газай і кнотам для асвятлення памяшкання. *Скручвалі вяроўку, макалі ў кірасін (гэта называлі смарка́ткай); смарка́тка гарыць, столь копціць, а мы ў таночак ідзём.* Шаркоўка Леп. *Раней ламп не было, была смарка́чка.* Ула Беш. *Запалі смарка́чку: цёмна ў хліве.* Мішуткі Віц. *Прынясі ў байню смарка́чку.* Латышы Глыб. *На гары я знайшла старую смарка́чку.* Задоры Леп. *Трэба будзе на зіму смарка́чку даставаць.* Дворышча Рас. *Уключы смарка́чку, а то цёмна ў пуні.* Клінавое, Тупічына Шарк. *Раней дзеці смаркýлачку запаляць ды чытаюць і пішуць.* Бачэйкава Беш. Параўн. *свячо́нка.*

СМАРО́Д *м.*, СМАРО́ДА, СМІРО́ДЗІНА *ж.* 1. Ягады парэчак чорнага колеру. *У гародзі ў міне смаро́д расцець.* Езярышча Гар. *Вельмі смачнае варэнне бывае з чорнай смаро́ды.* Тумінічы Арш. *Чорныя – гэта смаро́да, а красныя завуцца парэчкі. Са смаро́ды джэм робім, а з парэчак – павідла ці жэле.* Камоскі Беш. *У міне смаро́ды нет, трэба пасадзіць куста два-тры.* Доўжа Віц. *Канпоту са смаро́ды закатала пяць банак.* Азярцы Глыб. *Сёлета добра ўрадзіла смаро́да.* Багатырская Пол. *Ёсць смаро́да чорная і красная, дык у нас красная завецца парэчкі.* Варанцэвічы Тал. *Бабуля, можна паесь смаро́ды ў гародзе?* Слабада Шум. *Смаро́да смачная павырастала.* Амбросавічы Шум. 2. Ягады парэчак чорнага, чырвонага і жоўтага колеру. *Са смаро́ды ёсціка джэм, сама варыла, а з крыжоўніка кампот.* Кавалі Глыб. *Бабуля перасадзіла пяць кустоў сміро́дзіны.* Пачаевічы Чаш.

СМАРО́ДНІК, СМУРО́ДНІК *м.* Кусты чорнага парэчніку. *Смаро́днік у садзе разросся, трэба паабсякаць трохі.* Кудзіны Гар. *Лісты смуро́дніку я кладу ў чай, так смачней.* Мількі Брасл. *Ён гуляе там, каля смуро́дніку.* Урбаны Брасл. *У нас каля ракі растуць вялікія кусты смуро́дніку.* Каўшэлева Шарк.

СМАРШО́К *м.* Смоўж, слімак. *Смаршо́к сядзеў на грыбе і ямак навыядаў.* Леснікі Глыб. Параўн. *сліж*[2], *сліжа́к, слі́зень, слізня́к*[2].

СМАТКА́ЦЬ *незак.* Смактаць, хлябтаць. *Дай ты гэнаму кату́ малака, надаеў ужо, так любіць сырадой сматка́ць.* Каменка Тал.

СМАЧНІНА́ *ж., зб.* Смачная ежа. *Панабіраем к святу ўсякай смачнíны на кірмашы.* Белая Ліпа Сен.

СМЕ́ХАМ *прысл.* Лёгка, без цяжкасцей, не прыкладаючы асаблівых намаганняў. *Глядзі, сколька ягад. Зараз сме́хам па вядру набярём.* Кулакова Віц.

СМЕХАТУ́ХА *ж., экспр.* Жанчына, якая любіць смяяцца без прычыны. *Суседка ў нас смехату́ха, вы не дзівіцеся, ёй што ні скажыш – смяецца.* Ветрына Пол.

СМЁТКА *ж.* Курынае гняздо. *Смёткі палядзі – можа, яйцы ёсь.* Пранікі Уш.

СМІРО́ДЗІНА гл. СМАРО́Д

○ СМО́ЛКА БЛАЦЯНА́Я *ж., бат.* Гарыцвет, адоніс. *Па-нашаму гаріцвет смо́лкай блацяно́й называюць.* Азёркі Гар.

СМОЛЬ *ж.* Вадкасць, слізь, якая паяўляецца ў вымені каровы за месяц да ацёлу. *Твая ж карова цельная, бо смоль ё. І куды ты сматрела?* Карабанавічы Дубр. Параўн. *слюж.*

СМО́РАДЗЬ *ж.*, СМЫ́РАД *м.* Смурод, смярдзючы пах. *Усюды стаіць смо́радзь – не здыхацца.* Барсучына Шум. *Нешта смы́радам пахнець.* Смародзіна Лёзн.

СМО́РГАЦЬ *незак.* Шморгаць. *Смо́ргалі ў полі шчаўе ў торбу.* Тупічына Шарк.

СМУ́РНЫ *прым.* Сумны, маркотны, смутны. *Нейк жа ён прышоў сёння да мяне сму́рны, можа, з жонкай нілады?* Сценка Докш.

СМУРО́ДНІК гл. СМАРО́ДНІК

СМУРЫ́ЖЫЦЬ[1] *незак.* Марудзіць. *Чаму твой мужык так смуры́жыць, за што б ні ўзяўся?* Верамееўка Гар.

СМУРЫ́ЖЫЦЬ[2] *незак., экспр.* Марудна жаваць, трымаючы падоўгу ежу ў роце. *Што ты смуры́жыш? Ні хочыш – ні еш.* Лужасна Віц.

СМУ́ТАСЦЬ *ж.* Смутак. *Усе ў радасці тут, а ён са сму́тасцю прышоў.* Ноўка Віц.

СМУ́ХТА *ж., толькі адз.* Ерась. *Сму́хта гэна ўсё, анна сму́хта, не слухайце яе.* Каменка Тал.

СМЫ́КТА *ж.* Гнілая агародніна. *Глядзі за даждажа́мі, а то анну смы́кту мець будзіш.* Пранікі Уш.

СМЫЛЯ́НКА гл. СМАЛЯ́НКА

СМЫ́РАД гл. СМО́РАДЗЬ

СМЯТО́К *м.* Яйка, зваранае ўсмятку. *А я дык смято́к люблю.* Лужасна Віц.

СМЯЦЕ́Й *м.* Галаўня. *Етыя зярняты ў каласах ячменю і пшаніцы называюцца смяце́й.* Перакопава Сен.

СНАВА́ХА, СНО́ЎКА *ж.* Снавальшчыца; жанчына, якая снуе кросны. *Падай, снава́ха, за кроснамі бёрды.* Цяцеркі Віц. *За кроснамі*

*сядзелі тры снавáхі.* Абольцы Тал. *Цётка ў мяне была харошай снóўкай, многія к ёй за саветам хадзілі.* Опса Брасл.

СНАПРÁЛКА гл. САМАПРÁХА

СНАРÓЎКА *ж.* Прылада для лоўлі рыбы. *Снарóўку бралі і кожную суботу ішлі на рыбу.* Казімірова Пол.

СНЕГÝВЦЫ, СНІГÓЎКІ, СНІГÓЎЦЫ *мн.* Зімнія кароткія боты, чаравікі. *Як прыходзіць зіма – дастаю свае снегýвцы, тады ніякі мароз не страшны мне.* Груздава Паст. *Сніróўкі новыя нада бацьку купіць.* Рунды Міёр. *Прывезла з гораду снігóўцы мацеры ка дню раджэння.* Савуткі Шарк.

СНÉДАК *м.* Снеданне. *Сённяка сваім падала на снéдак ляніўцы.* Клясціцы Рас.

СНІГÓЎКІ, СНІГÓЎЦЫ гл. СНЕГÝВЦЫ

СНÓЙКА, СНÝЛЛЯ *ж.* Снавадла; прылада для снавання. *Майсцер зрабіў мацеры снóйку.* Матырына Леп. *Пры тканкі бабуля тчэць снýлляй.* Дворнава Шарк. *Напрадзём адаробкі нітак, патом на снýллю, стáвы навіваем і прадзём.* Слабада Докш. *Заціхла снýлля – скончылася ткацтва.* Фарынава Пол.

СНÓЎГАЦЬ *незак.* Сноўдацца, бадзяцца без справы, хадзіць туды-сюды бязмэтна. *Што ты снóўгаеш узад-уперад?* Новая Яблынька Тал.

СНÓЎКА гл. СНАВÁХА

СНÝЛЛЯ гл. СНÓЙКА

СНЯГÝР *м.* Снягір. *У мяне ў дзецтве пад вакном харошанькая рабінка расла, а колькі там на ёй снегурóў было зімою!* Гацькаўшчына Арш.

СНЯЖНÍЦА *ж.* Канава з талай вадой. *Вясной у сняжнíцы дзеці пускалі караблікі, з вады іх, бывала, за вушы не выцягнеш.* Друцк Тал.

СÓБІЦЬ[1] *зак., безас.* Выпасці, здарыцца. *Сóбіла ж яму зламаць нагу!* Запружаны Чаш.

СÓБІЦЬ[2] *незак.* Прыходзіць у галаву; наводзіць на думку. *Такія паганыя думкі сóбяць каторы дзень.* Дуброўкі Чаш.

СÓБКА *ж.* Адрына; пуня; памяшканне для захоўвання сена. *Цэлае лета возім у сóбку сена.* Евіна Гар. Параўн. *сенавáл, сенавáлка, сéннік[1]* у 1 знач., *стажáрня, стажáрына* ў 1 знач.

СÓБСКІ *прым.* Уласны, свой. *Сóбскай кварціры ішчэ ні маіць, снімаіць у некага тамака.* Ясева Міёр.

СÓГАЛКА *ж.* Дзіцячая гульня. *Малыя мы любілі ў сóгалку гуляць.* Слабада Докш.

СÓКА *займ.* Колькі. *Сóка цябе будзем ждаць?* Доўжа Віц.

СÓЛТЫШ *м.* Повар. *Сóлтыша нашага ўсе хваляць.* Гута Паст.

СÓЛЬНІЦА гл. САЛЁНКА[1]

СО́НБА *аг., экспр.* Соня, аматар паспаць. *Ну, ты, малая, і со́нба, пяць часоў днём праспала.* Папкі Міёр.

СО́НЕНЬКА, СО́НЕЧКА, СО́ННУШКА, СО́ЎНЕКА, СО́ЎНІНЬКА, СО́ЎНІШКА *н., памянш.* Сонца. *Во сянні свеціць со́ненька!* Грабяніца Віц. *Со́нечка дужа грэіць.* Высачаны Лёзн. *Толька со́ннушка выгляніць – мы ўжо ўстаём і ідзём работаць.* Мішуткі Віц. *Во ўжо і со́ўнека паказалась, пацяплела на вуліцы.* Папшычы Глыб. *Закацілася со́ўнінька, пайду кароўку падаю.* Ноўка Віц. *Пасцілі кароў, на жаркае со́ўнішка паглядываючы: калі той абед будзе?* Ноўка Віц.

СО́НКА *ж.* Ложак ці калыска для малога дзіцяці. *Дзіцё ў со́нке калыхалі.* Янкавічы Рас.

СО́НЧЫЦЬ *незак.* Цадзіць. *Малако со́нчы ў гэтае вядро, я патом пералью.* Усяны Брасл.

СО́ПУХА[1] *ж.* 1. Сажа. *Даўно ніхто ў коміне со́пуху не чысціў.* Грышаны Віц., Пачаевічы Чаш. 2. Цяпло, якое ідзе з печы, непрыкрытай засланкай. *Сядзь во спіну пагрей каля со́пухі.* Канашы Гар.

СО́ПУХА[2] *ж.* Жэрдка каля печы для прасушвання бялізны. *У мяне заўсягды трапкі на со́пухі вісяць.* Кавалі Глыб.

СО́СНА *ж.* Сасна. *Мы на Новы год со́сну ставім кожны год.* Высачаны Лёзн.

СО́СНІК *м.* Сасоннік. *За полем расцець со́снік, там і грыбы, і ягады збіраем.* Курына Віц.

СО́ТКІ *толькі мн.* Агарод, які знаходзіцца далёка ад хаты. *Со́ткі якіі ці ёсь у вас сёліта?*Лужасна Віц. *Паеду на свае со́ткі, пагляжу, як жыта адышло.* Каты Шарк.

СО́ЎГАЛА *н., груб.* Бесклапотны чалавек, які сноўдаецца, бадзяецца ўсюды без справы і заняткаў. *Не хлопец, а со́ўгала нейкае.* Замошша Брасл.

СО́ЎМА *ж.* Натоўп. *Да аўтобуса ўсе со́ўмай лезуць.* Чарневічы Глыб.

СО́ЎНЕКА, СО́ЎНІНЬКА, СО́ЎНІШКА гл. СО́НЕНЬКА

СО́ЧАНЬ гл. СА́ЧАНЬ

СО́ША *ж.* Шаша. *Глядзіця, астарожна едзьця, як выберацеся на со́шу.* Лужкі Шарк.

СО́ШКА[1] *ж.* Сушылка; прыстасаванне, на якім сушаць сена. *Клевер так проста не высушыш: сначала трэба падсушыць, а патом у со́шкі складці – да зімы якраз высахне.* Клясціцы Рас.

СО́ШКА[2] *ж.* Конаўка, якой наліваюць ваду ў лазні. *Падлі ваду тэй со́шкай.* Суднікі Арш.

СПАВЯДНІ́ЦА *ж.* Спавядальня. Спецыяльны куток у храме, адведзены для споведзі. *Ідзі хуценька спавядацца, пакуль ксёндз са спавядні́цы не вышаў.* Папшычы Глыб.

СПА́ДКІ *толькі мн.* Вопратка, якая перадаецца ў сям'і па спадчыне ад старэйшых дзяцей малодшым. *Складзі акуратна спа́дкі ў шафу.* Чарнаручча Леп.

СПАДО́БАЦЦА *зак.* Спадабацца. *Ці хадзілі на танцы ў клуб? Ці спадо́балася?* Ноўка Віц.

СПАДРА́ДУ *прысл.* Падрад, без пропуску. *Ты ж ягады сабірай усе спадра́ду, а не толькі крупныі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СПА́ДЫШ *м.* Апад, ападак; плод, які сам апаў з дрэва. *Спа́дышы падбіраем карове і зрання, і пад абед.* Барадуліна Арш. *Хадзем разам, там столькі спа́дышаў, што я адна не сабяру.* Весніно В.-Дзв. Параўн. *спо́рыш*[2].

СПАЗАРА́ННЯ *прысл.* З самага ранку. *Спазара́ння к табе явімся.* Кулакова Віц. *Чаго ты спазара́ння ўстаў, што не спіцца?* Зуі Лёзн.

СПАЗНА́ЦЬ *зак.* Пазнаёміцца, здружыцца. *Мы вельмі хутка спазна́лі адзін аднаго.* Салавічы Віц.

СПАЗНО́ГАЦЬ *м.* Пазногаць, ногаць. *У цяперашніх дзевак спазно́гці, як кіпцюры ў каршуна.* Мікалаёва Міёр.

СПАКУСІ́ЦЬ *зак.* Растлумачыць. *Сама сабе спакусі́ла ды і зайграла, як па нотам.* Машканы Сен.

СПАЛЕРЖАВА́НЫ *прым.* Паралізаваны. *Суседка наша зусім хворая, ужо чацвёрты год спалержава́ная ляжыць.* Прошкава Глыб. *Якая баба бедная: адзінаццаты год ляжыць спалержава́ная.* Псуя Глыб.

СПАЛЕ́ЦІЦЬ *зак., безас.* Пашанцаваць. *Не кожнаму так спале́ціць устроіцца.* Іванаўка Гар.

СПАЛЯВА́ЦЬ *зак.* Упаляваць; забіць якога-н. звера ці жывёліну на паляванні. *Мальцы ўчора нічога не спалява́лі, прыйшлі з пустымі рукамі.* Высачаны Лёзн.

СПАМЯНУ́ЦЬ *зак.* Успомніць. *Цяжка спамяну́ць, што тварылася ў вайну.* Лісуны Арш. *Люблю спамяну́ць маладосць сваю.* Гараўцы Міёр. *Не магу спамяну́ць, дзе я клубок з ніткамі палажыла.* Дуброўкі Чаш.

СПАНАВА́ЦЬ *зак.* Апанаваць. *Спанава́лі мошкі – не адбіцца.* Ёды Шарк.

СПАНА́ТРЫЦЬ *зак.* Прывыкнуць, прызвычаіцца. *Я ўжо да гэтага сяла душой спана́трыла.* Дубы Чаш.

СПАРЦІ́ЎКІ *толькі мн., экспр.* Спартыўныя штаны. *Снімі свае спарці́ўкі, пасціраю.* Грабяніца Віц.

СПА́РЫЦЬ *зак.* Зварыць. *Трэба спа́рыць бульбу, штоб увечары было што есці са шкваркамі.* Лугавыя Віц.

СПА́РЫШ *м.* Хвароба хлебных злакаў; чорнае зерне ў жыце, ячмені і іншых злакавых. *Зярно мы цяпер купляем, бо расце адзін спа́рыш, а яго ж і куры не ядуць.* Гацькаўшчына Арш. Параўн. *са́жа.*

СПАРЫ́Ш *м., міф.* Міфічная істота, якая з'яўляецца ў канцы жніва. *Хадзіў Спары́ш удоль па вуліцы, а ніхто Спарыша́ к сабе ў хату не завець* (з песні). Камоскі Беш.

○ СПА́САЎСКАЯ КУЛАГА́ *ж.* Варэнне з розных відаў садавіны, якое варылі падчас Спаса. *Для спа́саўскай кулагі́ ў кацёл для тушэння завалоджвалі слівы, грушы, яблыкі.* Азёркі Гар.

СПАСІ́БАВАЦЬ, СПАСІ́БКЫВАЦЬ *незак.* Дзякаваць. *А як жа яна мне спасібавала тады!* Канашы Гар. *Я ж усім гэтым людзям усю жызню спасі́баваць буду.* Крывыя Тал. *Ай, спасі́бкываць табе нада за агарод.* Станіславова Дубр.

СПА́СЛЫ *прым.* Знаходлівы, здольны знайсці выйсце са складаных абставін. *Дочкі яго – спа́слыя дзяўчаты, у людзі выйшлі.* Прошкава Глыб.

СПАСО́Б'Е *н.* Пенсія. *Пачтальён прынёс спасо́б'е – нічуць не павысілі ў етым месяцы.* Беразіно Докш.

СПАТЫКА́Ч *м.* Матыка. *Я спатыкачо́м усю бульбу прайшла – ні травінкі.* Папоўка Сен. Параўн. *са́бка.*

СПАХО́ДЗІЦЬ *зак.* Дарэмна, без карысці патраціць. *Куды ты спахо́дзіў усю зарплату?* Воўкаўшчына Міёр.

СПА́ШНІК *м.* Селянін, які апрацоўваў панскую зямлю за частку ўраджаю. *Дзед мой доўга быў спа́шнікам у пана.* Чарневічы Глыб.

СПЕ́ЛЬКА *ж., зб.* Спелыя ягады, агародніна. *Спе́лькі кладу ў міску, а зеленаватыя – на сонца, хай трошкі падаспеюць.* Ноўка Віц.

СПЕ́ШКА[1], СКАРАСПЕ́ЙКА, СКАРАСПЕ́ЛАЎКА, СКАРА-СПЕ́ШКА, СКУРАСПЕ́ЛКА *ж.* Скараспелка; гатунак ранняй бульбы. *Да вячэры спе́шкі накапаю, з гуркамі паядзім.* Казечкі Арш. *Накапала спе́шкі – буду бліны пячы.* Косарава Глыб. *Спе́шка ў гэтым гаду ўжо добра ўрадзі́цца.* Чарневічы Глыб. *Гэткую спе́шку цяжка захаваць да вясны.* Фарынава Пол. *Спе́шку шчэ толькі пасадзілі.* Серкавіцы Тал. *Садзім спе́шку кожны год.* Верацеі Шарк. *Увесну бабуля раздзяляе бульбу на скараспе́йку, сеянку і па́ранку.* Лукомль Чаш. *Самая смачная бульба – скараспе́лаўка, асобенна з зялёным укропчыкам, цыбулькай і сальцам.* Тумінічы Арш. *Скараспе́шку мы ўжо даўно выкапалі.* Лескавічы, Обаль Шум. *Што садзіць будзем сёлета – скураспе́лку ці галандку?* Дуброўна.

СПЕ́ШКА[2] *аг., перан., іран.* Хуткі, шпаркі чалавек. *Пакуль я паела, дык ты ўжо і карову ўспела цыркануць. Во якая я спе́шка!* Папшычы Глыб.

СПЕШУНЫ́ *мн.* Скараспелыя памідоры ці іншыя плады. *Во ўжо колькі спешуно́ў у парнічку!* Ветрына Пол.

СПІЛО́ВАЧНІК *м., зб.* Апілкі. *А як дзед папіліць, тагда я мяту ўвесь вечар двор ад спіло́вачніка.* Звёздная Арш.

СПІ́ЧЧА *н., зб.* Запалкі, спічкі. *Глядзі, не давай спі́чча дзецям.* Мішкавічы Шум.

СПЛЮГА́ВІЦЬ *зак.* Збэсціць, знясла́віць. *Сплюга́віў ён жонку пры людзях. Ета мужык?* Уна Лёзн.

СПЛЯ́ЖЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Баба – агонь, толькі павярніся, можыць спля́жыць – і слова ні скажыш.* Воўкаўшчына Міёр.

СПО́ГАДЗЬ *ж.* 1. Дазвол на што-н., згода. *Дачка ждала толькі маёй спо́гадзі на вяселле, баялася, што не дазволю: малая яшчэ.* Ноўка Віц. 2. Спагада, спачуванне. *Усе родныя прыйшлі выказаць сваю спо́гадзь.* Задоры Леп. 3. Згода, паразуменне, аднадушнасць. *Брахаліся яны доўга, пакуль да спо́гадзі не прышлі.* Дварэц Чаш.

СПО́ДАЧКА *ж., памянш.* Рукавічка. *Нядаўна спрэзентавалі мне к зіме пуховыя спо́дачкі.* Папшычы Глыб.

СПО́ДКА *ж., часцей* СПО́ДКІ[1] *мн.* Рукавіцы. *Спо́дкі вяжуць і ў дзве, і ў тры ніткі.* Ларынаўка Арш. *На вуліцы знайшла чыесь спо́дкі.* Папшына Арш. *Ты ўзяла б спо́дкі ў кішэнь, мо спатрэбяцца, каб рукі не параніць.* Суднікі, Тумінічы Арш. *Зімой жонка не паспявала вязаць спо́дкі: то ў лесе згубіш, то недзе край абадрэш.* Кузьмянцы Віц. *А як німа чым заняцца, дык я спо́дкі ўнучкам вяжу.* Езярышча Гар., Залессе, Сахнавічы Глыб. *Саўсім твае спо́дкі прахудзіліс*ь. Глебава, Карабанавічы Дубр. *Спо́дкі Кацін*ы *не чапай!* Старое Лядна Леп., Бабінавічы, Міхалінава Лёзн. *Такая халадзіна, а я і спо́дак не ўзяла, а казала ж маці: адзень спо́дкі, усё ж рукам цяплей будзіць.* Аўсянка, Перабродзе Міёр., Фарынава Пол. *У мяне тады ў малой, помню, такія харошанькія спо́дкі былі, ні ў кога такіх не было, а мне цётка з Масквы прывезла.* Клясціцы Рас., Нярэйша, Ракаў Засценак Сен. *Пакладзі спо́дкі на печ, хай прасохнуць.* Абольцы Тал., Коравічы Чаш., Більдзюгі, Жукоўшчына, Чаромхава Шарк. Параўн. *спяцо́ўкі.*

СПО́ДКІ[2] *толькі мн.* Рэчы, living рознае начынне. *Трэба сабіраць спо́дкі і пераяжжаць у другую хату.* Таўкіні Шарк.

СПО́ДНІ *толькі мн.* Штаны. *У спо́дні ўскочыў мой малы і паляцеў на двор.* Опліса Брасл.

СПО́ДНЯЕ *н., толькі адз.* Любая бялізна (споднял, верхняя, пасцельная). *Спо́дняе на дварэ, наверна, ужо высахла.* Чарнаруччa Леп.

СПО́КЛАДАК *м.* Пакет; поліэтыленавы мяшочак. *Назбіраў цэлы спо́кладак баравікоў і падасінавікаў.* Ураджайная Глыб.

СПО́ЛЕДЗЬ *ж., толькі адз.* Іней. *Першая спо́ледзь – першы дух зімы.* Каменка Тал.

СПО́ЛКА *ж.* Пялёнка. *У вайну бежанцы спо́лкі сушылі ля агня.* Гута Паст.

СПО́РВАЦЬ *незак.* Спрачацца. *Я з ім спо́рвала, спо́рвала, а патом кінула ўсё і больш не пашла да яго.* Абольцы Тал.

СПО́РКІЙ *прым.* Густы, добры (пра сена). *Другей укос спо́ркій, але першый быў спарчэ́й.* Мішуткі Віц.

СПО́РЫШ [1] *м.* Спары́ш; два плады, якія зрасліся разам. *Спо́рыш – гэта такія два агуркі, якія зрасліся ў адзін.* Старое Лядна Леп.

СПО́РЫШ[2] *м.* Апад; плады-ападкі, якія самі ападаюць з дрэва. *У саду там мора спо́рышу, хваціць і сабе, і свінням.* Мікіціха Шум. Параўн. *спа́дыш.*

СПО́ХНУЦЬ *зак.* Успухнуць. *Уся нага спо́хла, што ні павярнуць, прыйдзецца ў больніцу ехаць.* Кавалі Глыб.

СПРАВА́ДЗІЦЬ *зак.* Пахаваць (пра памерлых). *Столькі людзей за гэты год справа́дзілі, што страх проста.* Іванаўка Гар.

СПРАВЕ́ДАВАЦЬ *зак.* Праведаць, наведаць. *Пайду сястру справе́дую, а то іна захварела.* Вадзянікі Гар.

СПРА́ЖАНЫ *дзеепрым.* Спрадзены. *Столькі спра́жанай шэрсці ляжыць без справы!* Іванаўка Гар.

СПРАКВАЛА́ *прысл.* Павольна, паціху, не спяшаючыся. *Бацька з работы ідзе спраквала́, ледзь ногі цягне, бедны.* Зубрэвічы Арш.

СПРА́ЖЫЦЦА *зак.* Сасмажыцца без тлушчу і вады. *Стаялі каля печы і ждалі, пакуль спра́жыцца гарох.* Баброва Леп.

СПРАЎЛЯ́ЦЦА *незак.* Выконваць штодзённую працу, упраўляцца па гаспадарцы. *Некагда мне сядзець, нада яшчэ спра́віцца, пака не сцямнела, а то прыдзецца цёмначы спраўляцца.* Якаўлевічы Арш., Камоскі Беш. *Нада ісці спраўля́цца: саўсім сцямнеіць.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *А мы малыя самі спраўля́ліся: і карову даілі, і свіней кармілі, і печ тапілі.* Чаўнышкі Беш., Кавалі Глыб. *Пайду спраўля́цца, карова есці хоча.* Велеўшчына, Звязда, Чэрцы Леп., Рунды Міёр., Новая Яблынька Тал. *Трэба ўстаць у пяць часоў і першым долгам пачаць спраўля́цца: вады нанасіць, тады шчыток затапліваць, есці свінням варыць і снеданне гатовіць.* Арэхаўна, Забораўна, Кублічы Уш., Коравічы Чаш. *Як толькі пачынае світаць, спраўля́юся: свіней, кароў накармлю, выганю ў поле і каля печы гатую.* Германавічы Шарк., Крывое Сяло Шум.

СПРО́ЖКА *ж.* Спосаб звязвання кароў у пары, калі яны ідуць адна каля адной. *Спро́жку зрабі ім і вядзі на поле.* Падрукша Брасл.

СПРОНТ *м.* Вупраж, рыштунак для запрэжкі. *Каня як распражэш, спронт у сарай пастаў.* Опліса Брасл.

СПРУВА́ДЗІЦЬ *зак.* Выправадзіць, выправіць, справадзіць. *Спрувадзіў яго за дзверы.* Канашы Гар. *Спрува́дзіла іх за дзверы – і дзверы на цапок.* Рулёўшчына Сен.

СПРУЖЭ́ЦЬ *зак.* Згніць. *Сёлета пашці ўсе яблакі спружэ́лі.* Казімірова Пол.

СПРУМЯНЕ́ЦЬ *зак., лаянк.* Спруцянець, скарчанець, памерці. *А каб ты спрумянеў, неслух гадкі!* Чарневічы Глыб.

СПРУНЖУНО́ЎКА, СПРЫЖЫНО́ЎКА *ж.* Спружыноўка; барана, работа якой заснавана на выкарыстанні спружын. *Раней трактараў не было, на кані спрунжуно́ўкай кульцівіравалі.* Камоскі Беш. *Па агародзе трэба спрыжыно́ўкай прайціся.* Чарневічы Глыб.

СПРЫ́ТНЫ *прым.* Прыгожы, зграбны, спраўны. *Спрытна́я ў яе нявестка, кругленькая з ліца.* Янкі Докш.

СПУДЛІ́ЦЬ *зак.* Збіць з ліку таго, хто заняты лічэннем. *Памаўчы крыху, а то зноў мяне спудлі́ш.* Мікалаёва Міёр.

СПУ́ЛІЦЬ *зак.* Украсці. *Прызнавайцеся, хто з вас спу́ліў грошы?* Урбаны Брасл. *Сарока так і глядзіць, каб спу́ліць што з панадворка.* Снегі Міёр. Параўн. *сцяжыць.*

СПЫ́ХНУЦЬ, СПЫХНУ́ЦЬ *зак.* Крыху адпачыць. *То падганяе працаваць, то падганяе спы́хнуць.* Кавалі Глыб. *Усё падганяе, каб рабілі не разгінаючыся, спыхну́ць не дае ні мінуты.* Празарокі Глыб. *Ідзём спыхнём троху: ад работы і коні дохнуць.* Дамашы Брасл. *Зараз я толькі спыхну́, а тады ўжо пойдзем і кароў глядзець.* Кошчава Беш. *Вельмі стамілася і прысела спыхну́ць.* Гаршчэўшчына Тал.

СПЯЛІ́ЦЬ *зак.* Спавіць, укруціць у пялёнкі. *Цяжка жылося, не было чым спялі́ць малых дзетак.* Рабцы Сен.

СРАЙХО́ДЫ *мн.* 1. Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Куды дзеліся мае срайхо́ды?* Косарава Глыб. 2. Галошы, якія абуваюць, ідучы ў хлеў. *Дзе твае срайхо́ды? Дай стыкнуць на мінуту.* Старое Сяло Уш.

СТЫТВА́ЦЬ *незак.* Спрабаваць на смак. *А ён сядзеў ды спы́тваў нашы яствы мясцовыя.* Верацеі Шарк.

СПЯЦО́ЎКІ *мн.* Рабочыя рукавіцы. *Пашый мне новыя спяцо́ўкі, старыя зусім працерліся.* Баравікі Сен. Параўн. *спо́дка.*

СПЯШО́К *м.* Качан ранняй капусты. *Спяшо́к во зрэзала.* Грыгаравічы Леп. *На базары ўжо даўно спяшкі́ прадаюць.* Верацеі Шарк.

СРАМІ́ДЛА *аг., асудж.* Бессаромны чалавек. *Срамі́дла ты, паглядзі, на каго ты пахож!* Новыя Валосавічы Леп. Параўн. *сты́дніца.*

СРО́КІ *толькі мн.* Суткі. *На дзівятыя сро́кі памінкі правіць будзім.* Пранікі Уш.

СРЭ́БРЫК *м.* Ручай. *Срэ́брык разліўся – не прайсці, трэба кладку зрабіць.* Кругляны Сен.

ССО́НЧЫЦЬ *зак.* Зліць ваду, сцадзіць. *Ці ты ссо́нчыла бульбу, можна сядаць есці?* Купчэлі Брасл.

ССУ́НУЦЦА *зак.* Пасунуцца. *Не бяжы, зараз я ссу́нуся.* Заазер'е Тал.

ССУЧЫЦЬ *зак.* Ссукаць; звіць, скруціць некалькі нітак у адну. *Трэба добра ссучыць, штоб патом добра было шыць.* Пішчалава Арш., Вяцера Чаш.

ССЫП *м., зб.* Толькі што выкапаная і ссыпаная ў кучу агародніна (бульба, буракі, морква). *Ціпер ссып зробім, а пасля разбяром, добрую аддзелім ад драні ўсякай.* Каменка Тал.

СТАВО́К *м.* Лазня. *Сёлета новы ставо́к ставіць будзім.* Мікіціха Шум.

СТА́ВЫ *толькі мн., ткац.* Кросны; станок для ткацтва. *За ста́вамі да поўначы сядзела мама.* Камоскі Беш. *Пераняслі ста́вы ў спальню.* Цімошкава Міёр., Друцк Тал.

СТАГА́ВАЦЬ *незак.* Стагава́ць, складаць у стог. *Вечарам трэба стага́ваць сена.* Ходцы Сен.

СТАГАВІ́ШЧА *н.*, СЦЯЖА́Р *м.* Стажар'е; месца, дзе стаяў стог. *Малы ўжо недзе на стагаві́шчы носіцца.* Дварышча Шарк. *На сцяжа́ры ўсё пагніло.* Кругляны Сен. Параўн. *стажа́р'е.*

СТАГА́РКА *ж.* Стагавальшчыца; жанчына, якая на стозе ўкладвае сена. *Стага́ркай была мая мама, а патом і я, і сястра.* Клясціцы Рас.

СТАГНУ́ХА *аг., экспр.* Чалавек, які стогне, скардзіцца на жыццё, ные, плачацца. *Узялі ў лес нейкую бабу-стагну́ху, не рады былі, што ўзялі.* Жары Рас.

СТА́ДА *ж.* Статак. *Раньшы ж як – ста́да была бальшая, у каждым дварэ карова была, а то і дзве, ні тое, што цяпер.* Канашы, Ноўка, Яроненкі Гар.

СТАДА́ЦЦА, СТЫДА́ЦЦА *незак.* Саромецца. *Што ты на дварэ стаіш? Не стада́йся, ідзі ў хату.* Мікалаёва Міёр. *Маладая была, хлопцаў стыда́лася.* Галбея Паст. *Як жа ён стыда́ецца дзевак!* Казяны Брасл.

СТА́ДНІК *м.* Пастух. *Аднаго ста́дніка ў нас няма, каждьі сам глядзіць за сваімі каровамі.* Язна Міёр.

СТАЁМНІК *м.* Канюшня. *Коней бацька павёў у стаёмнік.* Асвея В.-Дзв.

СТАЁЛКА *ж.* Спецыяльнае прыстасаванне, у якім малыя дзеці вучацца стаяць. *Пакарміла дзіця, то занясі ў стаёлку.* Косарава Глыб.

СТАЖА́Р'Е *н.* Месца, дзе стаяць стагі. *Схадзі, сын, на стажар'е, набяры кароўцы сена.* Бешанковічы. Параўн. *стагаві́шча, сцяжа́р.*

СТАЖА́РКА *ж.* Пляцоўка пад страхой на слупах, прызначаная для захоўвання сена. *Стажа́рку рэдка дзе ціпер увідзіш.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ну накасілі дык накасілі – ужо поўная стажа́рка!* Снегі Міёр.

СТАЖА́РНЯ, СТАЖА́РЫНА *ж.* 1. Пуня; будынак для захоўвання сена. *Усё лета звозілі сена ў стажа́рню.* Чарневічы Глыб.,

Папкі Шарк. *Засталося толькі стажа́рыну сена навазіць.* Абольцы Тал. Параўн. *сенава́л, сенава́лка, се́ннік*[1] у 1 знач., *со́бка.* 2. Сціpта. *Салома ў стажа́рне стаіць усё лета.* Весніно В.-Дзв. 3. Стрэшка над стажком. *Зрабі стажа́рню, а то зацікáе.* Грыбоўшчына Шарк.

СТАЖО́К *м. памянш.* Укладка дроў у выглядзе стажка. *Злажы дровы ў стажо́к.* Крулеўшчына Докш.

СТАКАШО́К *м., памянш.* Стакан, шклянка. *Падай стакашо́к, стаіць у шафе.* Гарадок. *Во дзіцей васпіталі, у старасці хоць будзіць каму стакашо́к вады падаць.* Вярэчча Гар.

СТАЛЕ́ШНІК *м.* Абрус, настольнік. *На свята на стол заўсягда сцялю сталéшнік.* Бабінавічы Лёзн. *Нада ж, каб красіва было. Шчас даже сталéшнік новы дастану.* Сухавержжа Міёр., Гараны Пол. Параўн. *сурвэ́та, сурвэ́тка.*

СТАЛЬНІ́ЦА *ж.* Збітыя разам дошкі, на якіх свяжуюць (разбіраюць тушу) забітага кабана. *На стальні́цы кабана ўносілі ў хату.* Булахі Глыб.

СТАЛЮ́ТА *ж.* Карыта, у якім сякуць траву свінням. *Каля хлява стаіць сталю́та з зеллем.* Гута Паст.

СТАЛЯВА́ННЕ *н.* Столь. *Пад сталява́нне кветкі свянцоныя павешалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *У залу на сталява́нне павешу новае святло.* Мількі Брасл. *Сталява́нне мяняць будзем, бо цячэ, калі дождж дужы.* Папоўка Сен., Лужкі Шарк.

СТАНАЎЛЯ́ЦЬ *незак.* Ставіць, станавіць. *У тым гаду нам пліту станаўля́лі.* Данілкава Тал.

СТАНУ́ХА *ж.* Доўгая спадніца. *А стану́ха была ў мяне цвятная, шалковая.* Езярышча Гар.

СТАНУ́ШКА *ж.* Мужчынская сарочка, ніз якой пашыты з грубага палатна. *Стану́шкі тады ўсе мужчыны ў нас насілі.* Стасева Лёзн.

СТАРАБЫ́ТНЫ *прым.* Старажытны, устарэлы. *Я табе нагаварыў ўсякіх старабы́тных словаў.* Ясева Міёр.

СТАРАСТО́ЎНА *ж.* Дачка старасты. *Не гневайся, панна старасто́ўна, з песні слова не выкінеш.* Баброва Леп.

СТАРБО́ЦЦЕ *н., зб.* Старое адзенне. *А яна старбо́цце нейкае носіць.* Варапаева Паст.

СТА́РЕЙ *прым., выш.* Старэйшы. *Брат мой ста́рей за міне быў на шэсць гадоў, даваенны.* Канашы Гар.

СТАРМА́ЛА *аг., асудж.* Неакуратны чалавек. *Зноў гэта стармáла ўсё параскідала.* Філімонава Гар. Параўн. *се́пка.*

СТАРО́ЖА *ж.* Варта. *Пара ісці на старо́жу.* Уна Лёзн.

СТАРО́ЖЫЛКА *ж.* Старожка, вартаўнічая будка. *У старо́жылкі ціха было – відаць, спаў сторож.* Серкавіцы Тал.

СТА́РПЕР, СТАРПЕ́Р, СТАРПЁР *м., абразл.* Стары, ні на што не варты чалавек. *Ста́рпер гэты – труха з яго сыплецца, а ён усё да дзевак.* Свіла Глыб. *Куда ты, старпе́р? Маладой яму захацелась!* Слабодка Леп. *Старпёра палюбіла.* Лужасна Віц.

СТА́РЧЫК *м.* Жабрак. *Трэба парадаваць ста́рчыка, надзяліць яго чым-небудзь.* Вядзерава Беш.

СТАРЫ́ННІК *м.* Дом-інтэрнат для састарэлых людзей. *Лепш бы стары́ннік са школы зрабілі, каб не пуставала.* Лучайка Шарк.

СТА́РЫЦА *ж.* 1. Стары, закінуты дом. *Гэта ста́рыца некалі была, помню, добрай сядзібай.* Мікалаёва Міёр. 2. Ранейшае месца жыхарства, ранейшае селішча, месца, дзе стаяла хата і былі прысядзібныя будынкі. *Пайду на ста́рыцу, можа, яблыкі ў садзе там сабяру.* Мікалаёва Міёр. *Нада заўтра на ста́рыцы сена зграбіць у капя́шкі.* Лазічы Глыб. Параўн. *се́дзенне.*

СТАТЭ́ЧНА *прысл.* Самастойна, незалежна. *Ксеня паводзіла сябе статэ́чна.* Булахі Глыб.

СТАЎ *м.* Сажалка. *У ста́ве многа рыбы.* Каханавічы В.-Дзв.

СТАЎБУ́Н[1], СТАЎБУ́К *м.* 1. Гліняны посуд (збан, гарлач, гаршчок) для захоўвання малака. *На паліцы стаіць стаўбу́н з малаком, прынясі ды налі сабе.* Бігосава В.-Дзв., Карабы Глыб. *Малако ў стаўбу́н працэжывай.* Звязда Леп., Анкуды, Вярэнькі, Круткі Паст. *Любіў дзед папіць халоднага малачка са стаўбуна́.* Сарочына Уш. *А ці прывязлі вы нам стаўбуны́ новыя?* Пранікі Уш. *Лепей за ўсё млека захоўваецца ў стаўбуне́.* Шаркаўшчына. *Было, наставім у стаўбуны́ малака, потым і смятанка свая, і тваражку атагрэем, і маселка саб'ём.* Германавічы, Дворнава Шарк. *У стаўбу́н малако лілі, яно там даўжэй хранілася і ў стаўбуне́ халаднейшым было.* Пятровічы Шарк. *Нясла малако ў хату, стаўбу́к выслізнуў з рук і разбіўся.* Турлы Паст. Параўн. *састо́йка.* 2. Любы посуд, у якім трымаюць ваду ў хаце. *Стаўбу́н стаіць звычайна ў куце́ каля шчытка, туды мы ліём ваду са студні.* Шаркаўшчына.

СТАЎБУ́Н[2] *м.* Бойка; прылада для збівання масла са смятаны. *Вазьмі стаўбу́н і бі, пакуль масла не саб'ецца.* Булахі Глыб.

СТАЎБУНО́К *м.* 1. *Памянш. да* СТАЎБУ́Н[1]. Гліняны посуд для малака, радзей – для квасу. *Стаўбуно́к малачка я табе дам.* Яніна В.-Дзв. *Малако разлілі ў два стаўбункі́ і паставілі на́ нач у кладоўку.* Абруб, Кавалі Глыб. *Стаяць поўныя стаўбункі́ з малаком, а ніхто ні п'ець.* Камікшчына Глыб. *Малак з-пад ка́нкі я кажны раз у стаўбуно́к зліваю.* Аўсянка Міёр. *У бабулі ў стаўбунку́ ёсь свежае малако.* Новы Пагост Міёр., Апанаскавічы, Кублічы Уш. 2. Шкляны слоік, у якім захоўваюць малако. *Трохлітровыя стаўбункі́ стаяць у сенях пад лавай.* Верацея, Тупічына Шарк. Параўн. *сцякля́ннік.*

СТА́ЎКА[1] *ж.* Бабка; малая ўкладка снапоў на полі. *На поле глянеш – адны ста́ўкі стаяць на пожні.* Верамея Арш.

СТА́ЎКА[2] *ж., пчал.* 1. Пчаліны домік. *У мяне ёсь на агародзе сем ста́вак з пчаліньымі сем'ямі.* Дабравольск Тал. 2. Вулей або шпакоўня на дрэве. *І сёлета ў ста́ўку шпачкі прыляцелі.* Снегі Міёр. 3. Прылада або невялікі вулей для прываблівання пчол. *Падай мне ста́ўку, можа, удасца заманіць пчол.* Старое Лядна.

СТА́ЎКА[3] *ж.* Сажалка. *Дзе ж мае вуткі, мо, на ста́ўцы купаюцца?* Дуброва Чаш.

СТАЎМА́ *прысл.* Вертыкальна, перпендыкулярна да зямлі. *Калі хто з сям'і клікушай стаў – у парозе шукай гвоздзь, забіты стаўма́.* Ноўка Віц.

СТАХ *м.* Налічнік, ліштва. *Да празніка нада пакрасіць ста́хі.* Стахоўка Арш.

СТАЦЬ *зак.* Уладкавацца. *Як ужо ста́ніш на работу, грошы будзіш зарабляць.* Слабада Глыб.

СТАЯ́К *м., пчал.* Калодачны вулей. *Стаякі́ ў лесе для пчол ставілі.* Зароўе Леп.

СТАЯ́ЧКА *ж.* Калыска, якая стаіць на падлозе. *У стая́чкі дзіця малое ляжала.* Бокішава Шум.

СТВАЛАВІ́НА *ж., адзінк.* Павалены і ачышчаны ад сукоў ствол дрэва. *А са ствалаві́н у нас сложына баня.* Звёздная Арш.

СТВАЛАВЭ́Й *прым.* Стваловы, які пайшоў у ствол (пра гародніну). *Ета ствалавэ́й бурак. У етым гаду многа ствалавы́х буракоў – хто іх знаіць, чаго яны ідуць у ствол.* Яроненкі Гар.

СТО́ЕНЬ *м.* Нізкае месца, дзе заўсёды стаіць вада. *На балоце кругом адны сто́ені.* Янкавічы Рас.

СТО́ЙКІ *толькі мн., абрад.* Памінальная служба пры пахаванні нябожчыка. *Маці мая ўсягда сто́йкі стаяла па пакойніках.* Ноўка Віц.

СТО́ЛАБ *м.* Слуп. *Што стаіш, як сто́лаб, бытта работы няма?!* Іказнь Брасл.

СТО́ЛАК *м.*, СТУ́ЛКА *ж.* Зэдлік; невысокі услончык; маленькая нізкая лаўка; стул. *Дзед такі ладны сто́лак зрабіў, аж карову даіць ісці жалка садзіцца.* Дрыгучы Міёр. *Вазьмі сто́лак ды пасядзі ў цяньку пад грушкай, аддыхні.* Дворнава Шарк. *Люблю ля шкапа на сту́лкі сядзець.* Раманава Гар. *Січас сту́лку прынясу сесці.* Жданаўка Шум. *Сту́лка вельмі зручная на кухні, папрашу дзеда зрабіць шчэ адну.* Заазер'е Пол. *Сядзь на сту́лку, пасядзі, не круціся пад нагамі.* Сухі Бор Пол., Абольцы Тал. Параўн. *сло́нік.*

СТО́МАК *м.* Ложак. *С вечару стома ўсё ўремя на сто́мак гоне.* Ілава Шум.

СТО́ПАК *м.* Атопак; стары, зношаны абутак. *Эты сто́пак ужо нада выкінуць вон даўно.* Радчонкі Гар.

СТО́ПКА *ж.* Дрывотня. *Схадзі ў стопку і прынясі дроў.* Ула Беш.

СТО́РАЖ *м., пчал., часцей* СТАРАЖЫ́ *мн.* Пчолы, якія ахоўваюць вулей. *Клешч з'еў сначала старажо́ў, а потым – усіх астальных пчол.* Лескавічы Шум.

СТАРАБЕ́САВАЦЬ, СТРА́БІСАВАЦЬ *зак.* Змарнаваць, бяздумна распарадзіцца чым-н., патраціць марна. *У гэтага вітрагона ў хазяйстве нічога ні ўдзяржыцца, гатоў усё старабе́саваць: і капяшчы́ну, і хма́лак сена.* Мікалаёва Міёр. *Грошы заробіла і стра́бісавала на шэнды-бэнды.* Дзёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *стра́сібаваць.*

СТРАВІ́ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Хацела яна́ стравіцца, алі дружка прышла, ні дала.* Пышна Леп.

СТРАКАЗА́ *ж., заал.* Падкаменшчык; маларухомая прыдонная рыба, якая жыве ў прэснай вадзе пад камянямі. *Бацька налавіў рыбы, трохі трапляліся і страко́зы.* Шэпелева Глыб.

СТРАКА́ТКА *ж., заал.* Быстранка; невялікая прэснаводная рыба сямейства карпавых з буравата-зялёнай спіной, яркімі бакамі і серабрыста-белым брушкам. *Страка́тка – дужа красівая рыбка.* Заборцы Докш. Параўн. *сіву́ха, сіняўка*[1], *сцёрка.*[*]

СТРАКАТУ́НЧЫК *м.* Конік. *Люблю летам каля ракі слухаць стракату́нчыкаў.* Дубраўкі Пол. Параўн. *стрыку́нчык.*

СТРАКА́ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Зараз паясі толькі і пойдзеш кароўку страка́ць з поля.* Бігосава В.-Дзв.

СТРАКІ́ВА, СТРЫКУ́ЧКА, СТРЯКІ́ВА *ж.* Крапіва. *От як стракі́вай адхвачу, неслух!* Бялынавічы Віц. *Гарод у этым гаду ўвесь стракі́вай зарос.* Лямніца Віц. *Будзь асцярожна: там стракі́ва.* Мішуткі Віц. *Стракі́ва такая жгучая!* Казімірова Пол. *Стракі́ва абыдзе расці ні будзіць, а толька там, дзе зямля жырная.* Клясціцы Рас. *Вельмі палезна мыць галаву адварам са стракі́вы.* Марачкова Рас. *Трэба ісці збіраць стракі́ву свінням.* Арляны Сен. *Нада набраць кура́м стракі́вы ды пасеч.* Ёды Шарк. *Стракі́вай дадуць па аднаму месту – балюча, доўга свярбець будзіць.* Ферма Шум. *Ідзі стрыку́чку за агародам абарві.* Новае Сяло Тал. *Раней ро́білі салат са стрякі́вы.* Партызанаўка Віц., Канашы Гар.

СТРАЛЯ́КА *аг., экспр.* Стралок. *Страля́ка ён ніякі, сорам адзін.* Алексінічы Сен.

СТРАМ *м.* Сорам. *У яго ні стыда, ні стра́ма ніякога.* Бокішава Шум.

СТРАМІ́ЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Тады маці яе на ўсё сяло страмі́ла.* Уна Лёзн.

СТРАМНІ́К *м.*, СТРАМНІ́ЦА *ж., неадабр.* Чалавек без сораму, непаслухмяны. *Ах ты страмнік які!* Уна Лёзн. *Страмніца ты, бальшая ўжэ, а саўсім не памагаеш бабулі па хазяйству.* Дразды Лёзн.

СТРА́МНІЦА *ж.* Сарамлівіца. *Якая ж ты стра́мніца, будзь смялейшаю!* Карабінавічы Дубр.

СТРАПА́ *ж.* Страха. *Мой бацька на стра́пе ўжо другую гадзіну.* Мілашкі Брасл.

СТРАПАЛІ́ЦЬ *незак.,экспр.* Хутка, бойка гаварыць. *Узяўся чытаць і так страпаліць – слухаць люба.* Палата Пол. *Не страпалі ты так, а то нічога не паняць.* Вяцера Чаш.

СТРАПА́ЛЬШЧЫК *м., буд.* Стропальшчык. *Страпа́льшчыкам можна рабіць і на стройцы, і на заводзе.* Гута Паст.

СТРА́ПАЦЬ, СТРЯ́ПАЦЬ *незак.* Працаваць, выконваць дамашнюю работу. *Жонка стра́пае каля хаты.* Марачкова Рас. *Цэлый дзень во стря́паю па хазяйству – а толку?* Ноўка Гар.

СТРАПО́К *м., памянш.* Строп, стык бакоў страхі. *Калбасы павесілі ў самы страпо́к.* Шыці Шарк.

СТРА́СІБАВАЦЬ *зак.* Патраціць, бесталкова распарадзіцца чым-н. *Дзясятку дала ўнуку, дык стра́сібаваў іе ўжо ўчора.*Дёрнавічы В.-Дзв. Параўн. *старабе́саваць.*

СТРАЎНІ́ЦА *ж.* Кухня. *Пагарэла наша каша, а з ёй і страўніца.* Астроўна Беш.

СТРАШЧЫ́ЦЬ, СТРЫСЦІ́ЦЬ *зак.* Страсціць; ссукаць, злучыўшы разам (ніткі, валакно). *Зараз ніткі трэба страшчы́ць.* Лескавічы Шум. *Ужо саўсім нічога ні віжу, нават ніткі стрысці́ць не магу.* Угрынкі Уш.

СТРЕ́ЛКА *ж.* Страказа. *Я віздзе, дзе ні бываю, стріказу стре́лкай заву.* Забор'е Рас.

СТРО́ІЦЦА *незак.* Прыбірацца, прыгожа апранацца, збірацца куды-н. *Кожную нядзелю мая бабка стро́іцца да касцёла.* Варапаева Паст.

СТРО́ІЦЬ *незак.* Гатаваць, варыць, збіраць на стол. *А яды столькі стро́іць ці трэба?* Сценка Докш., Галбея Паст. *Дзяўчаты стро́яць калбасу, а мальцы стро́яць гарэлку.* Гомель Пол. *На Тройцу яду нада стро́іць, як на Паску.* Пазнякова Пол.

СТРО́ЙНА *прысл.* Прыгожа. *Стро́йна ўсё палучылась, люба глянуць.* Белішкі Паст. *Як стро́йна спявае!* Вярэнькі Паст.

СТРО́МЫ *прым.* Хуткі, спрытны. *Малец быў такі стро́мы: не паспелі агледзецца, як вярнуўся назад.* Мікалаёва Міёр.

СТРО́НЦІЦЬ *зак.* Пакалечыць, звіхнуць, пашкодзіць. *Стро́нціў руку і нічога не робіць.* Косарава Глыб. *Як жа ён ішоў, што нагу стро́нціў?* Чарневічы Глыб.

СТРОЎ *м.* Востраў на балоце. *Пашлі ў грібы ў Лісі строў.* Драбушова Беш.

СТРУГА́Ч *м., буд.* Гэбель. *Стругáч мне застаўся ад дзеда.* Ула Беш.

СТРУ́ЖЖА *н., зб.* Стружкі. *Пастругаў? Прыбяры за сабой стру́жжа.* Матырына Уш.

СТРУМЕ́НЬ *м.* Стрэмя. *Залатыя струмéні ўсе пад пахай нясуць.* Шаркоўка Леп.

СТРУ́ХАВАЦЬ *незак.* Страсаць. *Ні нада тут стру́хаваць адзёжу.* Бігосава. В.-Дзв.

СТРУХНУ́ЦЦА *зак.* Зварухнуцца, скрануцца з месца (часцей з адмоўем *не*). *Сядзіць і не струхнéцца з места, колькі не гавары.* Расоны.

СТРУ́ШНЯ *ж.* Вечарынка. *Дзеўкі і хлопцы хадзілі на стру́шні.* Шацяні Сен.

СТРЫ́КАЦЬ *незак.* Апякаць крапівой. *Страківа стры́каець яму рукі і твар.* Дварэц Чаш.

СТРЫКУ́НЧЫК *м.* Насякомае конік. *Так хараша: ясны дзень, сонейка грэе, прыгаюць стрыку́нчыкі.* Старыя Лаўкі Чаш. Параўн. *стракату́нчык.*

СТРЫКУ́ЧКА гл. СТРАКІ́ВА

СТРЫМО́РДЗІЦЦА *зак.* Распухнуць (пра твар). *Пчолы так скусалі, аж стрымóрдзіўся, бедны.* Бабышкі Міёр.

СТРЫ́НЯ *ж.* Свіран, гаспадарчая пабудова. *Каб лепш зерне захавалася, складалі яго ў стры́ню.* Старыя Крукі Міёр. Параўн. *свірóнак* у 2 знач.

СТРЫСЦІ́ЦЬ гл. СТРАШЧЫ́ЦЬ

СТРЭ́ЛКА[1] *ж.* Страказа. *У цябе ўсё, як у той байцы пра Стрэ́лку і Мураўя.* Мар'янполле Брасл. *Глядзі, дзетка: вунь стрэ́лка лятае над балотам.* Боркавічы В.-Дзв. *Па рушніку то лісцікі, то стрэ́лкі вышываю.* Бараны Глыб. *Каля сажалкі багата стрэ́лак лётае.* Воўкаўшчына, Леснікі Глыб. *Стрэ́лка села на красную розу.* Стараселле Леп. *Вунь кот як за стрэ́лкай ганяецца.* Цілеўцы Міёр. *Як хараша мільцяшыць крылцамі зялёная стрэ́лка.* Багатырская Пол. *Каля запруды столькі стрэ́лак, аж брыдка ваду браць!* Шаркаўшчына.

СТРЭ́ЛКА[2] *ж.* Лядзяк. *Стрэ́лкі – ета сасулькі, што вісяць на крышэ.* Грабяніца Віц. Параўн. *саплí, сусóлка.*

СТРЭ́НІЦЬ *зак.* Сустрэць. *Я стрэ́ніла брата ля школы.* Зубава Арш.

СТРЯ́ПАЦЬ гл. СТРА́ПАЦЬ

СТУ́ДЗЕНЬ *м.* Студня, калодзеж. *У суседзяў сту́дзень добры, вада смачная.* Мурагі Рас.

СТУДЗЯНЕ́Ц гл. СЦЮ́ДЗЕНЬ

СТУЖАВА́НКА *ж.* Саматканая посцілка. *Прыбрала ложак, пасцяліла на яго стужавáнку.* Валосава Тал.

СТУ́КАЦЦА *зак.* Чокацца. *Як п'юць, заўсягды сту́каюцца.* Мяжа Гар.

СТУ́ЛА[1] *ж.* Высокі табурэт, стул. *Нявесту саджалі на сту́лу, каля жаніха, а па абедзве староны́ бацькі ўссядалі, далей – родныя, патом – блізкія, саседзі, друзья.* Гунчанкі Віц. *Вазьміце сту́лу і прысядзьце, а то стаміліся.* Свяціца Пол. Параўн. *сто́лак, сту́лка.*

СТУ́ЛА[2] *ж., рэліг.* Доўгая стужка – адзін з важных элементаў адзення святароў, якую яны носяць на шыі падчас споведзі. *На каждае свята ў ксяндза розная сту́ла.* Папшычы Глыб.

СТУ́ЛКА гл. СТО́ЛАК

СТУ́ЛЬЦЫ *толькі мн.* 1. Страва з парэзанай на кавалкі бульбы ў лушпінах. *Звары бульбу ў лушпайках, бабуля зробіць сту́льцаў.* Слабада Шум. 2. Страва з варанай патоўчанай бульбы і мукі. *Варыную бульбу таўклі, патом дабаўлялі муку аржаную, каталі ету масу, наразалі і абжарывалі – сту́льцы называліся.* Вядзерава Беш. *Сту́льцы сянні дужа ж укусныя – на, пасмакуй.* Лугавыя Віц.

СТУПА́К[1] *м.* Ступня. *У Фёдара Махно такія ступакі́ былі, што ні адзін шавец ні браўся шыць яму боты.* Лугавыя Віц. *Баліць нага ў ступаку́.* Крыпулі Докш., Высачаны Лёзн. *Боты ногі нацерлі – на ступа́к неяк стаць.* Дуброва Чаш.

СТУПА́К[2] *м.* Абутак без галяўшчаў (звычайна старыя абрэзаныя боты). *Яна зняла ступакі́, прылягла на ложак.* Пышна Леп.

СТУПА́ЛІШЧА *н.* Тратуар. *А гаварылі тады такое пра такіх вучняў: кніганоша па ступа́лішчу на пазорышча пашоў.* Задуброўе Віц.

СТУПЕ́Ц *м.* Кадка. *Ступе́ц рабілі з дрэва, у ім квасілі капусту, гуркі, трымалі ваду.* Бубалі Шум.

СТУПНІ́ЦА *ж.* Сту́па. *Таўклі семя ў ступні́цы, макалі хлеб ды елі.* Вядзерава Беш.

СТУШАВА́ЦЦА *зак.* Заблытацца. *Нешта я стушава́лася, ідзі памажы.* Белая Ліпа Сен.

СТЫДА́ЦЦА гл. СТАДА́ЦЦА

СТЫ́ДНІЦА *ж., асудж.* Бессаромніца. *Сты́дніца ты! Хоць бы прыкрылася адзежынай!* Кублічы Уш., Дразды Лёзн. Параўн. *сramі́дла.*

СТЫКА́ЛЬНІК *м., ткац.* Прылада ткацкага станка; пруток. *Хлопча малы ўзяў стыка́льнік і гуляецца.* Вярхоўе Беш. *Ні маючы стыка́льніка, бабця ні можа пачаць ткаць.* Савуткі Шарк.

СТЫКА́ЦЬ *незак.* Сутыкаць, зводзіць у рожкі, сварыць людзей, выклікаць канфлікт. *Хітрая, любіць стыка́ць людзей.* Вядзерава Беш.

СТЫКО́ЎНІК *м.* Палатно, якім на кроснах датыкалі аснову да самага канца. *Стыко́ўнік сянні прыладзілі і кросны даткалі.* Чарневічы Глыб.

СТЫ́ЛІЦА, СТЫЛЬ, СТЫНЬ *ж., экспр.* Вельмі халоднае надвор'е з ветрам; халадэча. *На вуліцы гэткая сты́ліца, што нос не высунаць.* Дворнава Шарк. *Ой, якая ж сянні стыль на дварэ – не прывядзі Гасподзь!* Вяцера Чаш. *За акном страшная стынь.* Камоскі Беш.

СТЫ́НКА *ж., заал.* Сняток; дробная прамысловая азёрная рыба сямейства корушак. *Сты́нка нерастуе.* Сахновічы Глыб.

СТЫ́ЧАНЬ *м.* Студзень. *У сты́чні надта зімна было той год.* Дварчаны Паст.

СУБА́РНІЦА *ж.* 1. *зб.* Збор розных дробных рэчаў. *У маіх кішэнях усягда суба́рніца: розныя бумажкі, грошы, цукеркі.* Шаркаўшчына. 2. *перан.* Трасянка, беларуска-рускае змешанае маўленне. *Цяпер во на суба́рніцы гавораць.* Лучайка Шарк. Параўн.

○ *скувырка́ная мо́ва.*

СУБА́РЫ *толькі мн.* Мешаніна невыразных, бязладных, мітуслівых думак. *У мяне ў галаве адны суба́ры.* Сянькова Шум.

СУБО́Р[1] *м.* Збор. *На Купалу ўсе ідуць на субо́р зёлак у лес, на луг, на дачу.* Ляды Дубр.

СУБО́Р[2] *м.* Збор дзяўчат у нявесты напярэдадні вяселля. *Танечка субо́р сабрала – сабрала субо́р на ўвесь двор.* Дуброўна.

СУВА́К[1] *м.* Бульдозер. *Сува́к дарогу расчысціў, можна ехаць.* Празарокі Глыб.

СУВА́К[2] *м.* Шуфлік, савок. *Сува́к ляжыць у сенцах.* Балаі Міёр. Параўн. *са́ванак.*

СУВАЧО́К *м., памянш.* Шуфлік, савочак. *Удабрэнне сеялі сувачко́м.* Шыцці Шарк.

СУВЕ́Й *м.* Гурба снегу. *Ішла к табе, аж так намяло – не пералезці цераз суве́й.* Пугачова Докш.

СУГЛЕ́ДЫ *толькі мн., абрад.* Прыезд жаніха ў дом будучай жонкі з мэтай знаёмства з яе сям'ёй. *На сугле́дах жаніх панравіўся ўсім.* Верацеі Шарк.

СВІ́СЦЕЛЬ *м.* Пачастунак. *Я ў дзецтве любіла дужа, калі на Новы год давалі сві́сцелі.* Порплішча Докш.

СУВО́ЛКА *ж.* Пырнік. *Суво́лка ўсе цвяты забіла.* Круткі Паст.

СУВЫ́ЛКІ *толькі мн.* Сцягнутае ў кучу каліўе, карнявішча, пустазелле. *Сённі зранку сувы́лкі на мяжу насіў.* Празарокі Глыб.

СУГА́К *м.* Гусак. *Пазалетась яго дужа напужаў Міронаў суга́к.* Калышкі Лёзн.

СУГАРА́СЦІЦЬ *зак.* Змайстраваць, зрабіць. *Мятлу спрытную сугара́сціў жонцы.* Угрынкі Уш.

СУГІ́Б *м.* 1. Лакцявы сустаў. *На сугі́бе доўга балела рана яшчэ пасля вайны гадоў дзесяць.* Машканы Сен. 2. Згіб. *А зараз зрабіце сугі́б паперы і па сугі́бе рэжце.* Станіслававова Дубр.

СУГЛІ́Н *м.* Суглінак; глеба з глінай і пяском. *Там суглі́н сплашнэй, гразь пасля дажджу.* Кузняцова Віц.

СУГЛІ́НІСТЫ *прым.* Гліністы (пра глебу). *Суглі́ністая зямля там у нас.* Езярышча Гар.

СУГО́РАК *м.* Узгорак. *Там вялікі сугóрак, а за ім – поле.* Хацейка Гар.

СУДАВІ́К *м.* Кацёл, у якім вараць ежу свінням. *Зранку сперва стаўлю два судавікі́ ў печ.* Матырына Леп.

СУ́ДЗІ гл. СУ́ДЫ

СУДЗІ́ННЕ *н.* Посуд, ёмістасць. *Прынясі судзі́нне хоць якое для ягад.* Дуброўна.

СУ́ДЗІЦЫ гл. СУ́ДЫ

СУ́ДНІЦА *ж.* Суднік; шафа ці паліца для посуду. *На су́дніцы тарэлкі і міскі глядзі.* Ёды Шарк.

СУ́ДНЫ гл. СУ́ДЫ

СУ́ДЫ, СУ́ДЗІ, СУ́ДЗІЦЫ, СУДЗІ́ЦЫ, СУ́ДНЫ *толькі мн.* 1. Два вядры вады, звычайна на каромысле. *Не забудзь прынесці мне су́ды вады.* Смаляны Арш. *Прынясі су́ды вады.* Дзёрнавічы В.-Дзв., Косарава Глыб., Чэрцы Леп. *Жанкі звычайна ваду ў су́дах насілі – не мужыцкае ета дзела.* Выдрэя Лёзн. *Сходзі да калодзежа, прынясі су́ды к вечару, каб свінням есці варыць.* Калышкі Лёзн. *Памажы су́ды данесці да хаты, цяжка мне ўжо.* Цімошкава Міёр., Мурагі Рас., Александрова, Алексінічы, Замошша Сен. *Я магу ёй адкупіць су́ды малака.* Селішча, Царкавішча Уш., Дуброўкі Чаш. *Прінясі з калодца яшчэ двое судзе́й вады.* Кляўцы Лёзн. *Па су́дзіцы вады прынеслі мы з дзеўкамі.* Дуброўна. *А яна абідзелася, схапіла судзі́цы ды пабегла па ваду.* Сваташыцы Дубр.

СУЗДО́ЛЕЦЬ *зак.* Здолець, знаходзіцца ў стане зрабіць, выканаць што-н. *Я не суздо́лею падняць етый таз.* Мішуткі Віц. *Старая ўжэ – не суздо́лію нічога.* Канашы Гар.

СУКАЛЕ́НА *н.* Скрыжаванне. *Пашла на астаноўку, што каля сукале́на.* Зубава Арш.

СУКАЛЕ́НКІ *мн.* Суставы (часцей каленныя). *Як старая стала, дык сукале́нкі забалелі – дзень і ноч баляць.* Езярышча Гар.

СУКАРА́ТКА, СУКРУ́ТКА *ж.* Закрутка, вузялок на скручанай нітцы. *Навошта так крута ссучыла? Столькі сукара́так нарабіла!* Папшычы Глыб. *Толькі ніткі спорціла, адных сукру́так нарабіла!* Юнькі Паст.

СУКА́ЦЬ *незак.* Шукаць. *Сука́лі нявесту ў сараі, у гаражы – нідзе не было яе.* Дуброўна.

СУКО́ЎКА *ж.* Барана. *Суко́ўкай па раллі пройдзеш пасля дажджу – глядзіш, і бульбачка вылезе. Добра, як суко́ўку маеш: гарод дагледжаны будзе.* Савуткі Шарк.

СУКРУ́ТКА гл. СУКАРА́ТКА

СУКРЫ́СТЫ *прым.* Кучаравы. *Валасы ў мяне ў моладасці длінныя і сукры́стыя былі, самі завіваліся.* Нярэйша Сен.

СУКРЫ́ЦЦА *незак.* Рабіць завіўку ці іншую прычоску. *Паехала яна ў горад сукры́цца.* Гомель Пол.

СУЛО́ТАЦЦА *незак.* Балавацца, забаўляцца з ядой. *Не суло́тайся, еж нармальна!* Спігальшчына Міёр.

СУЛТЫ́ШКА *ж.* Костка. *Сабака султы́шку цігае, а ні есь.* Зубава Арш.

СУМЯНУ́ЦЬ *зак.* Успомніць. *Не магу сумяну́ць, дзе ключ ад хаты палажыла.* Завяззе Шум.

СУ́НАЎКА *ж.* Маленькая рачулка. *На краю дзяреўні, возле су́наўкі, студня ёсць, дык туды ўсе і ходзяць за вадою святою.* Задуброўе Віц.

СУНУПРЯ́ДКА гл. САМАПРА́ХА

СУПАРО́СНАЯ *прым.* Якая павінна апарасіцца (пра свінню). *Свіння ў нас сёліта супаро́сная, парасіцца скора будзіць.* Канашы Гар.

СУПО́Л *прыназ.* Пасярод. *А дочанька была супо́л ночкі прапала.* Пышна Леп.

СУПО́ЛЬНІЦЦА *зак.* Збыцца, адбыцца на самай справе. *Тое, што прыснілася, не супо́льніцца.* Асвея В.-Дзв.

СУПО́НЬ *ж.* Супоня; рэмень для сцягвання клешчаў хамута. *Ну, дык дзе ж там кабыла пойдзе? Супо́нь усунь!* Дамашы Брасл.

СУ́ПРЯДКІ *толькі мн.* Попрадкі; вячоркі, на якіх прадуць. *Кожную нядзелю збіраліся на супря́дкі.* Ваяводкі Віц.

СУПУ́ДЗІЦЦА *зак.* Спужацца, спудзіцца. *Знянацку так супу́дзіўся, што і рэч адняло.* Гута Паст.

СУПУ́ДУ *прысл.* Спуду. *Супу́ду ён ажно стаў заікацца.* Навасёлкі Віц.

СУРАЁ́ЖА *ж., перан.* Пажылая жанчына. *Пайду да сураё́жы, парады спытаю.* Каравічы Чаш.

СУРАВЁ́ЖА, СУРАВЁ́ЖКА, СУРАЁ́ЖКА, СУРАЁ́ЖЫНА, СЫРАВЁ́ЖКА *ж.*, СЫ́РЖЫК *м.*, *часцей* СУРАВЁ́ЖЫ, СУРАВЁ́ЖКІ, СУРАЁ́ЖКІ, СУРАЁ́ЖЫНЫ, СЫРАВЁ́ЖКІ, СЫРАЁ́ГІ, СЫ́РЖЫКІ *мн.* Сыраежка, ядомы грыб з пласціністай ярка афарбаванай шапачкай. *Для мяне няма смачней грыба, чым суравё́жа.* Леснікова В.-Дзв. *Пачці адных суравё́жак прынёс, яны ўсюды растуць.* Доўжа Віц., Кудзіны Гар. *Суравё́жкі розныя пападаюцца: красныя, жоўтыя, зялёныя, серыя.* Рабцы Сен. *Сёлета адны толькі сураё́жкі.* Гацькаўшчына Арш. *Люблю сураё́жкі – укусныя грыбы, не слізкія, хрумсцяць пад зубамі.* Балаі Міёр. *Сёлета ў лесе багата падалешкаў, смарчкоў, сураё́жак, махавікоў, груздзей, казлят.* Алексінічы Сен. *Цяпер усе сураё́жкі чарвівыя.* Матырына Уш., Іванск Чаш. *А ў лесе грыбоў мала,*

*сураéжыны толькі, дык сураéжын хоць бы на суп сабраць.* Боркавічы В.-Дзв. *У лясу даволі сыравéжак, а баравікоў не бачылі.* Жабыкі, Зямянскае Гудава, Сваташыцы Дубр. *Сыраéгі маленькії, а ўжо чарвівыії.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Я не знаю ніякіх грыбоў, акрамя сы́ржыкаў.* Мікіціха Шум.

СУРАВÉЦ *м.*, СУРÓЎКА *ж.* Нявыбеленае палатно. *Накрыйце лаву сураўцóм.* Лескавічы Шум. *Эту сурóўку вельмі любіла мая бабка.* Сарочына Уш.

СУРАÉЖКА, СУРАÉЖЫНА гл. СУРАВÉЖА

СУРВЭ́ТА, СУРВЭ́ТКА *ж.* Настольнік, абрус. *Сяганя вечарам нада сурвэ́ту памыць з адбельвацелем.* Коўзаны Паст. *Эту сурвэ́тку мая мама вышывала.* Абрамава В.-Дзв. Параўн. *сталéшнік.*

СУРМАЛІННÍК *м., зб.* Ажыннік. *Лазілі там па сурмалінніку. Мала таго, што ўвесь абкалоўся, дык і рубаху папаласаваў!* Гарбачэва Рас.

СУРÓГ *м., часцей* СУРÓЦЫ, СУРÓЦЦЫ *мн.* Сурокі; пашкоджанне, хвароба, няшчасце, нанесеныя злым вокам. *Лепі было б на яе сурóг не пападацца: ведзьма яна.* Амбросавічы Шум. *У нашай каровы точна сурóцы: нейкая яна ні такая.* Зубава Арш. *"Усе сурóцы ідзіце процы," – замаўляла мая бабуля.* Бабічы Глыб., Камайск Докш. *Запомні, дзетка: толькі злыя людзі могуць падрабляць сурóцы.* Дубраўкі Пол. *Сурóццы – гэта, дзетка, калі бабы злыя нядобрым вокам зглазяць цябе.* Дуброўна.

СУРÓЎКА гл. СУРАВÉЦ

СУРÓЦЫ, СУРÓЦЦЫ гл. СУРÓГ

СУРЭ́ПІЦА *ж.* Свірэпа. *Ніяк не магу вывесці з гарода сурэ́піцу.* Езярышча Гар.

СУСÉК *м.* Маленькая шафа. *А хазяін стаіць каля сусéка, як Саўка разгублены.* Езярышча Гар.

СУСÉНА *н., зб.* Корм для жывёлы з сумесі сена і саломы. *Свінні добра ядуць запаранае сусéна.* Мікіціха Шум.

СУСЁМ гл. САЎСЁМ

СУ́СЛА *н.* Пакрывала, посцілка. *Ужо трэ з ложка су́сла мыць.* Дуброўкі Чаш.

СУСÓЛКА *ж.* Лядзяк, што звісае з дахаў. *Зімою такія сусóлкі бальшэі звісаюць з крыш, што могуць чалавека забіць насмерць.* Грабяніца Віц. *Ужо цяплынь, а сусóлкі шчэ вісяць.* Чэрцы Леп. Параўн. *саплі́, стрэлка*[2].

СУСТÓІЦЦА *зак.* Угаманіцца. *Я каму кажу? Калі ты ўжо сустóішся? Хваціць ужо, сустóйся!* Воўкаўшчына, Туркова Міёр.

СУСТÓЙНІК *м.* Адстойнік. *Я ўжо малако ўсё ў сустóйнік перацадзіла.* Іванькі Міёр.

СУСТРЕ́ЦІЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Яны ўчора сустрэ́ціліся.* Кавалі Лёзн.

СУСЮ́ЛЬ *прысл.* Адусюль. *Сусю́ль да нас на вяселле госці панаехалі.* Астроўна Беш.

СУ́ТАЧКІ *толькі мн.* Вузкі праход паміж сумежнымі будынкамі. *А паміж хатамі былі вузкія су́тачкі, толькі адзін тут праходзіць.* Ясевічы Глыб.

СУТО́НЕЦЬ *незак., безас.* Змяркацца. *А восенню ў нас рана пачынае суто́нець, нічога зрабіць не ўспееш.* Ясевічы Глыб. *Ужо пачынала суто́нець, як ён пайшоў з дому.* Ваўчо Уш.

СУТО́ННЕ *н.* Паўзмрок, змярканне. *У лесе суто́нне доўга не праходзіць.* Бароўка В.-Дзв. *Як толькі суто́нне пачыналася – малых дамоў клікала, яны ў мяне па начах не басяліся.* Кутняны Пол. *На суто́нні брэшуць сабакі, галёкаюць на ўсё горла пастухі, гонячы кароў.* Алексінічы, Нямойта Сен. *Суто́нне ўсігда пужала мяне малую.* Ваўчо, Матырына Уш.

СУХАВЕ́НЬ, СУ́ШКА *ж.* Спякота, сухмень; сухое і душнае надвор'е. *На вуліцы ўчора была невынасімая сухаве́нь.* Янкавічы Рас. *Во сяння су́шка стаіць!* Грабяніца Віц. Параўн. *сухасто́й.*

СУХАСТО́Й *м.* Сухмень, засуха, спякота. *У ліпені таго года быў моцны сухасто́й, усё ў полі пасохла.* Мікіціха Шум. Параўн. *сухаве́нь, су́шка.*

СУХА́ЧЧА *н., зб.* Ламачча. *Накідана пад нагамі ўсякага суха́ чча.* Замошша Брасл.

○ СУХА́Я МАЛА́ННЯ *ж.* Маланка без грымот. *Ой, як блішчэла ўчора суха́я мала́ння!* Радчонкі Гар.

СУ́ХМАРЫК *м.* Бездажджавая хмарка. *На небе адны су́хмарыкі.* Прыдвор'е Чаш.

СУХО́ТНІЦА *ж.* Худая, стройная дзяўчына. *Бяры, сынку, багатырку, ні лянівіцу, ні хваслівіцу, ні пражорлівіцу, а бяры сухо́тніцу.* Шаркоўка Леп.

СУХУПА́РКА *ж.* Звараная бульба. *Якая смашная сухупа́рка з сялёдачкай ці з салам, з цыбулькай.* Замошша Сен.

СУ́ЧКА *ж.* Рыба шчыпоўка. *У нас во тут во пад мастом су́чкі плаваюць.* Жалезкі Беш. Параўн. *сі́каўка[1].*

СУ́ЧКІ *толькі мн.* Ваўчкі, травяністая расліна з учэпістымі калючкамі. *Нарві су́чак ды памый сына.* Заронава Віц. *Во мая кошка прышла – уся ў су́чках. Дзе бадзялася – халера яе ведаіць.* Сахнавічы Глыб. *Яшчэ маці мне казала, што нельга збіраць су́чкі.* Лукомль Чаш. Параўн. *саба́чкі.*

СУЧКІ́ *мн., груб.* Рукі. *Убяры адсюль свае сучкі́.* Паўазер'е Беш.

СУЧЫ́ЦЦА *незак.* Сачыцца, цячы. *Вада с крыніцы су́чыцца чыстая, смачная.* Слабодка Леп.

СУЧЫ́ЦЬ *незак.* Сукаць; звіваць, скручваць некалькі нітак у адну. *Тріпалі лён, а патом сучы́лі ніткі і ві́лі вярёўкі.* Вядзерава Беш. *Січас буду ніткі сучы́ць.* Паташня Міёр.

СУША́К *м., часцей* СУШАКІ́ *мн.* Сушаныя грыбы. *Я дык люблю суп з сушако́ў.* Ахрэмаўцы Брасл.

СУ́ШАНІЦА *ж.* Скошаная і высушаная канюшына. *Заўтра будзем вазіць у хлеў су́шаніцу.* Двухполле Гар.

СУ́ШКА гл. СУХАВЕ́НЬ

СУШО́НІК *м.* Грыб падбярозавік. *Учора прынёс цэлы кош сушо́нікаў.* Залессе, Ураджайная, Чарневічы Глыб. *Набрала поўную карзінку сушо́нікаў.* Балаі Міёр. *А колькі ў лесе сушо́нікаў: і белых, і рабіньків!* Мікалаёва Міёр. *У пасадцы многа сушо́нікаў і абабкаў.* Сухавержжа, Язна Міёр. *У гэта лета багата было грыбоў, асобенна сушо́нікаў, але ж многа чарвівых.* Дворышча Рас. *Да другога сорта адносяцца падасінавікі, сушо́нікі, валнушкі.* Слабада Уш.

СХАДЗІ́ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Я за цэлы дзень так схадзі́лася, аж серца баліць.* Новы Пагост Міёр.

СХАРАНЁНЫ *дзеепрым.* Пахаваны. *Пан Казімір дзе схаранёны – ніхто не ведае.* Казімірова Пол.

СХАРАНІ́ЦЬ *зак.* Пахаваць (пра нябожчыка). *Яны сёліта сына схарані́лі – забілі яго ў горадзі.* Канашы Гар. Параўн. *схува́ць.*

СХМЫ́ЛІЦЦА *зак.* Замаркоціцца, зажурыцца. *Ну чаго ты схмы́ліўся? Усё будзіць добра!* Жукоўшчына Шарк.

СХО́ДАЦЬ *зак.* Адолець, здужаць. *Дзе ты цяпер яго схо́даеш? Такі здаровы стаў!* Абрамава В.-Дзв.

СХО́ДЗІКІ *толькі мн.* Прыступкі, сходкі, ступенькі лесвіцы. *Паламаліся схо́дзікі ў ганку.* Белая Ліпа Сен.

СХО́ДЫ *толькі мн.* Апошняя чвэрць месяца. *Поўня і схо́ды – дзве розныя фазы Луны.* Тумінічы Арш.

СХУВА́ЦЬ *зак.* Пахаваць (пра нябожчыка). *Як схува́лі, дык яшчэ тры дні галасілі.* Плаўнік Чаш. Параўн. *схарані́ць.*

СЦАЦЬ *незак.* Ссаць. *Вон зусім малы, шчэ матку сцэ.* Равяцічы Тал. Параўн. *сасі́ць.*

СЦЕБАНУ́ТЫ, СЦЁБНУТЫ *прым., перан., груб.* Неразумны, дурны. *Сцебану́ты пыльным мехам – той, хто ні ў чым не разбіраецца.* Верамееўка Гар. *Ванька гэты з дзецтва такі сцёбнуты быў.* Ваўчо Уш.

СЦЕКЛІНА́, СЦЯКЛІ́НА *ж.* Шкло, кавалак шкла. *Сцеклінá гэтая пабіта ўжо даўно.* Чарневічы Глыб. *Сцяклі́ну на комін паложуць – і дым у хаце.* Белая Ліпа Сен.

СЦЕЛЬ *ж.* Палеглае збожжа. *Сцель паднімаць очэнь цяжка, хто ета рабіў – той знае.* Будзішча Арш.

СЦЕНЬ *ж.* Сурокі. *Выбіраю сцень з усіх касцей і з костачак...* (з замовы). Алексінічы Сен. Параўн. *суро́цы.*

СЦЕ́РАЖ *м.* Вартаўнік. *Працавала пасля школы сцёражам у садку.* Езярышча Гар. Параўн. *самахо́ў.*

СЦЁБНУТЫ гл. СЦЕБАНУ́ТЫ

СЦЁПКА *ж.* Кладоўка. *Са суёпкі смецце не забудзь вымесці.* Лужкі Шарк.

СЦЁРКА *ж., заал.* Рыба гусцяра. *Каля хаты ў нас – сажалка, там водзіцца рыбка суёрка і шмат іншай.* Шэпелева Глыб. Параўн. *сіву́ха, сіняўка*[1]*, страка́тка.*

СЦІЛІЦЕЛЬНЫ *прым.* Лячэбны, лекавы. *Вада ў крыніцы суілі́цельная.* Чарневічы Глыб.

СЦІ́ЛІШЧА гл. СЛІ́ШЧА

СЦІНА́ЦЬ *незак.* Назойліва ныць, назаляць, дакучаць. *Хваціць табе ўжо суіна́ць, памаўчы хоць час.* Чарневічы Глыб.

СЦІНЬКА́ЦЦА *незак.* Хадзіць без мэты, гультаяваць. *Суінька́іцца во цэлый дзень па дзіреўні: абы толька маткі ні памагаць.* Кулакова Віц., Канашы Гар.

СЦІ́РКА *ж.* 1. Анучка (кавалак тканіны), якой звычайна выціраюць стол. *Суі́ркай стол выцеры і хадзем ка мне.* Весніно В.-Дзв. *Вазьмі суі́рку – вытры збан.* Азярцы, Папшычы Глыб. *Трэба суі́ркай суерці з дошкі. Грязная суі́рка ляжыць ля катлоў, трэба яе сянні пракіпяціць.* Балаі Міёр., Галбея Паст., Зялёнка Пол., Жары Рас., Серкавіцы Тал. *Стол грязны, змахні трохі суі́ркай – ды і ладна.* Плаўнік Чаш. *Суі́рка ў гаспадыні ўсягда далжна быць пад рукой – то стол суерці, то гаршок з печы дастаць.* Клінавое, Пятровічы Шарк.

СЦІ́РТА *ж.* Штабель дроў, звычайна ўздоўж сцяны. *Не чапай тую суі́рту, а то дровы ўпадуць.* Высачаны Лёзн. *Нацягалі цэлую суі́рту дроў.* Беразіно Докш. Параўн. *скірда́, скі́рта.*

СЦІ́ХА, СЦІХА́, СЦІШКА́ *прысл.* Ціха, цішком, крадучыся, нягучна, незаўважна для іншых. *Ён суі́ха за яго – і панёс. А яна суіха́ да яго падкралася.* Груздава Паст. *Сасед усё суішка́ рабіў.* Коўзаны Паст.

СЦЮ́ДЗЕНЬ, СТУДЗЯНЕ́Ц *м., кулін.* 1. Халадзец; халодная жэлепадобная мясная ці рыбная страва. *У маім суюдзені многа мяса і часнака.* Клясціцы Рас. *Смачны студзяне́ц палучыўся са свінінкі і курыных ножак.* Янкавічы Рас. 2. СЦЮ́ДЗЕНЬ *м.* Халаднік; халодная страва з буракоў, бацвіння, гуркоў, цыбулі, запраўленая смятанай і пакрышаным яйкам. *Суюдзень з бульбай – самае то ў жаркія дзянькі.* Хвошна Гар.

СЦЮДЗЁНКА *ж.* Сцюдзёная вада. *Ой, як жарка, нада суюдзёнкі папіць.* Канашы Гар., Воўкаўшчына Глыб. *Дай мне глыток тваёй суюдзёнкі.* Кушлікі Пол.

СЦЮ́ЛЬКІ *мн.* Асцюкі; тонкія доўгія вусікі на каласах злакаў. *Снапы насілі, дык сцю́лькі сільна накалолі спіну і шыю.* Лісуны Арш.

СЦЮЦЮ́РЫЦЦА *зак.* Скурчыцца, уцягнуўшы шыю ў плечы. *Такая халадзіна – толькі сцюцю́рыцца і сядзець на печы.* Урбаны Брасл. *Чаго ты сядзіш, сцюцю́рыўшыся, халодна?* Дзёрнавічы В.-Дзв.

СЦЯБА́ЦЦА *незак., экспр.* Моцна смяяцца. *Ну, сміяліся-сцяба́ліся тады ўсе, гэдак смешна было.* Вісяты Міёр. *Чаго ты сцябе́шся? Было б з чаго!* Жукоўшчына Шарк.

СЦЯБА́ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Бацька сцяба́ў дзедаву касу.* Галбея Паст.

СЦЯ́БЛІК *м., памянш.* Сцябло. *Зламаўся сця́блік у клёніку.* Кругляны Сен.

СЦЯГА́ *ж.* Сцежка. *Гэтая сцяга́ – самая кароткая дарога да суседняга сяла.* Радчонкі, Хацейка Гар. *Сабакі сцягу́ натапталі праз бульбу.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Хто гэту сцягу́ пратаптаў?* Дворышча Леп. *А там на полі ўжо набітая сцяга́.* Мурагі Рас. *Сцяга́ тая – вузкая, лісапетамі езджаная.* Бубалі Шум.

СЦЯ́ГІВАЦЦА *незак., экспр.* Заходзіцца плачам. *Калі Пецька пабіў Дзімку, той доўга сця́гіваўся.* Кошчава Беш.

СЦЯЖА́Р гл. СТАГАВІ́ШЧА

СЦЯ́ЖЫЦЬ *зак.* Украсці. *Нехта сця́жыў у яго сена.* Мяжа Гар. *На днях сця́жыў у суседа бальку яловую.* Мікалаёва Міёр. Параўн. *спу́ліць.*

СЦЯКЛІ́НА гл. СЦЁКЛІНА

СЦЯКЛЯ́ННІК *м.* Шкляны слоік. *Баба, хучэй вымый сцякля́ннік, няма ў што наліць малака.* Царкавішча Уш. Параўн. *стаўбуно́к* у 2 знач.

СЧАСА́ЦЬ *зак., экспр.* Уцячы, сысці. *На гэтым сходзе нічога такога інцярэснага не казалі, і ўсе пацiху счаса́лі адтуль.* Сваташыцы Дубр.

СЧУ́БІЦЦА *зак., экспр.* Усчаць бойку, пабіцца. *Счу́біліся дзяды так, што ледзь іх разнялі.* Вялікія Дольцы Уш.

СЧЫНА́ЦЦА *незак.* Зачыняцца. *Дзверы ў хаце не счына́юцца.* Слабада Уш.

СЧЫЧЫ́РЫЦЦА *зак.* Высахнуць, ссохнуць. *Пры хаце расла такая харошая бярэзіна, а ў этым гаду ўся чагось счычы́рылася.* Клясціцы Рас.

СЫ́ВАРАТКА гл. СЫРАВА́ТАК

СЫДРА́ЦЬ *зак.* Дзерці, садраць бульбу на тарцы. *Хацелася пагуляць, а мама сказала, што нада сыдра́ць.* Антонаўка Арш.

СЫ́ЗМА *ж.* 1. Цвёрдая, пустая, няўробленая глеба. *Тут даўно ўжо ніхто не жыве, і таму кругом адна сы́зма.* Вярэнькі, Ласіца Паст. 2. *аг., перан.* Вельмі скупы чалавек. *Яна такая сызма, такой шчэ свет не відзеў.* Швэплі Докш.

СЫМА́ЦЬ *незак.* Фатаграфаваць. *Вось тут вёску сыма́лі з верталёту.* Мількі Брасл.

СЫМЫСА́ДКА гл. САМАСЕ́ДКА

СЫ́НАВА *ж.* Нявестка, жонка сына. *Заўтра сы́нава прыедзіць, паможа агарод палоць.* Турлы Паст.

СЫПУ́ТА *ж.* Хвароба ад чаравання, у выніку якой чалавек нічога не бачыць. *Па зайздросці можа хто такое навесці: і сыпу́ту, і глухе́ю.* Ноўка Віц.

СЫРАВА́ТАК *м.*, СЫ́ВАРАТКА, СЫРАВА́ТКА, СЫРВА́ТКА, *памянш.* СЫРО́ВАЧКА, СЫ́ЎРАТКА *ж.* Сыроватка; вадкасць, што застаецца пасля адтоплівання ці адстойвання кіслага малака. *З малака палучыўся сырава́так, добра ім смагу праганяць.* Фарынава Пол. *Бабуля заўсёды бе́рыць на поле вараную бульбу і сы́варатку.* Дразды Беш. *Там у збанку сырава́тка засталася.* Бачэйкава Беш. *Сырава́тка ёсць, нада халаднік прыгатовіць.* Камоскі Беш. *Сырава́ткі не хочыш папіць?* Паўазер'е Беш. *Сырава́ткай палезна палі́ваць хатнія кветкі.* Ахрэмаўцы Брасл., Дзёрнавічы В.-Дзв. *Там на пліце сырава́тка засталася, вазьмі, папі, калі хочыш.* Сахнавічы Глыб., Забалацце Леп. *Бабуля сырава́тку выліла парасятам.* Цвеціна, Цілеўцы Міёр. *Калі спякота на вуліцы, вельмі добра піць сырава́тку.* Заазер'е Пол. *Сырава́тку дужа любяць свінні.* Клясціцы Рас. *Тваражок з'ядзім, а сырава́тку свінням аддам.* Угрынкі Уш. *Сырва́тка вельмі палезная для здароўя.* Замошша Сен. *Калі варылі маладую бульбачку, то да яе бабуля падавала дамашнюю кісленькую сыро́вачку.* Калышкі Лёзн. *На сы́ўраткі харошыі бліны палучаюцца.* Лужасна Віц., Казловічы Гар., Смародзіна Лёзн.

СЫРАВЁЖКА гл. СУРАВЕ́ЖА

СЫРАДО́Я *ж.* Сырадой. *Сырадо́я ўкусная была ад маей старай каровы.* Доўжа Віц. Параўн. *сырапо́нька, сыро́лена.*

СЫРАЕ́ГІ гл. СУРАВЕ́ЖА

СЫРАПЕ́НЯ, СЫРАПО́НЬКА, СЫРАПО́НЯ гл. САРАПЕ́НЯ

СЫ́РАСЦЬ *ж.* Машкара; насякомыя, якія выводзяцца звычайна там, дзе сыра. *Дажджамі, снягамі прыбіла ўжо гэты коўрык да зямлі. Падняла яго, а там – сы́расць.* Рошчына Сен.

СЫРВА́ТКА гл. СЫРАВА́ТАК

СЫ́РЖЫК гл. СУРАВЕ́ЖА

СЫ́РНІЦА *ж.* Страва з тварагу і топленага масла, прыгатаваная для мачання бліноў. *Сы́рніцу ўсё-такі захоўваць нада, так мяне матка вучыла.* Весніно В.-Дзв. *Унукі больш за ўсё маю сы́рніцу любяць.* Каханавічы В.-Дзв. *Калі тварог назапашваўся, яго залівалі маслам – называлася сы́рніцай.* Азёркі Гар. *Ой, маці нам гатовіла вельмі ўкусную сы́рніцу.* Езярышча Гар. *А я заўсягды бліны з сы́рніцай*

*ем – так укусней.* Ясевічы Глыб. *Сырніцу я ўнукам і цяпер раблю: і так з'ядуць, і блін памакаюць, і з бульбачкай.* Навасельцы Шарк.

СЫРНІЦО́ *н., зб.* Толькі што зжатае збожжа, сырое зерне. *Усе выхадныя сушылі сырніцо́.* Антонаўка Арш.

СЫРНІ́ЧКІ гл. СЕРА́НКІ

СЫРО́ВАЧКА гл. СЫРАВА́ТАК

СЫРО́ЛЕНА *ж.* Сырадой; свежае малако. *Вельмі палезна піць сыро́лену, асобенна дзеткам.* Задоры Леп. Параўн. *сырадо́я, сырапо́нька.*

СЫРО́ТА *ж.* Сырое, дажджлівае надвор'е. *Сыро́та на вуліцы была з самага ўтра.* Антонаўка Арш.

СЫРЭ́НЬ *ж.* Бэз. *Сырэ́нь пад вакном хараша цвіцець.* Кудзіны Гар.

СЫСКА́ЦЦА *зак.* Вярнуцца. *Дамой сыска́ліся позна.* Лужасна Віц., Канашы, Ноўка Гар. *Толькі сыска́ліся к утру.* Белая Ліпа Сен.

СЫСЦІ́ *зак.* Зайсці, закаціцца (пра сонца). *А як сонца сышло́, пабралі шмоткі, якія былі, – і ўцякаць.* Зароўе Леп.

СЫ́ЎРАТКА гл. СЫРАВА́ТАК

СЫ́ЦЕНЬ *м.* Мачанка; страва з сала, мяса і каўбасы, падкалочаная мукой. *Троху мукі асталась, нада сы́тню заварыць.* Кузняцова Віц.

СЫ́ЦІВА *н.* Ежа. *Галодны жывот чуў сы́ціва.* Селішча Уш.

СЫ́ЦІЦЦА *незак.* Станавіцца сытым. *Еш, дачушка, сыці́ся.* Ноўка Віц.

СЫ́ЧЫНЬ гл. СА́ЧАНЬ

СЭМ *м.* Самагонка. *І раньша сэм нільзя было дзелаць.* Варапаева Паст. Параўн. *самагра́й, самапа́л.*

СЮ́БАР *м.* Палюбоўнік. *Ганна даўно ўжо не бачыла свайго сю́бара, гэта значыць ха́халя.* Пуцілкавічы Уш.

СЮДЭ́Й, СЮДЭ́МА *прысл.* Сюды. *Ты што – глухі? Ідзі сюдэ́й!* Залессе Глыб. *Хадзі-ка ты сюдэ́ма да міне.* Двухполле Гар. *Ходзь сюдэ́ма!* Балаі Паст. *Сюдэ́ма заўсёдка вярнуцца хочыцца.* Булаўкі Пол.

СЯБРЫ́НА *аг., экспр.* Здаровы, мажны чалавек. *Такія сябры́ны разгадаваліся, што і ў штаны ні месцяцца.* Мішкавічы Шум.

СЯВА́ЛКА *ж.* Сеялка. *Сява́лкі гатовы ў поле выехаць.* Ноўка Віц.

СЯВО́ *н., зб.* Насенне. *Сяво́ чакае свайго часу.* Обаль Сен.

СЯВО́ННЯ, СЯГА́ННЯ, СЯГА́НЯ, СЯГО́ДНІ гл. СЁГАННЯ

СЯГО́ЛЕКА, СЯГО́ЛІКА *прысл.* Сёлета. *Сяго́лека нешта і грыбоў мала нарасло.* Аўсянка Міёр. *Сяго́ліка ўнук пойдзіць ужо ў шосты клас.* Савуткі Шарк. Параўн. *сёгады, сёлетка.*

СЯГО́ЛЕТАК, СЯГО́ЛЕТКА гл. СЕГАЛЕ́ТАК

СЯГО́НІКА, СЯГО́ННІКА гл. СЁГАННЯ

СЯДА́ЛА *н.* 1. Се́дала; жэрдка, на якую садзяцца куры. *Малыя кураняты да сяда́ла яшчэ не дапрыгіваюць, пад нізам спяць.* Макаравічы Беш. 2. Куратнік. *Ні ўсі куры ў сяда́ла зайшлі.* Кузняцова Віц.

СЯДА́НКА гл. СЯДЗЁЛКА[2] ў 1 знач.

СЯДА́ЧКА, СЯДУ́ХА *ж.* Курыца, якая сядзіць на яйках. *Ці ёсь ужо хто ў тваёй сяда́чкі?* Зялёнка Пол. *А сяду́ха ж мая крапіўнікаў мне павывадзіла. Учора я іх адшукала.* Сахнавічы Глыб.

СЯДЗЁЛКА[1], СЯДЗЕ́ЛКА, СЯДЗЯ́ЛКА *ж.*, СЯДЗЁЛАК *м.* Сядло, падсядзёлак; частка конскай вупражы. *А во сядзёлка на Буяна.* Іванск Чаш. *Дзядзька ля павозкі, папраўляе сядзёлку.* Слабада Шум. *Сядзе́лку абычна кожай абцягвалі, штоб каню лучшэй была.* Дабравольск Тал. *Яшчэ памятаю, як бацька вучыў надзяваць на каня сядзя́лку.* Абаляны Брасл. *Дзядуля зрабіў для мяне сядзёлак, каб я мог катацца на кані.* Сухі Бор Пол.

СЯДЗЁЛКА[2], СЯДА́НКА, СЯДУ́ШКА *ж.* 1. Стул з пярэдняй перакладзінай і спінкай для дзяцей да года. *Прынясі сядзёлку да стала і пасадзі малога.* Косарава Глыб. *Сяда́нку абяшчала свякроўка купіць, а каляску муж ужо купіў.* Камоскі Беш. *Пасадзі Светачку ў сяду́шку.* Сар'я В.-Дзв. 2. Табурэтка. *І бацька, і дзед мой умелі рабіць сядзёлкі.* Грабяніца Віц.

◊ СЯДЗЁЛКА ЧЭ́ШАЦЦА Пра таго, хто сваімі дзеяннямі ці ўчынкамі правакуе іншых пакараць ці адлупцаваць яго. *Я ўжэ даўно віжу, што ў цібе сядзёлка чэ́шацца.* Канашы Гар.

СЯДМЫ́ *ліч.* Сёмы. *Гэта было ў сорак сядмы́м годзе.* Галбея Паст.

СЯДНІ́К гл. СЕ́ННІК[2]

СЯДНО гл. СЕННО́

СЯДУ́ХА гл. СЯДА́ЧКА

СЯДУ́ШКА гл. СЯДЗЁЛКА[2] ў 1 знач.

СЯКА́Н *м.* Каша з сечкі, драблёных круп. *У арміі даюць адну пшонку і сяка́н з салам.* Дразды Беш.

СЯКА́НКА, СЕ́ЧА *ж.*, СЕ́ЧАВА *н.* Карыта, у якім сякуць жывёле траву, караняплоды. *У сяка́нкі ляжалі яблакі.* Чаўнышкі Беш. *У сяка́нцы маці замачыла брудную бялізну.* Міхалова Чаш. *Схадзі бульбоўніка ў се́чу панакідай: свіней трэба вечарам нечым карміць.* Коравічы Чаш. *У се́чаве мая бабуля замешвала яду свінням.* Сарочына Уш. *У се́чава мама буракоў наклала.* Цяпіна Чаш.

СЯКЕ́РНЯ *ж.* Месца каля хаты, дзе сякуць дровы. *Ідзі на сяке́рню і прынясі дроў.* Шацяні Сен.

СЯЛЕ́ННЕ *н.* Загарадны дом; дача. *У яго там сяле́нне – дача ў яго.* Белая Ліпа Сен.

СЯЛЕ́ТАК гл. СЕГАЛЕ́ТАК

СЯЛІ́ШЧА *н.* Селішча; дом з гаспадарчымі будынкамі. *Каля сялі́шча гулялі малыя ў вайну.* Новы Пагост Міёр.

СЯЛЯ́НКА *ж.* Яешня. *У нас яешню сяля́нкай называюць усе.* Забор'е Рас.

СЯЛЯ́НКІ *толькі мн.* Разнавіднасць калёс для перавозкі дроў. *Сёння ў лес на сяля́нках паедзем.* Коравічы Чаш.

СЯЛЬНІ́К гл. СЕ́ННІК[2]

СЯЛЯ́ЎКА гл. СІЛЯ́ЎКА

СЯМЕ́ННЕ гл. СЕМЯНО́

СЯМЯ́НКА гл. СЕ́МЕНКА

СЯНА́Ж гл. СЕ́ННІК[1]

СЯ́ННЕ, СЯ́ННІ гл. СЁГАННЯ

СЯННІ́ЦА гл. СЕ́ННІК[1]

СЯ́ННЯ гл. СЁГАННЯ

СЯННЯ́К гл. СЕ́ННІК[2]

СЯНЫ́ *толькі мн.* Сена. *Сёлета сяно́ў хапае, дожджык усё лета палівае.* Гута Паст.

СЯРА́НКІ гл. СЕРА́НКІ

СЯРЁДКА гл. СІРЯДЗІ́НА

СЯРКА́ЧКІ гл. СЕРА́НКІ

СЯРМЯ́ШКА *ж.* Любая цёплая адзежына. *Адна сярмя́шка, і тая цяжка.* Бычыха Гар.

СЯРНІ́ЧКІ гл. СЕРА́НКІ

СЯРЧА́ВЫ *прым.* Сярдзіты, з пакрыўджаным выглядам. *Які прыткі і сярча́вы!* Ноўка Віц.

СЯРЭ́ДНЯ *ж.* Сярэдзіна дня; поўдзень. *А ён жа прыехаў учора, у сярэ́дню.* Гарадзец Шарк.

СЯРЭ́Н, СЯРЭ́НЬ гл. СЕ́РАН

СЯЎНЯ́ *ж., груб.* Тоўстая жанчына. *Крэсла трэснула, як села сяўня́.* Камары Віц. Параўн. *сло́шка.*

СЯЎРЁНКА *ж., толькі адз.* Вэнджанае мяса. *Сяўрёнку тожа да Паскі не елі.* Стасева Лёзн.

СЯЎРЁНЫЙ *прым.* Выветраны, высівераны. *Окарак сяўрёный, як і капчоный, вельмі смашны.* Валынцы В.-Дзв.

СЯЧКА́РКА *ж.* Сячкарня. *У сячка́рку не лезь!* Усяны Брасл.

# Т

ТАБЗЮКО́М *прысл.* Моўчкі. *І стаім мы табзюко́м і глядзім на звёзды.* Ула Беш.

ТАБО́РАК, ТАБУ́РАК, ТАБЭ́РАК *м.* Маленькая табурэтка, зэдлік, услончык. *На гэтым табо́рку мацi чысцiць бульбу.* Абаляны Брасл. *Прысядзь на табу́рак.* Варнелi Брасл. *Прынясi табэ́рак мне.* Капыльшчына Глыб.

ТАГА́Н *м.* Прыстасаванне ў выглядзе трох пераплеценых уверсе калкоў, на якое раней падвешвалi калыску. *Паставiлi тага́н у комнаце.* Свяча Беш.

ТАГА́НКА *ж.* Трыножка з абручом для прыгатавання ежы на адкрытым агнi. *Тага́нку падсунь да агню.* Анцiпенкi Дубр. *Iдзi на двор распалi тага́нку.* Бароўка В.-Дзв.

ТАГАНЫ́ *толькi мн., iран.* Ногi. *Я калi ўвiдзiў немца, у мяне аж таганы́ затраслiся. Неяк iдзець, калышыцца на тагана́х.* Быцава Беш.

ТА́ЙНАСЦЬ *ж.* Таемнасць, сакрэтнасць. *Што гэта за та́йнасць такая, што ты не гаворыш?* Свiрэлi Паст.

ТА́ЙНIК *м.* Тайны агент, шпiён. *Та́йнiкi пяшком хадзiлi за границу, дакладалi, што там робiцца, грошы iм за гэта плацiлi.* Кашталянаўшчына Глыб.

ТАЛАКУ́ШКА *ж.* 1. Карыта для прыгатавання корму свiнням. *Цiпер у талаку́шку бульба iдзець, а тады самiм мала было.* Мяшкова Тал. 2. Таўкач. *Вазьмi талаку́шку i стаўчы свiнням.* Каменка Тал.

ТАЛАЛА́Й, ТАЛАЛУ́Й[1] *м., асудж.* Балбатун, пустаслоў. *Ты нейкi талала́й – не маўчыш нiколi.* Булахi Глыб. *Што вам гэты талалу́й брэшыць? Ён жа нiчога нi знаiць.* Моханава В.-Дзв. Параўн. *тала́н.*

ТАЛАЛУ́Й[2] *м.* Вадкая мучная страва. *Калiсьцi мы гатавалi талалу́й.* Прудок Гар. *Дзед мой любiў талалу́й.* Вярэчча Гар.

ТАЛА́Н *м.* 1. Званочак, якi чапляецца на шыю каню або карове. *Прычапi тала́н карове.* Беразiно Докш. 2. *перан., неадабр.* Балбатлiвы чалавек. *Во ўжо тала́н – на ўсё сяло.* Слабада Докш. Параўн. *талала́й, талалу́й[1].*

ТАЛДО́НЕННЕ *н., толькi адз.* Пустыя, марныя размовы. *Iдзiце ўжо дамоў, усяго талдо́нення не праслухаеш.* Гразiна Арш.

ТАЛДО́НIЦЦА *незак.* Займацца пустымi размовамi. *Як начнуць талдо́нiцца – iх за паўдня не праслухаеш.* Стар Арш.

ТАЛЁКАЦЬ *незак., экспр.* Крычаць, заганяючы звера. *Ён так громка талёкаў, што спужаў усiх астатнiх.* Дразды Беш.

ТАЛКÍ *толькi мн.* Размовы, гаворкi. *Адны талкí пра гэта.* Чарневiчы Глыб.

ТАЛМУ́ЗIЦЦА *незак.* Валтузiцца. *Iдзi разнiмi сабак, сколькi яны будуць там талму́зiцца.* Дроздава Тал.

ТАЛМУ́ТЫ *толькi мн.* 1. Рэчы ў вялiкай колькасцi (сумкi, адзенне i iнш.). *Во набрала, цi паднiмеш ты свае талму́ты?* Пранiкi

Уш. *Ну што, сабралі талмýты?* Жукоўшчына Шарк. 2. Паперы, дакументы. *Прібяpі сваі талмýты са стала.* Лужасна Віц.

ТАЛÓПІЦЦА *незак.* Пільна ўглядацца. *Чаго вы так талóпіцеся на нашу дачку?* Нурава В.-Дзв.

ТАЛЦÓНКА, ТАЛЧÓНКА, ТАЎЧÁНКА, ТАЎЧÓНКА *ж.* Бульбяная каша. *Маці наварыла сматнай талцóнкі.* Адаменкі Лёзн. *Зварым талчóнку з салатам і наядзімся.* Бачэйкава Беш. *На вечар вам таўчáнкі нараблю.* Новы Двор В.-Дзв. *На вячэру будзіць таўчóнка.* Пальмінка Гар. Параўн. *таўканíца.*

ТАЛЭ́ХАНЕЦ *м., часцей* ТАЛЭ́ХАНЦЫ *мн., абразл.* Жыхар Бягомльшчыны (у насельнікаў заходняй Докшыччыны). *А жонку во сабе з талэ́ханцаў узяў.* Макаравічы Докш.

ТАЛЯЖÓЎКА *ж.* Барана. *З таляжóўкай нада прайсці разоў са два.* Раманава Гар.

ТАМÁШ *м.* Ядомы грыб, падобны на баравік. *І тамашы́ не бяру. Не баравік ета.* Белая Ліпа Сен.

ТÁМБАР, ТАМБУ́РАК, ТЫМБУ́РАК *м.*, ТÁМБАРКА, ТАМБЫ́РКА *ж.* Кручок для вязання. *У мацеры быў жалезны кручок – тáмбар.* Матырына Леп. *Вязаць тамбýркам не проста.* Абаляны Брасл. *Я тымбýркам такія рэчы вязала, што ўсе ахалі.* Сухавержжа Міёр. *Тáмбаркай палавікі вязала.* Андрэеўшчына Арш., Канашы Гар. *Прынясі тамбы́рку, буду вязаць сурвэтку.* Станіслава Дубр.

ТАНÓК, ТАНÓЧАК *м., памянш.* Танец, карагод. *Пайсці на вечарынцы ў танóк было абізацільна.* Велеўшчына Леп. *Ой і плясалі танóк мальцы ў дзярэўні нашай!* Дуброўна. *Скручвалі вяроўку, макалі ў керасін (гэта называлі смаркаткай), смаркатка гарыць, а мы ў танóчак ідзём.* Шаркоўка Леп.

ТАНЯ́, ТОНЬ *ж.* Затока, завадзь. *Каждая таня́ імеіць сваё названія.* Валынцы В.-Дзв. *На нашым возеры тонь такая вялікая, што ў ёй рыбу вудзяць.* Новы Пагост Міёр.

ТАНЯНЁХАЦЬ *незак.* 1. Гушкаць на руках (дзіця). *Хваціць табе яго танянёхаць. Прывыкніць малы, тады не адвяжышся.* Губіца Шум. 2. Песціць, няньчыць. *Яны ж так танянёхалі етага рябёнка.* Горбава Лёзн.

ТАНЯ́НКА *ж.* Пуня, адрына. *Сена ў таня́нку складзём, калі ўнукі прыедуць.* Ваўчо Уш. *Граблі ў таня́нцы стаяць.* Юркава Глыб. Параўн. *ты́нка.*

ТАПАРНЯ́К, ТАПÓРНІК *м.* Танкаствольны лес, які высякаюць на дровы тапаром. *Тапарня́к секчы добра.* Янавічы Віц. *Два вазы тапóрніку прывёз.* Беразіно Докш.

ТАПЁНЬ *м.* Падпал (смалякі, трэскі і інш.). *Каб распаліць печ, трэба прынесці тапéнь.* Дзеркаўшчына Глыб.

ТАПКІ *прым.* Гразкі, багністы. *Тапкóе места тут, далей не пойдзем.* Анціпенкі Дубр.

ТАПЛЁНКА[1] *ж.* Кіпячонае малако. *Малако скіпяціш – таплёнка будзіць.* Ноўка Віц.

ТАПЛЁНКА[2] *ж.* Топлены тлушч. *Парсюк худы быў, таплёнкі мала выйшла.* Дрысвяты Брасл.

ТАПÓРНІК гл. ТАПАРНЯ́К

ТАПÓРЫВА *н.* Ручка тапара, тапарышча. *Тапор саскочыў з тапóрыва.* Пачаевічы Чаш.

ТАПТА́ЦЬ *незак.* Заганяць рыбу ў мярэжу. *Таптáў рыбу – натаптаў цэлае вядро.* Плаўнік Чаш.

ТАПТУ́Н *м., рыб.* Від рыбалоўнай сеткі. *Таптунóм быстрэй за ўсё лавіць рыбу.* Ваяводкі Віц. *Учора адным таптунóм кілаграм шэсць злавілі.* Новае Сяло Сен. *Мальцы з таптунóм пайшлі па рэчке.* Пралетарыя Уш. Параўн. *тóпень.*

ТАПТУ́ХА *ж.* Бульбяная каша. *Зімой таптýха самая добрая яда.* Будаўка Тал. *Таптýхі зробіш і так добра пад'ясі.* Заварaты Глыб.

ТАПТЫ́ГА *ж.* Таўкач, прылада, з дапамогай якой таўкуць што-н. *Бяры ў качарэжніку таптыгу, таўчы бульбу й буракі.* Чурылава Арш.

ТАПЦЕ́НЬ *м.* Мядзведзь. *Нацярпеліся тады людзі гора ад тапцéня.* Вялікая Пярэспа Сен.

ТАПЧЭ́Й *м., неадабр.* Пра таго, хто марудна, паволі ходзіць, робіць што-н. *Тапчэ́й ты, шавяліся трохі!* Анціпенкі Дубр.

ТАПЫ́РШЧЫЦЦА *незак.* Тапырыцца. *Сукенка тапы́ршчыцца ва ўсе бакі.* Фарынава Пол.

ТАПЯЛÓК *м.* Невялікая матыка для рыхлення глебы. *А тапялóк раз – і паламаўся.* Ула Беш.

ТАРАБА́ЙКА, ТАРАБЭ́ХА *аг., неадабр.* Празмерна гаваркі, балбатлівы чалавек. *От тарабáйка, усё языком меліць.* Слабада Дубр. *Такой тарабэ́хі, як ён, я яшчэ не бачыла.* Зялёнка Пол. Параўн. *тарандá, тарантá.*

ТАРАДЭ́ЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць шмат, не да месца, без толку, часам хутка і неразборліва. *Ну што ты тарадэ́іш, не гэтак усё было.* Воўкаўшчына Міёр. *Тарадэ́іць, што нічога не разабраць.* Лазы Тал.

ТАРА́Н *м.* Залішне худы чалавек. *Во й тарáн мой бягіць, такі ўжо худзенькій.* Жыгалава Віц.

ТАРАНДА́, ТАРАНТА́ *аг., неадабр.* Балбатун, гаваркі чалавек. *У людзей толькі і сядзіць тарандá гэта.* Бельнякі Чаш. *Ці ў етай таранты́ што паймеш! Аж захліпаецца, а ўсё балбочыць.* Гарбачэва Рас. Параўн. *тарабáйка, тарабэ́ха.*

ТАРАНÓЎКА *ж.* Квяцістая шарсцяная хустка. *Учора купіла сабе харошую таранóўку.* Бачэйкава Беш.

ТАРАНЦЕ́ЦЬ, ТАРАНЦІ́ЦЬ *незак., экспр.* Балбатаць, несупынна гаварыць. *Умеіць толька таранцёць.* Ноўка Гар. *Во таранціць дык таранціць, як з пулямёта строчыць!* Краснаполле Рас.

ТАРАПА́ *ж.* Гаспадарчая прыбудова да хаты. *Тарапа́ прыдзелываецца к хаце, туды можна дровы палажыць.* Гарэлькі Дубр. *Закаці лісапет у тарапу́.* Іванск Чаш.

ТАРАПО́М *прысл.* Не ўтоптваючы, няшчыльна. *Сена тарапо́м у брыку накідалі.* Койры Паст.

ТА́РАЧКА *ж.* Невялікая міска або талерка для ката, сабакі; бляшанка. *Во, Мурзік, твая та́рачка, і няма чаго на стол лезці.* Халмы Арш.

ТАРБЭ́ЧНІК, ТАРБЭ́ШНІК *м.* Бедны чалавек, жабрак. *З такімі даходамі можна тарбэ́чнікам стаць.* Ваўкалата Докш. *Усё жыццё тарбэ́чнікам жыве.* Кулінава Уш. *Бацька чуць не тарбэ́шнік, а сын на сваю машыну сеў.* Тараскі Чаш.

ТА́РКА *ж.* Дошка для мыцця бялізны. *На та́рку лягчэй плацце памыць.* Шантары Докш.

ТАРКАВА́НЕЦ *м., часцей* ТАРКАВА́НЦЫ *мн.* Дранік. *Гасцей сустракалі таркава́нцамі.* Ласі Глыб.

ТАРКАВА́НКА *ж.* Страва з дранай бульбы, бабка. *Ну і таркава́нка! Ты яе ў печы гатуеш?* Дамашы Брасл.

ТАРКАВА́ЦЬ, ТА́РКАЦЬ, ТА́РЧЫЦЬ *незак.* Драць гародніну на тарцы. *Унучка моркву таркава́ла.* Луначарскае В.-Дзв. *Буду та́ркаць картоплю.* Моханава В.-Дзв. *Што тут мне нада та́рчыць?* Спігальшчына Міёр.

ТАРМАСА́ *аг., неадабр.* Непаседа. *Тармаса́ ты! Ні мінуты не пасядзіш.* Пашкі Шарк.

ТАРТАЎНІ́ЦА *ж.* Спецыяльная плоская талерка вялікага памеру для торта. *На сталы такія пекныя тартаўні́цы паставілі.* Лазічы Глыб.

ТА́РЧЫЦЬ гл. ТАРКАВА́ЦЬ

ТАТУ́ЛЬКА, ТАТУ́СЬ *м.* Хросны бацька. *Ка мне на дзень раждзенія матулька з тату́лькам прыходзілі.* Межава Арш. *Тату́сь зноў падаркі прывязець.* Чэрцы Леп. *Тату́сем нада браць нежанатага.* Котава Віц.

ТАЎКА́НІК *м., часцей* ТАЎКА́НІКІ *мн.* Піражок ці блін з тоўчанай варанай бульбы. *З бульбы таўка́нікі пяклі смачныя.* Лісна В.-Дзв.

ТАЎКАНІ́ЦА *ж.* Бульбяная каша, запраўленая смажанай цыбуляй. *Баба згатавала смачную таўкані́цу.* Ласі Глыб. Параўн. *талцо́нка, талчо́нка, таўча́нка, таўчо́нка.*

ТАЎКА́ЧЫКІ *толькі мн.* Хвошч. *Сабіралі таўка́чыкі па ржышчы і давалі свінням.* Крупяжына Сен.

ТАЎРУ́ЗІЦЬ *незак.* Непакоіць, перашкаджаць рабіць што-н. *Чаго ты сёння мяне цэлы дзень таўру́зіш?* Янкавічы Рас.

ТАЎСТАСЦЕ́ННІК *м.* Гарбуз. *Вялізны вырас таўстасце́ннік.* Вялікая Пярэспа Сен.

ТАЎСТА́Я, ТО́ЎСТАЯ *прым.* Цяжарная. *У яго жонка зноў таўста́я ходзіць.* Дрыгучы Міёр. *Настуха ўжо сёмы месяц таўста́я.* Макаравічы Докш. *Кажуць, суседка твая то́ўстая.* Папоўка Сен.

ТАЎЧА́НКА, ТАЎЧО́НКА гл. ТАЛЦО́НКА

ТАФЛЁЎКА *ж.* Гарэлка, настоеная на пупышках таполі. *Калена тафлёўкай памаж – быстрэй зажывець.* Спігальшчына Міёр.

ТАХО́ТКА *ж.* Гліняны гаршчок. *Бульбу стушыла ў тахо́тцы.* Опса Брасл.

ТВАРЫ́ЦЦА *незак.* Займацца абы-чым, дарэмна траціць час. *Хваціць твары́цца, ідзі займіся работай.* Нурава В.-Дзв.

ТКА́НКА *ж., абрад.* Сагнутая лучына, абцягнутая тканінай, якая надзяваецца нявесце падчас вяселля. *Як знімалі маладой вянок, надзявалі тка́нку.* Шаркоўка Леп.

ТЛО *н.* Дно. *Зрабі мне тло ў вядрэ.* Цяцеркі Брасл. *У рацэ тло дужа гразкае.* Тумілавічы Докш.

ТЛЯ *ж.* Моль. *Пальто пасекла тля.* Даўгінава Міёр.

ТОНЬ гл. ТАНЯ́

ТО́ПЕНЬ *м., рыб.* Рыбалоўная прылада, сплеценая з лазы. *Каб то́пень быў, то ўюна б узяў.* Камень Леп. Параўн. *тапту́н.*

ТО́ПІШЧА *н.* Балота, багна. *Хадзілі мы на тое то́пішча, значыць, станавіліся па дзве пары.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *трасуха*[2].

ТО́РБА *ж., неран., груб.* Непаваротлівая, тоўстая, лянівая жанчына. *У той то́рбы ўсе буракі зараслі. Ні яна ў лес табе, ні ў гарод.* Зарачыцак Докш.

◊ ТО́РБУ АРЫШТА́НТАЎ НАГАВАРЫ́ЦЬ Вельмі многа і абычаго навыдумляць гаворачы. *Ты схадзі да той бабы, яна табе то́рбу арышта́нтаў нагаво́рыць.* Грэцкія Міёр.

ТО́ЎСТАЯ гл. ТАЎСТА́Я

ТО́ХНУЦЬ *незак.* Гінуць ад недахопу паветра (пра рыбу). *Зімой, каб рыба не то́хла, мужыкі лункі робяць.* Ноўка Гар., Таўкіні Шарк.

ТРАБУХІ́ *толькі мн.* Страва са свіных вантробаў. *Я ў печку трабухі́ паставіла, на абед будуць гатовы.* Котава Віц.

ТРАЙНІ́К *м.,* ТРАЙНЯ́ *ж., рыб.* Рыбалоўная прылада, крыга. *Дзед узяў трайні́к, сала з гуркамі і пайшоў на раку.* Шаркаўшчына. *З вудачкамі пойдзем ці з трайнёй?* Лужкі Шарк.

ТРАЙЧО́НАК *м., абрад.* Трэці дзень троіцкіх святаў. *Радзілася мая свякруха на трайчо́нка.* Мішуткі Віц.

ТРАНТЛІ́ВЫ *прым.* Смярдзючы. *Якое трантлі́вае лякарства, аж не хочацца яго піць.* Лашукі Паст.

ТРАПА́ЦЬ *незак.* Мянташыць, вастрыць мянташкай касу. *Мне яшчэ дзве касы трапа́ць.* Дрысвяты Брасл.

ТРАПА́ЧКА[1] *ж., асудж.* Балбатлівая жанчына. *Трапа́чка табе нагаворыць бочку арыштантаў.* Мнюхі Міёр. *Не слухай ты гэту трапа́чку.* Задоры Шум.

ТРАПА́ЧКА[2] *ж.* Мянташка, наждачная лапатка, якой востраць косы. *Трапа́чка ляжыць на прыпечку.* Чарневічы Глыб. *Раней трапа́чкай касу вастрылі.* Лужкі Шарк.

ТРАПІ́НА *ж.* Сцежка паміж градамі. *Трапі́на ўжо зарасла, палоць трэба.* Шарагі Міёр.

ТРАПІ́ЦЬ *незак.* Высочваць звера. *Я ў той дзень доўга трапі́ў, але вярнуўся ні з чым.* Дразды Беш.

ТРАПКО́ЎКА *ж.* Пакрывала, пашытае з ласкутоў. *Пасцялі трапко́ўку пад бок.* Коравічы Чаш.

ТРАПЯТУ́ХА *ж., экспр.* Старанная гаспадыня. *Кума мая такая трапяту́ха, усё хочыць зрабіць як найлепш.* Валосава Тал.

ТРАПЯШКА́ЦЬ *незак.* Махаць. *Як выйдзеш на дарогу, трапяшка́й рукамі, можа хто і астановіцца.* Галубава В.-Дзв.

ТРАСІ́ЛКА, ТРАСУ́ЧКА *ж.* Бульбакапалка. *Цяперака трасі́лкі не даб'ешся, бо ўсе капаюць.* Мікіціха Шум. *Трасу́чкай выкапалі ўсю картошку.* Антонаўка Арш.

ТРАСКА́ *ж., зб.* Дранка. *Даўней хату крылі траско́й.* Галубчыкі Глыб.

ТРАСКАНЯ́ *ж.* Журба, смутак. *Толькі трасканя́ на сэрцы засталася.* Празарокі Глыб.

ТРАСО́ТНІК *м.* Месца на двары, дзе сякуць дровы. *На трасо́тніку тапор кінуў.* Вялікае Сяло Сен.

ТРАСУ́Н *м.* Заяц. *Трасуно́ў многа ў нашым лесе.* Язна Міёр.

ТРАСУ́ХА[1] *ж.* Ліхаманка. *У дачкі трасу́ха, цемпература высокая.* Алексінічы Сен.

ТРАСУ́ХА[2] *ж.* Топкае балота, дрыгва. *На трасу́ху не хадзі – зацягне.* Завер'е Брасл. Параўн. *то́пішча.*

ТРАСУ́ЧКА гл. ТРАСІ́ЛКА

ТРАСЯНЕ́Ц *м.*, ТРУ́ШАНКА *ж., зб.* Трасянка, корм скату, прыгатаваны з сумесі саломы і сена. *Карову кармілі трасянцо́м.* Дзеркаўшчына Глыб. *Нада прынесці тру́шанкі карове.* Беліца Сен. *Тру́шанкі дала, пасля дам паранкі.* Камень Леп.

ТРАСЯ́НКА *ж.* Халадзец, квашаніна. *Ну і смашная ў бабулі трася́нка!* Галбея Паст.

ТРАХАЛА́ *ж., груб.* Неразумная, бесталковая жанчына ці дзяўчына. *Суседка мая трахала́ такая, нічога па-людску зробіць не можа.* Надазер'е Глыб. *Ну і трахала́, слоў німа.* Ёды Шарк. *Не знае, чаго хоча, такая трахала́.* Мілашкі Брасл.

ТРАХТАВА́ЦЬ *незак.* Частаваць. *Ну, чым будзеш трахтава́ць?* Варнелі Брасл.

ТРАЦЦІ́НЫ *толькі мн., абрад.* Памінкі на трэці дзень пасля пахавання. *На трэцці дзень адправілі траццíны.* Пугачова Докш. *Па бацьку справілі траццíны.* Станіслававова Дубр.

ТРО́КНУЦЬ *зак., экспр.* Сказаць не падумаўшы. *Во тро́кнуў дык тро́кнуў!* Кублічы Уш.

ТРО́НАК *м.* Ствол. *Тро́нак у дрэва прамы і высокі.* Беразіно Докш.

ТРО́НКІ *толькі мн.* Дробная бульба. *Сабірай усе тро́нкі ў вядро.* Грабяніца Віц.

ТРО́ПНУЦЬ *зак.* Ударыць нагой (пра жывёлу). *Карова тро́пнула і разліла ўсё малако.* Лісуны Арш., Ноўка Гар. *Тро́пнула па банцы – малако і разлілося.* Сар'я В.-Дзв.

ТРОХМА́СЬКА *ж.* Кошка трохколернай масці. *Трохма́series – гэта ж самыя лавушчыя коткі.* Лукашова Паст.

ТРОХСЦЭ́Н, ТРОХСЦЭ́НАК, ТРЫСЦЭ́НАК, ТРЫСЦЭ́ННІК *м.*, ТРЫСНЯ́ *ж.* Трысцен. *Да круглай хаты прыстроены трохсцэ́н.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Трохсцэ́нак у іх быў, згарэў патом.* Чапукі Міёр. *Сначала пастроілі хату, а ўжо патом трысцэ́нак.* Мішуткі Віц. *Трысцэ́ннік збудавалі някепскі.* Пераходцы Леп. *Лацвей табе: хата з трыснёй.* Бугаі Уш.

ТРУ́БІНА *ж.* Скрутак. *Падножнікі ляжалі ў тру́бінах.* Казімірова Пол.

ТРУД *м.* Сып. *Дык ён увесь нейкім тру́дам пакрыўся.* Весніно В.-Дзв.

ТРУДНАВА́ЦЬ *незак.* Мучыцца, цяжка хварэць. *Труднава́ла яна доўга перад смерцю.* Ваўкалата Докш.

ТРУМЕ́ЛЬЧЫК *м.* Невялікая каструля з ручкай. *Поўны труме́льчык бульбы навырыш, сюды-туды – няма.* Ажуройсці Паст.

ТРУМЦЕ́ЦЬ *незак.* Бурчаць, выказваючы нездавальненне. *Чаго трумцíш, як дзед стары?* Пачаевічы Чаш.

ТРУ́НІЦЬ *незак.* Злосна жартаваць, іранізаваць. *Ён чалавек урэдны, любіць тру́ніць.* Замошша Брасл.

ТРУСА́Я *ж., асудж.* Пра неразумную, бесталковую жанчыну. *Нявестка ў іх такая труса́я, што абнясі Божа!* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ТРУ́СКАЦЬ *незак.* Есці шмат сырой садавіны ці гародніны (звычайна пра дзяцей). *Цэлы дзень тру́скае і тру́скае – то яблыкі, то моркву.* Дварэц Чаш.

ТРУ́ТНІЦЬ *незак., неадабр.* Спаць. *Захаджу да суседкі ўжо пад абед, а яна ўсё тру́тніць.* Кубелеўшчына Шарк. Параўн. *ту́хнуць.*

ТРУХА́ЦЬ, ТРУ́ХНУЦЬ *незак.* Баяцца, палохацца. *Чаго ты труха́еш?* Кугоні Уш. *Што ты тру́хнеш, як заяц?* Воўкаўшчына Міёр.

ТРУ́ШАНКА гл. ТРАСЯНЕ́Ц

ТРУ́ШКА *ж.* Булка. *Свята на тыдні будзіць. Тру́шкі пякуць усе.* Каменка Тал.

ТРЫБЛО́ *н., груб.* Бруха, страўнік (жывёлы). *Карова набіла сабе трыбло́ яблыкамі і болей нічога ў рот не бярэць.* Іванск Чаш.

ТРЫЛУ́ЗА *аг., абразл.* Чалавек, які гаворыць недарэчнасці, глупства. *Сват ейны яшчэ той трылу́за.* Савуткі Шарк.

ТРЫЛУ́ЗІЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць недарэчнасці, глупства, пляткарыць, хлусіць. *Трылу́зіла тут такое, што мне аж дрэнна стала.* Бачэйкава Беш. *Прыйшоў тут, трылу́зіў нешта.* Паўазер'е Беш. *Збіраіць з дуба, трылу́зіць, вярзець небыліцы.* Сакольнікі Віц. *Ды перастань ты трылу́зіць, дай чалавеку сказаць!* Псуя Глыб. *Не трылу́зь ты, бацька.* Гута Паст. *Што ты там трылу́зіш? Заробіш ты ў мяне!* Забалоцце Уш.

ТРЫНО́СКА *ж.* Насоўка. *Ва ўсіх у кішэні трыно́ска была, чым ярчэй, тым спрытней.* Паставы.

ТРЫСНЯ́, ТРЫСЦЕ́НАК, ТРЫСЦЕ́ННІК гл. ТРОХСЦЕ́Н

ТУ́ЗГАЦЦА *незак.* Важдацца, намагацца нешта зрабіць. *Што ты ўсё там ту́згаешся?* Угрынкі Уш.

ТУ́КАЦЬ *незак., экспр.* Крычаць, лаяцца (звычайна на дзяцей). *Усе дзеці як дзеці, а на цябе ту́кай, як на ваўка.* Грыгаравічы Леп.

ТУМА́К *м., абразл.* Дурань, тупіца. *Ён жа як тума́к: нічога не паніматіць.* Канева Сен. *Ён так усё жыццё тумако́м аджыў.* Дворышча Леп.

ТУ́МАР *м., іран.* Багатыр, багацей. *Ту́марам стаў, нос задраў у неба.* Барсукі Дубр.

ТУМА́РНІК *м., экспр.* Пануры, маўклівы, нелюдзімы чалавек, пустэльнік. *І дзе яна толькі тума́рніка такога мужыка знайшла.* Латышы Глыб. *Не будзь тума́рнікам, схадзі на свята.* Макаравічы Докш. *Брат яго саўсім зрабіўся тума́рнікам.* Вярэнькі Паст. *Што з гэтым тума́рнікам гаварыць?* Старое Сяло Уш. *Што ты хочаш даказаць таму тума́рніку?* Сабалі Чаш.

ТУМА́РНІЦА *ж., экспр.* Пустэльніца, адзінокая жанчына. *Мамачка, пусці на танцы, не хачу дома сядзець, як тума́рніца якая.* Сабалі Чаш.

ТУРАВІ́ЦЦА *незак.* Спяшацца. *Нада мне туравіцца ісці сена грабіць.* Сяляўшчына Рас.

ТУ́РКАЎКА *ж.*, ТУРО́К[1], ТУРЧО́К[1] *м., заал.* Мядзведка, шкоднік сельскагаспадарчых культур. *Уся бульба ту́ркаўкай пагрызена.* Быцава Беш. *Гэтым годам туро́к паеў у нас усю моркву.*

Залессе Пол. *Турчо́к апанаваў увесь агарод.* Цясты В.-Дзв. *Ой, лета плахое: развяліся турчкі́ ў агародзе.* Барсукі В.-Дзв.

ТУРКІ́-БАРКІ́ *прысл.* Вельмі шмат (па адлегласці). *Туркі́-баркі́ абышоў і нічога не знайшоў.* Ноўка Віц.

ТУРНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Уцячы. *Мы турну́лі ў лес.* Станіслававова Дубр.

ТУРО́К[1] гл. ТУ́РКАЎКА

ТУРО́К[2] *м., заал.* Конік (насякомае). *Туро́к на нагу ўскочыў і стракочыць: "Тур-р-р-тур-р-р!"* Забор'е Рас.

ТУРЧО́К[1] гл. ТУ́РКАЎКА

ТУРЧО́К[2] *м., заал.* Цвыркун. *Пад печкай турчо́к цэлую ноч турчыць.* Сакольнікі Віц.

ТУ́РЫЦА *ж.* Карова. *Пайду ту́рыцу заганяць.* Кругляны Сен.

ТУРЫ́ЦЦА *незак.* Гнацца, бегчы следам, даганяючы каго-н. *Я відзела, як за ім бык туры́ўся, страшна было.* Кавалі Лёзн.

ТУТ *м.* Мера, ступень чаго-н. *Вы так ядзіцё, што ту́ту не знаеце.* Адаменкі Лёзн.

ТУ-ТУ-ТУ́ *выкл.* Выражае пачуццё палёгкі. *Ой, ту-ту-ту́! Добра, што ўсё так кончылася.* Іванск Чаш.

ТУ́ХМАЛКА *ж., груб.* Твар. *Як біліся п'яныя, дык адзін аднаму ў ту́хмалку і ўрэзаў.* Снегі Міёр.

ТУ́ХНУЦЬ *незак., неадабр.* Спаць. *Яна кажды дзень ту́хніць да абеду, сыну есці не зварыць, так і пойдзець ён у школу.* Дубрава Гар. *Хваціць ту́хнуць, пашлі на вуліцу.* Ноўка Гар. *Цэлымі днямі ту́хніць на печцы, нічога робіць не йдзець.* Дроздава Тал. Параўн. *тру́тніць.*

ТУШАВА́ЦЦА *незак.* Стамляцца, задыхацца. *Я буду тушава́цца, бо трэба спяшыць.* Латышы Глыб.

ТУШАВА́ЦЬ *незак.* Кватараваць. *Тут людзі асоба не разгонюцца, каб пусціць тушава́ць.* Белая Ліпа Сен.

ТУШКАВА́ЦЬ *незак.* Тушыць, варыць на малым агні ў закрытым посудзе. *Бульбу тушку́ем з грыбамі.* Баравуха Пол.

ТУ́ШАНКА, ТУШО́НКА *ж.* Тушаная бульба. *Дастань з печы тушо́нку.* Макаравічы Докш. *Ох і смашная сёння ту́шанка!* Жабыкі Дубр. *На вячэру будзець тушо́нка.* Чэрцы Леп.

ТХАРАВА́ТЫ *прым., асудж.* Нелюдзімы, пануры (пра чалавека). *Пастаянна адзін ходзіць, тхарава́ты хлопец.* Язна Міёр.

ТХЛО *н.* Замор рыбы з-за недахопу кіслароду ў вадзе. *Тхло ў нас рэдка бываіць.* Валынцы В.-Дзв. *Сёлета было тхло ў луцэ.* Воўкаўшчына Глыб. *На абаіх азёрах сёлета тхло.* Гарбачэва Рас.

ТЫМБУ́РАК гл. ТА́МБАР

ТЫ́НКА, ТЫНЯ́НКА *ж.* Пуня. *Вязі сена ў ты́нку.* Гута Уш. *Сена ў нас у тыня́нцы.* Наваселле Уш. Параўн. *таня́нка.*

ТЫРГІ́КАЦЬ, ТЫРГІ́ЦКАЦЬ *незак.* Кульгаць, ісці накульгваючы. *Яна цяпер доўга будзець тыргі́каць.* Соіна Глыб. *Гляджу ў вакно, а там старая баба тыргі́цкаіць з хатулём нейкім.* Сахнавічы Глыб.

ТЫЧЫ́ННІК *м.* Частакол. *Абкасі крапіву каля тычы́нніку.* Стаі Леп.

ТЭНЧО́ВІК *м.* Саматканы дыван. *Нада тэнчо́вік на крэсла заслаць, бо калядаваць прыйдуць, каб пекна было.* Папшычы Глыб.

# У

У АБШЧЫ́ПКУ *у знач. прысл.* Вельмі скупа, эканомна. *Нада сена карове тра́віць у абшчы́пку.* Валынцы В.-Дзв.

УБАДЗЮ́РЫЦЦА *зак., экспр.* Улезці ў што-н. бруднае, непрыемнае. *І пастаянна ён куды-небудзь убадзю́рыцца! То ў гразі выпацкаецца, то каленькі абдзярэ.* Новы Двор В.-Дзв.

УБАЁДАЦЬ *зак.* Загубіць. *Убаёдаў ён яе жыццё.* Марцінаўцы Брасл.

УБАСЦІ́ *зак.* Баднуць, парнуць рогам (пра карову). *Убала́ карова мяне.* Слабада Докш. Параўн. *убо́раць.*

УБЛУ́ТАЦЦА *зак.* Абкруціцца чым-н. *Сёння было халодна, дык ён ублу́таўся ў адзіяла.* Прудок Гар.

УБО́ІНЫ *толькі мн.* Забой жывёлы (свіней). *У суседа сёння ўбо́іны.* Зоськава Арш. *Назаўтра пазвалі на ўбо́іны.* Слабада Уш.

УБО́ІСТЫ *прым., асудж.* Лянівы, гультай. *Я ж казала, што той малец убо́істы, нічога ён табе не зробіць.* Вяцера Чаш.

УБО́ІШЧА *аг., абразл.* Упарты, непаслухмяны чалавек. *Вот убо́ішча, хоць кол на галаве чашы.* Сліжова Паст.

УБО́РАЦЬ *зак.* Баднуць (пра карову). *Асцярожна, наша карова можа ўбо́раць.* Задоры Леп. Параўн. *убасці́.*

УБО́РНІЦА *ж.* Прыбіральшчыца. *Пайшла яна ўбо́рніцай у школу.* Івоніна Шум.

УБУ́СІЦЦА *зак.* Прыбрацца, упрыгожыцца. *Бабка ўбу́сілася і сядзіць ля стала.* Расходна Сен.

УБУЧЭ́ЦЬ *зак.* Набраць вагу, стаць сытым. *Купіла сёлета парася, дык праз месяц так убучэ́ла, як на хлебе пераразімавала.* Пліса Глыб.

У́БЫЛЛЕ *н.* Апошняя квадра Месяца (ветах). *У́былле на небе – тое ж і ў кубле.* Бараны Глыб.

УВАБРА́ЦЦА *зак.* Управіцца з уборкай ураджаю. *Хоць бы ўвабра́цца на полі, пакуль пагода.* Шодзікі Шум.

УВАВІЦЬ *зак.* З'есці ўсё без астатку. *Увавіў усю яду за мінуту.* Бор Чаш.

УВА́ЖЫСТА *прысл.* З павагай. *Зяць да мяне ўва́жыста ставіцца.* Замошша Брасл. *Брыгадзір са мной ува́жыста разгаварвае.* Высачаны Лёзн.

УВАРЫ́ЦЦА *зак.* Упарыцца, спацець. *Як я ўварыўся сёння за плугам!* Селішча Уш. *Так уварыўся на лыжах ходзячы.* Пожанькі Сен.

◊ УВЕ́РХ ПАДКІ́НУТЫ Пра разумова абмежаванага чалавека. *А малодшы сын у іх як уве́рх падкі́нуты.* Янкавічы Рас.

УВЕЧА́ЦЬ *незак.* Упэўніваць, пераконваць. *Увеча́ць яго не трэба, трэба проста папрасіць.* Празарокі Глыб.

УВЁРТАК *м.* Скручаны дубец, вітка для прымацавання чаго-н. *Пятля парвалася, січас увёртак зраблю.* Вялікае Сяло В.-Дзв.

УВІХВА́СТЫ *прым.* Працавіты, увішны. *Дачка мая з малых гадоў была ўвіхва́стая.* Мікіціха Шум.

УВО́РАЦ, УВО́РЧЫК *м., с.-г.* Прыстасаванне, за якое чапляюць плуг. *Іван прасіў уво́рац, ягоны пагнуўся.* Забалоцце Уш. *Уво́рчык забяры ў суседа.* Луначарскае В.-Дзв.

УВО́СНІ *прысл.* У сне. *Уво́сні кажды дзень усё еду і еду некуды.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Уво́сні відзіла бацьку свайго ўчора.* Канашы Гар.

УВЭ́ДЗГАЦЦА *зак.* Вымазацца, запэцкацца. *У што ты гэтак увэ́дзгаўся: гразь не гразь, мазута не мазута.* Замачак Чаш.

УВЯ́ЗАК *м.* Вязанка сена, саломы ў посцілцы. *Там два ўвя́зкі прынесці.* Мікіціха Шум.

УВЯ́ЗЛІВА *прысл.* Упарта, настойліва. *Во курыца дужа ўвя́зліва сядзіць.* Бокішава Шум.

УВЯРНУ́ЦЬ *зак.* Навязаць каго- ці што-н. каму-н. *Ён паняў, што яму дуракавітую ўвярну́лі.* Белае Пол.

УГАВО́РЛІВЫ *прым.* Уступчывы, згаворлівы. *Прыкінь слова, ён угаво́рлівы, паслухаіць зразу.* Стар Арш.

УГА́ДНІК *м.* Знахар. *Даўней бабы да ўга́дніка хадзілі.* Буднікі Беш.

◊ У ГАЛАВЕ́ ДЗЕВЯНО́СТА ДЗЕ́ВЯЦЬ Не хапае розуму. *У цябе ў галаве́ дзевяно́ста дзе́вяць, раз ты так робіш.* Быцава Беш.

УГАЛДЫ́КІ *прысл., экспр.* Вельмі хутка, стрымгалоў. *Я ляцела ўгалды́кі дзверы адкрываць.* Макаравічы Докш.

УГАМАВА́ЦЬ *зак.* 1. Супакоіць, уціхамірыць. *Дзеці такія, што не ўгамава́ць іх.* Марцінаўцы Брасл. 2. Утаймаваць, уціхамірыць, супакоіць. *Нада яго ўгамава́ць, а то на галаву скора сядзіць.* Хацілы Паст.

◊ УГАМО́НКУ НІМА́, УГАМУ́НКУ НЯМА́ Пра таго, каго нельга ўціхамірыць, стрымаць, спыніць. *Угамо́нку німа́ вам цэлый дзень, сядзьце ды пасядзіце хоць троху.* Лужасна Віц. *Вечна на вас*

*угаму́нку няма́.* Урбаны Брасл. *На гэтага хлапца ніколі ўгаму́нку нет.* Савічы Паст.

УГА́РЫ́НА *ж.* Прывязка ў цэпе для малацьбы. *Зярно білі ўга́рынай.* Цясты В.-Дзв. *Угары́ну рабілі са скуры вугроў.* Барсукі В.-Дзв.

УГО́ДА *ж.* Умова, дагавор. *Зрабілі між сабой уго́ду.* Мікалаёва Міёр.

УГРУ́НЬ *прысл.* Вельмі хутка. *Ліса ад мяне як паляцела ўгрунь.* Хацілы Паст.

У́ГРЫЦА *ж., рыб.* Мінога. *У нас у возеры шмат у́грыцы.* Сарочына Уш.

УГУСЦІ́ЦЬ *зак.* Зварыць залішне густую страву. *Угусці́ла кашу – нада даліваць вадой.* Забор'е Шум.

◊ У ДАМЫ́ ПАЕ́ХАЦЬ Паехаць у горад. *Запрагай, у дамы́ паедзем: аўталаўка ў такі снег не пайдзець.* Каменка Тал.

◊ УДА́ЦЦА Ў ПА́МЯЦЬ Надоўга запомніцца. *Удало́ся ў па́мяць, як немец мамку прікладам па галаве біў.* Канашы Гар. *Во гэта мне ў па́мяць удало́ся.* Еўлахі Тал.

УДЗВЕ́ЙГУ *прысл.* Удвая. *А патом ніткі трэба злажыць удзве́йгу, каб таўшчэй былі.* Барсукі В.-Дзв.

УДЗІРКАВА́НЫ *прым.* Пульхны, мяккі, пышны. *На дражджах бліны ўдзіркава́ныя, смашныя.* Казлоўшчына Паст.

УДО́ДНІ *прысл.* На досвітку. *Уставаў удо́дні, клаўся апоўначы.* Ветрына Пол.

УДО́ЎБІЦЦА *зак., неадабр.* Зацята, упарта трымацца свайго (часцей памылковага) пункту погляду. *Сястра як удо́ўбіцца ў што-небудзь, тады ёй ужо нічога не дакажаш, ад свайго не адступіць.* Белая Ліпа Сен.

УДО́Д *м., асудж.* Упарты чалавек, неслух. *Такі ўжо ўдод гэты малец, ніколі не паслухаіць.* Обаль Гар.

УДРУ́ЧЫЦЬ *зак.* Скласці сена ў спецыяльнае прыстасаванне для сушкі. *Сена ўдру́чылі, дык і дажджом высахла.* Янкі Докш.

УДУГАРЯ́ *прысл.* Вельмі, надта (п'яны). *Пашлі ўдугаря́ п'яныя ад іх вечарам.* Адаменкі Лёзн.

УДУ́ХА *ж.* Дыхавіца, задышка. *Чалавек яе на лёгкія хварэў, уду́ху меў.* Баравуха Пол.

УДУ́ШНІЦЦА *зак.* Упарыцца, спацець. *Во як ты ўду́шніўся, спацеў, аж рагі пацяклі.* Лазы Тал. *Так рабіў, што ўдушні́ўся.* Латышы Глыб.

УЕ́ДЗІСТЫ *прым.* Мажны, тоўсты. *Вярнуўся з водпуску – а ўе́дзісты ж стаў!* Хоціна Беш.

УЕ́ДНА *прысл.* Настырна, напорыста. *Ён чырасчур уе́дна прыставаў.* Замошша Брасл.

УЁМІСТЫ *прым.* Умяшчальны, ёмісты. *Не думаў, што вядро такое ўёмістае.* Латышы Глыб. *Гэта торба дужа ўёмістая.* Хацейка Гар.

У́ЖВА *ж., часцей* У́ЖВЫ *мн.* Гуж. *У́жвы к хамуту крэпяцца.* Баравуха Пол.

УЖЫЧО́К *м., памянш.* Вуж. *Ужычкоў з дзецтва баюся.* Верацея Арш.

УЗА́БАЛЬ *прысл.* Сапраўды, па-сапраўднаму, сур'ёзна. *Ты ў мяне ўза́баль плакаць будзеш.* Кошчава Беш. *Я табе гэта ўза́баль гавару.* Латышы Глыб. *Ты ўза́баль кашы наварыла?* Юнькі Паст.

◊ УЗБІ́ЦЦА НА ЛЫ́ЖЫ. Заняць высокую службовую пасаду. *Другі срок на лыжы ўзбі́ўся.* Чарневічы Глыб.

УЗБО́ЛАТАК *м.* Край балота. *На ўзбо́латак пашлі ў ягады.* Раманава Гар.

УЗВА́ЛАК *м.*, УЗВА́ЛЛЕ *н.* Узвышша, узгорак. *На ўзва́лку гумно стаіць.* Сяляўшчына Рас. *Збіралі шчавель на ўзва́ллі.* Старое Сяло Уш.

УЗВА́Р *м.* Накіп. *Знімі ўзвар з каструлі.* Круткі Паст.

УЗВЕРАДЗІ́ЦЬ *незак.* Растрывожыць, расхваляваць. *Што ж ты нарабіла, узверадзіла былое.* Гатаўшчына Глыб.

УЗГНЕ́ЗДЗІЦЦА *зак.* Узлезці куды-н. *Чаго ты туды ўзгне́здзіўся, глядзі ўпадзеш.* Ганкавічы Беш.

УЗДЗЯБУ́РЫЦЦА *зак., экспр.* 1. Узлезці, узабрацца куды-н. *Куды ты з нагамі на канапу ўздзябу́рылася?* Савуткі Шарк. 2. Рана ўстаць. *Уздзябу́рылася сёння ні свет ні зара.* Камаі Паст.

УЗДЗЯБУ́РЫЦЬ *зак.* Апрануць. *Што гэта ты ўздзябу́рыла? Спарышся.* Камаі Паст. *Што ты за сукенку ўздзябу́рыла? Хуценька знімай!* Прамышляды Паст.

УЗДО́ХІ *толькі мн.* Лёгкія. *Баляць нешта ў мяне ўздо́хі.* Бігосава В.-Дзв.

УЗДРО́М *м.* Дрымота. *І такі ўздром на мяне наваліўся, ажно не магу сядзець.* Шчучына Віц.

УЗДЫ́Х *м.* Сурокі, чары, якія, паводле забабонаў, перадаюцца праз паветра. *Уздых знімаю. Цяпер многа ад сурокаў паміраюць.* Ноўка Віц.

УЗЛІ́Ў *м.* Праліўны дождж. *Учора такі хлянуў узлі́ў.* Высачаны Лёзн. Параўн. *улёва.*

УЗЛІ́ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Пасля маіх слоў свякроўка так узлі́лася на мяне.* Клясціцы Рас. Параўн. *усе́рдзіцца, усханабэ́рыцца.*

УЗЛІ́ЦЬ *зак.* Раззлаваць. *Узліла мяне сёння гэта карова.* Забор'е Рас.

УЗНО́Р *м.* Крыніца. *Ва ўзно́ры была самая ўкусная вада.* Полацк. *Калодзец нада капаць на ўзно́ры.* Бокішава Шум. *Схадзі на ўзнор за вадой студзёнай.* Ракава Гар.

УЗРЫЛЛЁ *н.* Ралля. *Заўтра пойдзем узрыллё сеяць.* Старое Лядна Леп.

УЗРЭ́Х *м.* Агрэх, дрэнна ўзаранае, прапушчанае пры ворыве, сяўбе месца. *Наўчыўся пахаць трактарыст: ні аднаго ўзрэ́ха.* Барсукі Дубр. *На ўзрэ́ху трава парасла.* Старое Лядна Леп.

◊ УЗЯ́Ў ЯК УКРА́Ў Вельмі мала (узяў). *Во ўзяў як укра́ў – больши бяр!* Лужасна Віц. *Твой сынок узя́ў як укра́ў ягад з карзіны.* Тур'ева Сен.

УКАСНУ́ЦЦА *зак.* Умяшацца, увязацца. *Яны жылі добра, дык матка ўкасну́лася, і дайшло, што ён яе кінуў.* Station Станіслававa Дубр.

УКА́Т *м.* Кубел, дзежка для сала. *У падсобке ў нас ука́т стаіць.* Янкавічы Рас.

УКА́ЧКА *ж.* Калыска. *Пакладзеш дзіцятка ва ўка́чку, а сама на поле йдзеш.* Чарнія Пол.

УКВО́ЛІЦЬ, УКВЯЛІ́ЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *І чым жа гэта я яе ўкво́ліла?* Кошчава Беш. *Хто гэдак малога ўквялі́ў?* Сахнавічы Глыб. *Слоўцам так можна ўквялі́ць чалавека, што на ўсю жысць памяць астанецца.* Ліпаўкі Докш.

◊ УКІ́НУЦЬ КАЛАТО́ЎКУ Плёткамі пасеяць разлад. *Суседка найдзе добры час і ўкі́не калато́ўку суседу.* Старое Лядна Леп.

УКЛА́Д *м.* Складзеныя для вогнішча дровы, галлё і інш. *Хлопцы пайшлі рабіць укла́д.* Чарневічы Глыб.

УКЛЯШЧЫ́НІЦЦА *зак., экспр.* Прыстаць, прычапіцца да каго-н. *Укляшчы́нілася яна за мужыка на сілу.* Булахі Глыб.

УКО́СНІК[1] *м., часцей* УКО́СНІКІ *мн.* Каснік, стужка. *Упляцеш уко́снікі – і спяваць на вуліцу.* Чарневічы Глыб.

УКО́СНІК[2] *м.* Вяроўка. *Бывала, возьме дзед уко́снік, разложыць яго, наложыць сена і нясець карове.* Адаменкі Лёзн.

УКРЭ́НІСТЫ *прым.* Ломкі, крохкі, непрыгодны для будаўніцтва. *Зрэзаў сасну ўкрэ́ністую.* Даўгабор'е Рас.

УЛЁВА *ж.* Праліўны дождж. *Улёвы ўсё сенца замачылі.* Кругляны Сен. Параўн. *узлі́ў.*

УЛО́ННЕ *н.* Бярэма, ахапак. *Сёння ў печы спалілі толькі ўло́нне дроў.* Замошша Сен.

УЛУ́КАТКІ *прысл.* Няроўна, зігзагамі (ісці). *Пайшоў ад нас улу́каткі, гэдак набраўся.* Стаі Леп.

УЛУПІ́ЦЬ[1] *зак., экспр.* Моцна лінуць (пра дождж). *Во дождж улупі́ў, чуць да хаты дабеглі.* Канашы, Смалоўка Гар. Параўн. *уцерабі́ць.*

УЛУПІ́ЦЬ[2] *зак., экспр.* Хутка з'есці. *Юрка ўлупі́ў дранікі за адзін міг.* Пішчалава Арш., Канашы Гар. *Голад не цётка. Усё ўлупі́ў.* Белая Ліпа Сен.

УЛЯ́К *м.* Спалох, перапуд. *Бабка Наста прынясла зелле ад уляку.* Завыдрына Уш.

УЛЯКНУ́ЦЦА *зак.* Спалохацца, спужацца. *Улякнулася я тады дужа, аж заікацца стала.* Ноўка Гар. *Улякнулася, аж ногі звяло.* Кругляны Сен.

УМАСЦІ́ЦЦА *зак.* Уладкавацца дзе-н. *У новай кварціры ўмасціліся.* Кутняны Пол.

УМАТА́ЦЦА *зак., экспр.* Вельмі стаміцца. *Уматаўся за дзень на рабоці.* Лужасна Віц. *Каб хто-небудзь памог трошку, я так бы не ўматаўся.* Кушняроўка Чаш. Параўн. *ухадзіцца.*

УМЕ́КА *аг.* Спрытны, умелы чалавек. *Ён такі ў мяне ўмека расце.* Смалоўка Гар. *Валодзя быў умека на ўсе рукі.* Рэдзькі Дубр. *У мяне зяць умека на ўсе рукі.* Турчына Міёр. *Умека які знайшоўся – і без цябе абыйдземся.* Дварэц Чаш.

УМЕ́СНА *прысл.* Сумесна, разам. *Хлеў тады ўмесна з ім строілі.* Лужасна Віц. Параўн. *ускоп.*

УМЕ́СНЫ *прым.* Сумесны. *Баня ўмесная – з дзядзькам на дваіх.* Лісна В.-Дзв.

УМІ́ЛКА *ж.* Усмешка. *У нашай дачуркі такая добрая ўмілка.* Станіслававова Дубр.

УМЫКНУ́ЦЬ *зак.* Украсці. *Яму што-небудзь умыкнуць як плюнуць.* Калінавая Міёр. *У суседа ўчора каня нехта ўмыкнуў.* Мядзведзева В.-Дзв.

УМЫ́СНЯ *прысл.* Знарок. *Яна ўмысня ўсё гэта зрабіла.* Іванаўка Гар.

УМЯСЦІ́СЯ *незак., экспр.* Хутка знікнуць, зрабіўшы штосьці дрэннае. *Быстра ён умёўся, як паганяла.* Бортнікі Глыб.

УНЕПРЫКМЕ́ТКУ *прысл.* Непрыкметна, незаўважна. *Вечарам унепрыкметку выйшла з дому.* Кузьмянцы Віц.

УНІ́КНУЦЬ *зак.* Знікнуць. *Куды мая новая блюзка ўнікла? Шукаю-шукаю, не магу знайсці.* Вусава Глыб.

УНІЯ́ТНЫ *прым.* Нягодны, паганы. *Нармальны чалавек так дзяліць не станіць, у яго дажа від уніятны.* Нізы Лёзн.

УНО́С *м.* Медазбор. *Не было ўносу ў гэтым гаду, мала мёду.* Буднікі Беш.

УНО́СНІК *м.* Насоўка. *З кішэні дастаў уноснік.* Вялікая Пярэспа Сен.

УНУ́ЧА *ж.* Унучка. *Унуча мая ўжо вялікая.* Грынеўшчына Докш.

УНЯ́ЦЬ *зак.* Злавіць. *Ці многа рыбы ўняў?* Белая Ліпа Сен.

УПА́Л *м.* Спёка. *Калі ўпал, дык пыл сталбом.* Падбярэззе Тал. *Ну і ўпал на вуліцы, трываць немагчыма.* Загацце Чаш.

ЎПАР *м.*, УПА́РЦІНА *аг., неадабр.* Упарты чалавек. *Надуўся як ўпар.* Вераб'і Глыб. *Кажы ці не кажы ёй, гэтай упа́рціне, то ўсё роўна ўваб'ецца ў сваё.* Замачак Чаш. Параўн. *упо́рына, ура́жына.*

УПА́РЦІСТЫ *прым.* Вельмі настойлівы, упарты. *От ты які ўпа́рцісты.* Мікіціха Шум. Параўн. *упо́рчывы, упо́рысты.*

УПАТРЭ́БІЦЬ *зак.* Спадабаць. *Чаму ж ты булку не ясі? Ці не ўпатрэ́біў?* Кашталянаўшчына Глыб.

УПА́ШКІ *толькі мн.* Застолле па прычыне заканчэння пасяўных работ. *Калі ўжо ўпа́шкі спраўляць будзем?* Старое Сяло Уш.

УПЕРАЗА́ЦЬ *зак., экспр.* З'есці. *Учора ўпераза́ў у Зойкі цэлую міску заціркі. Смаката.* Туркова Міёр.

УПЕ́РАЧЫ *прысл.* Уперадзе. *Я ўпе́рачы была.* Лісна В.-Дзв.

УПІРЫ́ *толькі мн.* Капрызы. *Во моду ўзяла. І каму толькі патрэбны ейныя ўпіры́?* Алексінічы Сен.

УПЛЁТ *м., часцей* УПЛЁТЫ *мн.,* УПЛЁТКА *ж.* Каснік, каляровая стужка, якую ўплятаюць у касу. *Ганна зноў свой уплёт пацірала.* Ступакі Дубр. *Во якія ўплёты, не магу налюбавацца.* Горкі Леп. *Хто маю косаньку распляцець? Хто мае ўплёты пабярэць?* (з песні). Камоскі Беш. *Купіла мне мама, помню, красныя ўплёты.* Шалыгі Віц. *Уплётку ўплятвалі ў косы, так красіва было.* Дуброўна.

УПЛІХНУ́ЦЬ *зак.* Уліць што-н. крыху, у малой колькасці. *Уплíхні мне капусты ў міску.* Баруны Брасл. *Уплíхні мне трохі супу ў міску.* Горкі Шум.

УПЛЮ́ТАЦЦА[1] *зак.* Утапіцца. *А гэны вот уплю́таўся ў возеры.* Коўзаны Паст.

УПЛЮ́ТАЦЦА[2] *зак.* Пад'есці з апетытам. *Як уплю́таўся, дык здэцца, сто гадоў не еў.* Спігальшчына Міёр.

УПО́ПЛЕЧКІ *прысл.* Поплеч, разам. *Мы з сястрой былі пастаянна ўпо́плечкі.* Малотынь Арш. *Калі яны ішлі ўпо́плечкі, усе думалі, што яны муж і жонка.* Маргойцы Сен.

УПО́РКІ *мн.* Палкі, якімі падпіраюць стог з бакоў. *Да стога паставілі ўпо́ркі.* Ластавічы Глыб.

УПО́РУЧ *прысл.* Побач. *Упо́руч паселі ў возе.* Халамер'е Гар.

УПО́РЧЫВЫ *прым.* Упарты. *І ў каго ўдаўся гэты малец, такі ўжо ўпо́рчывы.* Клясціцы Рас. Параўн. *упа́рцісты, упо́рысты.*

УПО́РЫ *мн.* Палкі, якія кладуцца на верх стога. *Упо́ры часцей кладзі, лепей будзе навес накідваць.* Жыгалава Віц.

УПО́РЫНА *аг., асудж.* Неслух, упарты чалавек. *Дзе ты відзела, каб гэта ўпо́рына паслухала каго?* Станіслававa Дубр. Параўн. *ўпар, упа́рціна, ура́жына.*

УПО́РЫНКА *ж.* Падпорка. *Нада паставіць упо́рынку – памідоры падраслі.* Выдрэя Лёзн.

УПО́РЫСТЫ *прым.* Упарты. *Дзіця надта ўпорыстае.* Канашы Гар. Параўн. *упа́рцісты, упо́рчывы.*

УПО́ТЛІВЫ *прым.* Патлівы. *Конь яго слабы, упо́тлівы.* Латышы Глыб.

УПО́ЎЗІНЫ *толькі мн.* Засяленне ў новую хату. *Заўтра ў дачкі ўпо́ўзіны, нада памагчы ёй.* Дрыгучы Міёр.

УПРО́СА *аг., асудж.* Чалавек, якога трэба доўга ўгаворваць зрабіць што-н. *Не будзь упро́саю, папрасілі – і здзелай.* Барсукі Дубр.

◊ УПРЫТРА́ШКУ ДАЦЬ Пайсці ў скокі. *Бывала, як разойдуцца кавалеры, упрытра́шку як даду́ць, усе ногі дзеўкам паадбіваюць.* Макаравічы Докш.

УПРЫЦЁН *прысл.* Падрад, непасрэдна адзін за адным. *Што ж гэта будзіць, калі станем увальняць усіх упрыцён?* Лужкі Шарк.

УПУ́Д *м.* Спалох. *Страшны ўпуд я цяпер перажыла.* Бароўка В.-Дзв. *Бабка даець ваду і ад упу́ду.* Снегі Міёр. *Ці знаеш ты, якія зёлкі ад упу́ду?* Ясева Міёр.

УПУ́ДЗІЦЦА *зак.* Спужацца. *Упу́дзіўся і не пашоў далей.* Ноўка Віц., Канашы Гар.

УПУЦІ́ЦЬ *зак.* Прыбраць, прыняць адкуль-н. *Нада ўпуці́ць мяса са стала, каб кот не з'еў.* Нізкі Гарадзец Тал.

УПЫНЯ́ЦЦА *незак.* Спраўляцца па гаспадарцы. *Пойдзем упыня́цца.* Буйкі Шарк.

УПЭ́ТРУХІ *прысл.* Ушчэнт. *Мой сасед разбіў упэ́трухі сваю новую машыну.* Старое Сяло Уш.

УПЯРУ́ХА *ж.* Каша з пярловых круп з кавалачкамі сала, прыгатаваная ў печы. *Мой муж дужа любіў упяру́ху, і дня не абыходзілася, каб я не зварыла.* Якубова Рас.

УПЯРЭ́ДКІ *прысл.* Наперад. *Бяжы ўпярэ́дкі – яна цябе там чакае.* Коравічы Чаш.

УРАБЕ́ЦЬ *зак.* Спалохацца, спужацца. *Чаго ж ты так урабеў, гэта ж заяц праскочыў.* Стралкі В.-Дзв. *Я ўрабе́ла перад чужым хлопцам.* Хацейка Гар.

УРАБІ́ЦЬ *зак.* Зрабіць што-н. кепскае. *Пэўна ўнучык нешта ўжо ўрабіў.* Ваўкалата Докш.

УРА́ГАВАЦЦА *незак.* Упарціцца, быць непаслухмяным. *Будзеш ура́гавацца – воўк цябе ў лес забярэ!* Новы Двор В.-Дзв.

УРА́ГІ *толькі мн.* Капрызы. *Дзядзька розгачкай як сербануў – дзе яго ўра́гі дзеліся?* Грушава Чаш.

У РАД *у знач. прысл.* Побач. *У рад з намі жыла яе дачка, во так наша хата, а во тута яе.* Веляшковічы Лёзн.

УРАДЖА́ЙЛІВЫ *прым.* Ураджайны. *Гэты год будзе ўраджа́йлівы.* Задроўе Арш.

УРА́ЖЫНА *аг., неадабр.* Упарты чалавек. *Во ўра́жына якая! Нічога не зробіць так, як яе просяць. Ну і характар!* Новы Двор В.-Дзв. Параўн. *ўпар, упа́рціна, упо́рына.*

УРА́З *м.* Хвароба жывата. *Ура́з паяўляецца ад цяжкай работы, натугі.* Мокавічы Чаш.

УРО́ДА *ж.* Ураджай. *Сёлета добрая ўро́да.* Станіслававова Дубр. *У тый год уро́да на ягады выдалась.* Зароўе Леп. *Людзі гадаюць, якая будзіць уро́да на збажыну.* Лужкі Шарк.

УРО́ІЦЦА *зак.* Уявіцца, уздумацца. *Уро́іцца цётцы чорт яго знае што, от і страх наганяе на малых.* Коравічы Чаш.

УРО́КА *ж.,* УРО́ЦЫ *мн.* Сурокі. *Каб у цябе ўро́цы не бывацi.* Ноўка Віц. *Знінацку забале́ла нага. Пэўна ўро́цы.* Макаравічы Докш.

УРУ́ЧЧА *н.* Палка, кій. *Зараз як вазьму ўру́чча!* Селішча Уш.

УРЫ́ВАК *м.* Кавалак, частка вяроўкі. *Зачапіла карову за ўры́вак і павяла дамоў.* Адаменкі Лёзн.

УРЭ́З *м.* Абрэз; вінтоўка з укарочаным, абрэзаным ствалом. *Мы, дзеці, не ведалі, дзе ляжыць бацькаў урэ́з.* Слабада Шум.

УРЭ́КА *ж.* Бераг ракі. *Усе на ўрэ́кі паселі і рыбу ловяць.* Казімірова Пол.

УС *м.* Месца, дзе злучаюцца дзве рэчкі. *За касцёлам находзіцца ус.* Ула Беш.

УСА́К *м.* Сом. *Усакі́ па ямам.* Заазер’е Тал.

УСЕ́РДЗІЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Яна на яго дужа ўсе́рдзілася.* Канашы, Сяло Гар. *І чаго яны на мяне ўсе́рдзіліся?* Арлея Пол. *Сына выгналі: прадсядацель усе́рдзіўся.* Белая Ліпа Сен. Параўн. *узлі́цца, усханабэ́рыцца.*

◊ УСЁ ДУДО́Й Усё вельмі добра. *У школе я была круглай атлічніцай, у мяне было ўсё дудо́й.* Лясснеўшчына Уш.

УСЁНАК *м.* Адтуліна, уваход у рыбалоўную снасць. *У бучу – усёнак, рак заходзіць туды.* Старыя Крукі Міёр.

УСКАЛО́ЦЦА *зак., экспр.* Рана ўстаць. *Ускало́лась ні свет ні зара.* Канева Сен.

УСКО́П *прысл.* Разам, сумесна. *Ды што ты, ско́п добра работу рабіць любую.* Язна Міёр. Параўн. *уме́сна.*

УСМА́Л *м.* Амярцвелая смалістая частка ствала хвоі, якая добра гарыць і выкарыстоўваецца як падпал; смаляк. *Перш усма́л прынясі.* Камень Леп.

УСМЯ́ГНУЦЬ *зак.* Утушыцца (пра ежу). *Каша ў печы ўсмя́гла.* Сухавержжа Міёр.

УСТО́РКНУЦЬ, УСТО́РНУЦЬ *зак.* Абуць, надзець на ногі (звычайна наспех, часова). *Усто́ркнеш бацінкі на ногі.* Гастынічы Тал. *Во, хоць боты ўсто́рні.* Новы Двор В.-Дзв., Канашы Гар.

УСТРАВА́ННЕ *н.* Умешванне; заступніцтва. *Ідзі, без твайго ўстрава́ння абоі́дзецца.* Барсукі Дубр.

УСТРУ́ГАВІНА *ж.* Сухое месца сярод балота. *На ўстру́гавіне многа ягад.* Сухавержжа Міёр.

УСТРЫКНУ́ЦЦА *зак.* Апячыся (крапівой). *Далонь свярбіць – крапівай устрыкну́лася.* Пашкі Шарк.

УСТУПІ́ЦЦА[1] *зак.* Абуцца. *У што мне хуценька ўступі́цца?* Муляры Паст.

УСТУПІ́ЦЦА[2] *зак.* Затупіцца, стаць тупым, нявострым (звычайна пра касу). *Нада касу пабіць, уступі́лася за дзень: вун сколька скасіў.* Краснаполле Рас.

УСТУПІ́ЦЬ *зак.* Затупіць, зрабіць што-н. тупым, нявострым. *Цішай ты тут махай, пападзеш па камню і сразу тапор уступі́ш!* Краснаполле Рас.

УСТУ́ПКІ *толькі мн.* Гумавыя тапкі. *Ідучы спраўляцца па хазяйству, маці надзявала ўсту́пкі.* Іказнь Брасл. *Па гразі не хадзі, абуй мае ўсту́пкі.* Альхоўцы Шарк.

УСТУРЫ́ЦЬ *зак.* Разбудзіць, падняць з ложка. *Устуры́лі мяне сёння ў восем часоў.* Вярхоўе Беш.

УСТЫ́ЦЬ *зак.* Надакучыць. *Яны мне ўжо так усты́лі.* Чарневічы Глыб.

УСУ́ПЛІВАННЕ *н.* Пануры, пакрыўджаны выгляд. *Я зусім не абрашчаю ўніманія на яго ўсу́пліванне.* Забалацце Арш.

УСХАНАБЭ́РЫЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Ну што ты ўсханабэ́рыўся?* Гарбачэва Рас. Параўн. *узлі́цца, усе́рдзіцца.*

УСХО́ДКІ, УСХО́ДЦЫ *толькі мн.* Прыступкі на ганку. *Зімой усхо́дкі так абмёрзнуць, што і дамоў можаш не папасці. Было цяжка ісці – усхо́дцы былі высокія.* Казлоўшчына Паст.

УСЦЁРКА *ж., заал.* Падлешчык. *На гэты раз клюнула ўсцёрка.* Свабодная Сен.

УСЦЯ́Ж *прыназ.* Уздоўж. *Усця́ж нашай мяжы цягнецца суседскае поле.* Ідоўта Міёр.

УСЧЫНІ́ЦЬ *зак.* Шчыльна зачыніць (звычайна пра дзверы). *Дзверы ўсчыні́ добра, каб не ляскалі.* Слабада Докш.

УСЫ́ПІШЧА *н.* Ёмістасць вялікіх памераў, прызначаная для гаспадарчых патрэб (звычайна для ссыпання і захоўвання зерня). *Таз стары не выкідывай: на ўсы́пішча хай будзіць.* Лужасна Віц.

УСЫ́ПКА[1] *ж.* Сып. *Усы́пка пайшла па ўсяму целу.* Слабада Шум.

УСЫ́ПКА[2] *ж.* Насыпка. *Малы не паняў, што нада прынесці ўсы́пку і прынёс на́валачку.* Мікалаёва Міёр.

УСЮ́ДЫХ *прысл.* Усюды. *Усю́дых тут ёсць такія людзі.* Дабрамыслі Лёзн.

УСЯГДЫ́ *прысл.* Заўсёды. *Я дык усягды́ так рана снедаю.* Бортнікі Глыб.

УСЯ́ДЗЬБІНА *ж.* Прысядзібны ўчастак. *Як жа яны жыць думаюць, ежылі ўся́дзьбіну не дагледзюць.* Веляшковічы Лёзн.

УСЯДО́НЧЫК *м.* Услончык, зэдлік. *На ўсядо́нчыку сядзела бабка.* Лужкі Шарк.

УСЯНО́ЧНАЯ *ж., перан* Неспакой, хваляванне на працягу ночы. *Зноў мне за вас усяно́чная.* Опса Брасл.

УТАЛО́Н *м.* Супакой. *Ці будзіць вам, дзеці, калі-небудзь утало́н?* Барсукі Дубр.

УТА́ПТЫВАЦЬ *незак.* Прыніжаць, зневажыць каго-н. *Якая была жызня, калі яго ўта́птывалі на кожным шагу.* Гарэлікі Лёзн.

УТАРО́П *м.* Вар'ят, дурань. *Чаго стаіш, як утаро́п?* Дварышча Шарк.

УТАРПА́ЧЫЦЬ, УТРАПА́ЧЫЦЬ *зак., экспр.* Засунуць, падзець куды-н. што-н. *Куды ўжэ маю сцірку ўтарпа́чыла?* Ноўка Гар. *Ніяк не магу ўспомніць, куды ўтрапа́чыла шапку.* Камоскі Беш.

УТАЎЧЫ́СЯ *зак.* Уладзіцца. *Каб даў Бог усё ўтаўкло́ся.* Забор'е Сен.

УТРАПА́ЧЫЦЬ гл. УТАРПА́ЧЫЦЬ

УТРАПЕ́НІКІ *мн.* Бліны з дранай бульбы. *Сёння зрабіла ўтрапе́нікі.* Ласіца Паст.

УТРУ́ПІЦЬ *зак., экспр.* Шмат з'есці. *Унук мой пасля танцаў учора ўтру́піў усю калбасу і макароны.* Ахрэмаўцы Брасл.

УТУ́ПІЦЦА *зак.* Спыніцца. *Конь уту́піўся і стаіць.* Ноўка Віц.

УТУРНУ́ЦЬ, УТУРЫ́ЦЬ *зак., экспр.* Прабудзіць. *Кладзіцеся цяперака спаць, а то заўтра рана абедзвюх утурну́.* Лазічы Глыб. *Яго ўтуры́ла раніцай, каб касіць у сад ішоў.* Папшычы Глыб.

УТУ́ТАРЫЦЬ *зак.* Згубіць. *Во ўжо зноў дзесь пугаўку ўту́тарыла.* Мурагі Рас.

УТЫ́Л *прысл.* Узад, назад. *Рукі ўтыл, а нос у неба.* Верамееўшчына Дубр.

УФРЫЗО́ЎКА *ж.* Завіўка на валасах. *Мая суседка (у яе рэдкія валасы) зрабіла ўфрызо́ўку.* Калышкі Лёзн.

УХАДЗІ́ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Так за дзень ухо́дзішся, што к вечару ногі не йдуць.* Лужасна Віц., Канашы Гар., Марынцы Чаш. Параўн. *умата́цца.*

УХАЖО́РНІК *м.* Кавалер, залётнік. *Шмат было ў мяне ўхажо́рнікаў.* Высачаны Лёзн.

УХАЙДО́ХАЦЬ *зак., экспр.* Зламаць, разваліць. *Такую машыну ўхайдо́халі!* Дзёрнавічы В.-Дзв., Лужасна Віц.

УХВА́ *ж.* Юшка, рыбная поліўка. *У каструлі шчэ ёсць трохі ўхвы.* Вялікае Сяло Сен.

УХВА́Т *м.* Злодзей. *Гэты ўхват шмат нашкодзіў людзям, але вярнулася яму тое.* Лугавыя Віц.

УХЛЁСТЫВАННЕ *н.* Заляцанне. *Ета ўхлёстыванне не надоўга, цераз месяц кончыцца.* Веляшковічы Лёзн.

УХО́ДАЦЬ *зак.* Завяршыць вялікую, значную працу, перамагчы. *Жаць было многа, але да вечара ніву ўхóдалі.* Латышы Глыб.

УХО́ДЧЫК *м.* Чалавек, які даглядае на ферме цялят; цялятнік. *Дзед мой і бацька былі ўхóдчыкамі.* Таўкіні Шарк.

УЦАГЛЯНЕ́ЦЬ *зак.* Зрабіцца цвёрдым. *Зямля ўцагланéла, нічога не расце.* Слабада Шум.

УЦЕРАБІ́ЦЬ *зак., экспр.* Моцна лінуць (пра дождж). *Ну і дождж уцерабíў, спорны, відаць, надоўга.* Кацілава Міёр. Параўн. *улупíць*[1].

УЦІРА́ЛЬНІК *м.*, УЦІ́РКА *ж.* Ручнік. *Там уцірáльнік беленькі вісіць.* Рудабісць Брасл. *Уцірáльнік во чысценькій бярі ды выцірайся.* Канашы Гар. *Уцíрка вісіць на вешалцы.* Зубава Арш. *Паласкалі ўцíркі ў сажалцы.* Зябкі Глыб.

УЦЮ́ЖНІК *м.* Прас. *Пагладзь гэту блузку ўцю́жнікам.* Зачарэўе Міёр.

УЦЯ́ГІ *мн.* Вяроўкі, якімі ўціскаюць сена на возе. *Скарэй нясі ўця́гі!* Буцавічы Паст.

УЦЯЖКУ́ *прысл.* У стане цяжарнасці. *Уцяжкý пайшла робіць у поле.* Заазер'е Пол.

УЧЫНІ́ЦЬ *зак.* Рашчыніць. *А ён якраз гарэлку ўчынíў і паставіў пад яблыню.* Белая Ліпа Сен.

УЧЫНЯ́ЦЬ *незак.* да УЧЫНІ́ЦЬ. *Вечарам учыня́ю цеста.* Валосава Тал.

УЧЫ́ЦЕЛЬКА *ж.* Настаўніца. *Унучка мая на ўчы́цельку вучыцца.* Князі Віц. *Гэта ўчы́целька зноў мне двойку паставіла.* Абруб Глыб.

УШАЛО́ПАЦЬ *зак., экспр.* Узяць, убіць сабе ў галаву. *Хлопец сабе ўшалóпаў, што яна яшчэ прыедзіць да яго.* Хацілы Паст.

УШУРУ́ПІЦЦА *зак.* Улезці, умяшацца ў якую-н. справу. *І тут яна ўшурýпілася, і тут ёй нада.* Быцава Беш.

УЮН *м.* Фасоль, якая ўецца. *Во сёння ўюн палола.* Новае Сяло Тал.

УЮ́НКА *ж.* Сцежка, якая мае звілісты напрамак. *Глядзі, каб з ую́нкі не звярнуць, бо ў траве гадаў поўна.* Якубова Рас.

# Ф

ФАЕ́РКА *ж.* Канфорка. *Запалі газ на дзве фае́ркі.* Сіцькава Міёр.

ФА́ЙКА *ж.* Люлька, прылада для курэння. *Даўней дзед фа́йку курыў.* Буднікі Беш.

ФАНЕ́РА *ж., заал.* Лешч. *Фане́ра ў рыбакоў – то рыбіна такая плоская і бальшая.* Белая Ліпа Сен.

ФАНЕ́РКА *ж.* Металічны круг, якім закрываюць адтуліну ў пліце. *Каб вада скарэй закіпела, нада зняць адну, а то і дзве фане́ркі.* Цешылава Паст. Параўн. *фая́рка.*

ФАНЕ́РЫНА *ж., адзінк., заал.* Падлешчык. *Ну сколькі фане́рын спаймаў?* Бачэйкава Беш. *Фане́ра ў рыбакоў – то рыбіна такая плоская і бальшая.* Белая Ліпа Сен.

ФА́ПША *ж.* Фельчарка на ФАПе. *Фа́пша маладая і нявопытная.* Сокарава Беш. Параўн. *фельчары́ца.*

ФАРСА́ТЫ *прым.* Ганарлівы. *Мальцы цяпер пашлі нейкія фарса́тыя.* Казімірова Пол.

ФАТЫ́ГА *ж.* Клопат, турботы. *Прыйшла яшчэ тая фаты́га.* Бароўка В.-Дзв. *Фаты́га табе на гэта дзела.* Сардыкі В.-Дзв. *Цяпер адна фаты́га, каб мяне прынялі на работу.* Хацілы Паст.

ФАТЭ́ЛЬ, ФУТЭ́ЛЯ *ж.* Мяккае крэсла. *Не лупі скуру з фатэ́лі, каму буду гаварыць.* Бачэйкава Беш. *У хаце стаялі фатэ́лі і многа рознай мэблі.* Пашкі Шарк. *Каб на футэ́лі яму сядзець толька, што яму табурэцік.* Буцавічы Паст.

ФАЯ́РКА *ж.* Металічны круг, якім закрываюць адтуліну ў пліце. *А ці ёсць у магазіне фая́ркі?* Ахрэмаўцы Брасл. Параўн. *фане́рка.*

ФЕЛЬЧАРЫ́ЦА *ж.* Жанчына-фельчар. *Фельчары́ца ў нас добрая, малодзенькая такая, усягда паможа, пагаворыць.* Пралетарск Гар. Параўн. *фа́пша.*

ФЕ́НХЕЛЬ *м.* Расліна, якую спажываюць у ежу. *Зусім нядаўна я ўзнала, што фе́нхель можна браць для салатаў.* Васюкі Шарк.

ФІЛЕ́Т *м.* Густое варэнне, джэм. *Вазьмі філе́т з чаем і з хлебам.* Пушкі Лёзн.

ФІЛЁНКА *ж.* Пялёнка, прасцінка. *Філёнкі сушацца на шасце.* Канашы Гар., Балаі Паст.

ФІЛІЖА́НКА *ж.* 1. Кубак. *Занясі гасцям гэтыя філіжа́нкі.* Язна Міёр. 2. Чарка. *Ну, кульну адну філіжа́нку, а болей не буду.* Буцавічы Паст.

ФІЛЮ́ЦІЦЬ *незак., экспр.* Падманваць. *Эй, брат, не філю́ць!* Янкавічы Рас.

ФІЛЯ́Р *м., буд.* Шула. *Гэтыя броўны на філя́ры.* Буднікі Беш.

ФІСКАС *м.* Прылада, механізм для пагрузкі лесу. *Фіскас броўны дзяржыць.* Янкавічы Рас.

ФЛАЙКАВА́ЦЬ *незак.* Завіваць валасы на плойку. *Дзяўчаты флайку́юць валасы перад святам.* Дзегцяры Брасл.

ФЛЯНЦО́ЎКА *ж.* Прарошчаная на святле насенная бульба. *Маладую бульбу ў пачатку чэрвеня елі, бо пасадзілі флянцо́ўкай.* Латышы Глыб.

ФО́КУСНЫ *прым.* Дзіўны, незвычайны. *Першы раз сустрэлася з такім фо́кусным чалавекам.* Пашкі Шарк.

ФО́ТАЧКА *ж., памянш.* Фотакартка, фатаграфія. *Сяду ўвечар ды буду фо́тачкі разглядаць.* Бабінавічы Лёзн.

ФРЫЗЭ́РНЯ *ж.* Цырульня. *У гэтай фрызэ́рні робяць самыя лепшыя прычоскі.* Мацюкова Глыб.

ФРЭНЧ *м.* Пінжак. *Ты ж у людзі пойдзеш, надзень свой фрэнч.* Грыгаравічы Леп.

ФУГО́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Падкідваць што-н. уверх. *Так ён шапку сваю фуго́ліў, што патом не злавіў.* Мішкавічы Шум.

ФУ́КСА *ж.* Нажоўка. *На сцяне вісіць дзедава фу́кса.* Снегі Міёр. *Прынясі фу́ксу, зрэжу сухія веткі са слівы.* Цілеўцы Міёр. *Фу́кса – гэта пілка-нажоўка.* Ясева Міёр. *Ён гэтую дравіну фу́ксай і перапіліў.* Проземля Чаш.

ФУЛІ́ГА *ж.* Калёсы для перавозкі сена. *Цяжка ўзлезці на фулі́гу, калі сена ўжо накладзена.* Мілашкі Брасл.

ФУНДАВА́ЦЬ *незак.* Пасылаць, адпраўляць. *Ён дачцэ ў горад усё фунду́е: і грошы, і мяса, і гародніну.* Латышы Глыб.

ФУНДЫ́РЫЦЬ *незак., экспр.* Красці. *І калі яму хопіць: фунды́рыць кожны дзень.* Латышы Глыб.

ФУРАВА́ЦЬ *незак., экспр.* Ганарліва ісці, не звяртаючы ўвагі на іншых. *Фуру́е-фуру́е вун, маладзец такі, ты што!* Гарадзец Шарк.

ФУ́РКНУЦЬ *зак., экспр.* Хутка ўзляцець. *Фу́ркнуць галубы, на ферме іх такая стада.* Буднікі Беш.

ФУ́РЛІКІ *мн.* Від печыва. *Фу́рлікі ўжо спякліся, можна несці на стол.* Вялікае Гальцава Тал.

ФУ́РНУЦЬ *зак., экспр.* Кінуць, адкінуць ад сябе. *Фу́рні далей.* Новы Пагост Міёр.

ФУСО́ЛІК *м.* Насос. *Узяў фусо́лік, каб калёсы накачаць.* Паташня Міёр.

ФУТЭ́ЛЯ гл. ФАТЭ́ЛЬ

ФЫРЧЭ́ЦЬ *незак., экспр.* 1. Храпці, утвараць храп. *Дзед спіць. Чуеш – фырчы́ць ужо.* Бігосава В.-Дзв. 2. Нездаволена гаварыць, бурчаць. *Фырчэ́ў ды пайшоў дамоў.* Новае Сяло Беш.

ФЭ́ЗА *ж.* Модніца. *Ну, фэ́за твая сястрычка, што ні дзень, а ўсё ў новых шатах.* Дрысвяты Брасл.

○ ФЭЛІНА ТРАВА́ *ж., бат.* Пустазельная трава, якая сцелецца па агародзе. *Рады не магу даць. Увесь гарод фэ́ліна трава́ забіла.* Таўкіні Шарк.

# Х

ХАБЗА́, ХАБЗА́ЙНЯ *ж., экспр.* Сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча. *У Гарадку, у хабзе́ там учыцца.* Казловічы Гар. *Дзе ж ты вучыўся? Пэўна, у хабза́йні?* Мацюкова Глыб. *У хабза́йню вучыцца пойдзіць, калі ні паступіць болі нікуды.* Пруднікі Докш.

ХАБУ́НЯ, *памянш.* ХАБУ́НЬКА *ж.* Кладоўка, падсобнае памяшканне для захоўвання сельскагаспадарчых прылад, гародніны, зерня і інш. *У хабу́ні мы розныя прылады захоўваем.* Нярэйша Сен. *Схадзі ў хабу́ню, зерня прынясі.* Коравічы Чаш. *Вазьмі ў хабу́ньцы вілы і граблі.* Верхняе Глыб. *Пасып буракі ў хабу́ньцы.* Празарокі Глыб. *Вазьмі лапату с хабу́нькі.* Язвіна Шум. Параўн. *хламо́ўнік.*

ХАБЭ́РКІ *толькі мн.* Пажыткі, дробныя рэчы. *І тады яго жонушка сваі хабэ́ркі сабрала і паехала назад у свой горад.* Задуброўе Віц.

ХАВАЛКА, ХОВАЛКА *ж.,* ХОВАЛКІ *мн.* Хованкі (дзіцячая гульня). *У хава́лку інцірэсна іграць усім было.* Высачаны Лёзн. *І рад быў гуляць з дзяцьмі ў хо́валку, ды замарыўся ўжо.* Серкавіцы Тал. *У дзецтве ў хо́валкі гулялі.* Езярышча Гар.

◊ ХАДАЛЯ́КУ ДАЦЬ Уцячы, даць ходу. *Тады хадаля́ку далі мы: хто ў кусты, хто ў канаву.* Паташня Міёр.

ХАДЖА́ЛЫ *прым.* Які шмат дзе пабываў, бывалы. *Відаць, гэта быў хаджа́лы чалавек.* Пазнякова Пол.

ХАДЗІ́БЫ *прым.* Здаровы, на сваіх нагах (пра чалавека). *Тады я яшчэ хадзі́бая была.* Сахнавічы Глыб.

◊ ХАДЗІ́ЦЬ З-ПАД УЦЮГА́ Выглядаць акуратна, ахайна. *Я кожны дзень хадзі́ла з-пад уцюга́, як маладая была ды ў школе рабіла.* Гута Паст.

◊ ХАДЗІ́ЦЬ НА ЦЫ́РЛАХ Празмерна дагаджаць, прыслужваць каму-н. *Зінка ўсё жыццё хо́дзіць на цы́рлах перад свякроўю.* Алёнавічы Тал.

◊ ХАДЗІ́ЦЬ ПА ЧУЖЫ́М ГАРО́ХЕ Кваліцца на чужое дабро. *Вот не люблю людзей, што толькі хо́дзяць па чужы́м гаро́хе.* Іказнь Брасл.

ХА́ІЦЬ *незак.* Абгаворваць, нагаворваць, узводзіць паклёп. *Ні нада міне ха́іць пры ўсіх.* Канашы Гар.

ХАЙЛУКО́М *прысл.* Абы-як, як папала, неахайна. *Пакідаў хайлуко́м свае рэчы, мож я іх сабіраць буду?!* Папоўка Сен.

◊ ХА́Й ІХ ПРА́НЦЫ ПАРВУ́ЦЬ Праклён, зламыснае пажаданне. *Ха́й іх пра́нцы парву́ць, калі яны яшчэ раз мае грошы возьмуць!* Шыбекі Арш.

ХА́КАЦЬ *незак.* Задыхацца, цяжка дыхаць. *Што ты ха́каеш? Набегаўся?* Празарокі Глыб. *Пакуль ха́каіш, вады не пі, аддыхайся!* Канашы Гар., Беразіно Докш.

ХАЛАДАВА́ЦЬ *незак.* Адпачываць ў халадку. *А яны сабраліся за хатай у цяньку і халаду́юць.* Коўзаны Паст.

ХАЛЕ́ПА, ХАЛІ́ПА *ж., экспр.* Надвор'е са снегам і дажджом. *Хале́па ўсё засланіла: мокры снег так і лепіць.* Дварэц Чаш. *Як ужо надаела гэтая халі́па, ужо трэцці дзень німа як на вуліцу выйсці!* Сахнавічы Глыб.

ХАЛЁНЫ, ХО́ЛЬНЫ *прым.* Дагледжаны, які добра выглядае (пра чалавека). *Халёнага сабе мужыка нашла.* Канашы Гар. *Нявеста такая хо́льная.* Езярышча Гар. *Толька ў майго дзеда такі конь быў – дужы, высокі, хо́льны.* Мехавое Гар.

ХАЛІ́ПА гл. ХАЛЕ́ПА

ХА́ЛКАЦЬ *незак.* Есці. *Вольга ха́лкаць пашла, пайду і я за ёй.* Празарокі Глыб. Параўн. *ха́маць.*

ХАЛТАМА́ *ж., асудж.* 1. Неакуратная, неахайная жанчына. *А яна такая ўжо халтама́, хоць і дзеўка, страх проста!* Лазічы Глыб. *Да гэтай халтамы́ ў хату ні зайсці: гразь – ногі зломіш!* Янкі Докш. *Усё ў цібе абы-як, халтама́!* Клясціцы Рас. *Ну і халтама́ ж яна, жонка твая!* Мяшкова Тал. 2. Жанчына-пляткарка. *А ці ты знаіш, табе абы сказаць, халтама́ ты!* Прошкава Глыб. *А ні ты відзіла, а ні ты знаіш, ліш бы языком мянціць, халтама́!* Псуя Глыб. *З-за той халтамы́ палова двароў перабрахалася!* Слабодка Леп.

ХАЛТАМІ́ЦЬ *незак.* Рабіць што-н., спяшаючыся, абы-як, з памылкамі і недахопамі. *Ты ж не халтамі́, сядзь, падумай і ўсё ты напішаш, як нада быць.* Мазалава Віц., Мурагі Рас.

ХА́ЛЧЫЦЬ *незак.* Красці. *Працуе ў кладо́вай, думаіць, што людзі ні знаюць, як яна ха́лчыць.* Латышы Глыб.

ХА́МАЦЬ *незак.* Есці. *Ды хваціць ужо ха́маць!* Волкаўшчына Міёр. *Пойдзем гэта мы ў хату ха́маць.* Іванькі Міёр. Параўн. *ха́лкаць.*

ХАМУ́ЗА *ж., зб.* Хмызняк. *Усё хаму́зай пазарастала.* Аліхверы Паст.

ХАМЭ́ЙДА *ж., асудж.* Нязграбная, лянівая жанчына. *Наша суседка такая хамэ́йда: цэлае лета гарод не палола.* Сваташыцы Дубр.

ХАНАБЫ́РІЦЦА *незак.* Фанабэрыцца. *Дачка ейная дужа ўжэ ханабыры́цца – глядзі, а то замуж ніхто не возьміць.* Казловічы Гар. Параўн. *хварсе́ць.*

ХАПАТЛІ́ВЫ *прым.* Хуткі, таропкі, паспешлівы. *Хапатлі́выя рукі ў яе былі.* Мількі Брасл. *Хапатлі́вых людзей праца не любіць.* Кутняны Пол. *Хапатлі́вая такая дзеўка ў яе вырасла.* Ваўчо Уш.

ХАП *м.* Прыстасаванне для пагрузкі, перамяшчэння груза. *Машыну падгоняць, хап паставяць і грузіць будуць.* Янкавічы Рас.

ХАПУ́ГА *аг., асудж.* Прагны да нажывы. *А гэты цягне ўсё дамоў. Во хапу́га!* Прыветак Сен.

ХАПУ́Н *м., экспр.* Ажыятаж, асаблівы попыт. *Як у сізон, летам, дык на сахар хапу́н.* Янкі Докш.

ХАРАБРАВА́ЦЬ *незак.* Ганарыцца, выхваляцца. *Ходзіць, харабру́іць, як індзюк якей.* Ноўка Віц.

ХАРЛА́КА *ж.* Вялікая мятла; дзяркач. *А дзе ты падзеў харла́ку, што ў хляве стаяла?* Мішкавічы Шум.

ХАРТЫ́ *мн.* Зграя, гайня сабак. *Стольki хартóў па вуліцы бегаіць, што выхадзіць страшна.* Мішкавічы Шум.

ХА́ТНІК *м., міф.* Дамавік. *Ха́тніка ўважаць нада, каб грошы вадзіліся, каб склок ні было, каб скаціна ні пала.* Мікалаева Шум.

ХАТО́МКІ *толькі мн.* Клункі з рэчамі. *Прібярі сваі хато́мкі, пакідала во ўсё на пол.* Канашы Гар. Параўн. *хату́ль.*

ХАТУ́ЛЬ *м.* Вялікі клунак. *Сабрала хату́ль і пабегла праз лес да станцыі.* Чыстаполле В.-Дзв. *Хату́ль на плечы павесіла, і пашлі ў лес за ягадамі.* Адаменкі Лёзн. *Усё цягае туды-сюды свае хатулі́.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *хато́мкі.*

◊ ХА́ТЫ СШЫВА́ЦЬ Хадзіць па суседзях, заходзіць у іх хаты без справы. *Гэта зранку (абы толькі ні рабіць нічога!) ха́ты сшыва́ць будзіць.* Празарокі Глыб.

ХАЎРУ́СІЦЦА *незак.* Сябраваць. *Як было выгадна, тады хаўру́сіліся з намі.* Чарневічы Глыб. *Раней яны хаўру́сіліся, а цяпер і не размаўляюць.* Коравічы Чаш.

ХАЎТУ́РЫ *толькі мн.* Пахаванне. *Сёння на сяле хаўту́ры.* Фролкавічы Беш., Канашы Гар. *Памёр сусед. Заўтра пайду на хаўту́ры.* Празарокі Глыб. *Уся дзярэўня на хаўту́ры сабралася.* Язна Міёр. *На хаўту́ры ўсім сялом ходзім.* Верацеі Шарк.

ХА́ХЕЛЬ, ХА́ХЕЛЬНІК *м., экспр.* Кавалер, малады чалавек. *Ужэ новага ха́хеля нашла сабе – маладзец дзеўка!* Канашы Гар. *От, які ў яе красівы ха́хельнік.* Весніно В.-Дзв. *У ўнучкі кажды месяц новы ха́хельнік.* Стралкі В.-Дзв.

ХАХО́Л *м.* 1. Віхор, непаслухмяная пасма валасоў. *На галаве ў цібе два хахлы́ – два разы жанатый будзіш.* Сакольнікі Віц. 2. Чупрына. *Які ў Мішкі хахо́л красівый.* Казімірава Пол.

ХАЦІ́НЦЫ *мн.* Новыя жыхары. *Эта нашы хаці́нцы ідуць.* Абольцы Тал.

ХАЦЯ́МСЯ *злуч.* Хоць. *Хацямся і веріла бабка ў Бога, але ж у цэркаў не хадзіла.* Стаі Лёзн.

ХВАРСЕ́ЦЬ *незак.* Задавацца, фанабэрыцца. *Во хварсіць як! Ты толька паглядзі.* Канашы Гар. Параўн. *ханабырі́цца.*

ХВАСТА́Ч *м.* Кухонны ручнік. *Маці схапіла са сцяны хвастач ды за мной, хацела адлупцаваць.* Горкі Беш.

ХЕ́ЎРА, ХО́ЎРА *ж., груб.* Неакуратная, неахайная жанчына. *Ну і лютаваў ён з хеўры сваёй.* Гута Паст. *Нейкую хоўру сабе ў жонкі ўзяў.* Лужасна Віц. *Пайшла хоўра жыта жаць, забылася серп узяць.* Канашы Гар. *Такой хоўры яшчэ свет ні відзіў.* Клясціцы Рас. Параўн. *халтама́, хло́ндра.*

ХІБА́РА *ж., экспр.* Старая, недагледжаная хата. *Аддзельна хібара стаяла ў дзіреўні – там і сабіраліся: танцавалі, песні пелі.* Езярышча Гар. *Жывём во ў такой хібары.* Гута Паст.

ХІ́ЛЫ *прым.* Слабы, які мае малую сілу. *А ў нас і конік той быў хілы.* Езярышча Гар.

ХІ́СЦЬ *ж.* Сімпатыя, улюбёнасць. *У хлопца да дзяўчыны такая хісць была.* Зубава Арш.

ХЛАМО́ЎНІК *м.* Кладоўка, падсобнае памяшканне. *Прынясі ты з хламоўніка сала.* Янкавічы Рас. Параўн. *хабу́нька, хабу́ня.*

ХЛЁСТКІ *прым.* Вяртлявы, непаседлівы. *Такі ўжо хлёсткі – на месцы ні ўседзіць.* Верхняе Глыб. Параўн. *хо́нды.*

ХЛІХАТА́ЦЬ *незак.* Смяяцца. *А яму абы хліхатаць!* Зелеўшчына Леп. *Як захліхатаў, што мы пачулі.* Мяшкова Тал.

ХЛО́НДРА, ХЛЮ́НДРА *ж., абразл.* Неахайная, безгустоўная жанчына. *Ходзіш, як хлондра якая.* Казіміравa Пол. *Хоць і дзяўчына, а такая хлюндра.* Станіслававa Дубр. *Сніміі ты гэту сукенку, як хлюндра ў ей.* Савуткі Шарк. Параўн. *хе́ўра, хо́ўра.*

ХО́НДЫ *прым.* Хуткі, шпаркі. *Мой малы такі ўжо хонды!* Мікіціха Шум. Параўн. *хлёсткі.*

ХЛОП *м.* Кошык, да якога прывязвалася вяроўка, спецыяльна прызначаны для лоўлі галубоў. *Хлоп апракінуў – пціцу злавіў.* Малыя Лётцы Віц.

ХЛО́ПАЎКА *ж.* Самаробнае прыстасаванне для знішчэння мух. *І дзе ета мая хлопаўка падзелася?* Лужасна Віц.

ХЛУД[1] *м.* Пуга з вузлом на канцы вяроўкі. *Заўсёды хлуд з сабой носіць і сабак лупцуе.* Папоўка Сен.

ХЛУД[2] *н., зб.* Смецце. *Хлуд вынісці нада.* Старое Лядна Леп. *Увесь хлуд чыста вымяла.* Гута Паст.

ХЛУД[3] *ж.* Стрэмка. *Загнаў хлуд сабе ў палец.* Зорнікі Беш. *Загнаў хлуд, так коліцца ў пальцы.* Галбея Паст.

ХЛЫБЫСТА́ЦЬ *незак., экспр.* 1. Сцябаць. *Стаіць і пугай хлыбыстаіць.* Канашы Гар. 2. *перан.* Злоўжываць спіртнымі напоямі.

*А мужык ейный толька знаіць гарелку з дружкамі хлыбыста́ць.* Кулакова Віц. *Каб гарэлку хлыбыста́ць, грошы найдзіць.* Янкі Докш.

ХЛЮ́НДРА гл. ХЛО́НДРА

ХЛЯБУ́Н *м., абразл.* П'яніца. *Хватаіць такіх хлябуно́ў і ў нас, і ў горадзе.* Замошша Брасл.

ХМЕ́ЛІШЧА *н.* Лясная паляна, зарослая хмелем. *Па лясу ідзеш – з хме́лішча такей запах!* Езярышча Гар.

ЧМУТ *м., асудж.* Пустаслоў, чалавек, які гаворыць лухту. *Гэты чму́т будзіць толькі галаву табе тлуміць.* Гарбачэва Рас.

ХО́ЛЬНЫ гл. ХАЛЁНЫ

ХО́У́РА гл. ХЕ́У́РА

ХРАК, ХРЯК *м.* Некастрыраваны кабан, кныр. *У гэтым годзе хра́ка толькі сасед гадуіць.* Леснікі Глыб. *Хра́к, наеўшыся, ляжаў на дварэ.* Вялікі Поўсвіж Леп. *Хра́к наш нешта неспакойны.* Стараселле Леп. *Нашу свінню заўтра да хра́ка нада весці.* Крычава Міёр. *Хра́к чуць дзверы не зламаў.* Антраполле Чаш. *На ферму хра́ка прывязлі – кравівы, у пятны.* Бярэзіна Шум. *У хлеве хра́к рохкаў.* Кардон Шум. *Хря́к – ета кабан, каторый пакрываіць.* Мазалава Віц., Канашы Гар.

ХРАМЕ́Ц *м.* Кульгавы чалавек. *Гэты храме́ц за ім не ўспеіць.* Узмёны Міёр.

◊ ХРА́НЦЫ НА ЦБЕ́! Зламыснае пажаданне, праклён. *Хра́нцы на цібе́! Гад такей расцець!* Канашы Гар.

ХРА́ПА *ж.* Пасечаная, здробненая на корм жывёле гародніна. *Хра́па парублена на корм кабанчыку.* Серкавіцы Тал. *Раніцай хра́пай карміць свінней буду.* Шаркаўшчына.

ХРУ́МКІ, ХРУ́СТЫ, *памянш.* ХРУ́СЦІКІ *мн.* Печыва, хрушчы. *Цэлую талерку хру́мак напяклі.* Чарневічы Глыб. *Бабуля хрусто́ў хацела напячы.* Мікалаёва Міёр. *Так укусна хру́сцікаў з малаком паесці.* Казімірова Пол.

ХРЫБЕ́ТНІК *м.* Пазваночнік. *У мяне так хрыбе́тнік скруціла.* Чарневічы Глыб.

ХРЯК гл. ХРАК

ХУ́ДА *прысл.* Дрэнна (пры характарыстыцы псіхічнага стану чалавека). *Ху́да без роднай хацінкі.* Забелле Беш. *Так ху́да мне была без яго.* Канашы Гар., Высачаны Лёзн.

ХУДА́К *м.* Бядняк. *Па ўсім відаць, што ён худа́к.* Station Станіслававa Дубр.

ХУДО́БЕЛЬ, ХУДО́БІНА *аг., неадабр.* Худы чалавек. *Ну й худо́бель, глядзець німа як!* Латышы Глыб. *Каб болі еў, не быў бы такім худо́бінай!* Янкі Докш. *Яна адна ў дзярэўні такая худо́біна была.* Старое Лядна Леп.

ХУ́НЬКА *ж.* Посцілка. *Нада ўсе ху́нькі вымаць, пакуль пагода стаіць.* Гацькаўшчына Арш.

ХУРТЫ́НА *ж.* Занавеска. *Такая хуртына красівая!* Опса Брасл.

ХУХРА́К *м.* Стары чалавек. *Антон – зусім хухрáк ужо. Сколькі гэта яму гадоў?* Празарокі Глыб.

ХЭНЦЬ *ж.* Жаданне, ахвота. *Няма ні хэ́нці, ні старання.* Урбаны Брасл. *Такая хэнць на яго напала.* Вярэнькі Паст. *Ні кожны такую хэнць мае, каб тут жа за работу*! Ласіца Паст. *Адкінь сваю хэнць ды пасядзі з людзьмі.* Круткі Паст.

# Ц

ЦАВІ́НКА *ж.* Грабільна. *Цавінку ад граблей адламаў.* Мількі Брасл.

ЦАГЕ́ЛЬНЯ *ж.* Узгорысте месца, дзе раней знаходзіўся цагельны завод. *Мы дзецямі з цагéльні на лыжах каталісь.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЦАЛО́ *н.* Месца ў печы перад засланкай, прыпечак. *Скавараду на цалó пастаў.* Сцяпанавічы Гар.

ЦАЛУ́НАК *м.* Пацалунак. *Я доўга гэтага цалýнка ждала.* Міхалінава Лёзн.

ЦАНДА́ЛІ, ЦЫНДА́ЛІ *мн.* Летні абутак, сандалі. *Летам мы цандáлі насілі.* Германавічы Шарк. *Падай ты мне цындáлі, вун яны стаяць.* Сахнавічы Глыб. *Цындáлі свайму малому дужа вялікія купіла.* Гута Паст.

ЦАНЁНЫ *прым.* Паважаны, ушанаваны (пра чалавека). *Як першы раз купаюць дзіця, у ваду ложуць грошы, каб усімі цанёны быў.* Кветча Леп.

ЦАПАВІ́ЛА *н.* Цаўё. *Новае цапавіла зрабі, а то вядром вады не дастаць з калодзежа.* Станіслававова Дубр.

ЦАПО́К *м.*, *часцей* ЦАПКІ́ *мн.* Палок у лазні. *У бані будзеш, дык на цапóк залазь.* Іванск Чаш. *Цапкі ўжо ў бані новыя нада рабіць.* Задоры Леп. *Як вытапіш баню, абдай цапкі кіпятком.* Лазоўка Сен. *Лезь на цапкі, парыць цябе буду.* Нярэйша Сен. *У бані на цапкáх парыліся.* Валосава Тал.

ЦАПЛЮ́К *м.* Кураня. *Шэсць цаплюкóў у курыцы вылупілася.* Янкавічы Рас.

ЦАРЭ́БРЫКІ *толькі мн.* Цацкі; дробныя рэчы. *Параскідвалі во свае царэ́брыкі па ўсёй хаце – хто сабіраць будзе?* Папоўка Сен.

ЦАЦЭ́НЬ *м.* Дранік, блін з бульбы. *Утрам рана ўстану і цацнёў нажару.* Смаляны Арш. *Ну такі цацэ́нь смачны!* Каўровая Дубр.

ЦВЕК *м.* Цвік. *Нагой на цвек наступіў.* Фролкавічы Беш. *Зараз мужыкі цвек убіць не ўмеюць.* Лужкі Шарк.

ЦВІ́ЛЫ *прым.* Спелы. *Марынка прынесла ўжо цві́лыя арэхі.* Мікіціха Шум.

ЦВІ́ЧЫЦЬ *незак.* Дакараць, павучаць; прабіраць. *Так і цві́чыць яго: ці ёсць за што, ці німа за што.* Янкі Докш. *Як цві́чыш іх, дык слухаць ні хочуць.* Лужкі Глыб. *Ён маліц такі шустры – таму бацька яго і цві́чыць ўсё.* Псуя Глыб. *Нас бацька ў дзецтве добра цві́чыў.* Турлы Паст. *У дзецтве мяне так цві́чылі, што будзь здароў!* Папкі Шарк.

ЦВЫ́РКА *ж., зб.* Дробная рыба. *Баця прынясе рыбы многа, дык мы большую сабе, а дзе цвы́рка – кату.* Таўкіні Шарк.

ЦЕРУШЫ́ЛКА *аг.* Ціхае, спакойнае дзіця. *Яе сын, як церушы́лка, – гуляіць сам сабе і не чуваць яго.* Богіна Брасл.

ЦЕ́СЛІ *мн.* Зруб. *Вот це́слі паставіш, тады ўжо ўцяпляць будзіш.* Лігусава Сен.

ЦЕ́СЛЯ *м.* Цясляр. *Це́сля твой з работы прышоў ужо?* Старое Лядна Леп.

ЦЁМНАЯ *ж.* Памяшканне для захавання прадуктаў харчавання, кладоўка. *У цёмнай усё: і кампоты, і варэння.* Старое Лядна Леп. *Схадзі ў цёмную, сахару прынясі.* Залессе Шум.

ЦЁНГЛЯ *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Так у нас цёнгля было.* Докшыцы. *Працаваць цёнгля трэба.* Белішкі Паст. *Яна мне цёнгля наругаецца.* Коўзаны Паст.

ЦЁПКАЦЦА, ЦЯЛЁПКАЦЦА *незак.* Купацца. *Я цёпкацца хачу, пашлі на возера!* Васіліны Паст. *Цялёпкаюцца ў сажалцы, пакуль не надаесць.* Зубава Арш.

ЦЁС *м.* Тонкая дошка, шалёўка. *Новую хату цёсам абівалі.* Матырына Леп.

ЦЁТА *ж.* Цётка. *Схадзіла б ты да цёты сваёй.* Капыльшчына Глыб.

◊ ЦІ ГРЭ́Х ЦІ ДВА! ЦІ ГРЭ́Х ЦІ НЕ! Ужываецца пры нараканні на каго-н. ці што-н. *Сколькі ўжо вам гаварыць можна адно і тое, а да вас усё не даходзіць! Ці грэ́х, ці два!* Янкі Докш. *Як вам не сорамна! Ці грэх ці не! Чаму вы апаздалі?!* Варанцэвічы Тал.

ЦІ́ЖМА *ж.* Непраходны лес, гушчар. *У грыбы некуды схадзіць, ці́жма такая ўсюды.* Кулакова Віц., Машканы Сен.

ЦІКА́ЦЬ *незак.* Уцякаць. *Як звера якога ўбачыш, ціка́й хучэй.* Свірэлі Паст.

ЦІКУ́Н *м.* Дзікарослы мак. *Ён гэты ціку́н збіраў усюды і абтрасаў.* Абольцы Тал.

ЦІНЯНЁХАЦЦА *незак.* Няньчыцца. *Радзіла во рябёнка, дык ніхай ціперь і цінянёхаіцца з ім.* Канашы Гар. *Кінь ты з ей цінянёхацца, яна ж не малая ўжо!* Рошчына Сен.

ЦІНЯНЁХАЦЬ *незак.* Песціць, лашчыць. *Дужа ўжо матка цябе цінянёхаіць.* Канашы Гар.

ЦІ́ПА *ж.* Курыца. *Суседская ці́па ў нас у двары.* Песачанка Сен.

ЦІПЛЯ́ТЫ *мн.* Кураняты. *Ціпля́ты з сабачкам любяць гуляць, аж у будку лезуць.* Канашы Гар. *Каб не ціпля́ты, загарадку б не зачыняла.* Бараны Глыб. *Куды ж ціпля́ты паразбегліся?* Баброва Дубр. *У гэтым годзе нехта палавіну ціпля́т з'еў!* Града Сен. *Гаспадарка невялікая – куры ды ціпля́ты.* Лужкі Шарк. *Ціпля́ты за курыцай бегаюць, дурні малыя.* Бунцікі Шум. Параўн. *цыплю́к.*

ЦІРТА́НІКІ, ЦІРТУ́ШНІКІ *мн.* Дранікі. *Цірта́нікі ўсе ў нас любюць у сям'і.* Канашы Гар. *Цірту́шнікі дзелаць не буду сёння, і не прасіце.* Казловічы Гар.

ЦІРТУ́ХА *ж.* Маса з дранай бульбы, падрыхтаваная для выпечкі дранікаў. *Цірту́хі цэлая міска палучылась.* Ноўка Гар.

ЦІРТУ́ШНІКІ гл. ЦІРТА́НІКІ

ЦІСНЁНКА *ж.* Выцінанка. *Якая ціснёнка красівая.* Рошчына Сен.

ЦІСЦЯ́НЫ *прым.* 1. Ацеслівы, з сырога цеста. *Булка нейкая цісця́ная.* Машканы Сен. 2. *перан.* Тоўсты, поўны (пра чалавека). *Ого, які ты цісця́ны стаў!* Зубава Арш.

ЦІ́ЎКА *ж.* Нітка. *Уцягні ты ці́ўку ў іголку – ні віджу нічога.* Свірэлі Паст.

ЦІХАТА́, ЦІХО́ТА *ж.* Цішыня. *На дварэ ціхата́ такая!* Саколіна Тал. *Увечары на вёскі ніхто не ходзіць, такая ціхо́та!* Фарынава Пол.

ЦІЦЯВІ́НА *ж., адзінк.* Каліва бульбы. *А жукоў на ціцяві́ні!* Лужасна Віц., Канашы Гар. *Нада выкапаць некалькі ціцяві́н бульбы.* Ульянавічы Сен. *Пад адной ціцяві́най столька бульбін!* Сарочына Уш.

ЦМАКТУ́ХА *ж., экспр.* Ледзянец. *Падай мне цмакту́ху хоць адну, хачу ў роце пасаладзіць.* Тупічына Глыб.

ЦМЕ́НТАШ *м.* Могілкі. *На цме́нташ прышлі ўсе, каб з цёткай папрашчацца.* Савуткі Шарк.

ЦО́БЛІЦЬ *незак., экспр.* Курыць, смаліць. *Дзед на вуліцы, цо́бліць стаіць.* Угрынкі Уш.

ЦО́ПУХА[1] *ж.* Брудная анучка. *Вазьмі цо́пуху, я ей падлогу мыю.* Шантары Докш.

ЦО́ПУХА[2] *ж.* Адкрытая частка печы, топка. *Каўбасы над цо́пухай павесіць нада.* Матырына Леп.

ЦУБЭ́СЦІЦЬ, ЦУМБЭ́РЫЦЬ *незак., экспр.* Моцна ліць (пра дождж). *Такі дождж цубэ́сціць.* Мосар Глыб. *Дождж цумбэ́рыць з самай раніцы.* Галбея Паст. *Дождж цумбэ́рыць як з вядра.* Гута Паст.

ЦУГЕ́ЛІЦЬ *незак., экспр.* Шпарка, хутка ісці. *Давай, цуге́ль адсюль.* Воўкаўшчына Міёр. *Куды, Васіль, цуге́ліш з самага утра?* Гараўцы Міёр.

ЦУГАЎЁ *н., зб.* Бацвінне. *Пайду цугаўё абарву свінням.* Заазер'е Тал.

ЦУДАВА́ЦЦА *незак.* Вызначацца сярод іншых дзівацтвам. *Сколькі ён будзіць ужо цудава́цца, людзей смяшыць.* Янкі Докш. *Хваціць цудава́цца, ідзі да жонкі і там жыві, а ні ў мацяры прападай.* Перавозніки Паст.

ЦУДАВА́ЦЬ *незак.* Сваволіць, дурэць. *Пакуль маці на працы, ён будзіць цудава́ць у хаце.* Варапаева Паст.

ЦУ́КАРКА *ж.* Посуд для цукру, цукарніца. *Цу́карку на места пастаў.* Антонаўка Арш.

ЦУКРО́ТКІ *мн.* Дробныя кветкі, падобныя да рамонкаў. *Якія пекныя ў цябе цукро́ткі, ці дасі некалькі флянцаў.* Папшычы Глыб.

ЦУМБРАВІ́НА, ЦЫМБРАВІ́НА *ж.* Цэментнае кольца для калодзежа. *Нада новую цумбраві́ну ў калодзеж.* Волкаўшчына Міёр. *Цымбраві́на з'ехала, места неўдачнае – балота.* Сураж Віц. *На сколькі цымбраві́н ваш калодзісь?* Янкі Докш.

ЦУМБЭ́РЫЦЬ гл. ЦУБЭ́СЦІЦЬ

ЦУРБА́К *м.* Пень. *Толькі цурба́к ад дрэва астаўся.* Гілі Чаш.

ЦУ́РКА, *памянш.-ласк.* ЦУ́РАЧКА *ж.* Дачка. *Што твая цу́рка ўжо вучыцца паехала, ні відаць нешта?* Новы Пагост Міёр. *Да цябе цу́рка мая прыдзіць.* Дварчаны Паст. *Мая цу́рачка настаўніцай будзіць.* Коўзаны Паст.

ЦУ́ЦЫК *м.* Сабака. *Харошы цу́цык мне папаўся, добры сабака вырасце.* Сушчова Віц. *Вымак і змерз, як цу́цык, зуб на зуб ні пападаіць.* Янкі Докш. *Пабыўшы ў лесе, татуся змёрз, як цу́цык.* Савуткі Шарк. *Хведар кожны вечар напіваецца, як цу́цык той.* Мікіціха Шум.

ЦЫБА́К *м.* Цыгарэта-самакрутка. *Раней самі цыбакі́ круцілі.* Янкавічы Рас.

ЦЫБА́ЛКІ *мн.*, ЦЫБА́ЛЛЯ *н., зб.* Доўгія цвёрдыя сцёблы раслін. *Цыба́лкі на часнаку нада абрезаць, перш чым абчышчаць яго.* Канашы Гар. *Тоя цыба́лля наш конь і ні еў.* Ноўка Віц.

ЦЫБА́РЫ *мн.* Цыгарэты. *Бацька ў магазін за цыба́рамі пашоў.* Крывое Сяло Шум.

ЦЫБРА́ХІ *мн.* Карэньчыкі на галоўках цыбулі. *Як пляцём цыбулю, цыбра́хі абразаем.* Опса Брасл.

ЦЫБУ́ЛЕННЕ *н., зб.* Трубчастае лісце цыбулі. *Цыбу́ленне патроху жаўцець стала.* Новы Пагост Міёр. *Цыбу́ленне такое добрае сёлета.* Ваўчо Уш.

**ЦЫ́БЫ** *мн., экспр.* Ногі. *Што цы́бы свае выцягнуў, прайсці ні можна?* Слабодка Леп.

**ЦЫГАНЫ́**[1] *м.* Чорныя грузды. *Вымачаныя цыганы́ смачныя.* Лужкі Шарк.

**ЦЫГАНЫ́**[2] *м.* Гатунак яблыкаў цёмна-чырвонага колеру; малінаўка (?) *Цыганы́ ўжо салодкія, есці можна.* Янкі Докш. *Многа яблыкаў насабіралі, асобенна цыганóў.* Рошчына Сен.

**ЦЫ́ГАЦЬ** *незак., экспр.* Павольна ісці, дыбаць. *Па дарозе нехта цы́гае.* Зубава Арш.

**ЦЫГУ́Н** *м.* Чыгун. *Цыгу́н, мама, я ў печ пасунула.* Абольцы Талач.

**ЦЫ́ЛІКІ** *мн.* Валёнкі. *Цы́лікі абула, па снегу быстра бегчы не магу.* Ула Беш.

**ЦЫМУС** *наз.* Смаката (пра надта смачную ежу). *Вот гэта ўха – такі цыму́с, што не наесціся.* Галбея Паст.

**ЦЫНДА́ЛІ** гл. **ЦАНДА́ЛІ**

**ЦЫНЦА́Р** м. Камар. *А цынцары́ як наляцяць, так і кусаюць і кусаюць.* Ула Беш.

**ЦЫ́ПКІ** *толькі мн.* Скураное захворванне на целе чалавека ад гразі ці бруднай вады. *Сын яе як бальны, у цы́пках увесь.* Лёзна.

**ЦЫПЛЯ́ЧКА** *ж.* Пшонныя крупы. *Мо цыпля́чку зварыць, а то мой скора прыдзе.* Задзежжа, Крывасельцы В.-Дзв.

**ЦЫПЛЮ́К** *м.* Кураня. *Цыплю́к адзін на ножку храмаіць.* Старое Лядна Леп. *Цыплюкóў выпушчу, цёпла на вуліцы, хай на сонцы пагрэюцца.* Докшыцы. Параўн. *ціпля́ты.*

**ЦЫРГУ́Н** *м.* Байструк, пазашлюбнае дзіця. *Нарадзіла ад яго цыргуна́.* Фролкавічы Беш.

**ЦЫ́РЛЫ** *мн.* Абцасы. *Здароўя не хваціць, каб на такіх цы́рлах цэлы дзень хадзіць.* Сушчова Віц. *Як ты ходзіш на етых цы́рлах?* Іказнь Брасл.

**ЦЫРУ́БАЛКІ** *толькі мн.* Кавалкі тканіны. *Колькі цыру́балак пасля шыцця асталося.* Галбея Паст. *Парву тваю рубаху на цыру́балкі зараз.* Куніцкія Паст.

**ЦЭЛЕПЕНЬ** *м.* Абрубак дрэва. *Дрэва як і не было, толькі цэ́лепень валяецца.* Кругляны Сен.

**ЦЭ́ЛКА** *ж., ткац.* Прылада ў ткацкім станку, на якую намотваюцца ніткі. *Цэ́лка залажвалася ў чаўнок.* Казімірова Пол.

**ЦЭ́ЛЬНЫ** *займ.* Увесь, цэлы (паказвае на часавыя адносіны). *Цэ́льную жызнь я ў калхозе адпрацавала.* Кошчава Беш. *Цэ́льны дзень дождж, як неба прарвалася.* Гарадзішча Докш.

**ЦЭ́НЬЦІР** *м.* Цэнтнер. *Уражай з гектара цэ́ньціраў пад дваццаць.* Гілі Чаш.

ЦЭ́ПКІ *прым.* Учэпісты, хваткі, спрытны. *Хлопец ён цэ́пкі.* Новая Яблынька Тал.

ЦЭ́РКАЎ *ж.* Царква. *Як яны жывуць, што ў цэ́ркаў ніхто ні ходзіць?* Янкі Докш. *Я ўсяго разы са тры ў чысты чэцвір у цэ́ркаў схадзіла.* Язна Міёр.

ЦЭ́ТЛІК *м.* Вяровачка, завязка. *Дай мне цэ́тлік які, каб мех во завязаць.* Воўкаўшчына Міёр. *Баба, дай мне цэ́тлік, каб мяшок завязаць.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *цясёмка.*

ЦЭ́ЎКА *ж.* Перадплечча, частка рукі ад локця да кісці. *На цэ́ўку бінт накладзі і два дня так хадзі.* Весніно В.-Дзв. *Уся цэ́ўка ад укусаў распухла.* Задзежжа В.-Дзв. *Так цэ́ўку скруціла, ад лакця і ўніз, што думала, рука аднімецца.* Сахнавічы Глыб. *Як зваліўся з веласіпеда, так цэ́ўку шчасаў.* Мікалаёва Міёр.

ЦЮ́КАЦЬ *незак.* Цкаваць, напускаць сабаку на каго-н. *Не нада на людзей сабаку цю́каць.* Мурагі Рас.

ЦЮКРЫ́ЖЫЦЬ *незак., экспр.* Прагна есці. *Во цюкры́жыць! Відаць, што прагаладаўся.* Ноўка Гар. Параўн. *цю́рыць.*

ЦЮ́ЛІНА *ж.* Цюль. *Нада ўжо цю́ліну перачапіць, парудзела.* Янкі Докш. *А нам дачка дык новую цю́ліну прывезла.* Гута Паст.

ЦЮЛЮЛЮ́КАЦЬ *незак., экспр.* Ціха, манатонна іграць на музычным інструменце. *Хваціць табе ўжэ цюлюлю́каць: надаела за дзень.* Казловічы Гар.

ЦЮЛЮПА́ЦЬ *незак.* Крышыць, здрабняць што-н. *Ні нада хлеб цюлюпа́ць.* Канашы Гар. Параўн. *цюпі́ць.*

ЦЮ́НЯ *ж.* Суп з крапівы і шчаўя. *А я дык цю́ню люблю і са смітанай.* Лазічы Глыб.

ЦЮ́ПА *аг., неадабр.* Нясмелы чалавек. *Ну такі цю́па, нічога сам не зробіць.* Лазічы Глыб.

ЦЮ́ПАНКА, ЦЮ́ПКА *ж.*, ЦЮ́ПКІ *мн.* Ежа з вады або малака, накрышаных кавалачкаў хлеба (булкі) і цукру. *Захацелася цю́панкі, зрабіла пад вечар і са смакам паелі.* Мосар Глыб. *Цю́пку я любіла, як малая была: малака налію, батону накрышу і пасаладжу. Смаката!* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Ці будзіш цю́пку есці?* Грыгаравічы Леп. *Цю́пку елі – за вушы не адцягнуць.* Гараны Пол. *З малаком цю́пку зраблю.* Серкавіцы Тал. *Цю́пак з'ем трошку.* Канашы Гар. *Хлеб свежы, зраблю сабе цю́пкі.* Янкі Докш. *Ну не ряві, я табе січас цю́пкі здзелаю.* Мурагі Рас.

ЦЮ́ПАЦЬ *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Цю́паю з рання да вечара, а што раблю?* Лазы Тал.

ЦЮПІ́ЦЬ *незак.* Крышыць хлеб рукамі ў малако, суп і інш. *Мне хлеб у суп не цюпі́: не люблю.* Мурагі Рас. Параўн. *цюлюпа́ць.*

ЦЮ́ПКА, ЦЮ́ПКІ гл. ЦЮ́ПАНКА

ЦЮ́РА *ж.* Страва з бульбы (тушаная бульба). *Мама цю́ру з мясам прыгатовіла.* Клясціцы Рас.

ЦЮ́РЫЦЬ *незак., экспр.* Прагна есці. *Наліла поліўкі з грыбамі, во ўнукі і давай цюрыць!* Празарокі Глыб. Параўн. *цюкрыжыць.*

ЦЮ́ШКА *ж.* Палонка. *Схадзі па ваду на раку, там цюшка прарублена.* Гараны Пол.

ЦЯ́ГЕНЬКА *прысл., памянш.* Цяжка, дрэнна, невыносна (пра псіхічнае адчуванне). *Як мне цягенька на сэрцы*! Драбушова Беш.

ЦЯ́ГЛА *ж.* Прыстасаванне, палка, да якой прымацоўваецца сетка для лоўлі рыбы. *Хутчэй хватайся за цяглу, а то нехта забіўся ў сетку.* Крывое Сяло Шум.

ЦЯГЛО́ *н.* Цяглавая сіла. *Бацька сказаў, што пры маёй працы пара б мець ужо сваё цягло́, хаця б каня якога.* Мікалаёва Міёр.

ЦЯГЛЯ́ЧАК *м.* Збан для малака. *Цягля́чак разбіўся, малако ліць няма куды.* Булаўкі Пол. *З вядра малако ў цягля́чак пералівалі. У цягля́чку малако самае ўкуснае.* Казімірава Пол.

ЦЯГНУ́ЛЬ *м., экспр.* Конь. *А ты прыдстаў, сколькі ціпер добры цягну́ль стоіць!* Каменка Тал.

ЦЯЖКА́Я, ЦЯЖО́ЛАЯ *прым.* Цяжарная. *Суседка была ўжо цяжка́я шостым.* Фарынава Пол. *Ці знаіш ты, што дачка наша цяжо́лая другей месяц ужэ?!* Вярэчча Гар.

ЦЯКУВА́Н *м.* Пояс. *Падпяразае цякува́н, за стол садзіцца, гасцей ждзе.* Ноўка Віц.

ЦЯЛЕ́ЖКІ *мн.* Павозка, у якую ўпрагаюць каня. *Запражы каня, у цяле́жках паедзем.* Белая Ліпа Сен.

ЦЯЛЁПКАЦЦА гл. ЦЁПКАЦЦА

ЦЯЛІ́ЦА *ж.* Маладая карова. *Цялі́ца ў нас толькі другі год.* Прамышляды Паст.

ЦЯЛО́К *м.* Цяля. *Вот нідаўна пріішла з поля – цялка́ папаіла.* Езярышча Гар.

ЦЯЛЬПУ́К *м., груб.* Нязграбны, нялзатны ні на што чалавек. *Такім цельпуко́м і вырасцеш!* Зубава Арш. *Стаіць гэты цяльпу́к, не варухнецца!* Празарокі Глыб. *Во, глядзі: цяльпу́к па вуліцы пашоў.* Тупічына Шарк. Параўн. *ця́мця-ля́мця.*

ЦЯЛЯ́ТНІК *м.* Таварны вагон, які не прызначаны для перавозкі людзей. *Поезд з цяля́тнікамі на падходзе.* Старое Лядна Леп. *Нас тады перавозілі ў цяля́тніках у вайну.* Абольцы Тал.

ЦЯЛЯ́ПКА *ж.* Працяглае дажджлівае надвор'е. *Калі цяля́пка дарогі размые, то хадзіць неяк.* Тупічына Шарк.

ЦЯ́МКАЦЬ *незак., экспр.* Марудна есці. *Скарэй ты, а то ця́мкаеш, нікуды ні ўспеем.* Лазічы Глыб. *Чуць ця́мкаіць – пакуль паесць, астыніць усё.* Янкі Докш.

ЦЯМО́К *м., экспр.* Галава. *Пастой, падумай, цямо́к свой пачашы.* Кузняцова Віц.

ЦЯ́МЦЯ-ЛЯ́МЦЯ *аг., груб.* Непаваротлівы, няспрытны чалавек. *Такая ўжо ця́мця-ля́мця, слова ні скажыць, стаіць ціханька!* Янкі Докш. *Ну ты і ця́мця-ля́мця!* Кавалі Паст. Параўн. *цяльпу́к.*

ЦЯПЕ́ЛЬЦА *ж.* Вогнішча. *Цяпе́льца запаліш – сагрэешся.* Бешанковічы. *Пайдзём дамоў ужо, цяпе́льца патушы!* Новы Пагост Міёр.

ЦЯПЕ́РАКА, ЦЯПЕ́РАСЯ, ЦЯПЕ́РАЦЬКА *прысл.* Цяпер. *Цяпе́рака людзі саўсім другія сталі.* Задзежжа В.-Дзв. *Цяпе́рака будзім есці.* Мацюкова Глыб. *Што цяпе́рака будзім робіць?* Янкі Докш. *Цяпе́рака не тое, што тады.* Пазнякова Пол. *Цяпе́рака ні будзіць ён выхадзіць.* Лучайка Шарк. *Цяпе́рака пойдзем спаць.* Курылаўшчына Шум. *Цяпе́рася ўсё іначай.* Гудава Зямянскае Дубр. *Цяпе́рацька ўсё па-другому, людзі другія.* Дуброўна.

ЦЯ́ПКА *ж., груб.* Рот. *Поўная ця́пка, чуць перажвеш.* Лужкі Шарк.

ЦЯПЛО́ *н.* Электрычнае святло. *Уключы цяпло́: у хаце цёмна.* Зубава Арш. *Дзень ужэ – цяпло́ пара выключаць.* Канашы Гар.

ЦЯПЛЯ́РНЯ *ж.* Парнік. *У маёй цяпля́рні ўжо столькі красных памідор!* Ураджайная Глыб.

ЦЯПЛЯ́ТНІЦА *ж.* Курыца, якая водзіць куранят за сабой. *Цяпля́тніца толькі прывялася.* Лабачова Беш.

ЦЯПО́ЦЯ *аг., асудж.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Ах ты цяпо́ця! Сам параскідае ўсё, а ты шукай яму!* Тупічына Шарк.

ЦЯПЦЯ́ *н.* Унутраны свіны тлушч. *Спарадкавала мяса ўсё, асталося сёння толькі цяпцю́ пературапіць.* Тупічына Шарк.

ЦЯРО́БКІ *толькі мн.* Шалупінне ад цыбулі. *Каб яйкі пакрасіць, бралі цяро́бкі.* Чарневічы Глыб.

ЦЯСЁМКА *ж.* Вяровачка, завязка. *Дзе цясёмкі дзеліся, каб мяшкі завязаць?* Кудзіны Гар. Параўн. *цэ́тлік.*

ЦЯЎКЦІ́, ЦЯЎПЦІ́ *незак., экспр.* Невыразна гаварыць, бубніць, мямліць. *Зінка толькі цяўкці́ і можа, лепі з нямой гаварыць!* Празарокі Глыб. *Цяўпе́ць адно і тоя, нерваў ні хватаіць яго слухаць!* Янкі Докш.

# Ч

ЧАБАТО́К *м., памянш.* Грэбень. *У суседава пеўня такі чабато́к прыгожы.* Цяцеркі Брасл.

ЧАБУРДЫ́ХНУЦЦА *незак., экспр.* Упасці. *І як ён у гэту сажалку чабурды́хнуўся!* Замошша Брасл.

ЧАКУ́ХА *ж.* Жанчына, якая каго-н. чакае. *Вун чаку́ха тая ўсё сына глядзіць.* Бешанковічы.

ЧАКУ́ШКА, ЧЫКУ́ШКА *ж.* Невялікая бутэлечка, пузырок гарэлкі. *Думаю, не хваціць адной чаку́шкі на дваіх, нада ісці ў магазін.* Серкавіцы Тал. *Узіла ім чыку́шку, хваціць: каб ні ўпіліся!* Янкі Докш.

ЧАЛЕ́СНІК *м.* Месца каля печы, дзе стаяць вілы, чапяла і інш. *Чапяла ў чале́сніку стаіць.* Тумінічы Арш. *Найдзі чапялу ў чале́сніку, прынясі мне!* Карабанавічы Дубр. *Пастаў клюку ў чале́снік.* Касцяні Паст. Параўн. *чапе́льнік.*

ЧАЛО́ *н.* Месца ў печы перад засланкай, прыпечак. *Чало́ ў печы далжно быць чыстым, ухожаным.* Гунчакі Віц. *Чало́ пайду закрыю, некрасіва.* Доўжа Віц. *Над чало́м вешай усё сваё мокрае.* Ноўка Гар. *На чале́ стаяў чыгун з ячневай кашай.* Лужкі Шарк. *Пастаў ты каструлю з супам на чало́, каб не прастыла.* Пескавічы Шум.

ЧА́МЯРВА *ж., зб., лаянк.* Зборышча (дзяцей). *От, чамярва́, што ні кажы, усё роўна сваё!* Слабада Шум.

ЧАМЯРГЕ́С, ЧЫМЕРГЕ́С *м.* Самаробныя гарэлка ці віно. *Выпіў учора нейкага чамяргэ́су, дык сёння дрэнна нешта.* Старое Сяло Уш. *Добрая хазяйка папалася: сразу чымергэ́с на стол.* Тупічына Шарк. Параўн. *ча́ча.*

ЧА́ПАЦЬ *незак., экспр.* Ісці марудна, не спяшаючыся. *За намі ніхто не прыехаў, вот і ча́палі памалу з Зябак да Псуі.* Празарокі Глыб. *Пакуль яна ча́паць будзіць, дык усе разойдуцца.* Матырына Леп. Параўн. *чу́хаць.*

ЧАПЕ́ЛЬНІК *м.* Месца каля печы, дзе ставяць чапялу, вілкі і інш. *З чапе́льніка не забудзь шуму вымесь.* Канашы Гар. Параўн. *чале́снік.*

ЧАПО́К *м.* Вясковы магазін. *Нада за хлебцам і калбаскай у чапо́к схадзіць.* Бачэйкава Беш. *Як чапо́к адкрыўся, так грошы і паплылі.* Выдрэя Лёзн. *Ці хадзіў ты ў чапо́к сёння?* Серкавіцы Тал.

ЧАПО́ТКА *ж.* Пасудзіна малога памеру для піцця; конаўка. *Там жа чапо́тка на полке, туды і налі вады.* Шыбекі Арш.

ЧАРАПА́ХА, ЧАРАПА́ШКА *ж.* Чарпак для вады. *На калодзежы збоку чарапа́ха ляжала.* Клясціцы Рас. *З чарапа́шкі цвяты палівай.* Дворнава Шарк.

ЧАРАПО́К *м., экспр.* Стары аўтамабіль. *Што гэта – машына? Чарапо́к нейкі!* Пруднікі Докш. *У яго ў двару гэты чарапо́к ужо сколькі гадоў стаіць.* Апанаскавічы Уш. *І як ён на гэтым чарапку́ ездзіць?* Кублічы Уш.

ЧАРВІ́ЎКА *ж., экспр.* Пладова-ягаднае віно нізкага гатунку. *Ну і сколькі ён будзіць гэту чарві́ўку піць?* Дольдзева Сен. *Віна ніякага німа, толькі чарві́ўка ў магазіне.* Крывое Сяло Шум. Параўн. *чарні́ла.*

ЧАРЁПКА, ЧАРО́ПКА *ж.*, ЧАРЯПО́К *м.* 1. Глыбокая жалезная міска. *Прінясі са двара сабаччую чарёпку.* Канашы Гар. *Налі халадніку ў чаро́пку.* Слабада Докш. *Супу сабе цэлую чаро́пку наліла.* Кудзіны

Гар. *У чаро́пку пералі.* Булахі Глыб. *Дай мне чаряпо́к якей – супу сабе наллю.* Павулле Уш. 2. Разбітая пасудзіна; бляшанка.*Чаряпо́к не выкідывай: у хазяйстве прігадзіцца, сабаку можна даваць.* Стасева Лёзн. *І пасуды талковай не было после вайны: ложак не было, у чарёпках елі, хто якую найдзіць.* Гунчакі Віц. ЧАРНАМА́ЗЫ *прым.* З цёмнай скурай, смуглы (пра чалавека). *Як і бацька, чарнама́зыя ўсе!* Рунды Міёр.

ЧАРНІ́ЛА *н.* Таннае пладова-ягаднае віно нізкага гатунку. *Усе толькі чарні́ла і п'юць. А што яшчэ піць?* Гарадок. *Зноў травіцца гэтым чарні́лам? Нічога другога не мог купіць?* Серкавіцы Тал. *Толькі адзін за адным у магазін за чарні́лам!* Крывое Сяло Шум. Параўн. *чарві́ўка.*

ЧАРНО́БЫЛЬНІК *м.* Чарнобыль, шматгадовая травяністая расліна, разнавіднасць палыну. *Чарно́быльнік апяць парос – толькі касі!* Завуцце Міёр. *Чарно́быльнік і вырываць цяжка.* Казімірава Пол.

ЧАРНУ́ШКА *ж., бат.* Грыб, чорны грузд. *Чарну́шкі я і не брала, другіх грыбоў было!* Доўжа Віц. *Даўно ў лесе чарну́шак не відзела.* Грамы Пол.

ЧАРНУ́ШКІ *толькі мн., бат.* Чорныя парэчкі. *Чарну́шак у гэтым годзе шмат будзіць.* Чарневічы Глыб.

ЧАРО́ПКА гл. ЧАРЁПКА

ЧАРПЛО́ *н.* Рыбалоўная прылада ў выглядзе чарпака. *Малымі любілі рыбу лавіць: хто вудачку браў, хто чарпло́м лавіў.* Шаркаўшчына.

ЧАРЯПО́К гл. ЧАРЁПКА

ЧАСА́ЛА *н.* Грэбень для часання льну. *Раней не было ўсяго гэтага, а было часа́ла, ім і часалі мы лён.* Літусава Сен.

ЧА́ЧЫЛА *аг., груб.* Нетаропкі, марудлівы чалавек. *Што ты чуць цягнешся, ча́чыла, чуць ногі перастаўляеш!* Сініцы Беш. Параўн. *чаўпе́нь.*

ЧАЎКІ́ *мн.* Калготы. *Паглядзі, у яе ўжо ўсе чаўкі́ падраныя.* Мішкавічы Шум.

ЧАЎПЕ́НЬ *м., груб.* Непаваротлівы, няспрытны чалавек. *Што за маліц у мяне, чаўпе́нь нейкі, не павернецца лішні раз!* Турлаі Арш. Параўн. *ча́чыла.*

ЧА́ХАЎКА, ЧО́ХАЎКА *ж.* Чханне, чыхаўка. *Вот як надаела гэта ча́хаўка, спасу няма!* Лазічы Глыб. *Началася чо́хаўка – так і знай, прастуда.* Янкі Докш. *Апяць чо́хаўка прыбілася.* Велеўшчына Леп.

ЧА́ЧА *ж.* Самаробны спіртны напой, самагон. *Сцяпанаву ча́чу ўся дзярэўня любіць – такая мяккая выходзіць.* Абруб Беразвецкі Глыб. Параўн. *чамерге́с, чымерге́с.*

ЧАШЧАВІ́К *м.* Падбярозавік. *Столькі добрых грыбоў пашло, асобенна чашчавікóў многа.* Мількі Брасл. *Столькі чашчавікóў прынёс!* Латышы Глыб. *Чашчавікóў у лесе поўна.* Сценка Докш. *Калі лета гарачае – чашчавікí ўсе чарвівыя!* Выдрэя Лёзн. *Адных чашчавікóў торбу назбіраць можна.* Ваўчо Уш.

ЧВÁВЫ *прым.* Бяззубы. *Дзед мой даўно ўжо чвáвы.* Мікіціха Шум.

ЧВÁКНУЦЬ *зак., экспр.* Моцна стукнуць, ударыць. *І чвáкнуць яна сільна можыць.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧЭ́РВЫ *мн.* Унутранасці, органы брушной поласці. *Бальны парсючок: усе чэ́рвы чорныя.* Кузняцова Віц.

ЧЫРІДÁ *ж.* Радоўка, чарга пасвіць кароў. *Назаўтра ўжо мая чырідá кароў гнаць.* Езярышча, Канашы, Ноўка Гар. *Вот і мая чырідá ў поле гнаць.* Загарадна Лёзн.

ЧМÁКАЦЬ *незак.* Чвякаць. *Не чмя́кай за сталом!* Бычыха Гар.

ЧМÝНЬКА *аг., неадабр.* Ціхмяны, пакорлівы чалавек. *Вот дык чмýнька: ні пашуціць, ні пасмяецца.* Тупічына Шарк.

ЧÓБАТЫ *мн.* Боты. *Чóбаты адзела на вуліцу выскачыць.* Лісуны Арш. *Чóбаты мае ўжо старыя – нагам холадна.* Кошчава Беш. *Пайду чóбаты адзену, а то гразка на вуліцы.* Петрунова Глыб. *Снімай чóбаты і ідзі ў комнату.* Янкавічы Рас. *Чóбаты як абула, то ў ногі цёпла.* Сарочына Уш. *Чóбаты ў яе былі такія рэзінавыя.* Абольцы Тал. *Ой, які ў яе чóбаты!* Бокішава Шум. *Зараз чóбаты здзену.* Слабада Шум.

ЧÓМБАР *м.* Чабор. *Так добра выпіць чаю з чóмбару.* Фарынава Пол. *З чóмбару чай прыятны.* Шыці Шарк. *Помню, мамка чай з чóмбару заварывала.* Слабада Шум.

ЧÓПКА *ж.* Кладоўка, памяшканне для гаспадарчых мэт. *Ідзі ў чóпку, тапорык прынясі.* Езярышча Гар. *У чóпкі і храню разныя сваі пріправы.* Загарадна Лёзн.

ЧОРНАГАЛÓВІК *м.* Баравік. *У прошлым гаду ў лясу столькі чорнагалóвікаў было.* Высачаны Лёзн. *Поўны кошык чорнагалóвікаў насабіралі.* Серкавіцы Тал. *Чорнагалóвікаў у гэтым годзе ў лесе мала.* Расалай Шум.

◊ ЧÓРТА ГАНЯ́ЦЬ Прабіраць, сварыцца, пясочыць. *Пара мне табе ўжэ, гляжу, чóрта ганя́ць, раз ні панімаіш.* Канашы Гар. Параўн. *чухвóсціць, чыхвóсціць.*

◊ ЧÓРТА ШУКÁЦЬ Безвынікова шукаць што-н. *У лес чорта шукаць пашлі? Якія цяпер грыбы!* Воўкавічы Тал.

◊ ЧÓРЦІК У БРЫЛЁЧКУ Нічога няма. *Усё прапіла: у хаце – чóрцік у брылёчку.* Ноўка Віц.

ЧÓСНІК, ЧÓСНЫК *м.* Часнок. *Нешта ў гэтым годзе чóснік не вырас.* Мацюкова Глыб. *Чоснік сягоння выкапала, трэба ж*

*пачысціць, каб доўга не ляжаў.* Гута Паст. *Увесь мне чóснык зараз павырываюць з такім палоннем.* Грыгаравічы Леп.

ЧÓХАЎКА гл. ЧÁХАЎКА

ЧÓХЛЫ *прым.* Цёмны, неадукаваны. *Цяпер і ў нас падкультурыліся, а раней чóхлы народ быў.* Псуя Глыб.

ЧУБАВÁЦЬ *незак.* Звязваць жыта ў снапы. *Ужо і жыта чубавáць пара прышла.* Дамашы Брасл.

ЧУДЗÍЛА *аг., экспр.* Дзівак. *Ёсць яшчэ ў нас у дзярэўні такія чудзíлы, як Іван, гулёна гэты!* Замошша Брасл.

ЧУДЗÍЦЬ *незак.* Жартаваць, смяяцца. *Бацька мой чудзíць любіў.* Канашы Гар.

ЧУДКÍ *мн.* Калядоўшчыкі. *На Каляды дома сядзелі, а да нас чудкí прыхадзілі.* Дуброўна.

ЧÝЛЫ *прым.* Здаровы. *Не хвалюйцеся, ён чýлы.* Звязда Леп.

ЧУПÓК *м.* Рыбалоўная снасць, сетка для лоўлі рыбы. *Пайшоў мой хлопец на рэчку чупóк ставіць.* Лялеўшчына Гар.

ЧУРБÁЛІНА *ж.* Ажыны. *У лесе збіралі чурбáліну, маліну, другія ягады.* Азёркі Гар.

ЧУХÁНКА *ж.* Хворая дзяўчына, жанчына. *Марыйка слягла зусім, зусім чухáнка.* Бешанковічы.

ЧÝХАЦЬ *незак., экспр.* Ісці павольна, не спяшаючыся. *Торбу з ягадамі на плечы і чýхаем на кірмаш.* Крупеніна Беш. *Чуць чýхаюць па дарозе, а ты жджы-пажджы іх.* Янкі Докш. Параўн. *чáпаць.*

ЧУХВÓСЦІЦЬ, ЧЫХВÓСЦІЦЬ *незак., экспр.* Моцна сварыцца, дакараць, прабіраць, пясочыць каго-н. *Цэлый дзень яго сёння чухвóсціць.* Лужасна Віц. *Ох, і чыхвóсціў мяне бацька ў дзецтве за прагулы ў школе!* Сураж Віц. *Толькі прідзіць дамой – так начну чыхвóсціць, толька пух паляціць.* Загарадна Лёзн. Параўн. ◊ *чóрта ганяць.*

ЧУХÓНКІ *мн.* Санкі. *Зімой на чухóнках толькі ў сваты ці на вяселле выязджалі.* Коравічы Чаш. *Добра зімой на чухóнках праехацца.* Дворкава Чаш.

ЧУХНÁ, ЧÝШКА *ж., груб.* Неакуратная, неахайная жанчына. *Ну Манька ж, як чухнá, ходзіць.* Стасева Лёзн. *Як табе, чýшка, не стыдна так хадзіць.* Сар'я В.-Дзв. *Відаць было, што ў гэтай хаці чýшка нейкая жыве.* Лісуны Арш., Мазалава Віц.

ЧУЧМÍЧКА *ж.* Апалонік, вялікая лыжка для разлівання стравы. *Чучмíчка на прыпечку ляжыць.* Бароўка Леп.

ЧУЧМЭК *м.* Чалавек неславянскай, звычайна каўказскай нацыянальнасці. *Замуж за чучмэка выйшла.* Кулакова Віц. *У вёску чучмэк прыехаў, не такі, як мы.* Чарневічы Глыб. *Яна ж гэтага дзяцёнка ад чучмэка радзіла.* Новая Вёска Докш.

ЧУЧУ́ЙКАЦЬ *незак.* Калыхаць. *У позню ноч малога прыходзіцца чучу́йкаць.* Чарневічы Глыб.

ЧУ́ШКА гл. ЧУХНА́

ЧЫ́КАЦЦА *незак., экспр.* Удзяляць празмерную ўвагу каму-н. *Сколькі можна ўжо з ім чы́кацца!* Пруднікі Докш. *Я з табой чы́кацца не буду!* Круткі Паст.

ЧЫКУ́ШКА гл. ЧАКУ́ШКА

ЧЫМЕРГЕ́С гл. ЧАМЯРГЕ́С

ЧЫПЧЫ́ННІК *м.* Бур'ян. *Хата чыпчы́ннікам зарасла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЧЫРАШЧУ́Р *прысл.* Празмерна. *Ён чырашчу́р да яе прыставаў.* Замошша Брасл. *Чырашчу́р мукі насыпала, тугое цеста будзіць.* Янкі Докш. *Такі ўжо ён чырашчу́р разумны.* Мішкавічы Шум.

ЧЫРВЯТО́ТНЫ *прым.* Чарвівы. *Яблыкаў сёліта многа чырвято́тных.* Канашы Гар.

ЧЫ́РКАЛКІ *мн.* Запалкі. *У хаце чы́ркалкі кончыліся.* Раманчукі Глыб.

ЧЫРКУ́Н *м.* Матацыкл. *Завёў свайго чыркуна́.* Вярэнькі Паст. *Хлопцы праз ноч на чыркуна́х гойсаюць.* Турлы Паст.

ЧЫРЫ́КАЦЬ *незак., экспр.* Падманваць, ілгаць. *Што-та словам тваім не веру, ці не чыры́каеш ты?* Ваўчо Уш.

ЧЫ́СЛЕННІК *м.* Каляндар. *Купі ты мне чы́сленнік на сцяну.* Іказнь Брасл. *Якей там дзень сёння на чы́слінніку?* Канашы Гар. *А якое там чысло сёння ў нас, паглядзі на чы́сленніку?* Мурагі Рас.

ЧЫХВО́СЦІЦЬ гл. ЧУХВО́СЦІЦЬ

ЧЫЧЫЛІ́ЦЬ *незак., экспр.* Ахвотна, прагна есці. *Насыпала трусам кумбікорма, абступілі і ўзяліся чычылі́ць.* Празарокі Глыб.

ЧЭ́МЕР *м.* Вельмі салёная страва. *Халаднік зрабіла, як чэ́мер – есці німа як!* Пруднікі Докш. *Твой суп – чэ́мер настаяшчы! Ну такі салёны!* Лазы Тал.

ЧЭП, ЧЭ́ПЕЛЬ *м.* Ланцужок, за які чапляюць замок, калі зачыняюць дзверы (звычайна ў вясковых хатах). *Вароты на чэ́пі былі зачынены.* Тумінічы Арш. *У вёске хаты толькі на чэ́пі і зачыняюць.* Задоры Леп. *Дзверы на чэ́пе зачыні.* Абольцы Тал. *На чэ́пель павешай замок.* Грабяніца Віц.

ЧЭ́ПЛЯ *ж.* Клямка. *Чэ́пля чуць дзяржыцца ў дзвярах.* Абольцы Тал.

ЧЭ́РАН *м.* Дымаход. *Чэ́ран ужо развальваецца, зімой цяжка будзіць парыманціраваць.* Сахнавічы Глыб. *Дым у чэ́ран не ідзе.* Чарневічы Глыб.

# Ш

ШАБАЛДА́ХНУЦЦА *зак., экспр.* Моцна ўдарыцца аб што-н. *Унук учора як шабалда́хнуўся, дык і цяпер устаць не можаць.* Замошша Брасл. *Зяць страху раманціраваў, паслізнуўся і шабалда́хнуўся на бярвёны.* Мішкавічы Шум. Параўн. *шмя́кнуцца.*

ШАБАЛТО́ЎКА *ж., груб.* Галава. *Сядзіць і круціць сваёй шабалто́ўкай увесь вечар.* Гілі Чаш.

ШАБЕ́ТА *ж.* Сумка, торба. *Сала луста, хлеба кусок, малака бутылка – усё ў шабе́ту пакладзі.* Езярышча Гар. *Пакладу ў шабе́ту яйка варанае, хлеба, ён і пойдзе на ўвесь дзень у калхоз.* Луцік Чаш.

ШАБЛО́ЎКА *ж.* Мёрзлая бульба. *Усяго ў вайну наеліся, дажэ шабло́ўку елі.* Ула Беш. Параўн. *шаймо́ква, шаймо́ры* ў 1 знач.

ШАБУТНЯ́ *толькі адз., экспр.* Гармідар, гоман, бязладдзе. *Як унукі прыедуць – дык кажды дзень у хаце шабутня́.* Ула Беш.

ШАБУТНЫ́, ШАБУШНЫ́ *прым., экспр.* Гарэзлівы, свавольны. *Такіх шабутны́х ніколі не любіла.* Пусташы Пол. *Але малец твой дужа шабушны́ расце.* Машчоны Сен. Параўн. *шкадны́, шухарны́.*

ШАВАЛЬНІ́ЦА *ж.* Жанчына, якая снуе кросны. *Раней многа было шавальні́ц, а цяпер ужо няма.* Відзы Брасл.

ШАЙДА́КА *аг., асудж.* Чалавек, які злоўжывае алкаголем, вядзе асацыяльны лад жыцця. *Думала, на старасць помач будзець, а вырас шайда́ка.* Мішкавічы Шум. *Дзяцей у яе забралі, п'ець толькі, шайда́ка.* Гараны Пол. Параўн. *шаламо́к.*

ШАЙМО́КВА *ж.* Мёрзлая бульба. *Вясной як снег растаіць, дык мы шаймо́кву збіраем.* Абольцы Тал. Параўн. *шабло́ўка, шаймо́ры* ў 1 знач.

ШАЙМО́РЫ *толькі мн.* 1. Перамерзлая бульба, якая праляжала ў зямлі ўсю зіму. *Вясной, як толькі снег спадзець, шаймо́ры па полі іскалі.* Задуброўе Віц. Параўн. *шабло́ўка, шаймо́ква.* 2. Аладкі з мёрзлай бульбы. *Напячэ матка аладак з мёрзлай бульбы – шаймо́ры зваліся.* Вароны Віц.

ШАКАЛА́ДНІЦА *ж., іран.* Жанчына, якая гаворыць ці робіць заўсёды нешта прыемнае. *Яна ўмее дагадзіць – шакала́дніца гэта.* Замошша Брасл.

ШАКАЛКІ́ *толькі мн.* Адкіды, якія застаюцца пасля прасейвання мукі; смецце. *Муку праз рэшата нада прасеіць, а шакалкі́ – свіням.* Сахнавічы Глыб.

ША́КАЎКА *ж.* Самаробная каўбаса. *Самая смачная ша́каўка – у сястры маей: і солі, і прыправы ўдосталь.* Казімірова Пол. Параўн. *шарашэ́йка.*

ШАКРУЛІ́ *толькі мн., рэліг.* Вадохрышча. *На Шакрулі́ я каждый год хаджу ў касцёл.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАЛАМО́К *м., неадабр.* Чалавек, які злоўжывае спіртнымі напоямі. *Сусед твой – шаламо́к: з магазіна не выходзіць.* Ноўка Віц. Параўн. *шайда́ка.*

ШАЛАМЯ́ЦЬ *ж.* Гарышча. *Трэба мякіны трохі на шаламя́ць занясці.* Пліса Глыб.

ШАЛА́НДА *ж.* Вялікі прычэп да трактара. *Бывала, другі ўкос такі, што і на шала́нду не ўкладзеш.* Шпунты Шарк.

ШАЛА́ХТА *аг.*, ШАЛАХТУ́Н *м.* Балбатлівы чалавек, пустазвон. *Ды не слухай ты гэту шала́хту.* Цяпіна Чаш. *Маўчы ты, шалахту́н.* Лынтупы Паст.

ШАЛБАБО́Н *м.* Дэкаратыўная фасоля. *А шалбабо́ну сёлета не ўрадзіла.* Дварчаны Паст. *Я каля хаты шалбабо́н саджу.* Дунілавічы Паст.

ШАЛІНО́ЎКА, ША́ЛІЎКА *ж.* Кашміроўка, кашміровая хустка. *Фуфайку на голыя плечы накінула, а на галаву – шаліно́ўку.* Папшычы Глыб. *Цяпер дзеўкі і зімой ша́ліўкі не носяць.* Канашы, Філімонава Гар.

ШАЛО́МАК *м.* Невялікае ўзвышша, узгорак. *Там, ля ракі, шало́мак такі ёсць, адтуль усё відаць.* Дварэц Чаш.

ШАЛУДЗЕ́НЬ *м., экспр.* Гарэза, няўрымслівае дзіця. *Во малы шалудзе́нь расхадзіўся, цяпер і спаць не ўкладзеш.* Паўазер'е Беш. Параўн. *шна́йда, шпунт.*

ШАЛУПА́ *ж., часцей* ШАЛУ́ПКІ, ШАЛУПЯ́ТЫ, ШАЛУПЯ́КІ, ШАРЛУ́ШКІ *мн.* Шалупінне. *Шалупу́ з лучшай бульбачкі саскрабу, бульбачку звару сабе есці, а шалупу́ гэту курам.* Астроўна Беш. *А быў адзін немец, дык ён нам шалу́пкі ціха аддасць – во радасці было!* Вароны Віц. *І не помню, куды дзела вядро з шалу́пкамі.* Туркова Міёр. *У вайну і шалупя́там рады былі.* Задуброўе Віц. *Сёння хачу шалупя́ты свіням зварыць, каб заўтра пліту не цепліць.* Сарокі Глыб. *Я шалупя́кі збіраю і парсюку аддаю.* Азяркі Тал. *Шарлу́шкі можна выкінуць вон.* Радчанкі Гар. *Мышы пахадзілі па верандзе – ад бульбы адны шарлу́шкі асталіся.* Мурагі Рас.

ШАЛУПЕ́НЬ *ж., экспр.* Дробныя ягады. *Вішні сёлета – адна шалупе́нь.* Мікіціха Шум. Параўн. *шу́ядзь.*

ШАЛУХА́ *ж.* Перхаць. *Столькі шалухі́ на галаве, нічога не памагаіць.* Папшычы Глыб.

ШАЛЫ́ГА *аг., груб.* Той, хто падманвае, хлус. *Жыў у нас адзін такі шалы́га даўней.* Дварэц Чаш.

ШАЛЫ́НДА *ж., неадабр.* Непрыгожая, нязграбная дзяўчына. *Верчына дачка такая ўжо шалы́нда.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШАМА́ЛІЦЦА *незак.* Варушыцца, варочацца. *Стары мой не спіць, усю ноч шама́ліцца ў ложку.* Гарадзец Шарк.

ШАМШЭ́ЦЬ *незак.* Шамацець. *Сена ўжо такое сухое, што аж шамшыць пад нагамі.* Сарочына Уш.

ШАНДО́ЛЛЕ *н., зб.* Старое, паношанае адзенне. *Столькі шандо́лля назбіралася, каб аддаць каму.* Фарынава Пол.

ШАНДРА́К *м.* Бедны чалавек, бядняк. *У нашай дзярэўні і цяпер шандрако́ў хватаіць.* Задуброўе Віц.

ША́НІКІ, ША́НЮШКІ *мн.* Печыва з тварагу, сырнікі. *Унукі надта ж ша́нікі любяць.* Дварчаны Паст. *Дачка навучылася такія смачныя ша́нюшкі з тварагу рабіць.* Заессе Чаш.

ШАНТАЛО́СЫ *толькі мн.* Клёцкі з бульбы. *Шантало́сы ў нас часцей былі посныя – з грыбамі ці з капустай.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ША́НЦТВА *н., толькі адз.* Шанцаванне, удача. *Не было мне ў жыцці такога ша́нцтва.* Віркі Чаш.

ША́НЬКА *ж.* Кошык. *Не магу ўжо рабіць. Во адну ша́ньку накапала сёння і ўсё.* Баршчоўка Віц. *Набраў цэлую ша́ньку яблак.* Латыгалічы Чаш.

ША́НЮШКІ гл. ША́НІКІ

ША́ПА, ШКА́ПА *ж.*, ШКАП *м.* Шафа. *Во паглядзі, у мяне ў ша́пе сколькі адзежы.* Нямойта Сен. *У шка́пі вазьмі ручнік чысты.* Стайкі Арш. *У шка́пу кладзём адзежу, насыпкі, настольнікі.* Тумінічы Арш. *Бяры вон у шкапу́ куртку надзівай, а то на дварэ халодна, захвареіш яшчэ.* Вадзянікі Гар. *У шкапу́ ў мяне многа адзежы вісіць.* Адаменкі Лёзн. А *мне ўчора новы шкап прывязлі.* Кавалі Лёзн. *Хочаш, дык паглядзі: у мяне шкап пусты, пааддавала ўсё.* Лазоўка Сен. *Ты ніколі не зачыняеш шкап.* Апанаскавічы Уш. *Бывала, і шкап вязлі ў пасаг.* Мікіціха Шум.

ША́ПАТНІК *м., бат.* Дзядоўнік. *Ліст ша́патніку прыкладзі да нагі – і балець не будзець.* Сарокі Глыб. *Нядобра, калі ша́патнік у гародзе расцець.* Шкунцікі Шарк.

ШАПО́РКАЦЦА *незак.* Шамацець, утвараючы лёгкі шум, кратаючы што-н. *Шапо́ркаўся нехта ноччу пад вакном.* Лужасна Віц.

ШАПУ́НЬКА *ж.* Хлеў, гаспадарчая пабудова. *А гэта наша шапу́нька, скалочваў яе гадоў дзесяць таму.* Ула Беш.

ШАПЯ́НКА *ж.* Невялікі стог сена. *Сена ў шапя́нкі складывалі, гэта мы ўжо з маткай рабілі пастаянна.* Лескавічы Шум.

ШАПАРНУ́ЦЬ, ШАПЯРНУ́ЦЬ *зак., экспр.* Ціха сказаць на вуха каму-н. *А ей тады ціханька шапарну́ла на уха.* Хайсы Віц. *Шапярні́ брыгадзіру – хай дасць каня.* Сарокі Глыб.

ШАПЯТЛІ́ВЫ *прым.* Шапялявы. *Малы гэты дужа шапятлі́вы, да доктара нада.* Воўкаўшчына Міёр.

ШАРАВА́НКА, ШАРАВА́ШКА, ШУРАВА́ЛКА *ж.* Анучка, губка для мыцця посуду. *Вазьмі шарава́нку: рукой талерку не вымыеш.* Сарокі Глыб. *Бяры шарава́шку, рукамі талеркі не памыеш.* Фарынава Пол. *Цяпер ёсць спецыяльныя шурава́лкі пасуду мыць.* Снягі Міёр.

ШАРАВА́РКА *ж.* Вялікі чыгун, у якім топяць у печы нутраны тлушч, сала. *Спачатку ў шарава́рку сала накладзі, тады ўжо на агонь стаў.* Пашкі Шарк.

ШАРАВА́ШКА гл. ШАРАВА́НКА

ШАРАВУ́ХА *ж., экспр.* Шаравая маланка. *Як гром, дык вокны зачыняем, а то яшчэ шараву́ха заляціць.* Сарокі Докш.

ШАРА́К *м.* Шэры заяц. *Шара́к асмялеў, людзей саўсім не баіцца.* Сарокі Глыб.

ШАРАМЫ́ГА *аг., неадабр.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Ён усё жыццё ходзіць, як шарамы́га.* Селішча Уш. Параўн. *шму́йла.*

ШАРАНЕ́ЦЬ *незак.* Адчуваць холад, замярзаць. *Нос шаране́іць, і рукі як не мае.* Фарынава Пол.

ШАРАШЭ́ЙКА *ж., кулін.* Вантрабянка. *Як заколім парсюка, дык наробім шарашэ́йкі поўны таз.* Пашкі Шарк. Параўн. *ша́каўка.*

ШАРБА́ *ж.* Рыбны суп. *Шарбы́ наварым з рыбай – укусна так, пад'ядзім усе.* Шыбекі Арш.

ШАРГУ́Н, ШО́РАЖ, ШО́РАХ *м., толькі адз.* Шарпак. *Па шаргуну́ раніцай ісці добра.* Празарокі Глыб. *На дварэ шо́раж такі ляжыць.* Азёры Дубр. *Па шо́раху дойдзеш і без лыжаў.* Мярэцкія Глыб.

ШАРГУНЫ́ *толькі мн.* Крокі. *Даўней, як субота, то і чуеш вечарам шаргуны́ каля хаты: маладзёны да дзевак ідуць.* Баршчоўка Віц.

ША́РКІ, ШО́РКІ *толькі мн.* Бомы. *Чую: шумёлы, ша́ркі звіняць з-за пагурка, гармонік іграіць.* Квачы Глыб. *Нявесту тады вазілі на кані з шо́ркамі.* Ветрына Пол. Параўн. *шархо́ткі.*

ШАРЛУ́ШКІ гл. ШАЛУПА́

ША́РНУЦЬ *зак., экспр.* 1. Рэзка кінуць што-н. *Шуму гэту ў мех збяры ды ша́рні далей у кусты.* Шылава Глыб. Параўн. *шва́ркнуць* у 1 знач. 2. Моцна стукнуць, нанесці ўдар па кім- ці чым-н. *Ша́рнуў добра па кабыле – яна і паняслася.* Булахі Глыб. Параўн. *шва́ркнуць* у 2 знач.

ШАРО́ЦЦЕ *зб., толькі адз.* Вяснушкі, рабацінне. *Уся ў шаро́цці цяпер, нядаўна паявілася.* Старое Лядна Леп. *Ва ўнучкі ўвесь твар у шаро́цці, але перарасцецъ, пэўна.* Варкі Чаш.

ШАРСЦЕ́НЬ *м.* Шэршань. *У баню шарсце́нь заляцеў, ніяк не выгнаць.* Стараселле Леп. *Шарсце́нь за руку схваціў.* Балаі Паст. *Шарсце́нь гнязд*о *можаць рабіць і ў траве.* Лучайка Шарк.

ШАРСЦЯ́НКА *ж.* Цёплая шарсцяная хустка. *Даўней зімой усе шарсця́нкі насілі.* Каўровая Дубр.

ШАРХО́ТКІ *толькі мн.* Бомы, званочкі. *Даўней шархо́ткі пачэпяць на каня, здалёку чуваць, што свята нейкае.* Сарокі Глыб. Параўн. *ша́ркі, шо́ркі, шумёлы.*

ШАРХУЛІ́ *толькі мн., кулін.* Бульбяныя клёцкі з мясам. *Шархулі́ сёння на славу ўдаліся.* Узрэчча Глыб. *Шархулі́ мае сёння як ніколі ўдаліся.* Камайск Докш.

ШАРША́ТАК *м.* Шаршатка. *Скуру такую нічым не прадзіравіш, тут нада шарша́так.* Вымна Віц.

ША́РЫ *прым.* Шэры. *Летась кошка прывяла аж трох ша́рых кацянят.* Ваўчо Уш.

ША́РЫЦЬ *незак., экспр.* Шукаць, настойліва імкнуцца знайсці што-н. *Нехта ў істопку залез ноччы, самагонку, пэўна, ша́рыў.* Зялёнка Пол.

ША́СТАЦЬ *незак., экспр.* Бадзяцца, сланяцца, марна траціць час. *Чаго ты ша́стаеш, рабіць няма чаго?* Мазалава Віц.

ШАСТРА́К *м., экспр.* Спрытны, шпаркі, шустры чалавек. *Я ў маладосці шастра́к быў: за дзесяць кіламетраў на танцы хадзіў.* Радзюкі Шарк.

ШАСЦІ́НЫ *толькі мн., абрад.* Памінальны абед з нагоды сарака дзён па памерлым. *На шасці́ны прыйдзем, памянём добрага чалавека.* Тумінічы Арш. *Сястра мая будзець шасці́ны спраўляць, і нас звала.* Шыбекі Арш., Лужасна Віц., Канашы Гар. *Нада шасці́ны спраўляць па мужу.* Сар'я В.-Дзв. *На шасці́ны людзі збяруцца, трэба ж нешта на стол паставіць.* Фарынава Пол.

ШАТА́ЦЦА *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Гаспадар у хлеве недзе – пайшоў ужо шата́цца.* Вярэнькі Паст.

ША́ТКІ *прым.* Ненадзейны чалавек, здольны падмануць. *Узяла сабе прымака, а ён крэпка ша́ткі.* Ула Беш.

ШАФАНЕ́Р *м.*, ШАФАНЕ́РА *ж.* Шыфаньер, шафа для адзення. *І новы шафане́р нада было б купіць.* Міхалінава Лёзн. *Дачка напрывозіла ўсякага, вун поўны шафане́р.* Фарынава Пол. *У такую шафане́ру мама ўсю адзежу клала і на ключ закрывала.* Баравікі Сен.

ШАФА́РНЯ *ж.* Скрыня для захоўвання збожжа, мукі. *Муку зазвычай ссыпаем у шафа́рню.* Мярэцкія Глыб. *Я дык і зярно, і муку ў шафа́рню сыплю.* Аўсянка Міёр. *Мукі няма, шафа́рня даўно ўжо пустая.* Мікалаёва Міёр.

ШАФЭ́ЧКА *ж.* Кухонны стол з тумбачкай. *Адкрый шафэ́чку і паглядзі – там алей недзе ёсць.* Квачы Глыб. *У шафэ́чцы вазьмі міскі і пастаў на стол.* Ураджайная Глыб. *Сахар, мука, крупы – ой, цэлая шафэ́чка застаўлена.* Воўкаўшчына Міёр. *Усё, што табе нада, знойдзеш у шафэ́чцы.* Норыца Паст.

ШАХА́ *ж.* Пуня. *Тады шаху́ добрую зрабілі, новую.* Баравікі Сен.

ША́ХВЕР *м.* Шафер. *Раней не сведкі на свадзьбі, а ша́хверы называліся.* Яроненкі Гар.

ША́ХВЕРКА *ж.* Шаферка, старшая дружка нявесты ў вясельным абрадзе. *Болей за ўсіх мне ша́хверка спадабалася.* Кухты Глыб.

ШАШО́К *м., толькі адз.* Страва з дранай бульбы з мясам. *Як дзеці прыязджаюць, пастаянна шашо́к раблю.* Пераброддзе Міёр.

ШВА́ГРА *м.* Швагер. *Заўтра шва́гра прыйдзець, удваіх зробім.* Сарокі Глыб. *Ён жа мой шва́гра, як я не памагу?* Лынтупы Паст., Пачаевічы Чаш.

ШВАЛДЫ́ГА *аг., неадабр.* Занадта гаваркі чалавек, балбатун. *Нічога толкам не скажаць – швалды́га і ўсё.* Трыгубцы Віц.

ШВА́ЛЬНЯ *ж.* Кравецкая майстэрня. *Тут некалі шва́льня была, дык бацька мой у іх печкі цепліў.* Пашкі Шар.

ШВАНДЭ́ЛАК *м.* Кумпяк, кавалак (сала, мяса). *У пуньцы ў сетцы падвешаны швандэ́лак сала. Схадзі, прынясі.* Снегі Міёр.

ШВА́РКА *ж.* 1. Куртка, кароткая верхняя вопратка. *Шва́рку тваю ўжо моль з'ела, а ты ўсё носіш.* Аўсянка Міёр. *Глядзі, шва́рку сваю не забывай.* Празарокі Глыб. *Накіну шва́рку – і пабегла па карову.* Савуткі Шар.

ШВА́РКНУЦЬ, ШВА́РНУЦЬ *зак., экспр.* 1. Кінуць што-н., адкінуць ад сябе. *Куды ўжо куртку маю шва́ркнуў?* Гараўцы Міёр. *Мальцы дровы аж на канюшыну шва́рнулі.* Ветрына Пол. Параўн. *ша́рнуць* у 1 знач., *шпуля́ць, шты́рнуць.*2. Стукнуць, ударыць каго-н. *Січас як шва́ркну – будзіш знаць!* Ноўка Гар. Параўн. *ша́рнуць* у 2 знач.

ШВЕД *м., заал.* Жук-караед. *Як дрэва папорчана, дык кажуць: "Швед патачыў".* Гарбачы Беш. *Усе дрэвы ў лесе швед папорціў.* Ноўка Віц. *Усё на верандзе швед папорціў.* Селішча Гар. *Бок ліпы швед патачыў.* Кардон Шум. *Пень крэпка стары, увесь шве́дам паточаны.* Обаль Шум.

ШВЕ́РКАЛА *аг., экспр.* Чалавек, які шапялявіць, невыразна вымаўляе словы. *Як прыйдзець гэты шве́ркала, дык увесь магазін ад смеху дрыжыць.* Бачэйкава Беш.

ШВІ́ВА *ж.* Шыццё. *Багата шві́ва назбіралася, а часу німа.* Чарневічы Глыб.

ШВІ́ЛЬНЫ *прым.* Прыдатны да шыцця. *Тут ніткі швільныя трэба, а так нічога не зробіш.* Цяцёркі Віц.

ШВО́РКА *ж.* 1. Вяровачка. *Падпяражыся шво́ркай – ямчэй будзець.* Езярышча Гар. 2. Павадок. *Сабаку на шво́рку прывяжы, а тады вадзі па сяле.* Новы Пагост Міёр. Параўн. *шмо́рка.*

ШВЫРКУ́Н *м.* Цвыркун. *Гэта ж швыркуны́ спаць не даюць.* Валынцы В.-Дзв.

ШВЭ́ДАР *м.*, ШВЭ́ДРА *ж.* Світар, цёплая вязаная фуфайка без засцёжак з высокім каўняром. *Учора на базары новы швэ́дар купіла.* Белішкі Паст. *Хочаш, я і табе швэ́дар звяжу на зіму?* Спігальшчына Міёр. *Бывала, адзену швэ́дру якую – і цёпла мне.* Ураджайная Глыб.

ШГАЛЬ *ж.* Капуста. *А ў мяне ўсю шгаль чэрві пааб'ядалі.* Янушэва Докш.

ШКАДНЕ́Й *безас.-прэдык., выш.* Больш шкада. *Мне ж цябе шкадне́й, як каго яшчэ.* Белішкі Паст. *Ты не крыўдуй, мне ж старога майго шкадне́й.* Кураполле Паст.

ШКАДНЫ́ *прым.* Шкадлівы, які робіць шкоду, гарэзлівы. *Такі шкадны́ малец – ні мінуты не пасядзіць.* Бабінічы Віц. Параўн. *шабутны́, шабушны́, шухарны́.*

ШКАДО́БНІК *м., экспр.* Жаласнік. *Вось, шкадо́бнік знайшоўся які.* Нурава В.-Дзв.

ШКА́ПЕЦ *м.* Бурт, капец. *Як шка́пец слаба закрыеш, тады бульба змерзнець.* Зубава Арш.

ШКАПО́К, ШКА́ПЧЫК *м., памянш.* Невялікая шафа. *Гэты шкапо́к якраз станець тут.* Курылаўшчына Шум. *Талеркі ў шка́пчыку ўсе.* Стуканы Глыб.

ШКАРЛО́ТЫ *толькі мн.* Стары, паношаны абутак. *Ды выкінь ты ўжо свае шкарло́ты, людзі смяяцца будуць.* Бушыкі Глыб. *Дачка мае шкарло́ты ўсе выкінула.* Ліпаўкі Докш. Параўн. *шкро́бы, шкрэ́бкі.*

ШКАРЛУПА́ *ж.*, ШКАРЛУ́ПКА *ж.*, ШКАРЛУ́ПЫ, ШКАРЛУ́ШКІ *мн.* Шкарлупіна, цвёрдая абалонка яйка. *Шкарлупу́ добра стаўчы нада, тады можна свіням даваць.* Янкавічы Рас. *Куры нейкія не такія: шкарлу́пка цвёрдая, аж разбіць цяжка.* Мікуліна Пол. *Пасля Пасхі ўвесь двор шкарлу́памі ўсыпаны.* Бабінічы Арш. *Шкарлу́шкі па ўсяму двару валяюцца.* Езярышча Гар.

ШКАРПЭ́ТКІ *мн.* Боты. *Шкарпэ́ткі ў лес абуй, іх змяя не пракусіць калі што.* Бачэйкава Беш. *Раніцай мокра, але ў шкарпэ́тках рызінавых не магу хадзіць.* Казімірова Пол. Параўн. *шкурні́.*

ШКАРПЭ́ЦІЦЬ *незак., экспр.* Хутка, шпарка ісці, накіроўваючыся куды-н. *Да лесу нада доўга шкарпэ́ціць.* Чыстаполле В.-Дзв. *Глядзі, твой некуды шкарпэ́ціць.* Балбекі Шарк. Параўн. *шпандо́рыць.*

ШКАРЭ́ДЗІЦЬ *незак.* Забруджваць, пэцкаць. *Не хачу штаны шкарэ́дзіць, прынясі што наверх надзець.* Стаі Леп.

ШКВА́РКА *ж.* Падсмажаны кавалак сала. *Бульба са шква́ркамі – самае тое.* Ласкаўшчына Глыб. *Бульба са шква́ркамі – найлепшы наедак!* Ульянавічы Сен.

ШКЛЕ́ЧКА *ж.* Шклянка. *Шкле́чку малака вып'ю вечарам – аб тым і спаць кладуся.* Астроўна Беш.

ШКЛУ́НКІ *мн.* Рэчы, клункі. *Сабралі шклу́нкі – і бягом на аўтобус.* Урбаны Брасл.

ШКО́ЛІЦЬ *незак.* Настойліва павучаць каго-н., сварыцца на кагосьці. *От любіць дзед малога шко́ліць.* Паловіца Глыб. *Мужык мяне ўсё жыццё шко́ліў.* Сарокі Глыб. *Ён, як нап'ецца, дык усё ўнучку шко́ліць.* Сахнавічы Глыб. Параўн. *шку́рыць* у 1 знач.

ШКРО́БЫ, ШКРЭ́БКІ *толькі мн.* Стары, паношаны ці парваны абутак. *Шкро́бы якія пашукай – там гразі па калена.* Ткачы Гар. *А мне нічога не нада: абуў шкрэ́бкі – і поўзаю па двары.* Азярцы Тал. Параўн. *шкарло́ты.*

ШКРО́ФАЛ, ШКРО́ФАЛЬ *м., мед.* Залатуха, дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца агульным знясіленнем, сыпам на целе. *Як малыя былі, дык, мусіць, усе хварэлі на шкро́фал.* Ураджайная Глыб. *Гэта ў малых шкро́фаль толькі бываець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШКРЭТ *м., груб.* Падлетак, хлопчык. *Глядзі, які шкрэт, а ўжо з папіроскай.* Быцава Беш.

ШКУПІНА́Р, ШПІКУНА́Р *м.* Шкіпінар. *У нас шкупіна́р быў ад усіх чыста хваробаў.* Балбекі Шарк. *Даўней жа лекаў гэтак не было, дык шпікуна́рам толькі і лячыліся.* Сарокі Глыб.

ШКУРА́Т *м.* Апрацаваная скура цяля. *Пазней абуванне са шкура́та рабілі.* Ульянавічы Сен.

ШКУРНІ́ *мн.* Боты. *Абувай шкурні́ і сходзі ў агарод, прынясі трохі цыбулі.* Параф'янава Докш. Параўн. *шкарпэ́ткі.*

ШКУ́РЫЦЬ *незак.* 1. Сварыцца на каго-н., прабіраць каго-н. *Як яна свайго мужыка шку́рыць, каб вы толькі чулі!* Янкавічы Рас. Параўн. *шко́ліць.* 2. Карыць, абчышчаць дрэва ад кары. *Прыйшлі два хлопцы, будуць бярвенне шку́рыць.* Язна Міёр.

ШЛАГА́Н *м.* Страва з пакрышанай варанай бульбы і алею. *Хоць шлага́н зрабі: есць хачу – ні магу!* Прудок Гар.

ШЛАК *м.* Аблямоўка. *Шлак рознымі ніткамі на хустцы вышыты.* Пятроўшчына Глыб.

ШЛАКО́ТКА, ШЧАКО́ТКА *ж.* Козыт. *А я крэпка шлако́ткі баюся.* Доўжыца Чаш. *Я дужа баюся шчако́ткі.* Мярэцкія Глыб.

ШЛАПАКІ́, ШЛЭ́ПАЎКІ *мн.* Шлёпанцы, хатнія туфлі без заднікаў. *Табе шлапакі́ новыя купіць трэба.* Маліна́ўка Глыб. *Вазьмі мае шлапакі́ і абуй.* Ваўчо Уш. *Абуй шлэ́паўкі, а то ў ботах ужо душна.* Пліса Глыб.

ШЛАПАЎНЯ́ *ж.* Дрывотнік. *Нада дарогу расчысціць у шлапаўню́ ды дроў прынесці.* Нарыца Паст.

ШЛЁМАК *м.* Шлем. *Казала яму, каб шлёмак адзеў, ды дзе там.* Казімірова Пол.

ШЛО́МАЦЬ *зак., экспр.* Павольна, паціху ўпраўляцца па гаспадарцы. *Шло́мае каля хаты дзень, зробіць жа нешта.* Рулёўшчына Дубр.

ШЛО́ПАЎКА, ШЛЭ́ПАЎКА *ж.* Прыстасаванне для знішчэння мух, мухабойка. *На столі шло́паўкай муху не дастанеш.* Жукоўшчына Шарк. *А дзе шлэ́паўка дзелася? У хаце столькі мух.* Папшычы Глыб.

ШЛУ́НАК *м.* Страўнік. *Гэта ж адзежыну можна сколька раз адзець, а шлу́нак не абманеш.* Вісяты Міёр.

ШЛУ́НКІ *мн.* Унутраныя органы чалавека. *Усе шлу́нкі мае ўжо порчаныя, баліць усё ў сярэдзіне.* Язна Міёр.

ШЛЫК *м.* Башлык. *Куртку другую вазьмі, там шлык ёсць.* Сваташыцы Дубр.

ШЛЫ́КНУЦЬ *зак., экспр.* Шмыгануць, незаўважна ўцячы. *Я б яго і паймаў, дык ён жа шлы́кнуў у дзірку і ўцёк.* Мурагі Рас.

ШЛЫ́МАЦЬ *незак.* Хадзіць з цяжкасцю, накульгваючы, ледзь перасоўваючы ногі. *Стары толькі па хаце шлы́маіць, на двор рэдка выходзіць.* Пліса Глыб. Параўн. *шо́ркаць.*

ШЛЫНДА́КА *аг., асудж.* Той, хто бадзяецца, ходзіць без справы, нічым не займаецца. *А сын яго шлында́ка, нідзе не робіць, а толькі п'еўь.* Замошша Брасл.

ШЛЭ́ПАЎКІ гл. ШЛАПАКІ́

ШЛЭ́ПІХА *ж., груб.* Няўклюдная або няўмелая дзяўчына ці жанчына. *Я казала сыну, каб гэту шлэ́піху не браў.* Туркова Міёр.

ШЛЮБАВІ́НЫ *толькі мн., абрад.* Вяселле. *Раней у гэтай хаце такія шлюбаві́ны гулялі!* Порплішча Докш.

ШЛЯМЫ́ *мн.* Шампіньёны. *А шлямо́ў сёлета мора было, дажа па канюшыне раслі.* Старое Лядна Леп.

ШЛЯФРО́К *м.* Сарафан. *Сястра во мне шляфро́к шыець: цяпер фарсіць буду.* Папшычы Глыб. *Адзень шляфро́к – на дварэ ж цёпла.* Мікалаёва Міёр.

ШЛЯХТА́ВЫ *прым., іран.* Шляхетны. *Паглядзі на яго, які шляхта́вы хлопец*! Ткачы Гар.

ШМАЛЬЦ, ШМЭЛЬЦ *м.* Таплёны свіны тлушч; шмалец. *Шма́льцу многа палучылась.* Канашы Гар. *Мяса як мяса, але шмэ́льцу з гусака будзець.* Ахрэмаўцы Брасл. *З гэтай курыцы нямнога шмэ́льцу будзець.* Зорка Шарк.

ШМІ́НКА *ж.* Памада. *Пamaж шмі́нкай вусны, а то пасівярэлі ўсе.* Папшычы Глыб. *Унучка ўсё павытрасала: шмі́нку сваю шукаіць.* Пашкі Шарк.

ШМО́РКА *ж.* Павадок. *Трэба было на карацейшую шмо́рку Жучку пасадзіць.* Дразды Беш. Параўн. *шво́рка* ў 2 знач.

ШМУ́ЙЛА *аг., неадабр.* Неахайны, неакуратны чалавек. *Што ты хочаш, ён жа ходзіць, як шму́йла.* Лазукі Чаш. Параўн. *шарамы́га.*

ШМУ́ЛІЦЦА *незак., экспр.* З цяжкасцю прасоўвацца наперад, марудна ехаць. *Дзе там паспееш, чуць шму́ліцца машына па такім пяску.* Гарадзец Шарк.

ШМЫ́РГАЦЬ *незак.* Шморгаць, выдаваць характэрны гук, з цяжкасцю дыхаючы носам. *Малы прастыў, ужо каторы дзень шмы́ргае.* Янкавічы Рас.

ШМЭЛЬЦ гл. ШМАЛЬЦ

ШМЯ́КНУЦЦА *зак., экспр.* Упасці, ударыўшыся аб што-н. *Каб знаў, дзе шмя́кнешся, саломкі б падаслаў.* Празарокі Глыб. Параўн. *шабалда́хнуцца.*

ШНА́ЙДА *аг., неадабр.* Гарэза, непаседлівае дзіця. *Ну і дзе гэта шна́йда схавалася?* Яроненкі Гар. Параўн. *шалудзе́нь, шпунт.*

ШНАР *м.* Неўзаранае поле. *А шнар гэны нада аддаць у калхоз.* Старое Лядна Леп.

ШНІ́ТКА *ж.* Снітка, шматгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых. *Шні́ткі набяры, пасячы дробна і дай курам.* Крывасельцы В.-Дзв. *Ля ракі шні́ткі многа расцець.* Гатаўшчына Глыб. *Дзед мой дужа любіў шні́тку.* Царкавішча Уш.

ШНУР *м.* Вузкая паласа зямлі. *Тут паробім шнуры́, хай гародніна будзець.* Сарокі Глыб. *А там шнур бульбы пасадзім.* Шылава Глыб. Параўн. *шнуро́ўка.*

ШНУРО́ЎКА *ж.* 1. Паласа зямлі, адведзеная для пасеву чаго-н. *А ў калхозе каждай сям'і давалі сваю шнуро́ўку.* Антонаўка Арш. Параўн. *шнур.* 2. Вязаны світар. *Хачу свайму мальцу давязаць шнуро́ўку.* Дворнава Шарк. 3. Жаночая сукенка, якая па таліі сцягваецца шнурком. *Шнуро́ўку тваю я ў шкап павесіла.* Чарневічы Докш.

ШО́ЛКІ *прым.* Шаўковы. *Ёсць у мяне шо́лкая хустка, дык толькі на празьнікі завязываю.* Азяркі Гар.

ШО́ПА, ШО́ПКА[1] *ж.* Павець, пляцоўка пад дахам на слупах. *Шо́пу сёлета перакрыць нада.* Обаль Шум. *Адчыні шо́пу, хай праветрыцца.* Шыліна Шум. *Дзед нешта ў шо́пкі робіць, схадзі і паглядзі.* Езярышча Гар.

ШО́ПАЎКА *ж.* Гнілы або ссохлы яблык. *Яблыкаў не будзець, на дрэве адны шо́паўкі вісяць.* Аўсянка Міёр.

ШО́ПКА[1] гл. ШО́ПА

ШО́ПКА[2] *ж.* Невялікая скрынка для захоўвання хлеба, хлебніца. *Хлеб, каб не чарсцвеў, у шо́пку нада класці.* Шэпелева Глыб.

ШО́ПАТКАМ *прысл.* Шэптам, ціха. *Гавары шо́паткам, малога не разбудзі.* Мікіціха Шум.

ШОР *н., зб.* Смецце. *Колькі шо́ру ў гэтым жыці!* Мярэцкія Глыб. Параўн. *шуме́нне.*

ШО́РАЖ, ШО́РАХ гл. ШАРГУ́Н

ШО́РКАЦЬ *незак.* Шоргаць, хадзіць не падымаючы ног. *Дзед во прывык шоркаць па хаце, дык дзе тут заснеш.* Бабічы Глыб. Параўн. *шлы́маць.*

ШО́РКІ гл. ША́РКІ

ШО́РХАЎКІ *толькі мн.* Шоры, конская збруя без дугі і хамута, са шлеямі. *Конь як бяжыць, дык шо́рхаўкі так бразгуюць.* Свіркі Докш.

ШО́СНІК *м., абрад.* Шэсць дзён пасля Вялікадня, на працягу якіх забаранялася выконваць пэўныя віды работ – шыць, вязаць, мыць бялізну, сячы дровы і інш. *Закончыцца шоснік – тады і за работу возьмемся.* Сарокі Глыб.

ШО́СТАК *м.* Прыпечак. *Суп, каб цёплы быў, на шостак ставім.* Пераброддзе Міёр.

ШО́СЦІК *м., памянш.* Доўгая тонкая палка або жэрдка для прасушвання ручнікоў, анучак, якая мацавалася перад прыпечкам. *Вазьмі ручнік, акуратна развесь на шосціку.* Серкавіцы Тал. *На шосціку ёсць сухія трапкі – прынясі.* Плаўнік Чаш.

ШОСЬ *займ.* Штосьці, нешта. *Шось твая дачка доўга там, пара ўжо і дамоў.* Хацейка Гар.

ШО́ФЕР *м.* Шафёр. *А я ўсё жыццё шо́ферам у калхозі рабіў.* Баравікі Сен.

ШПАНДО́РЫЦЬ *незак., экспр.* Хутка ісці. *Ніхто не ведае, куды сусед так шпандо́рыць?* Снегі Міёр. Параўн. *шкарпэ́ціць.*

ШПАРА́ГА *ж., бат.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства лілейных, спаржа. *Шпара́га цвіціць.* Шылава Глыб.

ШПІГА́Т *м.* Шпагат. *Калкі шпіга́там нада абматаць – і плот будзе.* Цяцеркі Віц.

ШПІГУ́ЛКА *ж.* Таблетка. *Даўней ніхто не знаў гэтых шпігу́лак, сваім лячыліся.* Сіўцы Паст.

ШПІК *м.* Засаўка, на якую зачыняюцца дзверы. *Паглядзі, ці зачыніла дзверы на шпік?* Жукоўшчына Шарк.

ШПІКАВА́ЦЬ *незак.* Вартаваць. *Летам на работу хадзіў у калхоз, бульбу ці буракі на полі ноччу шпікава́ў.* Кветча Леп.

ШПІКУНА́Р гл. ШКУПІНА́Р

ШПОНТ *м.* Затычка. *Дзірка збоку ў бочке – вада працякае, шпонт усунь.* Ула Беш.

ШПРУН *м.* Шэрань. *Паглядзі, які шпрун на дрэвах, як серабром абсыпала.* Заронава Віц. Параўн. *шэраш.*

ШПУ́ЛЬКА *ж., перан., экспр.* Жвавая, рухавая дзяўчынка. *Глядзі, каб твая шпу́лька на дарогу не выбегла.* Сарокі Глыб.

ШПУЛЯ́ЦЬ *незак., экспр.* Шпурляць, кідаць. *Далей шпуля́й, а то куры здзяўбуць.* Сар'я В.-Дзв. Параўн. *ша́рнуць* у 1 знач., *шва́ркнуць, шва́рнуць* у 1 знач.

ШПУНТ *м., перан., экспр.* Няўрымслівы, гарэзлівы падлетак. *Толькі гэтага шпунта́ тут не хапала яшчэ, хай дамоў ідзе.* Глыб. Параўн. *шалудзе́нь, шна́йда.*

ШПЭ́ТНЫ *прым.* Прыгожы, зграбны, з прыгожай паставай чалавек. *Меншая ўнучка такая ўжо шпэ́тная дзеўка.* Паўазер'е Беш.

ШРУН *м.* Шруба, вінт. *Тут большы шрун трэба, гэты не пойдзе*. Стайкі Віц.

ШТАКЕ́Т, ШТАКЕ́ТНІК, ШТЫНКЕ́Т, ШЧЫКЕ́Т *м.* Драўляная агароджа, плот. *Вясной нада новы штаке́т паставіць каля хаты.* Бачэйкава Беш. *Вазьмі вядро на штаке́тніку, прынясі вады.* Лазоўка Сен. *За ноч нехта ўвесь штынке́т паламаў.* Кублічы Уш. *Шчыке́т у траву ўрос, тут жа ніхто не жывеець.* Замошша Сен. Параўн. *шчыто́ўнік.*

ШТАПШУ́К *м., экспр.* Фізічна моцнае, здаровае, поўнае дзіця. *А я такім штапшуко́м быў у дзецтве!* Ула Беш.

ШТОЛЬ *займ.* Што-небудзь, штосьці, нешта. *Можа, вам штоль смачнае даць?* Крыпулі Докш.

ШТО́РАНЬ *прысл.* Штораніцы. *А я што́рань малака з хлебам наемся і нічога болі не нада.* Нямойта Сен.

ШТРАП *м.* Штраф. *Як дадуць штра́пу – будзіш знаць.* Канашы Гар. *У міліцыі добрага штра́пу далі за гарэлку.* Гаршчэўшчына Тал.

ШТРАФО́ЎКА, ШТРАХО́ЎКА *ж.* Страхоўка. *Сёння работніца іхняя па хатах са штрафо́ўкай ходзіць.* Сарокі Глыб. *А штрахо́ўку далі толькі праз месяц.* Бачэйкава Беш. *А нашто мне тая штрахо́ўка здалася?* Канашы Гар.

ШТЫЛЁК *м.* Лустачка, кавалачак. *Штылёк хлеба быў вялікай рэдкасцю.* Ліпаўкі Докш.

ШТЫ́НКА *ж.* Адрэз тканіны. *Я з дзярэўні многа шты́нак разных забрала.* Верацеі Шарк.

ШТЫ́РНУЦЬ *зак.* Штурхануць, адпіхнуць ад сябе кароткім ударам. *А ён мяне як шты́рнуў прікладам, я і паляцела ў канаву.* Якубова Рас. Параўн. *шква́рнуць* у 1 знач.

ШУБО́ЎТНУЦЬ, ШЧУБО́ЎКНУЦЦА *зак.* Нырнуць у ваду. *Малы з маста шубо́ўтнуў, забрызгаў усіх.* Валосава Тал. *Малец з узгорка як шчубо́ўкнуўся ў раку!* Сарочына Уш.

ШУБУНУ́ЦЬ, ШЫБНУ́ЦЬ, Пачаць хутка расці, пайсці ў рост (пра траву, гародніну). *Пасля дожджу трава па бульбе шубуну́ла.* Булахі Глыб. *Цёпла стала, агуркі як шы́бнулі!* Сарокі Глыб.

ШУГАВЕ́ЙКА *ж., неадабр.* Легкадумная дзяўчына ці жанчына. *Гэта ж трэба быць такой шугаве́йкай!* Каўровая Дубр.

ШУКУВА́ЦЦА *незак.* Шаптацца, ціха перагаворвацца. *Малыя сядзяць удвух, увесь вечар шуку́юцца.* Булахі Глыб.

ШУЛЯ́К *м., заал.* Каршун. *Шуля́к, бацян – гэта птушкі. Іх так у нас завуць.* Ноўка Віц.

ШУ́МА *ж.*, ШУМ *м.*, ШУМЁЦЦЕ *н., зб.* Смецце. *Сабяры шу́му і вынесі.* Стралкі В.-Дзв. *Нада шу́му каля хаты сабраць, вечарам госці будуць.* Вадзянікі Гар. *Шу́му можна на воз пагрузіць, пасля павязём.* Канашы Гар., Кушлікі Пол. *Цяпер шу́му вязуць у яму каля лесу, трасочнік усякі.* Нямойта Сен. *Збяры ўвесь шум і вынесі з хаты.* Багушэўск Сен. *Восенню ўсякага шумёцця ля хаты.* Макаранкі Лёзн.

ШУМЕ́ННЕ *н., зб.* Пустазелле, смецце. *У пшаніцы столькі шуме́ння!* Чарневічы Глыб. Параўн. *шор.*

ШУМАВА́ЦЬ *незак.* Шумець, віраваць, пеніцца (пра ваду). *Вада вясной, як разводдзе, тут так шуму́ець.* Гваздова Глыб.

ШУМЕ́ТНІК *м.* Сметнік. *Зрабілі шуме́тнік на дарозе.* Ула Беш. *Ты, мусіць, на гародзе шуме́тнік будзеш рабіць.* Абрамава В.-Дзв. *Бяры і ў мяху нясі на шуме́тнік.* Гараны Пол.

ШУМЁЦЦЕ гл. ШУ́МА

ШУМЁЛЫ *мн.* Бомы, званочкі. *Тады запрагалі коней з шумёламі, раніцай ехалі на кірмаш.* Пліса Глыб. *На конях ад хаты да хаты ездзілі, шумёлы гэтак званілі.* Савуткі Шарк. Параўн. *ша́ркі, шо́ркі, шархо́ткі.*

ШУРАВА́ЛКА гл. ШАРАВА́ШКА

ШУ́РКА *ж.* Мера аб'ёму дроў, роўная двум кубічным метрам. *Увосень яшчэ тры шу́ркі прывёз.* Камаі Паст.

ШУРПА́ *ж.* Суп з дзічынай – мясам дзікіх жывёл ці птушак. *Бацька, помню, з ахоты прыйдзіць, шурпы́ наварым – смаката!* Воўкаўшчына Міёр.

ШУРПА́ТКА *ж.* Бульба з шурпатай паверхняй клубняў. *У суседзяў летась шурпа́ткі на развод бралі тры мяхі.* Мурагі Рас.

ШУРУДЗІ́ЦЬ *незак., экспр.* 1. Шураваць, хутка, энергічна рабіць што-н. *А яна давай мне шурудзі́ць у спальні – за час парадак навіла.* Лужасна Віц. *Ні нада шурудзі́ць нагамі па палу: краску сатреш.* Канашы Гар. 2. Перабіраць (рэчы). *Старая мая цэлы дзень у шафе шурудзі́ць.* Верхняе Глыб.

ШУ́ФАЛЬ, ШУ́ХАЛЬ *м.*, ШУ́ХЛЯ *ж.* Шуфель. *Найдзі шу́фаль і павыкідай адсюль пясок.* Сарокі Докш. *Шу́халь новы ў сянях стаіць, можаш яго ўзяць.* Казімірова Пол. *Вазьмі шу́хлю, а я сабе вілы прынясу.* Дразды Беш. *Каля плоту шу́хля – прынясі.* Звязда Леп. *Вазьмі шу́хлю ў верандзе і раскапай снег.* Лужасна Віц., Нямойта Сен.

ШУФЛЯ́Н *м.* Паліца ў шафе. *На адным шуфля́не ў мяне пасцельнае ўсё, на другім – мыла, шампуні.* Лужкі Шарк.

ШУФЭ́ЛЕК *м.* Шуфлік. *Вазьмі шуфэ́лек і выграбі попел.* Андрэеўка Шум.

ШУ́ХАЛЬ гл. ШУ́ФАЛЬ

ШУХАРНЫ́ *прым.* Гарэзлівы, свавольны. *Малец у дачкі такі шухарны́!* Мацюкова Глыб. Параўн. *шабутны́, шабушны́, шкадны́.*

ШУ́ХЛЯ гл. ШУ́ФАЛЬ

ШУ́ШАРА *ж., зб., абразл.* Зборышча нічым не занятых людзей, якія бязмэтна бавяць час. *Раней у вёсках столькі шу́шары не было.* Старое Лядна Леп.

ШУ́ШКАЦЬ *незак.* Ухутваць, цёпла апранаць каго-н. (звычайна пра дзіця). *Не магу я глядзець, як яна гэтага малога шу́шкаець. Яму і так цёпла.* Сахнавічы Глыб.

ШУ́ЯДЗЬ *ж., толькі адз.* Дробныя ягады. *А якія чарніцы сёлета? Шу́ядзь – і ўсё.* Кругляны Сен. Параўн. *шалупе́нь.*

ШЧАВЕ́Й *м.*, ШЧА́ЎЛЯ *н., толькі адз.* Шчаўе. *Малыя, мы толькі шчаве́й і елі: нічога ж не было.* Сапраны Віц. *Шча́ўля есці карысна, у ім многа вітамінаў.* Карабы Глыб.

ШЧАВУ́К *м.* Конскае шчаўе. *Каля хаты ў нас поўна гэтага шчаву́ка.* Даўгаполле Гар. *Не бяры гэту траву, гэта шчаву́к, каза есці не будзе.* Слабада Шум.

ШЧАКО́ТКА гл. ШЛАКО́ТКА

ШЧАЛІПА́ЦЬ *незак.* Лушчыць семкі сланечніку ці гарбузоў. *Сядзі сабе на лаўцы, семечкі шчаліпі́.* Кублічы Уш.

ШЧАЛУ́БІНА *ж.* Шчыліна. *У шчалу́біну мыш залезла, усё ноч капошыцца.* Сапраны Віц. *Гляджу, а ён пракавыраў нейкую шчалу́біну ў плоце і падглядываіць.* Гарадзец Шарк.

ШЧАМЕ́ЛЬ, ШЧЫМЕ́ЛЬ *м.* Чмель. *Тут столькі шчамялёў кругом!* Ула Беш. *Алі ж і шчамялёў тут! Гудзяць усюды.* Боркавічы В.-Дзв. *Гэткі шчаме́ль і ўкусіць можаць.* Сар'я В.-Дзв. *Унука шчаме́ль напужаў.* Фарынава Пол. *Яны селі пад дзеріва паесь, а тут шчыме́ль як запішчыць!* Баршчоўка Віц.

ШЧАНЁНАК, ШЧЭНЬ *м.* 1. Шчаня. *Гэта ж зяць шчанёнка прывёз.* Свяча Беш. *Малая падабрала шчанёнка, прініла ў хату.* Селішча Гар. *Дужа ж пекны шчанёнак, з катом гуляіць.* Дзеркаўшчына Глыб. *На вуліцу шчанёнак твой уцёк.* Пірагі Дубр. *Я табе гэтага шчанёнка на юбілей падару.* Верацеі Шарк. *Бегаіць усюды гэты шчанёнак, пад нагамі крапаецца.* Мікіціха Шум. *Гэты шчэнь ужо надаеў, брэшучы.* Азярцы Глыб. 2. *перан., абразл.* Шчанюк (пра маладога, неспрактыкаванага чалавека). *Шчанёнак ейный нікому з рібят не ўступіць.* Канашы Гар. *Суседскі малец – шчэнь яшчэ, а ўжо курыць.* Быцава Беш.

ШЧАПА́ *ж.* Дранка. *Нада хату перакрываць: шчапа́ ўся гнілая ўжо.* Воўкаўшчына Міёр.

ШЧАРБАЛІ́НЫ *толькі мн.* Ажыны. *Бывала, пайдзеш у маліны, а назбіраеш і шчарбалі́н кошык.* Станіслававова Дубр.

ШЧАРБА́ЦІК *м.* Гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі, гляк. *Тады я новы шчарба́цік купіла на базары.* Кругляны Сен.

ШЧАРБЭ́ЦІНА *ж.*, ШЧАРБЕ́ЛЬ *м.*, *экспр.* Бяззубы чалавек. *Куды мне на гулянку – такой шчарбэ́ціне.* Папшулі Міёр. *А ён не ўкусіць – шчарбе́ль стары.* Сапраны Віц.

ШЧА́ЎЛІК *м.* Піражок са шчаўем. *Даўней шча́ўлікі рабілі і елі.* Варапаева Паст.

ШЧА́ЎЛЯ гл. ШЧАВЕ́Й

ШЧО́ГЛЫ *прым.* Худы. *Свіння есць многа, але шчо́глая, ніякай пользы.* Клясціцы Рас.

ШЧУБО́ЎКНУЦЦА гл. ШУБО́ЎТНУЦЬ

ШЧУКЕ́ЦЬ, ШЧУПА́Р *м.* Шчупак. *Пяць акунькоў і шчуке́ць адзін – гэта ўвесь улоў.* Дразды Беш. *Шчупа́р глытае ўсю дробную рыбу.* Заборцы Докш.

ШЧУР *м.* Пацук. *У мяне ў сянях шчур завёўся.* Цяпіна Чаш.

ШЧУ́РКА *ж.* Мыш. *У хату недзе шчу́рка ўбілася, а ката ж у мяне няма.* Рог Уш. *Кот мой дужа лавучы: ніводнай шчу́ркі ў хлеве не прапусціць.* Новы Пагост Міёр.

ШЧЫГА́Н *м.* Злодзей, бандыт. *Пасля вайны ўсякія шчыганы́ хадзілі, не па-нашаму і гаварылі.* Сакалянка Тал.

ШЧЫ́ГАЛЬНЫ, ШЧЫ́ГЕЛЬНЫ *прым.* Худы, стройны (пра чалавека). *Шчы́гальная стала.* Канашы Гар. *Прішла дамой з такім ужэ мальцам шчы́гельным.* Ноўка Гар.

ШЧЫ́ДНЫ, ШЧЫ́ТНЫ *прым.* Шчыльны. *Во мой сын з унукам зрабілі плот, шчы́дны, курыца не пралезіць цяпер.* Боркавічы В.-Дзв. *Добры плот зрабілі, шчы́тны.* Сарокі Глыб.

ШЧЫК *м.* Верх, макушка стога. *Залезь на самы шчык і накрый стог.* Обаль Шум.

ШЧЫКАТУ́Р *м.* Тынкоўшчык. *Хату як рабілі, шчыкату́р аж з гораду прыязджаў.* Іванск Чаш.

ШЧЫКАТУ́РКА, ШЧЫКЯТУ́РКА *ж.* Тынкоўка. *Шчыкату́рка абсыпалася, году не прастаяла.* Вярэнькі Паст. *Нада ўмець шчыкату́рку рабіць, абы-хто не зробіць.* Дварчаны Паст. *Шчыкяту́рка на сцяне абвалілася.* Пліса Глыб.

ШЧЫКЛЯ́НЫ *прым.* Шкляны. *Тут даўней завод шчыкля́ны быў.* Ляхаўшчына Паст.

ШЧЫКЯТУ́РКА гл. ШЧЫКАТУ́РКА

ШЧЫМЕ́ЛЬ гл. ШЧАМЕ́ЛЬ

ШЧЫ́НАК *м.* Пласт сена ці саломы. *Добра стог складзены, шчы́нкамі сена ляжыць.* Мішкавічы Шум.

ШЧЫПЁРЫ *мн.* Пер'е цыбулі. *Як салат раблю, дык на гародзе шчыпёраў нарву, смятаны туды.* Шкунцікі Шарк.

ШЧЫПУ́ЧКА *ж.* Крапіва. *Ад радзікуліту добра шчыпу́чка памагаець.* Мікіціха Шум.

ШЧЫТ *м., памянш.* ШЧЫТО́К *м.* 1. Грубка. *Я шчыт каждый дзень цяпер цеплю.* Лётцы Віц. *Натопіць шчыт – аж спаць душна.* Езярышча Гар. *Летам ніколі шчыто́к не топім: у хаце ж і так цёпла.* Каханавічы В.-Дзв. *Бярозавыя дровы лепі ў шчытку́ гараць.* Вярэнькі Паст. *Так шчыто́к натапілі, што няма чым дыхаць.* Савуткі Шарк. 2. Верхавіна ссечанага дрэва. *Забірай і шчыто́к – дровы будуць.* Каміншчына Глыб.

ШЧЫ́ТНЫ гл. ШЧЫ́ДНЫ

ШЧЫТО́ЎНІК *м.* Плот, агароджа. *А шчыто́ўнік яшчэ ад таго бурану ляжыць.* Мяшкова Тал. Параўн. *штаке́т, штаке́тнік, штынке́т, шчыке́т.*

ШЧЭ *прысл.* Яшчэ. *Ты шчэ тут? Шчэ не пайшоў?* Равяцічы Тал.

ШЧЭНЬ гл. ШЧАНЁНАК

ШЧЭ́ПКА, ШЧЭ́ПІНА *ж., перан., экспр.* Вельмі худая дзяўчына ці жанчына. *Яна ж нічога не есць, гэта шчэ́пка.* Барсукі Глыб. *Сястра твая такая ўжо шчэ́піна.* Крывое Сяло Шум.

ШЧЭ́РЫ *прым.* Стаpанны, руплівы. *А мой стары да работы дужа шчэ́ры.* Параф'янава Докш.

ШЧЭ́ТКА *ж.* Шчотка. *Недзе мая шчэ́тка зубная была.* Пліса Глыб.

ШЧЭ́ЦІ *толькі мн.* Прыстасаванне для часання воўны. *Возьмем шчэ́ці і ўвесь вечар чэшам воўну.* Савуткі Шарк.

ШЦІБЛЕ́ТЫ *толькі мн.* Лёгкія туфлі. *Ладныя шціблеты ты купіла.* Паўазер'е Беш.

ШЫ́БАР *м.* 1. Танец. *Весела было тады: польку, вальс, шы́бар танцавалі.* Слабада Докш. 2. Засланка ў коміне, юшка. *Перад тым, як дровы запаліць, нада шы́бар адсунуць, а то поўная хата дыму будзець.* Воўкаўшчына Міёр.

ШЫ́БЕЛІЦА, ШЫ́БЕЛЬНІЦА *ж.* Высокі слуп. *Як ты залезеш на такую шы́бельніцу?* Абруб Беразвецкі Глыб. *Лямпачку на шы́беліцу павесілі і рабілі да познага.* Друя Брасл.

ШЫ́БЕНЬ *м.* Кароткая палка. *Малец шы́бень узяў, тады толькі сабака ўцёк.* Стаі Леп.

ШЫ́БКА, ШЫ́БНЯ *прысл.* Хутка, шпарка, імкліва. *Не бягі шы́бка.* Канашы Гар. *Бяжы шыбка, а то не ўспееш.* Азярцы Глыб. *Я ўжо не магу шы́бка хадзіць – гады не тыя.* Сарокі Глыб. *Шыбка дабраўся, хоць і няблізка.* Туркова Міёр. *Зяць на машыне любіць шы́бка ездзіць.* Машканы Сен. *Яшчэ шы́бня ўсё робіш: і полеш, і жнеш.* Чарневічы Глыб.

ШЫ́БКАСЦЬ *ж., толькі адз.* Хуткасць, шпаркасць. *З гэткай шы́бкасцю ты і да абеда не паспееш.* Шпунты Шарк.

ШЫ́БКІ *прым.* Хуткі, шпаркі, імклівы. *Надта ж ты шы́бкі: я нічога не паспела яшчэ прыгатаваць.* Залессе Глыб. *Мапед у цябе дужа шы́бкі.* Чаронка Глыб.

ШЫБНУ́ЦЬ гл. ШУБУНУ́ЦЬ

ШЫ́БНЯ гл. ШЫ́БКА

ШЫБЧЭ́Й *прысл., выш.* Хутчэй. *Цяпер час ідзець шыбчэ́й, чым раней.* Барсучына Шум.

ШЫДУ́ЛА *аг., абразл.* Бадзяга, валацуга. *Ходзіць па вёсцы, як той шыду́ла, не робіць нічога.* Куніцкія Паст.

ШЫДЭ́ЛАК *м.* Кручок для вязання. *Нічога ж не было, дык дзядзька тады зрабіў мне шыдэ́лак, і навучылася вязаць.* Шантары Докш.

ШЫКАЛА́ *н., толькі адз.* Вотруб'е. *Пакуль шыкала́ будзець – буду свіней карміць.* Бушыкі Глыб.

ШЫ́ЛІЦА *ж.* Іголка. *Памажы мне, дачушка, нітку ў шы́ліцу ўцягнуць.* Замошша Брасл.

ШЫНК *м.* Шынок. *Бацька, бывала, вечарам пакідае нас дома адных, а сам у шынк з мужыкамі.* Шаркоўка Леп.

ШЫПЁЛКА *ж.* Вуж. *Цяпер шыпёлкі каля хаты поўзаюць, а раней такога не было.* Ахрэмаўцы Брасл.

ШЫПІ́ЦА *ж.* Кустоўе (на могільніку). *Шыпі́цу сёлета ўсю павысякалі, адны магілы асталіся.* Кавалі Глыб.

ШЫПУ́Н *м.* Гусак. *А шыпу́н як пабег за намі, дык чуць уцяклі.* Казімірова Пол.

ШЫТКАВА́ЛЬНІЦА, ШЫТКАЎНІ́ЦА *ж.* Шаткоўня, прыстасаванне для шаткавання капусты. *Шыткава́льніца ў кладоўцы недзе.* Клясціцы Рас. *Гуркі салілі ў цэбры – арамат дрэва дае, і капусту пасля шыткаўні́цы таксама ў ім квасілі.* Задуброўе Віц.

ШЫ́ЦІК *м.* Маленькі рачны чарвячок, які жыве ў рухомым доміку-трубачцы, зробленым з пясчынак. *Сама добра на шы́цікаў лавіць.* Ноўка Віц. *Назбірай шы́цікаў, тады пойдзем на рыбу.* Сарокі Глыб. *Я на шы́цікаў пастаянна лаўлю.* Лоўша Шум.

ШЫША́К, ШЫШМА́К *м., экспр.* Гуз. *Раніцай стары мой прыйшоў, а на лбе добры шыша́к.* Фарынава Пол. *Ён, як малы быў, гэты шышма́к набіў.* Кавалі Глыб.

ШЫШАКІ́ *мн.* Шышкі. *Заўтра нада схадзіць яловых шышакоў набраць.* Відзы Брасл.

ШЫ́ШАЧНІК *м.* Лекавы сродак у выглядзе настою яловых шышак на гарэлцы. *Каб ногі не балелі, зрабі шы́шачнік і націрай.* Спігальшчына Міёр.

ШЫШМА́К гл. ШЫША́К

ШЭ́МРЫЦЬ *незак., экспр.* Абгаворваць. *Як ні рабі, а людзі ўсё роўна будуць шэ́мрыць.* Бабышкі Міёр.

ШЭ́НЦІЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Табе на грыбы пастаянна шэ́нціць.* Верацеі Шарк.

ШЭ́НЬКАЦЬ *незак.* Невыразна гаварыць, мармытаць. *Што ты шэ́нькаеш, як дзіця малое?* Коравічы Чаш.

ШЭ́ПТАЛЬ *м.* Стары чалавек. *Ты не глядзі, што ўжо шэ́пталь, у гадах, ён усіх пераскыве.* Пачаевічы Чаш.

ШЭ́РАК *м.* Шырокая спадніца з шарсцяной тканіны. *Я дзеўкай любіла лепі шэ́рак адзець на якую гулянку.* Абольцы Тал.

ШЭ́РАШ *м.* Шэрань. *Сёння дужа добра на дварэ: шэ́раш на дрэвах.* Параф'янава Докш. Параўн. *шпрун.*

ШЭ́ШАЛЬ *м.* Шашаль. *Шэ́шаль патачыў усе кніжкі.* Старыя Лазукі Чаш.

# Ю

ЮДА́Ш *м., лаянк.* Чалавек, нізкі ў маральных адносінах, падобны па сваіх маральных якасцях да евангельскага здрадніка Юды. *А юда́ш ты таму, што яшчэ не дарос да Юды! Не спяшы, дагоніш.* Даўгабор'е Рас.

ЮРГІ́НЯ *ж.* Вяргіня. *Пад вокнамі ўсюды юргі́ні ў мяне.* Сарокі Глыб. *У вазачку і юргі́ні можна паставіць.* Ляды Дубр. *Юргі́ні ў мяне пастаянна былі.* Лужкі Шарк.

ЮШНІ́К *м.* Крывянка, каўбаса са свіной крыві. *Цяпер юшні́к мала хто есць.* Слабада Уш.

Ю́ШЧЭНЬ *м.* Злодзей. *Яна хату не закрывала, пакуль нейкі ю́шчэнь не ўлез.* Пачаевічы Чаш.

ЮШЫ́ЦЦА *незак., экспр.* Быць увесь час у руху, працаваць без адпачынку. *Не юшы́ся ты, а сядзь во пасядзі.* Лужасна Віц., Канашы Гар. *Цэлы дзень сягоння юшы́лася, хоць бы прысела.* Рэдзькі Дубр.

# Я

Я́БЛЫНІНА *ж.* Яблыня. *Я́блыніну ноччу вецер паламаў.* Канашы Гар.

Я́ГАВІЦА *ж.* Шчака. *У галаве шуміць, і я́гавіцы пакраснелі.* Горкі Шум.

ЯГНЮ́К *м.* Ягнё. *Скаціна з поля як ідзець, дык уперадзе пастаянна ягню́к ляціць.* Муляры Паст. Параўн. *я́рачка.*

ЯДАВІТКА *ж.* Высокая трава з шырокім лісцем і ядавітым сокам. *Ядавітка ўсюды разраслася, неяк прайсці.* Азярцы Глыб.

ЯДА́ЛЬНЯ *ж.* Сталовая. *Харчавацца дома будзеш: у нас яда́льні няма.* Кавалі Глыб. *Раней у калхозе яда́льня была, а цяпер нічога ўжо няма.* Пашкі Шарк.

ЯДВА́БНЫ *прым.* Шаўковы. *А як каторая з дзяўчат спадніцу ядва́бную адзенець, дык усе толькі на яе і глядзяць.* Мярэцкія Глыб.

ЯДКІ́ *прым.* Ядомы, прыдатны да ўжывання ў ежу (пра грыб). *Бяры смела, гэта ядкі́ грыб.* Бігосава В.-Дзв.

Я́ДРАНЫ *прым.* Халодны, сцюдзёны. *Ноч будзець я́драная: вун які чырвоны закат.* Клясціцы Рас.

Я́ЖГУР *м., заал.* Ёрш. *У нашым возеры і цяпер я́жгура зловіш.* Апанасавічы Уш.

Я́ЖДЖАР *м., бат.* Асака. *Сёлета я́жджару ля ракі нарасло!* Бокішава Шум.

ЯЙКО́ *н.* Яйка. *Бывала, возьмеш яйко́ варанае, і так цэлы дзень на пасці.* Леснікі В.-Дзв.

ЯКЕ́Й *займ.* Які, каторы. *Падай той ключ, якéй меншы.* Лазоўка Сен.

◊ ЯК КОЛ УЕ́ЎШЫ Пра гультаяватага чалавека, які ўхіляецца ад працы. *Не стой як кол уе́ўшы, а ідзі сыну памагай.* Лужкі Шарк.

◊ ЯК ПАДМЕ́ЦЕНЫ Пра таго, хто шпарка, хутка рабіць што-н. *Цяпер мужык работу робіць як падме́цены.* Лужкі Шарк.

ЯЛЕ́НЕЦ, ЯЛО́ВЕЦ *м., бат.* Ядловец. *Каб мяса павэндзіць, яле́нец нада.* Сарокі Глыб. *Я знаю, дзе ў лесе кусты яло́ўцу ёсць.* Шпунты Шарк.

ЯЛО́ВІК *м.* Грыб, які звычайна расце пад елкай, баравік. *Гэты грыб у нас яло́вікам завуць, ён пад ёлкай расцець.* Мількі Брасл.

ЯЛО́ЎКА *ж.* Ялавіца, неаплодненая жывёла. *Яло́ўку сягодня ўжо ў поле не павяду.* Межава Арш. *Карову мяняць буду – яна ж яло́ўка.* Мішневічы Шум.

ЯЛО́ЎНІК, ЯЛЬНЯ́К *м., зб.* Ельнік. *У яло́ўніку баравікі нада шукаць.* Тумінічы Арш. *У ельнякý ягад німа, калі грыб які толькі знайдзеш.* Дразды Беш.

ЯЛУ́ЗІЦЬ *незак., экспр.* Гаварыць глупства, хлусіць. *Што ты ялу́зіш, нібыта выпіў.* Янкавічы Рас.

ЯЛЧЫНЯ́ *ж.* Непрыемны прысмак; гарката. *Сала добрае, але ялчынёй аддае.* Мішкавічы Шум.

ЯЛЬНЯ́К гл. ЯЛО́ЎНІК

ЯНЭ́РКА *ж.* Ранетка, гатунак яблыкаў. *Смачней за янэ́рак яблыкаў няма.* Цяцеркі Брасл.

Я́РАЧКА *н., памянш.* Ягня (самка). *Летась у мяне дзве я́рачкі былі.* Жалезкі Беш. *Трох я́рачак прадала, адну сабе кінула.*

Мар'янполле Брасл. *За хатай авечка з ярачкамі пасецца.* Бараны Глыб. *Авечка прывяла дзвюх ярачак.* Пятроўшчына Глыб. Параўн. *ягнюк.*

ЯРКА *ж.* Авечка. *Учора ноччы ярка мая акацілася.* Антаполле Чаш. *У мяне ярка добрая. Каб і прыплод быў такі.* Сялец Чаш.

ЯСЁНКА *ж.* Паліто на восень. *Тады толькі ў мяне была ясёнка, а так хадзілі хто ў чым.* Абаляны Брасл.

ЯСІК *м.*, *памянш.* ЯСІЧКА *ж.* Маленькая падушка. *У мяне і цяпер мамін ясік на дзіване ляжыць.* Аўсянка Міёр. *Я дык любіла сама ясічкі рабіць.* Слабада Докш.

ЯСНОТА *ж.* Ясната, уласцівасць і стан яснага. *Воблакі ўжо разышліся, ужо будзець яснота.* Мількі Брасл.

ЯСНЫЙ *прым.* Бліскучы. *Кацёл пакуль новый, дык во якей ясный.* Канашы Гар. *Заходзіць тут еткій асэсар, боты ясныя, блішчаць на ўсю хату, і давай яму пра ўрагоў народ расказвай.* Якубова Рас.

ЯЧМЯНУХА *ж.* Ячменная салома, якая выкарыстоўваецца на подсціл жывёле. *Ячмянухі яшчэ леташняй стог астаўся.* Прошкава Глыб.

Даведачнае выданне

# РЭГІЯНАЛЬНЫ СЛОЎНІК ВІЦЕБШЧЫНЫ

У 2 частках

Частка 2

Складальнікі:

**СЕМЯНЬКОВА** Галіна Канстанцінаўна

**ГРАЧЫХА** Таццяна Антонаўна

**ДЗЯДОВА** Алена Сяргееўна і інш.

Пад рэдакцыяй А.С. Дзядовай

Тэхнічны рэдактар *Г.У. Разбоева*

Карэктар *Л.В. Малажавая*

Камп'ютарны дызайн *Л.Р. Жыгунова*

Падпісана ў друк 17.10.2014. Фармат 60x84 1/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 20,81. Ул.-выд. арк. 18,85. Тыраж 100 экз. Заказ 143.

Выдавец і паліграфічнае выкананне – установа адукацыі
«Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава».

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/255 от 31.03.2014 г.

Надрукавана на рызографе ўстановы адукацыі
«Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава».
210038, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, 33.